№5(60)
/ верасень-кастрычнік / 2012

Дзе

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

## Паэзія



## Проза



## Тэатр



## Конкурс

Леанід Галубовіч



...Паэт – нішто,
а Слова – ўсё...

# Познія вершы

* * *

“Кожны верш цяпер, – стары паэт казаў, –
як апошні я пішу, бы Звыш выпрошваю...”
А Максім крывёю харкаў і пісаў
вершы першыя свае, нібы апошнія...

* * *

Паэт – нішто,
а Слова – ўсё.
Тады – нашто
тых слоў трысцё?

Каб словы,
сфер
прабіўшы смог,
адкрылі свет,
дзе Слова – Бог

* * *

Пішаш вершы,
выдаеш кніжкі,
чакаеш водгукаў –
хочаш быць заўважаным.

А ты паспрабуй быць
незаўважным,
як рыба ў вадзе,
як падкорны жучок,
як зязюля для сваіх
птушанят...

Бачыш, вунь,
пырхае
навідавоку
ярка расквечаны
матылёк –
не баіцца,
што будзе злоўлены,
каб папоўніць
калекцыю
боскай
прыроды.

## ДОМА Ў ГАСЦЯХ

*Міколу Сукачу*

Дажыўшы да лета, штораз,
каб неяк сагрэць адзіноту,
зноў еду ў спусцелы калгас,
падперціся шулам да плоту
бацькоўскай сядзібы.
Чакаць
суседа свайго нападпітку,
каб з ім да паўночы сукаць
напрадзенай памяці нітку,
ды слухаць таемную ноч,
схіліўшыся вухам да поўні,
і зорнага ззяння наўзбоч
душу векавечнасцю поўніць.

“Скажу табе чэсна, Лявон, –
вачыма сплываючы ў неба,
ён скажа, – мне хутка гамон,
а больш, ну каму тут што трэба?!”

І пусціць п'янкую слязу,
і вытра свой сорам далонню:
"Мо' скінемся ўсё ж на казу –
і баста віну й самагону?!
Насеем вяргіняў, травы,
і быццам бы "янкі" ў Тэхасе,
качацьмем начальству правы
у нашым суконным калгасе..."

Зачыніць ён дзверы і тут
убачу я ў цемры скрушлівай –
сівы павуцінавы кут
свіціцца душой сіратлівай,
а там, дзе ікона Хрыста
вісела ў бліскучай аправе,
гібее жыцця пустата,
нібыта нябожчык на лаве...

## *СТАРАЯ ВЁСКА*

Расквітнелая вішня
да веснічак выйшла.
Напудрылася,
напахцілася,
на развалены плот
пахілілася,
да слупа-бабыля
прытулілася...

## *9 МАЯ 2005 ГОДА*

***Памяці Анатоля Сыса***

"В Пропойске – май! Коза жует афишу"
*Ігар Шклярэўскі*

У Менску травень. Дождж.
Святкуюць ветэраны.
Вісяць праспекта ўздоўж
героі-партызаны.

Партрэты іх відны
яшчэ за два кварталы, –
тых, хто падчас вайны
ў лясах сябе хавалі.

Крывавы іх штандар
над крамамі віхляе,

а кроўны наш – як дар
Гасподні ахінае

казённую труну
паэта і нябогі,
які сваю вайну
не звёў да перамогі.

Адвергнуты прарок,
пакінуў ён навекі
загаджаны парог
дом-літ-бібліятэкі.

Рыдала ў парасон
нябесная навала,
бы самы дзіўны сон
за хмарай пахавала.

Цяпер ён духам там,
на вышыні з усімі,
хто не заняў плацдарм
забранае Радзімы.

### *ДА АДКРЫЦЦЯ ПЕРШЫНСТВА ЕЎРОПЫ ПА ФУТБОЛЕ 2012 ГОДА*

Футбол – круглы,
і заўсёды пачынаецца
з цэнтра
пераможцамі і пераможанымі.

Непрыручаны мяч
гойсае ў аточаным полі,
быццам гнаны сабака,
адскокваючы ад кожнага,
хто замахваецца на яго;
ён стараецца прашмыгнуць
наўзбоч брамніка,
каб стомлена закалыхацца
ў шырокім гамаку
асірацелых варот...

Г-О-О-О-Л!!! –
Галас,
выпушчаны
са статысячных
луджаных горлаў
заўзятараў,

зрывае
павуту
з кутоў
то
тых,
то
гэтых
варот,
каб мяч зноў быў
пастаўлены
ў цэнтр увагі
ўсяго чалавецтва.

І свет бачыць,
як Крыштыяну Раналда
забівае мячы з усёй сур'ёзнасцю,
а Марыё Балатэлі –
блазнуе,
ён яшчэ не забыў,
што футбол –
гэта гульня...

* * *

З юнацтва я папаўняў
свой слоўны запас:
нікацін,
алкаголь,
ананізм,
гіпербала,
Элюар...

А цяпер –
дзень пры дні –
неўпрыкмет
губляю з памяці
лішак незапатрабаваных
слоў,
зберагаючы самыя
неабходныя:
хлеб
вада,
дачка,
малітва,
капатэн*...

---

* таблеткі ад гіпертаніі.

* * *

Людзі
адзінокія.
Раздзяляюць нават
сіямскіх блізнят.

І труну робяць
на аднаго
чалавека...

* * *

*Памяці польскага паэта*

Ян Твардоўскі – паэт ад Бога.
Я ж – нябога – рыфмар ад мамы.
Яну дадзена дару многа.
Мне – пакуты да самай ямы.

Ян, вядома, што ў Раі будзе.
Я ж у Пекле, дзе страх ды слёзы.
Розныя нас прачытаюць людзі.
Розна ўспрымуць нашыя лёсы.

Нашых вершаў дзівы-наівы
паразлятаюцца – небу і долу...
Хто няшчасны, а хто шчаслівы,
слова вызнаўшы, так як долю?..

Пэўна, Ян Твардоўскі – няшчасны,
бо дасканалым ён быць павінны.
Я ж – ад мамы, як верш дачасны,
небездакорны, ды свой, адзіны...

## ЛЕТУЦЕННІЦА

*Стала ціха-ціха*
*На усёй зямлі...*
(з песні “Ручнікі”)

Вера Вярба сканала
Летам на ўласным лецішчы,
Смерць, як жыццё, хавала,
Каб хоць не ўведалі месцічы.

Сын над Вярбою схіліўся,
Але слязой жывою

Прах яе не наталіўся –
Стала Вера чужою.

Янка ты ці Алёна,
З мовай ты ці бязмоўны,
Будзеш багаслаўлёны
Шлях веставаць духоўны.

Любім мы ці не любім,
Хорам пяём ці сола,
Але пакуль мы людзі,
Нас прымірае сорам.

З намі ты ці не з намі –
А спакваля ўсё роўна
Ўсе сплывём ручнікамі
Да Харонава чоўна...

Я не ведаю месца,
З прахам яе забраным –
Песняю застаецца,
Той, хто Богам абраны...

І па ёй не рыдаю...
Сэнс шукаючы існы,
Ў цёмным часе чытаю
Веры *светлыя пісьмы**...

*25 ліпеня 2012*

* * *

У чалавека заўжды застаецца надзея...
У беднага – на багацце,
у няшчаснага – на ўдачу,
у хворага – на здароўе,
у знявераната – на цуд.
Нават у асуджанага на смерць
ёсць спадзяванне
на... пажыццёвае пакаранне...

*2010-2012,*
*Менск-Вароніна.*

* “Белыя пісьмы” – назва зборніка вершаў паэткі.

Уладзімір Дамашэвіч



...Акупаваны – забудзь сваю мову,
усё сваё – забудзь!
Вучыся ў гаспадара!..

# Артыст Верны

***Апавяданне***

Стракатая рухомая калона людзей, як паўнаводная рака, паволі спускалася з Кастрычніцкай плошчы і па праспекце, міма цырка, кіравала да плошчы Перамогі, каб там звярнуць налева і выйсці да Тэлецэнтра. Але штосьці памянялася ў планах вядучага: ён рашыў зрабіць перапынак на плошчы Перамогі і тут правесці мітынг.

Стаяла сярэдзіна верасня, сонца яшчэ добра грэла, усе былі апранутыя лёгка, па-летняму: мужчыны ў кашулях і тэнісках усякіх колераў і фасонаў, у безрукаўках, камізэльках, некаторыя ў шортах, жанчыны – у лёгкіх, пераважна вязаных безрукаўках, у белых, вольнага крою, кофтах, якія не хавалі аголеных шыяў, плячэй і вяршкоў грудзей, дазваляючы мужчынам цешыць цікаўнае вока ў лагчынцы між двух спакуслівых узвышэнняў.

Артыст Купалаўскага тэатра Эдзік Верны шукаў вачыма ў натоўпе каго-небудзь знаёмага, але чамусьці

навокал віравалі толькі чужыя людзі, якіх ён бачыў упершыню, і каб не гэтае зборышча, дык бы і ніколі не ўбачыў. Ён стаў прабірацца да галавы калоны, да хлопцаў, што акружалі Лявона Войніча, свайго лідара, які павінен быў сёння выступіць. Па дамоўленасці, яшчэ ўчарашняй, яму, артысту Вернаму, даручалася прачытаць перад мікрафонам верш Янкі Купалы "Чаго вам хочацца, панове".

Усё гэта планавалася сказаць не тут, на плошчы, а перад мікрафонам у Тэлецэнтры, які яны павіны былі заняць, калі б ім не дазволілі выступіць у эфіры на ўсю рэспубліку. Урэшце першага ён убачыў Ліпневіча, рослага вусатага мастака, які трымаў у руках трафарэт на палцы, дзе чырвонымі літарамі было напісана: "Без роднай мовы – няма будучыні!"

– Чаго спыніліся? – спытаў ён у Ліпневіча, падаў яму руку і моцна пацiснуў.

– Перадалі па калоне, што Тэлецэнтр абкружаны амонаўцамі, туды нас не пусцяць.

– Няўжо не прарвёмся? Такая сіла! – артыст Верны павёў перад сабою рукой.

– А ты ведаеш, які яны маюць загад? Страляць – і не толькі ў паветра.

– Вось як! – здзівіўся артыст. – А як гэта пекінская качка?

– Каб нас застрашыць? – падхапіў Ліпневіч. – Магчыма, што і так, але навошта лезці на ражон?

Між тым Лявон Войніч, абкружаны сваімі паплечнікамі, ужо стаў правяраць свой мегафон, паўтарыў некалькі разоў "раз-два-тры", гук быў чысты, нармальны, ён павысіў голас і пачаў сваю прамову. Ён гаварыў як па пісанаму, хоць не меў перад сабою ніякай паперкі, гаварыў не надта эмацыйна, без перабору, але і не суха, не казённа, яго прыемна было слухаць, бо ён прамаўляў да душы кожнага, хто быў тут. Да таго ж здавалася, што яго знешні воблік зліваўся з тым, пра каго ён гаварыў. Яго выступленне можна было перадаць – так падумалася Эдзіку Вернаму – вось такімі кавалкамі-тэзісамі:

– Калі за ўсіх думае адзін чалавек – гэта дыктатура.

– Калі ён вырашае за ўсіх – тым болей! Хто тады народ? Хто інтэлігенцыя? Рабочая маса – усяго толькі.

– Адзін чалавек не можа быць разумнейшы за ўвесь народ. Ён павінен, як тая пчала, што збірае мёд з усіх кветак, узбагачацца тым досведам, які ёсць у народа.

– А што, калі гэты чалавек жыве тым, што яму кажуць у левае вуха недзе з-за мяжы, голасам былога гаспадара, а сёння, па волі лёсу, толькі ўжо суседа? Ці можа ён гаварыць на карысць свае былое калоніі? Тым больш – рабіць у яе карысць? Ніколі! Як раней, так і цяпер: калоніі толькі тады пачынаюць развівацца і квітнець, калі яны становяцца былымі калоніямі, калі набываюць незалежнасць. Вазьміце Брытанскую імперыю, вазьміце Расейскую. Вазьміце ранейшыя – Грэцкую, Рымскую. Тое самае!

– А на якой мове гаворыць акупант з акупаваным народам?

Уся плошча ўзарвалася ад магутных галасоў абурэння.

Прамоўца ўзняў правую руку з адкрытай далоняй, просячы цішыні.

І працягваў далей:

– На сваёй уласнай. Акупаваны – забудзь сваю мову, усё сваё – забудзь! Вучыся ў гаспадара!

Плошча зноў загула пагрозлівым гулам, узнімаліся рукі са сціснутымі кулакамі, размахвалі бела-чырвона-белымі сцягамі.

Войніч зноў узняў руку, пачакаў хвіліну і працягваў далей:

– Вось мы: вучыліся ў гаспадара, ведаем яго мову, затое ўжо забыліся на сваю родную, беларускую, якая раней, у сярэднія вякі, называлася ліцвінскай, а мы самі зваліся ліцвінамі. А беларусы – гэта назоў, які навязалі нам нашы заваёўнікі, каб прывязаць нас да сябе. Але потым і гэтую назву забаранілі, і мы сталі Северо-Западным краем, у якім жывуць – хто? – пэўна што расейцы. Мы зніклі, растварыліся, прапалі!

Плошча зноў загула доўгім пагрозлівым гулам. Прамоўца ўзвысіў голас, перакрываючы гул:

– Не забудзем слоў, сказаных катам беларускага народа Мураўёвым-вешальнікам, якія ён сказаў нам на вякі, як папярэджанне. – Войніч замоўк на момант, сунуў пальцы правай рукі ў нагрудную кішэньку кашулі і дастаў адтуль невялікую цвёрдую картачку шэрага колеру, якімі звычайна карыстаюцца некаторыя выкладчыкі-прафесары, каб пацвердзіць сваю думку якою-небудзь трапнаю і востраю цытатаю з класіка. Плошча чакала ў поўнай цішыні, і ён зачытаў, па-руску, без акцэнту: “В Северно-Западном крае так называемую мову необходимо свести на ничто, потому что если этого не сделать, она постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя.”

І ён яшчэ не паспеў схаваць картачку ў кішэньку, як плошча зноў выбухнула, нібы ўзарвалася бомба: пачуўся свіст, тупанне нагамі і выкрыкі з пагрозлівым маханнем кулакоў і размахваннем усімі сцягамі і транспарантамі. Шум і галас працягваўся некалькі хвілін, пакуль Войніч не ўзняў рукі і не падаў знак супакоіцца, а потым зноў загаварыў:

– Ад імя царскага рэжыму Мураўёў папярэджвае нас, што мовы свае мы не ўбачым і не пачуем вольнаю, што мы ператорымся ў гістарычны пыл. І што ж мы бачым сёння, ужо ў так званай незалежнай Беларусі? Ды тое ж самае! Словы царскага сатрапа не страцілі свае пагрозлівае сілы, на нашых вачах адбываецца вынішчэнне мовы, нашай культуры, нашага народа. Мы не павінны з гэтым мірыцца, мы павінны дабівацца свайго права будаваць сваю дзяржаву на роднай мове, інакш гісторыя і нашы наступныя пакаленні праклянуць нас за нашу ляноту, а лепш сказаць – баязлівасць. Той, хто баіцца, ніколі не пераможа!

Плошча нечакана запляскала ў ладкі, апладысменты пакаціліся ад аднаго краю яе да другога і пайшлі далей – па праспекце, з абодвух бакоў – па тратуарах. А потым, як сама сабою, узнікла песня Слуцкіх паўстанцаў: “Мы выйдзем шчыльнымі радамі на вольны родны свой прастор, хай воля вечна будзе з намі, а гвалту мы дамо адпор”.

Эдзік Верны спяваў песню разам з усімі і ўсё намагаўся ўспомніць прозвішча паэта, які напісаў словы да песні – і ніяк не мог.

Толькі яны скончылі спяваць, як пачуўся ўзмоцнены голас, які вылятаў з рупараў на спецыяльнай машыне, што з’явілася на плошчы і паволі пасоўвалася між натоўпу. Крыклівы голас на рускай мове

ўгаворваў “граждан расходиться по домам”, паколькі час для мітынга скончыўся, і ўсе, хто тут сабраўся, могуць быць прыцягнуты да адказнасці за парушэнне грамадскага парадку.

Плошча адказала на заклік выкрыкамі, свістам і пагрозлівым гулам, і цяжка было зразумець, ці падпарадкуецца яна голасу з рупараў. Лявон Войніч, параіўшыся са сваімі сябрамі, зноў звярнуўся да натоўпу:

– Шаноўныя грамадзяне, нас хочуць зрабіць парушальнікамі грамадскага парадку і ўжыць супраць нас сілу. Але мы не пойдзем у іх на павадку і не станем парушальнікамі. Мы мірна і спакойна накіруемся на плошчу Бангалор, на месца нашых даўніх збораў. Усе, хто адчувае ў сабе сілу, пойдзем разам па тратуарах, не замінаючы транспарту і пешаходам, на плошчу Бангалор – па праспекце да Дому Друку, пасля па вуліцы Сурганава. Хто за такую прапанову, прашу галасаваць!

Тысячы рук узняліся ўгару, па натоўпе пракаціўся гул ухвалы: мы разам, мы не здаёмся!

Маналітны натоўп паволі расколваўся на асобныя кругі-групоўкі і з усёю атрыбутыкай, якую неслі людзі, пераважна моладзь, накіраваўся на ўсход па праспекце. Эдзік Верны дайшоў разам з усімі да вуліцы Якуба Коласа, дзе яна перасякаецца з Сурганава, і пакіраваў на трамвайны прыпынак, каб ехаць на сваю кватэру на вуліцы Кастуся Каліноўскага.

Як між іншым, трэба сказаць, што ён любіў сваю вуліцу, да яе ўжо прывык, асабліва да яе такой гучнай гістарычнай назвы, якая ў яго душы заўсёды выклікала нейкую думку, асацыяцыю, вобраз, звязаны з імем нацыянальнага героя Беларусі. Яшчэ ў школе, а асабліва ў інстытуце, ён чытаў усе кніжкі ці розныя матэрыялы, звязаныя з яго імем, з яго дзейнасцю, прачытаў усю “Мужыцкую праўду”, якую выдаваў Каліноўскі.

І вось ён у сваёй аднапакаёўцы на чацвёртым паверсе, вокны ў яго выходзяць на поўдзень, і сонца пакінула ўжо яго пакой, схіліла на захад. Шкада, што ён не пайшоў разам з усімі, але сілы проста ўжо не засталося ў запасе, і ён рады, што можа трохі адпачыць. Добра, што заўтра ў іхнім тэатры выходны, ніякіх рэпетыцыяў, можна адаспацца, адпачыць, заняцца сваім бытам, які яму ўжо страшэнна абрыд, ён падумваў ужо, што варта знайсці сабе добрую гаспадыню, гэта значыць – жонку. Толькі не са сваіх, не з артыстычнага свету, бо як возьмеш якую артыстачку, то будзеш ведаць смак такой жыткі – нават не адчуеш, што ты жанаты, і толькі варыць-гатаваць сняданкі будзеш на дваіх, а так – толькі на аднаго. Трэба ўзяць кабету, каб пры доме была, каб дзяцей гадавала, мужа шкадавала-мілавала, была Пенелопай і чакала свайго Адысея. Праўда, толькі зарплата ў артыстаў невялікая, трэба шукаць нейкі прыработак, а вось які? Ён ужо таксама думаў пра гэта, і рашыў, што будзе журналістам, стане пасылаць свае допісы ў газеты, часопісы, можа, што і заробіць. Тэмы цяпер ёсць цікавыя, гарачыя. Вось напіша нарыс пра сённяшні дзень, пра мітынг на плошчы Перамогі, пра выступленне Войніча, пра ўсю атмасферу сённяшняга паходу па праспекце, пра гутаркі, сустрэчы – і ўжо будзе нешта цікавае, што захопіць чытача, прымусіць задумацца...

Ён стаў збіраць на стол, каб трохі папалуднаваць, бо есці захацелася: паснедаў слаба, на хапок, а тут ужо нават позні абед. Але што тут

вельмі збіраць? Кілбаса, сыр, кефір, трэба было б зварыць пельмені, якія ляжаць у яго ў маразілцы як НЗ, а так ён лепш любіў варыць сабе бульбяны суп, заскварaны салам ці здорам з Камароўкі, на якую ён хадзіў у месяц раз, часам нават часцей.

Прагаладаўшыся, ён еў з апетытам, і ўсё ішло смачна, за што ён сябе нават хваліў – што есць без разбору тое, што на стале. Пашкадаваў, што не ўзяў пляшку піва, а так што з гэтага кефіру возьмеш? Адна кісляціна, але для страўніка добра, мо нават лепей, чым тое піва. Кефір ён прыняў на дэсерт, пайшоў у ванны пакой і пачысціў зубы – за гэтую звычку ён таксама сябе хваліў. Але гэта было і ўсё, за што ён сябе мог пахваліць. За ўсё астатняе – лаяў...

Скінуўшы пантофлі, прылёг на канапе – не шкодзіла б падрамаць. Але малюнкі нядаўніх падзей на плошчы Перамогі не давалі яму спакою, усё стаяла перад вачыма, як у шырокафарматным фільме, з усімі стракатымі рухомымі фарбамі, з усімі гукамі-зыкамі шматтысячнага натоўпу, што не давала супакоіцца: ён расплюшчваў вочы, глядзеў у белую столь пакоя і ажно моршчыўся, крывіўся тварам, каб прагнаць на час гэты прывід, хоць сам па сабе ён радаваў: народ прачынаецца! А як бы парадаваўся наш прарок Янка Купала, убачыўшы сёння такую агромістую масу свядомых людзей, гатовых адстойваць сваё права людзьмі звацца, беларусамі звацца, зрабіць сваю дзяржаву і кіраваць ёю! Не азіраючыся ні на Захад, ні на Усход!

І непрыкметна скіраваў да Купалавай п’есы “Тутэйшыя”, якую тэатр рыхтуе да пастаноўкі, а ён, Эдзік Верны, будзе іграць там ролю Янкі Здольніка, можна сказаць, галоўнага героя, выразніка аўтарскай ідэі п’есы. Даўно яму не траплялася такая роля, і нават дзіўна, што рэжысёр даручыў яе менавіта яму, параіўшыся, няйначай, з высокім начальствам, бо сам ён на такі смелы крок не рашыўся б. Колькі гадоў п’еса праляжала пад замком, пра яе нават баяліся ўспамінаць, бо там быў такі магутны дынаміт! Там было ўсё тое, што балела беларусам, пра што яны марылі і думалі, за што змагаліся і паміралі не адно стагоддзе. І сёння, дзякуючы такім людзям, як Лявон Война, яе ўрэшце прынялі да пастаноўкі! Гэта свята! Свята культуры! Свята адраджэння! Свята ўваскрасення!

Яшчэ пляліся, чапляючыся адна за адну, розныя думкі, яшчэ свежыя малюнкі нядаўняга мітынгу, і ён нечакана апынуўся зноў сярод натоўпу, што стаяў на плошчы, а потым ішоў па праспекце, і недзе на нейкім адрэзку дарогі да яго падыходзіць збоку рослы хлопец у чорным і падае яму сцяг на доўгім дрэўку і кажа: “Патрымай!” Эдзік Верны ці то разгубіўся, ці яшчэ што, але ўзяў з хлопцавых рук дрэўца са сцягам, глянуў уверх – і ажно жахнуўся: гэта быў чорны сцяг анархістаў з белай выявай чалавечага чэрапа і пад ім – дзве скрыжаваныя пад вострым кутом, таксама белыя, косткі. Ён застыў на момант, як бы вырашаючы, што рабіць з гэтым нечаканым дарункам, як пачуў моцны прарэзлівы званок – і тут жа прачнуўся. Ён паляжаў момант, прыходзячы да памяці, а званок у дзверы паўтарыўся, яшчэ даўжэйшы і настырны – і Эдзік Верны з крэктам сеў на канапе, насунуў тапкі і пайшоў да дзвярэй.

Яму рэдка званілі, днём ён адчыняў не пытаючы, хто там, і толькі вечарам глядзеў у вочка ў дзвярах і пытаўся – хто? Сёння ён адразу адчыніў – і ўбачыў на пляцоўцы свайго чалавека, з артыстаў – невы-

сокага, шчуплага і ўжо лысаватага, у чырвонай тэнісцы і ў джынсах, Аляксея Грака, а за ім стаяў незнаёмы высокі хлапчына з кароткаю стрыжкаю на лоб і шырока ўсміхаўся, нібы яны былі вунь якія знаёмыя ці прыяцелі.

Эдзік жэстам запрасіў гасцей у калідорчык, яны хацелі разувацца, але ён сказаў “не трэба”, і яны тут жа згадзіліся, прайшлі далей, у пакой, і Аляксей Грак стаў знаёміць гаспадара кватэры з маладым хлопцам.

– Сцяпан Сцяпанаў, – прамовіў сціпла той.

Грак падхапіў:

– Чуў пра цябе шмат, вось рашыў пабачыць знакамітага артыста, які так выдатна...

– Ну, хопіць, – перабіў яго Эдзік Верны, – лаўраў мне вешаць не трэба, яшчэ ранавата. – А хто вы па прафесіі? – звярнуўся нечакана да госця, азіраючы яго моцную фігуру ў чорнай кашулі і ў чорных джынсах.

– Быў шафёрам, вазіў начальства, цяпер возяць мяне, – і стаў сур’ёзны, нават суровы, нібы чакаючы пахвалы ад субяседніка, тым больш, што адказаў па-беларуску: хай артыст ведае, што і ён не лыкам шыты.

– Пахвальна, – спраўдзіў яго надзею гаспадар кватэры. – Чалавек павінен расці, колькі жыве, інакш ён з жывога дрэва стане звычайным трухлявым пнём.

– Ты добра сказаў, Эдуард, – умяшаўся ў гутарку Аляксей Грак, – нават вельмі мудра. Табе варта самому пісаць п’есы, а не толькі іграць у чужых спектаклях. І часам усякую лухту...

– Не трэба адбіраць хлеб у драматургаў, – не згадзіўся гаспадар. – Хай яны даюць нам добры матэрыял, а мы яго расквецім, пусцім па свеце, хай людзі радуюцца, хай разумнеюць.

– Слушна кажаш, Эдуардзе, – пахваліў яго Грак яшчэ раз. – Уверцюра як мае быць... Але прабач, бліжэй да нашых баранаў... Мы тут па дарозе захапілі з сабою сёга ды тога... Ты дазволіш? – і ён стаў вымаць з вялікага пакета розныя прыпасы: пару пляшак каньяку, вялікую палку кілбасы сыра-вэнджанай, тры бляшанкі шпротаў, сыр, нават невялікі бохан хлеба. А яшчэ – штук пяць невялікіх лімонаў. – Калі мы ўсё гэта рэалізуем, дык добра паразумеемся – я так думаю, – скончыў Грак раскладаць на стале прынесеныя прыпасы. – Цяпер, гаспадар, давай талеркі, нажы і відэльцы. Ну, яшчэ кілішкі, калі яны ў цябе маюцца. Можна нават і шклянкі.

Дагэтуль яны ўсе стаялі пры стале, гаспадар не спяшаўся запрашаць іх садзіцца, а цяпер ужо позна было думаць, каб іх выбавіць адгэтуль. А адразу, як яны толькі зайшлі, яму так хацелася выставіць іх за дзверы – ну нібы яны прыйшлі не да яго, а прыйшлі па яго! Проста нейкае дзіўнае пачуццё авалодала ім, якога ён не адчуваў дагэтуль ніколі, колькі ні заходзілі да яго сябры ці нават чужыя людзі. А сёння гэты “дзядзя Сцёпа” выклікаў у яго нейкае як падазрэнне, што гэта не цікаўны аматар тэатра, які хоча пазнаёміцца з артыстам, а нешта іншае – нешта схаванае, закамуфляванае, а што – ён ніяк не можа раскусіць! Траянскі конь? І толькі тады ён адкрыецца, як усе палягуць спаць? Што за д’ябальшчына? І твар у яго... проста ў яго няма твару! Адвядзеш вочы – не пазнаеш, гэта быў ён ці нехта іншы. Няма індывідуальных

рысаў, усё сярэдне-арыфметычнае, сто разоў бачанае. Ну нічога свайго, ні кропелькі! Што за д'ябальшчына, што за насланнё?

– Аднак жа, вы, хлопцы, патраціліся не шкадуючы, – сказаў Эдзік, каб адагнаць свае назойлівыя сумненні. – А што было б, каб вы мяне не засталі дома?

– Ха, вялікая бяда! – тут жа падключыўся рухавы Грак. – Рэалізавалі б удвух тое, што на трох – і ўся развязка. Ніякай кульмінацыі.

– Не сказаў бы, што ты такі шырокі на жывот, – не паверыў яго аптымізму Эдзік. – Тым болей, за свае грошыкі, якія з неба не сыплюцца, як тая манна ў пустыні...

– Яно так, грошыкі – не вожыкі, самі не плодзяцца, рук не колюць, гладка ідуць. Не азірнешся – ужо і няма... – згадзіўся Аляксей Грак.

Так, перакідаючыся рэплікамі, часам колкімі, як тыя вожыкавыя калючкі, часам каструбаватымі, як негабляваная дошка, яны ўдвух – маладому госцю далі пасядзець – хутка зрабілі парадак на стале, што любата было глянуць: усё раскладзена па місах, па талерках, па сподках, па сподачках – роўна, сіметрычна, ажно радавала вока.

– Хоць малюй нацюрморт, – як казаў адзін наш грамацей мясцовага значэння, – агледзеўшы стол, сказаў Аляксей Грак. – Не хапае толькі драбязы – трох кілішкаў, а мо трох шклянак – вшыстко едно.

– Такую бяду рукамі развяду, – буркнуў Эдзік і пайшоў на кухню, пашукаў у буфеце і знайшоў тры невялікія фужэры, паставіў у трох розных месцах: адзін у тарцы стала і два па баках, дзе стаялі пры стале лёгкія гнутыя крэслы – венскія, як жартаваў ён.

– Выдатна! – усклікнуў Грак. – Цярпець не магу малых кілішкаў. Як п'ю малымі, заўсёды напіваюся.

– А як вялікімі? – спытаўся госць, які дагэтуль маўчаў.

– Вялікімі – нармалёва, я ведаю, колькі я выпіў, і не перабяру меры.

– Ну вось, уводная частка закончана, так сказаць, уверцюра, – настроіўся на рабочы лад гаспадар. – Цяпер прашу за стол. Я выбіраю цэнтр, вы па баках. Прашу, прашу!

–Прашу к нашаму шалашу, як сказаў паляшук. Правільна, гаспадар, бяры лейцы ў рукі. Час не чакае. Восем вечара, – сказаў Грак, глянуўшы на свой гадзіннік. – Пару гадзін – і па канях.

Эдзік узяў пляшку малдаўскага трохзорнага каньяку, падліў у тры фужэры, памарудзіў трохі і сказаў, пераводзячы позірк з аднаго госця на другога:

– Дзякую за кампанію, хлопцы дарагія. Калі вы прыйшлі з чыстым сэрцам і добрымі намерамі – буду вельмі рады. А калі... – ён не скончыў, замоўк, потым паправіўся: – За сустрэчу!

Яны чокнуліся, дружна выпілі і не менш дружна накінуліся на закусь. Эдзік паглядваў, як ядуць госці, запрашаў часам каштаваць тое ці гэта, бо ён таксама выставіў сваіх прысмакаў: сала, гуркі, памідоры, квашаную капусту – вітамінаў хапала. Хлопцы, па ўсім відаць, добра прагаладаліся і елі ўсё з ахвотаю – за маліну.

Выпілі яшчэ па адной, і хмель ужо трохі стукнуў па галаве, развязаліся языкі, асабліва ў артыстаў. А вось "дзядзя Сцёпа" ўсе неяк памоўкваў, бярог свае патроны на далей, нібы баючыся сказаць нешта лішняе. Калі перайшлі да другое пляшкі, ён трохі ажывіўся, ставіў

пытанні да Эдзіка: якія цяпер п’есы больш ідуць – старыя, новыя, замежныя ці свае, беларускія, ці ёсць цікавыя новыя драматургі, ці толькі Дудараў і Петрашкевіч, чым вельмі здзівіў Эдзіка, ды і Грака таксама. Яны наперабой сталі выказваць свае погляды на пастаўленыя пытанні, сталі спрачацца.

Загаварылі пра літаратуру: хто якія кніжкі прачытаў за апошні час, хто з беларусаў, апрача Шамякіна, робіць пагоду? Няма Караткевіча – і ўсё, беларускую літаратуру можна закрываць... Быкаў – адна вайна, агоркла, усю душу ад’ела... Пташнікаў, Адамчык, Чыгрынаў? Ды хто іх чытае? Мо старыя пенсіянеркі, былыя настаўніцы... Ну мо яшчэ Кудравец – піша цікава... Янка Брыль – выйшаў з моды, надта часта друкуецца. А з маладзейшых хто? Далідовіч, Арлоў, Федарэнка, Наварыч... А вы кажаце, што ў нас няма літаратуры! Толькі чытайце! Абы выдавалі, а то ўжо на рускай выходзіць больш, як на сваёй! Куды мы ідзём, куды прыйдзем? Будзем чытаць нейкага там Чаргінца? Але ж ён піша для рускага чытача! Другі Дастаеўскі!

Толькі гэта сказаў Грак, як усе за сталом, у тым ліку і ён сам, зарагаталі на ўсё горла, аж бокі рвалі: як у сук уляпіў Грак! Другога Дастаеўскага выдалі беларусы для расейцаў! Хай пацешацца, хай пачытаюць, калі сваіх не маюць! Ха-ха-ха!

Калі б разгарнуць гэтую гутарку-спрэчку, атрымалася б цэлая п’еса, і там было б усё, што цікавіць сёння культурнага беларуса. Гэты, што “вазіў другіх, а цяпер возяць яго”, быў не лыкам шыты, сёе-тое кумекаў у драматургіі, у літаратуры, а што ўжо гаварыць пра Грака, дык ён паказаў сябе з такога боку, пра які ён, Эдзік Верны, нават не падазраваў: хоць працаваў у рускім тэатры, а душа ў яго засталася наша, беларуская. Трэба будзе неяк перацягнуць яго ў Купалаўскі тэатр, ён і мовы свае яшчэ не забыўся. Ды на ролю Зноска ў “Тутэйшых” ён вунь як падыдзе!

Уся падазронасць, якая спачатку жыла ў Эдзікавай душы, калі да яго зайшлі няпрошаныя, ці, лепш сказаць – нечаканыя госці, цяпер зусім выветрылася, растала, ён быў рады, што гэтыя хлопцы наведалі яго, разварушылі, парушылі яго аднастайны быт, улілі нейкі свежы струмень у яго застойную атмасферу.

Спачатку ён думаў, што прачытае ім некалькі вершаў, якія ў яго заўсёды падрыхтаваны ў памяці на выпадак нечаканай імпрэзы, калі чалавек ні з таго ні з сяго трапляе ў нейкае асяроддзе ці застолле, і калі там даведваюцца, што ты артыст, просяць і нават патрабуюць нешта такое “збацаць”, як цяпер кажуць падлеткі: праспяваць, расказаць, станцаваць ці яшчэ чаго іншага, на што артысты заўсёды здольныя. У яго ў запасе былі вершы, былі ўрыўкі з п’есаў, цэлыя маналогі, асабліва з п’есы “Тутэйшыя”, якую ён ведаў амаль на памяць і якою жыў увесь гэты час, пакуль яны яе рэпетуюць у тэатры. Маналог Янкі Здольніка! Ён сам – Янка Здольнік, які – вунь колькі прайшло часу! – не састарэў, гаворыць такія рэчы, што гэта нібы пра сённяшні дзень напісана – так баліць і пячэ, бярэ за жывое! Як сярпом па... пальцах!

І ўсё ж ён не ўтрымаўся, каб не прачытаць ім хоць невялічкі верш Аляксея Пысіна.

– Паслухайце, хлопцы, хачу прачытаць вам верш майго сябра і земляка. Ён без назвы, але не гэта галоўнае. Вось паслухайце...

Хлопцы заківалі галовамі, папраўілі свае чупрыны, зашпілілі на пару гузікаў расхрыстаныя кашулі, выпрасталіся, як на парадзе, і падрыхтаваліся слухаць, хоць вочы ўжо былі асалавелыя, а шчокі чырвоныя, што вараныя ракі.

Усталявалася цішыня, Эдзік устаў з-за стала і, узяўшыся за тонкую далікатную спінку, пачаў:

Дала мне маці гэту мову,
Каб не нямым прыйшоў на свет,
Дала мне маці гэту мову,
Як спадчыну і запавет.
Была яна не беларучкай
І на жніве, і на сяўбе,
На глебе роднай беларускай
Здабыты словы ўсе яе.
Прапахлі сонцам і падзолам,
Дажджамі, сокамі раслін,
Пад знак рукам яе мазольным.
Што мелі толькі ў сне спачын.
Дачка мая! Ў жыццёвай прозе
У буднях і святочным днём
Не пакідай яе ў парозе,
Калі у нечы ўвойдзеш дом.

Калі ён скончыў дэкламацыю, хлопцы папляскалі ў ладкі: Грак моцна, з імпэтам, а "дзядзя Сцёпа" вяла, як нехаця, нібы ён не чуў усіх слоў верша, нібы яны яго нікольκі не кранулі. А мо так і было? Але Эдзіка гэта зачапіла, ён загарэўся, гатовы быў даць шырокі каментар да верша, але тут Грак узняў руку і сказаў неяк умольна:

– Хлопцы, верш цудоўны! Патрэбен тост, а наш залаты запас вычарпаны да дна, я прапаную папоўніць яго і збегаць у краму, пакуль яшчэ не позна. Хто за маю прапанову, прашу падняць любую руку. Можна і абедзве...

Узнялі рукі сам Грак і яго прыяцель "дзядзя Сцёпа", Эдзік устрымаўся. Ён лічыў, што больш не трэба, будзе перабор. Але што зробіш? Большасць "за".

Грак усхапіўся з-за стала, пашукаў вачыма свой пусты пакет – ён стаяў пры сцяне – скруціў яго ў трубачку, смешна казырнуў і "стравым" падаўся на выхад. Моцна бразнулі дзверы, і ўсё стала ціха.

Пачаўся другі акт дзеі – ужо без Грака. Здаецца, нічога асабліва не змянілася: ну выйшаў чалавек – і ўсё засталося, як было. Ды нешта як пачало мяняцца. "Дзядзя Сцёпа" неяк раптоўна ажывіўся, устаў з крэсла, узмахнуў рукамі – уверх, убакі – як для размінкі, а потым падаўся на кухню, сказаўшы: "Прабач, я ў туалет".

Эдзік Верны застаўся адзін, крытычна агледзеў стол, сёе-тое пераставіў, паклаў больш кампактна, каб не было такога рэзруху, што ўзнікае ў часе такіх вось імпрэзаў. Яшчэ добра, што хлопцы не курылі, што рэдка бывае ў кампаніі, інакш тут плаваў бы пад столлю сіні дым. Пляшкі сапраўды апусцелі, ён неяк не заўважыў гэтага, усе былі падпітыя, але не сказаць, каб п'яныя. Закусь была добрая, яна і ратавала, ды яе ўжо і мала засталося.

"Дзядзя Сцёпа" вярнуўся з кухні з качалкаю ў руцэ – навошта яна

яму здалася? Эдзік рэдка ёю карыстаўся, бо макаронаў сам не рабіў, купляў гатовыя, часамі толькі тоўк бульбу.

– Што гэта? – спытаўся госць у гаспадара, нібы бачыў такую рэч упершыню.

– Гэта качалка, яшчэ кажуць валёк, ёю робяць макароны, локшыну, у вёсцы таўкуць кашу, качаюць бялізну, – тлумачыў Эдзік як якому чужаземцу, і сам здзіўляўся – навошта?

– Я не пра гэта... Ці ўжываецца такая рэч як зброя?

– Дзіўнае пытанне... Як прыпрэ, то можна ўжыць для самаабароны, – адказаў Эдзік.

– А для нападу? – спытаўся "дзядзя Сцёпа" і вочы ў яго акругліліся, у іх з'явіўся нейкі злавесны бляск. Ён трымаў качалку адным канцом, а другім пачаў біць сябе па далоні левай рукі. І раптам ён ашчэрыўся і з усяе сілы ўдарыў артыста па галаве.

Той без адзінага гуку зваліўся на падлогу. Але праз хвіліну заварушыўся і застагнаў – слаба, як з-пад зямлі. Тады забойца з размахам, ужо ляжачага, стукнуў яму некалькі разоў па галаве, цэлячы ў скроню, аж пакуль не пырснула кроў з-пад качалкі.

Выпрастаўся, злосна плюнуў пад ногі.

– Цяпер ты нікому нічога не скажаш, артыст гробаны! А я буду мець за цябе ордэн! Вось так! Запомні!

Аляксей Грак зайшоў у кватэру і здзівіўся: магільная цішыня! Што такое? Дзе народ? А вось... хто гэта ляжыць ля самага стала? Дык гэта ж Эдзік! Лужына крыві ля галавы...

– Божа, што ж гэта нарабілася? – трагічным голасам, як на сцэне, спытаўся артыст. – Такога чалавека!.. Такога артыста загубілі!..

Падыйшоў бліжэй, памацаў руку. Рука была зусім халодная, як ледзяная. Усё! Што ж рабіць? Тэлефон, тут у яго тэлефон... Дрыготкаю рукою зняў трубку. Але тэлефон не азваўся гудкамі, ён быў ці пашкоджаны, ці адключаны зусім...

"Вось ты, Грак, і папаўся, – сказаў сам сабе. – Цяпер усё могуць спісаць на цябе. І нічога ты не дакажаш. Нікому! Ніколі!"

З такімі горкімі думкамі ён пакінуў нежывога сябра і яго кватэру.

Толькі выключыў святло і шчыльна зачыніў дзверы.

Алесь Пашкевіч



...Усё міне –

апроч нябёсаў ды цябе,

Радзіма...

# Стажар

* * *

...І зноў пад невадам світання
схаваўся сонных зор гарэм.
Як хмельна!.. Як зачаравальна
пасля раманнага блукання
ісці сцяжынамі паэм!

Там – прамінулае ва ўладзе,
там лёс – упыр, там свет – падман,
і кожны, хто не труп, – у здрадзе.
А тут – як здань на даляглядзе –
дзяўчат-метафар караван...

Збяром світанкі, зоры й песні
ды прыкладзём да вечных ран!
Жыве і будзе жыць край весні –
і не зважацьме, хто тыран...

* * *

Твайго шукаюць вечна дна
і Днепр, і Прыпяць, і Дзвіна.

І я – у словах, казках, снах, –
табой спакушаны манах,
гукаў ад ночы да відна...
А ты маўчыш, а ты – адна.

Прасіў, маліў: «Адкрыйся мне,
пакуль нябыт не паглыне!».

«Яшчэ не час, – быў твой адказ, –
усё здзяйсняецца без нас.
У гэтай мірнай старане
усё жыве, акром мяне...».

Суседка коршунам дзяўбе,
сусед няўрымсціцца ў сяўбе –
табе ж – як мову заняло;
а лёс пляце адчай-сіло...

І што казаць? Усё міне –
апроч нябёсаў ды цябе,

Радзіма.

## МАЁ ЧАРОЎНАЕ БЯЗЛАДДЗЕ

У срэбры снежнага раздолля
прыйшла, нібыта каляда, –
мая крыклівая нядоля,
мая маўклівая бяда.

Я на журбы тваёй парадзе
вандроўнік вечны й першы госць,
маё чароўнае бязладдзе,
маё суладдзе-прыгажосць.

Мне сніўся голас твой вітальны
на нізкім ложку з крышталю:
– Штоноч падманваючы тайна,
я і кахаю, і люблю.
Паэт, апошні магіканін,
адчайны блазан і прарок,
спатканне прызначай у храме
легендаў, кветак і дарог!

Каханню й ноччу нашай цесна:
мы выснім раніцай яшчэ,
як сакавік са снегу-цеста
калюгаў дранікі пячэ...

### ВЫБАР: 19.05.1995

*Мераю справядлівасці*
*не можа быць большасць галасоў.*
Фрыдрых Шылер

Травень, травень, мой наіўны брат,
раскажы прыцішанаму свету,
як у твой святы пялёсткапад
горла перарэзвалі паэту.

Старасць рахітычная прыйшла,
на штандарах сцёртых – знак паганы.
Пад запевы-гімны гора-зла
ноччу мацюкацьмуцца наганы?!

Травень, травень, мой пракляты брат,
сыты ўсе, а я адзін – галодны?
Лье атруту ў кубак шчодры сват,
вострыць нож сталёвы бацька родны.

Позна жыць і рана паміраць.
Раны лютыя баляць мінулым.
Бог крывіцкі, вышлі ў поле раць
даказаць, што травы – не заснулі!

Травень, травень, мой адзіны брат,
захлынуцца ў брудзе ліхадзеі.
Вылечы й схавай, нябесны сад
бел-жыццёва-белае надзеі!

### ЛЕБЯДА

Адцвілі васількі на пожні,
лебяда ля хат, –
у краіне, дзе кожны
ці вораг, ці кат.

І ні радасці, і ні хлеба,
ні вады жывой.
Паміраем пад сонным небам
на зямлі з лебядой,

дзе і пан, і прарок найпершы –
збродны зяць,
загадаць можа й вершы
не пісаць...

А яны ў нас і так без рыфмаў,
нібы сэрцы без пульсу-біцця,
нібы сцежкі марскія без рыфаў,
быццам смерць – без жыцця.

## НОЧ

Вецер б’ецца-ліпне ў соты
вокнаў шматпавярховіка.
Вечар топча збітым ботам
светлафора-чырвонагаловіка.

Маладзік над дахаў пушчай
з нас, ліслівых, крывіцца, –
як арэхі, зоркі лушчыць
тлуста-жоўтай сківіцай;

сыпле знічкі, бы лушпінне,
у прыпол да раніцы
і знявечанай айчыне
ў вочы пасміхаецца...

## ЛЁСЫ

Што жывём мы ў свабодным палоне –
не віноўны ні раб, ні прарок.
Па-суседску даруй, дзядзька-клёне,
што я піў твой даверлівы сок.

Вы прабачце, стаптаныя гоні,
мой нявоўны пракос – як рушнік;
выцірaў ім стамлёныя скроні
жніўны дождж, непакора й даўжнік.

Браў у рукі ён хмару-сяленьку,
пазычаў у азёр мех зярнят –
са старэнькай маланкай-кавенькай
расціраў мазалі сваіх пят...

Вольны ў свеце адзін хіба вецер,
ды і той натаміўся й знямог:
надарваўся, змятаючы смецце,
і аслепнуў – ад біблій дарог.

### *НАЦЮРМОРТ*

Нам заснуць не даюць
тры случанскія півоні:
неспакой прагна п’юць
з крышталёвых далоняў.

А за цёмным акном
перад сотамі лоджый –
хмару спіўшы нагбом,
вецер ліпу ўлагоджваў...

...Дождж салодкі – зямлі
цалаваў смагна скроні.
Нам заснуць не далі
тры случанскія півоні.

### *ПРЫЗНАННЕ*

Прывяжы мяне, любае неба,
ланцугамі далёкіх зор.
На вяршынях спакойных гор
пералетаваць шчасцю трэба.

Падары мне півоні карону
ў дыяментах случанскіх рос
і кашулю пашый навырост –
абярэгам хай будзе да скону.

Знай: за паркам,
        на храмным узвышшы,
даўганогая хвойка мая
на скрыжалях травы-дывана
голкай-пёркам пасланне мне піша.

* * *

У майго ўскрайку Слуцка
была незвычайная мясціна –
ШТАНЫ:
з боку Мінска
шлях разыходзіўся
на дзве дарогі-нагавіцы.
І ёсць
афіцыйна-тапаграфічная назва –
вуліца Суворава.
Ніколі не чуў яе

ад сваіх вяскоўцаў,
так і кажуць:
«Дабяруса да Штаноў»,
«Вылезу на Штанах»...
І я –
у якой бы кашулі,
пры якім бы гальштуку
не ехаў у сваё Набушава –
таксама ўлазіў
у гэтыя прашытыя дарожнай разметкай
штаны –
не саромеючыся
вялікіх латак
асфальтавых выбоінаў.

У майго ўскрайку Слуцка
была незвычайная мясціна –
ШТАНЫ,
пакуль
рэспубліканскія «Дажынкі»
не скінулі іх,
замяніўшы
звычайным
дарожным
колам...

## *СВАБОДА*

...Там свабода, дзе Радзіма
пупавінай закруціла, –

хоць яна й калючым дротам
спавівала,
хоць яна й крывавым потам
частавала.

Там і сіла, і магіла,
і праклёны...

Там свабода, дзе ў зямельцы
легіёны...

## *МУЗАРЫЙ*

Па-над хатай маёй –
галубы, як пялёсткі аблокаў,
каля ганку майго –
бы кентаўры, вятры.

Хоць я ў марах завейных і лётаў высока –
усё роўна маліўся каленям гары.

Я хадзіў па ўспамінах
        растрачаных вёснаў,
лабірынтамі зораў
        таліў мазалі.
Вязы два – нібы лёсавы вёслы –
човен хаты маёй па нябёсах вялі.

Знічкі-рыбы лавіў –
        плёскат голек пачулі...
На далонях гары зноў збіраў галубоў,
каб у верш,
        як калісьці ва ўзоры кашулі,
мне прыносілі з ніў
        васількову любоў.

### *КНІГА*

На тваёй
аксамітнай паперы
я знайшоў адказы
нашага сёння
і прароцтвы
свайго заўтра,
надрукаваў натхненні,
увекавечыў настроі
ды напісаў
дачку і сына.
Твой пераплёт –
гісторыя вечнай Радзімы.
Вокладка –
белае і чорнае моры
са шмуцтытуламі
васількова-лавандавых раніцаў.
Закладкі ў табе –
эпітэты-ўспаміны
з занатоўкамі пяшчотаў.
Ілюстрацыі –
вочы і вусны
пэндзля Да Вінчы...

Не стамлюся гартаць
старонкі пацалункаў і ўсмешак,
расчытваць па начах
таямніцы жаданняў,
апантана вывучваць цябе

да літары,
піць, як з ліпеньскіх сотаў,
метафары й сімвалы
Евы...
Ты – мая кніга,
у якой ёсць адна адрукоўка
– я.

### *БІЯГРАФІЯ*

Маленства – час, калі хочацца плакаць,
піць, гаварыць, есці і глядзець.
Дзяцінства – час, калі хочацца плакаць, піць, гаварыць і есці.
Маладосць – час, калі хочацца плакаць, піць і гаварыць.
Паўнагоддзе – час, калі хочацца плакаць і піць.
Сталасць – час, калі хочацца плакаць.
Старасць – час, калі хочацца.

### *НАДЗЕЯ*

У ста вершах забыў сказаць,
пра што сёння прамовіць бярусся:
для Еўропы я – сціплы зяць,
горкі пасынак – Беларусі.

Прадзед землі дзівіў канём,
ганарыстым, як вецер зорны,
шлюбаваў сталь сякеры з агнём
у старэчым вясковым горне.

Яго іскры – у зрэнках маіх,
а вуголле – у сэрцы ірдзее.
Толькі молат стаміўся й заціх,
а засну – спакушае надзея:

што не зрокся і ўнук зямлі, –
узараўшы нябёсы болем,
на чырвоным арле-кані
праімчуся бялюткім полем;

што не вечны ў грудзях кашчэй,
што ў нябыт павядуць не першым,
што чарніла святых начэй
яшчэ хопіць
на дзесяць
вершаў.

*1995, 2003-2010.*



Генрых Далідовіч



...у кожнага

свой лёс...

# Рурыкавічы і Рагвалодавічы

## *Раман у апавяданнях з прадмовай і пасляслоўямі*

### Апавяданне чацвёртае. Мсціслаў*

*Гэты князь* (Мсціслаў. – Пераклад, тлумачэнні мае. – *Г.Д.) народжаны быць героем... Ён падняў меч на брата (Яраслава), але загладзіў гэтую жорсткасць, уласцівую тагачаснай эпосе, высакародным мірам з пераможаным...*

М. Карамзін

*...Мсціслаў паўстаў (явился) волатам.*

С. Салаўёў

**1.**

...Мо і пад сённяшні адмысловы настрой успомніліся першыя радкі казак, чутых ім у маленстве ад карміцелькі-няні Любкі-палачанкі: "Жылі-былі дзед,

*Працяг. Пачатак у №2-4 (57-59).*

* *На пачатку гэтага апавядання спажыты некаторыя звесткі, версіі па некалішнім Цьмутараканскім княстве з рамана В. Іванова "Русь великая".* Аўтар.

баба і мелі трох сыноў. Старэйшыя ўдаліся разумныя, а малодшы быў дурань...”

Трое... Мсціслаў сумотна пахітаў галавою: а вось у яго бацькі Уладзіміра было празнаных 12 сыноў ад розных жонак. Пражыў ён ці не 63 леты, памёр у 1015-ае, і праз восем гадоў засталіся жыць толькі тры яго сыны... Лічыцца: сваёй смерцю пакінулі гэты свет двое – самыя старэйшыя, Вышаслаў і Ізяслаў, а іншыя сем пагінулі так ці гэтак ад рук сваіх жа братоў...

Цяпер самы пажылы – Яраслаў. Сын Уладзіміра і Рагнеды. Ён, пабыўшы ў Растове і Ноўгарадзе, наўгародска-варажскімі сякерамі і мячамі ўзяў бацькаў Кіеў, а пазней збег з кіеўскай зямлі пад націскам ляхаў, уратаваўся ў Ноўгарадзе і таксама сілай (зноў з падкупленымі варажцамі) дабіўся ўладарання ў Кіеве. Зараз самы маладзейшы, але ўжо са зводных братоў – Судзіслаў. Той, як кажуць, асцерагаючыся ўладалюбнага Яраслава, “ціха сядзіць” у Плескаве (Пскове). Сярэдні – *ён*, Мсціслаў.

Думаючы пра ўсё гэта, сягоння знаходзіўся далёка ад іх. І ад Пляскова, і ад Кіева. На закутку ўладання Русі, на стромкім беразе Судацкага ці Сурожскага (Азоўскага) мора. Яно, яго ўдзельнае княства, з усіх бакоў абкружанае чужымі плямёнамі. Прымасціўся на травяным доле ў засені некалі прывезенай з-пад Кіева ліпы і безуважнаназіраў, што ды як на ім, моры, рабілася. Час ад часу позірк ягоны падымаўся вышэй. Туды, за вадзяную роўнядзь (бывалішнія ўладальнікі гэтых мясцін, грэкі і рымляне, называлі мора Меацийскім балотам: яно невялікае і мелкае, найбольшая глыбіня ў ім не больш сямі сажняў (сажань – крыху больш 2 м); малаcалёная вада за асабліва гарачае лета пры зменшаных прылівах Дона і Кубані абмельваецца і, бывае, нават зацвітае).

Сёлета лета таксама прыпякала; высокае, звычайна сіняе ці густа блакітнае неба ўдзень асмужвалася – мо і ад белі малых і вялікіх воблакаў, што адно за адным наплывалі з Панцийскага (Чорнага) мора ці з блізкай Таўрыі ці Таўрыды (Крыма) і хаваліся ці за паўночна-заходнімі печанежскімі землямі або за Донам, ці на ўсходзе-поўдні за недалёкімі азёрамі і балотцамі, а далей – за Кубанню з яе прытокамі альбо ў бліжэйшых касожскіх, прыкаўказскіх перадгор’ях.

Тут, непадалёку вусця, дзе мора-возера рэзка звужалася, мясцінай ажно да трох вёрст (пры Панцийскім моры шырэе ў разоў пяць), на даліне з паніжэлымі берагамі, каля пляцовак для кідальных машын і прыстаняў, на стромах, за землянымі валамі з каменнымі сценамі і вежамі на месцы грэчаскай Германасы, потым хазарскай Таматархі за паўстагоддзе ўзнік і абуйнеў новы горад, мо і жартам яшчэ дзедам Святаславам названы пасвойму (раней тут быў кавал былога Баспорскага царства; узяўшы яго, Святаслаў у вясёлым настроі ўсклікнуў: якое там царства – Цьмутаракань! Ды тут людзі знаходзяць пры капанні зямлі не толькі спарахнелыя косткі, а даўнія грэчаска-рымскія, хазарскія прыгожыя статуэткі, бюсты, скульптуры, мячы, шлемы, пасуду, манеты, што ўсё сведкамі пра былы росквіт краю). Падпарадкаваныя і злучаныя ў Цьмутараканскім княстве землі ляжалі паўклінам на ўсход ад мора, на вёрст сорак углыб, у стэп, а на супрацьлеглым, даўгаватым, нібы адтапыраным вялікім пальцы ў кулаку таўрыдскім беразе ў жыццёвыя буры-віхуры ацалеў для іх горад Корчаў (Керч), які быў сталіцай таго царства. Гэтыя гарады-крэпасці, як два нажы ў магутных клешчах, адкрывалі ці засланялі водны шлях у Панцийскае мора ці з яго сюды (тым больш, што трохвёрставы праліў

мае водмелі і скалы; да іх у валы, у шторм, хвалі маглі прыбіць карабель з рулявым-няўдаліцам і знявечыць яго). Сюды, на самыя аддаленыя ад Кіева на ўсход і не злучаныя з ім землі (але зусім не глушэчныя, як некаторыя лічаць, а па-свойму ажыўленыя), яго, Мсціслава, прыслаў княжыць бацька, калі дзяліў удзелы паміж сынамі. Значыць, яму дасталося самае аддаленае і чужое па духу ўладанне. Вось і прыйшлося яму, Мсціславу, быць тут, за светам, "ледзь не на краі зямлі", як кажуць у яго родным Кіеве, першым славянскім князем (дасюль тут правілі кіўскія пасаднікі). Хоць, як пабачыў і пачуў ад гасцей, засвецце ды зямельны абрыў, дзе ўзыходзіць-заходзіць сонца, і адсюль, з Цьмутаракані, далёзныя: свет, цвердзь большыя, чым думаюць нават і адукаваныя тубыльцы. Хоць, чуў, водных прастораў яшчэ шырэй..

Звычайна такой часінаю, як цяпер, апоўдні, мора-возера шэра-зеленаватае, з сонечнымі водблісками, спакойнае, нават рыбы глыбей хаваюцца ад гарачыні, толькі крыху нябачнымі хвалькамі плешчацца пры беразе. Вада паўзане, паліжа жоўтапясчаную прыберазь – і адкоціцца. Зараз шумліва пры і на ім ад іншага – ад дзетвары. Яна гаманліва цешыцца цёплай вадою, дурасліўіць. Галёкае на розныя лады ды галасы: яе тут сумесь са змяшанымі мовамі. Хазары, грэкі, угры, обры, торкі, ясы, нашчадкі гунаў і готаў, славяне. У кожнага свае звычаі, святы. Хоць гэтыя землі сваімі лічаць касогі (саманазва адыге; продкі сённяшніх адыгейцаў, кабардзінцаў, чэркесаў). Значыць, і па рэлігіі люд розны: іўдзеі, мусульмане, хрысціяне ( у тым ліку і ерэтыкі), язычнікі. Ён, Мсціслаў, усіх не толькі цярпеў, але намагаўся па-свойму і пасаюзіць; іхніх старшын увёў у Раду. Грызіцеся пры мне, але за маёй спіной – кожнаму варожбнаму, надта ліхадзейнаму нямала дастанецца! Нават самая што ні ёсць страшная кара – загуба. Найперш прыйшлося строга паківаць пальцам перад носам старшыны хазараў, якія прапаведавалі іўдзейства: тыя лічылі сябе самымі богавыбранымі і знатнымі, таму зусім не саромеліся зневажаць ды абіраць варвараў. "Іўдзеі, – гаварылі яму, – першыя склалі свой саюз з самім Богам." – "А я чуў, – адказваў ён, – што той Ветхі завет, скажам, складалі і іншыя народы. Фінікійцы, вавілане. А вось Новага завета, хрысціян вы не прымаеце". – "Новы завет таксама склалі нашы, толькі яны паправілі: Бог праз свайго сына заключыў саюз з усімі людзьмі". – "Дык ці не больш справядлівы Новы завет?" Напамінаў тое бацькава, што чуў ад іншых пра выгнанне іўдзеяў за іхнія грахі з бацькаўшчыны і за спробу ўзвысіцца тут: "И вы, наказываемые Богом, дерзаете учить других? Мы не хотим, подобно вам, лишиться своего отечества!" А пасля мо і груба па-воінску прыстрашыў: "Запыніце свой імпэт! Інача найцкую на вас усіх, дык ад вас і мокрага месца не застанецца!" Той спрабаваў выкручвацца, а пасля пад грозным ягоным позіркам упаў на калені: "Даруй, заступнік і карміцель! Абеража! І так на нас шмат напасцяў!" – "Усе мы – ад Бога, ад бацькі і маці, дык і будзьма іхнімі дружнымі дзецьмі! Усё! Больш перастарэкваць не буду!".

Вось вялікім гуртам дзятва сабралася каля прыстаняў і, вырачыўшы вочы ды разявіўшы раты, агледжвала выправы. Пры намостах стаялі вялікія, на чалавек 80 – 100, караблі-перавозы пад апушчанымі парусамі (яны па 40 і больш локцяў; локаць – 0,5 м), а работніцкі люд і нявольнікі напаўнялі іх то коньмі, то цюкамі з сушанай, вяленай і вэнджанай рыбаю, мясам і хлебам, скуранымі торбамі з прэснай вадою, ахапкамі коп'яў, лукаў і стрэлаў, кальчугамі, шчытамі, шлемамі, коп'ямі. Калі карабель напакоўваўся да пэўнай меры, на яго ўзыходзілі карабельшчыкі

з воямі, пад'ярэмнікамі ды пад парусам альбо пры веславанні плылі на супрацьлеглы бераг. Там апаражнялі карабель, і ён зноў заяўляўся тут, каб узяць новы паклад. Пасля на княскі карабель з аховаю, са скрынямі срэбра, золата, з карчагамі віна ўзыдзе і ён. Не толькі сталыя, але і дзеці ведалі: Мсціслаў ідзе ў новы баявы паход. І на гэты раз не на суседнія ўсходнія, як летась, землі, а на воддальныя заходнія. На тыя, дзе зноў закнязіў яго брат Яраслаў...

Прывык ужо Мсціслаў да гэтага закутка, на першы погляд, няласкавай для славянства зямлі. А яна можа здацца новаму чалавеку якраз такой нават таму, што часамі, у зацяжную летнюю спякоту і без дажджоў, не толькі прышлых славян даймае страшная сушэча, а з ёю – нерадзь у стэпе са шматлікімі грудамі і пагоркамі; мізэрацца, а то і ўвогуле губяцца пад няўмольным сонцам трава, жыта, пшаніца, ячмень, проса, авёс, лён, канопля (сцебле ішло на вяроўкі, а зерне – на тлустую мачаку). Тады прыходзіцца, калі апусташаюцца запасы, дабівацца ад прыкаўказскіх суседзяў большай даніны (зразумела, не па ахвоце тых, а грозным словам, а то і мячом), а таксама многае з гэтага купляць і прывозіць з жыватворных чужых мясцін, іначай можна і самім галадаць, і загубіць усё сваё дамашняе патрэбнае жывое. Мала было смачнай пітной вады: нават у калодзежах яна гаркавая. Але цьмутараканцы здаўна прызвычаіліся выжываць: у галодніцу, калі пра мяккую і смачную паляніцу, малако, тварог і смятану, бывае, толькі ўспамінаюць, рады хоць бы шатровінам ад зерня, абыходзіліся, больш – ратаваліся ім, "балотам", а таксама прырэччамі. У возеры было шмат самай рознай рыбы. Калі ў ежныя гады выбіралі, што з яе браць (буйныя і смачныя бялугу, асетра, судака, камбалу, лобана), то пры бяскормніцы не грэбавалі і тым, што паблажліва называлі "разнорыбіцей", што звычайна была лёгкай, але радаснай здабычай дзяцей вудамі і падхопкамі сеткай на кіі. Яшчэ з возера можна было мяхамі насіць мідзіі ў чорных ракавінах, толькі трэба было ныраць і абіраць іх з каменняў і скал. Мідзіі былі спрыяльныя ўдвайне: жывой ежаю і валокнамі (імі чапляліся за скалы і каменне; з іх навучыліся рабіць тканіну.) А далекаваты Дон і блізкая Кубань з прытокамі славіліся тым, што, апроч лесу ў нізкіх мясцінах, мелі шмат трысняговых зараснікаў, а ў іх было безліч living рознага птаства (толькі пры ловах пешшу ці на лодках трэба было асцерагацца, каб не заблудзіцца ў гушчары з намыўнымі астраўкамі і мелкаводдзем). А пітную ваду навучыліся збіраць ад дажджоў ці ад снегу, прывозіць з горных рэчак і з даўнім умельствам захоўваць у падзямеллі ў шматвёдзерных бочках. Такое вялікае багацце, як соль, было сваё (таксама была з незапомнасці вялікая потайка, дзе і як яе здабываць); з Корчава прывозілі жалеза; у самой Цьмутаракані былі майстры па бронзе, медзі, срэбры, золаце, пасудзе, бусах і бранзалетах; заўсёды было шмат купцоў, ад іх ішоў пошлінны прыбытак. Шмат чаго прывозілі, але нямала і вывозілі. Па даўнейшых гандлёвых шляхах у два бакі: на поўдні, за Панційскім моры – багатая Візантыя, а на поўнач па Доне, волаку, а потым Ітілі (Волзе) – Булгар, а там, як і ў Візантыі, – таксама тавары з паўсвету. З паўднёвай Арабіі, з паўночна-усходніх і паўночна-заходніх краёў, ажно з Ладагі і Ноўгарада. Праўда, гэты, булгарскі шлях цяпер не зусім бойкі, саступае візантыйска-дняпроўска-кіеўска-наўгародскаму: ваенную, заможную, гандлёвую моц Булгара войнамі падарвалі дзед Святаслаў і бацька Уладзімір ды і раўнівая Візантыя па-свойму пастаралася. Нават тым, што раней падманна застрашвала купцоў з Арабіі не падавацца туды (зрэшты,

як і на славянскія землі): маўляў, там вас чакаюць... людажэрцы! Дык не спакушайцеся на вялікія прыбыткі, не едзьце туды, а прадавайце нам танней. Менш будзеце мець, але затое застанецеся жывыя! Праўда, візантыйцы не ўсё прадавалі: да слова, адбіралі ў замежных купцоў лепшыя тканіны і вярталі за іх плату: лічылі, што ўсіх перавышаюць мудрасцю, то павінны выдзяляцца і багаццем, харaством. Але мусілі саступаць і іх, калі трэба было выкупіць палонных. Хоць смялейшыя арабы далёка, на многія славянскія і суседнія ім землі дападалі (а гэта спрыяла таму, што не толькі некалі грэкі, а і егіпцяне (асабліва з багатай не толькі на рознае дабро, а таксама здольнай да навук, пазнання свету Александрыі), але і іншыя з арабскага свету нямала чаго напішуць пра славянства праўдзіва. Канечне, таксама і напрыдумляюць пра паўночныя і паўночна-заходнія за Цьмутараканню, за Кіевам быццам бясконцыя бязгорнія, лясныя прастрані, пра іхніх насельнікаў ажно па паўночныя ледавікі).

І яшчэ. З маладых гадоў, калі тут памёр кіеўскі пястун-ваявода, Мсціславу ўдалося перахапіць у баяраў уладу ў Цьмутаракані. Састарэлы бацька мала цікавіўся як Цьмутараканню, так і ім, мала яму вядомым сынам; пасля ягонай смерці Святаполку і Яраславу, ведучы братазабойныя войны, тым больш было не да яго, дык ён які ўжо час князь-уладар сам па сабе. Са сваім ладам і ўкладам. Ён умеў чытаць і пісаць (як-ніяк прыходзілася перапісвацца з пісьменным людам з Візантыі, Хазарыі, Булгара, Кіева, з Яраславам, з сёстрамі, а з нядаўняга часу і з пляменнікам Брачыславам з Полацка), але не быў такім знаўцам пісанай мудрасці, якой, па расказах сведак, стала раней, яшчэ да хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях, яго маці Рагнеда, а праславіўся як кніжнік брат Ізяслаў. Ды яму тут найперш патрэбна было не столькі чытаць мудрыя кнігі, колькі меч моцна трымаць у руках ( з пабочных схільнасцей любіў слухаць аповяды кніжнікаў пра народных герояў і палкаводцаў старых часоў, а таксама паляванне з выжламі, з гепардам ды кап'ём і лукам альбо з сокаламі). А калі пазалетась прыструніў ясаў (аланы; продкі асецінцаў), то надоечным годам пайшоў у вялікі паход і перамог самых тут моцных і ярасных непрыяцеляў, касогаў з княства-дзяржавы Касахіі (тыя нападалі знянацку, кралі жывёлу і людзей, збажыну, мёд. Ды ўсё бралі, што траплялася пад руку). Пабітыя і іншыя ваяўнічыя суседзі сцішыліся, а некаторыя дык і кланяюцца яму, "русу-джыгіту", рады з ім мірнічаць. Значыць, можна стаць нібы персідскім сатрапам, жыць бестурботна, насалоджвацца жыццём. Мо так і паводзіўся б, каб быў стары ўжо, але... Для яго, ва ўсім удалага, здольнага на большае, Цьмутаракань – усё ж усяго толькі на вотшыбе латочына мо і часовай для Кіева зямлі, а сам ён тут – князь-"отшелец...". Яраслаў быццам хоча быць ім, малодшым братам, "вместо отца" ды зусім не хіліцца, як бацька, уважыць іх ганаровымі ўдзеламі, а наўмысна хоча пакінуць воддаль. І яго, роднага. А цяпер, калі памёр яго сын Ілля, а другі ад іншай жонкі яшчэ дзіця горкае, то з князёў – сыноў Уладзіміравых, толькі яны два, Мсціслаў і Судзіслаў, могуць закнязіць у Ноўгарадзе ці ў такіх таксама пашанотных гарадах, як Чарнігаў, Смаленск альбо Растоў. Не, трымае там пасаднікаў – верных паслужнікаў. Яму, Мсціславу, перадаў: калі хочаш, едзь Мурам. Таксама ў закраек. Са стэпавай паўднёвай далечы ад Кіева – у паўночную лясную і глухую, таксама па-свойму Цьмутаракань.

То што рабіць? Цьмутараканіцца і далей? Ці трэба браць самому большае, як ён, Яраслаў, узяў Кіеў насуперак старэйшаму Святаполку!.. Бацька на тым свеце не асудзіць вельмі за гэты намер (сам захапіў у Кіеве ўладу

праз братазабойства), толькі вось дзед, можа, як і на іншых унукаў, там, на небе, забурчыць... Таму (кажуць, жыў менш трыццаці гадоў – значыць, Мсціслаў старэйшы ўжо) пашанцавала нават у тым, што быў адзіны сын у загубленага драўлянамі Ігара. А сваіх сыноў-malaletkaў Яраполка і Алега зусім не асцерагаўся. Ды ён і сам наказваў ім тут уладу (Яраполку – у Кіеве, Алегу – у драўлянскім Любечы), ахвотны да войнаў і на іншыя землі (за ўнукаў уладарыла маці, Вольга). З лёгкай душой пакідаў Кіеў на яе. У Цьмутаракані яшчэ жыве некалькі чалавек, якія маладымі хадзілі з ім у тыя, ужо даўныя паходы. Дык юным Мсціслаў распытваў іх пра дзедавыя перамогі і пагібель. То ў памяці было: тады шматлікім землям упёкся ў печані Хазарскі каганат. Маючы сілу, змусіў многіх, на захадзе ажно далёкіх радзімічаў (продкі сённяшніх гомельцаў, чачэрцаў, слаўгарадцаў і інш.) плаціць яму даніну. Але многія і на яго, каганат, пастаянна нападалі. Печанегі, ясы, з Кіева – Аскольд з Дзірам, Алег. У 6473-м (965) на яго буйны горад Саркел (Белая Вежа) з дружынамі, як і сам, зухаў ды хватаў навалілся Святаслаў. Хоць крэпасць была добра, па самых новых візантыйскіх навуках умацаваная, але не ўстояла, а з ёю аслабла і моц каганата. Акрылены вялікай перамогай Святаслаў на наступны год падаўся ў вялікі паход-рэйд на паўночны ўсход – на землі севяран з цэнтрам у Чарнігаве, вяцічаў, выкараніўшы там намеснікаў хазарскага кагана, а пасля прайшоўся па зямлі мешчары, мардвы, мурамы, усюды пакідаючы сваіх “мужоў знатных”. Затым павярнуў на ўсход і ўздоўж Іціля (Волгі) дасягнуў ажно камскага Булгара – квітнеючай сталіцы тамашняй Булгарыі – і разграміў яе. І зноў па землях мардвы ды іншых плямён берагам Іціля доўга ішоў на поўдзень, да яго вусця, а там, ужо пры Хвалынскім (Каспійскім) моры, накінуўся, разбурыў сталіцу хазараў Іціль і па іх паўднёвых землях, па правым кубанскім беразе пайшоў на захад, да іхняй Таматархі на беразе Сурожскага мора, якую дзясяткі два гадоў таму спрабаваў падначаліць яго бацька, Ігар, узяў яе і заснаваў сваю крэпасць Цьмутаракань. (М. Карамзін: “Вайна была ў тыя часы народным промыслам,” а Русь сталася “дзяржавай, толькі мячом заснаванай і ахоўваемай”. Ды “прамышлялі”, “засноўвалі” і “ахоўвалі” ва ўсім свеце і задоўга да Святаслава. І пасля яго.).

Мсціслаў глыбока зразумеў: апантаны войнамі, заваёвамі і здабычай дзед калі не скарыў, то настрашыў і апаясаў агромністыя туземныя прасторы, даручаючы іх “асвойваць” славянскаму мячу. Зразумела, найперш Кіеву. А свой пачатак гэтаму паклаў з таго, з чаго пачыналі і будуць пачынаць заваёўнікі ўсяго свету – са знішчэння памяці туземцаў і навады нення іх зямель чужапрышлымі. Скажам, Святаслаў забараніў усякае напамінанне пра Баспорскае царства, а Цьмутаракань зрабіў фарпостам для каланізацыі суседзяў. Праўда, Уладзімір павёў сваю баявую рацьразам з торкамі, прыпечанежскімі суседзямі, на Булгар не адгэтуль, дзе быў малаздольны кіеўскі пасаднік, а з самога, падуладжанага ім Кіева. Услед за бацькам таксама паграміў булгараў. Ды яго, Уладзіміра, ягоны вуй і пястун Дабрыня мудра перасцярог дабівацца зусім занявольваць Булгарыю: “Яны ходзяць у ботах, то не будуць плаціць нам даніны як людзі годныя. Пакуль што пакінем іх у спакоі, хадзем шукаць лапатнікаў”. Дык па гэтай мудрасці сышлі адтуль з “честью и дарами”. Значыць, разумны, гаспадарлівы і, галоўнае, годны люд скарыць, унізіць няпроста. Праўда, калі з Булгара да Уладзіміра таксама з вялікімі падарункамі, на што многія хіжыя, прыбылі паслы і пачалі ўсхваляць іхняе магаметанства, то ён адмовіўся ад іхняй

веры. Няблага, сказаў ён, што можна мець не адну жонку, але... адмовіцца ад весялосці і ўцех?!.. А яны ж бываюць мо і найперш тады, калі ў цяжкую ці ўслед за ёй радасную хвіліну можна выпіць, забыцца на розныя скрухі і даць волю аблегчанай душы! “Вино, – дадаў, – есть веселие для *русских*, не можем быть без него” (не цяжка здагадацца, што выдзеленае мною слова ў перападачы М. Карамзіна невыпадкова: ён для сваіх сучаснікаў пры размове пра Кіеў, Полацк, Ноўгарад усюды насаджваў паняцце “рускі” у тым, пры ягоным жыцці імперскім паняцці. Калі Уладзімір і сказаў такі выраз, то меў на ўвазе тую Русь, што тады была вакол Ноўгарада і Кіева. Хоць наконт “веселия” для многіх з усходнеславянскай душою ён, М. Карамзін, мо і не памыліўся. – *Г.Д.*).

Мсціслаў не проста так цяпер захацеў пасядзець сам-насам на беразе мора-возера. Ён яшчэ і яшчэ раз абдумліваў-разважаў пра лёс дзеда, бацькі, забітых братоў, Яраслава, Судзіслава і свой... З вялікай радні Рурыкавічаў-Уладзіміравічаў толькі трое засталося! А Яраслаў проста-такі змушае пайсці на яго! Значыць, нехта з іх таксама можа загінуць, дык іхняя радня яшчэ больш звузіцца... Ці гэта якраз і трэба Яраславу? Але ж пры гэтым трэба яму разлічваць на перамогу!

Мсціслаў зноў ды зноў разважаў пра свой лёс. Як малодшы за Яраслава спачатку цярпліва чакаў запросін на новае, бліжэйшае да Кіева княжанне, потым пад націскам знатных мужоў (“Цябе Яраслаў зневажае!”) сам падаў таму голас, але брат у адказе, як казалася ўжо, сапраўды абразіў. Дык не мог не пакрыўдзіцца, зазлаваць. А ты? Вайну ж распаліў супраць старэйшага! Хай сабе, як ідзе погалас, Святаполк – не родны брат па бацьку і маці, Яраполкаў сын, ім стрыечнік, але ж Яраполк па волі бацькі Святаслава быў вялікі князь! Значыць, Святаполк меў поўнае права быць на пасадзе ў Кіеве, Руссю правіць! Праўда, злыбеднік! За забойства трох Уладзіміравічаў. І за гэта паплаціўся (калі напісаў апошнія радкі, падсвядома завабіла па-новаму зазірнуць у даследаванне А. Мельнікава “Жыціе і жыццё свяціцеля Кірыла, епіскапа Тураўскага”. Аказваецца, у падсвядомасці чакала знаёмая мне, але паўзабытая версія вучонага на падставе выдадзенай у Маскве працы іншага даследчыка пра тое, што губіцелем братоў Барыса і Глеба быў... Яраслаў, які пасля забойстваў адных хацеў расправіцца і з астатнімі двума: Мсціслава змусіў пачаць з ім вайну, а Судзіслава кінуў на больш чым 20 гадоў у цямніцу. Ды... мабыць, малавата доказаў, каб так абвінавачваць палюбленага царквой і імперскімі гісторыкамі Яраслава, хоць Судзіслаў, сапраўды, столькі пакутаваў у зняволенні. – *Г.Д.*).

“А хіба Яраслаў па-бацькоўску павёўся з сёстрамі?! – думаў-гаварыў сам з сабою Мсціслаў. – Шукаючы для сябе карысць, Святаполкаву жонку павёз з сабой у Ноўгарад, а іх, сірот, саступіў Баляславу, на ганьбаванне аддаў!”

Некаляшняя сустрэча тут, у Цьмутаракані, з Прадславай (сказала, хто хоча пабыць у розных мясцінах і наведаць усіх братоў) для яго, Мсціслава, адарванага ад Бацькаўшчыны і сям’і, – яркі пробліск сонца ў хмурны, невясёлы дзень. Сястра ўразіла красой, шчырасцю, дабрынёй, розумам, жаночай душэўнасцю ўжо з першай хвіліны, калі прыпала і выдыхнула ў плачы: “Брацік! Адзін тут! За светам!” Яна была яшчэ зусім юная; ён – таксама; яго ўразіла яе... ужо дарослая жаноцкасць, нібыта нават мацярынскасць!!! Няўжо яна ўжо і тады здолела гаварыць ад імя маці?! Тое кароткае спатканне з іхнімі гутаркамі з часам усё больш атуляліся замілаванасцю, радасцю як брата і чалавека. Сястра ёсць сястра! Ды яшчэ такая, як, на яго

думку, непаўторная Прадслава! І вось па Ярасласлававым выбрыку дзе яны, Прадслава і Праміслава? Што з імі? Такая глухата да родных – вялікая правіна і перад Богам, і перад іхняй гаротнай маці. Ён асабліва балюча гэта зразумеў па страце жонкі і сына. Іхняя матуля, Рагнеда, не страціла дзяцей, яны і без яе засталіся жывыя, здаровыя, але *што* дзеелася, кіпела ці гарэла на яе душы там, у далёкім Ізяслаўлі? Без праявы самага дарагога для кожнай жанчыны – глыбіні, уцехі і шчасця быць з дзецьмі?!

"Мо Судзіслаў не мае адвагі і сілы абразуміць уладалюбнага брата. То трэба ісці мне! Больш ужо няма каму! Калі Яраслаў хоча па-добраму быць бацькам, то няхай і паводзіцца мудра! А калі не жадае, дбае толькі пра свае выгоды, то трэба змусіць!"

Яшчэ і яшчэ дзясяткі разоў апраўдваючы самога сябе, што свядома ідзе насуперак Яраславу, Мсціслаў яшчэ і яшчэ раз вінаваціў найперш старэйшага брата за смуту. Хоць яна заклалася яшчэ з часоў прапрадзеда Рурыка. Той прыслаў сюды брата, Алега, – смелага, удумлівага, загартаванага ў баях, з такім жахлівым позіркам, што ад яго нямелі і волаты, – каб той мячом узяў Кіеў, расправіўся з Аскольдам, Дзірам і прывёў да ўлады ягонага, Рурыкавага, сына Ігара. Ды Алег, "пылая славолюбием" (М. Карамзін), пасля Рурыкавай смерці зусім не паспяшаўся саступіць уладу. Ігар дамогся яе толькі пасля нібыта загібелі дзядзькі ад змяі і правіў 33 гады (912 – 945). Ды за вялікія паборы даніны яго забілі драўляне. Пасля мо і па волі дружын, баяраў княжыла яго жонка, Вольга. Іхні адзіны сын, Святаслаў, яшчэ пры жыцці, нават у зусім маладыя гады вызначыў, дзе ўладзіць ягоным сынам Яраполку, Алегу і пазашлюбнаму Уладзіміру, але яго воля мо была і часовая. Хто ведае, як ён павёўся б пасля выгнання з Балгарыі і звароту ў Кіеў. Таму мо і невыпадкова пасля бацькавай пагібелі, таксама "пылая славолюбием", Яраполк звёў са свету Алега, а яго – Уладзімір. Ён як першы хрысціянскі вялікі князь ад імя адных веры, Бога і ўлады мог бы, як казалі некаторыя старыя баяры, як след абзаконіць пераход вялікакняжання. Але яго воля была адмысловая. Кожнаму з 12 сыноў вызначыў удзел, а ў Кіеве пасля сваёй смерці, гаварылі, "за отца" хацеў пасадзіць не самага старэйшага, а свайго першага хрысціянскага сына. Барыса. Відаць, думаў: гэта задаволіць і нашчадкаў, і Візантыю з усім хрысціянскім светам, і прыхільнікаў новай веры тут. Маўляў, ніхто – не ізгой, кожны мае сваё ўладанне і па ягоным, бацькавым, наказе будзе слухацца кіеўскага вялікага князя.

Ды... Уладзімірава задума з яго адыходам тут жа скончылася. З ёю найперш не мог змірыцца Святаполк, тым больш з даўняй крыўдаю за ўдаленне ў свой час з тураўскага княжання, за ганебна праведзены час у порубе і далейшую ўніжанасць побач з дзядзькам-бацькам у Кіеве і ў Вышгарадзе. Некаторыя спачувальныя баяры памаглі яму захапіць уладу; Барыс саступіў яе яму ахвотна, мабыць, і ў маладыя гады здагадваючыся, што яго з умоўным правам на вялікакняжанне, чакае. Але і з асцярогай ці саступкай Святаполку не ўратаваўся. Так павялося здаўна: калі ты на штосьці пасягаеш, а потым па нейкай прычыне саступаеш суперніку, то для таго бяспечней, каб ты апынуўся ў магіле! Ён, Мсціслаў, мала чуў чаго добрага пра Святаполка, але сам для сябе лічыў: вялікакняжанне таго можа абладзіць тое, якой павінна быць уладная спадчына. Не выйшла... З-за Яраслава: ён зрабіў усё, каб не абвялікакнязіць Святаполка і ягоны род... А цяпер вось і ён, Мсціслаў, умешваецца, не дазваляе Яраславу стаць самадзержцам...

... Незадоўга перад бацькавай смерцю яго, Мсціслава, нечакана запрасіў

да сябе Базыль (Васілій) II – візантыйскі імператар (базілеўс), брат Ганны, апошняй жонкі ягонага бацькі. У далёкай Цьмутаракані Мсціслаў з маленства ад тамашняга і наезджага люду пачаў шмат уведваць пра блізкую Візантыю (Рум, Рамею, Румею, Раманію) і пра яе сталіцу Канстанцінопаль (Царград, Царгорад). І пры кожным зручным выпадку, асабліва тады, калі адтуль прыбываў сам ці ў высылку вучоны чалавек, прагнуў спазнаць яшчэ больш: як-ніяк Візантыя – “хросная маці” і Русі, ад яе тое-сёе пераймалі і трэба будзе яшчэ шмат чаму вучыцца.

Візантыя, Канстанцінопаль, – канечне ж, не першая і не апошнія як дзяржава і яе сталіца, што ўзніклі на чужых набытках, а потым не толькі руінах, але ўжо і на занесеных іх пяском. У глыбокую даўніну грэкі называлі многія тамашнія землі Анатоліей (усходам), пасля прыжылася назва Малая Азія, што была на стыку Еўропы, Азіі і Афрыкі. Там зямныя нетры багаціліся золатам, срэбрам, жалезам, меддзю, свінцом, крэменем, меўся вельмі рэдкі абсідан (вулканічнае шкло), паверхня зямлі спрыяла люду пашамі, ворыўнасцю. Таму гэтыя мясціны аблюбавалі свае, суседнія і прышлыя плямёны. Спачатку яны пад цёплым сонцам гуртаваліся ў пасяленні. Даўнейшае з іх – Чатал-Хююк (7 – 6 тыс. да н. э). Яны навучыліся прыручаць дзікіх жывёл, вырошчваць не менш 14 спажыўных раслін, абострываць для рэзання крэмень і абсідан, абрабляць свінец і самародную медзь (халодная коўка з яе самая даўняя), ставіць храмы, рабіць роспісы і скульптуры (надта любілі выявы поўных жанчын як сімвал пладароднасці, а таксама выявы быка і двухгаловага арла). Пасля (4 – 3 тыс. да н. э.) на землях Анатоліі пачалі скупчацца гарады, а з імі заяўляцца дзяржавы. Пра іх пакінулі звесткі блізкія суседзі – шумеры (лічыцца, што яны адны з самых даўніх разумных і здольных у многім) і асірыйцы (ад апошніх анаталійцы запазычылі пісьменнасць). З дзяржаў вядома некалькі. Хецкае царства (18 – 12 стст. да н. э.; супрацьстаяла Егіпту і Двурэччу, г. зн. паміж рэкамі Тыгр і Еўфрат (у асноўным Месапатамія, таксама адна са старажытных, дзе між разліўнымі рэчкамі, як лічаць, быў патоп, які пазней назавуць сусветным). Хеты мянялі воблік ад прышлых, часамі непажаданых суседзяў, развілі клінапіс (своеасаблівае пісьмо на сырой гліне, якую пасля абпальвалі і маглі захоўваць ледзь не вечна), іерагліфічнае пісьмо на розных мовах; набегі суседзяў, войны прывялі да распаду; сярод загубіцеляў былі і збегі са сваіх краёў, найперш грэкі-ахейцы). Затым паўстала Фрыгійскае царства (10 – 8 стст. да н. э.; вынайшлі сваю алфавітную пісьменнасць, увялі ў абыход флейту і зрабілі іншыя пазнанні ў музыцы; п*а*лі ад асірыйцаў). З Фрыгійскага царства выдзелілася Лідзійскае (7 – 6 стст. да н. э.; развілі ткацтва, пашыўку living рознага адзення, дойлідства, выраб і апрацоўку металаў, першыя навучыліся чаканіць манеты з золата і срэбра, праславіліся сваімі конніцай і калясніцамі, узялі алфавіт ад грэкаў; не ўстаялі ў войнах; падпалі пад уладу персаў, Аляксандра Македонскага, дзяржавы Селеўкідаў (палкаводца Македонскага), Пергама (праславіўся зборам рукапісаў, лякарскай школай), а ў 129 – 126 гадах да н. э. апынуліся правінцыяй у складзе Рымскай імперыі). Пасля яе падзелу ў 395 годзе апынуліся ў новай дзяржаве – Візантыі (славянскія купцы называюць яе агульным словам “грэкі”, паколькі ў ёй грэчаскі стрыжань. У тым ліку і для хрысціянства: яшчэ ў 4 ст да н. э. на грэчаскую мову быў перакладзены Стары запавет як цікавы міф пра стварэнне свету, расказ пра многія гістарычныя падзеі, пра норавы і мараль, як прыклад любоўнай лірыкі, які пазней, як і ва іўдзействе, стане

свяшчэнным і ў хрысціянстве, разам з Новым запаветам складзе Біблію (ад грэч. *biblia*, літ. – кнігі).

Мсціславу было найбольш вядома, што грэкі (далей без двухкосся) займелі абсяжны ўсходні кавал велізарнай Рымскай імперыі. Ды ён, гэты адрэзак у Азіі і Еўропе, устояўшы ў войнах, здолеў сам стаць не толькі магутнай дзяржаваю, але і вялікай імперыяй. Хоць пазней (у 7 ст.) ад яе шмат адабралі арабы (Сірыю, Палесціну, Егіпет і інш.), але і тое, што ў яе засталося на Балканах, у Малой Азіі і ў Закаўказзі, што раней пашанцавала адваяваць у остготаў на італійскіх землях (тады ўзялі і Рым, што дазволіла Канстанцінопалю аб'явіць сябе "другім Рымам", "новай сталіцай не толькі хрысціянскіх дзяржаў, але і свету") пакінула яе ўсё роўна моцнай. Тым больш, што арабская еднасць у Халіфаце аказалася не вельмі трывалаю.

Мсціславу была не навіна: грэкі, як і некалі іхнія далёкія, цяпер паўзабытыя ўжо продкі, суседзяць з многімі ваяўнічымі народамі і плямёнамі, вялі і вядуць з імі бясконцыя войны. З персамі, армянамі, грузінамі, аварамі, з Паннoніяй (асобныя землі будучых Венгрыі, Югаславіі і Аўстрыі), уграмі, печанегамі, узамі, славянамі – асабліва з балгарамі ды з Кіевам, які часта абапіраўся на помач часовых саюзнікаў з іншых, не толькі ўсходнеславянскіх земляў (пры Алегу, прадзеду Ігару, дзеду Святаславу і бацьку Уладзіміру). Часамі грэкам так дапякалі, што яны, грозныя, мусілі адкупляцца данінай і нават парушаць свае ўстановы і радніцца "з варварамі", дынастычна змешваць з імі сваю свяшчэнную імператарскую кроў (з хазарамі, з кіеўскім вялікім князем). У грэкаў марскія межы ў 10 разоў большыя, чым па сушы (на цвердзі многія крэпасці-пасяленні абносілі магутнымі сценамі). Але і водныя прасторы не вельмі ратавалі – найперш ад арабаў. Тыя з 7 ст., калі пачалі злучацца пад знакам ісламa, паўсталі страшнай сілай (рушылі і на ўсход, скараючы іранцаў, узбекаў, таджыкаў, туркменаў, і на захад па былых рымскіх заваёвах, падуладжваючы суданцаў, лівійцаў, алжырцаў, тунісцаў, мараканцаў, іспанцаў, партугальцаў). Дзеля свайго панавання, мусульманства і арабізацыі яны праглі зусім пакончыць з "другім Рымам", узвысіць Багдад, неаднойчы спрабуючы якраз па вадзе ўзяць Царгорад. Ратаваў "грэчаскі агонь" (нафта, горная смала, сера, селітра, масла і інш.). Ад яго не толькі палалі варожыя караблі, але і водныя паверхні вакол іх (іменна так знішчаўся і флот Русі). Урэшце таямніцу гэтай страшнай адпоры арабам выдасць адзін сірыец, і тыя прыдумаюць абарону – адмыслова вымачаныя пакрывалы, што засцерагалі ад усёжэрнага агню.

Мсціслаў наслухаўся захопленых расказаў пра Візантыю-Рум як пра ўзор выявы чалавечых здольнасцей – пра розныя навукі і навучэльні, вялікія рукапісныя зборы, пра шмат пісьменнага ды рознага майстравітага люду, лекараў, знаўцаў зямельных работ, мудрацоў і умельцаў даследна, разумна пісаць і па даўніне, і па сённяшнім з глыбокімі развагамі. Не выпадкова, гаварылі, арабы не нішчылі, як раней хрысціяне, набыткі язычніцкага свету ў Александрыі, а пазней варвары ў Рыме, а дбайна збіралі ўсё, што стварылі грэчаскі розум і натхненне, многае напісанае перакладалі і перакладаюць на сваю мову, прыстасоўваюць пад сваё ўзоры грэчаскіх храмаў і іншых пабудоў ды помнікаў. Арабы здолелі выкрасці тайну шоўкапрадзільні ў грэкаў. Больш – яны перахапілі ў многім гандаль з далёкімі ўсходнімі землямі – з краямі былых імперый Магадха і Гуптаў (Індыя), з дынастыяй Тан (Кітай). Перапрадаючы шырока ўпадабаныя іхнія гваздзіку, карыцу,

перац, імбір, соладзь з трыснягу, шоўк і іншае, яны пачалі хутка і моцна абагачацца (тым больш, што арабы запазычылі з Індыі многае з ведаў па лічбах і дадалі да гэтага сваё, з Кітая – компас, паперу, порах і праз Іспанію пазнаёмілі з гэтым Заходнюю Еўропу. Як і з сакрэтамі сталі. Ці са сваім спазнаннем, апісаннем блізкіх і далёкіх зямель, многіх зорак і сузор’яў). Арабскія купцы імкнуліся не толькі ў Царград і іншыя гарады імперыі, але і ў Кіеў, волжскі Булгар, у Полацк, Смаленск і Ноўгарад, хоць грэкі, не хочучы непажаданых напарнікаў, спрабавалі ім замінаць, нават палохаючы featured рознымі жудасцямі “тамашняга варварскага люду”.

Пры ўспамінку пра “варвараў”, Мсціслаў пасміхнуўся. У вольныя часіны, каб не паддавацца ляноце ці гульбішчам, ён яшчэ таксама ў маладыя гады клікаў да сябе сваіх і заморскіх вучоных, каб паслухаць ад іх пра сівую даўніну, пра яе вялікіх палкаводцаў. Жадаў больш уведаць і пра аднакрэвічаў-славян. Хто яны? Адкуль узяліся? Чаму і шмат у чым блізкія, але і розныя? Яму расказвалі, што пісаў пра іх стагоддзе таму візантыйскі базілеўс Канстанцін, яшчэ раней – рымскія знаўцы Тацыт і Пліній Старэйшы, а задоўга да іх, больш за паўтысячы гадоў да Хрыста, грэк Герадот. Яму нямала расказвалі пра скіфаў, сарматаў, антаў, венедаў, неўраў і іншых, якія неяк заяўляліся і ці знікалі ў войнах, ці змешваліся з іншымі, сталі падмуркам для славян. А яны, усходнія славяне, прыйшлі на сённяшнія свае землі з-пад Дунаю і Віслы. Ну, а хто, дапытваўся ён, жыў каля Днястра, Буга, Прыпяці, Дняпра, Дзясны, Сожа, Дзвіны, па азёрах Ільмень і Нева (Ладажскае) да іх? І тут перадавалі яму прыдумкі-небылі. То тады воддаль ад сённяшняга Кіева не менш 8 месяцаў было паветра з пер’я (зіма, сняжынкі), то людзі пераўтвараліся ў ваўкоў (у холад насілі апратку з воўчых скур), то цягнуліся бясконцыя лясы з дзікімі звярамі і была там суцэльная ноч, то далёка на Поўначы жылі незвычайныя насельнікі-асілкі – паўночныя Атланты. Гіпербарэі. Яны карміліся толькі сокам кветак і траў, жылі некалькі стагоддзяў, а потым, стаміўшыся, самі абрывалі сабе жыццё ў марскіх хвалях...

Мсціслаў зразумеў: сваёй, славянскай, гісторыі не спазнаць, як сваё і чужое спазналі ў адукаваных Грэцыі і Егіпце (вунь калі жыў там Пталамей, а вось склаў накідак не толькі сваіх і блізкіх зямель, але і ўсяго свету!). Так што прыйдзецца яму, Мсціславу, у Царградзе не столькі расказваць, колькі слухаць. Ды яшчэ многае пабачыць сваімі вачыма. Калі апынуўся там, быў ашаломлены Царградам. Як не любіў родны Кіеў і сумаваў па ім, асабліва па маці і братах ды сёстрах, ды не мог не прызнаць: амаль спрэс драўляны Кіеў – глухмень, свая Цьмутаракань перад Царградам. Уразіла ўсё: шыкоўны імператарскі палац, велічны, прыгожа і багата аздоблены Сафійскі сабор, іншыя цэрквы з пазалочанымі медзянымі навершкамі, калонамі з мармуру, шыкоўныя дамы знатнага люду (у многіх заможнікаў была яшчэ і villa за горадам, на беразе мора ці на якім востраве) , сады, што спускаліся тэрасамі да берагоў Прапантыды, збудаванні, адкуль, з зямлі, па-рознаму ўзлятала ўверх вада, уражваючы як узлётам, так і яе пырскамі ды колерамі перад сонцам, гіпадром. Не маглі не здзівіць заведзеныя лад і зручнасці – лякарні, прытулкі для сірот, старых і бедных, мыльні (лазні), уменне не толькі трымаць ваду ў калодзежах, але і падаваць яе па трубах ці латках, суіснаванне розных плямёнаў (шмат сярод знаці было армянаў; калі іншаверцы, скажам, іўдзеі, прыймалі хрысціянства, то набывалі вялікія правы, нават мелі доступ да дзяржаўнай службы, маглі жаніцца не толькі з хрысціянкамі, а нават з грачанкамі. А

тыя з іх, хто не хацеў мяняць сваёй веры, не вельмі праследаваліся. Яны са сваім багаццем маглі ўцячы да адзінаверцаў у Хазарыю, дзе не толькі гандлявалі, але і памагалі кагану праводзіць выведку, спаганяць даніну з падуладных яму плямёнаў). Былі хітрамудрыя знатакі права і судовых цеганін, кухні, адзення, правіл прыстойнасцей, спевакі, танцоры. Здзівіла цярплівасць да звіхнутым ад народзін розумам. Іх, асабліва вар'ятаў, за несвядомыя ўчынкі і, здавалася б, за бессэнсоўныя выкрыкі і пропаведзі лічылі звышразумнымі, Божымі людзьмі, пракокамі. Да гэтага ўсяго там Мсціслаў упершыню пабачыў вялікае сусветнае пазнанне – накідак на вялікім пергаменце мораў, вялікіх астравоў, зямель чутых і зусім невядомых яму дзяржаў, народаў і плямёнаў.

Імператара (базілеўса) спачатку абсочваў толькі зводдаль. На свяце на ўзгорку на залатым ці пазалочаным троне-пасадзе. Вялікаснага ў пышным убранні, з горда паднятай галавою. Ніжэй яго стаялі ваенная знаць і высокапасадныя службоўцы, далей – знатныя госці (упобач з імі і ён, Мсціслаў), а перад імі на шырокай пляцоўцы весялілі іх спевакі, танцоўшчыцы і, на яго думку, крыўлякі (пантанімы). Пасля святкавання яго з іншымі гасцямі завялі ў імператарскі Пурпуровы пакой і паказалі новы цуд – самаробныя залатыя дрэвы і птушкі на ім. Птахі таксама не толькі варушыліся, як і лісце, але і... спявалі. Непадалёку паўсядалі два залатыя львы і... рычэлі. Мсціслаў назіраў, захапляўся ўсім гэтым, але ні цвярозы, ні на пачастунках падпіты (мог нямала спажыць моцных напояў, многіх перапіць, але тут захапляцца ўстрымліваўся) не мог не адчапіцца ад пранізлівай думкі: а чаго яго сюды запрасілі?! Для іх, грэкаў, – *князька з нейкай Цьмутаракані*?! Хоць і разумеў: Цьмутаракань – не проста валасць, а княства, падуладнае Кіеву, шырока вядомаму і грознаму яго бацьку Уладзіміру. З ім Царгораду, Базылю II прыйшлося вунь як лічыцца!

Гэты Базыль (пазней яго назавуць Балгарабойцам за перамогу над балгарамі) быў крыху маладзейшы за Уладзіміра, але раней прыйшоў да ўлады. Яго, як і іншых базілеўсаў, абрала ваенная знаць. Паколькі імперыі пастаянна хто-небудзь ды пагражаў, то ў яе фемах ( правінцыях) былі воінскія гарнізоны. Гарнізонны начальнік меў поўную ўладу ў феме. Яны маглі як вылучыць патрэбнага ім чалавека на пасаду базілеўса, так і зрынуць яго. Нават забіць. Базылю прыйшлося двойчы душыць буйныя паўстанні супраць яго (першы раз яно было на чале са Склірам – тым палкаводцам, хто ў 970-м адбіў напад на Царгорад Мсціслававага дзеда Святаслава). Другое паўстанне прыпала на той час (987 – 989), калі Мсціславаў бацька Уладзімір загарэўся парадніцца з ім, базілеўсам, і праз жаніцьбу з яго сястрой Ганнай ахрысціць Русь. Ці Базылю было не да гэтага, ці сястра вельмі супраціўлялася "ехаць у кіеўскі палон", ці яшчэ былі якія прычыны, з-за чаго Уладзіміру далікатна адмаўлялі ў пасваяцтве. Раззлаваны з-за парушэння ранейшай дамовы, ён узяў зморам візантыйскі Херсанес (Корсунь) і прыгразіў паходам на Царгорад... Тут як тут Ганна прыбыла да Уладзіміра, ён ахрысціўся, ажаніўся і не толькі адступіў, але і вярнуў захоплены буйны горад. Базыль зноў перамог, а пасля ў 995-м удалага паходу ў Сірыю амацаваўся. А яшчэ пазней удзячны Уладзімір паможа яму супрацьстаяць варагам ажно на італійскіх землях, куды і ён, Мсціслаў, па бацькавай волі паслаў дружыну ( гаварылі, тады вялікі князь Уладзімір выдзеліў Візантыі не менш 6000 баявых дружыннікаў, і яны ў далёкай Сіцыліі праявілі незвычайную воінскую доблесць).

Мсціслава не спяшаліся запрашаць у імператарскі палац, але не

пакідалі без увагі ў палацах ваеннай знаці (паілі, кармілі да знямогі, весялілі спявачкамі і танцоркамі, усаджвалі іх, голых, яму на калені, а тыя... Рэдкі мужчына ўстоіць супраць хітрыкаў, лісlівасці, прытульвання, пацалункаў прыгожых жанчын, але ён распазнаў няшчырасць). Таму ўрэшце і запытаў адкрыта, строга ў прыстаўленага да яго палкаводца Андроніка: што вы ад мяне хочаце? Не паклікалі ж вы мяне сюды, каб толькі паказаць рамейскія дзівосы! Той пасміхнуўся на “славянскую чуллівую адкрытасць”, а тады мусіў таксама адкрыцца: памажы нам у хуткай вайне з Балгарыяй. Як некалі і твой дзед Святаслаў. Дык будзь з намі і ты, унук і сын славутых князёў русаў. Мы ж столькі аддалі вам нашай ласкі. Толькі будзь без дзедавых замахаў на ўкараненне і тут, на знясільванне нас, Візантыі.

Яму, Мсціславу, не было ніякіх турбот і інтарэсу да той Балгарыі, што некалі ўпадабалася ягонаму дзеду. Ён таксама нямала чуў пра тыя варункі грэкаў і дзеда Святаслава. Тадышні базілеўс Нікіфар прыслаў (967 г.) да дзеда пасла, як казалі, са 100 пудамі золата і папрасіў сілу на балгараў. Святаслаў павёз на ладдзях туды нібыта 60 000 вояў, што было неўспадзеўкі і жахам для балгарскага цара Пятра, які, разгромлены, страціўшы ці не 80 гарадоў, памёр “от горести”. Дзеду прыйшліся да душы балгарскія цяпло, смачная садавіна і гародніна, іншае сваё і прывазное багацце, розныя навукі і мастацтвы, дык не завіхнуўся сыходзіць, застаўся ў Мізіі. Толькі вестка пра печанежскі напад на кіеўскую зямлю змусіла яго вярнуцца і адагнаць рабаўнікоў. Але засумаваў на Бацькаўшчыне, пацягнула на багаты і вясёлы заліхвацкімі песнямі поўдзень, дзе задумаў заснаваць новую сваю сталіцу. “Памру – тады кідай родную зямлю, ідзі на любую табе чужыну, – гнеўна папікнула яго ўладная маці, Вольга-хрысціянка, якая была ўдвайне незадаволеная. Што не хоча прыймаць хрысціянства і што ўздумаў асесці далёка адгэтуль. – Але ведай: у мяне ўжо няма сілы правіць вялікай дзяржавай”. Неўзабаве яна таксама “от горести” памерла; Святаслаў даў старэйшаму сыну Яраполку Кіеў, Уладзіміра паслаў у Ноўгарад, Алега – у драўлянскую зямлю, а сам непахісна “адправіўся ў Балгарыю, якую ён лічыў ужо сваёй вобласцю, але дзе народ сустрэў яго як непрыяцеля” (М. Карамзін).

Канечне, ён учыніў яшчэ новыя памылкі: абмінуў землі Малдавіі, Валахіі і Бесарабіі, чым не злучыў па сушы Кіеў з Балгарыяй і пакінуў там у моцы туземных печанегаў, а па-другое, залішне даверыўся Візантыі. На гэты раз яна ўбачыла ў ім не сябра, а суперніка-ворага і больш небяспечнага, чым балгары. Новы базілеўс Цымісхій (забойца Нікіфара) спрабаваў яго паўшчуваць за парушэнне ранейшай дамовы – Святаслаў запатрабаваў яшчэ дароў, іначай, прыстрашыў, прагоніць іх, грэкаў, з Еўропы. Той у адказ напомніў пра няшчасны лёс на драўлянскай зямлі яго ненасытнага на паборы бацькі Ігара і таксама прыгразіў: калі так, то мы прагонім вас з Балгарыі. За час, калі Святаслаў быў у Кіеве, грэкі перамовіліся з балгарамі і спакусілі іх перадачай ім царскіх знакаў; адбылося некалькі бітваў і ў іх перамаглі візантыйцы, але “міласціва” дазволілі поўнаму горычы Святаславу пакінуць палюблены ім край. Мсціславу расказвалі: грэкі добра ведалі, што Святаслаў, як і бацька Ігар, а яшчэ раней бацькаў дзядзька Алег, рана-позна вернецца і ўжо раз’юшана накінецца на Царгорад, змовіліся з печанегамі і падкупілі тых перахапіць Святаслава са жменькай вояў на дняпроўскіх парогах. Тыя падсачылі і знішчылі грознага славянскага палкаводца. А што да балгараў, то рамейцы свае мячы,

коп'і, лукі цяпер накіравалі супраць іх і адабралі тыя царскія атрыбуты, аб'явіўшы іх, балгар, сваёй воласцю. Але, як вось выходзіць, балгары не заняпалі духам, дабіваюцца свайго.

"Не! – Строга загадаў сам сабе Мсціслаў. – Не трэба мне лезці ў чужую бойку! Тым больш хто ведае, што чакае мяне наперадзе..." – "Ладна, – сказаў на гэта Андронік. – Тады памажы выбіць з Таўрыі і вашых ворагаў, хіжых і лютых хазараў. Хіба табе не трэба адагнаць іх, асабліва іўдзеяў далей ад вашага Сурожскага мора?".

Зноў на відавоку славутае візантыйскае вераломства: калі хазары-ідалапаклоннікі былі моцныя ў Таўрыі, то Царгорад, каб амацавацца там, лагоднічаў з імі, а калі тыя, ужо хрысціяне (многіх у Херсанесе-Корсуні яшчэ хрысціў прапаведнік, адзін са складальнікаў славянскай азбукі Кірыла) паслабелі, то "грэкі шукалі іх пагібелі" (М. Карамзін), не зважаючы на цяперашнюю адну веру. Сапраўды, Мсціславу калолі вочы і мулялі бакі тыя хазары, таму ён не палічыў патрэбным адмаўляцца ад паходу ў Таўрыю. " І мы заплацім добра, і ад хазараў даніну багатую возьмеш", – спакусіў знатны і ўладны суразмоўца. "На хазараў пайду", – запэўніў ён. А затым запытаў у Андроніка пра дачыненне Цымісхія да смерці дзеда. "Не! – Горача пачаў пераконваць той. – Цымісхій мог не выпусціць русаў адгэтуль. Але ён нават даў ім на зварот коней, харч. Не хацеў мець моцную Русь як толькі ворага. І да печанегаў сваіх ганцоў не падсылаў. Як ведаю, нашы і твайму бацьку гаварылі: да пагібелі Святаслава прычыніліся яго сын Яраполк і печанегі... І бацька паверыў...".

"Мо і не паверыў, – падумалася Мсціславу. – Але тады яму трэба было паверыць: дзеда не вернеш, а вось яму Візантыя патрэбная, як ніколі!.".

Пасля гэтай размовы яго прывялі да базілеўса. На сустрэчы той распытваў пра Уладзімірава здароўе, смуткаваў з-за заўчаснай смерці сястры Ганны, гаварыў яму пра шкоднасць для яго імперыі балгараў, а хазараў у Таўрыі. За тое, што Мсціслаў згадзіўся быць яго саюзнікам супраць таўрыдскіх хазараў, абмілацсівіў – падарыў белую шарсцяную сарочыцу без рукавоў (хітон) з імператарскімі залатымі нашыўкамі, белую шаўковую простакутнюю верхнюю накідку з засцежкай на правым плечуку (хламіду) з залатым імператарскім ромбам (пасярэдзіне яго базілеўсава выява), залатую, з каштоўнымі камянямі галаўную павязку (дыядэму), залатую спражку, ахарошаны жэмчугам пояс і пурпуровыя боты. "Якая ўшанота! Якая ўшанота!" – зайздросна шапталіся прыдворныя. "Гэта табе, князь, – хітра прыплюшчыў на развітанне вока базілеўс, – мая міласць за тое, каб ты не толькі памог пабіць хазараў, але і каб не замінаў споўніць бацькавую волю..." Ён зірнуў у тое вока неўдаўменна. "Бацька твой слабы, вельмі слабы, – патлумачыў гаспадар палаца і імперыі. – Майму пасланцу ён пакляўся, што на свой пасад будзе раіць першага хрысціянскага сына і майго пляменніка Барыса. Дык вось, князь, не замінай гэтаму, не памагай занядбаць бацькаву волю ні Святаполку, ні Яраславу, будзь апірышчам Барыса... Мы шчодра аддзячым табе за гэта... " – "Адмысловая міласць! – мільганула ў Мсціслававай галаве. – Подкуп! І чым! І дзеля чаго!" – "Ты зусім не рады за нашую міласць?" – "Я, твая вялікасць, хачу, каб мой бацька жыў доўга, – знайшоўся адказаць ён. – Пры ім будзе мір на Русі, ахова тваім сынаўцам. Пры ім цяпер ніхто вельмі не асмеліцца пачаць вайну з Руссю". – "Што ж, – халаднавата працадзіў базілеўс, – гэта – словa вернага сына, слова мудрага правіцеля дадзенага бацькам удзелу. Але ўсе мы, зямныя, – ва ўладзе Бога. Значыць, смяротныя. Дык, князь,

я, Другі Рым хочам і верым, што ты пасля бацькавага адыходу ў вечнасць, не заступіш дарогі найбольшаму ў вас цяпер хрысціяніну... Дай слова, што не падымеш на яго меч". – "Даю. Я – не схільнік братазабойства".

Запрасіў яго да сябе і рамейскі патрыярх (ён, як ужо тут больш спазнаў Мсціслаў, таксама тайна ад многіх супернічаў з рымскім папам. Абодва кліры прызнавалі, што Бог адзін, што ёсць Троіца і сем таінстваў. Ды ў Канстанцінопалі не згаджаліся з рымскімі вернікамі, што дух святы і ад Бога-сына, што існуе не толькі пекла, рай, але і чысцец, што папа – намеснік Хрыста на зямлі і што іхняя вера – katholikos, г. зн. усеагульная, самая дасканалая. Нават у тым, што ўсе клірыкі, каб пазбегчы грахоў, не павінны жаніцца. Адпаведна, ужо многія ведалі: паміж клірамі не толькі даўно ўжо цягнецца спрэчка, але і спее разрыў на дзьве "самыя праўдзівыя хрысціянскія веры"). Паколькі да канца 10 ст. з хрысціянствам амаль у 4 разы пабольшаў абсяг Канстанцінопальскай патрыярхіі – "хроснай маці", то патрыярх не мог не прагнуць амацаваць сваю ўладу як у Візантыі, так і там, дзе прынялі веру з яго блаславення. Над "хроснікамі". Здаецца, яшчэ з часу хрышчэння ў 955-м у Канстанцінопалі Мсціслававай прабабулі Вольгі патрыярх бачыў Русь як сваю 60-ую архіепіскапаўскую вотчыну. Ён доўга гаварыў пра перавагу хрысціянства над язычніцтвам, незадавольваўся, што " і ў вас, на Русі, як скардзяцца мне пасланыя мной да вас епіскапы, самую святую веру нават вы, князі-хрысціяне, не зусім ахвотна ўкараняеце, хітруеце з язычнікамі і даяце ім вялікую волю. Вось і ты, князь, у сваёй Цьмутаракані да гэтае пары не пабудаваў хрысціянскага храма!" – "Пабудую, святы айцец", – цярпліва выслухаўшы папрокі і здзіўляючыся, што святаслужнікі такія не толькі перакананыя, настойлівыя, але і загадлівыя, непрымірымыя, па-зямному жорстка ўладныя, даў слова ён і шчыра папрасіў прыслаць грэкаў-майстроў – каменячосаў, малявальшчыкаў і, як тады казалі, "ваятелей" – скульптараў ды разьбяроў. Каб царква не толькі ўзвысіла іхні горад, але і была не меней вялікасная, чым Дзесяцінная ў Кіеве. Але, адчуў, патрыярха хвалявала не менш і іншае на славянскіх землях: асабліва тое, што Яраслаў самадумам у Ноўгарадзе паставіў епіскапам руса Луку, а ў кіеўскім Бераставе асабліва прыблізіў да сябе не грэка, а зноў жа руса, маладога "презвитера" царквы Іларыёна і не зусім лічыцца прысланым з Канстанцінопаля мітрапалітам. "Я ж далёка, уладыка, ад Кіева, то не ведаю ўсяго, што там і як робіцца. Ды надта ў дачыненнях рэлігійных, – мог толькі сказаць Мсціслаў. – Мо Яраславу спадабаўся бацькаў абранец?" – "Бацька ваш спачатку хітраваў. Прыймаў хрысціянскую веру найперш для таго, каб раднiцца з нашымі базілеўсамі і самому стаць у вас паводле яе, веры, базілеўсам. Калі Канстанцінопаль хацеў больш праверыць яго шчырую схільнасць да хрысціянства, то ён хацеў вайной на нас пайсці. А то, каб веру не прыймаць, прыкінуўся хворым, сляпым. Калі ж не ён у Канстанцінопаль, а Ганна прыехала да яго ў Херсанес, то ён раптоўна стаў відушчы. Мы яго гэтыя хітрыкі падалі як тое, што Ганна хрысціянствам вылечыла яго... Праўда, цяпер нібы ісціны хрысціянін, – сказаў той. – Але не павінен быў даваць Яраславу такую патолю... А ты, сын мой, скажы мне як на духу: калі Бог пакліча да сябе твайго бацьку, ты не будзеш супроць, каб яго на троне замяніў першы па нараджэнні князь-хрысціянін Барыс?" – "Я, уладыка, буду спаўняць бацькаў наказ", – паўтарыў ён.

Мсціслаў, там і за кароткі час пераканаўся: Візантыя спасцігла вялікія навукі, майстэрствы розныя, багатая, але яе чакае нялёгкі лёс калі не

адразу пасля адыходу Базыля II, то пазней. Хоць часта менавіта тут жа пасля смерці магутнага самаўладцы бывае вялікі ператрус. Тым больш, што Базыль II не мае наступніка; вельмі розныя насельнікі імперыі – грэкі, сірыйцы, копты, армяне, грузіны, балгары (паўторым, Балгарыя тады была яшчэ не зусім скораная) і іншыя – успыхнуць вогнішчам сварак, а ўслед за імі сутычак, а да гэтага дададуцца звады ўладнай ваеннай знаці паміж сабой і з царквой: яна, як пераканаўся, мае шмат зямель, багацця і прагне па-свойму кіраваць імперыяй. Мсціслаў прачуваў, што бацька хворы, але не лічыў, што зусім хутка ўпадзе ў вечны сон. Ды, таксама паўторым, шчыра згадзіўся адправіцца разам з візантыйскім палкаводцам Андронікам у блізкую Таўрыю, дзе яны ўжо ў першым баі разбілі хазарскае войска і паланілі яго кагана Цулу.

Праўда, потым, перадумаўшы, пашкадаваў пра той свой паспешны ўдзел у таўрыдскай вайне: акурат у той год Яраслаў першы раз з Ноўгарада зрабіў паход на Кіеў для захопу там улады, – значыць, ён, Мсціслаў, не мог умяшацца ў звадку Яраслава і Святаполка. Ды і грэкі калі не абхітрылі яго, то лёгка адкупіліся за помач. Не варта было спакушацца на іхнія залатыя соліды, трэба было запатрабаваць адзін з партовых гарадоў на ўзбярэжжы Панційскага мора, мо і ўзяты некалі бацькам Херсанес-Корсунь ці змусіць паглыбіць у сярэдзіну паўвострава яго ўладанні за Корчавым. Золата – золатам, а зямля і ўсё, што з ёю, – зямлёю, яна – вечная. Цяпер, каб мець яе, прыйдзецца ці вярнуць тое золата, ці ісці туды вайною. Тыя скурай адчуваюць гэта, таму паводзяцца з ім асцярожна і натхняюць рушыць на Кіеў. Хоць хазараў, хціўцаў, занявольнікаў, вельмі ўжо заўзятых рабагандляроў, атлусцелых і на славянскіх крыві ды слёзах, трэба было пабіць, а рэшткі прагнаць далей ад Таўрыі і прыбярэжжа Сурожскага мора. Цяпер аббяссілены Хазарскі каганат зачапіўся толькі ў Азіі.

Дзіўныя гэтыя хазары. Казалі, нібыта ў даўніну ў іх былі два ўладары – вялікі каган (хакан) і каган. Першага (абавязкова павінен быў быць іўдзей; дружына – мусульмане) маглі абраць з самай простай галоты, ён жыў у цаглянай будыніне (астатнія мелі прытулак у мазанках; весяў не было), меў 25 жонак і 60 каханак (кожная жыла асобна, а іх ахоўвалі еўнухі). Ды наўрад ці насалоджваўся радасцямі і шчасцем вялікі каган: ён не знаўся з падуладжанымі. Паміж імі быў каган. А калі вялікі выязджаў са свайго харама, то ўсе павінны былі падаць на калені і, крый Божа, падняць на яго вочы, каб убачыць ягоны твар! Ён нікога не ведаў, і ніхто не знаў яго! І да ўсяго – няўмольны прысуд: калі ён такім чынам уладарыў 40 гадоў, яго пасля... забівалі, каб засцерагчыся ад ягонага "аслаблення розуму і душы". А хавалі так, што ніхто і ніколі не мог пабачыць і яго магілы. Не менш жудасны лёс меў і ўсемагутны пры жыцці каган: калі яго абіралі, то начэплівалі яму на шыю пятлю, заціскалі яе і пыталі: колькі хочаш уладарыць? Трэба было ўгадаць, што адказаць: калі пражывеш хоць дзень больш таго, – загібель! Жылі са страхам і іншыя: калі, скажам, і просты вой, і палкаводзец схібілівалі ў баі, то каралі не толькі іх, але і іхнюю сям'ю! Дачуўшыся, што ён, Мсціслаў, цікаўны да такіх вось гісторый і адорвае срэбрам за самыя дзіўныя з іх, да яго здалёку прыходзілі старыя баюны.

...Думы ягоныя перапынілі крокі. Кірыла, учора назначаны ім, Мсціславам, пасаднікам. Цёмнавалосы мужчына сярэдніх гадоў, са скалечанай правай рукою ў пазалеташняй бітве з ясамі. Быў з простага люду, але хутка смеласцю і разважлівасцю стаў баявым дружыннікам, а неўзабаве і

тысяцкім. Праўда, трохі крывіліся некаторыя нашчадныя знатнікі, калі ён, Мсціслаў, перавёў Кірылу ў баяры, у лік самага знатнага тут люду. Цяпер вось трэба быць таму і спраўным гаспадаром княства: каб ён, Мсціслаў, тут меў брата ці сыноў, то па даўняй завёдзёнцы самага малодшага пакінуў бы замест сябе, а астатніх павёў бы з сабою і вучыцца ваеннай справе, і здабываць перамогу. Ды ён тут быў адзін, як перст, то даручыў трымаць Цьмутаракань чужому чалавеку, але вернаму сябру і паплечніку, здольнаму як дзяржаўцу.

– Што, князь? – пажартаваў той. Прысеў побач. – Зрыцi Кіеў?

Мсціслаў не быў з усімі добранькі ці паблажлівы (салодкага праглынуць, горкага выплюнуць), але дружынам – як сваім, цьмутараканскім, так і наёмным, даваў шмат волі. Надта пасля ўдалых баёў. Сурова караў здрадлівых, на першы раз спачуваў баязлівым і няўдачнікам, шчодра адорваў цярплівых, кемных і мужных, удальцоў. Дні тры таксама піўгуляў з імі і з іхнімі маці, жонкамі, сёстрамі. Што ж, “Руси есть веселие пити!”. Таму яны, цяперашнія, гатовы з ім ісці ў агонь і ваду, а былыя ваякі – у адзін голас: “ Арол! Волат! Дзед Святаслаў!”. Але наступаў час, ён з узмахам рукі гаварыў толькі адно слова “Усё!”, ды яно было суровай забаронай далейшых гульбішчаў і лежабоцтва. Гэта азначала: “Не пии без года (не ў час), но здоволь, а не до пианства”. Ці: “Праздный да не ясть!”. І сам, і гулякі стагналі-кракталі, вымочваліся ў моры, пахмяляліся квасам ці вінаградным напіткам і браліся за “мирское дело”.

У яго тут парадкі былі як на кіеўскі, так і на свой манер. На радзе яго абапал абсядалі баяры – з даўнім гонарам, нашчадкі тых, каго ў пачаце з ім, дзіцем, прыслаў сюды Уладзімір, і новыя, каго ўжо ўзвысіў ён (сярод іх быў і жартаўнік Кірыла). Яны не заўсёды ладзілі між сабой – ён не дапускаў сумятні, суцішваў, але з разлікам: звады, спрэчкі іхнія часамі былі яму на руку: праз іх спазнаваў праўду. Крыху воддаль з яго, княскіх, людзей былі балярцы ці знатныя мужы (як дружыннікі з ваяводам і тысяцкімі, так і ўпраўнікі-гаспадары), але заўсёды навідавоку. Пры сабе пастаянна трымаў отракаў, грыдзяў (яны ва ўсім служылі яму і гасцям, былі ягонымі пасламі, аховай), то апранаў, карміў і паіў іх. Як і старцаў: часта раіўся з імі. Астатнія, хто вяртаўся з паходаў, былі воі – гарадскія і сельскія насельнікі са сваімі дзясяцкімі і соцкімі. Вось воям мусова, пад страхам вялікай кары трэба было пасля трэцяга дня ўцех брацца за работу: каму – у розных майстэрнях, каму – біць зайцоў, казуль, лісаў, ваўкоў ці качак, каму – здабываць паляўнічых птушак ці высакародную рыбу. Калі ж нехта цягнуўся да зямлі, ён даваў таму аблогі: працуй, багацей, выкупляй. А хто не слухаўся, далей жлукціў, буяніў ці агіднічаў, таго на першы раз перасцерагаў, на другі – даваў прылюдную лупцоўку; п’янюгу-нябожчыка загадваў хаваць не на ўсіхных кладах, а вывозіць і кідаць у голым стэпе на спажыву ваўкам і арлам. Апошняе было не пачалавечаму і не па-хрысціянску ды мела сваю карысць: страх-жуд такога зямнога канца амаль усіх змушаў задумацца і не сп’яніцца.

Паколькі ў Цьмутаракані люд быў зборны, рознай масці і шэрсці, то і сярод яго было нямала самых розных ліхадзеяў: непрыяцеляў да чужых звычаяў і веры, разбойнікі, таці, падпальшчыкі, даўжнікі, паклёпнікі, звяднікі, бадзялыя, гулюны-ахвотнікі да чужых жонак, спорнікі па маёмасці, спадчыне ці па апякунстве. Вось тут разбірацца Мсціслаў ухіляўся: жах браў, затлумліваўся розум ад чалавечых заган. Дык суцішвалі страсці людскія выбарныя баяры і царква. Ён толькі зрэдку ўсё ж мусіў таксама

разблытваць нейкі вузел, каб распазнаць: дзе дабро, а дзе зло і ці трэба праверка вадой альбо гарачым жалезам. І, зразумела, ён мог пацвердзіць пакаранне кагосьці смерцю ці выратаваць ад яе.

– Дык відаць Кіеў? – паўтарыў жарт пасаднік.

– Крыху: мяне зусім падлеткам вывезлі адтуль. А вось далей Кіева і малым нідзе не быў, – адказаў сумнавата. – Толькі чуў: ёсць паблізу Чарнігаў і Любеч. Далей – матчын, братаў Палацеск. Ёсць Смаленск, Плескаў. А за імі – Ноўгарад. Амаль увесь наш , усходнеславянскі, праваслаўны свет. Ды я лепш ведаю, што і як робіцца ў Царгорадзе ці ў Корсуні, на землях печанегаў, хазараў, ясаў, касогаў, чым там... Вось які я славянін...

– А я дык зусім нарадзіўся ўжо тут, славянскую мову ведаю толькі ад бацькоў і тых славян, што жывуць тут, – сказаў Кірыла, а потым прызнаўся: – Усю ноч, князь, не мог сплюшчыць вачэй...

– Перажываеш, што і мірна не дамоўлюся з Яраславам, і ў баі не адолею яго? –Пакпіў. – Ужо не раз бітага?

– Яму і сынавец твой мог бы даць бой, зусім аслабіць яго.

– Слоў няма: гэта было б мне вельмі на руку, – згадзіўся Мсціслаў. – Але Яраслаў пазбег бою. Моцна пабіты Баляслававам, канечне, бачыў: не пераможа Брачыслава з Эймундам. Бярог сілу на мяне. А малады, але ўжо, як відаць, разважлівы, смелы сынавец спраўна ўлучыў шанец і на Ноўгарад напасці, і мірам вярнуць, узяць ад Яраслава тое, што Палацеску трэба. Я яму да яго на ўсякі выпадак праз гасцей перадаў пасланне з просьбай, каб не ўмешваўся ў спрэчку родных дзядзькоў. І слова даў: што і як не будзе ў нас з Яраславам, я мудра адноўленую бацькам палацескую вольнасць пацвярджаю. Па духу я яшчэ больш за Яраслава далёкі ад Палацеска, але ён мне не зусім чужы...

– А не спаў я з-за іншага, князь, – патлумачыў яго пасаднік. – Са жменькай славян-дружыннікаў ідзеш. Касожскія, яскія і нашы неславянскія цьмутараканцы, канечне, лічаць цябе за баявога князя, рады служыць табе, але... Калі яшчэ папоўніш рацьпечанегамі, то безабаронны будзеш сярод чужынцаў...

– А хіба я цяпер тут вялікую сілу маю?

– Яе мае тваё пераможнае імя. Ужо ад яго грэкі ўтульваюць галовы ў плечы, а многія князькі-суседзі нямеюць... А калі паб'еш Яраслава...

Мсціслаў пачакаў: што і як дагаворыць Кірыла. Бачыў: той-сёй з Рады сумняваецца ў яго новай удачы. Нават з-за далёкасці дарог-шляхоў праз чужыя землі да бітвы і, як кажа Кірыла, яшчэ з-за таго, што ў яго раці амаль усе іншапляменцы. Ды вось і ў тым удача таксама, каб у самы што ні ёсць зручны час чужымі рукамі загрэбсці жар!!! Кірыла недагаварыў.

– Дарэмна замоўчаў. Ведаю, што хочаш дадаць... Каб, дружа, баяўся Яраслава, то ціхенька сядзеў бы тут, – зноў, як учора і іншых, супакоіў ён. – А ўдача не сама прыходзіць, яе трэба шукаць. І ў спрыяльны час. А ён цяпер для мяне якраз такі. Ці не так?

– Ты чуйны на ўдачу, князь. Ведаеш, дзе дзічына... Як выжл, бярэш яе след, даганяеш і здабываеш...

– Толькі трэба, каб след быў свежы, – усміхнуўся Мсціслаў. А потым сур'ёзна і пераканана: – Славянскія дружыны павінны застацца тут. Калі я звяду іх адгэтуль і пакладу там, то нашай Цьмутаракані будзе тут жа канец. Я – вой, мо, як кажуць, і палкаводзец. Але я разумею: не ўсё рашаецца бітвамі. Замысламі, разлічанымі наперад хадамі. Дык вось Цьмутаракані аніяк не трэба страціць. Калі не цяпер, то некалі яна трэба

будзе Кіеву. Дзяржаве з сэрцам у ім... Але Яраслаў, бачу, мне ні ў чым не будзе замінаць, але хоча пахаваць мяне якраз тут... А што да печанегаў, то я ім не верыў і не веру. Ды цяпер яны будуць памагаць мне. Каб са мной паквітацца з Яраславам. З наўгародцамі і варагамі два разы ён моцна іх пабіў. Яшчэ адна-другая такая перамога над імі, і стэпы яны не ўтрымаюць... – А потым, падумаўшы: – Маўчы, не кажы нікому... Але іх так ці гэтак там не будзе... Такія саюзнікі – сябры толькі да ўварванай здабычы... Таму іх належыць па адзін, другі берагі Дняпра і Дона не проста сагнаць, а... знішчыць! Моцныя, яны ні Кіеву, ні Цьмутаракані ніколі не дадуць спакою. Вось я іх, "сяброў" нашых, найбольш і вяду з сабою, і першымі ў бой пашлю...

– Бязлітасна, але правільна, – адобрыў кіўкамі галавы Кірыла.

– А калі правільна, то я і правільны князь, – весела, узбуджаючыся ад прадчування на гэты раз далёкага паходу ў родныя мясціны, абняў за плечы аднадумца і дружбака Мсціслаў. – Але хадзем. Трэба ў дарогу збірацца, з красуняй развітвацца.

Падняўся. Амаль аднаго, крыху вышэй сярэдняга, росту з крыху старэйшым з чарнявым Кірылам, толькі ён, Мсціслаў ( ягоны твар вызначаўся чырваннёю і, як усе гавораць, вялікімі вачыма), больш плячысты, моцны нагамі і па пагалосцы, з "жалезнымі" рукамі – калі ўхопіць, то ўжо не выпусціць з іх. І Кірыла не раз зведваў яго яшчэ юны, але ўжо "мёртвы" захоп. У горадзе Мсціслаў павярнуў галаву на тую мясціну, дзе чуўся іншы, дарослы, шум і гоман: там па яго волі нанятыя ў Візантыі майстры заканчвалі будаваць з белага каменю, мармуру царкву-крэпасць. Перажагнаўся: няхай удала ідзе будоўля.

## 2.

Жонка і княгіня цьмутараканская сустрэла яго адна ў каменнай, аздобленай прывезенымі з каўказскага перадгор'я дубам і букам, з візантыйска-персідскімі дыванамі ды пасудай святліцы і дапытліва азірнула: якi ў яго настрой, што на душы? Сярэдняга росту, пяшчотна смуглявая, са смольна чорнымі валасамі, вачыма і асабліва броўкамі; хоць была ўжо ажаночаная, маці, але жыватворнымі сіламі маладосці (малодшая за яго на гадоў дзесяць) і спакойнага жыцця выглядала свежа, са своеасаблівай грацыёзнай красою і непаўторнай рухавасцю малодак касожскага племені. Каля года ўжо яму за жонку, перастала дзічыцца, быць, як ён жартаваў, сарнаю (асцярожны і шпаркі каўказскі горны звер вышынёй 16 вяршкоў (крыху больш за 71 см) і вагой да трох пудоў), прывыкла нават да таго, што ён, аварожаны жаночай красою і пад'юшчаны мужчынскім жаданнем, можа і ўдзень яе, нядаўнюю магаметамку, прывучаную змалку да строгіх правілаў, не толькі прытуліць, але лёгка, як пушынку, схапіць і панесці да ложа... Ён і цяпер прыгарнуў – яна аддана прыпала да ягонай грудзіны, зажалілася:

– Мсціслявь...

Прыклаў далоні да яе скроняў, адхіліў круглаваты, з прадаўгаватым носам твар і таксама пільна зірнуў ёй у глыбокія, поўныя адданасці яму вочы:

– Боязна праводзіць мужа ў далёкі паход?

Не адказала. Утуліла твар у яго раней цёмную, а цяпер пасрэбраную бараду каля шыі. Арасіла яе слязьмі. Мо кахала і шкадавала, а мо больш

за ўсё хвалявалася за сваіх дзяцей. Што будзе з ёй і імі, калі ён загіне? Тут, у такой неспакойнай, толькі, можа, часова ўціхаміранай, моцна зацуглянай ім Цьмутаракані?

– Усё будзе добра, джаначка (па-касожску, душа, душачка), – пагладзіў яе па хораша пакатай спіне, хоць наўрад ці мог гэтым яе супакоіць. Напраўду, у бедалазі апынецца, калі ён падзе на полі бою. – Як толькі ўсё абладзіцца, адразу ж пашлю па цябе. Прыедзеш у тыя краі, дзе няма вялікіх гор, а дзе рэкі, азёры, лясы. Але дзе ёсць і стэпы. Праўда, іншыя, чым гэтыя туземныя і вашы прыгорнія. Адным словам, пабачыш новы свет.

Зноў падняў яе галаву і прыпаў да маладых, слодычных вуснаў. Яна адказала яму доўгім пацалункам – толькі цяпер не захопленым і па меры хмельным, а падзячлівым. І паслухмяна, не саромеючыся, слухала, як ён далоньмі лашчыць яе папаўнелы жывот:

– Беражы, джаначка. Як і дамовіліся, сына.

Яна згодна захітала галавою: і я хачу, каб у нас з табой быў сын. Ён кахаў яе, дазваляў ёй больш чым каму. Нават, здавалася, яе беспрычынны гнеў. Ужо не сарны, а драпежнай рысіцы. А калі яна магла плакаць, то гэта раздзірала яму сэрца. Часамі нават ужо асцерагаўся, каб не падпасці пад яе настрой і ўладу: жаночыя ласкі, нараканні са слязьмі – не меншая сіла, чым меч мужчыны-непрыяцеля. Сам бачыў: бывае, нават герой з герояў ніякавее перад гордай прыгажуняй.

Яна яшчэ не ўмела добра гаварыць па-славянску, мова яе была мешанінай, але ён ужо навучыўся яе разумець. Як і яна яго.

– Мсціслаў, – не папрасіла, а больш за ўсё параіла. – Мо я з дзецьмі на гэты час вярнуся да бацькоў? Там, у нашым тайным ауле, у саклі пачакаю цябе?

– Ёк (не)! – Не строга, а цвёрда сказаў ён. – Ты – княгіня цьмутараканская і павінна быць тут. Можа, і да цябе прыйдуць Кірыла ці радаўцы параіцца. Дык ты скажаш сваё слова ад майго імені. Мо не ва ўсім з табой згодзяцца, але будуць ведаць, што і як ты мысліш. Толькі ты ўмей усіх паслухаць, лішнянага не гавары і не загадвай. Адным словам, будзь мудрая княгіня. Такая, якой была мая прабабуля Вольга. Пра яе здалёку ўведалі і запаўважалі. Чуеш?

– Чую, любы мой.

– І табе, і сынам тут будзе спакайней, – дадаў тое, пра што ёй не трэба было шмат гаварыць. – Асабліва сынам... Іх тут Кірыла будзе аберагаць больш, чым сваіх дзяцей... Джаначка мілая, больш – калі нават цябе будуць прасіць-маліць, каб ты прыехала нібыта толькі пагасціць, – без мяне Цьмутаракань не пакідай! Сама загубіш сваіх сыноў як касожскіх князёў! Там іх могуць чакаць неміласэрныя калы (забойцы)! Чуеш?

– Чую-чую, любы, – горача зашаптала. – Я – не Сатана, але ўсё зраблю так, як ты скажаш. Цяпер ты – мой Урузмаг! (у эпасе многіх пры і каўказскіх народаў Сатана – мудрая маці прыроды, а Урузмаг, Сослан, Батрыз – мужныя воіны, надзеленыя незвычайнай сілай і дабрынёю. – *ГД.*).

... У Яраслава і ў яго – амаль адна сямейная доля. Калі той быў у Растове і ажаніўся, то пры родах памерла ягоная жонка. Такая ж наканаванасць чакала і першую Мсціслававу маладзіцу. Толькі Яраслаў усё ж шчаслівейшы: ацалеў ягоны сын і цяпер, каб так рана не пакінуў гэты свет, мог бы ўжо быць ладным княжычам-падсобнікам. Вунь яго равеснік, Ізяславаў Брачыслаў ужо колькі гаспадарue ў Полацкай зямлі, нават учыніў выклік

дзядзьку, выйграў без вайны! Ужо асоба! З ім не могуць не лічыцца суседзі! Больш – дацкі кароль зажадаў парадніцца з ім, калі ён быў у Кіеве. Таму невыпадкова Яраслаў пазбавіўся ад яго, змусіў вярнуцца ў Полацк!

Яму, Мсціславу, гэтая жонка дасталася па... выпадку. З дваімі дзецьмі...

(Рускі даследчык Л. Гумілёў пісаў, што Мсціслаў у гэты час меў дачку ад першага шлюбу і аддаў яе замуж за касожскага княжыча. Нават ці не за старэйшага сына названай тут Марыі. На жаль, я не знайшоў іншых, больш поўных звестак пра тое, дык ухіліўся "папаўняць" Мсціслававу сям'ю. – *ГД*.).

Летась, увесну, калі маладой травой адкарміліся коні, ён паслаў цьмутараканскага касожца, які ведаў мову славянскую і сваіх продкаў, сказаць касожскаму вадару: ты парушаеш замоўлены клятваю мір, крадзеш нашы табуны і статкі, зводзіш у палон маладых жанчын і дзяцей – іду на цябе вайною. Чакай мяне непадалёку тых мясцін, дзе рака Уруп упадае ў Кубань. Неўзабаве і падаўся туды, абыходзячы каменныя глыбы і выбіраючы раўніны ды лагчыны. З-за рэчак. Спадаючы з высокіх гор, яны імкліва нясуцца ўніз сярод каменных глыбаў, лясных гаёў, але іх раннімі вясной і летам можна лёгка пераадолець, а вось пазней, у ліпень, пераадольваць іх цяжэй: вады там большае, яны глыбеюць, разліваюцца, затопліваюць вялікія роўнядзі і многія з іх паўнаводнымі ўжо дасягаюць Кубані. А яна, кажуць, пачынае цячы з самай высокай гары, Эльбруса, і імкнецца да Сурожскага мора без сотні тысячу вёрст. Па ёй сплаўлялі, вазілі адгэтуль і яшчэ зводдаль лес, сена і жывёлу ў Цьмутаракань.

Добра люд кажа: няма гораў без далінаў. Чым далей паглыбляліся ў касожскія землі, тым болей справа ўзвышаліся горы, пад яркім сонцам пачалі зіхацець на іх беласнежныя шапкі. Прыцемніваліся на схіле хваёвыя гушчары, сярод якіх, кажуць, сакаўныя лугі; бліжэй да перадгор'яў больш выразна зелянеліся дубовыя і букавыя лясы; чарнеліся выветраныя і вымытыя дажджамі скалы, дзе ў вымоінах і чалавечымі рукамі зробленых выбоінах ляпіліся саклі – паасобку ці густа, як гнёзды ластавак і стрыжоў у высокім пясчаным беразе; дахі сакляў абкладзеныя дзірваном, дык з іх звісаюць трава і дзікі вінаград; ёсць прыдалінныя аўлы з драўлянымі і каменнымі будынінамі, абгароджаныя завостранымі каламі ці кізілавымі дрэвамі і кустоўем. Амаль усюды паблізу ляжалі парослыя паўстэпавымі травамі і старым мохам з паўночнага боку веліканы-валуны, былі вялікія, глыбокія і малыя яры, а злева распасціраліся ўпадзіны-катлавіны, доўгія, багатыя на траву раўніны-нізіны. Цяпер тут не было ні звыклых шатроў, ні конскіх табуноў ды статкаў кароў і авечак – канечне ж, касожскі князь, Радзедзя, звёў усё гэта адсюль. Балазе ёсць дзе схавацца людзям і быдлу, і нялёгка ўсё гэта адшукаць. Тым больш – авалодаць аўламі горцаў і іх скарбам: туды і дарогу можна лёгка запрудзіць, там з-за незнішчальнага ўкрыцця і дзіця пакладзе стрэламі не аднаго нападніка. Ды і дзічына пахавалася. Вось з-пад аднаго абсыпанага кветкамі куста выскачыла чырванаватая ліса і тут жа шуснула за іншы куст; з воддальнага дуба ўзляцеў воран і кінуўся ўбок: над ім кружыў арол. Пасля пабачылі аленя – той пабег у закустоўленае перадгор'е па звярынай сцяжыне, потым запыніўся, задраў галаву і агледжваў іх. А купка сайгакаў толькі мільганула сярод глыб і схавалася ў зарасніках. Летась, калі хадзілі на ясаў, у іншых перадгор'ях патрапілі і ў іншае надвор'е: тады горы ўкрылі цёмныя хмары, ліў дождж, вуркатаў і ляскаў гром, ад чаго шум лесу і кустоўя перабівала водгулле з

пячэраў і цяснін, а пасля, пад сонцам, клубіўся сіза-сіні туман, а вячэрніца ахутвала блеклай пунсовасцю далёкія вяршыні гор. Незвычайнае відовішча асяніў уночы белаваты месяц, скупавата, але незвычайна высвечваючы нібыта казачныя краявіды – знізу горы і лес, ад іх і нізіны былі як цёмны дыван, а над імі струменілася паўблакітнае святло. А калі яно знікла, наваколле ахуталася суцэльнай цемнатою. .

Як і хацеў Мсціслаў, Радзедзя чакаў яго каля Урупа, мінуўшы трыснёгавы гушчарнік. І, здаецца, з невялікай сілай. Хоць мо часціна яе хавалася ў высокіх зарасніках. Калі Мсціслаў запыніў дружыну, некалькі хвілін стаялі на прырэчным мляўным ад парнасці лузе, пад ужо агарачэлым сонцам моўчкі і азіралі адных адных. Касожцы сядзелі конна. Канечне, у кальчугах. Кожны род – паасобку, дык у іх і коні былі рознай масці. Як і рознакаляровіліся іхнія махнатыя папахі, бешметы – расхінная накідка, у таліі са зборкай у складкі і падпаясаная, чэкмені – суконны паўкаптан, са зборкамі за спіной (найбольш былі чорныя і белыя, былі і шэрыя ды чырвоныя, цёмна-бурыя). У Цьмутаракані даўно ўпадабалі ўжо такую касожска-яскую верхнюю апратку, годную як для холаду, дажджу, так і гарачыні, толькі падправілі яе. З бешмета і чэкменя зладзілі таксама расхіннае, аднабортнае, без каўняра, у талію са зборкамі верхняе адзенне (нашмат пазней, калі дададуцца на грудзіне газыры для патронаў, яно будзе называцца чэркескай), а таксама прыдумалі бурку – плашч-накідку з тонкага лямцу. Паверсе круглых папах пачалі нашываць кружкі з чырвонага шоўку (гэтыя папахі потым назавуць кубанкамі). Ясы і касогі вызначаліся яшчэ і тым, што мелі грозную ў руцэ кожнага юркага конніка, спрытнага набежніка і секача шашку – лёгкі стальны выгнуты клінок з лязом і рукаяткай. Дужы яс, касожац, як на свае вочы пабачыў Мсціслаў, блізка не падпускаў да сябе праціўніка з мячом, а сам мог улучыць момант і гэтай шашкай не толькі адсекчы галаву, але і паўтулава яго, неахаванага даспехамі. Не менш грозныя былі і іхнія арканы, лукі. Вось ад Радзедзевага стану выімкнуўся на кані пасланы ім, Мсціславам, касожац, спакойна праехаў палову прамежку, уткнуў у дол кап'ё і далей падаваўся сюды. Быў без даспехаў – значыць, не перабежчык-здраднік.

– Здароў быў, князь, – павітаўся, а пасля яго адказу дадаў: – Мне даручыў перадаць табе свае слова князь Радзедзя.

– Гавары, калі ты, падуладны, ужо спаўняеш і волю ворага майго, – хмурна прамовіў Мсціслаў.

– Я – твой пасол, – апраўдаўся цьмутараканец. – І тлумач. – І, угледзеўшы, што яго будуць слухаць, павёў казань далей: – Князь Радзедзя не пачувае сябе вінаватым. Кажа, ён не крадзе тваё, а бярэ сваё з той зямлі, што захапіў у касогаў твой дзед. Ты – таксама захопнік. Новых касожскіх і яскіх зямель. Дык ён хоча цябе пакараць. Асабіста цябе.

– Што тут гаварыць шмат! – адмахнуўся ён. – Спрэчку нашую рошаць меч, кап'ё, лук і шашка! Я дзеля гэтага і прыйшоў сюды. Так і скажы яму.

– У яго, князь, ёсць да цябе асабісты зварот, – той памаўчаў, бачачы, што да яго слоў ёсць цікавасць. А тады: – Не браціся (біцца) дружынамі, паберагчы людзей...

– А як?

– Усё рашыць адзінаборствам. Яму і табе. Без кальчугі і мяча. Толькі можна мець кінжал. Хто адужае, той і будзе мець права на зямлю, скарб пераможанага. Калі ты адмовішся, то ён будзе лічыць цябе маладушным

і хілым. Даруй, князь, але ён кажа: такім быў твой бацька. Калі збаяўся выйсці сам-насам супраць печанежскага хана...

Двубоі тады, як і раней, былі любімай забавай многіх надзеленых звышчалавечай моцаю ўладароў ці простых вояў(і яшчэ пазней будуць). Гаварылі: некалі (993 г.) Уладзімір толькі скончыў вайну з белымі харватамі (з тымі, што паблізу Галіцыі), як яго ўжо чакала вайна з печанегамі. Дык вось печанежскі князь на беразе Трубежа задзірыста паклікаў: давай найперш пакажам свой спрыт мы, князі! Асіліш – на тры гады пакіну цябе ў спакоі, адужаю я – тры гады буду рабаваць твае землі! Дык, ходзіць пагалоска, слабы здароўем бацька ўхіліўся счапіцца з задзіракам, параіў яго асілку сутыкнуцца з ягоным. Доўга шукалі такога і нарэшце знайшлі. Малодшага сына вырабца скур; напусцілі на яго разлютаванага гарачым жалезам быка – малойца адскочыўся, але так ухапіў жывёліну за сцягно, што вырваў з яго кавал мяса са скурай. Не пабачыўшы такое, печанежац-велікан на полі перад сваімі і чужымі ганарыста пасмяяўся з маларослага суперніка, але гэты пасля зацяглай сутычкі ўлучыў момант, ухапіў, прыпадняў і так гвазднуў таго аб зямлю, што з яго выскачыў дух. Печанегі ў жаху пабеглі... Так яно было ці не – хто цяпер ведае, але вось такая легенда пра мацака-скурароба жыве... І показка пра кволага целам Уладзіміра, бач, перадаецца сярод непрыяцеляў.

– Дык што сказаць князю Радзедзю? – парушыў яго ўспаміны ягоны і заадно касожскі пасланец.

– Я мушу параіцца з дружынай. Пасля сам дам знак Радзедзю.

Калі перамоўшчык ад'ехаўся, да яго наблізіліся Кірыла, баяры і знатныя дружыннікі.

– Чулі? – запытаў у іх ён. – І што вы на ўсё гэта мне скажаце?

– Ты вялікую сілу маеш, князь, – сказаў стары баярын. – Але не гарачыся. Не ідзі на двубой. Давай схопімся дружынамі. Білі храбрых ясаў, іх, касогаў з бацькам гэтага Радзедзі, – паб'ём і цяпер.

– Вось гэтага Радзедзя і асцерагаецца, – патлумачыў ён. – Хоча захаваць сваю дружыну. І пры гэтым самому вызначыцца героем. Цяперашнім Урузмагам ці Батрызам. Значыць, самалюбец. Але фанабэрыя, пыха – кепскія памочнікі.

– Ты – не такі. І ўсё ж... Мо праяві спасцярожлівасць. Гэты Радзедзя – здаравіла-буйвал. Табе з такім яшчэ не прыходзілася дужацца. А тут трэба не толькі мерацца сілай, але і рызыкаваць, гуляць са смерцю: хто каго задушыць. Мо пашукай новай сваёй удаласці на Русі? Чым гінуць ад рук дзікуна, лепш адстоім тваё права ў бітве з Яраславам. Можаш стаць не толькі ўдзельным, але і вялікім князем кіеўскім, уладаром вялікай дзяржавы!..

– Трэба ісці. На яго выклік – сваім выклікам. А там Бог – бацька...

Ад гэтых яго слоў самыя блізкія сябры і дарадцы сталі калі не прыгнечаныя, то заклапочана занепакоеныя. Не хацелі, больш – нават баяліся яго страціць.

– Зразумейце: цяпер не магу не ўспомніць і бацьку, і дзеда, – падаў голас. – Святаслаў сказаў каля дняпроўскіх парогаў, перад бітвай з печанегамі: лепш быць смелым і забітым дужэйшым ворагам, чым жыць баязліваму і зганьбаванаму. Калі я адмоўлюся ад двубою, вы мяне зразумееце, але некалі новыя людзі скажуць: быў нерашучы, засцярожлівы, а то і тросся ад страху. Не пастаяў сам сабою за Русь!.. Хто ведае, магу і загінуць. Але вунь колькі з нас застанецца жыць, будзе мець дзяцей і ўнукаў. Не вы,

гэтыя, дык вашы нашчадкі адваюють страчанае... А што да князя... Прышле Яраслаў пасадніка. Але вы не дасцё яму самавольнасці... – Азірнуўся, махнуў рукой грыдзям, каб падышлі да яго. А калі яны апынуліся побач, загадаў: – Здымайце з мяне даспехі. Дайце беласнежную сарочыцу, новае карзно. Падшукайце невялікі ханджар (па-арабску, кінжал; ён нямала іх прывёз з Візантыі і параздаваў выбітным дружыннікам).

– Князь! – усклікнуў у адчаі Кірыла. – “Не всякому словеси веру емли!”. Ты верыш слову нашаму лютаму ворагу? Думаеш, калі ты выйграеш, яго джыгіты пакорліва схіляць галаву? Не накінуцца на нас? Смірна пакладуць да тваіх ног шашкі і лукі? Не нападуць, калі, не дай Бог, прайграеш? Яны – вядомыя ашуканцы! Грабежнікі!

– І мы не ў госці сюды прыйшлі, – адказаў. – Нічога не скажаш, да гасцей яны прыязныя. Умеюць мо і больш за нас быць людзьмі гонару. Ацалею – сам рашу, што і як з імі рабіць. Паду – будзеце вы рашаць... – А калі яму паднеслі некалькі кінжалаў у скураных, металічных ахарошаных срэбрам ножнах, выбраў самы невялікі, дастаў яго, востры з абодвух бакоў клінок, і схаваў за халяву бота. – Каб там не траціць на гэта ні хвілінкі... – Усміхнуўся. – Хоць “смерць на міру красна есі...”

Усе ўразіліся ад яго гэтай усмешкі. *Яна – у такія хвіліны*!!! А ён, не сказаць, каб не меў ніякай боязі. Адчуваў. Але перамагаў яе тым, што верыў у свае сілы: змалку дужаўся не толькі з равеснікамі. Пазней, калі як след акнязіўся, некаторыя старэйшыя ды дужэйшыя пачалі яму наўмысна паддавацца. Спачатку яму гэта лесціла, а потым такое гнеўна неўзлюбіў і нават загадваў лісліўцаў караць. Па яго загадзе ва ўсіх краях вышуквалі дужцоў і прывозілі іх у Цьмутаракань. Калі хто скульваў яго на спіну, лапаткамі да долу, то такога адорваў. Дык і ведаў многія хітрыкі дужання. Спазнаў: адно з галоўных – не даць суперніку моцна ашчаперыць, перагнуць ці адарваць ногі ад зямлі: у паветры будзеш толькі брыкацца, страціш апірышча. Трэба цяжкога стаміць тым, каб ён шмат мітусіўся-пакручваўся, кідаўся ды траціў моц дарма. І ўлучыць, спажыць той момант, калі праціўнік страціць раўнавагу. Урэшце, трэба не толькі выслізнуць з моцных “абдымкаў”, але яшчэ злаўчыцца так, каб самому аперазаць рукамі суперніка ды кінуць яго вобзем цераз свой клуб. Канечне, і сярод джыгітаў нямала любіцеляў, умельцаў па дужанні: у іх гэта, як і пераганкі на конях, штосьці невялічкае падняць з зямлі, адолець бізуном дзікага звярка на скаку, – любімая ўцеха. Па правілах. А тут будзе не вясёлыя гульня ды забава, калі мо прыйдзецца і пускаць у ход кінжал...

Даўлосы, але ў пурпуровым, ярка-чырвоным, з фіялетавым адлівам карзне, накінутым на левае плячо паверсе кашулі, у паходных, бурачковага колеру нагавіцах і моцных простых, з валовай скуры, пафарбаваных пад адценне адзенння ботах, Мсціслаў падаўся па лузе да кап’я. Яму насустрач у шыкоўнай каракулевай апратцы, абхарошанай срэбрам, на неспакойным вараным, моцным жарабцы выехаў Радзедзя. Маладзейшы за яго, але, праўда, велікан. Не проста дзябёлы (і яго, Мсціслава, каторыя, меншыя ростам, лічаць такім), – адарваная ад гары глыба чалавечага цела. Масіўная галава пад папахай, чорныя, як смоль, нерухомыя, але агністыя вочы, гарбаваты, нават па-арлінаму загнуты нос, тоўсты, амаль пры плячах, карак, выпуклая грудзіна і шырозныя плечы, мускулістыя рукі і ногі. Густа і цёмна аброслы, з вусамі, але без барады. За ім плёўся напалоханы перамоўшчык. Пасталі па адзін і другі бок кап’я. Абменьваліся

цікаўнымі позіркамі – у Радзедзевым заіскрылася насмешка: ты, мне па плячо, асмелішся задужацца?! Ды я табе з аднаго нахопку сручу шыю!

– Скажы яму, – Мсціслаў перавёў вочы на перакладчыка, – каб пры мне паўтарыў свае ўмовы.

– Умова адна, – пачуў Радзедзева гарланнае гудзенне. – Пасля маёй перамогі выплачваеш мне даніну і пакідаеш Цьмутаракань. Мы зноў будзем сачыць за шляхам з Панційскага мора ў Сурожскае, браць пошліну, лавіць марскую рыбу.

– Кінь марныя надзеі, – ухмыльнуўся Мсціслаў, наўмысна пасуровеў не басавіты, але і не тонкі голас. – І без мяне дружына, Русь Цьмутаракані ўжо нікому не аддасць! А вось калі здолееш спраўдзіць сваю рызыку – тры гады будзеш мець нашу даніну.

– Якая рызыка?! – па-маладому захрабрыўся Радзедзя, хоць такія, як ён, веліканы, звычайна людзі спакойныя, нават унурыстыя ад сваёй вялікай сілы. – У мядзведзя з казлом?!

– Хай сабе я – ваш горны казёл. Але ён лёгка скача каля самага абрыву са стромы на строму, а вось няўклюдны мядзведзь можа і сарвацца! – знайшоўся адказаць ён. – А калі казёл забадае мядзведзя, то будзе браць з яго ўладання сабе харч. Які – сам вызначыць. Коньмі, валамі, авечкамі. А мо – глінай, каменнем, гранітам, мармурам і вадой з вашых лячэбных крыніц. А сям'ю яго, як і належыць пераможцу, возьме да сябе на абарону і пракормак. І яшчэ. Ты, малады і гарачы, падумаў пра павагу?

– Якую-такую? – не зразумеў той.

– І ў нас, і ў вас павага проста так не прыходзіць, – ужо цішэй прамовіў Мсціслаў. – Яе трэба годна заслужыць. Мяне зразумеюць, калі лягу тут: я не збаяўся, прыймаў выклік таго, хто палічыў сябе волатам. А вось цябе, калі ты свайго не даб'ешся, будуць лічыць пустасловам, хвальком!

– Хм! – той стаяў на сваім. – Не даб'юся! Яшчэ як даб'юся! Пераламлю табе ўсе косці! – Падняў магутныя рукі, затрос імі. – Не раўня табе не выскоквалі з іх!

– Ну, што ж! – выдыхнуў з сябе асцярогу Мсціслаў. – Усё! Хочаш бою смяротнага – будзеш мець яго!

Спешыліся. Мсціслаў зняў з сябе карзно, а потым і кашулю, паклаў іх на сядло на кані. Яго гняды жарабец-любімец нібы ўсё зразумеў, затрывожана зафыркаў. Пагладзіў яго па шыі: спакойна-спакойна, верны дружа! І пажадай удачы гаспадару! Радзедзя, таксама скідаючы верхняе адзенне і падаючы яго свайму чалавеку, пазіраў на яго са здзіўленнем. А Мсціслававага аніякага дзівацтва не было. Паколькі часта дужаўся, дык добра ведаў: суперніку лягчэй хапаць і ўтрымаць, калі на табе ёсць вышэйпоясная апратка. Аголенае ж ды яшчэ прыпацелае цела цяжэй залучыць. Выставіў вялікі прыгнуты палец правай рукі:

– Ну, пакажы сваю сілу.

Той, не агаліўшыся да пояса, падаў. Счапіліся – хто расслабіць, разагне чужы палец. Тузаліся даволі доўга. Урэшце Радзедзя здаўся, выпусціў свой палец.

– Не вельмі ты моцны ў руках, – ухмыльнуўся Мсціслаў, адчуўшы, што Радзедзя, сапраўды, самалюбны, узрываецца ад раздражнення. Мо і ад таго, што ў ім пульсуе кроў не раўніннага, а горнага чалавека. Значыць, варта і падражніць яго.

Той гнеўна бліснуў злым позіркам і, прыгнуўшыся, рэзка кінуўся, каб схапіць, злучыць рукі на яго паясніцы. Мсціслаў не адскочыўся, але з усяе

сілы абедзьвюма рукамі ляснуў па руках нападніка. Не проста так, каб не дапусціць захопу, а якраз у тым іх стане, калі яны былі ўказальным пальцам уверх. Калі, як яго вучылі, можна балюча ўдарыць па кожнай жыле, што цягнецца паверсе косткі рукі да костачак пальцаў. Дык вось ад моцнага ўдару на нейкі міг кроў запыняе свой рух, і рука дранцвее. Радзедзя спазнаў гэта, запыніў свой імпэт і затрос рукамі. А калі зноў рынуўся, то Мсціслаў перахапіў яго рукі, пацягнуў на сябе, упаў на спіну і нагамі шпурнуў яго паўз сваю галаву. Той прызямліўся тварам у дол, але без вялікай шкоды, ускочыў на ногі амаль у адзін час з ім. Ды ўсе ж убачылі: ён пабыў на зямлі!

Пот на аголеным Мсціслававым целе спрыяў яму вылузвацца з рук раз'ятранага барацьбой Радзедзі; раз-другі ён таксама перахопліваў у абоймы таго, але не змог абваліць грузную тушу. Пачаў з трывогай адчуваць: той прытаміўся і ўжо, здаецца, не меў самаўпэўненасці, але і ў яго пачалі слабець, нават нямець рукі і ногі. Праз мо і гадзіну яны абодва ўжо зазняможалі, падоўгу без высілкаў абшчапервалі адзін аднаго, гнулі шыю, намагаліся падбіць падножкамі, суцішалі перарывістае дыханне, адпачывалі, і Мсціслаў быў не супраць, каб Радзедзя паклікаў да міру. Але хіба таму гэта быў гонар?

Вось зноў, тыльным бокам рук выціраючы пот, што засцілаў вочы, адштурхнуліся, разышліся – Радзедзя кінуўся ды няўдала: абступіўся. Скокнуў і Мсціслаў. Амаль у адзін час абхапіў таго за потную шыю, падставіў бок і кульнуў – Радзедзя каменем рухнуў долу на спіну; не мог адразу ж скінуць яго, лягчэйшага, толькі сціснуў так, што, здаецца, можа выскачыць з цела дух. Трэба было аніяк не ўпусціць гэтых спрыяльных хвілін; Мсціслаў сабраў апошнюю моц, пасунуў руку за халяву правага бота і з радасцю абмацаў там кінжал. Дастаў яго. І без шкадобы, найперш са сваім паратункам уваткнуў вастрыё ў супернікаву шыю. Той моцна ўздрыгнуў, скалануўся ўсім целам, сціснуў ужо так, што зусім сцяло дыханне. Гэта была перадсмяротная агонія. Ды – усё! Ён пачаў дрыгаць усё цішэй, менш. Толькі нагамі. І вось застыў. Але страшнага пціску не расслабіў, дык Мсціславу трэба было ўжо з вялікай цяжкасцю разлучыць яго нібы аканемелыя рукі ды падняцца, стаць на хісткія ногі.

У Радзедзевым стане глуха застагналі, нават завылі, у яго – шчасліва загалёкалі, застукалі рукаяткамі мячоў у шчыты (у язычніцкім фальклоры перамогу слабейшага над больш моцным падавалі як добрыя помыслы, спрыт, удачу першага і зло іншага; летапісцы-манахі прыпісвалі сваё: у смяртэльную хвіліну герой нібыта прасіў помачы ў Бога, кляўся яму ў вернасці, і той яго ратаваў. Вось і летапісцы-царкоўнікі, а пасля іх свецкія царскія гісторыкі ўбачылі Мсціслававу перамогу ў тым, што ён у знемаганні папрасіў паратунку ў Багародзіцы з даклярункам, што пасля пабудуе ў Цьмутаракані царкву яе імя).

Мсціслава абкружылі знатныя мужы, дружыннікі, падхапілі на рукі і з радасным галасам, а то і гарланнем пачалі падкідваць угору:

– Слава волату! Хвала!

А калі апусцілі на ногі, то, ледзь стоячы на іх, папрасіў:

– Вады! І чым болей!

Калі прынеслі, шмат выпіў, сам абліваўся ёю і ёй яго аблівалі: каб апаласнуцца ў рэчцы, набрацца яе жыватворнй сілы, трэба было ісці праз касожскія шэрагі. Паказаў паднесці яму ягонае карзно. Ім накрыў Радзедзю – знак таго, што ён паважае пераможанага суперніка (яму расказвалі, што,

да слова, так ушанаваў забітага сваімі ж Дарыя Аляксандр Македонскі). На мокрае, толькі крышачку пасвяжэлае цела нацягнуў сарочыцу – яна тут жа ацямнелася мокрымі плямінамі. Падышоў да нерассядланага гнядога жарабца, які ўвесь гэты час не адыходзіўся, верна стаяў паблізу і, усё яшчэ адчуваючы трымценне, здаецца, кожнай жылкі, сам усунуў нагу ў стрэмя, рыўком скокнуў на сядло. Тузнуў за аброць каня. Але паехаў не ў свой стан, а да... касогаў. Яго світа разгублена рушыла за ім. Збянтэжаныя былі і касогі. Саскочылі з коней, упалі на правае калена. Адчуваюць пострах. Значыць, як і казаў Радзедзя, бою даваць не будуць. Згодны разысціся мірна. Мсціслаў адшукаў позіркам перакладчыка, загадаў яму перагтлумачваць:

– Джыгіты! Устаньце! Слухайце!

Падняліся. У цёмных вачах – боязь. Канечне, не ведалі, як ён і цяпер, і пазней павядзецца з імі, Радзедзевымі закладнікамі. Хоць, няма сумнення, верылі ў перамогу свайго ўладара, а яму жадалі смерці.

– Выйшла, джыгіты, так, што я перамог вашага маладога князя. Ён быў мо і дужэйшы, але хутка і не разумна расстраціў сілу. І не меў належнага спрыту. Ды вы не павінны наракаць на яго. Ён пайшоў на смерць дзеля вас. Каб вы засталіся жывыя. Дык дазваляю: пахавайце яго годна. Адну з яго жонак я прыму, калі яна зажадае таго. Братоў Радзедзі, старэйшын клічу ў мой лагер. Даю слова: усе застануцца жывыя і здаровыя. Зацвердзім мір, вызначым долю даніны, што вы павінны будзеце плаціць мне. Усіх джыгітаў запрашаю на службу. Хто будзе служыць верна, таго не скрыўджу. Налета мы пойдзем у далёкі паход. За ўдзел у ім дам кожнаму добрую плату. Даспехамі, срэбрам, золатам.

Родзічы Радзедзі, старэйшыны, адправіўшы з часцінай вояў мёртвага вадара ў яго родны аул, прыехалі на перамовы. Ясна, яны былі невясёлыя: Мсціслаў быў для іх далёка не кунак-прыяцель. Ды яму здалося: касожцы засмучаныя не столькі загібеллю свайго наравістага і бессардэчнага князя, колькі тым, што прыйдзецца даваць пастаўкі. Хто хоча дзяліцца са сваім? Кожны жадае яшчэ прыдбаць! Ён зноў сказаў сваё слова пра высакароднасць іхняга князя, пасля пачалі дамаўляцца пра памеры даніны. “Зменшу яе, калі вашы джыгіты далучацца да майго паходу на Кіеў, – на касожскую ўпартасць сваёй упартасцю адказаў, як адрэзаў, Мсціслаў. – А калі прыйдзе многа і яны будуць біцца як след, то, можа, і зусім адмяню яе. Так што па вясне чакаю ад вас падмогу”.

Тады, на спрэчцы-перамове, яшчэ ніхто з іх не ведаў, што погалас пра Мсціслававу перамогу разнясецца па ўсіх каўказскіх гарах і перадгор’ях, выкліча як зайздрасць, незычлівасць, так і павагу. Мала сказаць, джыгіт! Волат! Пераможац таго, хто лічыўся непераможным! Неўзабаве джыгіты прывезлі да яго жанчыну і дваіх дзяцей. Старэйшую Радзедзеву жонку. То спачатку занепакоіўся: ці не адарылі каргою (ад цюрск. варона, старая, злая жанчына). Не. Перадалі яшчэ маладую, гадоў дваццаці чэркешанку. І стройную, паглядную. Толькі, як сарна, пужлівую. Не падымала на яго вачэй, пазірала долу і туліла да сябе маленькіх чарнявых у велікаватых для іх папахах і чэкменях сыноў, падобных на спалоханых ваўчкоў.

“Я па запаветах усіх часоў і языкоў (народаў) цяпер павінен клапаціцца пра цябе, – праз тлумача-касожца сказаў ёй пры першай жа сустрэчы. – Не хочаш быць жонкай чужога табе па крыві і веры – не няволю. Можаш вяртацца ў родны аул. Я зменшу долю даніны ў тваю карысць. Так што ні

тут, ні дома не будзеш бяднецца, гаротнічаць з дзецьмі. Не будзе прычыны злоснічаць і жадаць, каб сыны рана-позна захацелі мне адпомсціць. Тым больш, што не буду няволіць, каб з іх вытрасалі ўсё касожскае: мо каму з іх давядзецца вярнуцца ў сваю завадзь (род) князем. Карацей, калі не супраць, каб я стаўся тваім апекуном, заставайся. – Усміхнуўся. Лагодна. – Ведай: ты мне спадабалася.”

Не абзыўналася. Закамянела маўчала.

“Ну, пабудзь, агледзься”, – дазволіў і пакінуў яе ў спакоі.

Пакуль што не яна, новая жонка, стала ягоным клопатам. Затурбоцілі яе спадарожныя: іх было столькі шмат, што яны запрудзілі яго княскі двор. “Ды яны праядуць не толькі сваю даніну! – занепакоіўся дворскі (кіроўца княскай гаспадаркі). – Пакінь, князь, самых патрэбных людзей тваёй жонцы, а астатніх туры прэч! Асабліва ахвотнікаў да княскага стала!”

“А закон гасцiннасці? – пасміхаўся ён. – Няхай тры дні п’юць, ядуць, танцуюць, спяваюць, на чацвёрты – апахмелка, а на пяты і выправадзім. Хто зажадае папоўніць нашы дружыны, прымем. Хто ўхіліцца ад гэтага, вернецца дадому”.

Яго новасуджаная засталася. А ён пакінуў пры ёй гурт нянек, кухарак, пакаёвак, каб яна з імі пазбавілася настрою адзіноты і сумоты. З мужчынскага гурту засталіся тыя, хто ўліўся ў яго дружыны, старыя спевакі і казачнікі (няхай Радзедзевы сыны ведаюць сваё), а таксама некалькі пастухоў. Яны пасвілі, даглядалі статкі прыгнаных коней, авечак і буйваліц з буйвалам. Прыезджыя маглі кожны дзень мець на стале сваю любімую каўказскую ежу – не толькі малако, але і гаймат (вяршкі), гатык (густая прастакваша), шор (тварог), кумыс і айран (хмельны напітак).

Мсціслаў спадзяваўся: пашана да ўсяго касожскага, яскага павінна даць свой плён. І цяпер, і некалі. Таму трэба ўсё больш і больш з імі разумецца! Ды што тут гаварыць! І вялікая Рымская імперыя пала з-за таго, што часам нібыта разумелася. Толькі дзеля прыліку, для сваёй карысці. Яе высілкі (ды яшчэ пры ўсобіцах, распусце і марных тратах), паўстанцкія ўзрывы часова скораных, а яшчэ прага “варвараў” пакараць яе гардыню, нахапаць яе багацця і заадно разбурыць неўласцівы ім плён чалавечага розуму і рук, – дык вось усё гэта, іншае і абумовіла, што Рым паў. Абумовіць гэта і рана-позна падзенне Візантыі. Ён, Мсціслаў, канечне, не ўсё ведае, як і што цяпер складваецца тут, на гэтых рознаплямённых прасторах, але не можа быць простым назіральнікам. Нават у паводзінах роднага брата, роднага Кіева! Не клічаце – прыйду сам!

“ Не цурайся нашых людзей, хутчэй вывучай славянскую мову, – сказаў жонцы, калі па яе просьбе пакідаў выбраных ёй яе землякоў. – Іначай будзеш чужым дрэўкам”.

З месяц яны, пашлюбаваныя ў царкве муж і жонка (яе назвалі Марыяй у гонар Багародзіцы, сыноў – Юрыем і Раманам), сустракаліся толькі за ежным сталом, а так яна хавалася з роднымі і блізкімі людзьмі ў сваёй святліцы (туды мог з усіх мужчын зайсці толькі ён) ці пры нечаканым спатканні магла шмыгнуць убок ці, хаваючы вочы, абмінала яго. Ён не мітусіўся, не настойваў на большае, цярпліва чакаў змены ў яе паводзінах, пасміхаўся і толькі запытваў пра яе здароўе. І спакваля яна пачала падымаць галаву, зазіраць яму ў вочы і нават таксама ўсміхацца. Праўда, зусім сарамяжліва. А пасля пачала даўжэй заставацца з ім, нібы выпадкова дакранацца да яго, свяціцца маладым бляскам у вачах. Калі аднойчы ён гулліва прытуліў, дык не адштурхнула, толькі нібы напужалася: што ты, сюды могуць увайсці! А

яшчэ праз нейкі час ён познім вечарам не адпусціў яе руку, павёў у сваю спачывальню, і яна, Марыя, не заўпарцілася туды зайсці...

“Жена добля веселит мужя своего, и лета его исполнит миром”. Як потым даведаўся Мсціслаў, гэтая Марыя шмат нацярпелася не толькі ад Радзедзі, але і ад яго злых родзічаў, дык па сваёй волі, з ахвотай падалася сюды. Прыгледзелася да яго, упадабала і рашыла шчыра і захоплена аддаць яму сваю яшчэ не патрачаную маладую жаночую ласку. Праўда, калі стала цяжарная, то ранейшая яе пужлівасць сарны пачала знікаць і ў яе абудзіўся характар горнай рысі. Мсціслаў зусім не напужаўся гэтага, толькі дабрадушна пасміхаўся з таго, як з часам мяняецца нораў жонкі, як яна пачынае ўзвышаць сваё “я”.

У родны і іншыя аулы з ім не ездзіла. Але, як бачыў, перажывала, калі ён адпраўляўся туды паляваць на бурага мядзведзя, аленя ці казуль, і з нецярпеннем чакала яго звароту. Можа, асцерагалася, што ў перадгор’ях і гарах яго можа чакаць помста. Не. Касожцы паводзіліся пачціва. Нават угодліва: і яны паважалі сілу. Марыя напраўду стала жонкай і такой, якой бываюць яны як у простага люду, так і ў знатнага, у князёў таксама: непрадказальнай у дабрыні, пяшчоце, ва ўспышцы гневу з папрокамі і слязьмі...

Вераснем касожцы без пагроз і нават напамінку самі прыгналі першую долю аброку – статак звычайных і тонкарунных авечак, а таксама прывезлі дамоўленую часціну сваёй казны, ахапкі чэркесак, бешметаў, чэкменяў, папах, а на арбах – сваю адмысловую гліну і мармур. Мінуліся цеплаватыя ў стэпах і лесастэпах, халаднейшыя пры перадгор’ях, а ў гарах больш дажджлівыя восень, сняжнейшая зіма. Па вясне ў Цьмутаракань “о двуконь” і з абозамі ежы ды адзення прыйшоў досыць вялікі атрад касожскіх як пажылых, так і маладых наёмнікаў- джыгітаў (узімку, уцякаючы ад сваіх неміласэрных уладароў, а то і дзеля срэбра для жонак, нявест ці выявы геройства прыскоавалі і па некалькі чалавек, і па аднаму; Мсціслаў усіх прыймаў, карміў і паіў). Гэтая купа пасялілася ў шатрах паблізу горада. Мсціслаў наладзіў агледзіны саюзнікаў. Як і многія насельнікі, якія высыпалі за горад, парадаваўся іхняму наездніцкаму ўмельству ды ўменню пускаць у ход шашкі, арканы, бізуны. Праўда, у гэтым баявым папаўненні паставіў сваіх сотнікаў і тысяцкага. Як кажуць, на ўсякі выпадак...

## 3.

За Сурожскай вадою, паблізу тых мясцін, дзе справа пачынаюцца пагоркавыя яры з лагчынамі, узгоркі доўгага, выцягнутага ўздоўж мора на поўнач узвышша, за якім, як кажуць, лявей “невымерная раўніна” (асобныя землі сённяшняй Запарожскай вобласці, некалі іх называлі агульна – Стэпам, потым – Дзікім полем, а яшчэ пазней – Запарожскай Сеччу, дзе, між іншым, непадалёку Гуляй-поле – вольніца бацькі Махно), дык вось на пачатку печанежскіх зямель Мсціслаў запыніў сваё коннае і пешае воінства. Быў цёплы чэрвень; паўстэпавае гарачае ад сонца і зямлі паветра яшчэ да полудзеня гуляла-калыхалася ці па-свойму бруілася; яно не адразу магло астудзіцца, можна было не вельмі клапаціцца пра начлег, але для яго быў ужо шацёр: іх на сваіх тут, на сваіх уладаннях, чакаў печанежскі хан Туген. Ён не са скур ці лямцу, як зімой, а лёгкім жоўтым шаўковым палотнішчам акрыў уваткнутае шырокім кругам знізу і звязанае зверху драўлянае кол-

ле для двух аднолькавых вежаў – шатроў. Для сябе і яго. Калі наперадзе ўсіх Мсціслаў без ніякіх звыклых перашкод (старожы і іншае) наблізіўся, звычайна недаверлівы Туген выйшаў наперад са сваёй світы знатных, целаахоўных і прыпадняў, развёў убакі рукі: рады табе! Заззяў, як сонца пасля хмурнасці. Амаль яго гадоў, высокі, чарнавалосы, смуглявы, у шырокіх шараварах, апушчаных па боты па костачкі ног, у лісіным, аблямаваным гарнастаем каўпаку, у ліловай сарочыцы і рудой безрукаўцы, абшытай па грудзіне і жываце, кароценькіх рукавах залатымі ніткамі. Прыгажун заходніх цюрскіх плямён (праўда, з іх булгары і хазары будавалі гарады, займаліся рознымі рамёствамі і гандлем, а вось гэтыя, печанегі, былі жывёлаводы і набежнікі па чужое дабро. Нямала ўпякліся і ў печань Кіеву, Русі вакол яе). Гэты Туген два разы, у 1019-м і ў 1016-м, хадзіў на Яраслава і двойчы быў пабіты; яго бацька таксама два разы, у 977-ым і ў 973-м (калі клікаў на адзінаборства Уладзіміра) зведаў цяжкую паразу, праўда, паміж гэтымі гадамі меў і перамогу, калі разбіў і разагнаў Уладзіміраву дружыну і калі Уладзімір ацалеў толькі тым, што схаваўся пад мастом, а пасля мусіў уцякаць з Кіева ажно ў Ноўгарад і прасіць там помачы ў наўгародцаў і варагаў. Самым удалым ваяром (зразумела, для печанегаў) быў Тугенаў дзед Кура: ён нямала парабаваў землі Русі, не раз мог захапіць Кіеў і па падказцы ды подкупе Царгорада перастрэў (972 г.) на дняпроўскіх парогах адпушчанага візантыйцамі яго дзеда Святаслава, разбіў ушчэнт, сам адсек яму галаву і загадаў з чэрапа зрабіць чашу для вінапійства.

Вось цяпер тут, на сушы печанежскіх абшараў, сустрэліся ўнукі тых грозных дзядоў. Мсціслаў спешыўся, пайшоў да шатра. Крочыў няспешна, нязвыкла сёння красуючыся касожскай папахай, новым, падараваным яму цьмутараканскім княствам барвовым, з залатой абшыўкай карзном, шаўковай кашуляй, барвовымі партамі і ботамі, а на пальцах левай рукі – дарагімі пярсцёнкамі. Уваблаўся так па парадзе сваіх думных людзей – трэба яшчэ і апраткай уразіць дзікага стэпавіка (мо Туген і не быў “дзікі” альбо “варвар”, як многія даследчыкі, у тым ліку і царскай Расіі, любілі называць суперніцкія плямёны і народы: пра печанегаў зналі ў Візантыі, на іх абапіраўся Баляслаў Харобры ў барацьбе з Кіевам, на іхнія землі яшчэ пры жыцці Уладзіміра прыязджаў місіянер з германскіх зямель Брун, але, праўда, здолеў ахрысціць толькі 30 качэўнікаў. Астатнія цвёрда трымаліся сваёй даўняй веры, у якой была вялікая пашанота да зямлі, да продкаў. І болей гарнуліся да ісламу – *Г.Д.*).

– Канязь Мсціляб! – той выйшаў насустрач (ён ведаў славянскую мову) і з жартам: – Страх бярэ бачыць цябе блізка!

– Што так? – паціскаючы яшчэ аднаму нечаканаму новаму саюзніку руку, Мсціслаў усё разумеў, але таксама аджартаваўся: – Я такі страшны?

– Яшчэ як! Касожскага буйвала абваліў! Значыць, ты – тур! Хоць не кожны тур адолее кожнага буйвала!

– Пашанцавала.

– Тут мала шанцу. Трэба больш іншае. Не толькі смеласць, адвага. Твая развага. Нават твой позірк. Вочы пераможцы і ўладара: ад іх шэрхне скура... Дык вось я пра тваю перамогу, канязь, паслаў вестку ў Кыюв (Кіеў). Няхай пачуе Яраслаў, падрыжыць... – Гаварыў і заадно азіраў і прыбылое воінства. – Бачу: асобным строем ідуць горцы. І нямала іх.

– Касогі і ясы. Ёсць і ўдальцы-хазары. Іудзеі. А таксама угры, обры, торкі, грэкі.

– А з задняпроўскімі печанегамі не змаўляўся? З ляхамі?

– Не. Думаю, мне з табою і нашай моцы хопіць, – адказаў Мсціслаў, але ўстрымаўся дадаваць, што спадзяецца не толькі на сваю сілу ды братаў перапалох. А яшчэ і на тое, што горцы і рознаплямённыя цьмутаранцы будуць рвацца ў бой для сваёй доблесці і здабычы, а ён, Туген, – асабліва для помсты і для таго, каб пазбавіцца ад абняслаўлівання свайго імя. Каб іншыя печанежскія ханы не бурчэлі, што ён няўдачнік, дарма губіць роднасныя плямёны.

– Для чаго сіл нашых хопіць? – Зажадаў глыбей пранікнуцца ў госцевы задумы гаспадар.

– Давай так, хан, – не паспяшаўся задаволіць яго цікаўнасць Мсціслаў. – Пашлі сваіх і маіх конюхаў па коней у стэп, а мы з табой сядзем і за чашай моцнага пітва пагаворым пра ўсё шчыра. Вось маё першае занепакоенае запытанне: колькі ты мне прадаеш конскіх галоў?

Туген падняў пальцамі ўверх дзьве рукі, потым апусціў іх і яшчэ ўскінуў адну. Значыць, 15.

– Сотняў, – дадаў уголас. Выходзіць, 1500 коней. – Для пешых і для запасу. І хан не прадае, а дорыць! На дружбу нашу, слаўны Мсцісляб!

“Але дружба паміж такімі, як мы, проста не бывае. І не толькі на даверы. А і яшчэ на чымсьці. Тым больш, што на самай справе гэты біты не раз Туген не можа не ведаць: памог я выгнаць з Таўрыі хазараў – не дам болей вялікай разгульнай волі і ім, печанегам. Таму і дае багатыя падарункі, каб я з Яраславам не проста быў у варажбе, – сцяміў усё Мсціслаў. – Хітрасць, але ў намеры зразумелая”.

Туген пільна зазіраў – не толькі ў ягоныя вялікія вочы, але і ў патаемную для яго душу, а потым гулліва заўсміхаўся, падаў руку і, як чалавек не слабы, моцна сціснуў ягоную:

– Я толькі з табой, канязь.

– Дзякую, хан. Ты – шчодры, – Мсціслаў таксама ціскануў ды так, што ў таго хруснулі, зліпліся пальцы, ад чаго той спрабаваў далей усміхацца, але ўжо ўсмешка ягоная скрывілася, абляпілася болем.

... Неўзабаве печанегі-праваднікі, дзясяткі тры ясаў і касогаў паімчаліся ў стэпы за Гуляй-полем утаймоўваць табуны і гнаць іх сюды. А Туген запрасіў Мсціслава ў свой шацёр, у цень (каб тут не збіралася духата, адтуліну ўверсе зрабілі шырокай, дык цёк паветра з яе праз адхінуты ў шатры полаг нават павяваў ветрыкам). Паселі на персідскі дыван з чырвонай і чорнай шэрсці, аздоблены celнымі кветкамі. Хутка Тугенава абслуга разаслала перад імі таксама персідскі дыванок, а на яго пачала ставіць печанежскія прысмакі і напоі. Пасля кожнаму на калені паклала па шырынцы (від ручніка). Па Тугенавым знаку адкланялася і адступіла з шатра спіною наперад.

– Мы, канязь, жывём бедна. Не толькі без гарадоў, палацаў, крэпасцей, але і без паселішчаў, шыкоўных убораў ды нават простых прысмакаў, – уздыхнуў, пачаў скардзіцца Туген. – Мы нараджаемся, жывём і паміраем не толькі ў шатрах, але і па-за імі. Мы – вечныя падарожныя. Сёння – тут, дзе ёсць корм для статкаў розных, а заўтра – ужо там. Мы – дзеці, закладнікі стэпу. Ён нас не вельмі шчодра корміць. У ім найбольш суслікаў і суркоў – спажыва для арлоў, ваўкоў. Нам з дзічыны – сайгі і зайцы. Ды тарпаны. Але з іх вельмі не нажывешся.То нам памагаюць выжыць нашы авечкі. Ад іх – свежае малако, сыр-брынза, мяса, шэрсць. Яшчэ – вярблюды. Малако, шэрсць, скура, кізяк. Але найбольшы парату-

нак наш – коні. Яны нас возяць, кормяць, poяць, даюць жыллё, адзетак і абутак. Ловім сазанаў, шчупакоў, карасёў у рэках і азёрах, але рыбай не пражывеш: тут, у гарачыні, для яе трэба соль. Ды без яе, солі, усё хутка псуецца. А яна дарагая. Мы, як вы, зямлі не чапаем. Яна для нас святая. Мы нават кетменя (род матыгі) не маем. Муку на праснакі, соль, бортны мёд, палатно featherнае, пасуду таксама купляем. Як вы, урусы, называеце, на “міру” (вялікія паселішчы, гарады).

“Але больш рабуеце. І насмешліва пазіраеце на ўрусаў-аратаяў. Лічыце іх чорнымі людзьмі, чарвякамі. Хоць нашы аратаі вас, як касогаў і ясаў, лічаць дзікунамі”.

– Вось тут, – паказаў на гліняныя карчагі, – з кабылінага малака наш смачны кіслы кумыс, а тут – хмельны айран. Ці ты мо грэбуеш дарам нашых кабылак? Мо жадаеш візантыйскага віна? Маю некалькі амфар яго. Ці вып’ем яго пасля нашай перамогі?

– Я, хан, госць. Чым гаспадар частуе, таму госць павінен быць рады. Абы шчыра.

– Шчыра, князь, – адказаў Туген, наліў у срэбраныя кубкі (бач, ёсць і такія) айрану, хацеў адпіць і падаць яму, але Мсціслаў затрымаў яго намер.

– Не трэба, – сказаў. – Я табе веру.

– То – за дружбу.

– За дружбу.

Выпілі. Айран гэты быў не вельмі моцны на хмель, але, як Мсціслаў чуў, печанегі і ад яго п’янеюць, калі асушыць некалькі піял-куфляў. Туген сам падаў яму на падносе буйную абадраную і абвараную авечую галаву. Яна была амаль цалкам касцяная. Гэта – знак павагі да госця. Цяпер трэба адшчыкнуць ад галавы ацалелы мясны кавалачак. Адшчыкнуў. Пачалі закусваць. Праснакамі і тушанымі ды падсмажаным на пожагу (ражне) авечымі і сайгакавымі кавалкамі з самых мясных і смачных доляў тушак.

– Дык, канязь, паколькі мы ўжо саюзнікі-сябры, адкажы мне шчыра. Для чаго сіл нашых хопіць?

– Пабіць Яраслава.

– А што далей?

– Далейшае будзе відаць пасля.

– Пабіць Яраслава – мала. Ведай, – Туген падняў указальны палец, – ён – зусім не палкаводзец, не ўмее ваяваць, але вельмі асцярожны, хітры і ў цяжкую часіну для яго кідае ўсіх і ўцякае з поля бою. Але праз час падкупіць цесцевых варагаў, вернецца з імі і будзе люта помсціць. Дык трэба прадумаць, як заступіць яму шлях і залавіць. Каб... Каб яго не было... Каб ты стаў вялікім канязем кіеўскім!.. Ці ты мо задаволішся быць усяго толькі ўдзельным канязем у якім Чарнігаве, Тураве? Альбо хай сабе ў Смаленску? Калі так, то... Дружба наша для майго племені не будзе мець амаль ніякай карысці... Тады ён у любую хвіліну можа не палічыцца з табой і напасці на нас... Нам трэба, паўтару, каб якраз ты, наш саюзнік, сеў у Кіеве! А ты... А ты – не зморак Святаполк. Ты – не проста зух, а хват!

– Значыць, пойдзем на Кіеў! – усміхнуўся Мсціслаў. Адчуваў: прыйдзецца якраз так і дзеіць, хоць гэта – напад са “стэпавымі разбойнікамі”, даўнімі ворагамі – славы яму, як і Святаполку, не дадасць. Наадварот. Могуць адскочыцца нават тыя, хто гатовы быў да яго прыхіліцца.

– Паход наш будзе ўдалы. Удачу прадказаў наш стары і мудры ша-

ман. А напачатку, па шляху возьмем Пераяслаўль. І лёгка. Толькі трэба паказацца перад ім знянацку. Але і ў іншым разе змусім яго даць табе прысягу, плаціці даніну.

– Канечне.

Парукаліся. Але ўжо не так учэпіста.

– Тады дзеля дружбы нашай я хачу, канязь слаўны Мсціляб, вярнуць табе... Тое, што павінна замацаваць мір паміж намі...

Падняўся, аслаблымі пасля седатні і айрану нагамі, прыгнуўшыся, падаўся ў кут шатра, адхінуў край накінутага шаўковага накрывала і з-пад яго дастаў скрыніцу. Абцягнутую тонка вырабленай скураю, са срэбранымі акантоўкамі і зашчапкаю пасярод. Паставіў яе перад ім.

– Вось... Перадаю табе... І прашу даравіць грэх майго дзеда перад тваім... Яны былі непрымірымыя ворагі, а мы, унукі, – браты (сябры)! Ці ты хочаш, каб я табе быў сынам?

Мсціслаў не даслухаў апошняга (у той час аднаму ўладару быць іншаму “сынам” азначала быць падзалежным), уміг працверазеў. Ён сшэрхлай скураю спазнаў, *што* гэта. Чуў ад дзедавых, можна сказаць, і паплечнікаў пра *тое*, што было ў жахлівай завядзёнцы ў многіх плямён і народаў... Хвіліну-другую, а мо і больш пасядзеў моўчкі і нерухома, напаўняючыся незвычайным, сумным пачуццём, задуменнасцю пра лёс чалавечы, пра людскія жудасці, блізкага дакранання не проста да былога, да памяці, а да роднага...

Потым няспешна разлучыў срэбную зашчапку, падняў накрыўку. Знізу яна была абабітая белым шоўкам, як і сценкі скрыніцы, а паверсе яе ляжала пунсовая тканіна. А пад ёй, як і чакалася... Шэры чалавечы чэрап, паверсе акаймаваны залатой пласцінаю.

Браць чэрап у рукі ці не? Гэта ж – не проста рэшціна некалі жывога чалавека! Гэта – астача дзеда Святаслава! Калі старэйшы па іхніх бацьку Уладзіміру і маці Рагнедзе брат Ізяслаў у матчыным родным горадзе выхоўваўся найперш у духу пашаны дзеда Рагвалода, Полацка, то Мсціславу, як і яго цяперашняму ворагу, брату Яраславу, прыстаўленыя бацькам пястуны ўслаўлялі Кіеў, дзеда Святаслава, прадзеда Ігара і прабабулю Вольгу, прапрадзядзьку Алега і яшчэ старэйшага іхняга продка, Рурыка – падмуроўшчыка Русі. Дык не мог не быць розумам і душой за іх усіх.

Часціну роднаснага продка цяпер Мсціслаў не мог не сагрэць далонямі, але ўстрымаўся пацалаваць: да яе, калі пілося налітае сюды віно, насмешліва, пераможна-пагардліва дакраналіся губы дзедавага забойцы. Заўважыў на патыліцы надпіс. Грэчаскімі літарамі. “Пойдзеш па чужое – страціш сваё”. Горка, але праўда. Не зусім абачліва пакінуў дзед Кіеў і рушыў асесціся ў далёкай і, галоўнае, самапаважлівай, натхнёнай да дзяржаўнай незалежнасці Балгарыі, каб зрабіць яе сваім асобным і любімым уладаннем.

– Павер, канязь, – бачачы ягоную задуменную скруху, прыклаў руку да грудзіны Туген. – Я не піў з гэтага... Мо выпіў бы, каб быў адолены намі Яраслаў... І не магу выпіць адсюль, калі мы ўдвух нарэшце запынім яго братазабойствы і пасяганні на тое, што справядліва належала Святаполку... То вяртаю табе...

– Больш, хан, не будзем пра гэта, – папрасіў Мсціслаў. – Глыбока дзякую, што ты вярнуў тое, без чаго дзеду на тым свеце цяжка.

Сцягнуў з вялікага пальца левай рукі пярсцёнак – у залатым колцы з загнутымі лапкамі ўпраўлены чырвоны паўкруглы каменьчык. Ён, як казаў

Мсціславу знаўца самых розных каменьчыкаў і іх сімвалаў хазар-іўдзей, далучаны ім пры куплі для распазнання сапраўдных гэтых каштоўнасцей і іхніх падробкаў – адзін з самых значных (гэтага старога вераб'я па яго загадзе абаранялі пяцёра вояў. Каб і выратаваць яго ад замахаў, і каб не дапусціць ягонага драла са скрынямі незвычайнага багацця: для кожнага месяца, на ўсе выпадкі жыцця розныя народы прыдумалі розныя сімвалічныя, аберагальныя, лекавыя прыродныя каштоўнасці).

– Цар-камень. Па-славянску, яхант, – падаючы пярсцёнак Тугену, сказаў Мсціслаў тое, што запомніў ад тлумачэння і сёння прысутнага ў яго стане хазара (каменьчык быў рубін). – Лечыць кроў, дае сілы, смеласць, ярасць. Іншыя падарункі табе, тваім жонкам, сынам і дочкам дазволь уручыць заўтра. Сёння я хачу пабыць з табой сам-насам.

– Як скажаш слаўны Мсцісляб, – прыймаючы ганаровы падарунак, схіліў у паклоне галаву Туген. – З усіх славянскіх князёў табе я найбольш давяраю...

”Няшчыра... Але... Але цяпер вельмі патрэбен мне...”

– І вось што, Мсцісляб, – здаецца, захацеў выказаць даўно ношанае ў памяці Туген. – Каб не было паміж намі, саюзнікамі, недаверу, давай праяснім тое-сёе для сябе. Праўда: мой дзед загубіў твайго. Але яны абодва жылі па законах вайны, пераможцы. Хто адолеў – той і ўладар. Пабіты згінае галаву, адкупляецца данінай ці паднявольны. Кіеўскі люд, вы, унукі Святаслававы, канечне, злыя на нас і не толькі за тое... Ды... Я пачуў ад свайго бацькі тое, пра што твой бацька замоўчваў...

Мсціслаў напружыўся: што новае можа расказаць печанежскі вадар пра былыя іхнія, славянскія, звады? Ды тым больш пасля таго, калі ён пачуў нямала чаго пра тое ў Царгорадзе?

– У Святаслававай дружыне былі і язычнікі, і хрысціяне, – вёў далей той. – Калі яны, пабітыя Цымісхіем, вярталіся ў Кіеў, то на змушанай галоднай зімоўцы каля Дняпра, перасварыліся. Язычнікі абвінавацілі хрысціян: вы не хацелі як след ваяваць супраць хрысціянскай Візантыі, а то і прадаліся ёй. І са згоды Святаслава язычнікі перабілі хрысціян, чым сіла яго яшчэ паменела. Старэйшы сын ягоны, твой дзядзька Яраполк, быў ужо хрысціянін, дык на яго населі ахрышчаныя з часоў Вольгі баяры і знатныя дружыннікі: ніякай помачы бацьку-няўдачніку! Ён страціў здаровы розум, мроіць нейкімі сваімі замысламі, чым нясе Кіеву ліха!.. Пашлі на яго печанегаў... Прыбяры яго чужымі рукамі... Ты варты быць нашым вялікім князем і павінен правіць па-новаму... За вялікую плату мой дзед спакусіўся, не пашкадаваў героя ў бядзе... Ды не ва ўсім толькі адзін ён грэшны!..

Пачутае не было зусім новае: пра многае даходзіла яму ад старых людзей, сведак тых дзён і падзей. Але гэтае і ў многі здымала папрокі Візантыі ў яе двурушнасці.

– Гаварыць далей мо і пра непрыемнае табе? – запытаў Туген.

– Давай.

– Пазней відныя язычнікі змусілі маладога твайго бацьку выйсці з Ноўгарада, пашукаць помачы ў Палацеска і пакараць Яраполка з яго хрысціянамі. Ён пайшоў, учыніў расправу... Над непакорлівым Палацескам, над Яраполкам... Ушанаваў язычніцкіх багоў... Асабліва Перуна. А потым... Узяўся за... Яраполкаў замысел... Толькі не проста стаў хрысціянінам, а змусіў візантыйскага імператара аддаць за яго іхнюю сястру. Каб дзеці, унукі мелі не толькі “варварскую варажска-славянскую”, але і свяшчэнную імператарскую кроў! І трэба прызнаць: бацька твой павёўся смела! Каб

так неміласціва патапіць язычніцкіх багоў у Дняпры, каб так удушліва наступіць нагой на горла язычніцтву з пракаветных часоў! Я маю не меншую ўладу над маімі каленамі печанегаў, але не магу так пераламаць хрыбет іхняй, дзедаўскай веры!

– На вялікае, Туген, здольныя толькі вялікія людзі, – стрымана ацаніў Тугенаву адкрытасць Мсціслаў. – А што да хрыбета, то ён, павер, у язычнікаў яшчэ доўга будзе ў моцы... Як ты кажаш, няпроста адолець тое, што было тысячы летаў...

Туген, уміг спазнаўшы Мсціславаў стрыманы, але халодны тон, таропка перамяніў гутарку, азарыўся ільсцівай, змоўніцкай мужчынскай усмешкаю:

– Мо волат-канязь жадае ўночы на крыллях нябеснай птушкі пабачыць розныя дзівы?

Апынуцца там – значыць, нешта п'янкое скурыць, праваліцца ў сон і аддацца моцы нейкай травы.

– Не, хан. Не жадаю. Мне хопіць зямнога сну.

– Тады мо канязь жадае нябеснай уцехі на зямлі? З маладой, яшчэ белай (цнатлівай)? Ці з бывалай ужо з мужчынам, але яшчэ гуллівай? Павер, нашы стэпавыя жанчыны вельмі гарачыя. Як летам сам стэп.

– Не, хан, – са зразумелай, шматзначнай мужчынскай усмешкай, але ўсё ж адмахнуўся Мсціслаў. – У мяне самога, як ты кажаш, ужо крыху бывалая ды яшчэ маладая і гуллівая жонка. То прыкіпеў да яе, не паспеў засумаваць па іншай.

– А мо даць чорную ясырку (рабыню)? Ежу будзе варыць, смажыць. Абмываць. Песні на сон співаць.

– Не-не, – адмахнуўся ён. – Не толькі ў паходах, але і дома я не пераборлівы і не наравісты. Ніякіх жанчын і спакус ад іх! Усё, хан!

...У першую ж начлежную ў стэпе ноч Мсціслаў загадаў воддаль ад Тугенава шатра запаліць вогнішча. Калі яно дагарала, даў знак отракам адысціся і на жар сам апусціў скрыніцу і, падварушваючы астаткі яе, быў там сам-насам, пакуль скрыніца з тым, што было ў ёй, не пераўтварылася ў абгарэлыя парэшткі ды попел. Пасля асобна ад жару адгарнуў *тое* і сказаў отракам сабраць яго ў збан. Ведаючы, што будуць рухацца непадалёку дняпроўскіх парогаў, рашыў на новым запынку збочыць і высыпаць абгарэла-згарэлае ў Дняпро Славуціч. Гэтым і дзеда-язычніка ўшануе, і застрахуецца ад таго, каб хтосьці нечысцівы альбо не ў меру цікаўны цяпер і пазней шукаў месца пахавання, цешыўся ад знаходкі таго, што звышдарага Рурыкавічам...

Прыгналі ўзбуджаныя, успененыя пагоняй печанежскія табуны. Са свайго адборнага Туген падарыў Мсціславу яшчэ маладога белага, з чорнымі надкапытнікамі і яраснымі, пачырванелымі вачыма жарабца – той, прагнаны важаком з табуна, як сказалі, ужо кідаў выклік таму, хочучы завесці свой гарэм.

“На ім уедзеш у Кіеў!” – усміхаўся Туген.

Уедзеш! Мсціслаў нямала патраціў часу на тое, каб хоць наблізіцца да гэтага смялякі-зуха і даць яму кавалак хлеба: яго, наравістага, сярдзітага, апоенага воляй і асатанелага ад пасягу на яе, ледзь утрымлівалі за аброць трое конюхаў. Нямала папацеў і печанежскі ды касожскі прыконны люд, каб аб'ездзіць, прыручыць і іншых прыгнаных, адзічэлых у стэпе коней.

Каму і тры адведзеныя дні не хапіла, каб нават на спіне вельмі ўзбуджаных жарабцоў амацаваць лямец – свае і печанежскія сёдлы дасталіся знатным воям (лямец печанегі вельмі цанілі: ён быў не толькі за сядло ці ўкрыццём шатра, але і пасцеллю, седалам, нават жылетам-нагруднікам у час бою). Мсціслаў змог усесціся на свайго дароніка, утаймаваць цуглямі яго раз'юшанасць і спробу скінуць са спіны – той усё ж здаўся: адчуў, што патрапіў гаспадару з моцнымі рукамі. Але пераможац паехаў углыб стэпаў не на скораным, а на сваім любімцы. Лічыў: той, вынослівы, паслухмяны і верны, прыносіць яму ўдачу. А такога няможна крыўдзіць. Дарункавы падаўся з імі ўлегцы – на павадку ў коннага грыдзя. Як завадны( запасны).

За стэпам, дзе Дняпро рэзкавата паварочвае направа, каб хутчэй патрапіць у Чорнае мора, Мсціслаў на пастоі-адпачынку з дзясяткам отракаў і грыдняў падаўся да ракі, дзе пачыналіся парогі (паміж сённяшнімі Запарожжам і Днепрапятроўскам; нямала горных парод вытыркалася з вады, замінала суднам і лодкам цягам 75 км) і дзе загінуў Святаслаў. Там і высыпаў у ваду попел ад скрыніцы. Нарэшце, праз столькі дзясяткаў гадоў дзед належна пахаваны, знайшоў цалкам вечны спачын у любімым Дняпры, які некаторыя грэкі яшчэ і цяпер называюць Барысфенам. І няхай дзед будзе старожай – і ад гэтых стэпаў, і пагрознікам ім...

... Вялі Мсціслававы дружыны печанегі: яны, аб'ездзіўшы стэп уздоўж і ўпоперак, і ўночы з заплюшчанымі вачыма ведалі яго нават па паху. Тым больш – па чалавечых і звярыных сцяжынах і слядах, па Месяцы і зорках, Залозным шляху (даўні гандлёвы шлях ад Азоўскага мора да Дняпра. "Залозны" было ад слова "жалеза", бо яго караванамі перавозілі сюдой ажно з Кітая і іншых мясцін Азіі). Ці па Млечным шляху альбо Вялікай Мядзведзіцы. Зналі і прыдняпроўскую нізіну, дзе пасля зімы доўгі час панавала вада: вылівалася з Дняпра і яго прытокаў, затапляла вялікія абшары па гэтым, левым, беразе, мясцінамі злучалася з іншымі залівамі, дык трэба было далёка абмінаць іх або добра знаць, дзе вада глыбокая, а дзе толькі паверсе тэрасавай тупкасці, па якой можна лёгка перабрацца на суш. Здаўна асвоілі печанегі і пераходы праз дняпроўскія прытокі – Ворсклу, Псёл, Сулу і іншыя. Супрацьлеглы дняпроўскі бераг быў іншы – высокі, падмыты, стромкі і абрывісты, жаўцеўся пяском. А паверсе яго гусціліся кустоўе, лісцяныя дрэвы.

Цяпер трымаліся воддаль ад Дняпра і яго вусцевых прырэчак, ішлі стэпам. Зірнеш удалечыню – раўніна, розчатраўе ці паўголае раздолле па небакрай. Наблізішся туды – зноў нідзе ні жылля, ні якога-небудзь статку. Праўда, бывае, і зацікавіцца вока навізною – высокімі курганамі, а на іх – каменныя чалавечыя выявы (помнікі былым батырам-удальцам), а на некаторых з іх сядзяць нібы аканямелыя арлы, так выцікоўваючы неасцярожных суслікаў і зайцоў. Пад'едзеш бліжэй – птахі ўзмахнуць доўгім крыллем і ўгору. Можа нечакана кінуцца ў вочы напалоханы статак стэпавых тарпанаў альбо сайгаў ці сайгакаў-антылоп – жаўтавата-рыжых, з уздутымі насамі, з невялікімі, завостранымі ўверсе рагамі (у буйнешых целам самцоў; на іх у час гону было асабліва заўзятае паляванне з-за рагоў: лічылася, што яны, тоўчаныя і выпітыя з напіткам мужчынам даюць незвычайную моц). Абсочаць яшчэ здалёку, задзяруць галаву, хвіліну паглядзяць, а затым так марсянуць, што на ніякім кані іх не дагоніш: могуць несціся 80 кіламетраў у гадзіну. Яшчэ іх заядла здабываюць і з-за скуры: з яе робяць мяккія гладкі хром і аксамітны замш, у іх фарсіць толькі знатны люд. Перад Ворсклаю пачалі цешыць

позірк бярозавыя гайкі. А далей лясныя мясціны пабольшалі і пагусцелі – вольха, клён, дубы, сасна.

Перад Украйнай (так некаторыя называлі кіеўскія землі, што пачыналіся паблізу печанежскіх стэпаў), перад Пераяслаўлем усёведныя печанегі падказалі, дзе можа быць Яраслававa старожа. Уночы пасланыя Мсціславам дзясяткі два іхніх і ягоных вояў абышлі з абодвых бакоў няпільных дазорцаў і рэзка напалі – таго, хто не захацеў здацца, забілі, а каго паланілі і змусілі іх усё расказаць пра Пераяслаўль (не лішне напомніць: гэты горад вызначыцца яшчэ і пазней, калі ў ім Багдан Хмяльніцкі перадасць Украйну і іншыя левабярэжныя дняпроўскія вобласці Расіі – *Г.Д.*). Значыць, ідучы на Яраслава, Мсціслаў першы праліў тут кроў. Закладзеныя яшчэ Уладзімірам крэпасці непадалёку наравістай, з многімі звілінамі і паваротамі Сулы (Ксняцін, Лубен, Лукомль) без ніякай перасцярогі абмінулі: яны былі яшчэ недабудаваныя, дык і не неслі ніякай пагрозы. А вось памежны з печанегамі, умацаваны Пераяслаў, які без трывожнага знаку старожы мо будзённа мірнічаў, Мсціслаў намерыўся таксама раптоўна, знянацку абкружыць двума патокамі і ўзяць: не зусім бяспечна пакідаць за сабой хай сабе і не вельмі вялікую баявую сілу.

Пераяслаў стаяў на мысе паміж рэкамі Альта і Трубеж, а перамычка паміж імі была абароненая ровам і валам, а паверсе вала высілася драўляная сцяна (на полі каля Альты быў забіты князь Барыс). Убачыўшы першых коннікаў, вартавыя крэпасці забілі ў білы, падалі трывогу – на верхнім памосце сцяны заявіліся пераяслаўскія дружыннікі, а затым і насельнікі горада. Бачачы, колькі шмат незнаёмых ім славянскіх і іншых дружын апетлівае іхні горад з сушы і па рэках, яны, прыкрыўшы рукой вочы ад спякотнага ўжо сонца, агледжвалі іх анямела.

Мсціслаў, радуючыся, што ўсутыч наблізіўся да Пераяслаўя незаўважана, запыніў каня на палёт стралы ад крэпасці і таксама некалькі хвілін азіраў незнаёмы горад і збянтэжаны ягоны люд. Гадаў: што будзе? Пераяслаўцы пачнуць адбівацца, цярпець асаду? Ці пойдуць на перамовы? А там згодзяцца скарыцца? На сцены падымалася ўсё больш вояў, але ніхто з іх нават не падымаў лука. Ні адна душа не выходзіла за вароты. Тады ён павярнуў галаву направа, на сотніка Светавіта, а цяпер, пасля хрышчэння, Серафіма і паказаў тры паднятыя ўверх пальцы – значыць, едзь, бяры з сабою трох вояў. Не нападуць. А калі здураслівяць, то ім будзе толькі горш.

Ужо праз хвіліну сотнік-вяшчальнік, трымаючы ў паднятай левай руцэ кавалак белага палатна, наблізіўся да рова, за якім быў падняты на ланцугах угору мост, а за ім – дубовыя, акаваныя жалезам вароты. Сузіраў насценнікаў і яго тыя бачылі. Маючы гарланны голас, быццам пратрубіў:

– Здравія вам, пераяслаўцы!

Канечне, тыя маглі б дзёрзка і моцным словам асадзіць нечаканага незнаёмага госця, але цяпер, бачачы, што са стэпу, з-за лесу цягнецца і цягнецца на конях чарада рознамасных вояў, не асмеліліся нават гарэзаваць.

Запанавала такое маўчанне, што чуліся толькі конскі тупат і плёск вады, а з крэпасці даносіліся водгук удараў малаткоў па кавадле, дзіцячы плач і крык-галас разгневанай жанчыны.

– Не жадаеце павітацца? Тады слухайце і "внимайте!". Гэта ідуць палкі слаўнага цьмутараканскага князя на Кіеў. Князь Мсціслаў будзе вырашаць спрэчку з няправедным братам Яраславам. Як бачыце, раць ідзе не проста вялікая, а вялізная. І многія воі загартаваныя ў лютых сечах.

Але сіла гэтая не зробіць вам ніякай шкоды, калі вы праявіце асцярогу і розум. Ваш цяперашні ўладар Яраслаў зноў будзе біты. І на гэты раз ужо мо так, што не здолее вярнуцца ў Кіеў. То апусціце мост, адчыніце вароты, павітайце слаўнага палкаводца і дайце яму клятву на вернасць. Ваша ж непаслушэнства, упартасць прынясе вам толькі шкоду. Асады вы не вытрымаеце. Горад мы хутка возьмем. А тады вам будзе цяжкая расправа, а многім – і палон, рабства. Рашайце. Даем вам час, пакуль сонца не апусціцца на вунь той высокі дуб, – паказаў за сваю спіну. – Калі за пару гэтую не выйдуць да нас ваш пасаднік і тысяцкі, мы пачнем штурм! Час пайшоў!

Ён павярнуў каня і вярнуўся да Мсціслава, сказаў:

– Твары ва ўсіх ажно белыя. Думаю, не будуць супраціўляцца. Добра бачаць марнасць гэтага.

– Што ж, – адказаў ён. – Пачакаем.

Праз паўгадзіны на бліжэйшай сцяне некаторыя разявакі расступіліся і на вольным месцы заявіліся два мужчыны. Адзін у белай, а другі ў ружовай кашулі. Мабыць, гэта і былі пераяслаўскія старэйшыны. Яны з прыкладаннем рукі да лоба доўга агледжвалі прасторы вакол горада, што ўсё больш і больш апынаўся ў аблозе. Не меўся Мсціслаў руйнаваць крэпасць-абарону ад стэпавікоў, але прыпалохаць не замінае! Нейкі час там раіліся. Потым дзверы адчыніліся, і з варот выехалі на кані тыя два мужчыны – сярэдніх гадоў, вусатыя. Белакашулісты быў з пасмай-селядцом чорных валасоў на выгаленай буйнай галаве, у малінавых шараварах, суседні, сівы, у чорных партах. Перад імі апусцілі мост. Але ўслед за імі зноў паднялі. Гаспадары пад'ехалі. Сталі. Абодва з асалавелымі вачыма, чырвонашчокія. П'яныя.

– Як паводзіцеся са слаўным князем, нашчадкам князёў слаўных?! – зычна затрубіў на іх Серафім. – Далоў з коней!

Спаўзлі.

– І на калені!

Памарудзілі. Ды апусціліся.

– Служакі! – хоць не так, як Серафім, але таксама моцна падаў голас Мсціслаў. З непадробным дакорам. – У светлы дзень вінапіўнічаеце! Хіба здольныя не толькі дбаць пра град свой, але і абараніць яго ў небяспеку! – Замахнуўся на аднаго і другога бізуном. Тыя баязліва ўгнулі галовы, пачалі засланяцца рукамі. – Ад мяне абараняцца не трэба. А каб быў хто іншы!.. Нядбайцы! Адзін вам паратунак: ідзіце і выводзьце ўсіх мужчын мне на прысягу! Канечне, без зброі. Іначай будзе мой загад пазбавіць вас жывата! Усё! Пайшлі!

Як маглі, падхапіліся на аслаблыя ногі. А калі паспрабавалі ўздзябурыцца кожны на свайго каня, ён павысіў голас:

– Куды?! Пешшу!

Зацерусілі подбегам. Зніклі за варотамі. Не загадалі іх зачыніць. Хутка першыя пачалі выходзіць воі (без даспехаў), за імі – звычайныя насельнікі, кавалі, ганчары і гарбары ў скураных халатах ніжэй калень. Зразумела, не абышлося і без цікаўных дзяцей і жанчын. Урэшце сабраўся вялікі натоўп у некалькі соцень.

Калі Мсціслаў пад'ехаў да рова, перад ім апусцілі мост. Ён перадаў Серафіму згорнуты пергаментны скрутак.

Той разгарнуў яе і медзяным голасам па-глашатайску:

– Увага! Слухайце Грамату доблеснага князя! "Есмь Мстислав – князь Тмутараканский, сын Владимиров, внук Святославов, правнук Игоря

из изначального рода Руси Рурика. Иду на Киев покарати Ярослава за неуважение к обычаям отцовских и дедовских, за попрание прав моих княжеских и наследных. Хочу доброй вашей волею поимети Переяславль. Иначе возьму силой и с градом поступлю по своему усмотрению!”

Пераяслаўцы назіралі за ўсім і слухалі не з радасцю – паныла: ім жа трэба было не проста прысягаць новаму ўладару. Здраджваць яшчэ цяперашняму! І адзін Бог ведае, хто з іх пераможа! Гэты незнаёмы ім Мсціслаў ці Яраслаў! Пры першым ацалееш цяпер і пасля, а калі ён будзе пабіты?.. Значыць, кара будзе пазней! Князі сварацца, б’юцца, а небалазь найперш іхнім падуладным!

– Айцы-старцы мудрыя! – пачаў сваю казань Мсціслаў. – Мужы знатныя! Воі мужныя! Майстравіты рамесны люд! Аратаі! Отракі! Як бачыце і чуеце, пачаў я з вамі знаёміцца, гаворку весці праз грамату сваю вельмі сярдзіта. Але я не хачу вам прынесці аніякага зла. Я найперш засцерагаюся таго, каб вы не нанеслі мне ўдар у спіну. Таму бяру вас пад свой назірк і пад сваю дзясніцу. Як бацька над чадамі. За добрае пахвалю, за злое пакараю. Я не бедны, то не буду пабольшваць з вас даніну. Жывіце, працуйце так, а то і лепш, як жылі, клапаціліся дагэтуль. Калі ёсць якая несправядлівасць, смела кажыце мне. Сёння ў нас з вамі – веча. Усіх паслухаю, суд на месцы ўчыню. Тысяцкага вашага забіраю. Няхай сабярэ дружыну і – за мной. Паглядзім, дзе ён спраўны вой: за вінапійным сталом ці ў баі! Што скажаце пра свайго пасадніка? Годны ён ці не?

Слухалі “безропотно и безмолвно”.

– Кажыце смела праўду. Я і за гэта нікога не пакараю, і пасаднік пасля майго ад’езду не пасмее вас зачапіць, іначай страціць не толькі ўладу тут, але і сваю галаву! – натхніў на смеласць. Ды і хітраваў крыху: калі князь суровы ды за справядлівасць, то ён разумны і добры! – Што – задаволеныя ці сярод вас няма смелых? Тады чакаю ад вас прысягі. Хто застанецца стаяць, той “противу” мяне! Хто перахрысціцца і стане на калені, той – мой падданы! Хто верай і праўдай служыў Яраславу, не зачаплю. Гэтак жа цяпер служыце і мне. Усё!

Перазірнуліся, а пасля моўчкі асянілі сябе крыжаваннем, а пасля ўкленчылі. Застаўся стаяць толькі стары святар у чорнай сутане, з сярэбраным крыжам у паднятай руцэ.

– Ты, святы айцец, супраць?

Той блаславіў крыжам яго, Мсціслава, і ягонае воінства, а потым укленчаны люд.

– Пасаднік, – паклікаў Мсціслаў, – паказвай “мое гощение” ці “погост” (месца прыпынку для князя ў час збору ім даніны)!

Пасля “велел” адарыць усіх сваіх і без бітвы: простых вояў – па грыўні, дзясяцкіх – па 10 грывен, тысяцкіх – па 20. Туген да ранейшых пярсцёнкаў для сябе, жонак і дачок, мяча з сярэбраным ахарошваннем рукаяці займеў золата, конскую збрую ў срэбранай аправе.

## 4.

Пакінулі за сабой даволі нечакана напалоханы і прысягнуты Пераяслаў (каля яго дужаліся волат-печанег і выбраны Уладзімірам сын кажамякі; Туген праехаў узбоч гэтага горада ціхмяна, не падаў і голасу пра тое адзінаборства) і, не спяшаючыся, пераадолелі, канечне, для многіх хвалючыя 80 вёрст (у той час ганец-скараход, змяніўшы двое ці трое шпаркіх ко-

ней, мог пераадолець іх амаль за 4 гадзіны). Спыніліся непадалёку Кіева. Як казалі, іхні, Рурыкавічаў, прашчур, князь Алег, назваў яго "матерью городов русов": ён узвысіў горад па-траякаму. Каб адсюль "рядить" Русcю (князь – "нарядник" зямлі), мець тут шчыт ад нападу стэпавікоў і зборнае месца для лодак, каб на іх падавацца гандляваць з Візантыяй ці і нападаць на яе водным шляхам. Таму была і ёсць важнасць валодаць менавіта Кіевам: ён з Ноўгарадам, Поўдзень і Поўнач – два канцы адной доўгай вяроўкі, імя якой Русь (Полацк – убаку, сам па сабе). Цяпер яму, Мсціславу, канечне, прыйдзецца ўзяць Поўдзень і даць бой Поўначы з яе саюзнікамі-варагамі.

Той, часу ягонага маленства, Кіеў Мсціслаў амаль не запомніў. Да гадоў пяці бавіўся з маці Рагнедай у яе сяльцы на Лыбедзі; пасля, калі яе з іхнім старэйшым родным братам Ізяславам саслалі на крывіцка-дрыгавіцкі памежак, яго, Мсціслава, забралі сюды, да бацькі, але пабыў тут няшмат. Як толькі пачаў насіць невялікі меч, навучыўся трымацца верхам на кані, дык і павезлі яго ў Цьмутаракань. Таму не надта запомніў тое, што Кіеў распасцёрся на пагорках, абкружаны земляным валам, драўлянай агародаю і дрэвамі. Цьмяна ўяўляў прабабулін, а потым і іхні кіеўскі церам – доўгі час адзіную каменную будыніну, шматлікія святліцы ў ім, грыдніцу, адкуль часамі, на баляванні Уладзіміра з дружыннікамі, разносіліся вясёлыя гоман і смех, ізбу (жыллё з ацяпленнем, з дыванамі), клеці (пакоі, дзе, як і ў загароднім Берастове, жылі толькі летам), а паміж клецямі – пераходы-намосты, сені з ганкам; там калі-нікалі сядзеў на шыкоўным крэслетроне бацька, прымаў просьбітаў і "суд рядил". Былі вежы (гарышчы), галубнікі, мядушы (там берaглі мёд), бяседы (лаўкі для знатнага люду), у дварах летам стаялі вазкі, а зімой – сані; простыя і з хаткамі. За дварамі знаходзіліся канюшні. Даносіўся пах варыва ад катлоў, смажаніны на вуголлі. Падавалі смачныя кісялі з сытай. Зрэдку чуўся залівісты сабачы брэх, калі выжлаў спускалі на ловы (палявалі і з ястрабамі ды сокаламі). Шмат бегатні, гоману, смеху, песень, а часта і плачу было ў слуг – отракаў у шырокіх партах, ботах і лапцях, отракавіц у сараванах з паддзёўкаю, з колцамі ці з ланцужкамі на шыі, з каралямі з зялёнымі пацеркамі... Як гавораць сведкі, кіеўскі церам-хорам быў і ёсць багаты.

Такое запомнілася жыццё восенню, зімой і вясною ў горадзе, бо ўлетку яны, дзеці Уладзіміра і Рагнеды, – Ізяслаў, Яраслаў, Прадслава, ён, Усевалад, а пасля і малодшанькая, Праміслава – бавілі час у матчыным сяльцы на Лыбедзі, дзе ўсё было іншае. Найбольш у тым, што яны пад назіркам маці і няні цешыліся вадой і са здзіўленнем назіралі за басаногімі, мурзатымі, добрымі і злымі дзецьмі з сяльца. Па часе разлучыліся, бачыліся рэдка: калі Ізяславу, а неўзабаве і Яраславу споўнілася сем гадоў, калі іх пачалі вучыць запамінаць пра вядомых продкаў Рурыкавічаў, налоўчваць ездзіць на кані і спазнаваць далячыні, іх забралі да бацькі, дык яны былі пры ім, пры знатных дружынніках у горадзе ці ў яго любімым Бераставе. Праўда, бацька час ад часу наведваўся ў Лыбедзь, прывозіў ім, малодшым, падарункі, начаваў у Рагнедзінай спачывальні і з'язджаў.

Маці ён, Мсціслаў, помніць толькі так, як можна запомніць сон: калі бунтоўных яе і Ізяслава адправілі з Кіева ў полацкі край, яму было толькі пяць гадоў. А калі і яму надышло сем гадоў, яго таксама перавезлі "пад бацькаву дзясніцу" навучаць на воя, палкаводца і князя. Таму найбольш запомніў бацьку, Яраслава, менш – Прадславу, малодшых Усевалада і Праміславу, ім маці замяніла незамужняя пястунка-нянька Любка (у свой час

яна прыехала з Рагнедай з Полацка як яе пакаёўка). Любку перахрысцілі на Агапу (у маленстве яны называлі яе нюняй). Яна хораша захавалася ў яго памяці іменна як Любка – маладосцю, красой, вясёлым норавам, дабрынёй. Яна ачароўвала іх сардэчнымі песнямі ды казкамі-былямі. І не толькі іх, малечу. На яе жарсліва пазіраў бацька і стараўся залавіць яе адну ў якой святліцы і прыціснуць да сябе.

Доўгі час здавалася: іхняе ўсіхнае жыццё ў Кіеве, Лыбедзі і Бераставе было вельмі шчаслівае. Але потым, пасталелы ў Цьмутаракані, калі пачаў разважаць ды свядома слухаць іншых, то зразумеў: не, не ўсё было бясхмарнае. Асабліва для іхняй мілай маці-гаротніцы (яе называлі і Гарыславай – “гарэць славай”, але яна, бедная, болей гарэла горам). Першая бацькава жонка, варажка Алогія (яе лічылі вяшчункай; казалі, бацька не любіў яе, прыкідваўся, што захоплены яе розумам і прадбачаннямі, часамі ліслівіў перад ёй – з-за яе радні з варагамі, якія “пасадзілі” яго ў Кіеве і ад якіх пазбавіўся толькі хітрасцю), – дык вось Алогія адносілася да Рагнеды раўніва за яе хараство, але цярпіма. Трэцяя жонка, Яраполкава ўдава Мілаліка (яе, манахіню, з Балгарыі вёз сабе Святаслаў, а потым “сасватаў” сыну) за ўсе свае крыўды, тым больш за тое, што, нашмат старэйшая, не магла быць самай любімай ва Уладзіміра, не проста раўнавала, а неўзлюбіла самую мілую і жаданую, гордую палачанку Рагнеду. Яшчэ найперш дзеля дынастычных шлюбаў (каб мацней пасябраваць з моцнай тады Чэхіяй) жонкамі Уладзіміра былі шанавітыя для Рагнеды багемка Малфрыда і мараўка Адэль (яны нарадзілі Уладзіміру кожная па два сыны, але тыя не пакінулі пасля сябе яркага следу).

У духу Мілалікі-маці з маленства фанабэрыўся і яе сын Святаполк: ён, бачыце, – не Уладзіміраў, а нашчадак старэйшага сына Святаслава Яраполка, дык найперш яму выпадае стаць першым пасля смерці Уладзіміра. У Кіеве і Бераставе прыніжаў, лупцаваў сына Алогіі Вышаслава, Ізяслава, а пазней і Яраслава ды яго, Мсціслава. Але нядоўга. Ён, Мсціслаў, маладзейшы за ўсіх, хутка паказаў: моцныя кулакі – не апошняя рэч, пачаў не толькі абараняцца, але і заступацца за старэйшых братоў, дык неаднойчы Святаполк выціраў далонямі ці рукавамі кроў з-пад носа. То змоладу княжычы ведалі: не чапляйся да Мсціслава – не будзе прыдзірацца і ён, палезеш сляпіцаю – паспытаеш кухталёў.

“Маладыя пеўнікі! – бачачы сыноўскія бойкі, ацяшаўся падпіты бацька і, бывала, прытуляў найперш яго. – Маладзейшы, ды не саступаеш крыўдзіцелю! Малайчына! Так і трэба! Табе далі раз – ты смаляні два-тры разы! Хоць, дзеці, вы ж – браты. Вам трэба жыць у любові і згодзе, быць мне верным апірышчам. З маімі ворагамі. А іх нямала вакол”.

Старэйшых сыноў бацька разы два браў з сабой у баявы паход. Зразумела, у бой яны яшчэ не ўступалі. Найперш павінны быліназіраць, вучыцца і не баяцца праліваць чалавечую кроў...

Калі ў Кіеве заявілася Ганна, то іх, сыноў Уладзіміра ад ранейшых жонак, хрысцілі і з пестунамі (выхавальнікамі) разаслалі па розных валасцях-удзелах. Затым яна зажадала, каб пасля смерці Уладзіміра вялікім кіеўскім князем насуперак былому звычаёваму праву стаў яе першынец Барыс. Потым ён сам адмовіцца ад такой вялікай ушаноты, але і велізарнай ношкі, саступіць старэйшаму, Святаполку. Ды і, нявінны, загіне і сваёй ахвярнай крывёю не ўратуе ад братазабойчасці і кровапралітных войнаў... Вось і ён, Мсціслаў, ідзе на брата: не прывык саступаць крыўдзіцелю...

Цяпер кінуліся ў вочы і іншыя, новыя тут будыніны – цэрквы (але не большыя, чым у Цьмутаракані), мноства новых домікаў з гліны і пабеленых мелам, з камышовымі стрэхамі – як чуў, дрэва, асабліва будаўнічае, тут у вялікай цане, яго сплаўляюць плытамі па Дняпры з чарнігаўскіх і яшчэ далейшых, прысожскіх, прыбярэзінскіх, а то і смаленскіх лясных мясцін. Што асобнымі, звязанымі бярвёнамі, а што ўжо і зрубамі, толькі разабранымі. Сюды, мінаючы невялікія паселішчы, дзе люд ад іх хаваўся ці падаў ніцма, да вымашчанай распалавіненымі бярвёнамі прыстані, Мсціслаў з Тугенам падышлі са свежымі сіламі ды запыніліся: лодкі, паром былі толькі на тым беразе – мо кіеўляне і ўведалі неяк пра іхні паход, засцерагліся, хоць перад горадам і на крапасной сцяне ніякага неспакою не было відаць, толькі каля лодак і парома варушылася некалькі чалавек. Вось паднялі галовы, заўзіраліся. Мсціслаў дазволіў усім спешыцца і размяць ногі, а сам сядзеў на кані, глядзеў туды і не зусім разумеў, як, што і чаму адбываецца. Гэтая кіеўская ціхамірнасць яго насцярожвала: мо яна – заманлівая пастка? Яраслаў прывык не столькі для адкрытых баёў, колькі для вычэквання, выведкі і ўдараў у спіну! Як колькі гадоў таму непадалёку тут, пры Любечы, іменна ўночы абрушыўся на сонныя дружыны Святаполка і Тугена. Не, ён, Мсціслаў, не дапусціць такога. Бой! Адкрыты бой!

– Ну што, сотнік, скажаш? – запытаў у блізкага, таксама яшчэ коннага Серафіма. – Чаму такі спакой там? Нібы ўвесь горад схаваўся ўцяньку ад гарачыні.

Той пацiснуў плячыма:

– Мо і яны, як пераяслаўцы, не ведаюць, што мы ідзём? Пераяслаўская ж старожа не змагла перасцерагчы.

– Тады якая цана іхняй, сваёй, старожы. Што ж, зноў давай волю свайму горлу. Пракрычы: я клічу князя Яраслава на гэты бераг для апошняй перамовы.

Серафім прагарлапаніў, замахаў рукамі: князь Яраслаў, сюды-сюды, да нас! Мо і пачулі. Адзін з тагабярэжных лодачнікаў падаўся да варот і неўзабаве схаваўся за імі. І надоўга. Потым выйшаў, перамовіўся са сваімі, і яны яго аднаго ў лодцы адштурхнулі ад тамашняй прыстані. Пераплыў. Накіраваўся да Мсціслава. Маладжавы, высокі, чарнявы, у простым, заношаным палатняным на нагах і плячах, але з разумным позіркам цёмных вачэй. Нізка пакланіўся:

– Здраствуй, князь.

– Ты ведаеш, хто я? – сурова запытаў ён.

– Ты – славній князь Мсціслаў, брат славняго вялікага кіеўскага князя Яраслава.

– Адкуль у Кіеве ведаюць, што якраз я прыйшоў сюды? – нецярпелася запытаць Мсціславу.

– Цяпер ведаюць, – адказаў той. І абачліва. І касіў налева, направа вочы: колькі тут прыбылых вояў? Чым і як узброеныя?

– А раней? Учора? Чакалі?

– Тое мне няведама, князь. Дзела маё малое: лодкі ганяць.

– А што “велено” табе мне перадаць?

– Яка твае жадання, князь?

– І гэта я павінен тлумачыць... табе?

– Што ты, князь світлы. Я толькі павінен перадаць твае словы.

– Каму?

– Ваяводзе.

– Чаму – яму? А не вялікаму князю? – ужо зазлаваў Мсціслаў.
– Він... Са мной гаварыў ваявода Дзмітро.
– Дружыны ёсць у горадзе?
– Е, князь.
– Свае? Варагі?
– І свае, і варагі.
– Многа?
– Многа.
– Гатовыя да абароны?
– Гатовыя, князь.

Значыць, уведалі пра ягоны паход. Канечне, кіеўская старожа, якую яны не заўважылі, аказалася пільнай, паспела перасцерагчы. А гэты перамоўшчык – зусім не лодачнік: у простых шараварах і кашулі-власяніцы, але чысты, з дагледжанымі валасамі, вусікамі і барадай. Дый па хітрым позірку, па недамоўленай манеры гаварыць відаць: не з простых, мае ўваход у палаты знатных.

– А ты не той, за каго сябе падаеш, – строга прамовіў Мсціслаў свае думкі ўголас. – Ваяводаў давераны дружыннік? Выведнік?

– Не. Кажу ж, лодачнік я, князь. – І, зноў схіліўшы галаву: – Што мне перадаць ваяводзе?

– Я чакаю слова самога вялікага князя. Так і скажы, “лодачнік”: сло-ва! Пасля гэтага будзе мой сказ! Запомніў?

– Запомніў, князь. Дазволь вярнуцца на той бераг?

– Вяртайся. Але дадай ад мяне: я доўга чакаць не буду. Я змагу перадолець і гэты Дняпро! Даю роздум на паўсуткі. Да заўтрашняй раніцы. Мы не будзем чакаць, пакуль Дняпро замерзне. Пачнем і цяпер пераправу. І яшчэ скажы: у маім воінстве – ясы, касогі, хазары, печанегі... На іхнюю літасць не трэба спадзявацца! А калі ўздумаеце вадзіць мяне за нос, то ў многіх пасля паляцяць галовы! Усё!

Пад’ехаў Туген. З невялікай аховаю:
– Ну што, канязь-брат?
– Пачакаем, хан. Да заўтрашняй раніцы.
– Дык пойдзем усё-такі на штурм?

”Возьмем і зруйнуем гэты пракляты Кіеў!” – нібы пачулася Мсціславу. – Толькі мне Кіеў не чужы і не паганы! Родны! Дык трэба паспрабаваць абыйсціся без крыві і разбурэнняў. Але няўжо Яраслаў не пашкадуе свой люд? Няўжо ўлада вялікая асляпіла і аглушыла яго?!”.

– Пачакаем, хан, – паўтарыўся. – Не так проста з наскоку ўзяць добра ўмацаваны горад. З ім нам яшчэ прыйдзецца павалодзіцца... І да свайго дворскага: – Вось што, баярын. Адпраў сваіх людзей па прырэчных паселішчах. Няхай шукаюць лодкі ды ладдзі. І рэжуць лес на плыты, сцягваюць бярвёны вышэй Кіева і ніжэй Белгарада. Там, дзе Перавоз.

...І падоўжылася. Калі Мсціслаў у перадвячэрнім золаце яшчэ не зусім згаслага дня пакінуў пры Дняпры старожу, а сам, апаласнуўшыся ў славутай, роднай рацэ да пояса, ад’ехаўся і загадаў ставіць шацёр, зноў заявіўся “лодачнік”. Мсціслаў сядзеў паблізу свайго шатра на звязках белага лямцу (гэта было тронам для Тугена) і моўчкі, з усёй душэўнай напоўненасцю назіраў, як знаёма, але і па-новаму апускалася за зямлю вялікае падчырвоненае сонца, пакідаючы ясную, яшчэ зусім не прыцемненую віднату. Хоць ноч можа ўпасці хутка.

– Князь, дазволь гаварыць, – нізка схіліў голаў кіеўлянін.

Мсціслаў толькі хітнуў галавою.

– Вялікі князь кіеўскі Яраслаў жадае ведаці твае, як він сказав, “читкое поясненне” и “вимоги”(патрабаванні, умовы), кліча цябе на перамовы. Ладдзя з веслакамі чакае на гэтым беразе.

Мсціслаў як пачаў пазіраць на перамоўшчыка пільна, так і прадаўжаў глядзець засяроджана. Мог хмыкнуць, ухмыльнуцца : ведаю я даверлівыя паходы на перамовы нават у братаў стан! Якраз так, з угавораў ваяводы Блуда і са сваёй шчырасцю, зайшоў да бацькі Уладзіміра яго зводны брат Яраполк! І што? Таго тут жа праткнулі мячамі! Дык і яму рызыкаваць, лічыць, што брат Яраслаў, які столькі змучвае, не загадае цяпер утапіць у Дняпры альбо ўмярцвіць у горадзе? Пакуль што ён не вызначыўся вялікай высакароднасцю. Найперш – самалюбствам, уладапрагай, карыслівасцю.

– Вялікі князь дае слова, што...

– ... што не ўчыніць майго забойства? – толькі ў гэтую хвілю пасміхнуўся Мсціслаў. А потым: – З табой гаварыў ён?

– Не. Мне так сказаў наш ваявода. І яшчэ мне загадана сказаць. Грэх вялікі ты на сябе бярэш! Своеумець (самавольнік) ты. Ідзеш проці старэйшага брата, князя вялікага, і нечысцівых з сабой вядзеш! І дарэмна задумаў штурм Кіева. Яго табе не ўзяць. Ён доўга вытрымае тваю асаду: вояў у яго многа і запасаў ежных шмат.

– І чым яшчэ табе *повелели* прыстрашыць?

– Каб ты спаўняў волю старэйшага брата і вялікага князя. Ты яе ведаеш. Дык вось і вісноўка: будзь за суспільства!

– Тады скажы свайму самаўпэўненаму ваяводзе мой сказ: я не вольнамыслем аслеплены. Я ведаю беззаконную волю майго старэйшага брата і вялікага князя, ён добра знае маю думку пра тое. Не хоча ў міры і згодзе паступіць справядліва – справядлівасць возьме верх мячом! Усё! Больш языкачосіць я не буду! Хоча брат вайны – будзе мець яе! А з ім і ўвесь кіеўскі люд! Я ішоў сюды столькі соцень вёрст не для таго, каб саступаць, пладзіць несправядлівасць і беспакаранасць!

Упэўніўшыся, што Яраслаў не проста марудзіць, а хітруе, Мсціслаў *ужо з пачатай ім вайною* паслаў сотнікаў з ясамі, касогамі ўверх па Дняпры. Наладзіць пераправу і адсекчы, калі будзе, помач Яраславу па тым беразе ад Чарнігава і Любеча.

Назаўтра, пахмурнаватай і дробнамораснай і трошкі туманістай ад Дняпра раніцай, Мсціслаў, канечне, яшчэ не мог пачаць асаджваць Кіеў, але ўжо са світання пад ягоным назіркам закіпеліся работай па гэтым. Як было бачна, Яраслаў не збіраўся першы нападаць, але насуперак яму спусціў уніз па цячэнні ад Кіева ўсе плаўныя пасудзіны (каб яны іх не захапілі), апроч некалькі невялікіх лодак і адной вялікай, на чалавек сорак, ладдзі. Перасеклі канаты і таксама адправілі ў вольнае плаванне паром з вялікай пляцоўкай для люду і коней. Значыць, Яраслаў рашыў не выходзіць з Кіева. Абараняцца. Што ж, трэба нападаць яму.

Праз пару дзён ужо можна было пачаць пераправу. Калі на гэтым, левым, беразе навідавоку па-ранейшаму непарушнага Кіева пачалі падводзіць коней, каб воям сесці ў лодку, паплыць на ёй, падтрымліваючы повадам над вадой галаву свайго каня, з варот таго берагу выйшаў гурт (мо чалавек і пятнаццаць) вяльможнага люду і накіраваўся да тых пакінутых

сплаўных пасудзін. Быў сярод іх Яраслаў ці не? Не пазнаць. Брат, але ж развіталіся малымі дзецьмі! Тыя замахалі рукамі – едзем да вас. Паселі ў ладдзю, лодачнікі павезлі іх сюды.

Дзеля чаго?

Мсціслаў узмахам рукі прыпыніў пачатак пераправы. Вось кіеўскае пасольства пачало сыходзіць на прыстань. Амаль усе – люд сярэдняга і старэйшага веку, у абцягнутых і аблямаваных знізу скуркаю невысокіх і паўкруглых нагалоўніках, у рознакаляровых даўгаполых кунтушах-каптанах з адкіднымі рукавамі, сарочыцах і безрукаўках, пад колер адзення саф'янавых ботах. Маладзейшыя безбародыя, толькі з буйнымі, абвіслымі па баках вусамі, у старэйшых – вялікія бароды, у каго гладкія, ужо сівыя, а ў іншых яшчэ чорныя і кучаравістыя ці дбайна падстрыжаныя. Наперад выйшла трое – адзін з вялікай залатой падвескай (знак асаблівай падзякі князя), другі – з мячом у пасярэбранай похве, трэці – у клабуку, васількавага колеру мантыі, з нагруднай абкладзенай жамчужынамі панагіяй на залатым ланцужку. Значыць, першы – ад старэйшын, другі – ваявода, трэці – высокаслужны святар, мо і епіскап. Калі апынуліся паблізу, з іх выімкнуўся пажылы, невысокі, з адвіслым жыватом, буйнавусісты таўсцюк з шыкоўнай падвескай, сцягнуў шапку, агаліўшы ці не паголеную галаву з вузкай і доўгай пасмай сівых валасоў.

– Рада старэйшын кіеўскіх вітае цябе, слаўны князь Мсціслаў, – нахіліўся ў паклоне. – Шмат чулі пра твае вялікія подзвігі, вартыя подзвігаў тваіх слаўных бацькі Уладзіміра і дзеда Святаслава.

Мсціслаў непарушна слухаў пашанотнае, найперш дзеля прыліку вітанне, акідваў позіркам прыбылы знатны люд і заадно назіраў, як слугі выносяць з ладдзі дываны, разгортваюць іх пад высокім і густалістым дрэвам, ставяць на іх карчагі з вінам, розную ежу. Пашанотнасць таўсцюка зразумеў па-свойму: "лодачнік" сказаў таму пра яго, Мсціслававу, строгасць, дык вось і трэба лагоднічаць з ім.

– Я, князь, пасаднік кіеўскі. Андрэй.

– Не чуў, што пры жывым вялікім князі ў Кіеве ёсць і пасаднік, – без вітання ў адказ падаў голас Мсціслаў.

– Вялікі князь Яраслаў хворы, дык даручыў мне ў скрутным часе ладзіць.

– І з якім "ладам" ты прыбыў да мяне?

– Ты ж, князь, адмовіўся наведацца ў Кіеў, то мы прыбылі на перамовы.

– Гавары. Толькі дзелавое.

– Яраслаў перажывае дужэ боляче. Він ужо мае досвід вялікакняжання і вміння, а ты... Нашчо долі (цяпер) чвары (разлад)? Які твой намір? Для чаго ты прывёў сюды такую вялікую сілу?

– Слухай ты, пасаднік! – паківаў пальцам і ледзяным голасам працадзіў Мсціслаў. – Не гуляй у кошкі-мышкі! Вялікі князь Яраслаў добра ведае, чаму і чаго я тут. Дык і ты можаш тое-сёе знаць.

– Ты ж не ў госці да нас па дарозе ў Мурам? – запытаў, патайна папікаючы, перамоўшчык.

– Ён ведае мой адказ і на гэта. Мурам мне непатрэбен! Таму і зусім лішняе перастарэкванне. Таму брат мой сам сваёй упартасцю наклікае на вас вайну! Я ж перадаваў учора: я ішоў сотні вёрст сюды не для таго, каб пустапарожнічаць! Раней не меўся, а цяпер намерыўся: вазьму Кіеў!

Яго злосны, а то і бязлітасны тон моцна ўцяў гэтага Андрэя. Ён лісліва

заўсміхаўся, паказваючы на ўжо абстаўленыя ежаю і пітвом дываны, абмякла папрасіў:

– Давай, князь, падымем чару за тваё здароўечка ды пагаворым спакойненька.

– І не думай атруціць ці спаіць! – не апускаў грознага пальца Мсціслаў.

– Што ты, княжа! – перахрысціўся. – Што ты!

Падышлі да дываноў. З усіх бакоў іх ляжалі дыванкі для сядзення.

– Сюды, светлы князь. У галаву, – закланяўся Андрэй. – Святы ойча, блаславі. – А пасля: – Садзіся, князь. І нам дазволь мець гонар сядзець з табою.

Адпіў з налітай залатой чашы, падаў яе яму:

– За тваё здароўечка, князь-герой! За здароўечка!

Выпілі. Усе. Апроч блаславіцеля стала.

– Выходзіць, вы прыбылі сюды толькі для знаёмства і застольнай бяседы, – беручы кавал смажанай курыцы і хлеб, сказаў Мсціслаў.

– Чаму, княжа, – улагоджваў Андрэй. – Хіба ты не дбаеш пра родны табе Кіеў? Ну, возьмеш ты яго – вялікі князь Яраслаў пойдзе ў верны яму Ноўгарад і вернецца адтуль таксама з сілай немалой. І зноў – вайна. Ды ўжо якая па ліку! А Кіеў толькі што акрыяў пасля пажару вялікага, ад пагрому ляхаў.

– Дык і пашкадуйце яго, – адрэзаў ён. – Самі!

– Канстанцін, сын слаўнага Васіля (першае імя – Мсціславава пры хросце, другое – бацькава), – падаў гучны голас смуглы, чарнавокі, сыты, як адкормлены баярын, вялікабароды епіскап (калі быў у Візантыі, ён, Мсціслаў, вельмі здзівіўся, што там царкоўная іерархія зусім не бядняцкая, як Хрыстос, а выпешчаная, прагавітая і да свецкіх улады і багацця. Па-свойму знатная верхавіна ў дзяржаве, суперная з самім базілеўсам). – Май благаразуміе. Грэх вялікі ісці бранню (вайной) на брата. "Имейте в собе любовь, понеже вы есть братья единого отца и матере", да "Бог будет в вас", а "егды будете ненавидно живуще, в распрях, то погибнете сами и погубите землю отец своих и дед своих" (задвухкоссенае з перададзенага летапісцамі вуснага "Наказу" Яраслава – *Г.Д.*). Дамоўся з ім па-братняму. І, праўда, пашкадуй сэрца Русі – стольны град Кіеў.

– Божыя словы твае, святы ойча, – ужо спакойна сказаў Мсціслаў. – Але іх ты павінен сказаць і вялікаму князю Яраславу. Найперш ён наклікае вайну. Хіба не так? Нас, Уладзіміравічаў, толькі трое засталося! А ён нас дваіх, асабліва мяне, трымае на задворку. Благаразумны ён?

– Владалюбіе і гардавусіе, сын мой, не лепшае, што ёсць як у простага смерда, так і ў князя.

– А што павяло Яраслава выступіць супраць бацькі? А потым насуперак Святаполку? Не гардавусіе? – застрожнічаў і з епіскапам Мсціслаў. – Які не быў Святаполк, але ён жа законна стаў вялікім князем кіеўскім! І наколькі я ведаю, вы ўсе прысягнулі яму. Не ён прынёс Кіеву адну і другую вайну! На іх яго змусіў іменна Яраслаў! А вы... Хто перамагаў, таму і прысягалі! Чатыры разы за кароткі час! Двойчы – Святаполку (1015, 1017), і таксама два разы – Яраславу (1016, 1019).

– Прызнай, сын мой, вялікага князя Яраслава "в отца место", – настойваў на сваім епіскап, ведаючы, што яму, святаслужніку, нічога не пагражае.

Мсціслаў не вытрымаў ад абурэння, яхідна ўхмыльнуўся і закруціў галавою:

– Я і табе, святы ойча, пра тое, што мне плююць у твар, а ты: дождж

ідзе!.. Дык і з табой не буду перастарэкваць. Наш іерэй прызнаў мой паход справядлівым і блаславіў яго. Калі ты, як кажаш, за благаразуміе, то не толькі ўшчуваннем мне памажы пазбегчы вайны. Многага я не прагнуў! Зусім не пасягаў на кіеўскі стол! Але калі брат так мяне ўніжае, то не магу не правучыць яго. Ён змушае мяне і пра вялікакняскаць падумаць! Усё! Перамовы лічу скончанымі! Ці адчыняйце вароты ў стольны град, ці рыхтуйцеся да няўмольнай і няшчаднай асады! Трэцяга няма!

У гэты час пачуўся паблізу шум. І які гэта быў шум! Не проста шолам ці гамана, а галас, як стане вядома праз хвіліну, *лёсавызначальны*! Мсціслаў азірнуўся: яго отракі не пускалі сюды упацелага, з разбэрсанымі валасамі маладога незнаёмага отрака-воя. Мсціслаў паклікаў “суровым” пальцам свайго старэйшага дружынніка.

Той падбег і не ўголас, а шапнуў на вуха:

– Ганец. З Чарнігава.

Мсціслаў падняўся і адышоўся. Смуглы, невысокі, каржакаваты малойца ў ботах, каптане (па выпраўцы – дружыннік), з мячом на поясе і з бізуном у руках упаў перад ім на калені.

– Устань і гавары, хто ты і чаго тут.

– Князь, – прамовіў той задыхана. – Баяры чарнігаўскія рады цябе бачыць, вітаць хлебам і соляй. І просяць узяць іх пад тваю моцную дзясніцу. Выратуй нас ад Яраслававага насілля.

Вось як! Зусім нягадана! Што – мірна даецца тое, пра што прасіў і дзеля чаго сюды прыйшоў з раццю?.. Вось дык чарнігаўцы!

– Пасаднік і Яраслававы прыслужнікі – у порубе. Табе ў любую часіну пададуць ключ ад горада, хлеб і соль. Просяць: не марудзь. Пакуль не вярнуўся Яраслаў.

– Як? Ён у ад’ездзе?

– У Ноўгарадзе. Ужо тыдні два.

Мсціслаў абняў хлопца, тры разы пацалаваў яго:

– Ты, віцязь, навіну вельмі важную мне прыімчаў. Будзеш шчодра адораны.

Сапраўды, вестка нечаканая і неспадзеўная. Чарнігаў ёсць Чарнігаў. Мо і равеснік Кіева, Полацка, Смаленска і Ноўгарада. Нямала ўжо часу, каля 140 гадоў, падуладджваецца палянам, Кіеву (іншыя суседзі, дрыгавічы і вяцічы, залежныя ад Кіева нашмат пазней, гадоў каля 40 таму), але, бач, жыве былы гонар, гордасць ці самалюбства севяранаў, якія да Алега былі мо і вольныя, мелі сваіх князёў. Ці, як і радзімічы, да 885 года абмяжоўваліся выплатай даніны хазарам. Радзімічы не забылі свайго былога продка-князя Радзіма, паўсталі амаль на пачатку Уладзіміравага княжання, адмовілся плаціць яму даніну, за што паўстанцаў караў яго ваявода Воўчы Хвост, а севяране забунтавалі цяпер. І як? Каб ён, Мсціслаў, закнязіў у іх і пазбавіў іх ад няволі. Што ж, трэба паслухаць. Тым больш, што яму будзе ад іх падмога. Хоць, канечне, будуць абмаўляць, якая будзе ягоная ўлада.

– Дык што, князь, скажаш нашым баярам?

– Скажы: я згодны. Калі не толькі чарнігаўцы, але і ўсе севяране прысягнуць мне, то буду вашым заступнікам.

Вярнуўся, сеў на сваё месца. Не мог утаіць прыліў вясёлага настрою.

– Святы ойча, – прамовіў гулліва, паказаў рукой на застольнікаў. – Калі яны ўсе ашуканцы, подлы люд, дык ад іх гэтага трэба й чакаць. Яны палічылі: цяпер Яраслаў будзе правіць да скону дзён сваіх. Што там нейкі цьмутараканец! Вось і ратуюць сваю скуру: Яраслаў дараваў

раз, а каму і два, але цяпер, тройчы, ужо не спусціць. Але ці да твару хлусіць табе?

– У чым, сын мой?

– Пра хваробу Яраслава...

Той патупіўся, з дакорам зірнуў на пасадніка-перамоўшчыка.

– Дык чым хворы вялікі князь? – здзекліва запытаў. – На хітрыкі? Ці было б, па-твойму, благаразуміе, каб старэйшыны мяне заманілі ў Кіеў і забілі?

– Вялікі князь падаўся суцішваць наўгародцаў і падаўляць бунт у Суждалі, – пасля зацяглага маўчання прызнаўся Андрэй. – Там забунтавала "меря" (1. Гэтае фінска-угорскае племя ў Волга-Окскім міжрэччы стала асновай для Суздальскага княства. 2. "Суздальскае паўстанне 1024, народнае антыфеадальнае. Выклікана голадам. Узначальвалася волхвамі. Паўстанцы захоплівалі хлеб і забівалі мясцовую знаць. Задушана Яраславам Мудрым". – Паводле "Советского энциклопедического словаря", М., 1980. – *ГД*.). Мы, верныя падуладныя, перадавалі табе яго волю.

– А ўсё-такі чаго мяне заманьвалі ў град? – Мсціслаў рэзка, нават груба павысіў голас на Андрэя. – На благаразуміе? Ці на безуміе? Не на подлую расправу? Ну! Не лыпай зырачамі! Прызнавайся!

– Не! – Той збялеў. – Мы не збіраліся праліваць тваю кроў. – І пачаў апраўдвацца. Хлусліва: – Хіба ты пасля столькіх гадоў не хочаш пабачыць горад свайго маленства?

– А ты што скажаш, ваявода? – Мсціслаў паравёў позірк на таго. – Гатовы даць мне адпор?

– Я, князь, маю такі загад, – прызнаўся той. – Вялікага князя. Калі я не споўню яго волі, то буду здраднік.

– Што ж, правільна, талкова гаворыш, – Мсціславава ўхвала была нечаканаю для ўсіх. – Такі і павінен быць военачальнік! Хоць ведай сыход майго нападу: Кіева табе не ўтрымаць. Я, каб ты ведаў, слоў на вецер не кідаю! І прыйшоў з загартаванымі воямі.

– Ведаем пра твае перамогі, князь. Але і з табой біцца мы вымушаныя.

– У Кіеў вы мяне рана-позна ўпусціце, – пераканаўча сказаў Мсціслаў. – А там я рашу, з кім што зрабіць!.. Усё! Бяседа скончаная. Да новай сустрэчы! Ужо ў Кіеве! – І да Андрэя: – А ты застанься.

Прыезджыя падняліся, знерухомелі, запытальна ўталопілі позіркі ў ягоныя вочы: не праявілі ласкі вялікай, дык, канечне, ён не залюбіў гэтага. На тое і Мсціслаў – "помстай слаўны". Ды мо думалі: будзе кланяцца перад кіеўлянамі, ажно ён толькі патрабуе. І сурова.

– Ідзіце, пачакайце каля прыстані, – які раз махнуў рукою. – З галавы вашага пасадніка і волас не ўпадзе. Як у пасла.

– А можна, князь, пагаварыць з тваёй славянскай дружынай? – запытаў ваявода.

– Пра што?

– У тваёй дружыне і ў нас – не ўсе чужыя. Ёсць і родзічы. Яшчэ з таго часу, калі ты паехаў у Цьмутаракань, а з табой – нашы людзі. Дык засталіся калі не браты родныя, то стрыечныя дзяды і ўнукі, вуі, стрыі і сынаўцы. Дык чаму ім не пабачыцца?

Мсціслаў павярнуўся да Серафіма:

– У наш стан ваяводу не пускаць. Але пагавары з ім пра родзічаў. Сустрэцца ім не замінай. Нават можаш таму-сяму дазволіць наведацца ў

Кіеў. Усё, рада старэйшын. Больш часу на вас я не маю. Калі трэба будзе, я вас сам паклічу. Але ўжо не як паслоў!

Мсціслаў не запрасіў тоўстага, прыпацелага Андрэя прысесці. Няхай пастаіць.

– Што ты ведаеш пра маіх крэўных?

– Пра каго, светлы княжа?

– Пра лёс маці, брата Ізяслава, яго старэйшага сына і найбольш пра бацькаў я тое-сёе ведаю. Што чуваць пра сясцёр і брата Усевалада?

– Пра Усевалада, княжа, нічога. З таго часу, калі ляшскі князь Баляслаў са Святаполкам узялі яго Уладзімір-Валынскі. Ніякіх слядоў, ніякага погаласу.

– А што з сёстрамі? Мне казалі: іх паланіў Баляслаў і, калі пакідаў Кіеў, вывез з сабою.

– І лёгка, і цяжка мне, княжа, на гэта табе адказваць... – Заўздыхаў Андрэй.

– Гавары праўду. Я не люблю маны, – без суровасці, але строга прамовіў Мсціслаў і паказаў рукою: цяпер прысядзь насупраць. Той з ахвотай паслухаўся. З крэктам апусціўся на дол. Відаць, хворы на задышку.

– Цяжкая доля тваіх сясцёр, княжа... – Завохкаў.

– Ды не круціся ты, як уюн на патэльні, – у тым жа тоне павёў гутарку далей Мсціслаў. – Я ж сказаў: гавары пра ўсё так, як ёсць.

– Праўда, княжа, такая: бацька твой, прасветлы вялікі князь Уладзімір, так і не аддаў іх, дачок, замуж. Трымаў пры сабе і малых, і сталых. А старэйшую, красуню з красунь, Прадславу, хацеў мець за жонку ляшскі князь Баляслаў. І, канечне, трэба было аддаць яе за яго. Мо Баляслаў не быў бы такі злы на Кіеў.

– Думаю, ён усё роўна памагаў бы Святаполку, зяцю. Каб праз яго аслабіць моц Кіева, каб захапіць прыбужскія і забужскія землі.

– Мо-мо, княжа. А Прадслава ўпотай і пры бацьку, і пасля яго любілася з уграм Майсеем, братам знатнага дружынніка. Той, як кажуць, да апошняй кроплі крыві абараняў Барыса. Калі Святаполкавы воі яго пасеклі так, што і жывога месца нідзе не засталося, дык адсеклі і галаву. Каб зняць з шыі падораную тваім бацькам залатую падвесу. А брат яго, Майсей, быў прыгажун, разумны, добры, верны Прадславе. Баляслаў яго зняволіў, закаваў у кайданы, а Прадславу... Не паварочваецца язык гаварыць...

– Ну!

– Яраслаў перад бітвай з Баляславам на Бугу адправіў у Ноўгарад і сваю жонку, і Святаполкаву. Баляслаў хацеў абмяняць Прадславу і Прамiславу на запалоненую дачку. Яраслаў чамусь не ўчыніў такі абмен. Дык Баляслаў ссільнічаў Прадславу, а потым яе з сястрой павёз з сабою. Звёз і кіеўскую казну.

– А што цяпер чуваць пра сясцёр?

– Цяпер Прадслава ў чэхаў за іхнім князем. Але ад яе ніякіх вестак няма. Канечне, пакрыўдзілася... Яна ратавала Барыса, Глеба, Яраслава, а яе... Адным словам, не па сваёй волі апынулася ў руках яе гвалтаўніка і лютага нашага ворага...

– А Яраслаў? – узбурыўся Мсціслаў. – А вы, старэйшыны? Аддалі дачку Уладзіміра, унучку Святаслава на ганьбу!

– Такая была воля брата твайго... А вось у Праміславы, княжа, удала ўсё склалася. Яна замужам за ўгорскім князем. Маем ад яе навіну: нядаўна нарадзіла сына. Яраслаў паслаў ёй багатыя падарункі...

“Адкупіўся!”

– А ці жыве наша няня Любка?

– Жыве. Гадуе дзяцей Яраслава.

– Усё, – сказаў Мсціслаў, маючы жаданне пабыць сам-насам. – Можаш ісці.

– Княжа, – Андрэй прыклаў руку да грудзіны. – Скажы папраўдзе: ты ўсё ж намерыўся браць Кіеў?

– Ты ж чуў мой сказ.

– Ох, зноў бяда вялікая чакае Кіеў... – Закрактаў той. – Ты хочаш авалодаць ім, а брат твой не адступіцца. Значыць, новая і вялікая брань немінучая... І твае неславянскія воі, надта печанегі, будуць да нас асабліва бязлітасныя!..

Мсціслаў наўмысна ўстрымаўся сказаць, што сёння Кіеў ад асады *выратаваў*... Чарнігаў (гістарычны факт, наўмысна замочаны. – *Г.Д.*). Няхай не паспяць і падрыжаць хоць пару дзён да таго, як уведаюць пра яго новую мірную ўдачу і пра ягонае княжанне на землях севяранаў. А ён будзе яшчэ з большай упэўненасцю чакаць “спаткання” з Яраславам...

Калі падышоў Серафім і хацеў загаварыць, ён запыніў яго паднятым пальцам: памаўчы і пакінь мяне сам-насам тут, каля Дняпра і Кіева. А потым кіўнуў на амаль нечапаныя на дыване пітво і сакаўную ежу: забірайце, спажывайце кіеўскія дары. Мне ж пакіньце іншае права. Хоць вы лічыце, што я чалавек “з жалезнымі сэрцам і воляй”, але я – найперш чалавек. І сэрца маё звычайнае, умее поўніцца пачуццямі. Калі некалькі дзён таму па-новаму ўзрушана агледжваў родны, але новы Кіеў, то найперш успамінаў сваё маленства ў гурце бацькоў, родных і зводных братоў ды сясцёр, няні, чэлядзі, то цяпер, пагутарыўшы з пасаднікам і зноў пазіраючы на Кіеў, нагортваліся думкі і пра іншае, ужо дарослае.

Каб жыў старэйшы, Ізяслаў, то яму цяпер было б... 47 гадоў. 47! Цяжка ўявіць таго худога, бледнага і ціхманага, хуткага на слёзы падлетка сівабародым дзедам! Але ён за свае пражытыя 25 гадоў *аднавіў* дзедаву “па кудзелі” дынастыю і не толькі, як казалі, стаў мудрым князем-будаўніком, *але і шмат ціхамірна за кароткі час зрабіў*, пакінуў сыну Брачыславу моцную Полацкую зямлю. Мучыла і мучыць яго, Мсціслава, запытанне: ці не прыклаў руку бацька да ранняй смерці Ізяслава? Вельмі ж *насцярожвае*, што амаль у адзін час сышлі з жыцця маці, ён і ягоны старэйшы сын! Гэта, канечне, быў страшны ўдар для Полацка! Але ў каго запытаеш?! Яраславу – 45. Але ён пакуль што мала, зусім мала зрабіў для Кіева і Русі, усё туляецца-бадзяецца, змагаючыся за вярхоўную ўладу, то нападае, то ратуецца ўцёкамі, чым аслабіў Кіеў і Русь. Адно, чым можа пахваліцца, дык гэта тое, што два разы з падмогай варагаў пабіў, адагнаў ад меж печанегаў. Прадславе – 43. Не першы Андрэй кажа, што яна – асоба неапісальнага зямнога жаночага харáства. Але, бедная, і ад гэтага мае толькі пакуты. Нават ад бацькавага самадурства. Ён, а потым брат, Яраслаў, скалечылі ёй жыццё. А магла б быць замужам, мець сям’ю, быць шчаслівай жонкай і маці. Яе доля яшчэ болей горасная за матчыную: маці хоць мела шчасце ў дзецях, ведаючы, што яны і без яе жывыя ды здаровыя. Любая і мілая сястра, за што, за якія-такія грахі табе такая зямная юдоль? Мо хоць цяпер, за чэшскім князем, ёй пашанцуе? Хоць наўрад ці выйшла за яго па каханні. Яму, Мсціславу, – 41. Ці дабіўся таго, чаго вартны, чаго хацеў? І так, і не! Як Яраслаў за вярхоўную ўладу, ён таксама ў змаганні. За сваё месца пад сонцам. Праўда, дагэтуль і ў думках ягоных не было мараў пра

кіеўскі стол, бо шчыра лічыў: цяпер толькі Яраслаў мае на гэта права, і той мудра зрабіў, калі запрасіў разам вялікакнязіць і сына старэйшага брата. Ды не змог дзяліцца ўладай... Уладалюбца, не можа падвысіць і яго, Мсціслава... Усеваладу – 39. Ці не лёс ягоны як у той знічкі на небе? Мо нават і імя яго праз нейкі час знікне, стане безымянным? Праміславе – 37. Той, каго ён запомніў у тым узросце, калі яна толькі навучылася гаварыць! І яна магла б ужо мець не толькі неўмаля, а быць маці столькіх дзяцей, колькі ў яе ўзросце мела маці, Рагнеда!

У кожнага свой лёс... А яны, Яраслаў і ён, хутка будуць рашаць свой у братабойнай сечы...

## З "Рукапісу"

"Назаўтра Мсціслаў на здзіўленне кіеўлянам запыніў усе работы для пераправы праз Дняпро і, маючы некаторую перасцярогу, павёў сваё рознаплямennae воінства да Чарнігава. Той, папраўдзе, сустрэў яго прыязна. З хлебам і соллю. З ухвалы яго знатнага люду і блаславення святаслужніка Мсціслаў, Уладзіміраў і Рагнедзін сын, Святаславаў і Рагвалодаў унук, стаў першым, пазначаным у летапісах чарнігаўскім князем (імён ранейшых я не ведаю). Адразу ж праявіў "благоразумие" і міласэрнасць: Яраслававых службістых з поруба вызваліў і дазволіў ім з сем'ямі і скарбам выехаць. Ім быў наказ: сказаць радзе старэйшын Кіева, што з гэтага часу ўлада іх над Чарнігавым запыняецца, але паміж гарадамі як ішлі прыезды-ад'езды, розныя абмены, гандаль, так і будуць ісці. Зразумела, тут быў і ягоны разлік. А як жа без яго, замыслу, на паслязаўтрашні дзень?!

Суседняму Любечу нічога не заставалася іншага, як скарыцца перад грознай сілай, таксама прысягнуць Мсціславу. Гэтым самым ён перагарадзіў Яраславу шлях у Кіеў. Туген, пацiраючы рукі ад такога мірнага поспеху і багатых дароў, угаворваў яго на свой намысел – усё ж вярнуцца да Кіева, узяць яго і сесці там на вялікакняскім пасадзе. Але ён адмовіўся.

"Паберажом сілу, хан, – не без хітрасці сказаў Мсціслаў таму. – Нечакана я нямала чаго лёгка займеў. Ды займетае трэба яшчэ ўтрымаць. Мы можам узяць Кіеў. Але я не выйграю шмат тым, што пайшоў на яго тады, калі там не было Яраслава. А яго мы будзем чакаць тут. І гэта будзе спрэчка-бітва братоў, а не мая вайна са стольным градам".

"Колькі чакаць, князь? Мае воі занудзіліся. І турбуюцца пра свае сем'і".

"Трэба вытрымка, хан. Хто – хто, а ты добра ведаеш: воі паўночных краін, варагі, – смелыя, мужныя байцы. Дык памажы мне іх адолець. Пакінеш мяне, сыйдзеш – мне, канечне, будзе цяжэй. Але многа гэтым ты не выйграеш. Яраслаў рана-позна нанясе ўдар і па табе. Тым больш, што ён злы на цябе. Так што хочаш ці не хочаш, а трымайся за мяне. Я цябе не пакрыўджу. Дык праяві, як кажа кіеўскі епіскап, благаразуміе...".

Яраслаў, канечне, уведаў пра Мсціславава "завітанне", пра здрадны яму ўчынак Пераяслаўля, Чарнігава і Любеча, але не мог тут жа кінуцца-рынуцца ў бой з непаслухмяным братам. Спачатку ён сілай і вялікай лютасцю ўціхамірыў бунт у Суздалі, а потым пачаў які ўжо раз прасіць помачы ў наўгародцаў і варагаў, каб яшчэ раз памаглі яму сесці ў Кіеве.

Мінулася лета, пачалі сыходзіць асеннія дні. Лічачы, што Яраслаў не хутка збярэ сілу і не прыйдзе зімой, Мсціслаў адпусціў Тугена з багатымі дарамі, але папрасіў яго вярнуцца па вясне. Так яно і выйшла. Яраслаў не паказаўся, а Туген на пачатку новага лета зноў паставіў свае шатры непадалёку Чарнігава. Ён прывёз Мсціславу радасную сямейную вестку: ягоная Марыя нарадзіла яму на

вялікую радасць сына-нашчадніка. Яго назавуць нязвыкла – Яўстафій. У тым жа, 1224, годзе пабольшае і Яраславава сям'я: у ёй пабачыць свет пятае дзіця, сын Ізяслаў. Мо названы бацькам і ў гонар старэйшага брата, былога полацкага князя. Але пазней ён, Яраславаў Ізяслаў, моцна ўпячэцца ў печані Полацкай зямлі, калі ў ёй заўладарыць яго стрыечны пляменнік Усяслаў...

Чарнігаўскія баяры яшчэ добра памаглі Мсціславу. Некаторыя з іх употай сустрэліся з радзіміцкімі баярамі з Гомія (будучы Гомель) і перадалі Мсціславава слова-сказ: прысягнеце мне – вызвалю ад даніннага прымусу Кіева, вазьму вас пад сваю дзясніцу і не буду "цяжкай дані взлажыці".

Гомійцы-перамоўчыкі з радасцю згадзіліся: жадалі адпомсціць за паразу ад кіеўскага ваяводы Воўчага Хваста, за насмешкі ("радзімічы ад воўчага хваста бегаюць!"). Незадаволеныя Яраславам знатныя гомійцы паўтарылі ход чарнігаўцаў: кіеўскага пасадніка і яго прыслужлівых памагатых схапілі і кінулі ў поруб, абралі свайго ўладцу і прывялі Мсціславу на помач дружыну ратнікаў з радзіміцкай зямлі, чым надоўга па-свойму спалучылі свой лёс з лёсам зямлі севяранаў".

## 5.

Мсціслаў быў ахвотны да пазнання невядомых яму мясцін. Як гэта было раней у Візантыі, Таўрыі, у ясаў, касогаў, печанегаў, а нядаўна ў пераяслаўскіх, прыкіеўскіх землях. Апошні час спазнаваў севяранскія чарнігаўскія, што былі адметныя ад іншых: нізінамі і раўнінамі, трошкі прыўзнятымі чым далей ад Снова на паўночны ўсход. І асабліва лясістасцю ды балотнасцю. На пагоркавых мясцінах гусцяцца хвоі, бярозы і асіны, пры балотах і нізкіх абшарах гамоняць з небам елкі. І радуюць вока дубы. Як адзіночныя, так і гаёвыя. На поўдзень ад Дзясны, у прыдняпроўскай упадзіне, добрая, тлустая зямля. Не тое, што пшаніца, жыта, проса ды іншае плодзіцца. Як тут кажуць, уваткні ў зямлю неакораны кол – ён прыжывецца. У лясах нямала зайцоў, лісаў, ваўкоў, пры азёрах і рэках – баброў. Але на іх Мсціслаў мала зважаў, яго страсць была ўпаляваць аленя, мядзведзя і найвышэйшая асалода – заваліць грознага тура. Ужо толькі абсачыць яго – большага за самага буйнага свойскага бугая (мо тут некалі продкі ад іх, дзікіх тура і турачыхі, вывелі пароды кароў і быкоў), галаватага, з чорнай поўсцю і светлай палосаю ўздоўж спіны, доўгарогага, нібыта спакойна-непарушлівага, але ў час небяспекі, асабліва пры раненні кап'ём ці стралой, гатовага ўздыбіць, скалечыць каня з вершнікам, – дык вось было найбольшым яго захапленнем палюбавацца веліччу ляснога цара. Невыпадкова ж аднаго з дрыгавіцкім баявітых князёў, як кажуць, брата дзеда "па кудзелі" Рагвалода, назвалі Турам, а яго стольны горад – Туравым. Мясцовы люд называе прычарнігаўскія прасторы і Палессем, мо і з-за таго, што тут і на дрыгавіцкай зямлі няма прасторавых стэпаў, але затое шмат лясоў.

Аб'язджаючы падораную зямлю севяранаў, Мсціслаў агледзеў і ўпадабаў вялікае поле і пры ім сенажаць пры рацэ Рудня з паселішчамі рудакопаў і кавалёў, куды праз лес вяла дарога з Ліствена да Любеча, да Дняпра.

У чэрвені пільная старожа перадала: перад Любечам – Яраслаў. З дружынай варагаў. Але не пераправуляецца на гэты, левы, бераг. Мо і чакае, які будзе яго, Мсціславаў, ход. Рушыць туды ці будзе чакаць тут, у Чарнігаве? Гэта значыць, што будзе выбрана: напад альбо абарона? Ярас-

лаў – не вельмі вялікі ўдалец у сечах, але, біты ў іх, канечне, нямала чаго ўведаў у ваенных стасунках, дык навучыўся разлічваць загадзя.

Мсціслаў, хоць у Цьмутаракані і асабліва ў Візантыі нямала чуў пра даўнюю ваенную варажскую доблесць, зусім не захваляваўся ад нашэсця мужных паўночных вояў: моцна верыў у неспадзяваную для варагаў стойкасць севяранаў і пагібельную імклівасць, выкрутлівасць і страшную, знішчальную забойлівасць касожска-печанежскай конніцы (пра вялікую ролю варажскіх дружын, князёў (конунгаў) і баяр (ярлаў) у станаўленні Русі, яе ваенных перамог ярка сведчыць хоць бы такі факт: у 944 годзе князь Ігар заключыў мір з Візантыяй. Дык вось у яго пасольстве было 50 знатных вояў-варагаў і не больш трох славян). Але Мсціслаў усё ж паслаў ганца-перамоўшчыка да Яраслава:

"Брат! Ты мог бы быць мне за бацьку, але пакуль што не стаў. Ты аблюбаваў зямныя ўцехі і асабліва ўладу. Ты выявіў вялікую загану. Каб адному з усіх нас, сыноў Рагнедзіных і Уладзіміравых, узнесціся. Цяпер нас такіх толькі двое. Мы маглі б быць вернымі саюзнікамі, разам мацаваць Русь. Але ты мяне, роднага брата, уніжаеш, хоць добра ведаеш: я моцна засланіў ворагам шлях на Кіеў. Цяпер ніхто з поўдня, са стэпу не асмеліцца пайсці на яго. Ды ты ўладалюбна аслеплены... Я не магу з гэтым змірыцца. Таму і мусіў прыйсці сюды. Як табе і сказалі, без ніводнай выпушчанай стралы ўзяў Пераяслаўль, абмінуў Кіеў, па просьбе Чарнігава сеў у ім, узяў пад сваю дзясніцу Гомій. А значыць, і ўсе радзіміцкія землі – Чычэрск, Прупой (сённяшні Слаўгарад), Крэчут (Крычаў) і іншыя землі па левым беразе Дняпра, па Проні і іншых рэчак. Аж да крывіцкіх Полацкай і Смаленскай зямель. Значыць, буду бараніць іх ад цябе ўсімі сваімі моцнымі сіламі. Цяпер, брат, усё ў тваіх руках. Ты можаш прявіць як "благоразумие", так і "безумие". Першае азначае, што мы можам перамовіцца і прыйсці да згоды. Я абмяжуюся тым, што маю цяпер. Толькі мы парукаемся, пацалуем крыж на вачах нашых дружын. Гэтак, як ты некалькі гадоў таму перагаварыў і мірна разышоўся з сынаўцом Брачыславам. Ты яму крыху саступіў, але затое пазбег вайны, амацаваў сваю ўладу і сілу дзяржавы нам любай. Разважнасць сталага па ўросце і дзяржаўнасці павінна ўзяць верх. Другое, безразважнасць і самалюбства, прывядзе да вайны між намі. Думаю, ведаеш: я нямала правёў ужо бітваў і нікому не прайграваў. Не прайграю і табе з тваімі хвалёнымі заморскімі воямі. То выберы: мір і дамова паміж намі альбо вайна!.. Чуў: ты моцна верыш у хрысціянскага Бога. Дык няхай яго мудрасць і павучэнні будуць табе дарадцамі..."

Яму ў адказ: "Ты – кепскі сын, не дачакаўся, калі паклічу цябе і дам нешта большае за твае заслугі перад Руссю і мной, вялікім князем яе. Але сваімі подзвігамі над варварамі, як і цяпер іхняй помаччу табе не палохай. Я таксама не раз перамагаў варвараў. Ты з імі не здолееш адолець моцную варажскую дружыну. А пажадаю пабачыцца з табой толькі ў адным выпадку. Калі ты дасі слова, што вернешся ў Цьмутаракань і там будзеш чакаць маёй волі. Альбо, паўтару, цяпер самае вялікае для цябе – Мурам. А што да Бога... "Ты, мьню (лічу) о суетии мирском поучаешь и убиении моем помышляешь. Иже речешь: Бога люблю, а брата своего ненавижу. Это – ложь есть. Брата, теперь единого от Рагнеды славной и отца нашего любимого Владимира, не любишь. Иначе ты бы..." (тут і далей у апавяданні ў задвухкоссеных цытатах ёсць урыўкі з розных старых летапісаў. – *Г.Д.*).

Ён – Яраславу: "Твая ўпартасць, несправядлівыя твае ўчынкі супраць Святаполка, а цяпер і супраць мяне – не мудрасць дзяржаўцы: безраз-

важна, самалюбна, каб ні ў чым не паступіцца самадзержнай уладай у вялікай дзяржаве, выбіраеш вайну. Новыя ахвяры і страты для Русі. Што ж, спрэчку нашую вырашыць меч. Чакаю цябе на вялікім полі каля ракі Рудня, што ўпадае ў Сноў з яго правага боку. Там, дзе паселішча Ліствен. Калі такі смелы, упэўнены ў сваіх сіле і перамозе, то прыходзь туды".

Перад паходам да Мсціслава ўпотай прывялі вешчуна. Старога, мажнага, сіва і доўгавалосага, сляпога. "Што ты можаш сказаць мне?". – "Пагалоска пра цябе, князь, вялікая, – адказаў той. – Я чуў пра цябе, калі ты яшчэ не прыйшоў сюды. А калі слухаю цябе тут, то бачу: ты – князь-багатыр. Але не зусім ведаеш, чаго хочаш... Ды ўсё паяснее пасля сечы скорай... А яна будзе крывавая...". – "І хто каго здужае?" – "Табе будзе памагаць неба..." – "Што ты хочаш гэтым сказаць?" – "Навальніца вялікая ідзе. Мо і пры ёй, уночы, скрыжуеце мячы. І навальніца найперш табе будзе падмогаю".

Пачуўшы такое, Мсціслаў загадаў усім узяць з сабой да ўжо сабранага і накідкі – у каго прасмоленыя, у каго вымачаныя ў алеі безрукаўныя непрамакальныя дажджавікі з башлыком. Аберагаючы засеяныя гоні і мінуўшы каля 40 вёрст па лясных і палявых дарогах, Мсціслаў прывёў свае сілы да Рудні.

У гарачы дзень з высокім блакітна-асмужаным небам, з ярка-слепкім сонцам, з парнасцю ад сенажаці, балотцаў і блізкага хваёва-бярозавага лесу дазволіў конным спешыцца, ахвотным апаласнуцца, пасядзець у цяньку, перакусіць. Нават падрамаць. Але ўвечар, калі спакваля на паўночнай акраіне маленькая пацямнелая хмарка на небе пачала разгортвацца ў цёмную хмару, ад чаго святло прыжаўцела, а пасля атухла – значыць, сапраўды з уночваннем павінна ўсчацца навальніца, – усе здзівіліся: ён загадаў "исполчить" (выстраіць) воінства для бою. Пешых севяран паставіў "в чело" (пасярэдзіне), а саюзную конніцу – па баках і ў засадзе.

Аб'ехаў усіх. Найдаўжэй запыніўся каля севяран і гомійцаў.

– Любыя мне чарнігаўцы! Усе слаўныя севяране! Дарагія гомійцы! – сказаў ім. – Гэтае "исполчение", канечне, нечаканае для вас. Што – доўга вось так стаяць? Біцца ўночы? Але няхай яно яшчэ болей стане неспадзяванае для праціўніка. Мы яго павінны перш за ўсё сустрэць знянацку і ашаламіць. Я веру: ён прыйдзе ўночы, каб раніцай захапіць выгаднае месца. Але мы яму гэтага не дазволім. Як бачыце, насоўваецца навальніца вялікая, будуць маланкі – значыць, і ўночы будзе святло. Так што не прыйдзецца біцца ўпоцемку. Але ўсё роўна, каб лепш бачыць, дзе свае і чужыя, вы павяжаце на галовах белыя шматкі. Ім вам зараз раздадуць. Той, хто з вас старэйшы за мяне, мне – бацька. Хто маладзейшы, – брат. Дык вось, бацькі і браты, вам мо і хутка будзе нялёгка. Вы ўступіце ў сечу з варагамі. Са смелымі і баявымі воямі. Але не бойцеся іхняй адвагі, напору, што ў іх часта ад адурваньвання атрутнымі грыбамі. Адурманеных нялёгка стрымаць. Ды і лягчэй абхітрыць, пабіць разважнасцю. Тым больш, што вы будзеце абараняць не толькі мяне, але і сябе, і свае сем'і. Паверце не толькі пагалоскам розным пра мяне, але і цяпер мне асабіста! Я зведаў нямала бітваў. Я ведаю, як каго, калі і дзе пабіць. Мы пераможам! Усё!

Усе слухалі ўважліва, нават напружана, але калі пачулі гэтае кароткае і рашучае "Усё!", многія разняволена заўсміхаліся. Мсціслаў спешыўся і, трымаючы за аброць каня, стаў паперадзе. Далей па яго камандзе мясцовыя смерды пачалі ссякаць густыя кусты і падносіць іх пярэднім воям

у шарэнзе. Каб яны ў патрэбную хвіліну прыкрыліся і доўгі час былі незаўважаныя.

Ноч!..

Многія лічылі і лічаць, што яна надыходзіць, а то і падае з неба. Не. Мсціслаў заўважыў, што ноч паволі пачынаецца на зямлі, з прыцемкаў і цянькоў за сценамі, у кустоўі, у лесе, у далінах, пры ўзгорках і паўзе ўверх, ацемніваючы вышыню над зямлёй, неба, хоць яно яшчэ і пасля заходу сонца ў ясны дзень даўгавата пунсавее і не траціць віднату. Ды ўсё ж спакваля тухне, а з гэтым растуць згустак ценяў, пасля змрок, цемень. Людзі пачынаюць зачыняць вароты ў двор, пабудовы для жывёлы, сваё жыллё. Заможнікі вызваляюць ад ланцуга вартавых сабак. Наспяваўшыся, замаўкаюць птушкі. Уночы, выспаўшыся ўдзень, выходзяць для сваіх цёмных задум злыбеднікі – таці (зладзеі), забойцы, падпальшчыкі. Уночы з'яўляецца страх ад цемені. І не толькі з-за іх, злыбеднікаў ці ваўкоў ці мядзведзяў, але і з-за начных страшных духаў і сіл – ваўкалакаў, ведзьмаў, нават родных памерлых. З-за сабачага брэху-выцця. Некаторыя, каб аспакайнець, запальваюць свечкі, лучыны, а на двор выходзяць са светачамі. Хоць святла нябеснага, маланак, баяліся. Як і яснасці месяца. Асабліва таго, каб яна не падала на твар соннага: тады той спіць неспакойна, а то можа падняцца і няўцямна хадзіць. Нават там, дзе звычайна ступіць не асмеліўся б. Жахаліся ад начных пажараў, ад сваіх асобных сноў. Таму любілі і любяць казаць: "Добрай ночы!" ці "Дабранач!"

Яна, ноч, часамі і была добрай для жанчын на попрадках, для рознага рамеснага люду, асабліва для шаўцоў і краўцоў. Для мужоў і жонак, для хлопцаў і дзяўчат (праўда, некаторыя маладзічкі пазней плацілі горкімі слязьмі за свае былыя начныя гарачыя ўцехі). Уночы, у бяссонніцу, старыя людзі задумваліся пра жыццё-быццё, пра штосьці марылі, маркоціліся ад страху сваёй блізкай смерці...

"А мне гэтая ноч нясе сечу з братам, – пахітаў галавою Мсціслаў. – І мо для мяне ці для яго яна будзе апошняя! Але ўсё склалася немінуча!"

Сёння ноч падала менавіта з неба. Вось яно, што, па словах вешчуна, павінна паспрыяць яму, суцэльна зацягнулася цёмнай хмараю. Мо сонца яшчэ не агінула зямлю, але паветра яшчэ болей папарнела. Неўзабаве далёка, за небакраем пачало раз за разам паланець – ціха ўспыхне нябесная палахлівая, ледзь прыкметная ясь і тут жа згасне. Ды паволі гэтая паланіца набліжалася, дык успышкі і водбліскі большалі, яснелі, а праз гадзіну-другую бліскаўкі паярчэлі. І вось акраек неба перасекла яшчэ далёкая маланка, а ўслед за ёй глуха правуркатаў першы чутны, яшчэ лянівы гром. Далей – болей. Ноч набірала моц, уцемнівалася, а маланкі заззялі адна за адной, пачалі галініць неба, а гром за імі забухаў, пачаў набліжацца. У паветры павеяла свежасцю. Нечакана неба нібы па-біблейску "разверзлось": яго распалавініў пасярод вогненны асляпляльны ствол, ад яго ва ўсе бакі пыхнулі яркія адросткі і ўслед за іх затуханнем паблізу так ляснуў пярун, што ажно задрыжэла зямля, а ў лесе далёка пакацілася рэха; за гэтым – чарната (святло засталося толькі ўваччу), павеў ветру, шум і раптоўна ды густа лінуў дождж. Спачатку цёплы, але з кожнай хвілінай халаднейшы.

Меншая на яркасць і слепкасць маланка, не пяруністы гром. І... пабачылася тое, чаго чакаў Мсціслаў: з лесу выімкнуліся коннікі, а за імі пешыя. Значыць, Яраслаў хацеў-такі апынуцца тут першы і на сваю

карысць “ополчиться”. Ды цяпер, у навальніцу, бяспечней знаходзіцца на полі, вымакнуць да ніткі, чым быць пад дрэвамі: туды можа смалянуць пагібельная маланка. Мсціслаў ускочыў на каня. Пры новым святле назіраў, колькі збярэцца братавага воінства.

Яраслававы воі спакойна ехалі і ішлі да пасяродку поля. Ужо нават чуўся вадзяны пошум конскіх капытоў. Мсціслаў даў знак сваім адкінуць кусты і дрэўцы – пярэднія праціўнікі ўжо заўважылі выстраеную чужую рацць, запыніліся. Мо і ў аняменні. Некаторыя спахапіліся, пачалі азірацца, крычаць пра небяспеку, замітусіліся, спрабуючы пастроіцца.

Мсціслаў не мог ім гэтага дазволіць. Падняў уверх руку – знак, каб павязалі белыя шматы. А затым секанууў рукой уніз паветра: наперад!

“И бысть сеча сильная, и когда сверкала молния, блистало оружие, и была гроза велика и сеча сильна и страшна...” (Паводле Нестара).

Найбольш ярасна, моцна крычучы, мечавалі, біліся коп’ямі варагі і северане з гомійцамі. Калі загартаваныя ў нападніцкіх і абарончых блізкіх з праціўнікам баях варагі здолелі неўзабаве апамятацца, сабрацца ў шыхту, рушыць лавінаю і пацiснуць славян, Мсціслаў даў кліч Тугену і касогам, хазарам, ясам – тыя імкліва і кожныя са сваім баявым поклічам выскачылі з засад і з усіх бакоў паняcліся на ўцягнутае ў сечу Яраславава воінства. Пранізвалі, секлі з-за пляча бязлітасна, збівалі з ног, таптал і коньмі, дабівалі паваленых. І знаўцы парадку, мужныя варагі разгубіліся ад нечаканай свежай і нелітасціва бойкай навалы, страцілі ўсякі строй і наступальны запал, не ведаючы, як ды з якога ўжо абараняцца. Мо і праз гадзіну ці крыху болей пачаўся ўжо разгром Яраслававых дружын.

– Не біць тых, хто кінуў зброю і паў на калені! – раз за разам, намагаючыся перасіліць ляск мячоў і лямант, крычаў Мсціслаў, каб стрымаць лютасць усходніх саюзнікаў.

І яшчэ:

– Чарнігаўцы! Гомійцы! Узяць Яраслава жывым! Толькі жывым!

... Уга, возьмеш! Авар’яцелы ад кароткага, але жудаснага пабоішча і разгрому Яраслаў не менш ярасна, чым паўдзясятак гадоў пасля бою з Баляславам і паразы ад яго, хлістаў і хлістаў любімага каня і нёсся прэч ад гэтага страшнага поля, ад гэтай страшнай бітвы з братам. Цяпер каяўся, што не праявіў “благоразумия”, паскупіўся і не “усмирил гордыню”: трэба, трэба было пакінуць Мсціславу Чарнігаў! Не прадбачыў, што той папраўдзе такі моцны, налоўчаны! Князь-палкаводзец! Цяпер яму нічога не пазамінае ўзяць Кіеў і сесці ў ім! А яму, Яраславу? Застанецца на гэты раз месца ў Ноўгарадзе ці не? Ці яго на гэты раз чакае горкая доля князя-ізгоя? За ім, уцекачом, з чарнігаўскай зямлі ледзьве паспяваў яго швагра-саюзнік, свей Якун...

– Канязь, – калі паўразвіднелася і бітва закончылася, толькі зямля і неба агалошваліся, убіралі ў сябе стогны, енкі параненых, да яго наблізіўся Туген. Радасны, што якраз ён унёс рашучы пералом у шматкровапралітнай сутычцы. – Я абследаваў: Яраслаў збег. Баязліва! Ганебна! Ці не пайсці мне за ім у пагоню? Рана-позна яго даганю! Прывалаку табе яго на аркане!

Няма слоў, прывалачэ. Мо і мёртвага. Наўмысна забітага. Нібыта выпадкова. Але Мсціславу і ў галаве не было раней і цяпер праліваць братаву кроў. І не проста кроў, і не проста братаву. Яны ж, што і ў думках, і словамі не раз паўтараў ён, *два апошнія жывыя родныя сыны Уладзіміра і Рагнеды*!

Дык што цяпер яму застацца аднаму? З дванаццаці бацькавых сыноў толькі са зводным братам Судзіславам? Не! Можа некаму, таму ж уладалюбнаму Яраславу гэта толькі і трэба. Але не яму, Мсціславу. Ён не прагне самадзержнасці, а з ёю і тыраніі, без якой яе, самадзержнасць, не ўтрымаеш.

– Не трэба, хан, – ён запыніў Тугенаў помсны і кровапрагны парыў. – Няхай Яраслаў жыве. Дзе хоча і зможа...

– Задобры ты, канязь, – скрушліва пахітаў галавою Туген. Прыклаў руку з падвязаным мячом да грудзіны. – Павер: ён цябе не пашкадаваў бы. Калі пайшоў на бой, то пасля перамогі расправіўся б з табой.

– Мо і так, – адказаў ён. – Але я распраўляцца з ім не хачу. Тым больш, што ён цяпер ні мне, ні табе не страшны.

– Дарэмна, ох, як дарэмна, канязь, ты такі міласцівы! Хіба не ведаеш: з-за яе, гэтай міласцівасці, многія пацярпелі! Ды яшчэ як пацярпелі! А табе Яраслаў за сённяшняе ніколі не даруе! Ніколі! Калі нават дасць клятву табе на святой вашай кнізе, то ўсё роўна рана-позна адпомсціць! Ноўгарад, варагі патрэбныя яму, а ён патрэбен ім. Ён яшчэ ні разу не ступіў без іхняй падмогі, без іхняга мяча. То і зноў будзе яна яму. Ён яшчэ вернецца. І на гэты раз паспрабуе цябе захапіць знянацку! Не расслабляйся, канязь!

– Час усё пакажа, хан. Але ж ты, калі мне прыпячэ, зноў падсобіш?

– Падсаблю.

– Паўтараю: і ты, не варожы мне, будзеш пад маёй абаронаю, – запэўніў Мсціслаў не вельмі надзейнага, але змушанага даверыцца яму саюзніка. – А цяпер, хан, трэба агледзець параненых, памагчы ім. І сваім, чужым. Пахаваем палых. А тады адсвяткуем такую хуткую і поўную нашу перамогу! Мне – новыя турботы, а ты вернешся ў свой стэп героем! Адзінае, пра што цябе папрашу: строга загадай сваім воям пры адыходзе не рабаваць прыкіеўскія і прыпраяслаўскія паселішчы! Разумееш?

– Разумею, канязь.

Уднелай раніцай Мсціслаў спаважна ўздоўж і ўпоперак абыходзіў, думаецца, цяпер навек запомнае яму чарнігаўскае поле. Шэрхла скура: яно было завалена забітымі і параненымі, а лужы ад начнога ўліўнога дажджу ў лагчынках былі не светлыя, а пунсовыя, а то і счырванелыя. У небе, ці то ўражаныя неспадзяваным відовішчам, ці ўжо і ахмялелыя пахам крыві, кружыліся бліскуча чорныя крумкачы. Вось, шумна махаючы вялікім крыллем і мо звыкла асочваючы лягушак, спалохана праляцеў стары бусел, упершыню бачачы тут такое.

Міжволі вырвалася ў Мсціслава:

– Вось – варагі, вось – севяране. А мае дружыны амаль цэлыя.

Ходзячы, заадно азіраў варажскія даспехі – пагнутыя і цэлыя шоламы з рагамі, абсечаныя, а то і разламаныя прадаўгаватыя шчыты, ступленыя сярпавідныя сякеры, мячы. Адзін з іх падняў. Прадаўгаваты, з жолабам пасярэдзіне, з багатай аздобай каля наручніка, лёгкі. Мо і не варажскі, а з тых краёў, дзе пабываў яго гаспадар.

## З “Рукапісу”

“Летапісцы папікалі Мсціслава за словы “мае дружыны амаль цэлыя”: маўляў, быў не вельмі ўдзячны севяранам і ратнікам з Гомія, якія палеглі за яго, а радаваўся за ацалелых чужынцаў! Не зусім так. Не не забудзьма і іншае: нешматлікіх славян, каб замацавацца ў Цьмутаракані і пазней супрацьстаяць новым заваёўнікам з усходу, Мсціслаў пакінуў там. У Цьмутаракані. І тут, пасля бітвы

каля Чарнігава, яму патрэбна была моцная апора. Вось і выпала на поле бою найперш паслаць скрыўджаных Кіевам северан і гомійцаў, а пасля ім у помач сваіх неславянскіх саюзнікаў. Дык хіба гэта не быў абачлівы разлік? Мсціслаў астудзіў нястрыманыя вялікакняскія і, галоўнае, звышуладналюбныя помыслы брата Яраслава, але пашкадаваў яго, не зусім удалага, ужо не раз бітага, і не кінуўся запалоньваць ці абрываць яму жыццё. Мы, сённяшнія, не толькі мала ведаем пра Мсціслава – гэтага выдатнага волата-палкаводца. Горш – нам намагаюцца і мала, а то і зусім не гаварыць пра гэтага слаўнага сына Уладзіміра і Рагнеды. Толькі часам успамінаюць яго двубой з Радзедзем як "подвиг могучего русского витязя". А гэты асілак быў, як можна пераканацца, выдатны палкаводзей, мудры дзяржаўны дзеяч і, што рэдка ў такіх бывае, добрай душы чалавек! Ды яго пачалі замоўчваць Яраслаў і ягоныя нашчадкі...".

Сваіх параненых і забітых зносілі на сушэйшыя месцы у цень ад разгалістых дубоў у адзін бок, варагаў – у іншы.

– Усім жывым – вады, перавязку , – аддаваў новыя загады Мсціслаў, з вялікім спачуваннем узіраючыся ў вочы ўсіх пакутнікаў за ягоную такую крывавую спрэчку з братам, і не завіхаўся пакідаць акрываўленае поле пабоішча.

Вось паднеслі яму азалочаную галаўную накідку – каптур, прарэзь для вачэй, напатылачнік і падшыйнік з завязкамі.

– Што гэта за дзіва? – запытаў ён.

– Свеі кажуць: гэта – згубленае луда іхняга знатнага ярла Якуна, – патлумачылі яму. – Якун – хворы на вочы, дык вось гэта павязка, каб яго не аслеплівала яркасць. Згубіў яе ў баі.

– Адпраўце ў Чарнігаў, – загадаў. – Як нашу вялікую здабычу. Ці, як кажуць грэкі, troраіon (помнік перамогі; а запомніў гэтае слова з паходу і бітвы ў Таўрыдзе, калі візантыйскі палкаводзец тое-сёе хазарскае аддаваў яму: гэта – тваё). – І, бадай, упершыню пераможна пасміхнуўся-ухмыльнуўся. З варажскага знанага палкаводца : – Падслепаваты, але здолеў даць драла! Ды – Усё!

Канечне. Хоць цяпер найперш яму было рашаць: ягонае "Усё" стане ягоным "Усім?". Цяпер у яго руках быў не толькі яго ці братаў лёс, а лёс усяго тагачаснага Кіева!!!

## З "Рукапісу"

"... Многія летапісцы, даследчыкі з гэтай бітвы Мсціслава і Яраслава дробязна ці наўмысна засярodзіліся найперш на адным: што гэта была за Якунова луда? Маска, павязка на вочы? Пазалочанае карзно-плашч? Ды яшчэ быў засяродак і на іншым: той Якун быў сляпы ці не? Смешна і пацешна. Як мог сляпы ўночы (хай сабе і пры маланках) не толькі біцца, але і кіраваць боем?! Усе гэтыя вышукі – мовазнаўчая і фантазійная дробязь. Ды яшчэ якая! Галоўнае было ў іншым! І яшчэ як!.. Не ў роспыце Мсціслава пра дзіўны заморскі трафей, а ў яго далейшых учынках было галоўнае! У тым, што тады ён вырашыў! Не столькі дзеля сябе і брата, колькі, яшчэ і яшчэ раз паўторым, дзеля ўсяе Русі з цэнтрам у Кіеве!!! (Пра новы Мсціславаў учынак з братам Яраславам крыху далей. – *Г.Д.*).

**6.**

Паколькі Яраслаў і Якун збеглі, то без іхняга заступніцтва Мсціслаў загадаў забітых пакінутых варагаў пакласці ў адной вялікай магіле, параненых падлячыць і па іхнім жаданні адпусціць дамоў. Канечне, за выкуп. А як яшчэ міласэрней з тымі, хто нёс яму смерць? Загінулых севяранаў па яго волі хавалі з асаблівай пашанотай (забітых гомійцаў жывыя павезлі дамоў). Як лепшых сыноў племені, як яго герояў. Пачаў дбаць пра старых бацькоў, жонак з дзецьмі, у каго склалі галовы за волю карміцелі-сынымужы. Дзеля іх, а таксама нямала патраціўшыся дзеля саюзнікаў, шмат абяднiў сваю казну. А як іначай?! Сам абыходзіў дамы, паўзямлянкі, зямлянкі, адкуль за яго пайшлі воі і загінулі. Цярпліва выслухоўваў плач, енкі, скаргі. Як мог, суцешваў бабуль і дзядоў, мацярок і бацькоў, сясцёр, жонак, унукаў і дзяцей. Усім шчыра кланяўся, казаў вялікі дзякуй і ўсіх запэўніваў: у бядзе, у горы не пакіну. Чарнігаў, усю Северскую зямлю, радзімічаў бяру пад сваю бацькоўскую апеку. Пры мне ніякай Яраслававай помсты нікому не будзе нават у напамінку! Кожным пальцам буду берагчы вас! Дык будзьце ўпэўненыя! Ацалелі многія, у тым ліку і маладыя, дык акрыяем, ажывімся! Нагадуемся!

Кіеву Мсціслаў аніяк не напамінаў пра сябе. А там не столькі простыя насельнікі і рамеснікі, але асабліва Рада старэйшын затаіла дыханне пасля яго поўнай перамогі: усе з яе добра помнілі ягоную пагрозу з налёту ўзяць Кіеў. А значыць, не проста прывесці іх да прысягі, але мо і некаторых пакараць. Найперш тых, хто рашыў не ўпусціць яго ў сталіцу. Адтуль нясмела, але ўсё ж прыязджалі купцы, рамесныя людзі, родзічы, на свае вочы бачылі не толькі радасць пераможцаў, але і іхняе “опечалиние великое”. Сярод прыезджых, зразумела, былі і віжы. І іх Мсціслаў не чапаў: глядзіце на свае вочы, які я і мой лад. Усходніх саюзнікаў прытрымаў. Дзеля маўклівага прыпалохвання кіеўлян і Яраслававых пасаднікаў па гэтым, левым, беразе Дняпра. А тых не магло не хваляваць: а цяпер што з імі? Іх пакінуць ці прышлюць новых? І што з іхняй данінаю? Каму яе аддаваць? Кіеву? Мсціславу? І што далей будзе паміж братамі? Адным словам, падкінуў усім розных турботаў Мсціслаў!

... Свет заставаўся ранейшы і мяняўся, жыццё ішло-бегла па сваім спрадвечным ладзе ці крузе. Уцёк спачатку дзённы, а потым толькі начны пякучы на развітанне (мо і ад зямной вадзяністасці) мароз, павышэла і паблакітнела неба, аярчылася сонца, пачало ачорнівацца ўсё больш і больш праталін, а над імі абспеўвалі поле, абуджалі чалавечую душу жаўрукі. Калі яшчэ не зусім сышоў снег і не сцякла вадою сёлета нязлая зіма, прыляцелі шпакі, а за імі – буслы, аблюбавалі шпакоўні, паклады пад гнёзды і павіталі родную старонку адны жыццярадасным свістам, а другія клёкатам. Выімкнуліся на ўзгоркавых прылесках першыя вясеннія кветкі, апусцелае паветра пачало напаўняцца водарам ажылай зямлі, зазелянеліся шчаўе, крапіва, снітка, апушыліся вербы і зажаўцеліся першыя дзьмухаўцы, што абудзіла ад сну агаладалых чмялёў і першых, самых смелых пчол. Просты люд – канечне, найперш з маладой, кіпкай крывёю моладзь – павітаў знаёмую і ў той жа час па-свойму новую часіну – вясну, што спрадвеку і знаёмая, і незвычайная (прывецілі весела: не ўсе, як патрабавалі хрысціянскія святаслужнікі, перад гэтым сем тыдняў пасціліся і засмучаліся, нават у Перадвелікодны журботны тыдзень, як і не ўсе спяшаліся ісці да споведзі і каяцца, асвячацца на літургіі і пропаведзі перад Вялікаднем – цяперашняй Пасхай,

што лічыцца днём уваскрэсення Божага духоўнага сына і ў той жа час чалавека Хрыста). Моладзь, як і іхнія продкі, таксама радасна адгуляла даўняе любімае свята Ярылы – заступніка свойскай жывёлы і аранага ды засеенага поля (6 траўня; найбольш увераныя ў хрысціянства з баярства і знатных мужоў святкавалі ўжо ў гонар Георгія-пераможцы). У гэты час гаўяда (каровы, валы, авечкі) ужо ўкусілі маладой травы, а пазней, пасля свята Вялеса (па-новаму Міколы Цудатворцы (22 траўня), заможны люд вывеў на першы начлег коней і цалкам абзерніў грады ды поле. Набрала моц цеплыня, лес напоўніўся птушынымі галасамі, па вечарах пры ручаях і ў алешніку зацешылі душу салаўі.

За гэты час толькі аднойчы, у адзін з паслявелікодных аўторкаў, увесь люд смуткаваў, па прыкладзе блізкіх суседзяў, радзімічаў і дрыгавічоў, гуртам ішоў да старых курганоў і нядаўніх магіл, прыбіраў іх, а потым сем'і і родзічы расцілалі там абрусы, выкладалі на іх бліны з пшанічнай мукі, яйкі, пірагі, тварог, кілбасы, мяса, куццю (хто што меў) і спраўлялі памінальную трапезу. Спачатку – з успамінам пра дабрадзейства нябожчыкаў, з плачам, а потым, паклаўшы на курган ці магілу ежу і пітво, спраўлялі "снеданне па радзіцелях" (радаўніца). Пасля аддавалі ацалелае бедным, жабракам і вярталіся дахаты ці ішлі да родных альбо ехалі да блізкіх суседзяў-радзімічаў у госці, дзе ў гэты дзень альбо назаўтра падвясельваліся (у дрыгавічоў і радзімічаў у гэты дзень ладзіліся і вялікія кірмашы). У некаторых мясцінах прыкладна такое адбывалася ў чацвер.

Калі адшугалі першыя летнія маланкавыя, грымотныя навальніцы і прайшла сенакосная часіна, калі наліваліся каласы збажыны, з гардавуснага Кіева ў Чарнігаў прыбыло... вялікае пасольства.

Мсціслаў не быў неабачлівы, па-рознаму засылаў у Кіеў віжоў, дык добра ведаў, чаму і з-за чаго гэткія высокія госці – баяры, князевы цівун і дворскі, знатныя дружыннікі, купцы, землеўладцы, а з імі і епіскап. Яму перадавалі: Кіеў сцішыўся ад Яраслававай паразы і ад яго перамогі; некаторыя калі не застылі, то ўпотай шапталіся: што далей будзе? З дня на дзень чакалі яго, Мсціслававага, грознага ваеннага надыходу. І не было адной думкі: абараняцца ці не? А калі збеглы Яраслаў не падаваў голасу, а ён, Мсціслаў, не заяўляўся, без ніякага запалохвання абклаў Кіеў амаль з усіх бакоў (апроч правага дняпроўскага берагу) і такім чынам узяў пад свой назірк гандаль, доступ даніны з левабярэжжа, кіеўляне, зведваючы абядненне ў продажы-куплі, перабоі ў харчы і блізкую нястачу, занепакоіліся. Так званыя лепшыя, багацейшыя людзі – баяры і княскія цівуны (службоўцы) – былі за тое, каб пачакаць весткі ад Яраслава і заадно Мсціслававага "сказу", а за гэтым зрабіць па-свойму апраўдальны ход. Наступныя па дзяржаўнай лесвіцы – знатныя дружыннікі, прыдворныя, купцы, заможныя рамеснікі, вольныя землеўладцы – усё больш пачалі патрабаваць яснасці, і яе бачылі ў тым, каб вылучыць пасольства з градскіх старцаў, самых паважаных кіеўлян, і, пераадольваючы гордасць, першымі падацца ў Чарнігаў на перамовы. Падбухторанае імі веча пагадзілася з тым. Гэта не было заклікам да Мсціслава сесці на вялікакняскі пасад, але і не гучала як адмова яму ў гэтым. Своеасаблівыя хітрыкі. Ды яны не маглі стаць для яго, ужо сталага, удзельнага ў многіх гульнях і баях, падманам і абдурваннем. Яны для яго выразна былі падступствамі ды круцяльнёй.

Вось і заявіліся. Пасаднік, цівун з чэляддзю, ваявода з дружыннікамі, епіскап. Прыезджых з малой затрымкаю ўпусцілі ў горад, але і без пашаноты ім, стольцам (сталічным): прыбылі з мірам – адчынім вароты,

нават паможам знайсці прытулак. Толькі не ў новым княскім хораме. Ды чакайце, калі князь-пераможца і вам(!) зробіць ласку дапусціць да сябе. Карацей, патаміцеся. Больш згаворлівыя будзеце.

Першы ў ягоную новую, яшчэ пахкую смалой, толькі з некалькімі диванамі і шыкоўнымі заморскімі рэчамі ды прыўкрасамі княскую драўляную двухпавярховую святліцу папрасіўся наведацца епіскап. Цяпер быў ва ўсім чорным манаскім, толькі з панагіяй епіскапа на грудзіне, калі не разгублены, то насцярожаны. Запомніўся смуглявасцю, сытасцю ды цяпер зусім няма ў знаёмым чарнавоччы той гордасці, намеру павучаць, што былі ў першую сустрэчу. Бачна: хвалюецца. Першы ж завітаў на выведку, то першаму трэба і засведчыць: Мсціслава бласлаўляе ці не? І мо не толькі на княжанне ў Северскай зямлі. Бласлаўляў жа з іншымі святаслужнікамі Святаполка, а потым Яраслава! Пераможцаў. А цяпер жа – герой ён, Мсціслаў. І, як мог упэўніцца, князь стрыманы, але непахісны і настойлівы ў сваіх задумах. Госць, акінуўшы хуткім позіркам за яго плячыма прапар – роўненькае акаронае і хораша аздобленае разьбой арэхавае дрэўка, прывязанае да яго пазалочанымі вяровачкамі чырвонае палотнішча з вышытым чорным, са светлаватай палосай уздоўж спіны рагатым турам (дрыгавіцкія паслы панаракалі Мсціславу за паўтор: нібыта амаль такі княскі сцяг быў у Тураве да знішчэння ў ім Уладзімірам полацка-тураўскай княскай дынастыі), – учэпіста ўталопіўся ў вочы, намагаючыся спазнаць: што ў ягонай галаве і на душы? З ім, святаслужнікам, Мсціслаў не мог фанабэрыцца, але і не жадаў лішне ласкавіцца.

Ну што, святы айцец, – калі пасля павітання схіленнем галавы і прыкладаннем правай далоні да левай грудзіны селі за дубовы гладка абшмарганы шклом і сукном, нацёрты воскам стол, прамовіў міжволі кпліва. – Не выйшла ўсё па-мойму?

– Па-твойму, сын мой, – згодна, але пахмурна згадзіўся той. – І волат ты, і палкаводзец умелы. Іменна табе паспрыяў святы Георгій Пераможац. Мо і за тое, што ты памог святой Візантыі выгнаць няверных хазараў з Таўрыды, што ўціхамірыў дзікіх ясаў і касогаў, што царкву святой Багародзіцы ў Цьмутаракані ўзвёў. Але выбачай, дазволь запытаць пра тое, што хвалюе вельмі ўвесь люд кіеўскі. Як лічыш: твая перамога прынясе Кіеву, Русі мір і лад? Ці "к болезни язву приложих, приложил к беззакони убо беззаконие?" ("да хваробы дадаў рану, да беззаконня – беззаконнасць?"; тут і далей задвухкоссенае са старацаркоўных тэкстаў пра так званыя княскія міжусобіцы. – *Г.Д.*).

Пры ўсёй асцярозе запытаў усё ж двухсэнсоўна, з затоеным папрокам.

– Казаў і паўтару: святы айцец, "увещевай" не толькі мяне, – Мсціслаў загаварыў суха. – Чуў жа там, каля Дняпра: я мог абыйсціся і без вайны. І цяпер магу. Хоць зараз сам буду вызначаць, якім быць міру. І ты не здолееш адгаварыць ад гэтага майго намеру: дбаю не толькі пра свой, але і пра лёс усяе Русі.

– А як ты цяпер думаеш паступіць з Кіевам?

Менавіта так дапытваюцца ў яго северскія радцы, дрыгавічы, радзімічы, вяцічы, печанегі (а ўчора і паслы з-за Акі і Дона, дзе кіеўскія даннікі мяшчэра, мардва, мурама, мера і іншыя: вестка пра яго збіццё нанятых Яраславам варагаў разляцелася хутка і далёка). Не толькі ім, але і сам сабе ён на гэта не мог адказаць ясна. Перамога над Яраславам і адкрыты шлях на Кіеў прынеслі яму не толькі радасць. Узяць сталіцу і сесці ў ёй на вялікакняскі пасад ужо не было цяжка. Ды гэта не было ягонай

прагай, таму незвычайная лёгкасць перамогі над братам прынесла яму... бяссоніцу. Яна, што выбівае са сну і сіл, у свой час прыляпілася да яго пасля жончынай смерці пры родах. Пасля, калі боль прыціх, зноў займеў спакой і здаровы начны адпачынак. А вось тут не толькі аднавілася, але і пабольшала. Нават і пасля адной-дзюх чашаў моцнага напою. Узяць вялікакняскую ўладу можна. Ды як утрымаць яе? І, не менш галоўнае, што выйдзе з гэтага? Найпершая турбота, што рабіць з Яраславам? Саслаць у глухмень (у тыя ж Цьмутаракань альбо Мурам), як такога з ім дабіваўся той? Не будзе надзейнасці: брат – уладалюбны, не змірыцца, будзе ўсяляк намагацца расправіцца з ім і вярнуцца ў Кіеў. Падаслаць у Ноўгарад забойцаў і прыбраць яго? Гэта – злачынна і агідна яму (нават за тое, як Яраслаў сам не загубіў, а для сваіх помыслаў аддаў, лічы, на загубенне сясцёр Прадславу і Праміславу). Няхай Яраслаў жыве. А што далей? Калі на ўсходзе і поўдні больш-менш агарадзіліся ад іншародцаў, а з некаторых ёсць і даніна, то з заходнімі славянамі пакуль што неразбярыха. А хочаш ці не хочаш трэба дбаць пра звязванне многіх славянскіх сцяблін у адзін сноп, намагацца стаць іхнім своеасаблівым імператарам, каб накласці дзясніцу на гэтыя плямёны, падмяць імі іншыя. Асабліва тыя, што цяпер на пры і па-заіцільскіх (па-заволжскіх) ды бяскрайніх паўночных прасторах. Хочаш ці не хочаш, а не адкінеш думку, што трэба дбаць пра славянскую імперыю і не дапусціць, каб гэтую дзею перахапілі іншыя. Тыя ж супернікі-ляхі: яны зведалі асалоду перамогі над Кіевам і заходне-паўднёвымі суседзямі.

Пэўны час можна пачувацца даволі бесклапотна, бо ад па-замежных ворагаў пагроз не будзе: грозныя печанегі – яму саюзнікі. Ды не асмеляцца пайсці на яго. Як і не менш ваяўнічыя ляхі, тым больш, што іхні вялікі князь Баляслаў анепакоены каралеўскай каронаю. Услед за бунтоўнымі радзімічамі, вяцічамі просяць яго “вызваліць іх ад ярма Яраслава і ўзяць пад сваю дзясніцу” і вольналюбівыя дрыгавічы. Як зразумеў на сустрэчы з іхнімі пасланцамі, яны ўшаноўваюць Святаполка і супраць Яраслава: Святаполк, калі Уладзімір паслаў яго княжыць там, ці то па просьбе тубыльцаў, ці то па парадзе цесця-паляка Баляслава, а мо і сам падмеўся адлучыць Тураў ад Кіева і вярнуць яму поўную волю, а вось Яраслаў перасек такія тураўскія мары. Ён, Мсціслаў, задаволіўся прыхільнасцю тураўцаў, падзякаваў за яе, але пакуль што не мог сказаць ім нічога яснага. Полацк, *за рэдкім выключэннем*, заўсёды быў сам па сабе і захоча застацца такім і надалей, таму ягоны цяперашні князь, сынавец Брачыслаў, канечне ж, не толькі з-за асабістай крыўды не падсобіў у бітве з ім, Мсціславам, Яраславу, калі той меў яшчэ немалыя сілы. Нават больш – разважлівы ў маладым узросце Брачыслаў за ўстрымліванне ўдарыць кіеўскаму дзядзьку ў спіну дабіўся, каб той вярнуў Полацку Віцебск, Усвяты і права волакаў да Дняпра. Дык Брачыслаў не кінецца памагаць Яраславу і цяпер. Смаленск, Пскоў – ніякага страху. Першы, як цяпер больш уведаў, не акнязены, не асмеліцца пайсці супраць вялікага князя кіеўскага, толькі будзе і далей спаўняць ягоную волю па тым, каб не даць Полацку разгуляцца па Дняпры. Пскоў – ноўгарадскі прыгарад. Самае пагрознае – Ноўгарад і варагі. Толькі адтуль можна чакаць сур’ёзнага нападу, калі варагі які ўжо раз згодзяцца разлічваць на вернага, хоць і няўдачлівага стаўленніка (праўда, тыя могуць рынуцца яшчэ і з-за таго, каб папомсціцца за ганебную паразу паблізу Чарнігава). Што ж, паразважыў ён, ёсць і на тых управа. Ім можна загарадзіць сюды шлях. Тым, хто пры

зручным выпадку не праміне зноў ударыць па Ноўгарадзе і стрымаць яго ад новага паходу сюды. Гэта – полацкі Брачыслаў. Значыць, з ім патрэбныя лагодныя перамовы і моцны саюз. І прыемна, што малады сынавец гэта добра разумее: невыпадкова прыслаў віншаванне, багатыя дары і запросіны наведаць матчыныя родныя мясціны. Трэба будзе паехаць на знаёмства. Ці мо на пачатку паслаць туды пасольства.

А што сама болей непакоіла? Ваенная, службовая, купецкая, землеўладальная знаць ды і рамеснікі, смерды. Калі цяпер усё так склалася, то відочна: яны нідзе не дзенуцца, скорацца. Але зноў і зноў жа трэба, каб ты, лічы, захопнік улады, быў незвычайны strateqos (ад грэч. чалавек-майстра ў палітыцы і дыпламатыі). Тым больш, што пастаянна ў іх будзе ў галаве: ты – незаконнік, насільны ўрвіцель вялікакняскай улады. Зразумела, найбольшы клопат – знаць. Не ўсё ведаеш і можаш, пачнеш з ёю раіцца, слухацца хоць у нечым – дасі ёй моц і нават натхніш на змову і пераварот. Падпазногціш – спародзіш глухое абурэнне. Дык што? Спалучыць тое, што меў некалі ў Грэцыі tyranas (аднаасобны правіцель)? Ды таго цяпер не мае імператар у Візантыі: мусіць асцерагацца і знаці, і арміі, і царквы на чале з патрыярхам. Часта там жыццё імператара вісіць на валаску (не навіна; у свой час у Рыме з 26 імператараў ад Цэзара да Максіміліяна 16 было забіта). Ва ўсякім разе, як не кіруй, але калі пойдзе ўсё ўдала, будуць вернутыя (чэрвенскія), далучацца новыя землі, многія абрастуць заможнасцю, то многае яму даруецца. Нават ухваліцца. А калі не пойдзе ўсё на лад, то ў любы момант чакай бяды. Ён то з вернымі баявымі дружынамі не толькі ацалее, заверхаводзіць, а яго сын-наступнік? Значыць, ужо цяпер яму, Мсціславу, прыйдзецца спалучаць шчырасць і хітрасць, шчодрасць, клапатлівасць бацькі-гаспадара і жорсткасць, не пазбягаючы і лютых распраў. Як над смердамі так і над небяспечнымі баярамі, у тым ліку і над пасаднікамі ў шматлікіх падуладных Кіеву гарадах.Трэба вялікае ўмельства, каб трымаць усіх у страху і абудзіць, умацаваць ва ўсіх да сябе веру і любоў. Не часта і не многім уладаром гэта ўдавалася. Але, было, і выходзіла.

Вось і не вабіла не толькі браць Кіеў сілай, але і ўваходзіць у яго мірна. Хоць можна пайсці тым шляхам, якім ішлі некаторыя ўладары розных дзяржаў яшчэ задоўга да Хрыстовага часу: узяўшы ўладу, пакінуць старую сталіцу, шматлікіх тых, каго грэкі называюць aristokratia, на паступовае счazненне і ўтварыць новы сталец са сваімі прыхільнікамі. Скажам, у свой час рымскі імператар Канстанцін заснаваў у Малой Азіі на месцы Візантыі Канстанцінопаль і пасля падзелу Рымскай імперыі зрабіў яго сталіцай Усходняй Рымскай імперыі, а новыя імператары зацьмілі ім, Канстанцінопалем, разбураны варварамі Рым. Значыць, можна асталічыць Чарнігаў, а ў Кіеў нават не паказваць носу – ён, пакінуты, асаджаны з усіх бакоў, сам па сабе стане ўдзелам... Вось Мсціслаў і вычэкваў, спадзеючыся, што ягоны лёс вызначаць самі кіеўляне, запрасіўшы яго да сябе, а мітрапаліт блаславіць. У думах-развагах настроіў сябе: як неабходныя асобе з ахвотай да ўладарства смеласць, дзёрзскасць, так і мусовая абачлівасць. Калі жадаць стаць высокадзяржаўным мужам. Канечне, не пазамінаў бы хоць адзін мудры і верны дарадца. Ды хто з мясцовых такім стане для яго, дасюль водшыбнага, мала каму вядомага князя? І ці ёсць такія тут, на каго можна было б абаперціся? Так, як бацька навучаўся ад дзядзькі Дабрыні. Са святаслужнікамі той лагоднічаў, ад іх “исцелялся от грехов” ужо тады, калі набыў самадзержную сілу. Разважаючы так, Мсціслаў не зусім раз-

умеў, нават здзіўляўся, чаму такая настойлівая прага да вялікакняжання ў Ярaслава?! Колькі за апошнія гады з-за ягонай гэтага рвення церпіць ахвяр і страт уся Русь! І далей гатовая з-за таго пакутаваць? Колькі ж трэба мукі дзеля навукі?!

Мсціслаў замаўчаў за гэты час меш чым на хвіліну. Епіскап зноў жа ўважліва сачыў за ягонымі вачыма. А потым перапытаў:

– Дык што, сын мой, намерыўся рабіць з Кіевам?

А як, святы айцец, цяпер Кіеў думае паступіць са мной? – ён запытаніў на пытанне. – Калі яму чакаць помачы няма адкуль! Калі я магу пакараць і памілаваць! І да цябе, святы айцец, магу мець няміласць. Нават запатрабаваць новага вышэйшага святаслужніка! Пакуль што ўсюды даваў і дае не толькі вялікую сілу, але і вялікае права меч! А я, як бачыш, трымаю яго моцна.

Епіскап перахрысціўся:

– Ды дасць табе Гасподзь наш благаразуміе. І дазволь перамовіцца з табой адкрыта. Я хачу пагаварыць з табой як на споведзі. То лепш няхай гэта будзе сам-насам. Згодзен?

– Гавары. Праўда часта горкая, непрыемная, але яна – часта і лекі. І, бывае, вельмі патрэбныя для здароўя. Ды каму гаварыць праўдзіва, калі не табе!

– Амаль усе мы, міране і клір, сын мой, успрыймаем часы твайго слаўнага бацькі як залатыя. Пры ім быў доўгі мір, лад і вялікі дастатак. Княская, баярская, купецкая казна пастаянна папаўнялася. Прывозным золатам, срэбрам. І асабліва багата кунамі (мордачкі, вушкі ці пазначаныя кляймом шматкі скур куніц і вавёрак, што былі адмысловымі грашмі. У тую эпоху грыўна срэбра (паўфунта; 150 – 200 г) раўнялася прыкладна двум грыўнам кунаў. – *Г.Д.*). На складах было шмат прывезеных карчаг замежнага віна, даніны – бочак, дзежак свежага мёду і медавухі, жыта, аўсу, розных вырабленых скур. На кіеўскіх гандлёвых плошчах было не прайсці з-за свежай дзічыны, свойскай жывёлы і птушак, заморскіх тавараў. І мы, клір, не ведалі бедства. Мелі дзесяціну ад княскай казны, ад смердаў – дзясятае ад статку і жыта. Мелі права на свой суд. Але вось бацька твой адышоў у іншы свет. І што за гэтыя 10 летаў? Войны, войны, войны! Шмат загінулых, калек, удоў, сірот. Вялікі пажар у Кіеве. Грабеж дзяржаўнай казны Баляславам. І вось новая страшная вайна: ты і Яраслаў...

Мсціслаў слухаў і не адводзіў позірку ад епіскапавых хітрых вачэй.

– Кіеў – у вялікім заняпадзе. І ад страт, і ад таго, што ты асадзіў яго без асады. Перакрыў ўсе шляхі-дарогі. Мала даніны яму, малы прыбытак ад гасцей-купцоў. Як і ад віры, ад пені (грашовыя спагнанні за забойствы і іншыя злачынствы. – *Г.Д.*). Люд абяднелы. І ці не будзе тваёй новай вайны з Яраславам?

– Гэта і цяпер яму рашаць, – стаяў на сваім Мсціслаў. – Ты, святы айцец, ці ніяк не зразумееш гэтага, ці свядома супраць мяне. Калі апошняе, то, прашу, не гнявi!..

– Я, сын мой, за тое, каб нарэшце зноў наступіў мір і лад. Каб вялікім князем стаў мудры і моцны. Гэта трэба і ўсяму люду, і нам, кліру. Мы цяпер, кажу, маем толькі крошкі ад баярскага стала. Мы цяпер не можам пачаць будаваць новую царкву ці даваць начлег бяздомным, лячыць хворых, карміць сірот, убогіх. А гэта не спрыяе, не ўзвышае царкву ў вачах людскіх.

– А Святаполк, Яраслаў давалі вам дзесяціну? – запытаў Мсціслаў.

– Святаполк – акаянны. Ён здрадзіў нам. Ён змоладу паддаўся жонцы-ляшцы і яе духоўніку, меў намер не толькі адарваць Тураў ад Кіева, ад Русі, перадаць яго, а таксама пінескія (пінскія), берасцейскія землі цесцю-ляху, але і ўкараніць тут веру ад рымскага папы. Таму, верны візантыйскай святасці, твой бацька і запаланіў яго, вывез у Кіеў, зняволіў акаяннага, а яго духоўніка... Гасподзь не зажадаў, каб той жыў і сеяў тут смуту наперакор ісціннай хрысціянскай веры...

– Я, святы айцец, чуў, што і, як ты кажаш, акаянны Святаполк шмат зрабіў, каб выдаліць з Кіева цесця Баляслава.

– Мусіў. І мы, верны Канстанцінопалю клір, і лепшыя людзі Кіева настойвалі на гэтым. Баляслаў хацеў услужыць рымскаму папу, таму сваім ганарлівым воям дазваляў здзеквацца з Кіева, са святой нашай веры.

– Ну, а Яраслаў?

– Ён спачатку, калі захацеў сесці ў Кіеве, абапіраўся на язычнікаў. абапіраўся на нас. Яны пры ім нямала папалі цэркваў. Але пасля Гасподзь абразуміў яго, і ён памяняўся, прыхінуўся да нас. І мы яму памагалі. Але потым пачаў нас прыцясняць, узяў сабе ў духоўнікі мясцовага маладога пасвечанага, але не загартаванага ў ісціннай хрысціянскай веры мніха. Яраслава апаланіла самалюбная думка, каб тут праваўнікамі ісціннай веры сталі не мы, асвечаныя ў святым Канстанцінопалі, а мясцовыя. Славяне. А славяне – яшчэ пакуль што толькі падлеткі ісціннай духоўнай веры, бальшыня з іх яшчэ не выйшла на святло, блукае ў цемры ідалапаклоннасці. Яны шануюць больш свае старыя звычаі і святы, а не хрысціянскія.

Мсціслаў чуў тое-сёе пра ранейшыя падзеі ў Кіеве. І пра Святаполка, які, каб сесці на Уладзіміраў пасад, шчодра ўсім сыпаў жменяй з запасаў дзядзькі-бацькі, падкупліваў, і пра Яраслававa, які ў цяжкі для яго час ашчодрываўся і для візантыйскіх святаслужнікаў, услед за бацькам абяцаў ім шмат.

– Кіеў чакае твайго слова, сын мой, – павабіў на большую адкрытасць, як выходзіць, таксама абяднелы іерарх.

– Якога? – як і на пачатку размовы, пасміхнуўся Мсціслаў.

– Яснага.

– Тады няхай і стольны град скажа ясна, чаго ён хоча ад мяне. А я спакойна яго слова абдумаю і рашу ўсё на ўзаемную карысць.

– Значыць, сын мой, чакаеш, каб цяпер Кіеў сам запрасіў цябе на вялікакняскі пасад? – бывалы святаслужнік і хітрун вялікі спазнаў ягоныя патаемныя замыслы.

– Кажу: думаю і буду думаць. Але адно скажу табе цвёрда: верных мне Чарнігаў, Северскую зямлю, радзімічаў, вяцічаў і іншых я проста так не саступлю. Мушу аберагчы іх ад расправы. Цябе, святы ойча, не няволю. Не замінаю рабіць і тут тое, што трэба табе па веры, паколькі я шчыры хрысціянін. Але суд судзіць буду сам. І прашу: не глуміся над язычнікамі за іхнюю дзедаўскую веру, памаліся за ўбіенных і хрысціян, і язычнікаў, суцеш іхніх бацькоў, родных, удоў, сірот, скалечаных. Карацей, амацуй словам духоўным жывых.

– Гэта – мая свяшчэнная місія, князь. Але... – І далей пачаў скардзіцца: – Але для яе, названай місіі, патрэбен храм, куды б міранін і асабліва язычнік зайшоў бы з вялікай душэўнай пачціваcцю. А які ў Чарнігаве храм? Невялікая драўляная клець. Чарнігаўцаў, усіх севяранаў больш вабяць іхнія тайныя свяцілішчы. І ад таго хрысціянская вера тут вельмі слабая.

– Я зразумеў цябе, святы айцец, – не быў супраць Мсціслаў. – Але пра храм падумаем пасля бітвы ці пасля міру.

– Хоць бы такі, які ты паставіў у Цьмутаракані. За што на цябе сышла благадаць Гасподняя.

– Пакуль што агледзь Чарнігаў, выберы месца для храма. Парайся з мітрапалітам, у чый гонар будзе той храм.

– Што тут доўга агледжваць, князь? Калі па загадзе твайго бацькі знішчылі паганскае так званае свяцілішча (спалілі вялікі дуб, ідалы, раскідалі нязгаснае вогнішча, павыкідалі каменне), то чарнігаўцы пазносілі тыя камяні да вялікага валуна, што, ведаеш, тут каля крыніцы. Раней употай, а вось які ўжо год адкрыта ходзяць туды і моляцца там па-паганску. Дык вось на тым валуне, каля крыніцы і трэба паставіць храм.

"Хітра. Нібы ўважылі прошчу – святое месца для люду, ды пакланенне там будзе не ягоным Багам. І я павінен буду тут праявіць цвёрдую волю. Канечне, у карысць царквы", – падумаў Мсціслаў, а ўголас:

– Пачакаем крыху, святы айцец. А што да праў і шчодрага пракорму вам, кліру, то таксама пачакайце крыху. Памаракуем пра гэта, думаю, скора. Церпяць усе – майце вытрымку і вы, як усё гэта меў наш духоўны навучыцель Хрыстос. – І ўсміхнуўся: – Як там у Святым пісанні? Дасць Бог дзень – дасць і ежу...

Епіскап перахрысціўся сам і цяпер перахрысціў ужо і яго. Падняўся з лавы, накрытай скурай, знятай з уласнаручна рагацінай забітага Мсціславам мядзведзя.

Стаў на ногі і Мсціслаў:

– Паабедаем? Посным? Скаромным?

– Дзякуй. Я хачу наведаць вашага протаіерэя. З ім і патрапезую. А што, сын мой, павелеваеш сказаць пасадніку і ваяводзе?

– Няхай не вельмі вольна бадзяюцца па градзе, бо чарнігаўцы могуць пагладзіць іх і супраць шэрсці! За былыя крыўды. За гэтую, пачатую імі і Яраславам вайну. І яшчэ. Цяпер яны для мяне не паслы ад вялікага князя, як тады, пры Дняпры. Хоць і тады былі падманшчыкі.

– Але ж яны – паслы ад Кіева. Града тваіх прадзедаў. А ён, кажу, хоча пэўнасці ад цябе.

– Будзе вольны час – паклічу. Паслухаю. Пагляджу: яны – ад Кіева ці найперш самі ад сябе?

– Больш, чым веру, сын мой: Яраслаў – не з тых, хто проста так саступіць, – ні то перасцярог, ні то падстрашыў епіскап. – Дык рана-позна і новай вайны не пазбегчы. – Падняў голаў, перахрысціўся, гледзячы на ікону. – "Владыко, ты единый без греха. Призьри с небесе святаго твоего на нас убогых, ели же сгрещихом (і хоць саграшылі), оцести (даруй). Да придет на ны милость твоя! Створи (разваж, рассудзі) с нами по милости твоей, господи!"

Перахрысціўся і Мсціслаў, а на развітанне:

– Святы айцец, іерарх у Цьмутаракані даў нязвыклае імя майму сыну: Яўстахій. Што яно азначае?

– Імя, сын мой, нязвыклае для вас, славян. А яно слаўнае. Па-грэчаску гэта тое, што буйна цвіце, каласіцца. Яўстафій – значыць, здаровы, моцны. Мо ўдасца і ў цябе, волата.

Гэтыя словы не маглі не пацешыць Мсціславава бацькоўскае сэрца. Ён, мабыць, асвяціўся не столькі звычайнай, зямной чалавечай радаснай ўсмешкаю, колькі душэўным нябесным ззяннем. "Ловец душ", епіскап

нечакана па-новаму з чалавечых здольнасцей зазірнуў яму ў вочы і...

– Ты, князь, у нас, іерархаў, выклікаў вялікі давер, – мо дагэтуль і выпрабоўваючы, нарэшце пачаў гаварыць адкрыта епіскап. – Мы можам быць за тое, каб ты стаў вялікім князем кіеўскім, блаславіць цябе па свяшчэнным пісанні. Толькі трэба тваё цвёрдае слова: ты даеш нам тое, што многія хрысціянскія іерархі маюць у іншых, падатна схільных да хрысціянства дзяржавах. Гэта, паўтаруся, – дзесяціна з таго, што я толькі што ўпамінаў. І яшчэ. Дай нам права судзіць, адпускаць грахі, як у вас кажуць, за "роспуск" (развод), "заставанне" (сямейная здрада), "пашыбанне" (бойка), "умычку" (выкраданне нявесты), "зелнічанне" (атрута), "патворы" (чарадзейства), "зубаежу" (пакусы) і за іншае, што парушае дух і моц дзяржавы. Канечне, і ты, асілак і палкаводца, дбаеш не толькі пра сваю славу пры сваім жыцці, але пра яе і пасля яго. У людской памяці. Калі ты ўважыш нас, то мы, пісьменныя, удзячныя, напішам пра цябе добрыя словы...

Мсціславу стала ажно горача: праз свой суд іерархі хочуць узвысіць тут сваю, а значыць і Візантыі духоўную ўладу і папоўніць сваю казну. А яшчэ гэта – подкуп. Нашто не пагадзіўся і Яраслаў. І яму, Мсціславу, гэтае не трэба. Тым больш, калі цяпер ён можа ўзяць Кіеў, лічы, голай рукою! Ён, як многія кажуць, умеючы вытрымліваць самыя магічныя чалавечыя позіркі, таксама адарыў епіскапа сваім пранізлівым позіркам і да яго ціха, але на ўсю сілу чалавечай моцы дадаў:

– Я падумаю, святы айцец. І дам табе знаць. А пакуль што ты шчыра, рупліва спаўняй сваё. Святое па самай ісціннай веры. А маю спрэчку з братам Яраславам паводле таго, якой быць далей Русі, я вырашу сам!.. Тут, на нашай грэшнай і святой славянскай зямлі! З ісціннай верай, якую даўным-даўно прыняла мая прабабуля Вольга, а потым мой грэшны, але мудры бацька Уладзімір! Якую прыняла мая ва ісціну святая маці Гарыслава-Рагнеда – святая нявеста Хрыстова Анастасія! І мой шматпакутны, але мудры і святы старэйшы брат Ізяслаў! Якой асвяціліся мы, маладзейшыя! Якой трэба больш і больш асвяціць усю Русь і бліжэйшыя да нас язычніцкія плямёны!

Епіскап, астуджаны холадам на холад, пачціва схіліў галаву. Але пакінуў яго святліцу незадаволены. Ды гэта зусім не кранула Мсціслава. Ён тым больш упэўніўся: цяпер далейшы лёс Кіева, Русі рашаць толькі яму! Так распарадзіўся якраз Ён, *ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ УСХОДНЕСЛАВЯНСКІ ЛЁС*! Вось і трэба быць звычайным простым і вялікім зямным чалавекам! Тут можна – прама, улева і направа, як у тых даўніх людскіх баях-казках! Але дзе самы верны выбар шляху?! (Што да так званага "Владимирового устава" пра вялікія правы царкве і надзяленне яе розным багаццем, то М. Карамзін зазначаў, што ён, той статут, "подложный", напісаны манахам 13 ст., дзеля чаго пэўныя ўпамінанні манаха Нестара пра Уладзіміравы прывілеі царкве пазнейшыя летапісцы-царкоўнікі "дополняли баснями". – *ГД*.).

... Ён і яна пазіралі адно на аднаго са здзіўленнем, з вялікай душэўнай радасцю, цеплынёй і замілаванасцю. Мсціслаў не мог не ўразіцца: ва ўсіх плямёнаў і народаў, у славян таксама, амаль усе дзяўчынкі незаўважна выцягваюцца, страйнеюць, наліваюцца жаноцкасцю, харашэюць, пэўны час у замужжы квітнеюць, а потым ад цяжкай працы, нялёгкай долі жонкі і маці, а то і ўдавы хто спакваля, а хто раптоўна чэзне, старэе, брыдчае і, бывае, рана пакідае гэты свет, дзе іхняе жыццё бліснула толькі мігам, як маленькі адростак маланкі ў небе.

Тут, у святліцы, нечакана паўстала перад ім знаная з яго маленства жанчына. Цяпер, за мінулыя дзесяцігоддзі, яна стала ўжо зусім зьмененай. Старой і таму ў многім новай, малазнаёмай . У доўгім, знізу шырокім, на паясніцы вузкім шматполкавым бела-сінім андараку (па падоле на сініх палосах былі набойкі кветак белых рамонкаў, а на белых полках – блакітныя і бледна-ружовыя незабудкі і васількі), пад пояс апускалася белая, з сінімі кружкамі і лісцем па вырaзе ніжэй нагрудніца, а пад ёй – белая сарочыца, зноў жа з сінімі ўкрасамі па краях і верху рукавоў. На галаве невысокі, круглы белы стаўбунок з набойкай сініх кветак. На пагруддзі – радочкі з шэрых драцін і бляшак. Яе, гэтую жывую душу, не бачыў амаль трыццаць гадоў, з часу ад'езду з Кіева ў Цьмутаракань. Дык яна, па ўзросце прабабулька, была і цяпер не чужая сваімі рысамі тагачаснасці – сярэднім ростам, русявасцю, прыгожымі высокім лобам і з невялікай упадзінкай прадаўгаватым носам. І, галоўнае, са сваёй адмысловай, сардэчнай усмешкаю. А змянілася тым, што з поўненькай маладзічкі стала худаватая, былая русявасць на пасмачках бачных валасоў афарбавалася сівізной, на скронях ажно да жаўцізны, лоб і куточкі вачэй прарэзалі глыбокія маршчыны, вясёлы блакіт у вачах пашарэў і ачах. Ды ўсё роўна і ў такім пашанотным узросце яна не страціла мілавіднасці. Рэдка такое бывае, але яе доўгі век не паглуміўся над чалавечым целам: падарыў вабнасць старасці.

– Любка! – радасна ўсклікнуў. – Люляйка! Ненька! Ты ўсё такая!

Ён хацеў сказаць, што яна адным дык зусім не змянілася: засталася вернай прасталюднаму адзенню ("Я – не баярыня, каб у шоўку і парчы красавацца", – адказвала яна некалі, калі пыталіся, чаму і ў княскім хораме не носіць падароныя заморскія багатыя і прыгожыя ўбранні). Урэшце ўсе прывыклі, што яна шануе строі з родных полацкіх зямель. Палатно на іх было рознае: на буднія дні – крапіўнае, льняное, суконнае ці паўсуконнае простае, а на святы – старанннa выробленае і выбеленае, абхарошанае. Сёння – з сінімі набойкамі (яны выходзілі, калі афарбаваную дошку з узорамі накладалі на палатно і білі па дошцы драўляным малатком). Яшчэ Любка мела ўборы з вышыванкамі. Звычайна чырвоным колерам. Шылам, кручком, іголкай. Рознымі па змесце і колеры ніткамі (у баярынь і срэбрам ды золатам). А на вышыўцы былі выявы птушачак, жывёл, раслін, пахіленыя крыжыкі і іншыя, часамі мудрагелістыя прыдумкі, што аднак мелі свой сэнс (скажам, і па іх можна было пазнаць, хто з адмыслова апранутых дзяўчына, хто жанчына-маці ці бабуля ўжо).

Пабачыўшы, што ён і праз столькі часу пазнаў яе, Любка засвяцілася жаночай, нават непаўторнай мацярынскай шчаслівай усмешкаю-ззяннем (замужам ніколі не была, прысвяціла жыццё іхняй маці і ім, Рагнедзіным дзецям). Люляйкай яе, іхнюю няньку, яны, малеча, называлі таму, што кожнаму з іх шасці яна любіла расказваць, што "я яшчэ ў Палацеску люляла і вашу маці, Гарыслаўку, спявала ёй нашы песні". А ненькай (па-палянску маці) – таму, што яна па высылцы іхняй матулі з Кіева на памежжа крывіцка-дрыгавіцкіх зямель у поўным сэнсе замяніла ім, асабліва малодшым Усеваладу і Праміславе, маці, паколькі новая бацькавая жонка-хрысціянка паводзілася з імі даволі адчужана, прыставіла да іх і сваю няньку-грачанку-хрысціянку, якую яны ўсе неўзлюбілі за яе суровасць і за прымус вучыць на памяць розныя малітвы на чужой (грэчаскай) і малазразумелай (царкоўнаславянскай) мовах.

– Мсціслаўка! – Любка пляснула далоньмі і, перамешваючы полацкую

з палянскай гаворкі, уразілася: – Які ты ставні чоловік (статны мужчына)! Выкапаны дзед Рагвалод! Рослы, русявы, гэткія самыя (не сказала, што вялікія) вочы.

Кінуліся адно да аднаго. Абняліся.

– Вы былі і засталіся для мяне як тыя пташанята, – плечукі яе ўздрыгнулі. – Як мае сыны і дочкі.

– Каб ты ведала, як я рад бачыць цябе! – Пяшчотна пагладзіў па яе худых, але, як адчувалася, яшчэ не абнямоглых плячах. – Ты замяніла нам нашу маці, калі яе не стала ў Кіеве. Мусіць, больш сардэчных жанчын, чым яна і ты, няма на свеце. Ад сваёй мы часамі зведвалі строгасць, а вось ад цябе толькі ласку. Нават сёння мне цяжка зразумець, адкуль ты чэрпала і чэрпала яе. Нават і тады, калі ў цябе на душы было цяжка. Як радасна бачыць, што ты такая маладзістая.

А калі селі каля акенца побач на лаве для гасцей, ён, пры святле зазіраючы ёй у вочы, сказаў пяшчотна:

– І язычніцкія багі, і хрысціянскі Усявышні шчодра ўшанавалі цябе доўгімі летамі і красою жаночай. Ці прыймаеш амброзію?

Любка, канечне, не зразумела, пра што ён запытваецца.

– Ambrosia – сокі, ежа багоў. Дае вечную маладасць і лепату.

– От скажаш! – махнула рукой. – Хоць ад княскага стала не была адагнаная. – Уздыхнула: – Многа чаго, Мсціслаўка, пабачыла і зведала: і радасці ды шчасця, і бяды, журбы ды гора. Таму і жыву доўга. Як ваша маці нарадзілася, то мае косы ўжо да паясніцы дабіраліся. Значыць, скора магла б і замуж выходзіць. Я і цяпер помню яе неўмалём. Як хітала яе ў калысцы і спявала песні, што чула ад сваёй бабулі. Часамі познімі вечарамі яна доўга не ўгамоньвалася, то плакала, то бурчэла сабе пад нос, а мне так хацелася спаць! – І заспявала. Мо і ад цяперашняй радасці яшчэ не старэчым, а даволі спеўным голасам:

– Люлі-люлі-люлі,
Усе дзеці паснулі.
Адна Слаўка не спіць,
Не спіць, не засынае.
З катком размаўляе.
А ты, коцік, не бурчы,
А ты, Гарыслаўка, спі-маўчы.
Пайшоў каток на гульку,
А Гарыслаўка – спаць у люльку.

Мсціслаў не мог не зацешыцца: калі не запомнілася, што і як спявала над калыскай яму Любка, то не забылася, як яна схіляла да сну малодшых брата і сястру, клічучы на падмогу то коціка, то нейкага бая.

– Як і твайго дзеда Рагвалода, бабульку Прадславу з сынамі, так і майго бацьку, братоў тады... забілі, – мудра пазбягаючы тлумачыць, што значыць “тады” (г. зн., калі Уладзімір звернічаў у Полацку), пачала выказваць свой даўні боль, выціраючы слёзы з куточку вачэй. – Мяне з Гарыслаўкай у Кіеў прывезлі. Мая маці ацалела, але больш замуж не выходзіла. І я не выйшла. Не скажу, бралі. І слаўныя малойцы з дружыны твайго бацькі. Магла і баярыняй стаць. Але я не магла пакінуць Гарыслаўку. Яна магла хоць паплакаць на маім плечуку... Каб не вы, яе дзеткі, дык цяпер засталася б я адна, як той нязжаты колас на полі.

– Калі наша маці нарадзілася, табе тады магло быць каля 13 сонцаваро-

таў, – падлічыў Мсціслаў. – Значыць, цяпер за табой мо і 75. Малайчына! Зайздросны век! Ды яшчэ быць пры ім такой жвавацю!

– Не жвавая я, Мсціслаўка, а ледзь жывая, – Любка паклала халаднаватыя і цяпер, улетку, далоні на яго руку. – За слізонькамі світу божога не бачу...

– Што так, ненька? – запытаў, хоць не мог не прадчуваць яе горнасць.

– Госпадзі мій! Свіце мій! – зноў, толькі цяпер горычна пляснула далоньмі. – Так і замлела я, калі пачула, што ты і Яраслаў біцца будзеце! Дзіты адных маці і бацькі! Родныя братове! Калі долі (цяпер) вас е цількі двое!

Спахмурнеў:

– Лічыш: я, прыйшоўшы з Цьмутаракані, за гэта вінаваты?

– Хто я така, каб судзіць вас! Мне дужа баляча за вашы чвары (спрэчкі). Я хачу, каб вы абое былі жывы і здравы! – Сказала, а потым : – Няхай госпад наш дасць вам добры глузд. – І з просьбай-мальбою: – Замірыцеся швідшэ, дзіты мае. Вы ж можаце абое складці галовы!.. А позні дзеці вашыя яшчэ зусім малыя. То іх прыбяруць да рук баяры. А не ўсе яны добрыя, завядуць паміж сабой звады, ублытаюць у іх княжычаў... Дык вы, браты, будзьце не ворагі, а вкупці!

Мсціслаў не мог стрымаць крыху іранічнай, але ўсё ж лагоднай усмешкі:

– А ты – спраўны пасол, ненька!

– Кажу ж, Мсціслаўка, мне па ўсіх вас душа баліць. Па маці тваёй, па брату твайму Ізяславу, які ўслед за ёю ў маладым веку пакінуў гэты свет. Па Усевалаваду і па Праміславе... А па Прадславе!.. Яна ўжо дзіцем была як сонейка на небе. Харошая, шчырая, праўдзівая, умела і мудра, і весела сказаць, так заспяваць, што птушкі замаўкалі. Праўда, потым сцішэла. Спачатку па маці замаркоцілася. Потым ваш бацька змучваў яе і Праміславу сваёй любоўю, замуж не адпускаў. Ну і Яраслаў іх пакрыўдзіў... Не было ёй дабра змалку, то, можа, не будзе дабра і да астанку... Яна зведала цяжку жаночу долю: гірка дарэмна кахаць, гірка дарэмна чакаць, быць непрытульнай на чужыне, рана памерці. Я, Мсціслаўка, і Яраслава шкадую... Не соладка яму з яго Ірынаю. Не любіць яна яго. Вось ён мо і найперш для яе хоча быць вялікім князем. Каб усё даць, што яна хоча.

Абцяжарыла Мсціславава сэрца Любка. Але і акрапіла яе жывой вадою – кроплямі дабрыні, глыбокай адданасці ім, шчыра любімым дзецям шчыра любімай Рагнеды, мудрай развагі.

– Буду думу думаць пра тваю казань, дарагая люляйка, – лоб у Мсціслава зморшчыўся сам па сабе. – А цяпер трэба пачаставаць цябе як кіеўскага пасла.

– Які я пасол, Мсціслаўка! – сумелася. – Я так хацела паглядзець на цябе хоць адным вокам! Хоць... – Бачачы, што ён зацікавіўся, прызналася: – Спярша не пускалі мяне сюды. А потым сама Ірына пачала пасылаць: едзь, пагавары з ім. Даведайся, што ён думае рабіць з Яраславам, са мной і нашымі дзецьмі? Яна ж ад Яраслава ведае, што я вам усім душу аддавала і аддаю...

– Усё-такі, ты – пасланец, – усміхнуўся Мсціслаў. – І для мяне дужа жаданы і прыемны.

Мсціслаў перамовіўся з вышэйшай Радаю северанаў, а потым паклікаў да сябе (не ў сваю святліцу, а ў грыдніцу) кіеўскае пасольства. Яно, як

сказалі яму, разгубілася, стамілася ад яго халоднасці, ад увогуле няяснасці за свой лёс. Для іх адно было на перамовах там, пры Дняпры, і зусім іншае тут, калі ён прыймае іх як заваёўнік-пераможца. Ды вось седзячы хай сабе не на залатым троне, а на дубова-ясеневым крэсле з прыгожымі падлакотнікамі і высокай спінкай. І цяпер госці ўжо інакш зірнулі на яго візантыйскае ўбранне – не як на ягоныя дзівосы і прыхамаць, а як на сапраўды ўладную адмету.

Не падняўся і моўчкі не паказаў рукой: заходзьце, сядайце за доўгі стол, на якім цяпер нічога, ні кветак ды пачастункаў, не было. Значыць, змусіў стаяць. Прыжмурыў вялікія вочы і ўчэпіста ўталопіўся найперш на пасадніка. Той, не менш таўсматы, чым у першую іхнюю сустрэчу, праўда, з больш пасівелымі буйнымі вусамі і пасмай валасоў на голай галаве, зусім упацеў, пазіраў у адказ як загнаны ў кут воўк. Толькі не мог, як звер, выскальваць зубы. І гэтак адну хвіліну, другую. Потым Мсціслаў сціснуў пальцы ў кулакі і незадаволена:

– Доўга, вельмі доўга збіраліся вы, стольныя старцы, пабачыцца са мною!

Ніхто з іх не абзыўнуўся.

– І нарэшце з чым прыехалі? Што хочаце сказаць мне не віцееватае, а сур'ёзнае? Толькі дзелавое?!

– Мы, князь, чакалі весткі ад цябе... – прамовіў пасаднік Андрэй. Зусім без крыўды і дакору, з абачлівасцю.

– Не чакалі, а вычэквалі! – абарваў ён. – І што? Хто вы цяпер? Асаджаныя з усіх бакоў! Без доступу даніны! Без мытных збораў! Без баявых дружын! Во! – Падняў правую руку, раcпраміў і здзьмухнуў з яе. – Вось хто вы цяпер! Пыл на ветры! Зараз я магу чакаць і вычэкваць той часіны, калі ў вас жываты прыліпнуць да спіны! Калі вы прыпаўзяце сюды, у Чарнігаў, на каленях!

Пасаднік рукамі праз прарэзь у доўгіх рукавах сцягнуў абшыты зверху чырвоным шоўкам, знізу аблямаваны скурай белага собаля нагалоўнік, разгарнуў полы пакрытага таксама чырвоным шоўкам, з белымі каўнярoм і нарукаўнікамі кунтуша і абсунуўся на калені. Выцер нагалоўнікам пот з лоба. За ім апусціліся і іншыя радцы, пакорліва схіляючы галовы.

– Ты, князь, не проста пераможца. Ты – слаўны ўнук баявітага Святаслава, сын мудрага бацькі Уладзіміра. Ты – цяпер вяршыцель лёсу зямлі нашай. Мы, бачыш, падаем ніц перад табой, гатовыя аддаць табе ключы ад стольнага Кіева, – зноў загаварыў Андрэй. – Будзь вялікім князем, бяры пад сваю магутную дзясніцу і нас, і ўсю Русь. А над намі змілуйся. Нам нялёгка даўся такі вырак. За апошнія 10 летаў вунь колькі разоў вялікакняскі пасад пераходзіць з рук у рукі!..

Ён не толькі не паддаўся радасці (вось запрашаюць на вялікакняжанне! Ідзі і ўладар!), але нават не варухнуўся і не міргнуў, па-ранейшаму не зводзіў строгага позірку з укленчаных.

– Але ж кіеўскае веча вам не давала права на такі вырак, – абзыўнуўся ён.

– Не давала. Але і не супярэчыла ў гэтым.

– Значыць, здраджваеце свайму нядаўняму вялікаму князю? – Мсціслаў зларадна пакпіў. – Таму, хто цяпер мае законнае дзедаўскае права на пасад!

– Дзеля цябе, – апраўдваўся той ( а тут – загвоздка: дзе шчыра, а дзе хлусліва). – Яраслаў часта і моцна прайграе, не дае нам вялікай

надзеі і апоры. Але мы просім цябе не садзіць яго ў поруб. Няхай застаецца ў Ноўгарадзе, у паўночным стольцы. Як мы лічым, ён цяпер не асмеліцца ісці на цябе, сам адрачэцца ад вялікакняства. Папросіць толькі адпусціць да яго сям'ю. Просім: ты намі ўладар. І будзь вялікамудры і даравальны. – І палесціў: – Ужо і за Руссю цябе называюць Храбрым і Удалым.

Мсціслаў быў безуважны. Не без гаркаты ўспрыймаў пераменнасць лёсу, людской выкрутлівасці, здрады ўладару ў цяжкую для яго хвіліну: моцна трымаеш уладу – патрэбны і любімы, абступіўся, а калі яшчэ пабіты – лічы, ізгой!

– Прысягаеце мне? – нарэшце памякчэў. Нават усміхнуўся: усё ж прыемная рэч нават адчуванне вялікаўшанавання!

Усе ткнуліся лобам да падлогі з аплазаваных і нацёртых воскам дубовых плашак:

– Прысягаем. І тут, і ў Кіеве-градзе.

– Вось што, старцы Кіева-града, – Мсціслаў лёгка пастукаў мяккім спаднізам кулакоў па падлакотніках крэсла. – Цяпер слухайце маю волю. Пры Дняпры і тут на днях епіскапу я не маніў пра тое, чаго хачу. Не было і няма ў мяне прагі вярхоўнай улады, дык можна было абыйсціся і без брані. І новай пазбегчы можна. – А тады: – Падыміцеся і сядзьце за стол.

Маладзейшыя лёгка, Андрэй з іншымі старэйшымі з крэктам падняліся, абселі стол. Твары іхнія пасвятлелі, у вачах з'явілася жвавасць.

– А воля мая, айцы-старцы, такая: ні я, ні Яраслаў не становімся адзіным вялікім князем...

Ва ўсіхных вачах – здзіўленне, а то і непаразуменне. Што задумаў гэты загадкавы, грозны князь-удалец?

– Я рашыў узяць узор з Візантыі. Калі мой бацька меўся прыняць хрышчэнне, там было два базілеўсы-браты. Базыль і Канстанцін. Яны абодва дружна кіравалі і праз хітрыкі свае ўрэшце пагадзіліся пахрысціць бацьку, аддаць за яго замуж сястру. І бацька як след аддзячыў ім, памог скарыць мяцежных палкаводцаў. У нас цяпер таксама можа быць дружнае двоеўладдзе. Два вялікія князі. Адзін – па правым беразе Дняпра, са стольцам у Кіеве. Другі – па левым беразе, са стольцам у Чарнігаве. У кожнага будзе свая Рада, казна, баявая сіла, мытня. Што да інтарэсаў усяе Русі, то іх будзем разам абгаворваць на пароўнай Вышэйшай Радзе. Адзін раз у Кіеве, другі – у Чарнігаве.

Анямелі, некаторыя ажно разявілі раты: зусім не чакалі такога Мсціслававага сказу. Рэдкасць – і вялікая!, – каб пераможца паступаўся ўладай. Дзе будзе сам? У Кіеве? А каго пашле ў Чарнігаў? Зводнага брата Судзіслава? Сына? Ці няўжо... скоранага Яраслава?

– Што – не верыце вушам сваім? – пацешыўся. – Верце. Дазваляю сесці ў Кіеве Яраславу. Ён – старэйшы, больш навучаны кіраваць вялікай дзяржаваю, дык няхай і ладзіць. Толькі няхай па-добраму будзе мне за бацьку. Пра ўсё астатняе пагамонім, калі сустрэнуся з ім сам-насам. Не згодзіцца дзяліць са мной уладу – няхай наракае сам на сябе. Чуеце?

– Чуем, – зноў за ўсіх адказаў Андрэй. – Міласэрны і высокамудры ты! Сапраўдны вялікі князь!

– Ён не шле да мяне паслоў, – сказаў Мсціслаў, – а я рашыў пасланць. Няхай з маімі едзе хто-небудзь і з вас, каб пацвердзіць мае словы. А пра іх праўдзівасць я магу даць клятву на Святым пісанні. Калі мы цяпер не будзем два князі, то не абмінем разладу, а то і брані Кіева з Чарнігавым,

з іншымі землямі, што цяпер прысягнулі мне. Яшчэ. Каб памагчы стаць на ногі Чарнігаву, усёй Северскай зямлі, я цяпер мушу браць для нас пошліну ў Любечы. Значыць, яе вам дастанецца менш. Як ад паўночных, так і ад паўднёвых гасцей. Так што трэба дзяліцца з намі. І яшчэ. Перасцерагаю: адкрыты доступ у Ноўгарад да Яраслава зусім не азначае помач яму срэбрам і золатам! Іначай... Зведалі маю міласэрнасць – зведаеце і мой гнеў! Чуеце?

– Чуем-чуем, вялікі князь, – не супярэчыў Андрэй. – А ці дазволіш ты Яраслававай сям'і выехаць у Ноўгарад?

– Не бяру з яго прыклад, чужых сем'яў не няволю, – запэўніў Мсціслаў. – Няхай вялікая княгіня Ірына будзе спакойная. Ніякай пагрозы ёй ад мяне няма. А калі яна захоча пакінуць Кіеў, то няхай пакідае. Усё! – І ўжо з поўнай усмешкаю: – А цяпер пачастуемся. А то вы там агаладалі... Вы ж частавалі мяне каля Дняпра... Застаўся я жывы – і вы застанецеся жывыя...

Яраславу перадалі Мсціславаў "сказ". Як казалі, той уважліва выслухаў кіеўскага і чарнігаўскага старцаў, але не завіхнуўся адгукнуцца. Хоць не ўсё страчваў, захоўваў палову жаданага, але нават не мог схаваць: не проста пакутуе, а сам не свой ад таго прычарнігаўскага збіцця, што ўчыніў яго варажскай дружыне ён, Мсціслаў. Днямі не выходзіў з харама, а то і не падымаўся з пасцелі, скардзячыся, што баліць нага. Мо і давалася ў знакі: з маленства была скалечаная, а ў сечы магла быць яшчэ і параненая. Хоць боль, згрызы былі іншыя, мацнейшыя...

## 7.

Мінуў год, пачаў набіраць сілу другі. З Ноўгарада ад Яраслава ніякага погаласу. Зразумела, Мсціслаў не мог не цікавіцца, як паводзіцца там брат. І ўведаў: зацята, варожа. Ачомваецца і які ўжо раз з падмогай наўгародцаў збірае новыя дружыны для новага паходу на поўдзень Русі для новага захопу Кіева. Праз верных людзей Мсціслаў строга перасцярог наўгародцаў: дасцё вояў Яраславу – будзеце мець адразу дзьве кары. Нелітасціва паб'ю вашых сыноў і мужоў, а заадно дам поўную волю Полацку, а то і памагу яму для захопу Ізборска, Пскова і Ноўгарада, што той зробіць з вялікім задавальненнем. Так што больш не будзеце паўночнай сталіцай Русі, а станеце калі не падуладнымі, то даннікамі і ўжо моцнага Брачыслава.

Конніцкая дружына ясаў і касогаў засталася пры Мсціславе на ягоным хлебе (гадавала коней, аберагала Мсціслававых пасланцоў у іх выездках на землі вяцічаў, мяшчэры, мардвы, мурамы, ажно да Іціля (за ім на поўнач былі чарамісы-марыйцы, а на захад абшары весі, Прыладажжа і Белаазер'е, падуладныя Ноўгараду, на поўнач – бяскрайнія лясныя, з многімі рэчкамі, рэдка населеныя людзьмі, а яшчэ воддаль балоцістыя ці вечна мёрзлыя вольныя Біярмія ці Перм, Пячора, а за першай – мора, за другой, кажуць, – яшчэ большая вада, дзе доўга тоўсты лёд, моцны мароз і пранізлівыя завеі, белыя мядзведзі, пясцы, нейкія цюлені, маржы і іншыя звяры). Пасланцы тыя дабіраліся туды, каб не толькі пабыць на пагостах – месцах збору даніны, але і сцвердзіць там уладу Мсціслава, і пры патрэбе ад яго імя суд правіць). З саюзнікамі-печанегамі (цяпер яны і не падумвалі нават, каб нападаць на прыкіеўскія землі, мірна прадавалі сюды коней, кароў і авечак ці абменьвалі іх на розныя тавары) захоўвалася дамова: яны па першым жа знаку прыходзяць яму на помач.

Мсціславу таксама хацелася пабачыць свет, як многія казалі, – вышэйпералічаныя “дзікія краі з дзікімі лясамі, звярамі і людзьмі”, але яму трэба было заставацца ў Чарнігаве, падмацоўваць ваеннае ўмельства сталых дружын, навучаць новыя, займацца гаспадарствам, зрэдку маючы ўцеху ў любімым паляванні на аленяў і ласёў, на тураў і на мядзведзяў. І цвёрда верыў: Яраслаў можа паштурхаць яго, але не абваліць. Таму смела даў знак у Цьмутаракань пасадніку: пасылай сюды маю Марыю з дзецьмі. І вось у адзін дзень ранняга лета, калі яшчэ не адольвала нават у аддаленым на поўдзень стэпе спякота, яго чакала не проста забава, а вялікая радасць: з далёкай Цьмутаракані прыехала іхняя княгіня. На накрытым дыванам вярблюдзе, на крэсле, прыладжаным паміж гарбамі. На каленях трымала хлопчыка ў белай каракулевай нагалоўцы, белай вышытай па шыі і грудзіне доўгай сарочыцы, ліловай безрукаўцы, у чырвоных замшавых тэпках. Везла не проста мальца, а княжыча, бацькавага наступніка на гэтых землях. Ужо выразна ўбачыўшы яго, радасна засвяцілася, нават сонечна заззяла прывітаннем. На другім вярблюдзе яе прыслужніца трымала таксама хлапчука. Толькі ў шэрых папасе, чэкмені, партах і чорных ботах. З кінжальчыкам на боку. Падлетка ўжо. Отрака. Іх суправодзіла на конях паўдружына па-баявому ўзброеных ясаў і касогаў, абмечаваныя слугі на вярблюдах з рознымі паклажамі на іх па абодва бакі.

За гарадскімі варотамі Мсціслаў, перапоўнены бацькоўскай радасцю і ад таго моцным сэрцабіццём, нават хваляваннем, падышоў да першага няўклюднага, з чырванавата-шэрай поўсцю, з наростамі на шыі і да калень на нагах, з горда паднятаю галавой, вынослівага падарожніка сухіх стэпаў і пустынь і ўзняў рукі, каб узяць на іх па-каўказску чарнавокага, смуглага і з крыху апушчаным уніз на дзюбцы носам, прыгожанькага сына Яўстаф(х)ія, але той не падаўся насустрач, а спалоханай вавёркай хітнуўся да маці і абхапіў яе за шыю.

– Сынове! – супакоіла тая. – То ж есмь твой отчь! Сьдзе (тут) будзе твое покабыціе (новае жыццё)! Твое Отчество!

Ды як таму, зусім малому (хлапчук да трох гадоў лічыўся “младзенцам” (малечай), пасля трох – дзіцескам (дзіцем), ад 7 да 15 гадоў – отракам, падлеткам), было зразумець, што гэты рослы дзядзька ў вялікім гурце незнаёмых людзей – зусім не чужы яму чалавек, а родны з родных. Калі ж Марыя сілком падала яго, то ён на бацькавых руках заўзята затурзаўся, нават пачаў хлістаць па шчоках, вырываць валасы з вусоў і барады, то больш смелыя чарнігаўцы не пакпілі, што малы дзікаваты, дабразычліва зажартавалі:

– Ваярскі дух!

– З гарачай крывёю!

– Не ведае, што прыйдзецца плаціць паўвіру!

Віра – плата, найбольш у казну, за забойства (калі не знаходзіўся вінаваты, то за яго мусіла плаціць верв, абшчына), паўвіра (а яшчэ была і пеня) – грашовы ўнёсак пацярпеламу і таксама ў казну за калецтва. А яно магло быць самае рознае: знявечаныя вока альбо нос, рука і нага, выбіты зуб, адсечаны палец, збіццё з кроўю ці, як цяпер у выпадку са Мсціславам, вырваная пасма валасоў з барады (праўда, дазвалялася за знявечча адказваць падобным скалечаннем) . Нямала перападала за падман вагаў і меры, нешанаванне бацькоў, судовамаёмасную цеганіну, абразу царквы ці за зняцце адзення з нябожчыкаў. У казну бралі больш, каб, зразумела, папоўніць яе

і заадно паказаць: злыя ўчынкі падрываюць лад, зневажаюць дзяржаву і вялікага князя (як і ў іншых краях, асабліва строга, да смяротнага прысуду, каралі "конскага таця" (злодзея): конь – не проста падмога, а паратунак і для гаспадароў, і для вояў). Самая страшная, звышдзікунская мера кары (і ў суседніх народаў з Руссю) была Нябесная – праверка... жалезам і вадою. Калі не маглі даказаць вялікую віну не толькі нявольніка, смерда, чалалядзіна, халопа, отрака, грыдня, цівуна, ваяводы і нават у некаторых мясцінах ... князя, то іх змушалі браць голай рукой нагрэтае да чырвані жалеза ці апускаць яе ў вар, каб дастаць з яго грыўну. Праз тры дні зажыла рука – невінаваты, апухла, амаль растлела – ... грэшны, непазбежна асуджаны да смерці (у некаторых мясцінах і нашмат пазней ужывалі падобную расправу: скажам, падазронаму ў злачынстве звязвалі на спіной рукі, чаплялі да ног цяжкі камень і кідалі ў раку. Усплыў – вінаваты: выратаваў вадзянік. Боўтнуў навечна на дно – праведны: Бог забраў да сябе!).

– Ну, джыгіт! Ну, батыр! – Мсціслаў, не могучы супакоіць разгневанага брыкуна і задзіраку, перадаў яго ўжо спешанай жончынай служанцы, а сам, яшчэ больш усцешваючыся, узняў рукі, каб ссадзіць з вярблюда Марыю. І яна – у белай намітцы з чырвонымі канцамі, у светла-шэрай сукні, чорнай нагрудніцы, папаўнелая, але яшчэ маладзістая, свежая і за доўгую сюды дарогу – улюблёна адарыла яго ясным, пяшчотным позіркам чарнявых вачэй і аддана падалася на ягоныя рукі. Ён не апусціў яе на дол, прыціснуў да сябе, з адмысловым хваляваннем адчуваючы яе пруткае цела.

– Джаначка! – прашаптаў. – Джаначка мая! Велмі красна есі! Наймілейша! Найжаданейша!

– І ты мне, – зашаптала ў адказ. Заірдзелася, а вочы заззялі ўжо новым адмысловым, пажадна жарскім бляскам. – З мужам удава есмь. Хладна одр без цябе. Баялася, што ты мо любадзеіцу паімеў ужо. Есмь жа пралюбы.

Цяпер мо якая-небудзь баярыня з гурту і зайздросна пазірала, як ён, сасмяглы без жаночай ласкі, не шукаў уцехі з ёю, цярпеў, чакаў, а вось цяпер парывіста туліць маладзічку з далёкіх гор, паволі апускае яе высокімі грудзямі па сваёй грудзіне на гэтую зямлю, прыплюшчваючы ад мужчынскага задавальнення вочы. Яна, канечне, саромелася на вачах у мноства людзей такой адкрытай любасці, але не магла вызваляцца ад яго захопленага абдымку, тулілася ўсім станам, як можа пасля доўгай ростані туліцца жонка да любімага мужа...

– Не трэба так глаголеці, джаначка! Я шчаслівы толькі з табою.

– І я. Колькі разоў мне хацелася сакаліцай паляцець сюды! Цяпер ты, наш сын, мае дзеці самыя дарагія для мяне людзі. Я жыву дзеля вас. А Юры ўжо не будзе з намі. Яго папрасілі на княства з майго роду.

...І вось на шматпакутныя прыкіеўскія землі зноў пачала насоўвацца вайна. Як перадала старожа за Любечам, цяпер, маладым летам, калі Дняпро, лічы, увайшоў у берагі, калі загусцілася трава, на лодках імкнецца ўніз па цячэнні Яраслаў. Цяпер Мсціслаў па-новаму ўчыніў "исполчение". За Любечам схаваў засадную лёгкую і імклівую конную яска-касожскую дружыну, іншыя сілы таксама затаіў. Непадалёку Любеча. І воддаль ад яго, паблізу Дняпра. Тут быў і ягоны запас, і перагарода для Яраслава, калі той уцягне ў бой з адной са сваіх дружын Мсціслававых вояў, а сам з іншай дружынай паспрабуе ірвануць да Кіева. Ягоныя перадавыя дазорныя пачалі ўпотай абсочваць, дзе Яраслаў высадзіцца і якую мае

сілу. Цяпер варта прыдумаць іншы ход бою, чым пры Чарнігаве, а для гэтага трэба па-новаму ашаламіць праціўніка. Перад Любечам Яраслаў прычаліўся да левага берагу і звыкла пачаў збіраць брацкае войска у адзін стан і тым самым выяўляць сваю моц. Мо і насцярожыўся, што яму далі шанец высадзіцца: ведаюць жа пра яго прышэсце. Вунь за Любечам ужо высока паўзе ў светлае неба цёмны дым – знак, перасцярога чарнігаўцам. Ён ведаў прылюбецкія лес, балотцы і азёры, дзе ў свой час знянацку позняй восеннню разграміў дружыны Святаполка і саюзных яму печанегаў, але, канечне ж, улічыў, што гэтыя мясціны не мог не агледзець і Мсціслаў, таму цяпер спадзявацца на нечаканасць нападу не варта.

І так вось моўчкі, непарушліва, не засланяючы шлях Яраславу рушыць далей, выпрабоўвалі адзін аднаго дні тры. На чацвёрты з Яраслававага стану выехала пяць вояў. Не ў даспехах, толькі з мячамі. І не з баявым, а з мірным сцягам. Значыць, перамоўшчыкі. Засадная дружына не выдала сябе, дазволіла пецярым наблізіцца да любецкай старожы. А тая, сустрэўшы іх, завязала ім вочы і суправодзіла пад Любеч да Мсціслава. Але не ў яго стан, а перад ім да высокага і разлапістага ляснога дуба на вялікай, абкіданай бярозкамі і папараццю, сям-там ужо са спелымі суніцамі паляны. Тут гасцям, знатнаму баярыну, мо і ваяводзе, грыдзям, вызвалілі з цемені вочы.

Пажылы, рослы, плячысты, з шырокай барадой і рабацiністы вараг-баярын і цяпер, улетку, ці то любіў цяпло, ці важнічаў: быў у высокім хахулёвым нагалоўніку з бабровым верхам, у доўгай чорнай суконнай накідцы, падшытай блакітнаватай пясцовай скурай і толькі каля шыі не самкнутая срэбнымі зашпількамі. Пад накідкай бачыўся каптан, упрыгожаны каля шыі, на нарукаўніках залатымі ніткамі. На грудзіне віселі важкія каралі з зіхоткімі каменьчыкамі. Мо і задоўга з цікаўнасцю, а то і нахабнавата азіраў Мсціслава зусім не ў княскім уборы, а ў палатняных белых партах і расшпіленай на грудзіне сарочыцы, у рудых саф'янавых ботах. Ён лёгка вытрымаў варагаў зырк, хітнуў на прывітанне галавой, сеў у цяні на сасновай калодзе, паклаў на калені дамаскі меч і паказаў рукой гасцям сесці на супрацьлеглым, за астылым вогнішчам бервяне. За Мсціслававай спіной пастала яго ахова. Отракі падалі ўсім па вялікай конаўцы халоднага і крыху хмельнага хлебнага квасу.

– Будзі здраў, князь Мсціслаў, – з моцным свейскім вымаўленнем падаў голас баярын, яшчэ стоячы і нахіліўшы вялікую галаву. – Есьм ярл Агунд. Вялікі князь Яраслаў даў мне ізвол перамовіцца з табой. На першае павялеў запытаці тако: "Ці ў здравіі ты, брат?"

– У здравіі. – Адказаў і махнуў рукой на супрацьлеглае бервяно. – Садзіцеся. І глаголь, ярл Агунд, без лішніх пасольскіх велерэчый: брат мой, уладар ваш – за мір ці за брань? Дзеля чаго прывёў невялікую, але ўсё ж баявую сілу?

Мсціславаў скупы, уладны тон мо і спадабаўся свею: як вядома, яны паважаюць сілу.

– Ён – не за брань і не за свару міжусобную, – таксама скупа адказаў. – Толькі мяняе твой намысел. Сказана мне молвіць: так і быць, садзіся ў Чарнігаве, трымай Северскую зямлю. А калі хочаш большага ўладання, то ідзі ў вялікі Стэп, выганяй адтуль печанегаў і злучайся з Цьмутараканню.

Мсціслаў церабіў бараду, уважліва і пакуль што непарушна слухаў.

– А Яраслаў вяртаецца ў Кіеў і будзе табе за бацьку. Русі патрэбен мір і лад. І ты, нічога не скажаш, напраўду ўдалы, можаш паспрыяць гэтаму.

“Бач, што надумалі! Сутыкнуць мяне з печанегамі! Яраславу – двайная карысць: і я, і тыя будзем пасвараныя і аслабленыя!”

– Усё? – можна сказаць, адчужана запытаў ён.

– Бадай, так.

– То вось на гэта мой вам вырак, – заківаў пальцам. – Я свайго намеру не мяняю. Калі хочаце сечы, то будзеце мець яе. Але ведайце: вам зноў мяне не пабіць. І на гэты раз я нікога не выпушчу адсюль. Калі брат мой не хоча сядзець у Кіеве і ўладарыць па правым беразе Дняпра, то яго чакае страшная доля. Ці скласці галаву на полі сечы, ці, пакуль буду я жывы, таміцца ў порубе. Усё! Так і перадай яму, ярл.

– Па-маладому няўступлівы ты, князь, – спахмурнеў той.

– Такі, які ёсць, – адказаў ён. – Чакаю яшчэ дніцы і ноч. Апасля ўдару. І адтуль, адкуль вы не чакаеце. Калі ж брат зажадае сам пагаварыць са мной, то магу сустрэць яго каля Гародні. А табе скажу так: вы, варагі, доблесныя воі, любіце багатую спажыву, але раззлавалі вы мяне. Буду цяпер секчы вас яшчэ болей люта. Каб больш не паднялі на нас меч! Шукайце ўдач, шчасця ў іншых, неславянскіх краях!

– Ты ж Рурыкавіч! Рус! – паспрабаваў абразуміць мо і ваявода варажскай дружыны. – І ў цябе цячэ наша кроў. А мы адзяржавілі Русь.

– *Я і рус Рурыкавіч, і славянін Рагвалодавіч*, – адказаў. – Вашай крыві ў мяне не многа. Я, як і мае дзяды, лічу сябе славянінам і хачу Русь яшчэ больш асларяніць. Не можа на такое пайсці Яраслаў – пайду я! – падняў два моцныя пальцы левай рукі. – Дык дзень і ноч! Ці сеча для мяне пераможная, а для вас згубная, ці мір у Гародні.

– Што ж, – уздыхнуў перамоўшчык. – Табе робіць вялікі гонар і тое, што ты не хітруеш, гаворыш сваю праўду.

Месца гэтае Мсціслаў назваў невыпадкова: яно было зусім не на шляху на Кіеў, а знаходзілася воддаль на паўночны ўсход ад Любеча і на поўнач ад Чарнігава.

– Чаму іменна ў Гародні? Заманьваеш ў сіло?

– Аніяк не. Не трэба ганіці бязвінне. Я, як і дзед Святаслаў, не аспід. Калі збіраюся каму даць бой, то таксама пасылаю таму вестку: іду на вы! А калі брат, вы ўсе будзеце мець нейкае падозранне ў маіх злых помыслах, то можам сустрэцца і ў іншым месцы. Няхай яго назаве брат. Там перамовімся, дадзім клятву, падпішам грамату. Адсвяткуем мір у Чарнігаве, а потым у Кіеве. Ці наадварот.

– Ці варта, князь, так узвышаць Чарнігаў? Ні па даўніне, ні па велічы ён не можа зраўняцца ні з Кіевам, ні з Палацкам, ні з Ноўгарадам! Нават са Смаленскам! Смаленск і Гняздова – гэта вунь які гандаль!

“Чарнігаў узвысіў мяне, а я ўзвышу яго”.

– Быць таму, што я сказаў, – уголас падвёў падрахунак Мсціслаў, “цьмутараканская скала”, як скажа пра яго Яраславу гэты Агмунд. – Калі праз названы час я не ўбачу Яраслава, то... – Развёў рукі. – Тады няхай наракае сам на сябе. Кажу ж, тады за сваю ўпартасць страціць нямала!.. Ды цяпер ужо цалкам усё! – зірнуў на сонца, што пачало прыпякаць ужо і тут, у цяні. – Усё! Час пайшоў!

Баярыну і яго спадарожным зноў завязалі на патыліцы цёмную хусціну, памаглі ім сесці на коней і павялі адгэтуль.

Ужо назаўтра ад Яраслава прыбыў ганец: згодзен на перамовы, але яны павінны быць не ў аддаленай ад Дняпра Гародні, а ў прыкіеўскім

Гарадку (Гарадцы). Што ж, Гарадок дык Гарадок. Праўда, ваявода, баяры перасцерагалі, прасілі вельмі не давярацца ўладалюбцу, які саступае, канечне ж, скрыгочучы зубамі. Ды ён згадзіўся і дазволіў брату перавесці туды ўсю яго сілу. Толькі папарадзе падаўся сам, усё яшчэ перакрываючы шлях на Кіеў.

Сустрэліся перад невялікім і недалёкім ад Кіева Гарадком, на шырокім і доўгім полі, дзе воддаль адзін ад аднаго гаманілі з небам векавыя дубы. Вось па супрацьлеглыя бакі папару пасталі спешаныя, з коп'ямі, мячамі, са шчытамі і ў даспехах дружыны. За Мсціслававым палком воддаль запынілася грозная яса-касожская конніца. Яраслаў не мог не пераканацца: яму незгаворлівага, смелага і ўдалога ў бітвах брата зноў не адолець.

Надвор'е сёння было вельмі спрыяльнае: амаль увесь паўшар высокага неба блакітнеўся, толькі яно падсмужвалася вакол яркага сонца і трымала, здаецца, без руху на паўднёвым схіле белыя воблакі; гоні стракацелі ад розных зялёнага пустазелля і рознакаляровых кветак. А каля іх, не зважаючы на зацiхлае, але ў любы час гатовае да сечы воінства, збіраючы салодкі сок, спаважна гудзелі пчолы. Высока праляцеў адзін, другі крумкач. Нібы з-за цікаўнасці. Крумкнулі ды схаваліся за воддальным лесам. Што ж, маладзейшы, дык Мсціслаў першы з дзясяткам вояў, адзін з якіх трымаў сцяг, выехаў на вольную прастору, да аднаго з дубоў, дзе ў засені бялеўся пастаўлены імі вялікі печанежскі княскі шацёр, а каля яго ўзвышаўся Мсціславаў прапар. Неўзабаве насустрач яму таксама з дзясяткам славянскіх дружыннікаў і варагаў выімкнуўся Яраслаў.

Не сказаць, каб Мсціслаў не адчуваў хвалявання. Было. Найперш – ад хуткага спаткання вочы ў вочы са старэйшым родным братам. Ды тым больш, што не бачыліся ж амаль трыццаць гадоў. Але з'едуцца... пакуль што непрымірымымі ворагамі! Біліся ж не на жыццё, а на смерць! Як і ён, Яраслаў, канечне ж, таксама напружана ўзіраўся: які цяпер яго маладзейшы брат? Развіталіся зусім падлеткамі, а тут – абодва ўжо сталыя мужчыны. Каб іначай склалася сямейная доля, не памёр сын ад першай жонкі Ілля, Яраслаў мог бы быць ужо дзедам! Яраслаў – у пурпуровым карзне, але без княскага нагалоўя, залысіністы, худы маршчыністым тварам, сівабароды – цікаўна акідваў позіркам і яго мажную, але не грузную постаць ды ягонае пышнае візантыйскае ўбранне.

Запыніліся ўзбоч. Моўчкі, доўга і пільна абсочваліся позіркамі. У Яраслава вочы былі зусім не жыццярадасныя, стомленыя і запалыя. Зразумела, ад яго пакручастай долі, ад няўдач ды перажыванняў. На яго высокім лобе буйна выступіў пот.

– Здраў будзь, брат, – Мсціслаў першы схіліў галаву і прыклаў руку да грудзіны. – Рады бачыць цябе.

– І ты будзь здраў, – адказаў той і на вачах усіх вояў падаў руку і, здаецца, зайздраснавата ўразіўся, што яна, невялікая і худая, з белымі плямінамі паверсе, схавалася ў Мсціславай вялікай далоні. І цяпер, такой цеплынёю, ягоная рука была халодная.

Мсціслаў устрымаўся гарэзна і моцна цiснуць братаву руку, як у свой час пры сустрэчы ў печанежскім стане Тугену. А Яраслаў ні то з няёмкасцю, ні то з апраўданнем, пазбаўляючыся цяжкага сучэння на твары, дазволіў сабе бедную ўсмешку:

– І я рады бачыць цябе. Напраўду, ты вырас асілкам. Як кажуць старыя людзі, у дзядоў Святаслава і Рагвалода. А я, мала старэйшы, бачыш, недабоек.

– Не перабольшвай, – усміхнуўся і Мсціслаў. Лагодна і з добрым спачуваннем. – Яшчэ зусім не заморак, калі праз сонцаварот-два новае дзіця маеш.

– Гэта – ад маёй Ірыны. Маладая, здаровая, дык спраўна раджае.

– Малайчына, – пахваліў тую Мсціслаў, хоць начуўся пра яе самага рознага. – Ну што, брат? Запрашаю туды, – і паказаў на шацёр пад разлапістым дрэвам. – Кажуць, гэты дуб святы. Дае супакой, развагу, моц.

Яраслаў не завіхнуўся паварочваць у той бок каня, неяк жаласна перасмыкнуўся. Мо па расказах старэйшых напомнілася яму, як некалі бацька запрасіў у шацёр на гутарку старшага брата Яраполка. Той даверліва зайшоў, а там яго ўшчэнт спаласавалі мячамі загадзя намоўленыя і схаваныя забойцы. І іхняга зводнага брата Барыса іменна ў шатры загубілі падасланыя душагубцы. А што значаць і баявыя дружыны пасля раптоўнай загібелі іхняга князя? Ды перад моцным праціўнікам? Як правіла, пераходзяць да пераможцы і прысягаюць яму, маючы ўжо ад яго шчодры пракормак.

– Калі не верыш мне, то скажы сваім людзям агледзець шацёр, – здагадаўся пра братаву асцярогу Мсціслаў. – Няхай убачаць на свае вочы: ніякага падману, пасткі для цябе там няма.

– Веру: чуў, што ты чалавек слова, – прамовіў Яраслаў і крануў з месца свайго спакойнага рыжаватага каня, не ў прыклад Мсціслававаму наравістаму гнядому жарабцу (Мсціслаў любіў усё незвычайнае, у тым ліку і захапляўся шпаркай яздою на самых неўтаймоўнных скакунах. Тым больш, што яны, адчуваючы ягоныя моцную руку на карку ці праз туга напятую аброць, важкае цела, хутка пераставалі натурыцца). Каля шатра з паднятай пярэдняй занавескаю спешыліся, і Яраслаў, значна ніжэйшы і сухарлявы, накульгваючы, у хадзе перавальваючыся на адзін бок, узяў ад аднаго са сваіх людзей цёмны скрутак, а потым па запросіне Мсціслававай рукі цежкавата першы зайшоў у шацёр, дзе іх чакалі паходныя складны стол і лаўкі, а каля супрацьлеглай сценкі – нешта накрытае белым палатном.

– Ежа, пітво, – патлумачыў Мсціслаў, пераадольваючы спачуванне брату за яго калецтва і нямогласць. Хоць люд перасцерагае: бойся рыжага і кульгавага.

Ахоўнікі моўчкі пасталі воддаль ад шатра, а браты паселі абапал стала. Увайшлі няўзброеныя Мсціслававы слугі, дасталі з-пад палатна вялізную карчагу, адлілі з яе квасу ў аб'ёмны гліняны паліраваны гладыш, з яго – у конаўкі. Як трэба, Мсціслаў адпіў са сваёй першы і тут жа плюснуў вачыма, заварушыў носам: у яго даўся хмельнадухмяністы водар.

– Дык хто з нас будзе весці рэй? – калі таксама прагнаў суш у роце прыемным халодным пітвом, паклаў на стол згортак і запытаў Яраслаў.

– Ты – старэйшы, дык і вадар, – адказаў Мсціслаў. – А мой сказ ты ведаеш. Толькі па-братняму прашу: не шкадуй і не перажывай, што траціш паўцарства. Удвух мы лепей зберажом усё царства.

Яраслаў зірнуў на яго не проста ўважліва – напружана, адчуўшы, што малодшы брат умее жартаваць. І прыстойна. А гэта значыць, што развважлівы, упэўнены ў сабе. У нечым можа разумна саступіць, а недзе ўпрэцца, як кажуць, сваім любімым “І ўсё!” – і яго не скранеш.

– Чаму ты не ўвайшоў у Кіеў? – затым не без здзіўлення пацікавіўся. – Подлыя градскія старцы гатовы былі прысягнуць табе. І веча дало б табе клятву на вернасць.

– Паўтаруся які ўжо раз: не меў і не маю намеру адзінаўладзіць, – без ніякага апраўдвання запэўніў Мсціслаў.

– А хіба будзе лягчэй: два вялікія князі, два стальцы? Дзьве скотніцы (казны)? Дзьве баявыя сілы? А што з данінай? Пошлінамі? Колькі Чарнігаву? Кіеву?

– Усё будзем вырашаць на адной Вярхоўнай Радзе. Для ўсіхнай карысці. А пры рознасці думак ці пароўні нашых галасоў ты будзеш мець вырашальнае слова.

Бачна было: Яраслаў задаволіўся апошнім: яно было ў яго карысць, давала яму перавагу. Хоць бы і толькі на словах.

– Мы мо і зможам паразумецца, – аднак уголас ён прамовіў з асцярогай. – А нашы дзеці? Мае пасталелыя сыны рана-позна могуць не прызнаць, што ты пры мне, старэйшым, таксама стаў вялікім князем. То твайму сыну на гэта права не пакінуць.

– Дык давай, брат, сваімі дзеямі разумна вучыць іх. Жыць, ладзіць у міры, разуменні. І мо давай зазірнём у даўніну, успомнім дзеі нашай мудрай прабабкі Вольгі.

Яраслаў не мог схаваць новага інтарэсу да яго мыслення.

– Яе муж, наш прадзед Ігар, як і яго дзядзька Алег, безупынна ваяваў і з чужымі, і са сваімі, – пачаў тлумачыць свае думкі Мсціслаў. – Прабабка ж, стаўшыся ўдавою пры адзіным малалетнім сыне, запыніла заваёўніцкія паходы, пачала адвучваць ад таго, каб найперш жыць за рабаўніцтва чужых багатых краёў. Толькі агнём і мячом уціхамірыла бунтоўных драўлянаў і загубцаў яе мужа ды пачала правіць. Праз свае уставы. І дабілася цішыні ў дзяржаве, паладу з суседзямі, дабыткаў найперш сваімі рукамі. Вось і нам, брат, трэба пачаць правіць. Праз пісаныя законы. Для чаго трэба паклікаць мудрых, пісьменных людзей. Моцных ведамі, мыслямі, ратаяў слова. Няхай яны добра вывучаць тое, што прынеслі сюды са сваіх уставаў варагі, што трапіла з візантыйскага права. І напішуць сваё. Нам во як, – злева-направа правёў рукой пад барадой, – трэба Праўда Русі. А яшчэ больш нашым дзецям, унукам. Згодзен?

– Згодзен, – не запярэчыў Яраслаў.

– У сына Вольгі, дзеда нашага Святаслава, закіпела бацькава, а то і Рурыкава кроў. Ён не змог жыць без нападаў на чужыя землі, без крывавай сечы і больш за бацьку дабіўся войнамі. Але хіба абачна захапіўся перанесці сталіцу на зямлю балгараў? Тут яшчэ для малалетніх сыноў падзяліў Русь на ўдзелы (Яраполку – Кіеў, Алегу – Драўлянскую зямлю, Уладзіміру – Ноўгарад). На жаль, сыны яго, наш бацька таксама, разумна не скарысталіся гэтым, пралілі братнюю кроў. Урэшце перамог наш бацька. Ён таксама рашыў даць нам, сынам, удзелы. Толькі і сам распаліў новы пажар на Русі, калі на чале нас, старэйшых, выбраў Барыса. Ды... Што выйшла з гэтага, то выйшла. Дык давай, кажу, мы з табой, цяпер самыя старэйшыя, пакажам, як трэба супольна ладзіць. Давай улічым промах дзеда Святаслава: добра быць вялікім палкаводцам, але яшчэ лепш быць вялікім гасударом вялікай дзяржавы. Мне аднаму гэта не па сіле. Калі бацька лоўка адлучыў варагаў і пазбавіўся ад іхняга ціску, то нам трэба не дапусціць і ціску візантыйскага. Найперш праз мітрапаліта, епіскапаў.

Яраслаў недаверліва ўсміхнуўся:

– А ты не даваў у Царградзе клятву базілеўску на вернасць? Не за гэта цябе так ушанавалі? – паказаў позіркам на ягонае з імператарскімі адметамі адзенне.

– Я ж не врод (вар'ят, дурань). Ды яшчэ ад гардавусія. Служыў і прыснасушчна (вечна) буду служыць Русі, – шчыра адказаў ён. – А імператар,

як ты кажаш, ушанаваў за тое, што буду спрыяць хрысціянству і памагу ім выбіць хазараў з Таўрыі. А калі трэба, то і паспрыяю ўціхамірыць печанегаў.

– Выбачай. Але не раз думаецца мне: калі я стрымліваю прагу візантыйскага мітрапаліта, епіскапаў умешвацца ў наш дзяржаўны лад, то яны не могуць не быць наперакор, назло мне. Значыць, маглі і падгаварыць цябе ударыць па мне...

– Я ж не ўдарыў першы! Шукаў згоды! – Мсціслаў не злаваўся, але незадаволена збіў пстрычкай некалькіх мураўёў са стала. Брат не мог не заўважыць гэта. Тое, што ў суразмоўцы моцны характар. – Забудзь, брат, гэтыя свае папрокі. І я многае ўчыненае табой забуду (Мсціслаў меў на ўвазе тое, што брат у Ноўгарадзе выступіў супраць бацькі, чым, можа, і прыспешыў смерць таго, што потым распаліў на дзясятак гадоў войны, саступіў палякам і шмат страціў, чым аслабіў Русь, што гэтак счарсцвела абышоўся з сёстрамі і інш.). Лепш давай выпраўляць тое, што і мы з табой натварылі... Як ніколі, лічу, цяпер Русі патрэбная мірная праца. Як паветра, як вада, як хлеб! Выхапім меч з похвы толькі тады, калі нападзе вораг! А так будзем больш араць, сеяць, будавацца! Агаспадарвацца!

– А калі з нас каго нечакана не стане?

– Руссю будзе правіць той, хто застанецца жывы. І па старых звычаях, і па новай Праўдзе не павінен пакрыўдзіць сынаўцоў. Толькі, брат, давай паклянёмся: ні я, ні ты не будзем давярацца розным нашэптам, поўніцца недаверам, злымі помысламі! Наадварот, будзем аберагаць адзін аднаго. Люд хутка ўсё зразумее, запаўважае гэта і возьмецца за працу. І дзяржава наша зноў стане на ногі і амацнее. Адным словам, дакажам дзеямі: Русь можа мець вялікае прадвызначэнне. І мо не толькі ў славянскім свеце.

– А печанегі? – выказаў сваю турботу Яраслаў. – Не трэба пабіць гэтых з даўніх часоў драпежцаў?

– Пакуль што пакінем іх у спакоі.

– Дарэмна, Мсціслаў.

– А мо і не, Яраслаў. Перасіль свой гнеў на іх. Надта за асабістае. Яны цяпер на нас наскокваць не будуць. А пазней, калі амацуемся, паглядзім, як з імі паводзіцца... Мой пасаднік з Цьмутаракані перадае: у стэпах каля Хвалынскага мора распладзіліся качэўныя набежніцкія плямёны кіпчакоў ці куманаў (полаўцы). Яны насоўваюцца ўсё бліжэй і бліжэй да Панційскага мора і Каўказа. Калі што якое, то печанегі, можа, і заслоняць нас ад тых, невядомых яшчэ нам грабежнікаў.

– А калі яны злучацца?

– Значыць, трэба трымаць вуха востра, мець і ў тых кіпчакоў нашых патаемных віжоў. Найперш з іхняга асяродку ці стану іхніх суседзяў. Я крыху ведаю той, адмысловы ўсходні люд, то магу ў гэтым тое-сёе падказаць.

– А што, па-твойму, з ляхамі?

– І з імі пакуль што трэба не задзірацца. Пасочым, як будзе пасля смерці Баляслава правіць Мечыслаў. Як даходзяць чуткі, ён не мае ні мудрасці, ні моцы бацькі. Маладушны. То іхнія баяры могуць падмяць яго. А калі ў іх завядзецца якая мітусня, таўканіна, то нам гэта толькі на руку. Каб у спрыяльны час адабраць чэрвенскія гарады. І заадно астудзіць іхнія гарачыя помыслы на нашы землі.

Мсціслаў шчыра адказваў і не асцерагаўся, што гэтыя яго адказы Яраслаў можа прыбраць як свае думкі.

– Ты цяпер, канечне, лепш спазнаў, хто і дзе жыве за северанамі, драўлянамі аж да Ноўгарада, і на каго з Ноўгарада замахваўся яшчэ наш прапрадзед Рурык? – усміхнуўся Яраслаў, даючы знаць: ведае, што да яго, Мсціслава, завітвалі паслы не аднаго племені, якіх змусіў плаціць даніну Кіеву іхні бацька, з просьбай вызваліць іх “з-пад Яраслававай дзясніцы”.

– Крыху спазнаў, – прызнаўся ён. – Але, ясна, не ведаю таго, што знаеш ты.

Яраслаў развязаў шнуркі па канцах скрутка, разгарнуў невялікае палатно, а потым і пергамен – на ім убачыліся вялікія чырвоная і сінія выгібістыя лініі, рудыя кружочкі, зялёныя і шэрыя палосачкі, чорныя розных памераў кропкі.

– Грэкі гэта называюць chartes (карта), – сказаў Мсціслаў, здагадваючыся, што бачыць пазначаныя рэкі, азёры, лясы і балоты, вялікія і малыя гарады альбо крэпасці.

– Так, гэта – накід, краявіды славянскіх і суседніх да іх зямель па Прыпяці, Бузе, Нёмане, па абодва бакі Дняпра, Сажа, Дзясны, Акі, па Заходняй Дзвіне, ад Варажскага мора да Іціля. А сёе-тое і за ім. Што цяпер Русь і тое, што мы ці нашы дзеці могуць уключыць у яе. Садзіся побач. Патлумачу тое-сёе.

Яраслаў на далейшыя ад сябе выпрамленыя канцы карты, каб яна не згортвалася, паставіў конаўкі, пасунуўся ўбок. Мсціслаў падсеў да яго. І цяпер добра спазнаў: самая доўгая чырвоная нітка – Дняпро. Яшчэ даўнія грэкі ўведалі: ён у Еўропе трэцяя па даўжыні рака пасля Ра (пазней Іціль) і Дуная.

– Павер, – пахітаў галавою, пацёр вялікую лысіну на ёй Яраслаў, – мне праваруч Дняпра будзе цяжэй, чым табе тут. Мо і не раз прыйдзецца клікаць цябе на помач. Во тут, на Палессі, ад Дняпра па Прыпяці да Буга, – павёў улева па таксама немалой сіняй лініі, а тады – пальцам уверх і ўправа, – ад Нёмана за Бярэзіну, да Друці – тыя, хто люта ненавідзеў нашага бацьку. Тыя, каму абяцаў вярнуць вольнасць Святаполк і хто не менш, чым на бацьку, дзясятак гадоў злы на мяне за мой верны яму кірунак. За тое, што таксама патрабую ад іх пакоры, даніны. Праўда, я не заўсёды мог браць яе з іх. Калі не быў у Кіеве.

Ад нядаўніх паслоў з тых краёў Мсціслаў больш уведаў пра іхніх насельнікаў – дрыгавічоў, на якіх вось гнеўна абураецца брат. Ад іншых пачуў: дрыгавічы, асабліва палешукі – скрытныя, самі сабе наўме, скупаватыя, вольналюбівыя, глыбока шануюць дзедаўскія звычаі і абрады, язычніцкую веру.

– Па-чалавечаму іх можна зразумець, Яраслаў, – Мсціслаў не заступаўся за недалёкіх суседзяў, а прамаўляў разважліва. – Дрыгавічы там здаўна. Абжылі шмат папараў, лясоў, рэчак, азёраў і балотаў. Яны сталі калі не пэўнай дзяржаваю, то з’яднанай аднакрэўнай зямлёю са стольцам у Тураве. Мелі свой даўні княскі род. Пра іх ведалі, пісалі ў Царгорадзе (948 г., Канстанцін Багранародны). Пра гэта ў іх жыве моцная памяць. А па-свойму справядліва яны не могуць дараваць нашаму бацьку за тое, што ён загубіў іхні княскі род, сілай змусіў прызнаць вяршэнства над імі Кіева. Калі ж яны ўпарціліся прыймаць ад яго пасадніка, то даў ім княжыча. Святаполка. Ну, а той з падбухторвання цесця...

– Ты што – апраўдваеш іх? – не даслухаў, схмурыў бровы Яраслаў, нервова вялікім пальцам правай рукі зацёр кончыкі ніжэйшых. – Згодзен

адмовіцца ад стольkіх багатых зямель? Ад мноства насельнікаў, гарадоў і сёл? Ад так патрэбнай нам даніны?

– Я ж так не гаварыў, – Мсціслаў спакойна ўспрыняў братава абурэнне. – А што ты думаеш пра нашага зводнага брата Судзіслава?

– Пры чым тут той?

– Мо няхай прабіраецца ў Тураў і памагае табе трымаць у кулаку вялікі і заможны дрыгавіцкі край. За яго Плескавам можа прыглядзець пасланы туды пасаднік ці які цівун з Ноўгарада.

Яраслаў ухмыльнуўся:

– Ага! Кінь шчупака ў раку! Судзіслаў, каб ты ведаў, самалюбец! Ён пачне падлешчвацца да дрыгавічоў, шукаць згоды з Палацескам, і ранапозна калі не пры ім, то пры яго дзецях дрыгавічы і палачане паўстануць супроць нас мо і неадольнай сілаю! Гэта – рой. Маленькія пчолы, а разам здольныя загубіць і тура. Ні ў якім разе не трэба дапускаць у Тураў Судзіслава і з'яднання яго сіл з сіламі Брачыслава! Калі не зусім ведаеш дзеі на гэтых землях, то скажу: яшчэ Алег клапаціўся, каб Палацеск не злучаўся з іншымі крывічамі. Таму ў Плескаве і Смаленску паставіў намеснікамі сваіх знатных мужоў, а на Палацеск хадзіў вайною. Нават наш бясстрашны дзед Святаслаў перад паходам на балгараў праз сваіх паслоў засцярожліва заключыў мір з Рагвалодам. Каб той у гэты час не захапіў Кіеў. Хоць той наш дзед мо і не меў такіх намераў.

– Як скажаш, – не стаў спрачацца Мсціслаў. – Найперш табе знацца з дрыгавічамі. Некалі, яшчэ да хрысціянства, афіняне сказалі мідзійцам: "Моцныя робяць тое, што могуць, а слабыя тое, што яны могуць выцерпець." Дык пакажы, брат, якую моц маеш і што хочаш ды можаш!..

– У Царградзе грэчаскай прамудрасці нахапаўся? – зноў памякчэў, нават лагодна ўсміхнуўся Яраслаў.

– І ў Цьмутаракані ў вольныя часіны. Там шмат мудрых, пісьменных як сваіх насельнікаў, так і гасцей. Каторыя з іх нямала самых розных кніжак прачыталі. Дык я пра многае наслухаўся ад іх.

– Судзіслаў прасіўся і ў Смаленск, і ў Тураў. Але няхай пасядзіць у Плескаве, як ты добра сказаў, пад назіркам Ноўгарада. У нашу паўночную сталіцу, як і трэба, пашлю па паўналецці старэйшага сына, Уладзіміра. У Тураў – Ізяслава. Так завёў бацька: з падуладных зямель упашаноціць найперш Ноўгарад і Тураў.

Мсціслаў ведаў: сынаўцу Уладзіміру каля шасці гадоў, Ізяславу – два. Але не навіна, што іх у такім юным узросце ці крыху пазней ужо чакае княжанне (мужчынскае паўналецце лічылася пад 15 гадоў). Іхні прадзед Святаслаў, калі выехаў з дружынай бацькі-нябожчыка пакараць драўлянаў, таксама быў яшчэ зусім "детеск": кінуў слабой рукою на непрыяцеля кап'ё, а яно зусім не паляцела, а ўпала адразу ж паперадзе ягонага каня. Ды і ў іншых народаў было такое, што князя альбо імператара не выводзілі паказаць люду, а выносілі на руках.

– У гонар бацькі і брата так назваў сыноў? – запытаў Мсціслаў.

– У гонар. А што да маіх турботаў, то іх яшчэ будзе нямала і за дрыгавіцкім краем. За Нёманам. З яцвягамі. Яны яшчэ болей зацятыя за дрыгавічоў. Не маюць вялікіх гарадоў, але нарабілі шмат моцных крэпасцей. Не ўсе з іх узяў наш бацька. Толькі пад пагрозай новай вайны яцвягі падмеліся плаціць яму даніну. Але апошні час перасталі яе аддаваць. Так што зноў прыйдзецца іх прыстрашыць ці нават мо і агаліць меч. Праваруч Нёмана – Літва. Пакуль што вольная і з норавам ваўкоў. У мяне да яе

рукі не даходзілі, а з яцвягамі, Палацескам і прываражскімі плямёнамі яна ў міры.

Мсціславу ў душы стала няёмка перад дрыгавічамі: як убачыў, іхнія мужы знатныя шчыра спадзяваліся: ён, пераможац, не пасгупіцца сваім, не дапусціць у Кіеў Яраслава, самае вялікае пакіне таго ў Ноўгарадзе, які без паўднёвага падбрушша рэзка страціць падпорку, чым некаторыя (варагі, а то і Полацк) скарыстаюцца. Дрыгавічы прасілі вызваліць іх ад "Яраслававага ярма", даць ім на княжанне свайго сына Яўстахія, каб той пусціў у іх карэнне, завёў новы тураўскі княскі род (хітрыя, Яраслававага не хочуць: Яраслаў шмат ім не дазволіць). Ён, Мсціслаў, не паспяшаўся паддацца на такую бажбу, але намякнуў: можа, і ўважыць іх. Ды пакуль што яму трэба разабрацца з братам. Намёк той быў найперш дзеля таго, каб не дапусціць дрыгавіцкай ваеннай падсобы Яраславу. А цяпер вось ён спакойна ўручае дрыгавіцкі лёс у братавы, як і ў продкаў, хіжыя рукі! Што ж, не ён такі першы і апошні! Тут уступае ў сілу не пачуццё, а развага! Больш – тайныя задумы і хітрыкі! Як кажуць грэкі, ёсць такое паняцце, як politike (techne) – палітыка, вышэйшае уменне кіраваць дзяржавай! А інтарэсы яе, Русі, вымагаюць не паддавацца на ўздыхі, а то і енк ды слёзы скораных, а яшчэ болей іх падуладзіць! Што ж, гадоў трыццаць таму не ўдалося ўстояць перад Уладзімірам, то цярпіце, мае сябры-дрыгавічы! Як церпяць драўляне. Праўда, з тымі абыйшліся лагодней: дзяцей загубленага па загадзе Вольгі іхняга князя усё ж пашкадавалі. Яго дачку Малушу Вольга ўзяла да сябе за ключніцу (служка, мела ключы ад кладовак са спажывай, выдзяляла яе па загадзе вялікай княгіні), а сына Дабрыню – у знатную дружыну свайго сына. Потым нават мусіла блаславіць шлюб Святаслава і Малушы (дзе дзенешся, калі тая пачала насіць яе ўнука), а Дабрыня стаў дзядзькам-пестуном сынаўца Уладзіміра і немалы час замест яго правіў Ноўгарадам. Пазней яго сын Канстанцін апекаваў маладога Яраслава. Праўда, пакуль не надакучыў, не ўеўся ў печані...

## З "Рукапісу"

"Было, было чаму Яраславу абачліва асцерагацца і дрыгавічоў, а Мсціславу на сустрэчы з ім у Гарадцы ў разуменні з ім згадзіцца, каб не выпусціць найперш Тураў з-пад цяпер ужо іхняй (братоў) васальнасці. Але час пакажа: вольны дух, пачуццё годнасці, цяга да сваёй незалежнай наступнасці і ў прыгнечаных дрыгавічоў засталася вялікая. Не змогшы стаць адной вялікай дзяржавай са сталіцай у слынным Тураве, яны пры першай жа спрыяльнасці акняжваліся паасобку. І Яраслаў, і яго нашчадкі гэта не маглі не ўлічваць: рана-позна прызнавалі новазаяўленыя княствы, толькі намагаліся паставіць на чале іх сваіх. Тым больш, што з лёгкага дыхання Яраслава, яго жонкі-шведкі іх большала і большала, то мужчынскаму роду па даўняй завядзёнцы трэба было даваць удзелы. Так, калі не ўводзілі аднаго, дыктатарскага, адзінаўладдзя, драбнілася не адна дзяржава. А ўрэшце і гінула альбо мізарнела, жыла толькі былой славаю.

Спачатку ва ўсім узвысілася Тураўскае княства. Як і бацька, не могучы пакінуць гэта без увагі, Яраслаў у бяскняжны Тураў паслаў другога па ўзросце сына, паўналетняга Ізяслава. Той запачаткаваў род тураўскіх Ізяславічаў, а пазней, крыху пабыўшы ў Ноўгарадзе замест памерлага старэйшага брата Уладзіміра, пасля смерці бацькі вернецца ў Кіеў і на 22 гады (з перапынкам) стане на чале ўсёй Русі. Яго праўнук Юрый у 1158-м... выведзе з яе Тураўскую зямлю (па змусе тураўчан? Ці захацелася быць самому ва ўсім гаспадаром?; ва ўсякім

разе ўжо на яго падымуць хіб валынскія князі і праз два гады пойдуць на яго вайной). У гэты час Тураўская зямля была ўжо шырока вядомая: тут сярод лясоў і балотаў успыхнула святло розуму і духоўнасці – Тураўскае евангелле 11 ст. Самая ранняя (з тых, што захаваліся) рукапісная кніга не толькі ў тураўскім краі. Мова яе, канечне, царкоўна-славянская, у ёй былі ініцыялы (адмыслова выдзеленыя пачатковыя літары) і маргінальныя (змешчаныя на палях) украсы ў выглядзе гронкі (кніга знойдзена ў... 1865 годзе, захоўваецца ў цяперашняй Літве. – *Г.Д.*). Не толькі Тураўскую зямлю, але і ўсё мо не толькі ўсходняе славянства таксама ўславіў Кірыла Тураўскі (каля 1130 – каля 1182) – не толькі як заўзяты і высокадухоўны святаслужнік, епіскап (епіскапія ў Тураве з 1005-га), але і як пісьменнік, знаўца аратарскай прозы, умелец у апісанні прыроды, духоўнага свету чалавека, спасціжэння свету, веры, самога сябе (“Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси”).

Калі мы пра гэта гаварылі з Тацішчавым, ён прызнаў: ява, што тады Полацк і Тураў сталі аднымі з самых культурных гарадоў усходніх славянаў. Толькі мой дабрадзей зморшчыўся: *давай не будзем вельмі на гэтым засяроджвацца...*

Тураў і Полацк здаўна зналіся, шанаваліся, але я, не з радасцю паўтаруся, мо і апошні з тых, хто чытаў полацкі летапіс, не магу сказаць: ведаў ці не Кірыла Тураўскі пра тое, што амаль у гэты ж час у Полацку ззяе зорка незвычайнай жанчыны – перапісчыцы кніг, прапаведніцы, сейбіткі пісьменнага слова, храмабудаўніцы, мецэнаткі (майстра-ювеліра Лазара Богшы і інш.), Рагнедзінай і Уладзіміравай унучкі ў пятым калене Ефрасінні Полацкай (1102 – 1173). Гэтыя першая ўсходнеславянская кананізаваная праваслаўнай царквою (1547) Жанчына і Мужчына (няма звестак, што пазней яго прызналі святым; унесены ў Сабор беларускіх святых у 1984-м. – *Г.Д.*) – не проста гонар зямлі нашай, яны – Светачы тым агнём, што становіцца нязгасным! Паходняй! Але Тураўская зямля пачне (тады гэта, за рэдкім выпадкам, паўсюль адбывалася) драбніцца на княствы: Клецкае (першы князь Яраславаў сын Вячаслаў; трымалася з пачатку 12 ст. да канца 18-га), Пінскае (з 11-ой паловы 12 ст.; яму не дадуць спакою Кіеў і Уладзімір-Валынскі), Дубровіцкае і Сцепанскае (пра іх звестак не маю), Капыльскае (14– 15 стст.), а таксама Берасцейская зямля (з 11-ой паловы 12 ст. да пачатку 14-га стст.; на яе гарады Бельск, Бярэсце, Драгічын, Камянец, Кобрын, Мельнік і іншыя ў розны час пасягалі то палякі, то валынцы).

Асобна трэба сказаць пра выдзеленае з Тураўскай зямлі Слуцкае княства: яно здолела не толькі ўтрымацца з 1160-га ажно па наш час (да 1791 года. – *Г.Д.*). Спачатку, да 1395-га, ім правілі Рурыкавічы, пасля ўкараніліся Алелькі (Алелькавічы) з роду Гедзімінавічаў. Некаторыя з іх нават (во змена лёсу!) уладалі... даўно амарнелым Кіевам, былі на высокай лесвіцы ў ВКЛ і нават змагаліся за пасад вялікага князя ў ім, намагаючыся ўдаліць з улады Ягелонаў.

Пасля смерці Яраслава паміж яго сынамі, унукамі і полацка-менскімі князямі амаль за ўсе з вышэйназваных дрыгавіцкіх княстваў пачнуцца з малымі і вялікімі перапынкамі кровапралітныя бітвы. Перамогу ў іх нібыта будуць мець Яраслававічы і іхнія нашчадкі. Ды толькі “нібыта”: знясіліцца, нават страціць волю Полацк, але (яшчэ ў іншых сутыках, войнах) знядужае і Кіеў. Сёння можна толькі глыбока шкадаваць, што гэтулькі стагоддзяў палалі суперніцтва, варожасць і войны паміж Кіевам і Полацкам ды Менскам! Усе аслабіліся. Гэтым пазней удала скарыстаецца Паўночная Русь з асяродкам у маладым, без кіеўска-полацка-наўгародскай даўніны, без дзяржаўнай сталасці, але амбітным Уладзіміры, ад якога пазней, пасля Батыевага пагрому, асяродак той пяройдзе да яшчэ больш маладзейшай, яшчэ болей неспакойнай, прагнай на суседнія і дальнія землі, ваяўнічай Масквы, якая вылучыць ідэю стаць Трэцім Рымам...

Тым не менш лёс дрыгавіцкіх зямель такі, што бітвы за іх падоўжацца і ў 13 ст. Паміж яе новымі заступнікам і непрыяцелем. Паміж князямі Навагародскай зямлі (некаторыя лічаць: яны – нашчадкі ацалелых полацкіх князёў) і Галіцка-Валынскага княства (яго ўладары доўжылі кірунак Уладзіміра Манамаха (Мушу тут апусціць з "Рукапісу" доўгае апісанне ўсіх тых ваенных акцый, іх вынікаў, хоць вельмі цікава было б і іншым ведаць полацкі погляд на тое. Але дапытлівага чытача магу супакоіць: зазірніце ў шырока даступную кнігу іншага Ермаловіча (Міколы) "Старажытная Беларусь", там вы натрапіце на досыць глыбокі дослед пералічаных у гэтым раздзеле і апушчаных падзей 11 – 13 стагоддзяў на беларускай зямлі. – *Г.Д.*).

Але гэта яшчэ не поўны паклон мой (нагадаю: аўтара "Рукапіса". – *Г.Д.*) і, думаю, усіх маіх землякоў перад дрыгавічамі. Унікальная роля іхняя ў левабярэжным Панямонні. Спачатку і ў іх усё ішло так, як у іхніх паўднёвых аднакрэвічаў: вакол найбольш буйных гарадоў пачалі гуртавацца княствы: Гарадзенскае (з пачатку 12 ст.; апроч сутычак з суседзямі, мо і за плату хадзілі на полаўцаў), Ваўкавыскае (з 13 ст.; неаднойчы адбівалася ад нападаў валынцаў і галічан), Свіслацкае (з 13 ст.). Ну і – ён, каму выпаў непаўторны лёс!..

Так, гэта – Новагародак (пазней Навагрудак). Некаторыя даследчыкі па знойдзеных рэчах лічаць: ён пабачыў свет яшчэ ў 10 ст. Іншыя крыху апазняюць яго: у 1040-х, калі вялікі князь кіеўскі Яраслаў і яго пляменнік, полацкі князь Брачыслаў першы раз супольна рушылі на вольную і неспакойную Літву, пабілі яе і змусілі плаціць ім даніну. Дык нібы тады Яраслаў на мяжы Літвы, па Нёмане, для сваіх інтарэсаў паблізу старога гарадзішча заклаў старожу-фарпост і назваў тое месца Новогородом, а мясцовы люд пераназваў па-свойму – Новагародкам, Наваградкам. Галоўнае ў гэтым – паняцці "старожа-фарпост". Напраўду, тут стаўся фарпост дык фарпост! Асяродак дык асяродак! Сэрца дык сэрца... *новай дзяржавы*!

Калі пазней, праз 200 гадоў, рускія і ўкраінскія землі спустошылі Батыевы орды, то проста цудам незачапаныя Слонімскае, Ваўкавыскае княствы *мірна* злучыліся з Новагародскім. Пагроза татара-манголаў з Усходу і крыжакоў з Захаду таксама *згаворліва* прывяла ў гэты гурт прынёманскае Гарадзенскае княства (у выніку сталася Новагародская зямля ці Новагародскае гаспадарства) і занёманскую Літву (ага, яшчэ і яшчэ раз трэба напомніць: тая Літва, што ўпамінаецца ў хроніках ці не з 1009 года, тады была прыкладна паміж цяперашнімі Маладзечна, Мінскам, Новагародкам і Слонімам). Саюзнікі, як я лічу, у 1246 годзе і заявілі пра свае землі як пра новую дзяржаву – Вялікае княства Літоўскае – са сталіцай у Новагародку (той-сёй лічыць, што гэта адбылося раней, мо ў 1230-х, калі летапісцы запісалі імя новагародскага князя Ізяслава). Пазней у яго ўвойдуць і многія радзіміцкія ды крывіцкія землі, у тым ліку і Полацкае ды Віцебскае княствы (апошнія два на правах аўтаноміі за асобыя былыя заслугі), патрапяць і многія землі былой паўднёвай Русі з Кіевам ды Чарнігавым, ажно да Чорнага мора.

...Канечне, Яраслаў і Мсціслаў у 1026 годзе, калі ў Гарадцы вызначалі лёс дрыгавічоў, і падумаць не маглі, што тыя, выстаяўшы ў ліхалеццях, яшчэ падпадуць у гісторыю, як любіў гаварыць Мсціслаў, такі свой сказ!.."

## 8.

...Мо і ад напругі пакуль што не адчуваючы стомы, толькі распрануўшыся (Яраслаў – да шаўковай сарочыцы, Мсціслаў – да пояса), час ад часу робячы па глытку квасу, браты-змоўшчыкі далей высвялялі розныя варункі (абставіны, умовы) і свае стасункі.

– Рушым далей, на мяжу дрыгавіцкай і крывіцкай зямель, – вёў рэй акрыялы Яраслаў. – Да самага зацятага і моцнага нашага суперніка на ўсходнеславянскіх землях. На вотчыну нашага дзеда Рагвалода, маці, старэйшага брата, а цяпер нашага сынаўца Брачыслава. Маеш пэўнае ўяўленне пра блізкую нам па кудзелі Палацескую зямлю?

– Можна сказаць, слабое, павярхоўнае, – не стаў маніць, прызнаўся ён. – Чуў: некалі туды прыйшлі з Дуная і іншых мясцін крывічы і змяшаліся з тубыльцамі. Адны аселі па Заходняй Дзвіне, каля рэчкі Палаты і назваліся палачанамі. З іхніх князёў я толькі чуў пра нашага дзеда. Іншыя крывічы падзяліліся на дзьве ручаіны: адны падаліся шукаць шчасця ўздоўж ракі Вялікай да Чудскага возера і заснавалі крэпасці Ізборск і Плескаў. Астатнія рушылі вярхоўем Заходняй Дзвіны да Дняпра і за яго, дайшлі да славен ільменскіх, пераадолелі Іціль. З вялікіх гарадоў у іх – Смаленск. Але свой княскі род склаўся толькі ў палачанаў. А што да гісторыі заваёвы Палацеска нашым бацькам, забойства дзеда Рагвалода і бабулі, іх сыноў, гвалт над нашай маці, то старонка гэтая вельмі жудасная. Думаю, палачане гэтага ніколі не забудуць, былі і будуць у душы нам непрыязнымі...

– Ведаеш, малады, і я не мог даравáць бацьку за тое, – прызнаўся Яраслаў. – Але потым перадумаў. Мо спачатку ён не меў намеру, як ты кажаш, на жудасць. Ён уразіўся хараством нашай маці, хацеў па добрай згодзе ўзяць яе за жонку і заручыцца падмогай Палацеска ў яго сутычцы з Яраполкам. А яна хацела за Яраполка. І адмовіла бацьку. І як! “Не хачу разуці рабыніча...”. А наша з табой бабуля была не проста рабыня, а князева дачка. Славянка-драўлянка. Вось гэта і ўзарвала яе брата, Дабрыню. Вось ён і змусіў бацьку ўчыніць, як ты кажаш, жудасць. Потым ён і ў Ноўгарадзе, каб пайшоў там хрост, зноў пайшоў на гвалт... Ахрышчваў мячом ды агнём... У Пскове, Смаленску і ў тваім Чарнігаве таксама тады ўсё ішло праз сілу... І сынок Дабрынеў такі... Каб ты ведаў, колькі ён падбіваў наўгародцаў супроць мяне, колькі я нацярпеўся ад яго злыбед! Ён не дасць там спакойна княжыць майму Уладзіміру...

“Значыць, Канстанціна чакае расправа”.

– І яшчэ ёсць адно, што здымае з бацькі грэх, – разгаварыўся Яраслаў. – Калі ён нас, сыноў, рассылаў па сваіх уладаннях, то Ізяслава ўзвысіў. Яму дасталася не падуладная бацьку вобласць, як нам, а вотчына дзеда Рагвалода з правам самастойнасці і права па кудзелі на аднову роду палацескіх князёў. Незадоўга перад канцом тысячы сонцаваротаў хрысціянства на Кіеў мелася напасці незлічоная раць печанегаў. Бацька падаўся ў Ноўгарад збіраць сілу на адпор і па дарозе завітаў у Палацеск, дзе пакінуў на час нашых сясцёр, цяжарную Ганну. Потым, калі ён перавёў мяне пасля смерці Вышаслава ў Ноўгарад, наўгародскія баяры расказвалі мне пра бацькаву думку пра Ізяслава. Казаў: для сваіх маладых гадоў не схільны да гуляў-забаў, разважлівы, спраўны гаспадарнік, кніжнік і кніжнае слова сее. Але скрытны і скрытна амацоўвае Палацеск, хітра падкупляе суседзяў ласкай. У расчуленага цёплай сустрэчай бацькі прасіў вярнуць Віцьбеск, Ршу, вымаліў права абсесца на блізкіх да Ізяслаўля на памежны крывіцка-дрыгавіцкіх землях. У Лагожаску, Менску. Хацеў дазволу на прасоўванне ўніз па цячэнні дрыгавіцкіх Пцічы, Бярэзіны, Усы, Случы, Друці (да Барысава, Слуцка, Капыля, Клецка, Рагачова). Бацька не на ўсё згадзіўся. Сынок яго паказаў ужо драпежныя кіпцікі. Мо чуў: пакуль я разбіраўся са Святаполкам і печанегамі, ён асмеліўся ўдарыць па Ноўгарадзе, вывезці адтуль багатыя скарбы і вывесці вялікі палон? За

мір са мной вытрабаваў у мяне Віцьбеск і Усвяты, чым палепшыўся яму доступ да Дняпра, да шляху з варагаў у грэкі. А значыць, чым і абагаціў сваю казну.

Мсціслаў усміхнуўся. Але ў душы і, можа, толькі вачмі: той "мір" быў адмысловы: яго выкупіў ён, Яраслаў. Каб Брачыслаў не прыслаў сілу на помач яму, Мсціславу, і не "вытрабаваў" за гэта ўжо ў яго дрыгавіцкія палескія, схільныя да Палацеска землі. Не памог яму, але і не нашкодзіў, а свой Полацк задобрыў вяртаннем Віцебска і Усвят.

– А цяпер, пакуль мы з табой высняліся, ён не проста асмялеў, – паскардзіўся Яраслаў. – Выціснуў смаленцаў са старожаў Рша, Копысь (па тваім беразе Дняпра), Суража, якія ў свой час бацька перадаў Смаленску. Ён выношвае задумы, спрабуе па Заходняй Дзвіне дабрацца да Варажскага мора, але там яму вялікі заслон ад пільных і ваяўнічых жмудзінаў, корсі, латгалаў, ліваў. Ды яго ваяцкі запал не дасць яму ўседзець. То дзе зарука, што ён зноў не пойдзе на Плескаў? Яго, як і Ізборск ды Смаленск, ён лічыць палацескай вотчынай! Да Рурыка над імі быў палацескі князь. І Ноўгарад у спакоі не пакіне.

– Не пакінуў бы, каб мы з табой не высніліся... – сказаў Мсціслаў, але недагаварыў. Пра тое, што ён апошні час меў тайную думу паклікаць пляменніка ў саюзнікі, а за гэта ахвяраваць таму тым, на што той мае вока. І выйсці да Варажскага мора памог бы. Тады Мсціслаў застаўся б вялікім князем, але ўжо з Брачыславам. З імі месца Яраславу не было б.

Той адчуў недагаворку і, канечне жа, зразумеў, што хацеў дадаць брат: баючыся гэтага саюзу, ён і "обуздал свою гордыню", паклаў меч у похву. Не ўпусціў адзіны для яго шанец застацца самае вялікае ізгоем. Цяпер жа, калі будзе саюз братоў, зразумела, полацкі сынавец-смяльчак прыцішэ.

– Ладна. Па часе наведаюся туды, пагавару з ім. Пагляджу, што за герой заявіўся ў нашай завадзі (родзе), – Мсціслаў быў спакойны, а потым перавёў гутарку крыху на іншае: – Скажы: Палацеск – таксама з-пад дзясніцы варагаў-русаў?

– Як гаварылі мне знаўцы-наўгародцы, не. Палацеск ні клікаў русаў, ні яны яго не заваёўвалі. Тых русаў даўно ўжо вабіла пуцявіна з Ноўгарада ў Панційскае мора ("шлях з варагаў у грэкі"). Дык яны і падбіралі гарады да Дняпра і па ім: Ноўгарад, Плескаў, Смаленск, Любеч, Кіеў. Палацеск даваў ім вольны праезд па Заходняй Дзвіне ці мо і адкупляўся данінай. Казалі, русы толькі мелі паблізу Палацеска крэпасць-старожу. Яна аберагала караблі і лодкі вікінгаў па шляху да Дняпра. Пазней Алег узяў і Палацеск, але ненадоўга. Ці Палацеск адкупіўся, ці Алег не меў сілы яго ўтрымаць. А Ігар і наш дзед Святаслаў ужо на Палацеск не хадзілі. Наш бацька, гэта ты ўжо і сам добра ведаеш, скарыў Палацеск, але праз якую дзесяціцу паслаў палачанам Ізяслава і вярнуў ім іхняе вольнае быццё. А потым Ізяславу адобраную Царградам княскую пячатку прывёз. Мы з табой бацькавыя васалы былі, а Ізяслаў – роўны яму! Меў права род Ізяслававічаў завесці!

– А ў дзеда Рагвалода былі продкі з русаў?

– Кажуць, што не. Таму палачане, як і радзімічы і дрыгавічы, не называлі і не называюць сябе Руссю. У палачан князі ці яшчэ з прышлых крывічоў, ці, як некаторыя кажуць, з палабскіх славянаў. А іншыя кажуць пра іншае: палачане хадзілі да палабаў, каб памагчы там адбіцца ад варагаў і германскіх плямёнаў. Ды русам было лягчэй мець у сваіх руках Кіеў, чым Палацеск: Кіеў абкружалі моцныя і вельмі ваяўнічыя ворагі.

Часамі ён нават мусіў плаціць даніну. Печанегам, хазарам. Палацеск нават памагаў Кіеву ў яго паходах на Візантыю. Дзяды нашы жылі ў міры, а то і ў саюзе. Праўда, яны былі розныя. Як і бацька, Святаслаў любіў меч, а Рагвалод – арала, серп, касу, рыліцу (рыдлёўку), ловы, рамёствы розныя. Так што ў цябе цяпер прачнулася Рагвалодаўская жыліца.

– Мо і так, – Мсціслаў не змог стрымаць усмех.

– Ізборск, Плескаў, Ноўгарад, – Яраслаў павёў рукой паверсе. – Калі строга перасцеражом Палацеск, то там для мяне будзе ўсё надзейна.

“Але ж наўгародцы адмовіліся цяпер пайсці на мяне. Мо і надакучыла бясконца браць на сябе цяжар, каб сілай вяртаць цябе, брат, у Кіеў. А варагі прыйшлі і з-за платы, і з-за таго, каб папомсціцца мне.”

– Пяройдзем на твой, левы бераг, – Яраслаў перавёў позірк на адпаведнае месца на карце. – Думаю, ты не будзеш супраць, каб мяжа паміж маім Ноўгарадам і тваім Растовам засталася па волаку ад Ільменя да верхняга Іціля?

– Не. І Ноўгарад няхай ідзе па левым беразе Іціля туды, куды хоча. Мне зямель па правым беразе Іціля больш чым даволі.

(Мсціслаў пад левабярэжнымі волжскімі землямі меў на ўвазе абшары сённяшніх Яраслаўскай, Валагодскай, Архангельскай, Ленінградскай абласцей, Карэліі, зямель Кастрамскога краю, Комі і інш., куды і да Яраслава з Мсціславам часта ўчынялі што раз усё далейшыя рэйды-напады наўгародскія шматлікія і добра ўброеныя ватагі (Ул. Даль: “Ватага – дружная толпа, шайка, артель, временное или случайное товарищество для работ, для попутья”. Гэтыя “работы” былі набыткам, радасцю для ўдальцоў-ватажнікаў і вялікім горам, а то і смерцю для тубыльцаў).

– Смаленская зямля... – Уздыхнуў Яраслаў

Мо шкадаваў не столькі Смаленска, колькі блізкага да таго паселішча Гняздова, дзе было шмат складняў самых розных тавараў, купцоў і пакупнікоў і дзе мелі абыходак вялікія багацці (пазней Мсціслаў уведае, што там было шмат, каля 3000, курганоў, у многіх з якіх знайшоў спачын заможны люд. Пазней даследчыкі адшукаюць у іх розныя ўкрасы, зброю, посуд, манеты, карчагу з стараславянскім надпісам сярэдзіны 10 ст.).

– Думаю, ты зноў выцесніш Палацеск з Копысі? – непакоіўся за сваё Яраслаў. – Абарвеш саму яго думку перабрацца за Дняпро?

– Паглядзім.

– Ну, а ніжэй, ад Дняпра і па Сажы, да Дзясны – твае любімыя радзімічы, – не без яхіднасці прамовіў Яраслаў, канечне, яшчэ больш, чым на дрыгавічоў, маючы на тых злосць за тое, што іхняя дружына памагала Мсціславу ў бітве каля Чарнігава. – Тут таксама ёсць свой вузел. Спрэчныя землі паміж крывічамі-смалянамі і радзімічамі. Бацька тое-сёе, як і на крывіцкіх, так і на радзіміцкіх землях саступіў смалянам, але гэтым зусім не ўсталяваў там мір. Радзімічаў натхніла, што Брачыслаў адабраў у смалянаў былыя палацескія землі.

– На якія землі пасягаюць радзімічы? – пацікавіўся Мсціслаў.

– Паміж Сожам і Дзясной уверх ад іх пачатку. Дзе прыток Сажа Віхра, а таксама дзе рэчкі Іпуць, Асцёр.

– Ну, а на якія-такія радзіміцкія землі смаляне маюць вока? – пацікавіўся Мсціслаў.

– На крэпасці Крэчут (Крычаў), Прапошаск (Слаўгарад), Чычэрск.

– Мо нават і на Гомій? – пакпіў Мсціслаў.

– Не. З Гоміем будзеш мірыць чарнігаўцаў, севяранаў ты, – адказаў Яраслаў. – А Смаленск і Гомій будуць прасіць у цябе даць ім сына ў князі. Каму з іх дасі, таго і амацуеш.

Усё так: гомійцы прыйшлі яму на помач і добра памаглі. За аддзяку, праўда, прасілі даць ім на княжанне яго сына, каб завесці новы княскі род. У свой час іх нібы прывёў на іхняе цяперашняе месца князь Радзім, завёў свой род, які вёўся і пазней, калі радзімічы мусілі плаціць даніну хазарам (прыкладна 850 – 885). Доўжыўся і пры кіеўскім Алегу (з 885-га), але калі ў 984-м адмовіліся плаціць даніну Кіеву, то вялікі князь Уладзімір наслаў на іх свайго ваяводу.

– Я на тваім месцы больш уважыў бы далейшы Смаленск, а Гомій моцна трымаў бы пад сваёй дзясніцай. Гомій некалі меў сваіх князёў, падуладжваў усе радзіміцкія землі, дык не трэба даць уваскрэснуць яго былой моцы, былому гонару, які асадзіў наш бацька! А Смаленск трэба ўмацоўваць насуперак Палацеску.

“Бацька, як і тураўскае, так і радзіміцкае княскае дрэва вырваў амаль з карэннем! – падумаў Мсціслаў. – Цяпер, як і тураўцы, радзімічы таксама паспадзяваліся на мяне, але я для большага свайго мушу здрадзіць і ім. А калі будуць незадаволеныя, то і быць жорсткім, як іхні пагромец, бацькаў ваявода Воўчы хвост! Зноў – гэтая politike (techne)! І ніякіх згрызаў душы за нечыя пакуты і слёзы! Дзялі і ўладар!”.

– Любеч, Чарнігаў, Пераяслаўль, – паказаў Яраслаў. – Ужо твае. А далей – Стэп... Дзікі, чужы нам нават за тое, што цяпер хіліцца да ісламу. Злучайся цераз яго з Сурожскім морам, з Цьмутараканню!..

– Дзякуй, – пакпіў і ён на кпіну. Стэп, напраўду, вялізны. І печанежскія сілы ў ім немалыя. Але іх, калі паднатужыцца, можна пабіць ці далёка адагнаць. Пад Іціль або нават і за яго. А што далей? Там неараныя землі, няма ніякіх будынін і лесу для іх. Можна толькі рабіць зямлянкі і глінянкі. Але ж на ўсё гэта трэба час і нямала працавітых рук. А весці, як печанегі, качэўны лад жыцця – не для славян, ужо даўно звыклых да аселасці. Вось Яраслаў і пакеплівае. А ўголас дадаў: – Некалі, брат, нашым нашчадкам, калі тут стане ім цесна, ох як спатрэбіцца і гэты, цяпер дзікі Стэп!..

– Канечне, – згадзіўся Яраслаў. – А цяпер, якія печанегі табе саюзнікі, ты павінен, чуеш, абавязаны запатрабаваць, каб яны запынілі разбой каля дняпроўскіх парогаў! Перасцеражы, нават прыгразі: будзеце знянацку нападаць і рабаваць – самі выклічаце на сябе наш гнеў!

– Ды я ўжо сказаў такое Тугену.

– Паўтары. І, кажу, па-свойму непахісна. Са сваім “усё”! І нашых грабежнікаў трэба строга перасцерагчы: за апошнія дзесяць гадоў вельмі ж распаясаліся...

(Яраслаў і Мсціслаў мелі вялікую турботу пра тое гаварыць: паміж сённяшнімі Днепрапятроўскам і Запарожжам было 10 папярочных парогаў, а да іх яшчэ 30 выступаў каменных глыбаў на 75 км, дзе вада спадала з 40 м і бег яе быў да 4 м у секунду. Значыць, купцы і іншыя ўладары суднаў розных краін мусілі сыходзіць на бераг і па ім цягнуць судны да спакайнейшай дняпроўскай плыні. Вось тут іх і падпільноўвалі не толькі печанегі, але і іншыя, хто, па словах М. Карамзіна, любіў займацца лёгкім “народным промыслом”. Шматвекавыя разбой і рабаванне многім так даліся ў знакі, што нават у 19 ст. Ул. Даль пачуў і запісаў: “Русъ? м. сказочное чудовище днепровских порогов”. Чаму іменна такая назва істоты? Многія рускія даследчыкі нават і цяпер тыя пагромніцкія

грахі прыпісваюць печанегам. Але тыя былі разбітыя ў 1036-ым; адны з іх сталі Яраслававымі даннікамі, іншыя сышлі ў Венгрыю. Памяць пра іх захавалася толькі ў летапісах. – *ГД.*).

– Паўтару, – у згодзе запэўніў Мсціслаў. А тады: – Ну што, брат. Галоўнае мы абгаварылі. Пра астатняе – пасля. Давай клікаць тваіх і маіх знаўцаў- дарадцаў, пісцоў. Няхай складаюць грамату пра мір паміж намі і пра нашую дамову.

Неўзабаве ў шацёр зайшлі пакліканыя, а Яраслаў і Мсціслаў агледзілі пасляпалуднёвае, пацягнутае рэдзенькай белізной неба, але яшчэ жмуркае сонца, абвялыя без ветру абсягі і шэрагі вояў абапал шырознага майдана. Усе, абамлелыя ад гарачыні, канечне ж, з нецярпеннем чакалі таго, пра што дамовяцца яны, князі.

– Абсмяглі людзі, коні, – сказаў Мсціслаў. – Няхай ваяводы дазволяць ім скінуць шоламы, латы і адыйсціся ўбок. Паблізу ёсць выгінастая рачулка. Дык няхай сходзяць і да яе. Пакуль што воддаль адны ад адных.

Яраслаў згодна хітнуў галавою, добра ведаючы, што такое некалькі гадзін стаяць у полі пад моцным прыпёкам. Мсціслаў кіўнуў пальцам свайму і Яраславаму ваяводам, пасля перадаў ім адпаведны дазвол і, бачачы, што яны запытальна зазіраюць у вочы, па-свойму патлумачыў усё:

– Скажыце кожны свайму дворскаму, каб падвозілі шмат пітва і страў самых розных, каб сцягвалі дровы на вогнішчы. Усю ноч піць, есці, весяліцца будзем!

Тыя, радасныя, уміг пашыбавалі да сваіх. Браты паселі на зямлю і ўжо чулі на розныя лады галасы з шатра. Гаваруны наперабой, выяўляючы сваё красамоўства, выкрыквалі сваё:

– “От великокняжения Ярослава и Мстислава...”, “От всех людей Русьской земли...”, “вопреки диаволу – ненавистнику добра и враждолюбцу, на все лета, доколь сияет солнце и стоит мир... “, “Ныне люд киевский да черниговский, потом во всяком княжении да клянутся хранить истину союза; х(к)рестьяне – честным Крестом, а некрещёные полагая на землю щиты свои, обручи и мечи обнаженные...”

Пакуль разумныя і з ведамі living розныя складалі грамату “в двух хартиях, обоими подписанные; одна будет у Ярослава, другая – у Мстислава”), браты ўжо гаманілі звышспакойна. Мсціслаў, сказаўшы, што на першым разе не трэба ні на нікога “тяжкую дань взлажити”, перавёў гутарку на іншае. На асабістае, але пра што старэйшы Яраслаў (ды яшчэ шмат дзе на свеце пабываўшы) мог ведаць больш за яго. Папрасіў:

– Брат, скажы шчыра пра тое, што даўно ўжо вярэдзіць розум і душу: ці самі па сабе гэтак нечакана, адно за адным пакінулі гэты свет маці, брат і яго старэйшы сын? Ці тоіцца тут нечы злы замысел супроць Палацеска?

– Павер, – Яраслаў прыклаў руку да грудзіны. – Нічога пра гэта не ведаю. Але і я лічу: тут ёсць нейкая таямніца... Як я не злы на Брачыслава, але шчыра жадаю, каб ён прадоўжыў бацькаў род. Каб пайшлі Ізяславічы. Толькі, кажу, трэба паўшчуваць яго. Каб лішне не сваволіў з намі.

– А што да забойстваў Барыса і Глеба?

– А што? – ускінуў галаву Яраслаў. – І ты верыш у паклёп, што іх загубіў не Святаполк, а я?

– Калі ты кажаш, што гэта паклёп, то я веру табе. Але любі ці не любі, але мушу сказаць шчыра і няўхвальна пра іншае. Пра тое, як ты абышоўся з Прадславай і Праміславай.

– Так выйшла, Мсціслаў, – старэйшы брат адвёў вочы. – Часамі многае адбываецца нечакана і паміма тваёй волі. Тым больш, што сёстры самі адмовіліся пакідаць Кіеў перад Баляслававым нашэсцем і ехаць з маёй Ірынай у Ноўгарад. Асабліва Прадслава. З-за каханца свайго... Угра ці, як яшчэ кажуць, мадзьяра... А з ёй разлучацца не захацела Праміслава.

– А нашто ты Святаполкаву жонку змусам вывозіў?

– Каб ён і Баляслаў былі болей згаворлівыя...

– А дзе яна цяпер?

– Памерла. У яе было слабое сэрца. А сёстры нашы ні ў беднасці, ні ў загане. Замужам за князямі. Прадслава – за чэшскім, Праміслава – у мадзьяраў. А значыць, могуць быць нам падмогай. Ўграў і чэхаў нам трэба сутыкаць насамі і заадно насылаць іх на ляхаў, на германскія плямёны. Вось якраз табе прыйдзецца з'ездзіць спачатку да ўграў, пагаварыць з сястрою. Яна, як і Прадслава, на мяне азлосненая...

– Дык ты не ведаеш: нашай Прадслаўкі ўжо няма?

– Як? – здаецца, шчыра апёкся болем Яраслаў. Прахрысціўся. – Яна ж была ў такім здравіі!

– Можа, і ў яе сэрца не вытрывала... Кажуць, і ў труне ляжала на дзіва маладая і прыўкрасная.

Яраслаў замаўчаў. І надоўга, апусціўшы галаў між калень. Мо, праўда, не было ў яго паганага намыслу супраць сясцёр. Тым больш, што, кажуць, Прадслава ўпотай перасцерагала яго ад Святаполкавай небяспекі.

– А што з нашым Усеваладам? – запытаў Мсціслаў. – У каго не пацікавішся пра яго, ніхто ясна адказаць не можа ці не хоча. Нават наша ненька Любка.

– Ды адкуль яна будзе ведаць, – сказаў Яраслаў. – Я ў Ноўгарадзе тое-сёе чуў пра яго ад людзей з Даніі, але таксама мала чаго пэўнага магу апавесці.

– З Даніі? – здзівіўся Мсціслаў. – Як ён ажно там апынуўся са свайго Уладзіміра-Валынскага?

– У гэтым шмат таямніц. У нечым ён паўтарыў нашу з табой долю: аўдавеў пасля першага шлюбу. Вельмі перажываў па любімай жонцы. І тут... Адзін Бог ведае, чаму ён збягае... Адны кажуць: даймаў люд, які гібеў ад страшнай засухі... Папрасіць помачы ў Кіева не было як: бацька памёр, а Святаполк пачаў распраўляцца з сынамі нашага бацькі... Іншыя гавораць: ён хаваўся і чакаў, хто пераможа: Святаполк ці я... А калі Святаполку прыйшоў на помач цесць Баляслаў і захапіў Уладзімір-Валынскі, то ён і ўцёк. Як ты кажаш, ажно ў Данію. А там – каралева-удава Сігрыд, родная Баляслава сястра Свентаслава. Дык вось нібы ён загарэўся любоўю да яе, хоць і нашмат старэйшай: была яна вельмі пaглядная. Да яе многія прасіліся ў мужы, мо і каб падмяць яе маладога сына-караля (брата жонкі нашага палацескага сынаўца). Яна ж мо і мела зуб на Усевалада за тое, што наш бацька не аддаў замуж за яе брата нашу Прадславу, мо не хацела спрыяць, каб не пашкодзіць Баляславу. Карацей, ёсць чуткі, зласліва пацерла рукі: учыню з табой, што ўчыніла твая прабабка Вольга... Падлесцілася, запрасіла ў мыльню, а там – яго не на палок, а ў агонь...

– Жах! – усклікнуў Мсціслаў.

– Жах, – згадзіўся брат. – Нават у самой Даніі яе неўзлюбілі за гэта.

– А як яе дачка, жонка Брачыслава?

– Хітрая. Яна прыехала ў Кіеў найперш дзеля таго, каб стаць вялікай княгіняй і стаяць за дацкія інтарэсы. Каб мы памагалі Даніі ў яе інтарэсах да свеяў і нарвежцаў.

– А як сустрэла яе твая Ірына? – асцярожна пасміхнуўся Мсціслаў, ведаючы, што тая больш чым зычлівіць варагам.

Яраслаў ускінуў галаву і пільна зірнуў яму ў вочы. А тады:

– Ірына стрымлівала яе розныя пасягненні...

"Ды так, што ўдаліла тую з Кіева. Вялікая княгіня павінна быць адна! Яна!"

На гэтым размова пра асабістае скончылася: іх паклікалі ў шацёр. Яраславаў духоўнік Іларыён (будучы першы мітрапаліт Русі са славян. – *Г.Д.*) зачытаў складзеную грамату. Яны яе без ніякіх правак падпісалі.

Калі воінства вярнулася на свае месца, браты выйшлі з шатра на перадвячэрнюю паплавіну не толькі разам, але і спалучанымі ды ўскінутымі ўгору рукамі. Мсціславу зусім не жадалася, каб Яраслаў чыльгікаў побач і выглядаў нямогла. Магло здацца: шмаргані ён сваю правую руку – з ёю адарвеццца ад зямлі і брат. Паселі на коней і, зноў падняўшы ўгору сашчэпленыя рукі, паехалі побач. Да першых, зноў сабраных шарэнгаў на ўтравелай гоні. За імі ўслед – світа, а з ёю – Яраславаў, як казалі ў Ноўгарадзе, "бирючь" ці "оглашатель", па-просталюдзінску вястун. Здаецца, усіхныя вочы былі скіраваныя не толькі на князёў, а і на вяшчальніка, найперш на яго руку з пергаментам і шаўковымі шнурамі, якімі пазней, азнаёміўшы з граматай кіеўлян і чарнігаўцаў, абвяжуць згортак, а на канцы яго прылепяць пячатку (грамата для Мсціслававага захоўвання была ўжо ў руках яго дворскага).

Мсціслаў і Яраслаў узмахам вольнай рукі паклікалі сваіх, каб бліжэй падышлі да сярэдзіны выпасу тут жывёлы. Прытрымліваючы зброю і даспехі, дружыны ціха наблізіліся да іх. Ускалыхнулі паветра – не на бой, а на ўвагу – трубы. Вяшчальнік агаласіў наваколле зычным голасам:

– Да услышит и тугоухий! Внимайте грамоту князей Ярослава и Мстислава! Сия грамота – плод долгих и мудрых раздумий, плод соглашения двух сущих великих князей. А грамота така: "Мы от рода Руського, внуци великого князя киевского Святослава, сыновья великого князя киевского, просславленного из Небесной благодати крестителя Руси Владимира Ярослав и Мстислав клятвой на Святом писании заключаем договор о том, чтобы прекратить пагубную усобицу..."

Вяшчальнік прачытаў усю запісаную дамову паміж братамі. Па абодва бакі воі без ніякага знаку, па поклічу душы ўскінулі ўверх мячы, шчыты і радасна загулі так, што, здаецца, ажно паветра затрымцела ад галёкання і выдыхаў. Канечне, некаторыя не маглі радавацца, што не будзе новай вайны. Як заўважыў Мсціслаў, непарушнай засталася ягоная конная дружына ясаў і касогаў, а ў Яраслававым стане – асобныя варагі. Тыя з цікавасцю назіралі, як паводзяцца цяпер славяне з северскай і радзіміцкай зямель. Мо безуважныя чакалі менавіта бітвы, перамогі, а пасля – шчодрых дароў ад свайго князя ці і рабункаў зможаных, недацэньваючы таго, што цяпер абодва князі кожнаму з іх падарылі самае вялікае і дарагое – жыццё! Казна двух вялікіх князёў была зусім не пакоўная, але і з яе знойдзецца што даць усім воям, для кожнага з якіх вайна ў ахаванні ад загібелі – надзея на прыбытак.

## З "Рукапісу"

"У 1026-м унукі Святаслава і Рагвалода, сыны Уладзіміра і Рагнеды, браты Яраслаў і Мсціслаў на вачах сваіх вояў, а потым кіеўскага і чарнігаўскага люду

першыя на Русі паказалі прыклад, як на карысць інтарэсаў дзяржавы можна пастуміцца самалюбствам, прагай адзінаўладдзя і пачаць правіць сумесна. Як вялікія князі кіеўскія. Пазней летапісец усцешна зазначыць: "Начаста жити мирно и в братолюбстве, и уста (спыніліся) усобица и мятеж, и бысть тишина велика в земле". Русь з дзясятак гадоў нікога не чапала і суседзі пакінулі яе ў спакоі. Як можна меркаваць па полацкім летапісе, князь Брачыслаў уважліва сачыў за паводзінамі дзядзькоў. Пасля іхняга замірэння ён прыслаў ім павітанне і шчодрыя падарункі, перадаў сваё ўпэўніванне ў міры, а Мсціслава запрашаў у госці.

Неўзабаве два вялікія князі Русі ўведалі і іншую навіну з Полацка: пасля новых няўдалых родаў пакінула гэты свет Брачыславава жонка. Сястра дацкага конунга Кнуда Вялікага (той праславіўся тым, што злучыў у паўночную імперыю Данію, Нарвегію і Англію. Праўда, ненадоўга: як і ў іншых імперыях, яна пасля смерці валадара распалася). Брачыслаў застаўся не толькі ўдаўцом, але і без нашчадка. З полацкіх князёў адзін. Як той перст. Канечне, Полацк не мог не захваляваца. Яго баяры, моцна ўзрушаныя за лёс свайго княжацкага роду, а значыць, і за далейшчыну Полацкай зямлі, як удавалася, суцешвалі нешчаслівіца і пачалі падшукваць яму маладую жонку. Хутка яе і знойдуць. У прынаўгародскіх землях водзі (важан, вотаў). Мсціслаў дачуўся пра гэта спакойна, а вось спасцярожлівы, надумлівы Яраслаў убачыў у такім пасямеянні пагрозу: маўляў, Полацк настроіць водзь супраць Ноўгарада.

Не мог не жадаць мець яшчэ дзяцей, найперш сыноў, і Мсціслаў. Было дзе выдзеліць ім удзелы, яшчэ болей амацавацца самому і акараніць свой род . У далёкай Цьмутаракані, у бліжэйшых Мураме, Растове, у гарадах радзіміцкага і смаленскага краю. Кахаў сваю Ірыну, хацеў прыдбаць з ёю новых нашчадкаў і Яраслаў. Ім таксама знайшлося б месца ў бацькавых уладаннях. Праз пэўны час Ірына падорыць мужу яшчэ аднаго сына, Святаслава (будзе не менш за брата Ізяслава варожы да Полацка і Менска, хадзіць на іх вайною), а вось захопленае мілаванне Мсціслава і Марыі Гасподзь чамусьці не ашчасліваць сваёй міласцю...".

## 9.

Сёлета, у год *Вялікага замірэння*, разам з усім людам Мсціслаў таксама без трывогі, спакойліва паназіраў, як тут, на чарнігаўскай зямлі, адлецілася.

Калі пасля доўгага перапынку пабыў у родным Кіеве на вечы, пацешыўся людской радасцю за спыненне разладдзя ("легко, хорошо про брань слушати, да не дай Бог её видети"), калі на малебне сам мітрапаліт воздал хвалу мудрости" яго і брата (пры гэтым не забыў і сябе, бо яны, архірэі і клір, маліліся за мір "смиренно, покорно и усердно") і вярнуўся ў свой, у шырокім сэнсе гэтага слова новы ДОМ, мінуў мядовы ці мокры Спас. За ім было яшчэ цёпла, часам нават гарачавата, але ўжо заўважна пачалі астуджвацца ночы і заяўляцца халодная раса; ёй маладыя севяранкі мыліся-лячыліся, каб быць белатварымі ("раса – божая краса"), замужнія на ёй вымочвалі лён, бялілі палатно. Ды ад яе, асабліва жнівеньскай, і цярпелі. Усе гаспадары: намоклая начная мучністасць пакрывала нездароўчымі сіва-белымі плямінамі лісце раслін, а, як казалі, малочная, шкодзіла шэрсці жывёл. Дзецям была свая бядота: хто мусіў на досвітку падымацца і ісці да старых у падпаскі босымі, таму раса пякла падэшвы, зразумела, асабліва тым, у каго былі парэпаныя пяты. І на гэты Спас, пакольккі збажына не была патаптаная вайною ці не скрадзеная непрыяцелем, люд паласаваўся пірагамі з макам, а таксама ім абсыпалі хату, хлеў (ратаваліся ад нябожчыкаў). Пасля гэтага святаслужнікі змушалі пасціцца два тыдні

(спасаўка). І сёлета, як верылі старыя людзі, мо і на развітанне адбушаваў Пярун (замест яго царква змушала ўшаноўваць Іллю), адшугалі рабінавыя ночы – маланкамі, грымотамі, ліўнямі, ветрам і віхурамі, што нібыта было карай за старую, паганскую веру. Хоць такія жудкія, пагрозлівыя ночы дзяды помнілі яшчэ і за часам былой веры. Гэтым годам ягады на рабіне не зусім саспелі – значыць, трэ было чакаць халоднай восені.

Паміж поста быў яблычны Другі Спас (Праабражэнне Гасподняе). Сяголета ён вызначыўся тым, што з Кіева прыбыў сам мітрапаліт са шматлікім клірам. Яны пачалі ютрань у невялікай драўлянай цэркаўцы, пасля прадоўжылі малебен каля любімай чарнігаўцамі прошчы – мясціны з вялікім каменем і крынічкай, дзе спачатку асвяцілі гэты куток для новай царквы, пасля – прынесеныя людам яблыкі ды іншыя садавіну і гародніну, дазволілі ласавацца ёй уволю. Затым у цэркаўцы адслужылі літургію, дзе таксама былі малітвы і прычасце – паданне віна з кавалачкамі просфіры для тых, хто быў на споведзі ці пераходзіў у хрысціянства. Люд у душы, канечне, шкадаваў, што адбыўся новы замах на іх іншую святыню, але змірыўся: гэта ж – воля іхняга князя і вышэйшага кіеўскага царкоўніка. Ды яе, святыню, не паганьбілі як былое капішча. Тым больш чарнігаўцам, усім севяранам і яшчэ палесцілі іншым: тут, у Чарнігаве, будзе храм у імя самога Спасіцеля (Збаўцы), Хрыста, і будзе гэты храм саборам – галоўнай царквою на левабярэжнай Русі. Нават ад самых заядлых язычнікаў ні злосных выкрыкаў, ні нейкіх выхадак не было.

Так было дамоўлена на Вярхоўнай Радзе ў Кіеве: Яраслаў там пачынае па-новаму і з большым размахам узводзіць Сафійскі сабор, што на чале з мітрапалітам стане асноўным на Русі, затым – вялікі мужчынскі манастыр, "обитель" манахаў для ўмацавання веры і сяўбы пісьменнасці.

... Пасля трапезы, калі Мсціслаў праводзіў мітрапаліта з архірэямі і клірам за вароты свайго хорама і з паклонам усім колькі сказаў "спасибо", дык вось мітрапаліт папрасіў яго паўшчуваць з гэтым "спасибо" севяранаў і іншых цяпер падуладных яму "со стада Господнего". За "богохульство" нават сярод хрысціян. "Спасибо" – гэта "Спаси, Бог". Дзякую, адары цябе Бог. Дык вось зневажальнікі Бога любяць пацяшацца: "За спасибо работу делати" (лічыцца: слова работа" пайшло ад слова "раб"), "Спасибо в мошну не положити", "За хлеб-соль не платити, только спасибо". Дык трэба, каб богаўгодна тут гаварылі. Скажам: "Велико слово: спасибо", "Не лекарь спасает, а Бог", "То не спасенье, что пьян в воскресенье", "Одно спасенье: Бог да молитва", "Терпенье – спасенье". Бачачы, што Мсціслаў не зусім пранікнёна зважае на гэтае, мітрапаліт зазначыў: богаўгоднае і нам, і табе, вялікі князь, "в пользу великую...".

Мсціслаў, канечне, згадзіўся паспрыяць царкве ў гэтым, хоць прачуваў: тыя паданні, песні, жарты, што намыслілі знаўцы жыцця, кемнікі, аратаі слова, дасціпнікі, само па сабе, як снежная гурба ў адлігу, коціцца, абрастае сярод люду, і яго не выкараніць ніякай караю. І не памыліўся: да непачцівага яшчэ толькі дадалося. "Русское спасибо", "Русский бог" (авось)...

## З "Рукапісу"

"Заснавальнік (1051) і першы ігумен Кіева-Пячэрскага манастыра Антоній Пячэрскі ў 1068-м, у час народнага паўстання ў Кіеве і з-за пагрозы палавецкага нашэсця ўцёкаў сына Яраслава, Ізяслава, у Польшчу, выратуе жыццё полацкаму мужнаму, здрадліва падманутаму Яраслававічамі пры цалаванні крыжа пра не-

датыкальнасць Усяславу і папросіць яго стаць вялікім князем кіеўскім і разам з моцным духам Яраслававым сынам Святаславам адбіць нашэсце новых страшных ворагаў для Кіева і паўднёвай Русі – полаўцаў, якія выцясняць яе з былой Мсціслававай Цьмутаракані. Значыць, і з Сурожскага мора, ад ясаў і касогаў, ад усходняга Крыма. Усяслаў дасць належны бой полаўцам і змусіць іх уцячы (здаецца, я гаварыў ужо: Тацішчаў быў не супраць, каб адзначыць гэта, толькі загадаў вельмі не хваліць Усяслава, больш падкрэсліць, што збаяўся звароту законнага кіеўскага вялікага князя Ізяслава з палякамі і даў драла ў Полацк...). Ды мо якраз і з-за шчырых сімпатый да самай буйнай на той асобы на славянскіх землях Усяслава годам пазней Антонія сашлюць у Чарнігаў, дзе ён таксама заснуе манастыр. Вызначыцца царкоўнымі творамі, пераменамі, настаўленнямі сынам Яраслава ігумен Феадосій Пячэрскі. А яшчэ пазней у Кіеўска-Пячэрскім манастыры манах Нестар яшчэ больш гучна заявіць пра сябе як пра высока адукаванага чалавека, гісторыка, географа і пісьменніка. Многія лічаць: якраз ён паміж 1111 і 1113 гадамі – значыць, пры сынах і ўнуках Яраслава, праўнуках яго брата, полацкага князя Ізяслава, – нямала чаго прачытаўшы і пачуўшы ад старых сучаснікаў, сведак былых падзей (скажам, ад даўняга родзіча Дабрыні, тысяцкага Яна Вышаціча, які верна служыў Яраславічам і іхняй палітыцы) склаў і “Повесть временных лет”, дзе, зразумела, бічаваў язычніцтва і хваласпеўнічаў хрысціянству , выклаў сваю легенду пра славян і гісторыю Русі, суседніх народаў з 862-га па 1110-ы). Не заўсёды праўдзівы быў той Нестар, перабольшваў дзікунства язычнікаў, перахвальваў дабрачыннасці хрысціянства і ўладных свету гэтага, але і вялікі дзякуй яму за напісанае. Іначай мы, усходнія славяне, па самы 1110-ы год Хрыстовай веры мелі б пра ранейшае, пра даўніну самае цьмянае ўяўленне! Так што Яраслаў і Мсціслаў умелі зазірнуць і далёка наперад і ў справах рэлігійных. Каб праз іх таксама рашаць справы дзяржаўныя. Разумелі гэта і ў нашым Полацку. Зноў і зноў трэба сказаць: як навукоўцам, усім землякам патрэбен цяпер, а пазней мо яшчэ і больш неабходны яго летапіс, які я трымаў у руках!

Што да Кіева, то там пра яго і Русь летазлічэнне вялося і пасля Нестара. Там таксама нямала (часамі падроблівых на сваю карысць) звестак пра суперніцкі Полацк і іншыя нашы землі. Тое ж можна сказаць і пра хроніку, што складалася пазней, пасля падзення Кіева і ўзвышэння на паўднёвых абшарах Галіцка-Валынскай зямлі асабліва ў час Данілы Галіцкага. Але і яны былі ўлічаныя летапісцамі Вялікага княства Літоўскага для складання яго перадгісторыі: у іх ёсць самыя свежыя звесткі тагасучаснасці...”

Мсціславу належала ахраміць Чарнігаў. Дзеля гэтага аб’явілі ўсім вернікам зборнае – долю прыбыткаў кожнага на будоўлю новай царквы. Канечне, пасля такой згоды двух вялікіх князёў святыя айцы не маглі не павесялець, хоць цяпер і гаворкі не было, каб ім “отдесятствовать” – г. зн., даць, як яны жадалі, спасылаючыся на для іх дабрадзея Уладзіміра, дзесяціну з вялікакняскай казны. Немалыя траты чакалі Русь і на іншыя будоўлі – новых гарадоў і крэпасцей, на абнаўленне і ўмацаванне дружын. Цяпер ужо не на міжусобіцу, а на пазамежных суседзяў. Дый трэба было дбаць пра гаспадарку, гандаль, розныя навучэльні для дзяцей, лякарні для хворых, прытулкі для калекаў і ўбогіх, пра мыльні, мельні (млыны) і інш. – хоць бы крыху з таго, што рабілася ў росквітным Царгорадзе. Перад ад’ездам з Кіева да Мсціслава падышоў знаёмы епіскап-перамоўшчык і папрасіў, каб ён памог яму на будучае епіскапства ў Чарнігаве. “А Кіеў? – усміхнуўся Мсціслаў. – Ты можаш лёгка пакінуць сталіцу, дзе будзе Сафійскі сабор?” – “І ў нас, вялікі князь, свае

турбацыі... Толькі гэта няхай будзе між намі... Мітрапаліт не жадае зазначаць: іменна я ў тваёй “распри” з Яраславам вёў з вамі прымірэнчыя перамовы. Ён у той час вагаўся, на чый бок перайсці. Асцераўся абодвых. Хацеў, каб цябе я ўшчуваў... Гэтым самым стараўся паказаць: ён – за Яраслава. На веча, дзе рашылі запрасіць цябе на сталец, не прыйшоў. Адгаварыўся: хворы... А цяпер апраўдваецца перад Яраславам: каб ён змог быць на вечы, то такога не дапусціў бы... Яраслаў пазлаваўся, а тады, бачу, павёў сваю гульню разам са сваім любімцам Іларыёнам... І тут мітрапаліт, думаю, захоча скарыстаць мяне. Найперш супраць Іларыёна. Хоць ён, як напісана пра ранейшых праведнікаў, “муж благочестив, писанием разумен и постник”. Дык вось я хачу быць з табой: ты болей адкрыты, слову свайму гаспадар... А які князь, такія і яго слугі. А значыць, і такі лад...”.

Мсціслаў не спакусіўся пахвалою, прызадумаўся: чаго хоча гэты архірэй. Карыстаючыся знаёмствам, увайсці ў давер і мець моц у маёй Русі? Сачыць за кожным маім крокам? Уголас: “Я, святы айцец, не хачу ўмешвацца ў царкоўнае. Жадаў бы рабіць адно з кожным епіскапам. І які ўжо раз перад табой паўтаруся: усё – найперш для Русі! Славянскай!..” – “Ды ўжо зразумеў гэта. А цяпер, каб нам болей спазнацца, вазьмі мяне з сабой у паездку на сваіх неславянскіх валасцях. Там моцная сіла ў язычнікаў. Скажам, на зямлі меры (меранаў). Там, у Растове, ёсць цэркаўка, але ёсць і капішча. І да яго ходзіць найбольш туземнага люду. А нядаўна там язычнікі забілі хрысціяніна-месіянера, калі ён сеяў сярод іх зерне Хрыстова”.

... Пасля яблычнага Спаса люд пачаў ачышчаць гумны, араць папары пад азіміну і, калі зямлю намачыў дождж, то і сеяць яе. Адразу ж пасля Трэцяга Спасу, па маладым бабскім леце, зжалі ўсё жыта і Мсціславу жняі на чале не толькі з цівуном, але і з чарнігаўкай-красуняй прынеслі апошні сноп, за што ён аддзячыў грыўнамі і добра пачаставаў усіх. Як бачыў, паміж Спасамі пачалі збірацца ў гурт ластаўкі, а пасля за адну ноч зніклі. За імі – буслы.Ужо ўвачавідкі – па неспякотным сонцы, паветры без трымцення, па сухім паху жыта ў гумнах і скошанай атавы – набліжалася восень з яе радаснай часінаю для аратаяў і тых, хто корміцца іх працай, – дажынкі. А за імі, перад доўгім пастом, яшчэ весялейшая пара – час багатых вяселляў, бо па Вялікадні яны будуць бяднейшыя.

Пасля посту Мсціслаў рашыў яшчэ “творити позорище (свята, відовішча)”. Пасля ютрані ён, іерэй, знаць, а з імі і простыя людзі-хрысціяне рушылі да яго харама – там меўся адбыцца чаканы ўсімі абрад. Пастрыг Яўстахія, паколькі яму ўжо споўнілася тры гады. Іерэй правёў яшчэ адно маленне – заздраўнае княжычу на пасвячэнне ўжо ў іншы, больш пашанотны чалавечы стан. Яўстахій ужо не дзічыўся чужых людзей, вось, танклявы, схільны да высокаросласці, маючы стужку, што прыхінала даўгаватыя, за шыю, чарнявыя валасы вакол галавы, у доўгай, да замшавых тэпак, сарочыцы, ён, нібы дзяўчынка, спакойна, узяўшыся за руку з маці, – авесялелай, з радасным бляскам у вачах, прыкметна ахарашэлай пасля новай сустрэчы і жыцця пад адным дахам з мужам – падаўся да асяродка двара-плошчы. Маці і пасадзіла сына на лавачку, а ля яе ўжо чакаў для пасвячэння дзіцяці ў першы мужчынскі сан Мсціславаў, як грэкі кажуць, cheirurgos – рукадзельнік (так называлі і таго лекара, хто з якой прыладаю штосьці хворае ўдаляў з чалавечага цела), а па-мясцоваму брадабрэй. Вясёлы, хвалячы густыя цёмныя валасы княжыча, той, не спяшаючыся, цырымонна расхінуў скураны паношаны ранец, дастаў з яго белае палатно, накрыў ім Яўстахія па шыі, спіне і грудзіне, потым апусціў

таму на галаву залаты абручык да вушэй і пачаў бліскучымі нажніцамі ўпершыню падстрыгаць імянінніка да накладзенага колца. Састрыглыя валасы беражліва апускаў на падстаўлены нянькай срэбны паднос. Каб ніводзін волас не ўпаў долу і не быў падабраны птушкай на гняздо: інача́й у падстрыжанага будзе балець галава. Валасы загорнуць у шаўковы шмат, і іх будзе ўсё сваё жыццё берагчы маці. Калі забялелася ў малога патыліца, брадабрэй асцярожна зняў палатно, строс з яго рэшткі ў паднос і ўскінуў рукі, радасна прадчуваючы Мсціслававу аддзяку:

– Вжэ млад чоловік (мужчына)!

Маці павяла сына ў хорам. Неўзабаве яны вярнуліся адтуль. На гэты раз Яўстахій у пасрэбраным шоламчыку, у скураных нагрудніцы з рукавамі і портачках, у замшавых боціках. На скураным, са срэбнымі заклёпкамі і зашчапкай паясочку – невялічкі меч у скураной абшытай срэбранай ніццю похве. Важны, нібы ў такія юныя гады ўжо ведае, што гэта значыць. Ад таго ў вялікага мноства чарнігаўцаў, а таксама веснікаў (насельнікі весяў-паселішчаў), што стоўпіліся на княскім двары, іскрыстыя ад зычлівых усмешак вочы. Канюшы вывеў з княскай стайні сярэдняга росту, мажнага, але рахманага бела-чорнага каня, стрэмянны борздка ўскінуў таму на спіну лямцавае, са срэбнымі заклёпкамі па драўляным каркасе сядзельца, падвязаў амаль пад жыватом у каня два паскі ад яго, апусціў па адзін і другі бок срэбныя страмёны на пасках і з дужкамі для ног, а потым падхапіў і пасадзіў на сядзенне імянінніка (канечне, гэта рабілася ўжо не раз, то малы не баяўся апынуцца так высока ад зямлі). Канюшы павёў каня за аброць, а стрэмянны, асцерагаючы за калена княжыча рукой, ішоў побач з ездаком пад усіхныя ўцеху і воклічы.

Мсціслаў міжволі павярнуў галаву: побач усхліпнула, закрыла твар рукамі Любка ў сваім любімым – праўда, сёння не ў бела-сінім, а ў бела-чырвоным – уборы (яна прыехала з ім з Кіева). Плечы яе ўздрыгвалі.

– Ты што, ненька? – прытуліў яе да сябе. – Жалішся? Чаму?

– А як жа, Мсціслаўка, не заплакаць? – зусім не засаромелася сваіх слёз тая. – Вось так садзілі на каня брата твайго Ізяслава. Яраслава. Цябе. Усевалада. А вось цяпер і сын твой... Не заўважыш, як отракам стане!.. Малодшым ваяводаю! Старэйшым! Тваёй вернай правай рукою! Ды каб толькі яму шчаслівую княскую долю!..

– Усё будзе добра, ненька, – супакоіў і па-бацькоўску парадаваўся: – Глядзі, які мацачок! Ды ў які добры час яго чакае отрацтва!

– Няхай цябе, яго берагуць і нашы старыя Багі, і гэты новы, – сказала дваяка, але перахрысцілася па-новаму.

– Не бахальствуй! – "прыгразіў".

Стоячы паблізу, сёння ў самым святочным і шыкоўным славянскім княскім убранні (у чырвоным зверху, знізу жоўтым, пазалочаным нагалоўніку з белай даўгаватай наплечніцай, у белай доўгай сукні, паверсе якой быў да калень зялёны сарафан з жоўтымі паскамі ўздоўж па грудзіне і ад яе ўніз, ніжэй падолку (на пасках featured рознакаляровыя трох і чатырокутнія нашыўкі). Падпаясаная вышэй паясніцы карычневым поясам, што акрэсліваў яе стройную, вузкую ў паясніцы талію), дык вось Марыя пачула іхнюю размову і дабрадушна адобрыла яе лагоднай усмешкай.

– Крэпак і красен! – змахнуўшы са шчок слёзы, ужо для яе чулліва прамовіла Любка.

Неўзабаве імяніннік апынуўся каля шчаслівых бацькоў. Заўзята захацеў на ўлонне да маці, але Мсціслаў "строга" ўскінуў галаву, узмахнуў рука-

мі: ты – што! Ты – ужо не малеча, якую нядаўна адвучылі ад грудзей, а, чуў, млад чоловік! То трымайся, нават не падумай усхліпнуць, паводзься па-мужчынску! У гэты час, паколькі сёння хораша сонцавілася і не было ветру, маладыя княскія отракі пачалі шпарка выносіць сюды, на прасторны двор перад хорамам, столакі і сталы, утварáць імі літару "Покои" (г. зн. "П"), засцілаць белымі, з чырвонымі крыжыкамі настольнікамі, а паверсе ўладкоўваць розныя закусь і хмельныя напоі. За цэнтровыя сталы паселі Мсціслаў, старэйшыны з Рады, іерэй, знатныя мужы і дружыннікі. Маладзейшыя, яшчэ не з вялікімі барадамі ваяры воддаль абселі сталы па левы і правы бакі. Асобна абгасцівілі баярынь на чале з княгіняй (Марыя, на ўрачыстасцях ў Кіеве ўпадабаўшы Любку, цяпер упрасіла тую сесці леваруч ад яе, і, як заўважыў Мсціслаў, знатнянкі ўхвалілі гэта), малых дзяцей з Еўстахіем пад доглядам іхніх нянек.

Цікаўных, стоўпленых гараджан і веснікаў каля варот і за імі, Мсціслаў не збіраўся адганяць. Нават падалі і ім сталы. Праўда, толькі два і без столакаў. На адным выклалі пірагі, на другім паставілі карцы, куды з падкочаных, а потым адкрытых бочак налівалі медавуху і піва. Жанчынам, якія не пілі моцнага, і дзецям да хлебных скібаў падавалі па конаўцы квасу. І яшчэ гэтым давалі з мяха па жмені прывезенага з Царграду дзівосных салодкіх ласункаў – сушаных вінаграду ці сліў, смакоўніцы, фінікаў, арэшкаў. Бадай, усе з гасцей прынеслі да хорама свае частункі. Хто што мог. Хоць бы дзясятак яек. Але ж адно – з'есці сваё, а зусім іншае – з княскага стала. Калі іерэй благаславіў княжыча ў "новай іпастасі", а потым трапезу, усе дружна пацягнулі руку да пітва і ежы. А пасля і загулі. Як пчолы ў вуллі. Прымаўкалі толькі тады, калі слых і душу пачыналі цешыць музыкі ігрой на візантыйскіх флейтах і арфах, на мясцовых гуслях, дудках і жалейках, а спевакі – песнямі (візантыйскімі гімнамі ды жартаўлівымі прыпеўкамі, а таксама палянска-драўлянска-северскімі паданнямі). Калі Мсціслаў слухаў, то заціхалі і ўсе. Цыкалі на сваіх дзяцей, якія, хутка наласаваўшыся, пасыходзілі ад сталоў і захапіліся сваімі гулямі, а потым самыя малыя патаміліся і пачалі драмаць. Са сталых мо хто і міжволі любаваўся незвычайным людскім умельствам, але Мсціслаў шчыра, па-добраму зайздросцячы тым, каго адмысловым сваім знакам пазначыў сам Гасподзь. Ахмялелыя ды ахвотнікі даць волю-раздолле душы пад музыку і пахадзілі ў хараводзе з рознымі фігурамі, на пару паскакалі. Нават і тыя, хто не ведаў ладу, але каму душа патрабавала нейкага раптоўнага і незразумелага разняволення (апроч усяго, назаўтра бывае і сорамна за яго). Такое адбылося і з ім, Мсціславам: раней, да Марынага прыезду, ён такога не дазваляў сваёй прыродзе.

Задаволены, узвесялелы, ён у скоках і не заўважыў, як гулянку пакінулі Марыя і Любка. У вячэрняй шэрані на развітанне нарукаўся з мужчынамі, напрыцiскаўся, нацалаваўся з баярынямі, пасля толькі пачаў агледжвацца: а дзе ж яго самыя любімыя жанчыны? Іх нідзе не абхопліваў позірк. Дык ажно ацверазеў: Марыя пакрыўдзілася, што так захапіўся скакаць з іншымі (як яна не скакала з іншымі ці адна, а сам-насам плаўна ішла-плыла па крузе, высока трымаючы галаву, выяўляючы свае дух, перапоўненасць пачуццяў не рэзка ды імгненна, а чароўным выгібам рук, дробненькім перастукам ног, апушчаным, але глыбокім позіркам (як бы ёй да пары тут спатрэбіўся б горац-джыгіт, пакуль урэшце не запынілася каля яго і ўпала перад ім на калені, – дык вось тут так ісці-плысці ніхто не мог). Схамянуўшыся, падаўся не да сябе, каб соладка аддацца сну, а пакіраваў у жончыную палову хорама.

Палац быў новы, на высокай падмуры, а пасля яе з бярвёнаў на два паверхі. Бліжэй ад акружнай загароды з акораных завостраных плашак і варот, значыць, злева , была ягоная ўладнасць: на першым паверсе – грыдніца, дзе ён праводзіў Раду ці збіраў старэйшын, дружынніцкую знаць, трапезніца, лазня і мужчынская прыбіральня, на другім – святліца, апачывальня, пакоі для шаноўных гасцей. Справа, у сярэдзіну двара, бліжэй да падможных пабудоў гаспадарыла княгіня. Там на першым ярусе – кухня, мыльня, спратня (уваход у яе звонку, праз амаль заўсёды зачыненыя дубовыя дзверы), жаночыя пакаёўня і зацішны куток. На другім – святліца, ядальня, яе і дзіцячыя, пакаёўчына спальні. Каля ўваходу ў хорам, як і перад варотамі ў двор, заўсёды неслі службу па двое – отрак і старэйшы дружыннік.

Падымаўся на другі паверх і прачуваў насцярогу ад таго, што ў прыцемак на лесвіцы з абкладзенымі дыванам сходкамі не гараць на абабітай дубовымі дошачкамі драўлянай сцяне ў бронзавых падсвечніках свечкі. І з вокнамі ў прыцемнаватай жончынай святліцы (слаба бачыліся ўзоры дываноў на паркетнай падлозе і на сценах, занавесак паблізу аканіц, колер стала, сурвэткі і кветак на ёй у заморскай фарваровай вазе, шафніца на заморскую розную пасаду) Марыя і Любка паблізу адна адной сядзелі без святла ўдваіх і, мабыць, перамаўляліся пра сённяшні дзень. Пры ім замоўклі. Ён, нядаўна абвесялелы, па-добраму ад усяго пацяжэлы, а цяпер і занепакоены, уважліва паназіраў за імі. Мо і ўсміхаўся. Вінавата альбо па-блазенску. Так, як можа паводзіцца не зусім цвярозы чалавек.

– Ну што, Мсціслаўка? – першая падала ветлы голас Любка. – Наскакаўся?

Ён адразу ж пранікся лагоднасцю пачутага і, хоць часам мужчыны ў тонкасцях паводзін з жанчынамі бываюць тугадумы, усё ж адчуў: ды не зараўнавала Марыя. А калі такое і было, то яе тут жа супакоіла ягоная мудрая ненька. Нянька-маці. А яна, гаротніца і мудрая з мудрых, глыбока спасцігнула, як можна такога дабіцца.

Ён павесялеў:

– Наш герой бачыць першы сон?

– Спіць, Мсціслаўка, – зноў загаварыла Любка. – Мо і з нейкімі мроямі: сёння ж гэтулькі самых розных вачэй узіралася на яго.

– Ты ж пачаравала, каб ён моцна і добра спаў?

– Пачаравала, Мсціслаўка.

Марыя назірала за імі, слухала з дабросцю, дык Мсціслаў супакоіўся, прысеў непадалёку, перапоўнены слыхам і душэўным узрушэннем нядаўна чутымі мелодыямі музыкі і песень. А каб заплюшчыць вочы, то, канечне, убачылася б, як у радасным узбуджэнні паміж скокамі мясцовых пайшла-паплыла Марыя.

– Ведаеш, што надумала твая ненька? – спакойна павярнула да яго галаў Марыя. І сама патлумачыла: – Хоча пакінуць нас.

Ён ускінуў позірк на не столькі жаданую госцю, колькі на дарагога яму чалавека з маўклівым запытаннем: як? Чаму?

– Відаць, ёй у нас не спадабалася, – без усмешкі, але як разумеў Мсціслаў, напаўжартам сказала Марыя. – Мо я не ўмею прыймаць гасцей.

– Што вы! – засур'ёзнілася жанчына. – Гэта я, старая, замінаю вам, маладым. Мсціслаўка! Я добра бачыла, якімі вачыма ты глядзеў на Кіеў! Яны былі вясёлыя, поўныя радасці! І не дзіва. Гэта ж – твой горад, дзе

ты нарадзіўся, бесклапотна рос з маці, братамі і сёстрамі. Я ж прывыкла да Кіева, састарылася там, але ляжу спаць, самкну вочы і... не магу заснуць. Здаецца, і праз, лічы, паўвека бачу родную паўзямлянку, дзе жыла з бацькамі, братамі і сёстрамі, бабуляй і дзедам. Помню тыя вёсны, леты, восені і зімы, калі часамі накручвала снегу на страху той "храмніцы". Бачу бярозу каля яе, чую першы спеў шпака на ёй, клёкат бусла на буслянцы, як хадзілі дзецьмі гурмой у лес па ягады, як гулялі-дурэлі... Не магу забыць, як мяне, залітую слязьмі, везлі ў Палацеск няньчыць тваю маці, як яе потым палюбіла... Навек будзе са мной тое, як забілі тваіх дзеда і бабулю, дзядзькоў, як тваю маці... – Цяжка ўздыхнула. – Што і як не было б, але родны той куток, дзе рэзалі пупок. Дык і хачу там скончыць свае зямныя, як кажуць, юдолі, каб быць побач з маёй раднёй і стаць прахам зямелькі роднай...

Што тут скажаш?! Не адной ёй і ў сне мроіцца родная бацькаўшчына і дзедаўшчына! Мсціслаў узрушана абдумваў пачутае раднаснае і балеснае, а Марыя спавольна паднялася, падышла і пацалавала Любку ў шчокі:

– Не злуй, што няўдала пажартавала. Я таксама люблю свае горы, цясніны, бурныя рэкі, песні, але, як ты кажаш, Мсціслаўка завабіў мяне палюбіць і гэты бязгорні край...

Любка ва ўдзячнасці таксама пацалавала яе, абняла:

– У мяне не было такога Мсціслаўкі...

Але не дадала, што сама рашыла аддаць усю сваю любоў Рагнедзе і яе дзецям, а не сабе і сваёй сям'і: не магла сама сябе хваліць.

– Пажыві яшчэ крыху ў нас, – калі Марыя вярнулася на сваё месца, папрасіў Мсціслаў. – Хоць той час, пакуль буду я ў ад'ездзе.

– А я хацела паехаць з табой.

– Сама добра ведаеш: часамі князю трэба рабіць не тое, што хоча, а тое, што трэба яго зямлі, – пашчырваў праўду. – Мне трэба памяняць свой замысел. Як казаў табе, спачатку меўся наведацца на землі радзімічаў. А потым перадумаў: не змагу з табой не павярнуць у Палацеск. А гэта зойме нямала часу. З радзімічамі мне пакуль што турбот няма (сказаў "пакуль што", прачуваючы тое, што пазней, калі дасягне паўналецця Яўстахій, тыя будуць дабівацца яго ўкняжання ў Гоміі. Каб набыць для сябе іншы, больш вольны стан). Паеду ўбок, у іншую сваю страну (зямля, вобласць, воласці). Па Дзясне, да вяцічаў, потым да Смаленска, зазірну на тое меца, дзе пачынаецца Дняпро. Адтуль павярну да Іціля. На зямлі неславянскіх языкоў (плямён). Пабачу краі меры, мардвы, мяшчэры, а па вясне вярнуся. Пасланцы мае паскакалі ўжо да пагостаў (месца збору даніны), наладзяць станавішчы, кухарні для ўсёй дружыны. Думаю, Любка, разумееш: калі маеш страну, то не трэба, каб яна была табе як інакасць (чужая), і каб ты ёй быў чужынец. На свае вочы прагну ўбачыць, які там лад, які знатны і просты люд, за што ўсіх пахваліць і за паўшчуваць. Пагляджу на ўсё і сам вызначу новую даніну ў скровішчы Чарнігава. Канечне, за апошні сумятны час там развялося мздаімцаў, прыручнікаў: адна толькі курыца грабе ад сябе...

– Стала мысліш, Мсціслаўка, – пахваліла Любка. – Князь павінен быць ратаборац, страціг і радзецель-гаспадар.

– То пачакай мяне, – зноў папрасіў. – Вярнуся і тады пададзімся разам. А за гэты час ты маёй Марыі не дай замаркоціцца.

Нецярпелася дадаць, што яна ўжо зноў "непраздна" (цяжарная), дык ёй патрэбная большыя ўвага, спакой ды каб каля яе быў верны чалавек, але стрымаўся.

– Прыйдзецца тады запаволіць старасць, адкласці сваю смерць... – Усміхнулася добрая душа.

– Вось гэта благавесце! – усцешылася Марыя. – Будзь мне, Любка, акі маці.

– Мне добра быць і вашай чалядзінкай.

– Не-не! – замахала рукамі княгіня. – Акі маці! Іначай зела буду!

– Добра-добра, – здалася старая. Весела. З іроніяй да сябе. – Лічыце ўжо і мяне княгіняй! Ды чаму – княгіняй! Я ж мужа не мела – дык князёўна! Палацеская! Пры чарнігаўскім хораме князя вялікага Рус!

– Ну, вось і дамовіліся, – Мсціслава ўжо зусім перамаглі задавальненне і радасць. – Будзь маім і княгіні вялікай дарадца.

Назаўтра Любка ўлучыла момант і перапыніла Мсціслава на дварэ:

– Мсціслаўка, паслухай яшчэ мяне, старую...

Ён стаў, засяродзіўся.

– Ты ў Кіеве быў шчаслівы, весяліўся, дык многае не бачыў... Я казала табе раней: усе вы, Рагнедзькіны, мне дарагія. А цяпер і ты, і Яраслаў. Але ён не такі шчыры, якім быў Ізяслаў, які ты цяпер. Я ж бачу: ён у душы не рады, што паступіўся, што на Русі вас двое... Верная мне іхняя чалядзінка перадала, каб я перасцерагла цябе... Ірына ў першы ж дзень кідалася да яго з кулакамі, крычала: няўдачнік ты! Немашць (слабы)! Ва ўсім! А ён толькі хацеў апраўдацца. Ён яе дужа любіць, ва ўсім ёй патурае.

Пачутае не магло ўзрадаваць Мсціслава. Больш – змушае моршчыць лоб, хмурыць бровы. Тым больш, што і Марыя таксама засталася насцярожлівая пасля кіеўскай адведкі. Яна і Ірына – абедзьве з гор. Толькі адна з паўднёвых, другая – з паўночных. Здавалася б, з гарачых краёў павінна і жарска ўмешвацца ў мужавы дзеі. Не. Марыя ні ў чым не замінае яму, не збівае з тропу, яна жыве клопатамі хорама і сям'і, а вось Ірына, бач, сапраўды, папіхае Яраслава. Мо і з-за таго, што ён некалі падманам адбіў яе ад любімага нарвежскага конунга, лічы, купіў у яе бацькі за карыслівыя абяцанкі. Ятры (ятроўкі, жонкі братоў), дзьве вялікія княгіні, упершыню сустрэліся цёпла, але хутка адчуліся сапраўднае цяпло і прыкідлівае. Хоць на развітанне Ірына таксама не была скупая на прытульванне і пацалункі.

– Не давярайся ім ва ўсім, Мсціслаўка, – прытуліла самкнутыя далоні да грудзей Любка. – Як можна, трэба Яўстахія, Марыю асцерагаць! Як зрэнку вока!.. Так і быць, застануся тут да твайго прыезду. Буду вока не спускаць з прыезджых гасцей! Сама буду правяраць усе іхнія дары для Марыі!

– Ці не перабольшваеш ты?

– Я не ў тых летах, каб, як ты кажаш, перабольшваць. І яшчэ буду маліцца, каб старыя багі нашы і новы Гасподзь берaглі цябе і тваіх домачадцаў! Тым болей, што Яўстахій у цябе толькі адзін, а вось у Яраслава дзяцей многа...

– Добра, – падаагуліў. – Я скажу дворскаму, каб у клопатах хорама майго ён ва ўсіх дробязях раіўся з табой.

Мсціслаў у першы самавіты выезд у свае новыя ўладанні выбраўся ў назначаны час, калі месяц яшчэ нават не быў паўпоўнік. Як адны палічылі, у няўдала, а на думку іншых – шчаслівы, на багацце вялікае: у дождж. Гэта здарылася пасля другога, а значыць кароткага бабінага лета, калі сонца пасля ахаладнелай ночы ўдзень яшчэ ашчодрывалася яснасцю, але ўжо

нядоўгім і скупым цяплом, адмыслова асвечвала аціхлае без кароў шэрае, а з жытам ярка-зялёнае поле, задумлівы, нават аглушэлы вечназялёны лес, сярод якога страчвалі пазалоту бярозы і чырвань клёны. З кожным днём ацемнівалася вада ў рэчках і азёрах, светлыя часіны караценлі і караццелі, шарэлі, пачалі нечакана азмрочвацца, а ўслед за гэтым паліло з неба – не раптоўнымі і не зацяглымі ліўнем ці залеваю, грымотна-маланкавым даждджом, а, здаецца, несупыннай нуднай і сцюдзёнай вадою, што напаўняла і напаўняла рэчкі, азёры, ручаі, а пасля налівала ў раўках, спадзінах лужыны, нават паўазерцы. Не проста ў такую непагадзь выбірацца ў свет далёкі. Але сёлета, як казалі старыя людзі, Мокрач не спяшаўся падпускаць Зюзю, каб той дыхнуў прымаразкамі ды пачаў сыпаць з дзіравых рукавоў снег.

Развітаўшыся з дворскім і ваяводаю, з сынам і Любкай, Мсціслаў застаўся сам-насам з Марыяй. Ён – у грубых валовых, але малапракальных ад шчодра намазанага дзюгцю ботах, у суконных партах, каптане, з мячом на поясе, а паверсе ўсяго ў вымачаным у алеі і высахлым плашчы з нагалоўнікам – прытуліў любімую жанчыну. Яны, хоць уночы зведалі нямала жарскіх прытульванняў, моцных пацiскаў і слодычных пацалункаў, ад чаго і цяпер смылелі вусны, зноў абкахаліліся ужо не парыўчым, а пяшчотным доўгім пацалункам.

– Я не буду нідзе лішне затрымлівацца, джаначка, – упэўніў.

– А чаму – не “любімая?”– паправіла.

– Любімая. Беражы сябе вельмі. І Яўстахія, і сына, што носіш. Страна мая вялікая, весяў і гарадоў у ёй многа, дык і многа сыноў мне трэба, каб усё гэта моцна ў руках трымаць.

– Маладыя, дык і будзем іх многа мець, – Марыя мацавалася, не дазваляла сабе заплакаць. – Толькі ты там не храбрыся, не хадзі адзін на мядзведзя! Даеш слова?

– Даю, – моцна сціснуў, а потым адпусціў. – Ну, мне пара. Не праводзь: на двары стынь.

– Не-не, правяду, – сказала непахісна і накінула на сарафан капот, на яго – плашч і падалася з ім з хорама.

Па-за ім, каля ганка отракі трымалі ўжо асядланага для яго любімага гнядога жарабца, прыбралі накрыўку з сядла (каб яно перад гэтым не намакала. Мсціслаў сам прасунуў нагу ў дужку стрэмя і сам лёгка скокнуў, сеў, узяў пададзеную цяпер, як і ўсё тут, простую аброць. Марыя закрочыла побач з канём, ужо настроеным на доўгую, у некалькі месяцаў, дарогу па яго вялізных уладаннях. За варотамі стаялі старэйшыны, іерэй, а на конях сядзела дружына са сталых і загартаваных у баях дружыннікаў і маладых отракаў, кіеўскі епіскап. З ім усе скрануліся і рушылі з горада.

На павароце Мсціслаў, едучы пакуль што апошнім, азірнуўся і махнуў ім усім рукой, і яны ўсе яму памахалі са шчаслівым зычэннем. Як ён схаваўся за паварот, Марыя ўжо не бачыла: вочы затуманіліся нейкай павалокаю, апасля па шчоках паплылі гарачыя слязіны. І вялікая княгіня – найперш жанчына, жонка і маці, то і чулліва ёй надоўга выпраўляць з дому гаспадара і абаронцу, бацьку яе дзяцей...

*2009-2012*

Аксана Данільчык



...гэты драпежнік –

твой страх...

# Мова памяці

* * *

так нечакана – праз мяне –
святлом і даўняю пяшчотай
парэчак гронка каля плота

іх кіславаты дзіўны смак
яшчэ надоўга застаецца
на языку

і цёплаю травою
і сонечнай нагрэтаю вадою
празрыстай лужыны
якая цэлым светам
зялёным жабкам і жучкам здаецца
зямлі ласкавай подых пракаветны
майго дыхання робіцца часцінай

такой жаданай еднасці хвілінай
прасякнуты нарэшце рух сусветны

і фарбамі квітнеючага лета,
і гукамі прыцішанага поля,
што думкі запаветныя міжволі
вяртаюцца ў забыты рай вясковы
парэчкавы агрэставы вішнёвы

дзе я ў бабулінай стракатай хустцы
парэчкі рву і да мяне малой
зямля звяртаецца па-беларуску

сакральнай мовай памяці сваёй

* * *

калі проста ляжаць пад яблыняй
то можна адкрыць закон сусветнага прыцягнення
знайсці скрыжаванне часу і прасторы
а яшчэ супадзенне ўнутранага цэнтра сусвету
што нібы свята заўсёды з табой
са знешнім

і захацець вярнуцца на некалькі стагоддзяў назад
каб зусім іначай адчуваць час
так як яго адчувалі раней
так каб наперадзе вечнасць
а дні адлічваць па світанках
па зменах часінаў году
каб цэнтры сусветаў супадалі
і гайдаліся сінхронна

і магчыма аднойчы
убачыць як плытагоны па Нёмане сплаўляюць лес
як коні хаваюцца ў пушчы
а буслы жывуць каля кожнай хаты
так заўсёды было
і цяпер так ёсць

магчыма гэтае месца
і называецца радзімай

* * *

у пячоры
дзе са столі апускаюцца сталактыты
што зачароўваюць сваёй прыгажосцю
дзе кроплі вады падаюць мерна і гулка
а гукі разлятаюцца з рэхам па бясконцых

лабірынтах
жыве драпежнік

звычайна ён спіць і ніхто не ведае калі ён прачынаецца
адкуль выходзіць і калі нападае

для адных ён прымае воблік мінатаўра
для другіх царыцы Тамары
для трэціх...

гэты драпежнік – твой страх

існуе толькі адзін спосаб даведацца які ён

спусціцца ў пячору

* * *

у ноч калі вецер робіцца крыкам
і завісае на правадах
і запаволеным доўгім гукам
калыхае мембраны свету
шкілет выходзіць на бераг
з водарасцямі ў руках
шкілет выходзіць і раптам
ператвараецца ў чалавека

яго імпульсіўныя рухі
поўныя жалю і скрухі

спачатку між бляклых халодных агнёў
ён ходзіць па скалах вільготных
над пенай марской і над доляй людской
спявае аб лёсе гаротным
да кожнай хаціны дзе блісне святло
ён грукаецца ў адчаі
а потым глядзіць на чужое жытло
і слёзка з вачэй выцякае

і разам са слёзкай крыштальнай
ён робіцца непазнавальным

цячэ і цячэ несупыннай ракой
змяняюцца словы і песня
змяняюцца рукі аблічча спакой
павольнаю музыкай песціць
з улоння прамаці-зямлі паўстае

жанчына світальнай парою
б'е ў сонечны бубен і ціха пяе
пра новае цела жывое

ці гэта вядзьмарства замовы
ці проста вяртанне любові

расчэсвае косы жанчына-шкілет
і слухаюць сонныя людзі
чароўныя словы пра зменлівы свет
пра марнасць спрадвечных ілюзій
яна ахінае сівым туманом
свае несмяротныя плечы
нітуюцца ў прыцемках смерць і жыццё
і доўжыцца род чалавечы

* * *

памятаю бусел спачатку прынёс мяне ў лес
і ўжо там мяне падабралі людзі
прынеслі ў вёску і доўга думалі
што ж гэта за дзіцё такое

як толькі я навучылася хадзіць
то заўсёды сыходзіла ў лес
клалася на траву падобнай да якой
больш нідзе не было
глядзела ў вочы суніцам і слухала ўсё
што расказвалі сосны

можа таму і ў словах маіх
не шум марскіх хваляў
не шум жытняга поля
а галасы птушак і лесавікоў

можа таму я адчуваю сябе шчаслівай
на беразе ляснога возера
вада якога так супакаяльна звініць у спёку

бо там мой дом

* * *

лесавік лесавік аддай мне гэтыя ягадкі
а я буду паслухмяна прыходзіць у лес
распавядаць табе розныя казкі і забаўкі
з жыцця чалавекаў з ягадкамі і без
лесавік лесавік аддай мне гэтыя кветачкі
я імі ўпрыгожу свой сціплы будан

а як узыдзе поўня і пазасынаюць дзетачкі
прыляціць на іх водар срэбнакрылы кажан

лесавік лесавік аддай мне травічку гэтую
а я вытку мурожны сабе дыванок
пакладу каля ганку накрыю сурвэтаю
і пастаўлю вужакам ядлоўцавы сок

лесавік лесавік аддай мне гэтую птушачку
каб ззяла сваімі вачыма ўначы
а я дам табе на памяць чырвоную стужачку
каб не забыўся што мяне прыручыў

* * *

застаўся час
яшчэ мая душа вось так
нібы перад паўночным ззяннем
захоплена адлічвае хвіліны
перад безмежнасцю знаёмых краявідаў

там хвалі ўзгоркаў коцяцца паволі
да белага пяску балтыйскіх выдмаў

там ёсць сады дзе выспяваюць дзеці
а час адлічвае сонцазвароты
да той пары пакуль не стане відавочным
і непазбежным пакіданне саду

каб зведаць што такое боль і смутак
і каб адольваючы перашкоды
ніколі больш назад не азірацца

да той пары пакуль не стане відавочным
і непазбежным што пара вяртацца

у сад які ніколі больш не будзе
тым самым цёплым выраем дзяцінства

ды па-ранейшаму спяваюць птушкі
і пад яго раскідзістым шаптаннем
былыя дзеці ўрэшце спасцігаюць
сваю даўгачаканую даросласць

застаўся час

* * *

лён забірае мяне да астатку
ў свой незвычайны зялёны колер
і я пачынаю глядзець на свет зялёнымі вачыма
а калі губляюся ў ільняной прасторы
згадваю тое што здаецца ніколі не ведала

гэта абуджэнне маёй генетычнай памяці
гэта абуджэнне падсвядомага досведу
жанчынаў майго роду і тых
што былі да іх і што будуць пасля мяне

я чую як адцвітаюць суніцы
як шэпчуцца русалкі ў вадзяных касачах
як абуджаюцца навальніцы
і адбіваюць маланкі ў шырока расплюшчаных
вачах

хто ты жанчына ільняная
зямлёю гэтай народжаная і ўзгадаваная
зямлёю гэтаю захаваная

тая што ведае



Ілля Сін



...ты нібыта эфіёпская царыца,
што рассякаеш начную цемру
борздай ланню...

# BDSM

***Апавяданне***

Адэля выйшла з вагону метро роўна а палове на пятую. Сэнсарная памяць узнавіла пах, які сыходзіў з рота няголенага дзядка ў дзівосным лапсердаку. Пальцы працягвалі адчуваць халадэчу жалезных парэнчаў. У роце чамусьці быў такі прысмак, нібы хвіліну таму яна іх лізала.

Едучы на эскалатары, Адэля ўбачыла рэкламу новага касметычнага салону. Потым на ўсялякі выпадак зняла заплечнік і спраўдзіла, што лаптоп на месцы. Зірнуўшы ўніз, яна пабачыла пляму бруду на калашыне сваіх джынсаў. На шчасце, набытыя ўчора чорныя боцікі на маленькіх абцасах засталіся чысцюткімі. Кінуты на іх позірк стаў лёгкай ін’екцыяй задавальнення і самаўпэўненасці.

Да прызначанага часу заставалася яшчэ палова гадзіны. Значыць, можна было не спяшацца. Наўпрост над тварам Адэлі высіўся пляцак з надпісам “Just a part of the human*”. Цікава, што ляжыць у гэтым плецаку? – падумалася ёй.

---

* Толькі частка чалавека (анг.).

Калі Адэля паднялася на зямную паверхню, ёй здалося, быццам паветра стала клейкім і вільготным. Нібыта ягоныя павевы наліпалі на ейную скуру, атачалі і падступна выкарыстоўвалі ўсе прадугледжаныя прыродай складкі і выгіны. У гэтым месцы цясніны трэба было рухацца асцярожна, пераступаючы босымі нагамі праз бетонныя блокі закінутай электрастанцыі. Сонца ўжо заходзіла, пакідаючы на паверхні мора інтрыгоўны бляск. Навокал нікога не было. Цёплая шурпатая матэрыя лагодна дакраналася да ейных ног.

Нейкі бээрэсэмаўскага выгляду маладзён зачапіў яе сваім дыпламатам, прабягаючы міма. Адэля нязлосна вылаялася.

Гопнікі, якія дыхалі півам у патыліцу Адэлі, абмяркоўвалі свае апошнія сабспэйсы, атрыманыя ў кампаніі нейкіх нафарбаваных і брыдкаслоўных цёлак.

Барэльеф, што ўпрыгожваў уваход у станцыю, пачаў ужо асыпацца, постаці медных герояў даўно пазелянелі. Рука аднаго з іх сціскала вінтоўку. Адзін палец на ёй адсутнічаў. На мангалоідным твары жаўнера, які звысоку ахопліваў позіркам тлум ніжніх сфераў, чыталася відочная туга.

Ля выйсця з падземнага перахода ў натоўпе ўтварыўся затор. Пару хлопцаў цягнулі бутафорскую труну, і раптам ейнае вечка зрушылася з месца і павалілася на асфальт. Мінакі былі незадаволеныя вымушанай затрымкай.

Ззаду прыціскала нейкая ўзброеная рулонам шпалераў бізнэс-вумэн – або, дакладней, дзелавая цётка. Падчас аднаго з яе паступальных рухаў змакрэлы ад поту Адэлін смочак пяшчотна прыціснуўся да майкі і шаргануў уніз-уверх.

За тыя пятнаццаць хвілінаў, якія Адэля правяла ў нетрах зямлі, на вуліцы паспела сцямнець. Асвятленне пакуль не ўключылі. Гэта былі самыя цікавыя хвіліны жыцця горада – час, калі яго краявіды станавіліся дэкарацыямі для нейкай фантасмагарычнай дзеі. Але ейныя магчымыя героі зусім не скарыстоўвалі такіх выгодаў. Дзея навокал нагадвала здымкі рэкламы курынага булёну. Відавочна не хапала саспэнсу.

Адэля без ваганняў нацягнула гэты прадмет сабе на галаву.

Быў лістапад. На вуліцы пахла шапікам “Хутка-смачна”. Кошт барэлю нафты сёння перасягнуў адзнаку 1987 года.

Адэля машынальным жэстам выкінула ў сметніцу ладны камяк рэкламных флаераў, які назбіраўся ў яе далоні на адлегласці ад станцыі метро да рога вуліцы. У нейкае імгненне яна раптам усё яшчэ ішла басанож па бязлюднай цясніне.

Ля ўніверсаму да яе звярнуўся нейкі дзядзька з банальнаю прапановай, але Адэля зрабіла выгляд, што валодае толькі азбукай глуханямых.

Збочыўшы на ціхую вулачку, Адэля ўзіралася ў нумары дамоў, каб не прапусціць патрэбны дом. Ім аказаўся тыповы для яе гораду адміністрацыйны будынак з няўцямнай шыльдай “Мінгарбарбан”. Праз брудныя шкляныя дзверы з фае трапляла шызаватае святло. Выдыхнуўшы, можна было ўбачыць перад сабою слуп вільготнай пары. Са сметніцы ля самых дзвярэй тырчэў кавалак шлангу ад супрацьгазу ўзору 1939 года.

Крыху патаптаўшыся на ганку і хутка спраўдзіўшы ў люстэрку макіяж, Адэля пацягнула на сябе жалезную ручку дзвярэй. Вахцёр у сваёй каморцы па самыя вушы занурыўся ў апошні нумар “Камсамолкі”, таму паведамляць яму пра мэту візіта было выключна фармальнай ветлівасцю.

Боты Адэлі мякка краналіся парудзелага лінолеўму калідору. Вуль-

гарныя ружы чамусьці вельмі добра дапасоўваліся да навакольнае цішы. Дзяўчыне здавалася, што гэтая ціша мае пах... не, хутчэй, нават смак, які можна адчуць, высунуўшы язык. Быццам прыгарэлая аўсянка – не зусім прыемна, але ў нечым міла. Паўз вокны праехаў тралейбус, і бруднаватыя шыбы пераламілі святло ягоных фар. Адна з фрамугаў акна была адчыненая. У гэтым месцы промні траплялі ў сапраўдную пастку, спараджаючы дзівосную сукупнасць адлюстраванняў. Адэля на імгненне спынілася, каб палюбавацца тым бяскрыўдным узорам тыражавання рэальнасці.

Кабінет №87 быў акурат насупраць. Са шчыліны ў дзвярах падаў струменьчык святла. Убачыўшы Адэлю, барадаты мужчына, які сядзеў за сталом, хуценька згарнуў кампутарны пасьянс – як быццам, ён займаўся чымсьці недазволеным.

Праз палову гадзіны, калі Адэля, асцярожна зачыніўшы за сабою дзверы, ізноў апынулася перад тым самым вакном у калідоры, светлавая гульня была яшчэ больш дынамічнай. Па вуліцы адна за адной рушылі машыны, і калі яны праміналі Т-падобнае скрыжаванне, сцены калідору, завешаныя нейкімі ідэалагічна састарэлымі плакатамі па грамадзянскай абароне, ажыўляліся даўгімі ценямі. У насамрэчным існаванні прадметаў, якія іх пакідалі, Адэля ў гэты момант моцна сумнявалася.

Дзяўчына зірнула на гадзіннік і заспяшалася да выйсця. Пад самым пупком у яе трохі пякло – мабыць, скура ў тым месцы была ладна сцёртая. Ейныя абцасы з глухім віскам угрызаліся ў лінолеўм. Святло ў калідоры ўжо было прыглушаным, і гэта сведчыла пра тое, што нарматыўны працоўны дзень скончыўся.

Адэля рэфлекторна ўздрыгнула, калі ў адчыненую фортку, што бязладна боўталася дзесьці на ейным шляху, раптам уварваўся вецер.

Халадэча заўсёды ўяўлялася ёй трохі іншай.

– Алё, ну прывітанне! – не зусім шчыра выказала яна сваё задавальненне з той нагоды, што мабільнік у кішэні курткі раптам забіўся ў канвульсіях.

Званок быў трохі не па адрасу, але Адэля не стала тлумачыць дзяўчыне, што тая памылілася нумарам. Замест гэтага, куды прасцей было агучыць набор фразаў, які ў іхнім універсітэцкім падручніку па замежнай мове змяшчала практыкаванне №57.

Выйшаўшы на вуліцу, Адэля рушыла паўз прыпынак. Ейнае прасоўванне наперад аказалася даволі праблематычным. У маналітным, на першы погляд, натоўпе пасажыраў віраваў броўнаўскі рух. Офісны планктон, які пятнаццаць хвілінаў таму адчапіўся ад сваіх скалаў, разгублена матляўся ўзад-уперад, не ведаючы, што рабіць з неспадзеўнай свабодай.

Ледзь не збітая з ног хлопцам у па-вясковаму гламурным паліто, Адэля кінулася ў пошуках ратунку да шэрага мура нейкага НДІ, які цяпер быў пераўтвораны ў вулей розных фірмачак. Прыпаўшы да бетону амаль ушчыльную, можна было перадолець жывую перашкоду. Увесь час Адэлю не пакідала цьмянае пачуццё віны.

На скрыжаванні ейны позірк выхапіў новы бігборд з чарговым узорам сацыяльнага крэатыву: “Калі ў адносінах ваніль – твае адвагу й гонар пакрыла гніль”.

Ногі паспелі прамокнуць, і цяпер самым лепшым было схавацца ў якойсьці цёплай клаацы. Пасля нядаўніх падзеяў кубак эспрэса быў бы цалкам да месца. Таксама вельмі хацелася чагосьці салодкага. На шчасце, у кавяраньцы, шыльда якой зіхацела акурат леваруч ад Адэлі, аказалася

не надта шматлюдна. За барнай стойкай стаяў дэмакратычна апрануты фацэт з завушніцай у носе.

Апынуўшыся ізноў на вуліцы, Адэля перш-наперш адшукала ў кайстрачцы жуйку. Яна ведала, што пах з роту такім банальным чынам ужо не суняць, але... Зрэшты, многіх ён нават узбуджае.

Потым яна зрабіла свой здымак на мабільны тэлефон – у цемры ён быў куды больш функцыянальны за люстэрка. Па-над верхняй губкай засталася тонкая палоска адпаведнага колеру. Выцершы яе вільготнай сурвэткай, Адэля заўважыла і яшчэ адзін непажаданы след: плямку ад ванітаў на куртцы.

У якасці суцяшэння, яна падумала, што сабспэйс пятай катэгорыі даводзіцца перажыць не кожнаму. Але тут жа паўшчувала сябе за такую суб'ектыўнасць ацэнак: думаць пра пятую ў дадзеным выпадку было, прынамсі, празмерна. У калюжыне, у якую Адэля акурат толькі што неспадзеўкі ступіла, сярод некалькіх рамантычных кляновых лісткоў і пачака ад “Winston Lights”, узвышалася цельца мёртвага кацяняці.

Падыйшоўшы да латка з садавінай, Адэля працягнула руку, каб узяць яблык, але ж гэта была толькі вонкавая форма.

На прыпынку не было ні душы. Калі “Ікарус” прышвартаваўся да броўкі, не выпадала сумнявацца ў тым, што ён едзе ў парк.

– Вам куды? – запытаў яе кіроўца. Але Адэля моўчкі працягнула яму купюру, а потым узяла квіток.

Яна думала заняць сваё ўлюбёнае месца наперадзе, адкуль добра праглядалася вечаровая шаша, але чамусьці пасунулася ў сярэдзіну пустога салону. Ацяпленне не было ўключана. Адэля ўціснулася ў рыпучае крэсла і схавала далоні ў рукавах.

Тканіна, якая абцягвала спінку крэсла, мела крацістую фактуру. Нібыта аркуш са школьнага сшытка. Або сцяна з кавалачкаў цукру. Або арэна фінала міжнароднага чэмпіяната гульні ў “крыжыкі-нулікі”. Дзе-нідзе на тканіне праглядаліся дробныя плямкі, падобныя да слядоў якіхсьці невядомых навуцы інсектаў. Хвіліну ці дзве Адэля выразна адчувала сябе адной з іх.

Адэля ўзіралася ў вакно, няўважліва націскаючы пімпачкі мабільніка. Потым ізноў прааналізавала сваю новую фрызуру і знайшла свежыя аргументы на яе карысць.

У яе было прадчуванне хуткай прастуджанасці. Здавалася, што цела вось-вось страціць сваю гнуткасць, зацвярдзее – нібы ў той казачнай гераіні, імя якой Адэля не памятала. Яна злёгку патрэсла галавой, каб выкінуць адтуль гэтую фобію.

Адэля прыціснулася ілбом да шыбы. Але шкло было халодным і вільготным, і тады яна падсунула пад свой лоб фіранку. Здавалася, быццам іх шлях ішоў праз горад ценяў.

Аўтобус абыякава праміну ў пустэльны прыпынак на нейкай цёмнай вулачцы. Пад бляшаным казырком, на які ліўся халодны дождж, хаваўся самотны вандроўнік у спартыўных портках і скуранцы, падобны да Рабінзона. Адэлі закарцела памахаць яму рукой, але гэты жэст быў бы ўспрыняты як кпіны.

Адэля падключыла да мозгу два драточкі і знайшла ў меню плэера альбом Леанарда Коэна. Прамоклыя ногі маглі ў любы момант пераўтварыцца ў ледзякі. Калі яна пераступіла гэты парог, у яе была дзіўная ўпэўненасць ва ўласнай самадастатковасці.

Галава трохі балела, да таго ж, драпіна над пупком, змазаная “зялёнкай”, адчувалася пры кожным найдрабнейшым руху. Адэля спрабавала ўспрымаць неспадзеўны экскурс ва ўласную цялеснасць з належнай пакорай, але, як заўсёды, не давала гэтаму рады.

Аўтобус пакінуў ззаду апошнія шматпавярхоўкі ўскраінных мікраараёнаў і выехаў на шашу. Фары сустрэчных машынаў, што несліся на шалёнай хуткасці, праціналі яго наскрозь. Заплюшчыўшы на хвілінку вочы, Адэля ўбачыла, як паветраны змей, падхоплены ветрам, узняўся па-над зялёнымі ўзгоркамі.

Кіроўца ўрубіў радыё. Адэля пачувалася так, быццам да іспыту засталося ўсяго паўгадзіны, а яна не паспела падрыхтаваць яшчэ добрую палову пытанняў. Потым іспыт трансфармаваўся ў нейкую дзіўную медкамісію: магчыма, менавіта на такіх радах надаюць права называцца самавітым словам “чалавек”?

Адэлі чамусьці вельмі захацелася патрапіць у “Макдональдс”: тлум, дзіцячыя балонікі, пах печанай ежы...

Па тым баку шыбы слізнула кропля. Бы збіты бамбавік, яна паволі апускалася долу, абіраючы надзвычай пакручастую траекторыю і марна сілячыся парушыць закон зямнога прыцягнення.

Адэля адказала на званок. Ейны голас чамусьці не здаваўся ёй уласным.

Аўтобус раптам збочыў на нейкую вузенькую “дачную” дарогу, зусім пустую ў такі несезонны час. Кіроўца заглушыў матор, выключыў фары і скіраваўся да адзінай пасажыркі, на хаду расшпільваючы гузікі джынсаў. У ягонай правай руцэ быў пакунак з лагатыпам сеткі супермаркетаў, з-пад цэлафану пачулася пагрукванне. Адэля адразу адзначыла, што сплаў быў яўна не з самых дарагіх.

Праз якіх дваццаць хвілінаў кіроўца развярнуў аўтобус і, выціскаючы з яго матору ўсё, на што той быў здатны, ірвануў назад на шашу. Графік усур’ёз падціскаў.

*Ты, душа мая, манілася збудаваць сабе вежу і заснаваць крэпасць для тваіх грэшных жаданняў...**

Дождж лупіў ужо не абы-як. Адэля раптам згадала, што не зачыніла вакно на гаўбцы. Значыць, па вяртанні яе ізноў чакае калюжына на дыване.

*...калі б Творца не змяшаў усе твае намеры і не разбіў, кінуўшы вобзем, задумы твае.*

Адэля ізноў уключыла музыку, замяніўшы Коэна на Мэрліна Мэнсана. Але пасля першых жа гукаў скрывілася і з усяе моцы націснула вялікім пальцам клавішу “стоп”. Кісць правай рукі ўсё яшчэ адчувала стому, хаця Адэля гэтым разам старалася асабліва не высільвацца.

– На свет мы прыходзім таксама мокрымі, – чамусьці падумалася ёй.

Аўтобус з дзікім вуркатаннем абганяў фуру з польскімі нумарамі. На якія пару імгненняў твар Адэлі апынуўся ўпоравень з засяроджанай вусатай пысай дальнабойшчыка. Яго аголеная постаць выпраменьвала адвагу: нібыта ён быў карсарам, які кінуў выклік лёсу і паплыў супраць ветру. Па іголках, што тырчэлі са скуры, поўзалі дробныя водбліскі.

На падлозе пад Адэліным крэслам валялася ссохлае цельца мухі.

Аэрапорт у гэты вечаровы час здаваўся даўно закінутым. На электронным

* Часткі, выдзеленыя курсівам, -- цытаты з Вялікага пакаяннага канону святога Андрэя Крыцкага (IV ст.). Пераклад на беларускую мову а. Аляксандра Надсона.

табло ў паўцёмнай і халоднай зале быў пазначаны толькі адзін рэйс. Да пачатку рэгістрацыі заставалася яшчэ хвілінаў дваццаць. Адэля доўга шукала па кішэнях дробязь, каб набыць сабе кавы ў аўтамаце, а потым дастала з заплечніка ноўт. Самы час быў скарыстацца з бясплатнага Wi-Fi.

Апрача Адэлі, гэтым рэйсам ляцела адно пажылая дама, якую, мяркуючы паводле ейнай знешнасці, хутчэй, выпадала называць фраў. У чаканні рэгістрацыі, яна пляла бізун са скураных нітачак. Пакуль загружаўся "Windows", Адэля ўпотайкі назірала за ейнымі метадычнымі ахайнымі рухамі.

Без асаблівага энтузіязму, Адэля адкрыла ЖЖ, адкаментавала пост пра выкарыстанне сабачага электраашыйніку, потым пацікавілася сваім рэйтынгам на ўніверсітэцкім конкурсе грудзей. Аднагрупніца з Калінкавічаў апярэджвала яе на цэлых 8%.

"Змаганне?" – падумала яна раптам праз якую хвіліну.

"Як раз'юшаны бык..." – пранеслася потым у яе галаве. Або, можа, як статак свіней, што лятуць са стромы ў мора?

Тым часам, ужо абвясцілі пасадку. У каморцы, дзе адбываўся асабісты дагляд, акурат здымалі нейкі порнафільм, і таму памежнікі асабліва не выкарыстоўвалі ў дачыненні да яе сваё службовае становішча. Адказ на дзяжурнае пытанне "Над кім вы дамінуеце?" быў ёю загадзя добра прадуманы, і гэтым разам ён не стаў прычынай для дачэпак. Калі Адэля без запінкі назвала пяць прозвішчаў і адрасоў, яе ветліва перапынілі.

Адэля ўважліва разглядала боты на нагах у якогасьці лейтэнанта. Ёй падабаліся доўгія мыскі, хаця цяпер іх усе чамусьці лічылі маветонам. Атрымаўшы пашпарт і прамовіўшы казённае "спасіба", яна няспешна зрабіла першыя крокі па нічыйнай тэрыторыі.

Потым Адэля нейкі час узіралася ў вакно. На ўзлётнай паласе гарэлі рэдкія агеньчыкі, утвараючы адмысловы парадак. Непасрэдна ля выхаду з тэрмінала назбіралася купка пажоўклага лісця. Міма правуркатаў дзіўнаваты агрэгат з вострым носам.

Адэля злавіла сябе на думцы, што яна не ведае, куды прышчапіць гэты момант, ён быў нейкім бастардам, адлучаным ад усяго астатняга – ад усёй сукупнасці яе ўяўленняў пра жыццё.

*Разгарэўшыся гневам за беззаконні іх, Госпад паслаў агонь з неба і спаліў Садом. Ты ж, душа мая, распаліла агонь Геены, у якім сама згарыш.*

– І якім смярдзючым будзе гэты агонь, – яе вусны ледзь варухнуліся.

Думкі пра вячэру, што ўваходзіла ў праграму палёту, выклікалі доўгачаканы прыліў станоўчых эмоцый. Вельмі хацелася какавы, і яшчэ печыва, намазанага маслам. Чамусьці згадаўся піянерлагер пад Баранавічамі: зялёная трава, вытаптаная аматарамі футболу са старэйшага атраду, пах прыгарэлага малака ў сталоўцы, рызыкоўныя спецаперацыі з цюбікам зубной пасты ў руках.

Пару крокаў па асфальце – і яна раптам правалілася ў непрыкметную выбоіну, поўную гразі. З даху зацурчэў струменьчык вады – акурат за каўнер. Адэля войкнула і засмяялася – нечакана нават для сябе самой.

Перад тым, як прывязаць яе да жалезнага крука, прадбачліва ўмантаванага ў столь, мужчына ветліва прапанаваў гарбату. Адэля ведала, што этыка прадугледжвае наладжванне вербальнага кантакту паміж партнёрамі. Але замест гэтых пустых балбатанняў, яна палічыла б за лепшае пачытаць канспект па замежнай літаратуры. Не хацелася губляць час дарэмна.

На правым запясці пасак быў зацягнуты надта туга. Аголеная спіна ледзь не кранапася да абіўкі крэслаў – столь у самалёце зусім нізенькая.

Адэля трохі павярнула галаву, каб убачыць салон у нязвыклым ракурсе. Яе валасы, што здаваліся цяпер свінцова цяжкімі, сталі імкліва перамяшчацца ў паветры. Пасак яшчэ глыбей урэзаўся ў скуру.

Хвілінаў праз сорак сцюард пайшоў у прыбіральню змываць Адэлін залаты дождж (кроплі запэцкалі ягоную форму; адна з іх нібы застыла наўпрост на бутафорскім пагоне). Адэля, нарэшце, магла ўгледзецца ў ілюмінатар. За ім былі цёмныя аблокі, а ўнізе агні нейкага гораду.

*Нячыстыя думкі падказваюць розуму майму салодкія рэчы. Але як толькі пакаштую іх, дык знаходжу поўнымі горычы.*

У роце быў такі прысмак, нібы яна толькі што з'ела пратухлае яйка.

Крыжаванка змяшчала пытанне: месца, дзе знаходзяцца халодныя непарушныя целы, дзе ніхто не саромеецца нядбайна нафарбаваных вуснаў, дзе боль стаў абстрактнай катэгорыяй, дзе ніхто ўжо не баіцца памерці. Адэля адклала газеціну ўбок.

Пад руку своечасова патрапіўся жаночы часопіс, які авіякампанія прапаноўвала пасажырам. Адэля ўзялася за чытанне падрабязнага даследвання хімічных алоўкаў і пастанавіла пры нагодзе абавязкова абнавіць касметычку.

Потым Адэля з прыемнасцю аглядала свае зграбныя ногі 36-га памеру, абцягнутыя далікатнымі панчохамі. Павольна паварушыла пальцамі. Ступакі заўсёды здаваліся ёй самай эратычнай часткай цела. Ажно захацелася іх пацалаваць. Але ж гэтую здольнасць яна страціла яшчэ ў далёкім дзяцінстве.

Наступны артыкул быў прысвечаны модзе на ахвярапрынашэнне немаўлятаў, якая ў гэтым сезоне адрадзілася ў лепшых клубах Ібіцы. Матэрыял змяшчаў багата ілюстрацый, здатных абудзіць фантазію: неонавыя статуі Баала, мора спецэфектаў, дыджэйскія сеты, якія, па заведзенай яшчэ да нашай эры традыцыі, заглушаюць дзіцячыя крыкі... Але Адэлю з усяго гэтага хваляваў перадусім пошум мора. І, вядома ж, цеплыня.

Самалёт ляцеў недзе па-над Польшчай. Яна выцягнула з заплечніка набытую ў дз'юці фры пляшачку рому. Не хацелася пазбаўляць сябе рэдкіх задавальненняў. Ці здолею я ізноў пераўтварыць у свой дом гэтыя абгарэлыя коміны?

Некалькі хвілінаў бясклапотнага забыцця ў сне раптам перапыніла старэнькая фраў. Яна ветліва звярнулася да Адэлі з прапановай выпрабаваць свой скураны выраб. Адэля ўключыла дурніцу і зрабіла выгляд, быццам не разумее нямецкую. І тут жа падумала, што ў яе няма замежнай дробязі: усе грошы былі толькі ў буйных купюрах.

Хакейны брамнік у тэлевізары рабіў няўклюдныя рухі сваёй клюшкай, хочучы выглядаць сапраўдным прафесіяналам. Але шайба ўрэшце ўляцела ў сетку – пад незадаволены рокат трыбун.

Заплюшчыць вочы. Не спяшаючыся, прамовіць пра сябе свой нумар ICQ... Два... Восем... Чатыры... Дзевяць... Звычайна, практыкаванне дапамагала. Але не гэтым разам.

У аэрапорце было, як заўсёды, тлумна. Цягнучы свае валізкі, міма прайшла група ізраільскіх турыстаў. Яны шматслоўна абмяркоўвалі дэталі падарожжа. Мяркуючы па іхнім адзенні, тэма надвор'я за вакном іх пакуль што не надта хвалявала. Але першы дотык рэчаіснасці наўпрост да скуры меўся адбыцца ўжо праз хвіліну.

Адэля па-ангельску павіталася з таксістам і працягнула яму паперку з адрасам. Дзеля таго, каб адчапіцца ад яго прапановаў, ёй нават не давялося прыкідвацца шызафрэнічкай. Напэўна, гэты цяльпук і сам зразумеў, што банальны іголкавы асартымент не адпавядае ейнае ролі.

Калі Адэля адчула, што да патрэбнага ёй месца ўжо блізка, яна папрасіла кіроўцу прыпыніцца на ўзбочыне вузенькай вуліцы ў старым горадзе. Балазе, час яшчэ дазваляў.

*У жыцці маім я палюбіў рэчы гэтага свету больш за свабоду, і цяпер, Збавіцелю, яны ляглі цяжкім ярмом на мяне.*

Ад няма чаго рабіць, Адэля купіла пакуначак смажаных каштанаў. Але паветра вакол па-ранейшаму здавалася ёй трохі чужым. Каштаны апынуліся ў найбліжэйшай сметніцы.

Тут было значна цяплей, чым на радзіме. Дзе-нідзе ля кавярняў яшчэ заставаліся столікі – праўда, спрэс пустыя. Адэля з задавальненнем зрабіла першыя крокі па старадаўняй брукаванцы. Яна слаба арыентавалася ў гэтых вузкіх вулачках, але цалкам разлічвала на сваю інтуіцыю.

У музеі пахла сабачкамі. Незразумела, чаму.

Адэля ўбачыла афішу: "Джузэпэ Вэрдзі. Аіда". Падышла бліжэй, каб прачытаць склад выканаўцаў, але ж без акуляраў гэта не атрымалася.

Ля ўваходу ў вялікі будынак ужо тоўпіліся людзі. Яны млява прасоўваліся ўнутр, у залітае святлом жырандоляў фае, пазбаўляліся ў гардэробе вопраткі і, групуючыся ў чародкі, пра нешта няспешна перамаўляліся. Напэўна, дзяліліся перадуражаннямі аб будучым відовішчы або, карыстаючыся нагодай, вырашалі свае бізнэс-справы.

На дзвярах Адэля прыкмеціла шыльдачку, якая на некалькіх мовах паведамляла, што ўсе квіткі на сённяшні вечар ужо прададзеныя.

Адэля працягнула кантралёру на ўваходзе свой запрашальнік. Той доўга ўнікаў у змест крэйдаванай паперчыны, урэшце прамовіў нешта на незразумелай для Адэлі мове. Потым патлумачыў на кепскай ангельскай, што ёй трэба праз службовы ўваход. Гэта як выйсці, адразу направа, за рог будынка, і там у другія дзверы.

З цяжкасцю адчыніўшы іх, Адэля нос да носу сутыкнулася з пажылой кабецінай на шпільках і ў дзелавым касцюме. Гэта было нават не звыклае "дабрадушна-еўрапейскае прывітанне" – кабета ледзьве не кінулася да Адэлі ў абдымкі. "My name is Jeanna, – тут жа назвалася яна. – Feel free to call me just Jeanna*". Збянтэжаная і змерзлая Адэля хацела выявіць нейкія эмоцыі ў адказ – або, прынамсі, паведаміць сваё імя, -- але, як высветлілася, у гэтым не было ніякай патрэбы.

У наступны момант яна адчула сябе акружанай усеагульнай увагай. Не паспела Адэля дапіць свой кубак гарбаты, як ёй тут жа паслужліва прапанавалі кілішак "Hennessey" ("Прабачце, мы не памыліліся, гэта акурат той, што быў замоўлены ў вашым райдэры?"). Адэля хутка сагрэлася і павесялела. Карцела пагаманіць з кімсьці, хаця б з той самай Жанай, абмеркаваць з ёю апошні фільм Таранціна.

Замест гэтага, Адэлі падсунулі плюшавую балванку з лагатыпам невядомага ёй тэлеканалу і прымусілі сказаць пару словаў пра палітычнае становішча ў краіне. Праз хвіліну над ейным тварам ужо шчыраваў грымёр. У люстэрку, якое дзівосным чынам з'явілася перад ёю, Адэля бачыла, як ейныя вочы робяцца большымі за кошт касметычных хітрыкаў. Неўзабаве яна заўважыла ў сваім абліччы неўласцівую для яго гераічнасць.

Пасля таго, як ейныя валасы былі згрупаваныя ў два банальныя хвосцікі, Адэля, нарэшце, магла пазбыцца мокрага абутку. Скура ейных ступакоў з задавальненнем дакранулася падлогі. Адэля нават сама не заўважыла, як

* Маё імя Жанна. Калі ласка, называй мяне проста Жаннай (анг.).

засталася ў адных майтках. Жана пяшчотна прашаптала ёй штосьці на вушка, потым яе вусны плаўна праплылі па спіне Адэлі ўніз, спыніліся па-над самымі ягадзіцамі і пакінулі там след ад укусу.

Адэля папрасіла яшчэ кілішак каньяку. Атрымаўшы яго, яна адчула ледзь прыкметны дакор у позірку.

Цяпер на Адэлі была нязручная доўгая спадніца і кашуля ў этнаграфічнай стылістыцы. На ейным твары з’явіліся сляды ад румянаў, вусны сталі безгустоўна чырвонымі – пасля каманды, атрыманай ад лысаватага няголенага дзядзькі, якога ўсе тут слухаліся, бы генерала.

– Праз пяць хвілінаў! – тут жа пераклалі ёй голас, які прагучаў па рацыі Жаны.

Адэля адчула нязвыклае для сябе хваляванне. У ейнай руцэ раптам апынулася нешта цяжкае і халоднае.

– Усё, мая даражэнькая, жадаю табе поспеху, – прамармытала Жана. – Давай бліжэй, хадзем во сюды.

Тут была прыемная цемра, ад якой Адэлю кідала ў доўгачаканы сон. Наперадзе, літаральна ў якім метры, было гучна, вочы слеплі ад незлічоных пражэктараў – як здавалася, адумысна скіраваных наўпрост у твар. Адэля машынальна праверыла вастрыню ляза свайго мяча.

Адэлі карцела застацца тут, у гэтай утульнай і ратавальнай цямрэчы. Аднак рукі Жаны, як выявілася, былі куды мацнейшымі, чым тое можна было падумаць.

Адэля была выштурхнутая ў самы цэнтр гладкай і роўнай прасторы. У яе было трохі часу, каб агледзецца. Дзесьці наперадзе, літаральна ў дзесяці метрах, усё абрывалася. Хіба толькі па водблісках ад чыіхсьці акуляраў можна было ўцяміць, што менавіта там знаходзілася глядзельная зала. Дзесьці ззаду былі сфінксы і храмы, зробленыя з дошак і фанеры.

Трэба было некуды рухацца. Трэба было нешта рабіць. Апладысменты з боку залы змяніліся напружлівай, бадай асуджальнай цішынёю.

Адэля разгублена матлялася ўзад-уперад, спрабуючы прызвычаіцца да скіраванага ў вочы святла ды зразумець, што ж ад яе гэтым разам патрабуецца. Нязвыклая спадніца рабіла ейныя рухі нязграбнымі. Пакручастыя віражы аркестра паглыблялі разгубленасць.

Раптам зала ўспенілася авацыямі. Праз імгненне пасля гэтага, Адэля ўбачыла перад сабою імклівую чарнаскурую постаць. Потым перад вачыма прамільгнула лязо мяча.

Адэля здолела ўхіліцца ад удару – мусіць, выключна з прычыны сваёй зляканасці. Ейная рука з мячом машынальна ўзнялася і апусцілася, выклікаўшы дзесьці непадалёк усплеск чужога болю. З залы пачуліся апладысменты.

Па камандзе дырыжора аркестр трохі сцішыў рытм, каб прысутныя маглі адчуць драматычную паўзу – хай сабе і не прадугледжаную Вердзі.

Адэля згрупавалася, каб адбіць чарговую атаку, у ёй паступова стаў прачынацца азарт. Яна паволі кружляла вакол уласнае восі, трымаючы напагатове меч.

З-за кулісаў на Адэлю пазірала Жана, асыпаючы яе няўцямнымі парадамі: “Мачы злева, а потым як прыціснеш, дык... Херач па нагах, херач па нагах!”.

Леваруч Адэля адчула перарывістае дыханне супраціўніцы. Потым два вастрыі ізноў сутыкнуліся.

З гэтай незнаёмай для яе прыладай Адэля паводзіла сябе даволі няў-

клюдна, але ж і чарнаскурая дзяўчына, мусіць, была ў падобнай сітуацыі. Праўда, яна мела куды лепшую фізічную падрыхтоўку.

Каб адбіць наступную атаку, Адэлі давялося скарыстаць ненавісныя ёй жаночыя прыёмы – уляпіць сваёй суперніцы левай рукой добрую аплявуху, потым драпануць яе па твары і нават паспрабаваць укусіць. Калі гэта атрымалася, зала адразу ажывілася.

Пад даўгія Адэлевы пазногці забіліся мікрачасцінкі чужой скуры. Дзесьці па-над сцягном пачало прыпякаць. Белая кашуля з арнаментам была сапсаваная.

Раптам у яе нешта забуркатала ў жываце – зусім не да месца.

Адэля раптам падумала, што было б някепска змяніць ход гэтай пастаноўкі, насыціць яе большым драматызмам – пра што, відавочна, не парупіўся лысаваты рэжысёр. Са шматлікіх фільмаў Адэля ведала: інтрыга з'яўляецца тады, калі паміж супрацоўнікамі ўсталёўваюцца асабістыя сувязі. Якія, у сваю чаргу, немагчымыя без вербальнага кантакту.

Адэля апусціла меч і звярнулася кудысьці ўглыб сцэны. Загадзя тэкстам яе ніхто не забяспечыў, і таму давялося імправізаваць:

– Ты нібыта эфіёпская царыца, што рассякаеш начную цемру борздай ланню. Ды вось толькі куды нясе цябе вецер? Няўжо на пахіленыя слупы электраперадач ля ўскрайны вёскі? (Зала ацаніла гэтую бязглуздзіцу кволым смехам.) Няўжо твой каханы ізноў будзе ў разгубленасці? Калі ён не зна...

Захапіўшыся дэкламацыяй, Адэля зусім забылася пра абарону.

Боль працяў яе трохі вышэй калена. Яна яшчэ падбірала словы па-ангельску, калі ейнае цела пачало свой хуткі рух долу. Шчака Адэлі адчула шурпатую паверхню сцэны. Зблізу яна не выглядала ідэальна чыстай і пахла потнымі шкарпэткамі.

Публіка прыкметна ажывілася. Краем вока Адэля ўбачыла, што вялікія пальцы бальшыні гледачоў былі скіраваныя ўніз. Мулатка эфектна занесла абедзве рукі з катамі над галавой і, пацэліўшы паміж рэбраў, адным моцным ударам літаральна прышпіліла Адэлю да падлогі.

Але ў гэты момант яе засмуціла зусім іншае. Наперадзе чакаў яшчэ і другі акт спектаклю.

*Я – мой уласны ідал, прыношу шкоду сабе маімі страсцямі...*

Твае рукі крыху ўздымаюцца па-над прасцінай, сілячыся зрабіць хаця б які асэнсаваны рух, шоргаюць няўрымсліва па белай шурпатай тканіне. Тваё аголенае цела, спярэшчанае не прадугледжанымі сюжэтам гульні складкамі, выклікае ў цябе нарцысічную агіду. Усе твае жэсты адпавядаюць папярэдне ўзгодненаму сцэнару. Ты навучыўся хутка і дакладна рэагаваць на каманды партнёра.

Bondage & Discipline.

Ты плаўна размазваеш па сваім твары смярдзючае месіва. Для выбару спосабу аплаты націсніце кнопку ў правым куце экрана.

Вучоны мядзведзь пачуў знаёмыя гукі баяна. Публіка прыязна пасміхаецца ды кідае дробныя грошы.

Ён набліжаецца павольна, на пачатку ты млява спрабуеш супраціўляцца. На ягоным твары – маска Баала. Ты драпаеш яго па залатым абліччы, каб гульня была больш эмацыйнай, сціраеш да крыві пазногці. Неўзабаве твае рукі ўжо сцятыя дротам.

Ён зрывае з цябе адзенне. Пасля таго, як у роце апынаецца кляп, тваё падабенства да жывёлы становіцца яшчэ большым.

Дыханне перарывістае. Спярша твае вочы засцяць агні гірляндаў, потым пад пазногці ўгрызаюцца вострыя аскепкі.

Спярша прыемны пах мужчынскай парфумы, потым ты ванітуеш у прыбіральні кіслым малаком.

Спярша хтосьці казыча яе трохі вышэй паясніцы, потым пінцэт пакрысе расчапляе валокны, пранікаючы глыбей у рану.

Спярша ты смакуеш віно з чэрапа playmate №78, потым гіпсавыя абаронцы крышацца наўпрост у тваіх пальцах.

Спярша ўтульнае крэсла ў салоне кінатэатру, потым хтосьці пачынае імкліва працаваць лобзікам.

Спярша Маргарыта апранае ядвабны карсэт, потым ад шурпатай паверхні гнілога баркасу адкалупваюцца пісягі старой фарбы.

Спярша ты думаеш, куды б уставіць слова “сентыментальны”, потым у твой рот запіхваюць мокрыя газеты.

Старайцеся не распырскаць кроў па пакоі, сачыце за тым, каб кроплі не траплялі на дываны, мэблю і г.д. Калі гэта адбылося, трэба выцерці плямы крыві антысептычным растворам і, калі вы знаходзіцеся на вечарынцы, паведаміць яе распарадчыку пра тое, што здарылася. Па сканчэнні ўздзеянняў трэба супыніць крывяток*.

Domination & Submition.

Фашызм плоці, калі ў кожнай малекуле твайго цела сядзіць маленькі фюрэр. Яны ўтрапёна торкаюць за нітачкі, шторазу прымушаючы тваю нервовую сістэму рэагаваць, канцовасці ўздрыгваюць, вучоны мядзведзь пачуў знаёмыя гукі баяна.

Sadism & Masochism.

Грузна абрынуўшыся на канапу, сваёй дупай ты выпадкова зачапіў пульт тэлевізара. На экране з’яўляецца бязгучная карцінка – пара, якая кружляе ў танцы. Камера здымае ў профіль, але ж гледачу ўсё адно зразумела, што на экране толькі адзін чалавек, які раз-пораз паварочваецца да залы іншым бокам – мужчынскім або жаночым.

Карцінка пачынае чэзнуць, і, урэшце, адны толькі палосы. У гэтым ва ўсім няма болю, ані дамінавання, ані скурчаных у ненатуральных паставах дзяўчатак з выдзертымі смочкамі, ані тоўстых лысых японцаў з наборам іголак, ані надпісаў лязом па дагледжанай скуры, ані прыкутых да рабрыстай батарэі рабыняў... Усе выявы сцерліся з тваёй памяці. Як быццам бы, хтосьці адфарматаваў флэшку.

Навокал толькі вада. Навокал толькі вада. Яна абмывае пясок, раз-пораз выносячы туды разнастайныя адкіды чалавечай дзейнасці – у тым ліку, і правы Адэлін боцік са зламаным абцасам. Малекулы твайго цела арганічна спалучацца з вадою, і ты сам не зразумееш, ці гэта проста дотык, або надзіва хуткая дыфузія. Воды Ярдану пацякуць далей, калекцыянуючы людскі грэх ва ўсіх яго магчымых праявах.

І раптам на бераг ракі прыйдзе дзіўны чалавек, які носіць адзенне з вярблюджай скуры і харчуецца макрыцамі ды дзікім мёдам. Ён скажа: “Я хрышчу вас вадою, але з’явіцца Той...”.

---

* Фрагмент аднаго з практычных дапаможнікаў па BDSM.

Анатоль Брусевіч



...Мае вершы –
Вершнікі
Пагоні, якая
Цень даганяе
Праз дні і дажджы...

# Позірк у паўзмрок

* * *

Запахла восенню нарэшце.
Лістота мае колер смерці.
Ура!

Чырвона-жоўтая свабода
Чакае нас каля ўвахода
Ў рай.

* * *

О, Божа, якія халодныя ранкі!
Навокал няма аніводнай душы,
І толькі ў смуродных пад’ездах бамжы
Чакаюць, пакуль не адчыняцца крамы.

Мой позірк блукае па прывідным шкле
Туману і белага-белага неба.

Халодныя ранкі, маўклівыя дрэвы
І сумныя вершы на пыльным стале.

* * *

Разбіваюцца хвалі аблокаў
Аб крывое люстэрка вады.
Праглынае пясок мае крокі
Пакідаючы толькі сляды.

Я нібыта ў кавярні, ад злосці,
На якую не здольны ніхто,
Замаўляю падвойную восень
І п’янею, зрабіўшы глыток.

## АПОШНІ ЛІСТАПАД

Апошні лістапад
Спяе нам аб вясне.
Заплачуць ліхтары
Бурштынавым святлом.
У мой самотны дом
Не прыйдуць больш сябры,
Бо самы першы снег
Схавае шлях назад.
Апошні лістапад
Сплывае пакрысе.
За шэрыя муры
Хаваецца сутон.
Халодны ветру стогн
Пілуе сад стары –
На сонечным лязе
Лістоў крывавы рад.

## ПЕРАХОДЫ

Звычайны восеньскі вечар,
Не цёплы і не халодны.
Тут час застыгнуў навечна,
Нібыта смала рэнклёды

Тут ліпы ажно ў аблокі
Растуць і чуюцца блізка
Нябёсаў сонныя крокі,
Ці можа крокі дзяцінства?

Тут вецер заўжды паўночны,
А людзі як быццам з гліны –
Адныя і тыя ж вочы,
Адныя і тыя ж міны.

Адсюль немагчыма збегчы,
Цябе дагоніць заўсёды
Звычайны восеньскі вечар,
Не цёплы і не халодны.

Таму стаю сярод дрэваў,
Стаіўшы на момант подых:
Гляджу, як глынае цемра
Мой свет – мае Пераходы.

### *ДЗЯДЫ*

Над Гародняй у розных кірунках
Праплываюць аблокаў карункі.

Лістапад. У чаканні зімы
Горад стаўся глухі і нямы.

Водбліск свечак апалага лісця
Кліча душы пакутныя з чыстца.

Шэры дождж размывае сляды
І з вады пазіраюць Дзяды.

* * *

Босая восень параніла ногі
Аб камяні гарадоў.
Бачыш, як цягнецца проста ў аблокі
Знак ад крывавых слядоў.

Там, на нябёсах ціхіх і сонных
Раны загояць вятры.
Вернецца восень. Заўтра ці сёння
З ёю спаткаешся ты.

* * *

Я ведаю – скончыцца восень
І зноўку рубіны рабін
Запаляць сваё безгалоссе
На крылах зімовых галін.

Сплятуцца душы далягляды,
Змяшаюцца ночы і дні.
У шэрых вачах лістапада
Застыгнуць сірочыя сны.

І будзе прыгожа і міла,
І чыста, нібы за сталом.
Захочацца збегаць за мылам
У краму за першым вуглом.

### *РЭХА*

Большасць з нас – гэта словы,
Банальныя, простыя словы,
Што прыйшлі ў галаву выпадкова,
Як падкова,
Што злятае, пасля абяцае
Прывід шчасця паклікаць. Мы – словы,
Адмысловыя, новыя. Нехта
Пракрычаў нас і слухае рэха.

### *ВАРОНА*

Сяджу варонаю аблезлай
На сметніку жыцця, каб там
Спяваць свае дурныя песні
Памыйным цюцькам і катам.

Каб нагарланіўшыся ўволю,
Расправіць крылы, як арол,
І з выглядам старога воя
Дзяўбсці адходы, што вакол.

А потым сніць зялёны вырай
У чорна-бела-шэрых снах,
Або чакаць кавалак сыру,
Што Бог пашле, альбо Алах.

* * *

Жыццё скончана.
Скотчам залеплены рот.
А вочы сірочым лямантам і матам расстрэльваюць цішыню.
Цень агню люструецца ў вадзе.
Больш нідзе.

Пацалункам Юды пахнуць стагоддзі.
Годзе сузіраць прыгажосць ружовых зорак!
Зрок мой сам па сабе не сягае туды, адкуль не
зможа вярнуцца.
Жыццё скончана.
Я – самагубца.

* * *

На самае-самае дно пякельнае
Спадзе душа мая белая-белая.
Здзівіцца д’ябал: «Якога чорта?
Спадаюць да нас толькі душы чорныя.
Які нонсэнс! Які парадокс!»
«Усё нармальна – скажу – ад слёз
Жанчыны душа зрабілася белаю.
Яна кахала, а я грэбаваў
Каханнем яе. Цяпер слёзаў соль
На маёй душы, і таму дазволь,
Каб яна, душа мая белая-белая,
Упала спакойна на дно пякельнае.»

* * *

Агідна робіцца ад вершаў,
Якія я пісаў няшчыра,
А толькі каб другіх пацешыць
Бліскучых рыфмаў мутным вірам.

Цяпер хацеў бы перакрэсліць
Калісьці кінутыя словы,
Адмыць ад бруду і ад плесні
Свабоды одум адмысловы.

Але пачварных ценяў зграі,
Якія я зрабіў сваімі,
Пакуль на небе сонца ззяе,
Пільнуюць мной забыты зімнік.

* * *

Не магу не пісаць.
Не магу. Не хачу.
Мае вершы – раса,
Што сцякае з ляза
Чорных траваў.

Іх вам не пачуць.
Яны плачуць
Моўчкі
Слязьмі крывавымі.
Ягадамі воўчымі,
Бы ранамі рванымі
Зіхцяць на паляне
Маёй душы.
Мае вершы –
Вершнікі
Пагоні, якая
Цень даганяе
Праз дні і дажджы.

* * *

Паэзія, вяртаюся з табой,
Нібыта ў сон, у край майго юнацтва,
Дзе мы з маёй названаю сястрой
Упершыню спазналі смак вар'яцтва.

Сястра мая, імя тваё не Смерць,
Імя тваё – Салодкая Пустэча.
Пытанні «быць-не быць» і «мець-не мець»
У тую ноч звязала ты навечна.

І я, бы ў казцы, тое даў табе
У вечны дар, пра што зусім не ведаў,
Каб плыць з табой па белай прасціне
У край, што спіць між восенню і летам.

* * *

Гэты свет – нібы камень на шыі.
Толькі вершы ратуюць душу.
Але ўсё, што кажу і пішу,
Тоне ў небе, нібыта ў памыях.

Раскрываюцца вочы сляпыя.
Я братам безгалосым шапчу:
«Гэты свет – нібы камень на шыі.
Толькі вершы ратуюць душу.»

## ***ПОЗІРК У ПАЎЗМРОК***

Дзве тысячы ценяў мінуўшага часу
Свідруюць сляпымі вачыма мой дом.

Я дом збудаваў на руінах палацу.
Таго не даруюць мне цені гадоў.

Я зблытаў іх планы, прымусіў бадзяцца
У пошуках марных уласных слядоў.
Ды цені надзеі і веры не трацяць,
Што змогуць калісьці патрапіць у дом.

Магчыма, патрапяць, калі я стамлюся
Глядзець, не адводзячы зроку, ў паўзмрок,
Сачыць, як шкілеты наіўных ілюзій
Згараюць у вогнішчы пыльных дарог,

Як плачуць нікім не зачатыя дзеці
Ва ўлонні пустэчы, а слёзаў нулі
Са смеццем мяшае гарэзлівы вецер
І носіць па ўсёй неабдымнай зямлі.

## *ТАНЕЦ СМЕРЦІ*

Танец смерці
Нібы таннае віно –
Цяжка п’ецца,
Але лёгка валіць з ног.

Мы з табою
Гэты танец п’ем да дна.
З галавою
З намі тоне наш падман.

З ліхтарамі
Разбіваецца аб світ
Нашых кармаў
аксамітны сталактыт.

* * *

Сухой паэзіі асушаны бакалы,
Салодкіх рытмаў выпіта віно.
Паснулі музы проста сярод залы,
Стаміўшыся адна перад адной
Пазіраваць, іграць чужыя ролі,
Імітаваць то радасць, то экстаз.
Раскрыты ўсе сакрэтныя паролі
І шлях адзін – у Вечны Дэкаданс.



Віктар Супрунчук



...маё жыццё –

гэта гісторыя нашай краіны...

# Магнітны чалавек

***Два апавяданні***

## Анэля і Парыж

Суткі, двое, трое ішоў дождж. Даўно. Зямля, нібы рэдкая каша, якую штодзень яны елі ў абед. Над галавою ціўкалі кулі. Пасвіствалі, як салаўі ў маі. Што ж, на двары красавік, хутка на яго радзіме заспяваюць і салаўі. Невядома ці спяваюць яны тут, у Францыі?

Алесь прыхіліўся да сценкі акопа і прымружыў вочы, адчуваючы, як наплывае сон, цяжкім каменем навальваецца на плечы і цісне, цісне. Лёг бы і спаў, не звяртаючы ўвагі на нямецкія кулі, сырую зямлю, на вайну, што, здаецца, ніколі не скончыцца. І калі ён дабярэцца да сваёй вёскі, да мамы і таты, да сястры ад гэтага французскага горада Рэймса, куды завезлі яго з тысячамі іншых салдат Экспедыцыйнага корпуса рускай арміі? Прыціснулі немцы французаў, і тыя папрасілі дапамогі ў цара.

Даўно не бачыў родных. Дый дзе цяпер яны? Штабс-капітан Якімовіч казаў, што жыхароў Гродзенскага краю да самага Брэста, ратуючы ад германцаў, вывезлі ў Расію, у бежанства. Нібыта найбольш у Самарскую губернію, у Баку... Дзе толькі не раскідалі беларусаў...

Яму часам сніліся родная хата, Ясельда і лес, бязмежны, ласкавы і шумлівы, гаваркі, дзе кожнае дрэва размаўляла з ім, штосьці шаптала, гаманіла, гаманіла. Аднойчы прымроіліся дзеці, ягоныя дзеці, малыя, усе светлагаловыя, якія хацелі сесці на калені і не маглі, падалі, смяяліся. Ён тады ачуўся, бы п'яны, і доўга не мог зразумець: дзеці, якія дзеці, калі ён яшчэ нават не жанаты. Падпаручнік Васькоўскі, зямляк, з дробнага шляхецкага роду з-пад Слоніма, дзе меў хутарок і пяць дзесяцін зямлі ў лесе пад Жыровічамі, пакруціў пальцам ля скроні: зусім даехаў Алесь.

Удалечыні, за іх спінамі, чарнелі будыніны Рэймса. Нібыта ад яго да Парыжа, як ад Жыровіч да Брэста. І немчура надта хоча трапіць у гэты Парыж. Не шкадуе ні снарадаў, ні патронаў. Адна радасць – ноч, калі робіцца ціха-ціха. Усе адпачываюць.

У гэты дзень зранку было спакойна. Хтось пальне з вінтоўкі, альбо патрашчыць кулямёт і сціхне. Аднак пад абед немцы ўзмацнілі страляніну, загрукаталі гарматы. Снарады са страшэнным візгам пачалі падаць то справа, то злева, разбураючы акопы і ўзнімаючы ўсё мацней і мацней у паветра чорную мокрую зямлю разам з кавалкамі салдацкіх цел. Здалося, надышоў канец свету. І не было куды схавацца, дзе знайсці паратунак. Мо хвіліну назад Алесь размаўляў з Васькоўскім, а зараз прыўзняў галаву і ледзь не закрычаў ад жаху, ад таго, што ўбачыў. Вялізны асколак снарада тырчаў са спіны падпаручніка, калі можна так назваць тое, што засталося ад яго.

Божа ж, ты мой, Божа... Алесь, адчуваючы, як па твары цякуць слёзы, пачаў шаптаць пацеры. Ён прасіў дапамогі ў Госпада, прасіў за душу Васькоўскага, за ўсіх сваіх таварышаў, якія ляжалі ў акопах пад гэтае страшнае выццё снарадаў і дзікі посвіст куль, за сябе. І раптам штосьці ўдарыла яго па галаве, па нагах, пацямнела ўвачču, і ён страціў прытомнасць...

Ачуўся Алесь у вялікім белым пакоі. Ён ляжаў на ложку, на белай падушцы, пад коўдрай, а вакол яшчэ стаялі белыя ложкі. Да яго падышла жанчына ў белай сукенцы і ў хустачцы з чырвоным крыжам:

– Бонжур, мсье!

Што такое “Бонжур” Алесь ужо ведаў. Дзе ён? Можа, у раі? Алесь спытаўся пра гэта. Але на той мове, на якой гаварыў з дзяцінства.

– Не хвалюйцеся. Вы ў шпіталі, у Парыжы, – адказала па-руску жанчына і пагладзіла яго па шчацэ. Алесь адчуў цеплыню яе рукі, прыемны пах, як ад пані Марылі з маёнтка Куроўшчына, калі яна прыходзіла ў школку і стаяла ля яго стала, пачуў стогн суседа, і канчаткова зразумеў, што жывы. Значыць, да Бога даляцелі ягоныя пацеры. І ён жывы... Успомніў падпаручніка Васькоўскага і заплакаў.

Шпіталь меў назву Марыі-Тэрэзы. Алесь даведаўся, што ляжыць у палаце № 125, а жанчын, якія наглядаюць за параненымі, называюць сёстрамі міласэрнасці. Яму было тут утульна, спакойна. Фронт, страляніна, узрывы, смерць засталіся недзе далёка.

Алесь памалу варушыўся, асцярожна ступаючы на мыліцах, баяўся развярэдзіць раны на нагах. Ён хадзіў па калідоры, углядаўся, слухаў незнаёмую мову і пачынаў яе трошкі разумець. У суседняй палаце ляжаў

унтэр-афіцер Здзіслаў Халемскі з-пад Беластока, які гаварыў па-французску, але паводзіў сябе так, нібыта быў графам ці князем. Пан Халемскі паспрабаваў нават камандаваць Алесем: тое зрабі, гэтае прынясі, але адчуўшы яго непрыязнасць, адчапіўся.

За акном ужо стаяла восень. Дрэвы былі ў жоўтай і чырвонай лістоце. Паветра ўзнімалася ад зямлі густое, цяжкое, насычанае вільгацю. Недзе ў акопах гнілі яго сябры. Параненых у шпіталі не зменшылася. Вайна працягвала малаціць свой багаты ўраджай. І ёй патрэбны былі ўсё новыя і новыя ахвяры...

З кожным днём у Алеся мацнела цела, дужэйшымі рабіліся ногі і рукі. Ён, ужо здольны касіць сена, араць зямлю, як кожны здаровы чалавек. Надыдзе час, калі ён пакіне шпіталь, – і так дужа затрымаўся, – вернецца ў сваю роту. Ужо невядома дзе, і хто застаўся жывы з тых, каго ведаў. Ён успамінаў падпаручніка Васькоўскага, мацака, што, жартуючы, адным ударам кулака забіваў цвік у дошку. Апошнім вечарам ён паклікаў Алеся да сябе, і яны сядзелі, курылі, а пасля Васькоўскі расказваў, якія цудоўныя мясціны вакол яго хутара, абяцаў запрасіць Алеся на Шчару, дзе рыбы, нібы травы на лузе. Яны гаманілі, гаманілі на сваёй матчынай мове і атрымлівалі ад гэтага асалоду, быццам знаходзіліся на роднай зямлі, а не ў акопе ў далёкай Францыі.

...Параненых наведвалі жыхары Парыжа. Алесь упершыню ўбачыў жанчын у прыгожых капелюшах, у сукенках, такіх, як у пані Марылі з маёнтка Куроўшчына. Жанчыны прыносілі пірагі, булачкі. Хоць, пэўна, самі не шыкавалі. Нехта адрываў ад сябе апошняе, каб пачаставаць франтавікоў. Так аднойчы Алесь убачыў Анэлю. Яна ішла па палаце з кошыкам румяных булачак і раздавала іх параненым. Ззаду паважна крочыў сівавусы дзядзька з шырокай лысінай над задаволеным тварам. Дзяўчына была тоненькая, светлавалосая, з сінімі-сінімі вачыма. І гаварыла кожнаму па-польску:

– Прошэ, прошэ..

Яна была вельмі падобная на Алесеву сястру Зоську. Толькі Зоська вышэй і вочы ў яе зялёныя, бы веснавое лісце. А так здалёк... Падумаў бы, што Зоська да яго прыехала. Але ж такое магло, пэўна, толькі прысніцца. За акном Парыж, вакол ложкі з пораненнымі, пахне лекамі, якія і ў скуры, і ў валасах, і ў жываце. Ежа таксама пахне лекамі. Але насупраць дзяўчына, якая нешта гаворыць і радасна яму ўсміхаецца, нібыта яны знаёмыя вельмі даўно.

Ён узяў з яе рук булачку і сказаў так, як казаў заўсёды, прывучаны з дзяцінства мамай, што ў дзявоцтве працавала ў маёнтку пані Марылі:

– Дзякуй, вялікі дзякуй... – І яшчэ дадаў па-польску: – Хай пан Бог і вам дапамагае.

Пасля гэтых слоў яна з лысым дзядзькам, а гэта быў яе тата, пан Янусь, прастаялі ля ягонага ложка доўга. Хоць Алесю тыя хвіліны праляцелі як імгненне. Ён расказаў пра сябе ўсё: адкуль, хто бацькі. І нават успомніў Зоську. І пра раненне, і падпаручніка Васькоўскага. Словы з яго ліліся, ліліся. А калі скончыў гаварыць, убачыў у вачах Анэлі і пана Януся спачуванне, дабрыню і адчуў сябе так, нібыта сустрэў праз шмат гадоў сваіх родных. Потым, калі Анэля з бацькам пайшлі далей па палаце, спалохаўся, што больш ніколі іх не ўбачыць. І такая роспач, туга ахапілі Алеся, што ледзь стрымаў слёзы.

Ён страціў спакой і кожны дзень выходзіў у калідор, чакаў, чакаў... Але яе не было, і не было. Алесь падумаў: ці мала такіх, як ён, параненых, у гэтым шпіталі. І нават з іхняга палка. Родам з-пад Баранавічаў, Бярэсця, Гародні ці з-пад Беластока. Чым ён лепшы за астатніх? Не афіцэр, не шляхцюк... Узяў у сваю дурную галаву... Хутка на фронт, а там...

Алесь ляжаў на ложку ў сумоце, адвярнуўшыся тварам да сцяны. Хтосьці крануў яго за плячо раз-другі. Ён павярнуўся, расплюшчыў вочы і адразу ўбачыў яе. Яна стаяла асветленая праменямі яркага сонца, і валасы здаваліся залатымі, а твар быў нібы ў анёла, што на іконе ў іхняй вясковай царкве. Анэля была адна, без бацькі, у руках трымала вялікі кошык з духмянымі булачкамі, водар ад якіх перапыняў шпітальны пах.

– Прабачце, я вас, пэўна, разбудзіла, пане Олесь, – сказала Анэля і сарамліва нахіліла галаву. Доўгія вейкі калыхнуліся раз-пораз, быццам крылы матылька, твар пачырванеў ад ілба да шыі.

– Ды не, не... – замармытаў Алесь, падхапіўся з ложка, не ведаючы як трымаць рукі. У яго ад радасці закалацілася сэрца. Яму хацелася закрычаць на ўсю палату, а, можа, не, каб ніхто не чуў: Анэля прыйшла, Анэля прыйшла!..

– Татусь вам перадаў прывітанне... – зноў калыхнуліся вейкі, і вочы зрабіліся яшчэ больш сінімі, чым былі. Яны трывожылі, хвалявалі. Ад ніякаватасці ледзь стаяў перад Анэляй. Здавалася, ён слабы, бездапаможны. Зрэшты, ён – мужчына. Няхай, і не шляхцюк, не афіцэр...

– Татусь спытаў у доктара пра вас. Дык той казаў, што вас хутка выпішуць і вы не паедзеце на вайну, – шчабятала Анэля і палажыла яму ля падушкі пяць булачак. – Частуйцеся, каб быць здаровым. Паслязаўтра абяцаўся і татусь да вас зайсці. Аб нечым пагаварыць...

Алесь зусім разгубіўся і ўсё дзякаваў ёй, дзякаваў, ажно пакуль Анэля, нібы птушка, не праляцела праз палату і не знікла за высокімі белымі дзвярыма. Ён глядзеў ёй услед і быў шчаслівы, як ніколі не быў яшчэ ў жыцці. Нейкія незразумелыя пачуцці перапоўнілі яго. Не хапала паветра, хацелася спяваць, хоць ніколі не спяваў.

– Пекна паненка, – сказаў унтэр-афіцэр Халемскі, што невядома як апынуўся ў іхняй палаце. – Надта пекна... – і на яго твары ўзнікла крывая непрыемная ўсмешка.

Алесь лёг на ложак, прыціснуў да сябе булачкі і так ляжаў ажно да самай вячэры, уяўляючы Анэлю, яе вочы, валасы. Не хацелася, каб нехта бачыў як радасна яму, як спявае ягоная душа.

...Неўзабаве Алесю паведамілі, што выпісваюць са шпіталя. Па стану здароўя ён можа ехаць дамоў. Але як ехаць, куды ехаць? Кругом вайна. Францыя, Германія, Аўстра-Венгрыя, Расія, Балканы – усюды ішлі жорскія баі. Штодзень з усіх бакоў гінулі тысячы салдат. Бярэсце, Гародня, Наваградак, Баранавічы, Ружаны і Пружаны былі пад немцамі. Пра гэта яму расказаў пан Янусь, які наведаў Алеся ўжо без Анэлі, і прапанаваў застацца ў Парыжы, працаваць у ягонай булачнай пакуль не скончыцца вайна. А там Бог бацька... Вось, ён, Янусь Клебан, некалі прыехаў з мястэчка з-пад Кракава і ўжо ў Парыжы больш за дваццаць гадоў. Анэлька, дачушка, тут нарадзілася... Сказаў і хітра паглядзеў на Алеся, пасміхнуўся ў вусы...

Яны ішлі ад шпіталя вузкімі вулачкамі між каменных дамоў, ледзь пасяваючы ўхіляцца ад вазоў, тарантасаў, прабіраючыся праз натоўп у

гомане, крыках гандляроў. Параненыя, інваліды... Адчувалася вайна, але яна была далёка. Тое, што ён крочыць з салдацкім рэчмяшком за плячыма па Парыжы, – сон. Але наперадзе яго чакае нешта такое, аб чым не можа і марыць...

Лаўка, пякарня і дом, у якім жыў пан Янусь з сям'ёй, знаходзіліся недалёка ад ракі. Рака, як рака, нечым падобная на Ясельду. Толькі назва яе Сена. Сена дык сена, колькі яго Алесь з малых гадоў касіў на Межарэках у рэчышчы Ясельды.

Алесь, як і дома, як для сябе, самааддана працаваў у пякарні пана Януся. Нібыта хацеў забыць фронт, гнілыя акопы.. Ён адчуваў асалоду ад стомы ў руках, ад поту, што струменіўся ад патыліцы да каленяў. Над ім не шалелі кулі, не грукалі, вызваляючыся ад свайго страшнага начыння, снарады. Смачна пахла хлебам, свежымі булачкамі і ванілем, карыцай. Стаяў пах Калядаў і Вялікадня.

Ён штодзень бачыў Анэлю, яе саламяныя валасы, танклявую, бы маладая бярэзіна, дзявочую постаць. Бывала, калі яны разам хадзілі на шпацыр па вуліцах Парыжа, елі марожанае. Алесь нават пакаштаваў панскі напой – каву. Не зразумеў, чым ён смачнейшы за гарбату з мяты ці смуроды. Але ж убачыў, што падабалася гэтая кава Анэлі, і ён з замілаваннем глядзеў, як яна асцярожна, з асалодаю п'е маленькімі глыткамі. Алесь баяўся дакрануцца да Анэлі, выпадкам не чмыхнуць, не прамовіць брыдкае слова. Ён не ведаў як гэта называецца, але гэта было каханне. У любы момант ён мог падараваць ёй сваё жыццё. Так часам думаў Алесь, не разважаючы, навошта Анэлі яго жыццё.

Яны былі шчаслівыя, і пан Янусь задаволена назіраў за сваім маладым памочнікам. Ён ужо меркаваў, што яго дарагая Анэля, дай Божа, будзе злучана з працавітым хлопцам, які не француз, амаль паляк, з-пад Бярэсця, – і яму на схіле гадоў стане добрым апірышчам, падорыць нашчадкаў старажытнаму роду Кракаўскіх Клебанаў. І усё да гэтага рухалася...

Анэля з маці, паняй Тафіляй, паехалі на Манпарнас да сваякоў па матчынай лініі, дзе тыя мелі ювелірную краму. Абяцаліся вярнуцца пад вечар. З абеда Алесю пан Янусь таксама даў адпачынак. Заслужыў, пагуляй, выпі піва, падыхай паветрам Парыжа.

Алесь адзеў каптан з сіняга вельвету, падарунак Анэлі, абуў юхтавыя боты, не зусім новыя, але яшчэ з моцнымі падэшвамі, да бляску наваксаваўшы. Ён прыдбаў іх у Янкеля з каўбаснай лаўкі, суседа пана Януся і ягонага земляка. Паглядзеўся ў люстэрка, падфарбаваў рудаватыя вусы. Застаўся задаволены сабою. У кішэні трошкі было франкаў, якіх хопіць, прынамсі, на кухаль таннага піва. Кінуў на галаву сваю салдацкую круглую шапку і, махнуўшы рукой пану Янусю, весела пакрочыў па вуліцы, ні аб чым не думаючы.

Ён глядзеў на дамы з чырвонай цэглы, на неба з спакойнымі белашэрымі аблокамі, на людзей, апранутых зусім інакш чым у вёсцы, па-панску, якія зараз мітусіліся, як мурашы. Вайна... Нехта шыкуе, а нехта галодны. Вайна... Вердэн, Рэймс, Мазурскія балоты – з гэтага пан Янусь пачынаў амаль кожны свой дзень, не забываючы Кракава.

Анэля... Алесь падумаў, што, магчыма, сам Гасподзь падараваў яму сустрэчу з ёю. Няўжо ён так літаслівы да яго, міласэрны? Можа, ён яшчэ дарує яму шчасце, як хутчэй убачыць тату з мамай, Зоську?

Крапнуў дождж, панылa завыў вецер. Стала пахмурна. Хістаўся на

мыліцах п’яны інвалід. Худы, як высахлы ясень, прайшоў насустрач ажан, гарадавы. Алесь памалу тупаў па Парыжы і нават забыў пра кухаль піва, што яму дазволіў пан Янусь.

Хлапчук у чырвоным світэры на скрыпучым іржавым ровары абагнаў яго, азірнуўшыся крыкнуў, відаць, нешта абразлівае, і, зарагатаўшы, завярнуў за трохпавярховую мураванку. Туды ж накіраваўся і Алесь.

Дождж памацнеў і не збіраўся спыняцца. Халаднавата. Час ужо вяртацца. За наступным домам ён паверне назад. Купіць бутэльку сітра, – не трэба яму піва, – пасядзіць у сваім цёплым пакоі, пагартае старыя часопісы на польскай мове, якія пан Янусь, спытаўшы ці ўмее чытаць, паклаў на шафку. Потым будзе думаць пра Анэлю, пра іх будучыню...

– Бонжур, мсье! – пачуў ён мяккі нізкі голас. Бонжур, бонжур, усе кажуць: бонжур...

Як з-пад зямлі выскачыўшы, перад ім узнікла маладая жанчына, нафарбаваная быццам лялька, што ў Анэліным пакоі ля ложка на крэсле, у кароткай да каленяў спаднічцы. Кофта на ёй з вялікімі дзіркамі, як хто прагрыз. На нагах пантофлі, брудныя і ў дзірках.

Жанчына штосьці гаварыла і смяялася, бліскаючы дробнымі зубамі, на якіх месцамі чырванелі плямкі памады. Яна махала рукамі, прасіла ў яго закурыць. Алесь, як мог, паказаў, што не курыць. Яна толькі смяялася, узяла за руку, прыціснула да сябе.

Жанчына не адпускала руку і цягнула яго, цягнула за сабой. Ён яшчэ хвіліну назад хацеў адштурхнуць прыліпу і пайсці, а зараз, быццам прыклеены і не здольны адарвацца, таксама смеючыся, увайшоў услед за ёй у дом. Яны падняліся на другі паверх па хісткай драўлянай лесвіцы, якая з кожным крокам рыпела і здавалася не вытрымае іхняга цяжару. Алесь гэтага не заўважаў. Маладосць, радасць жыцця, шчасце ад таго, што жывы, не застаўся навечна ў акопах пад Рэймсам – зрабілі сваю справу. Ён дазволіў ласкавым жаночым рукам зняць з яго каптан, боты, кашулю, нагавіцы.

Яны былі ў невялічкім пакойчыку з вузкім ложкам, маленькім столікам і ўслончыкам. Праз акно, напалову закрытае газетай, ледзь-ледзь прабівалася слабае святло, гусцеў змрок. Алесь прыхіліўся да жанчыны, адчуваючы саладкаваты пах, цеплыню. Ён абняў яе і, няўмела, коўзаючы вуснамі па твары, пачаў цалаваць. Яна ўжо не смяялася, а дробненька хіхікала, упіралася рукамі яму ў грудзі.

Алесь забыў пра Анэлю, Парыж, сваю вёску... Яму было ўсё роўна, ён цягнуўся да гэтай жанчыны, нібы да крыніцы, якая натоліць яго смагу, голад... Забыў аб усім. Увесь свет сканцэнтраваўся ў гэтым пакойчыку, на гэтым размаляваным твары... Раптам успыхнула святло, і Алесь, нягледзячы на свой зусім расслаблены стан, пачуў рэзкі мужчынскі голас: “Стаяць!”. Дужыя рукі адарвалі яго ад жанчыны і кінулі на падлогу. Ад моцнага болю Алесь закрычаў і амаль адразу ўскочыў на ногі. Перад ім стаялі на галаву вышэйшыя за яго, два шыракаплечыя мужчыны. Адзін з іх круціў у руцэ нож з вузкім бліскучым лязом.

– Што вам трэба? – з цяжкасцю выціснуў Алесь.

– Што нам трэба, што нам трэба!.. Ха-ха-ха!.. – рагаталі абодва. – Бач, рускі! Зямеля! Ха-ха-ха, – той, што з нажом, ажно за жывот схапіўся, так яму было смешна. – Француajанкі захацелася... За ўсё трэба плаціць, галубок. – Інакш... – ён зрабіў красамоўны ўзмах нажом. – Барыс, правер ягоныя кішэні.

Яны нецярпліва пачалі трэсці Алесевы манаткі і адразу знайшлі ў каптане франкі, а пасля і залаты рубель, які ён захаваў у акопах і ў шпіталі, пранёс з сабою, як нешта святое, каб зберагчыся і выжыць. Гэта быў падарунак хроснай маці. Яна паклала яму ў кішэню рубель, калі Алесь ішоў на фронт.

– Ого!.. – сказаў мужчына з нажом. – Багаты кліент. Дай сюды...

І ў гэты момант здранцвенне, якое ахапіла Алеся, прайшло. Ён зразумеў: адсюль можа і не выйсці. Для гэтых людзей ён – пыл, смецце.

Зарэжуць гэтак ж лёгка, як дыхаюць. Ён яшчэ не бачыў нічога, акрамя акопаў, шпіталя. Бог яго пазнаёміў з Анэляй...

У галаве мільгнула залітае крывёю цела падпаручніка Васькоўскага, чорнае воблака ад разарванага снарада і гул, працяжны гул...

Ні пра што не думаючы, нібыта яго шпурлянула нейкая магутная сіла, Алесь кінуўся да дзвярэй, збіў з ног жанчыну і выскачыў на лесвіцу. Ззаду крычалі, трашчала пад нагамі дрэва, а ён бег так хутка, як не бегаў ніколі ў жыцці.

На яго азіраліся, ён чуў смех і, калі нарэшце спыніўся, зразумеў: на ім толькі старыя залапленыя споднікі. Халодны дождж паліваў разгарачанае цела і змываў з яго страх, пот...

Алесь бег, блукаючы па слаба асветленых вулачках, і, інтуітыўна, бы звер, знаходзіў свой накірунак. Здавалася, ніколі не будзе канца гэтай дарозе. Аднак, вось апошні крок і ён – ля дзвярэй дома. За імі Анэля, цяпло, ягоны сціплы пакойчык.

Алесь перахрысціўся і ступіў праз парог. Ён не мог мінуць гасцёўню, дзе вечарамі за сталом збіралася сямейства пана Януся і гуляла ў карты. Пры яго з’яўленні ў пакоі стала ціха-ціха. Алесь паспеў заўважыць як у пані Тафілі саслізнулі з носа акуляры на стол. У Анэлі твар зрабіўся чырвоны-чырвоны, як некалі ў шпіталі...

Назаўтра раніцай пан Янусь прынёс яму новыя порткі, кашулю, боты, каптан і шапку.

– Калі чалавек не здольны ўтрымаць на сабе штаны, дык як ён зможа ўтрымаць маю лаўку, – сумна-задумліва сказаў пан Янусь. – Я не хачу, каб мая Анэля пайшла на плошчу Пігаль, туды дзе чырвоныя ліхтары...

Праз некалькі дзён Алесь махаў Анэлі за акном вагона цягніка, які рухаўся ў бок Варшавы. Дзяўчына прыйшла на вакзал цішком ад бацькі. Захутаўшыся ў цёмную вялікую хустку, яна стаяла, прыхіліўшыся да сцяны, і плакала. І Алесь плакаў, праклінаючы сваю слабасць, нерашучасць, бездапаможнасць, гаворачы сам сабе, што лепш было б, каб загінуў пад Рэймсам.

Аднак ён хутка яе забыў... Успомніў у свае апошнія хвіліны жыцця.

...Былі Парыж, Анэля... Анэля і Парыж...

## Магнітны чалавек

На стале дзве пустыя і не зусім чыстыя шклянкі, паўслоіка кіслай капусты, дробна парэзанае і тонкае, бы з недакормленай кепскім гаспадаром свінні, сала, без скуркі. Закусь ляжыць на паперы, чыстай, бялюткай з гэтага боку, а з другога – каляндар, калі сеяць і жаць. Бутэлька гарэлкі на падлозе ля тумбачкі.

Яны сядзяць насупраць адзін аднаго – лысаваты і сівы сямідзесяцігадовы Іван Самуілавіч Карольчык і Генадзь Пятрулька ў паўтары разы маладзейшы за яго. Пятрулька таксама ўжо сівы, толькі вочы ў яго маладыя, твар хоць чырванаваты, але гладкі. У Карольчыка сівая валасня лезе з носа, вушэй. Шыя, бы ў старога гусака: скура вісіць з недаголенымі рэшткамі сівых валасоў. Зубоў даўно ў роце няма, а ён ад ляноты ніяк не зойдзе да ўрача. Зверху гуляе штучная сківіца, падаючы ўніз, палохае субяседнікаў. Генадзю робіцца гідка. Але ён не можа пайсці, яму шкада Карольчыка. Здаецца, назіраючы за ім, бачыш сябе праз гадоў дзесяць-дваццаць. Калі дажыве... Калі Бог дасць... Ці дасць?..

Позняя восень, цемрадзь. Яшчэ гадзінка-другая і – дамоў. Івана Самуілавіча пакуль не звальняюць, здолеў заслужыць павагу начальства. Хоць спецыяліст ён, здаецца, да завода з ніякага краю.

Гадоў восем назад былы дырэктар надумаў зрабіць свой музей, паклікаў тады Карольчыка, для якога гэта быў хлеб: усё жыццё займаўся музейнай справай. Іншыя даўно на пенсіі, а Іван Самуілавіч працуе. Стварыў невялічкі музейчык і сядзіць у ім, даглядае. Аднаму сумна, толькі і радасць, калі Пятрулька заходзіць. Тут пагаманіць можна і душу супакоіць пасля ўчарашняй цяжкай чаркі.

– Маё жыццё – гэта гісторыя нашай краіны, – гаворыць Карольчык, меланхалічна пачэсваючы пляшыну, і спрабуе дажаваць скрылік сала, які вось-вось выслізне з рота. – Пры камуністычнай партыі як было... Без чаркі ніводзін начальнік не абедаў. Мне расказвалі, як некалі прыехаў на партыйны з’езд да нас у Беларусь першы сакратар кампартыі Украіны Шэлест. На вячэры ён падняў чарку за камуністычную партыю... Мясцовы сакратар райкама, а гэта было ў Белавежскай пушчы, які не выпіў, таму што проста не піў, пасля гэтага вечара больш не працаваў першым сакратаром... А ведаеш, чаму маё прозвішча Карольчык? Таму што мой прашчур быў памочнікам караля Рэчы Паспалітай.

...Яны не ўпершыню сядзяць за такой бяседай, і ўсе гісторыі Карольчыка Генадзь ведае на пералік, але не замінае дзеду, слухае, бо кожны раз той дадае ў свой аповед нешта новае. І хоць часам хочацца смяяцца, але ён стрымлівае сябе. Карольчык можа паказаць характар. На тым тыдні Генадзь штосьці недаверліва перапытаў, дык дзед схапіў з тумбачкі талерку і, ляснуўшы ёю па сцяне, закрычаў са злосцю:

– Дык не верыш, не верыш?!.

Як тут не паверыш? Хай будзе па-ягонаму.

– Я служыў у арміі ў пяцідзясятых гадах у Германіі. Быў сакратаром камітэта камсамола... Не, здаецца, камандзірам узвода. Я ж першы быў, хто вадзіў экскурсіі па Асвенцыму. Ведаеш, што такое Асвенцым? Там жывымі палілі людзей. Гэта – жах! І я ўсё ведаў. Я – усё ведаў!.. Аднойчы прыехала дэлегацыя кіраўніцтва ГДР на чале з таварышам Хонекерам. Ён мяне так слухаў, так слухаў! – хітае Карольчык галавою і камандуе: – Налівай! – акуратна адпівае паўшклянкі, зноў жуе сала і, уздыхнуўшы, нібы пасля цяжкай працы, працягвае: – І што ты думаеш?!. Таварыш Хонекер дастае з кішэні залаты гадзіннік і ўручае мне. Вакол стаяць генералы, розныя маршалы, Міністр абароны Савецкага Саюза Грэчка. Пасля мой камандзір сказаў: “Ну, Ваня, ты – малайчына! Сапраўдны савецкі салдат!..” Час быў складаны. Супраць нас былыя эсэсаўцы, амерыканцы. Многа яшчэ розных недабіткаў ашывалася па Германіі. Нейк з маім узводам былі ў

Баварыі. А там горы, лес. Прыселі адпачыць. Чуем, страляюць. Я за кулямёт і крычу хлопцам: “ За мной!”. Выскачылі на дарогу, а там чатыры ці пяць эсэсаўцаў на матацыклах. Страляюць са шмайсераў. Не, думаю, не на таго натрапілі. Залёг я за камень, як даў чаргу з кулямёта. Толькі пыркі ў розныя бакі. Адзін матацыкл з эсэсаўцамі паляцеў у прорву, а потым і другі. Пасля: бух-бух – узрыў, няма фашыстоўцаў.

– І што далей?

– Што далей, што далей. Мы селі на машыну і паехалі.

– А эсэсаўцы?

– Што эсэсаўцы? Засталіся ў прорве.

– Дык якія гэта эсэсаўцы, калі вы служылі ў арміі ў пяцьдзясят восьмым годзе? Пасля вайны трынаццаць гадоў мінула...

– Які ты дурны! Нічога не разумееш...

Некаторы час сядзяць моўчкі, жуюць. Карольчык штосьці мармыча сабе пад нос. Раптам ляпае кулаком па тумбачцы, і адна са шклянак куляецца на бок, з яе цячэ недапітая гарэлка. Дзед, сагнуўшыся, языком ловіць апошнія кроплі, потым выпростоўваецца і ўзбуджана гаворыць:

– У, гэтая Наскова, поскудзь!

– Чым яна насаліла вам? – пытаецца Генадзь і шчыра здзіўляецца, бо Іна Леанідаўна Наскова, іхні калега, спакойная інтэлігентная жанчына, якая, здаецца, у жыцці муху не пакрыўдзіла.

– Чым, чым? – злуецца яшчэ больш Карольчык. – Папрасіў, каб пазычыла дзесяць тысяч. І ў цябе, і ў мяне сёння няма грошай. Дык, што ты думаеш, яна мне кажа? Вы – атрымліваеце пенсію і зарплату... Дзе вашыя грошы? Якая твая сабачая справа? Дзе мае грошы? Я ж не прашу міласціну. Прашу, пазыч дзесяць тысяч. Больш не прашу. Не, дзе вашыя грошы?!. Ну, яўрэйская парода! Увесь час, так і выкруціць, так і выкруціць...

– Пры чым тут яўрэйская парода? – здзіўляецца Генадзь. – Іна Леанідаўна – не яўрэйка. Яна ж родам з вёскі з-пад Гародні.

– Ты дурны, ці робіш выгляд? Ніякая яна не Леанідаўна, а Лейбаўна. Ізіда Лейбаўна. Я ж іх чую на адлегласці, бы воўк парася.

– Ну, і што? Што яна вам зрабіла? Яна насыпала вам солі на хвост?.. Ніякая яна не Ізіда Лейбаўна, а Іна Леанідаўна. Дарэчы, вы казалі, што ў вас быў дзед Ісаак?.. Дый бацька Самуіл?..

– Канечне, у мяне быў дзед Ісаак. Ён з-пад Моталя, што на Брэстчыне. Гэта быў мудры і вельмі разумны чалавек. У яго было два млыны, пяць кароў і дзесяць коней. На зіму ён заўжды саліў дзве бочкі белых грыбоў, дзве бочкі рыбы. Ён быў такі дужы, што тры мужчыны не маглі ўтрымаць яго на месцы. Ён іх раскідваў, бы шчанюкоў. А які адчайны быў? Аднойчы паспрачаўся з мужчынамі на дзве скрынкі гарэлкі, што голы, без нічога, зойдзе ў лазню да жанчын і памыецца з імі. І, што ты думаеш, памыўся. Аказваецца, ён паабяцаў частку гарэлкі, што аддасць ім, калі не вытураць з лазні. Вось які быў у мяне дзед Ісаак!

– Дык чакайце. Ваш дзед быў Ісаак. Бацька Самуіл. Значыць, яны – яўрэі! І ў вас, шаноўны Іван Самуілавіч, таксама яўрэйская кроў.

– Што ты вярзеш?!. Які я табе яўрэй? Сам ты яўрэй! Я – славянскай крыві! А вось гэныя фашысты...

– Якія фашысты?..

– Я быў зусім малы, калі мяне з мамаю, братам і сястрою забралі

ў Нямеччыну. Пагналі нас, пагналі. Помню, немец падае мне кавалачак капусты, гнілой, каб я яе з'еў і, магчыма, памёр. Але я не бяру. Думаю, не, паганы фашыстовец, не вазьму з тваіх рук нічога, лепш здохну, але не дамся немчуры.

– І што, так і не паелі капусты?

– Не, не паеў, – хітае галавою Карольчык і падазрона глядзіць на Генадзя. – Ты што, здзекуешся з мяне? Думаеш, я выдумляю?..

– Ды не, не... Значыць, вы непаўналетняя ахвяра фашызму?

– Так, так, – Карольчык задуменна глядзіць на карту свету, якая вісіць насупраць іх на сцяне. – Было, было...

– Грошай шмат атрымалі ад немцаў? Усім жа ахвярам фашызму немцы выплачваюць добрыя грошы.

– Не, ты што?!. Я ад гэтых захопнікаў ніводнай маркі не ўзяў. Тут я прынцыповы. Не хапала, каб я, які пацярпеў ад немцаў, яшчэ грошы ад іх браў. Не, такому не бываць. Я – вышэй за гэта! Не трэба мне аніякіх пасведчанняў, ні грошай. Нянавісць да іх у мяне глыбака ў сэрцы і ні за якія грошы яе не выкараніш...

Вочы ў Карольчыка салавеюць, і ён апускае галаву, штосьці бурчыць сабе пад нос. Генадзь пакідае яго аднаго і цішком, нацягнуўшы на плечы паліто, дзякуй Богу ўжо канец рабочага дня, кіруе дахаты. Прыпыніўшыся на вуліцы, ён бачыць як неўзабаве, энергічна і шпарка, выходзіць з будынку Карольчык і, агледзеўшыся па баках, бяжыць да прыпынку, ускоквае ў тралейбус. Здаецца, толькі што засынаў і раптам такая бадзёрасць...

Назаўтра пад абед зноў званок па тэлефоне. Карольчык запрашае зайсці да яго. І не хоча Генадзь ісці, у душы лаецца на сябе і – усё роўна ідзе. Нібы цягне яго магнітам, нябачная сіла ўхапіла за каўнер і валачэ, валачэ...

Ён тры разы стукае ў дзверы, гэта іх умоўны знак. Карольчык адразу адчыняе, высоўвае галаву ў калідор, глядзіць, ці нікога няма там, і зачыняецца.

Тумбачка накрыта каляндаром, на якім лес і мядзведзі на дрэвах. Дзве шклянкі, слоік з апенькамі, сала, хлеб і бутэлька гарэлкі. Карольчык узбуджаны, вясёлы, задаволена пацірае рукі.

– Сустрэў сёння Антона Прорвіча. Разам некалі з ім працавалі. Што мы з ім толькі не рабілі. Канечне, ён быў не такі, як я. Не, не такі... Вось рабілі некалі Хатынь. Ну, комплекс такі. Ведаеш?

– Ну, ведаю, ведаю. Хто не ведае.

– Выклікае мяне Машэраў і кажа: Ваня, калі не ты, дык хто?!. Я там дняваў, начаваў. Усё зрабілі, як трэба. Ленінскую прэмію людзі атрымалі.

– А вы чаму не атрымалі?

– Верыш ці не, але адмовіўся. Так і сказаў Машэраву – не маю права! Галоўнае, што ёсць Хатынь. Вось так. А ты думаў? Мяне кожны сабака ў Беларусі ведаў. Усе паважалі. Як прыеду, Іван Самуілавіч, Іван Самуілавіч!.. Як заўсёды, канечне, стол па-вышэйшаму разраду і яшчэ з сабой добрую торбу ўсялякай вяндліны, рыбы, гарэлачкі...

Пасядзелі, пагаманілі. Пражаваў нарэшце Карольчык сала, запіў чаем. Са смуткам паглядзеў на пустую бутэльку. У кішэнях таксама было пуста: і ў яго, і ў Генадзя.

– Эх, якая паскудніца! – цяжка ўздыхнуў.

– Хто?

– Ды гэтая Наскова Ізіда Лейбаўна. Іду, а яна мяне пад’ялдыквае: “Можа, вам сёння патрэбна дзесяць тысяч?..” Думаю, ды каб у мяне і рубля не было, – не ўзяў бы.

Сядзяць, маўчаць. У слоіку яшчэ на два пальцы грыбоў, сала ляжыць, хлеб ёсць.

– А, можа, пайсці і ўзяць дзесяць тысяч у Насковай? Але аддаваць будзеш ты, – гаворыць Карольчык.

– Не, на сёння хопіць, – не згаджаецца Генадзь.

– Але ж душа просіць, – крэкча Карольчык.

...Пад абед тэлефон звоніць, звоніць. Сціхне, потым зноў і зноў. Учора жонка абазвала яго сабакам, пустадомкам, алкаголікам і, наогул, каб ён хутчэй здох. Праз дзень смярдзіць гарэлкай. Яго хутка выганяць з работы, ён не дапрацуе да пенсіі. Як гэта не можа адмовіць у кампаніі Івану Самуілавічу? Без’языкі, пад гіпнозам, ці канчаткова здурнеў? Шкада Івана Самуілавіча? Дык ідзі і жыві з ім! Ты, не мужчына – ануча!

Тэлефон усё звоніць і звоніць. Цяжка ўздыхнуўшы, Генадзь бярэ трубку. Хай сабе лаецца жонка, але ўжо два месяцы ім не плацяць зарплату. Трэба жонцы боты купіць, дачцы паліто. А грошай няма... Генадзь нейкі час трымае ў руцэ трубку, а потым кладзе яе назад на апарат.

Адчыняюцца дзверы, у кабінет зазірае Іна Леанідаўна Наскова. Яна радасна ўсміхаецца:

– Генадзь Рыгоравіч, налічылі грошы...

Пятрулька набірае нумар тэлефона Карольчыка і, нечакана для самога сябе, накрыўшы хусцінкай мікрафон, імітуе голас робата:

– Увага, увага, вам налічана зарплата! Увага, увага, вам налічана зарплата! – і хуценька кладзе трубку.

Праз некалькі хвілін званок. Гэта Карольчык. Адразу чуваць, як ён узбуджаны:

– Генадзь, мне званіў магнітны чалавек. Сказаў даюць грошы. Пакуль атрымаем, бяры ў Ізіды Лейбаўны дзясятку і бяжы па бутэльку. Я вярну ёй доўг... Бяжы!.. Бач, нікому манітны чалавек не пазваніў, толькі мне. А ты не верыш!..

...На тумбачцы каляндар. На ім дзве лустачкі хлеба, салёны агурок, пустыя шклянкі. Генадзь думае, што скажа жонцы, скуль у яго пах гарэлкі.

Карольчык трымае перад сабою газету “Правда” за шэсцьдзесят пяты год мінулага стагоддзя і гаворыць:

– У Казахстане я быў начальнікам студэнцкага атрада. У мяне было трыццаць машын, і таварыш Кунаеў, тады першы сакратар партыі, казахскай, павінен быў мне ўручыць медаль...

Пятрулька задуменна хітае галавой, і ўрэшце вырашае: раскажа жонцы, што яму таксама ўручаў казахскі партыйны сакратар медаль... І больш да Карольчыка ён – ні нагой. Вось толькі атрымае ён медаль...

– Я фашыстоўцаў жык-жык, жык-жык! – мармыча Карольчык, і хочацца пайсці ў атаку. Генадзь уяўляе, як пырскаюць агнём кулямёты, ляцяць ракеты. Яшчэ трошкі, і Гітлеру капут...



Ірына Бельская



...я пакінутая словамі
на полі бою...

# Быць іншаю...

* * *

Учора глеба апоўдні
Пахла кіслымі яблыкамі,
Пагрызенымі восамі.
Я помню:
Я йшла і плакала –
Цела – паедзена воспаю,
Душа – трохі д’ябламі.

Падпаленыя акуркамі,
Апоўдні гарэлі сметніцы –
І пахла лазняй паветра.
Праз кожныя пару метраў
Я думала: нешта зменіцца,
Спынялася пад падмуркамі,
Падала на калені
І нюхала глебу яблычную.
Я думала: праз імгненне

Быць іншаю пачну я,
І плакала.

Учора апоўдні – людзі
(ім вечна няма калі)
Не чулі мяне праз вушы,
Глядзелі ў мяне скрозь вочы.
Я думала: нешта будзе,
Думала, лепей крочыць –
Нават чакала радасці.
Здалося ж, і іх душы –
Пагрызеныя д'ябламі,
Прыкрытыя трохі святасцю,
Засыпаныя яблыкамі.

Апоўдні наступнага дня
І нават праз дзень апоўдні
(штодзень мой не быў горшым,
Хаця я і не апомнілася) –
Я не засталася адна:
Бо людзі прасілі грошы,
Казалі, што, можа, вернуць
Да нейкага там, да –

Наступнага, можа, месяца.
І кожнаму я – верыла,
Бо я іх зусім не ведала,
Іх першы раз нават бачыла –
І мне не было шкада:
Яны, як і я, не снедалі.
Дзе ў галаве змесцяцца...
Дый – мне ўжо яны аддзячылі,
Бо грошы – то ж так нямнога,
А ім ад мяне –
Нічога

Не трэба – а гэта шмат.
Я ехала ў аўтобусе
У яблыкавы сад.
Шчаняты адлізвалі ногі мне,
Бо бачылі мае слёзы
Яны і яшчэ пасажыры ўсе,
Прынамсі, напэўна, многія,
Усе – абыякава шчырыя.
А я ў парадку. Сур'ёзна.

* * *

я пакінутая словамі
на полі бою.

словаў няма болей,
а ў мяне не тое,
што няма ранаў,
нават пазногці не абламаныя.
проста здалася рана.
ляжу і маўчу я.
выратаваў бы хто –
дык ніхто ж не пачуе....

расплюшчваю вочы –
гляджу
ў столь проста –
хоць бы стогн...

“дзетка, куды ноч – туды й сон” –
сказала б мама.

* * *

Я не паэт, не мастак, не лінгвіст,
І не філосаф, і не гітарыст...
Гэта не лічыцца, гэта – не твор,
Гэта прыватны мой саматэрор,
Гэта мой танец на костках уласных –
Рэха насмешкі – чыстай і яснай...
Вочы зашыты,
Завязаны рот мой –
І не запэўніць у адваротным.

* * *

сонечнае ранне
расцеклася па
падваконні:
можа халодна стане
я мерзну
спрасоння
падоўгу
хаваю рукі
у цёплых шаліках
і пальчатках
стрыманыя
рухі
напачатку
зашываюся ў кут
снежня –
светлы і
пахне слівамі
вось табе – смешна –

а я –
шчаслівая

* * *

я такая мярзлячка
што зіма мяне ледзь пераносіць
падбіраецца да пераносся
і кусаецца
бы сабачка
я ўцякаю – дзе мандарыны
рассыпаюцца на паліцах
цынамонавы пах у крамах
бо ў набеленых снегам храмах
не ведаю
як маліцца
тут дзе цёпла –
даюць парады...
як я выйду да снегу ў дзверы?
калі скажаш, што ты мне рады –
я наўрад ці
табе паверу

* * *

*(для тых, хто ў душу лезе...)*

Плакалі птушкі ў снезе,
і ціха песню спявалі,
і дзюбамі цалавалі
хлеб у руках малога.
зямля – Богава падлога –
знікала з-пад майго цела,
А я ўсё на іх глядзела,
глядзела – і не стрывала,
кажу яму: хлеба мала.
Руку падала нясмела –
а хлеба сама не мела.
Ён кажа мне: не іначай,
і птушкі начамі плачуць
аб гэткіх, як ты, – бясхлебых,
вачыма глядзіш – ды слепа.
...і ўсюды не снег – а сажа.
Паплач з намі, – птушкі кажуць.
І дзе хоць сляза упала –
там хлеба цяпер кавалак.
..бо той, хто ў душу
лезе –
не плакаў з птушкамі ў снезе.



Ніл Гілевіч



...і адзін чалавек – гэта не мала,
калі ён з чыстым сумленнем
і непахісным верай...

# Адрынутыя

***Дзве п'есы***

## Нас падзялілі

*Трагедыя ў дзвюх дзеях*

Дзейныя асобы:

С ц я п а н – вясковы дзяцюк, гадоў 19-ці.
П а р а с к а – вясковая дзяўчына, гадоў 17-ці.
Л у ц э я – маці Сцяпана.

Першая дзея трагедыі адбываецца восенню 1920 года, другая – восенню 1939-га.

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Невялікая лясная палянка. На ўскрайку, пад бярозаю – тоўстая замшэлая калода. На калодзе – Сцяпан. Сядзіць і напружана глядзіць у той бок, адкуль павінна паявіцца Параска. І яна паявілася. Убачыўшы яе, Сцяпан падхапіўся з калоды і парыўна памкнуўся насустрач.

С ц я п а н. Чуць дачакаўся! *(На долю хвіліны прыгарнуў дзяўчыну да сябе.)* Ніколі так не чакаў, як сёння. *(Устрывожана).* Парасачка, у цябе... заплаканыя вочы. Што здарылася?

П а р а с к а *(усхліпнула і паднесла да вачэй насовачку).* Ты ж ужо ведаеш, што здарылася... Разлучаць нас скора, Сцёпа. Ты будзеш жыць пад бальшавікамі, а я – пад палякамі.

С ц я п а н *(яшчэ больш спахмурнеўшы, не адразу).* Парасачка... Хочуць нягоднікі нашу зямлю, нашу Бацькаўшчыну падзяліць між сабою. Парэзаць напалам. Я думаў, што ты яшчэ не чула пра гэты іх намер, дык скажу і параюся, як нам цяпер быць. Хадзі прысядзем...

Садзяцца на калодзе, і ён і яна – трохі наўскасяк, каб тварам да твару.

П а р а с к а *(раз-пораз падносячы да вачэй хусцінку).* Тата сказаў, што зусім скора правядуць мяжу і паставяць з двух бакоў варту, і нават калючым дротам адгародзяць, каб ніхто прайсці не мог *(мацней захліпаўшы).* І мы не зможам бачыцца, Сцёпа, не зможам!..

С ц я п а н *(прачула, ласкава, разважліва).* Не плач, Парасачка, не плач, яшчэ можа і абыйдзецца. Наш настаўнік, Іван Піліпавіч, сказаў, што мяжа можа трохі і пасунуцца туды або сюды, пакуль не ўстановіцца канчаткова. Сказаў, што па згодзе тых і тых нейкі кавалак тэрыторыі можа адысці пад Польшчу, а нейкі – пад Расію.

П а р а с к а *(глядзіць Сцяпану ў вочы і круціць галавой).* Не, Сцёпачка, не, так не будзе. Чую сэрцам, што так не будзе, не будзе. Разлучаць нас, разлучаць чужынцы. Ізноў усхліпвае і закрывае твар далонямі.

С ц я п а н *(памаўчаўшы).* Тады... тады нам застаецца толькі адно: пажаніцца – пакуль нас не падзялілі мяжою...

П а р а с к а *(кладзе далонь на руку Сцяпану).* Сцёпа, ды што ты!.. Хіба гэта так хуценька робіцца? Гэта ж... гэта ж трэба... ну што ты, Сцёпачка! А сватанне? А заручыны? Твая ж маці яшчэ і не бачыла мяне, можа, не ўзлюбіць...

С ц я п а н. Во прыдумала: не ўзлюбіць! Яшчэ як узлюбіць! Такую, як ты, і не ўзлюбіць? *(Параска шчасліва ўсміхаецца).* Я наперад ведаю, што ты ёй спадабаешся.

П а р а с к а. Але ж мы яшчэ зусім маладыя, Сцёпа! Мне ж яшчэ толькі сямнаццаць гадочкаў!

С ц я п а н. Дык гэта ж не мала! Мая мама казала, што яе ў няпоўных сямнаццаць замуж аддалі. Казала, зусім яшчэ была дзеўчанё і надта плакала ад страху, што яе ад бацькоў забіраюць.

П а р а с к а. І мне страшна падумаць, што я пакіну маму і тату... *(Спахапіўшыся).* Пачакай, Сцёпа: Ты ж казаў, што збіраешся восенню паступаць у семінарыю на вучобу, хочаш настаўнікам стаць, такім, як Іван Піліпавіч...

С ц я п а н. Хацеў бы, канечне... І Іван Піліпавіч дакляраваў пазаймацца са мною, падрыхтаваць да экзаменаў...

П а р а с к а. Вось бачыш! А ты – пра жаніцьбу загаварыў...

С ц я п а н. Загаварыў, бо... Бо калі нас раздзеліць дзяржаўная граніца, дык мне і тая вучоба будзе нямілая. Тады я не ведаю, што зраблю... Не ведаю! *(Усё больш напружаным голасам).* Але – папомшчу! Моцна папомшчу ворагам, калі яны зруйнуюць маё шчасце.

П а р а с к а *(устрывожана)*. Сцёпа... не кажы так... а то мне страшна.

С ц я п а н. Ці бач – яны дамовіліся між сабой разрэзаць па жывому нашу Бацькаўшчыну! Беларусь напапалам разрэзаць! А ў мільёнаў нашых людзей вы спыталі? Ага, ім, ці бач, напляваць на тое, чаго хочам мы самі, беларусы! Але ж і драпежнікі! Але ж і гарлахваты!..

П а р а с к а *(кранае далонню руку Сцяпана, нягучна, пяшчотна)*. Сцёпа... ты такі прыгожы... Асабліва, калі во так гаворыш... Звычайна, калі чалавек моцна злуецца, дык робіцца непрыгожым, а ты... а ты – наадварот...

С ц я п а н *(усміхнуўшыся)*. Гэта залежыць ад таго, якая злосць – ці справядлівая... Ну як жа! Я, ведаеш, прызнаюся табе... я столькі разоў марыў, як мы пабяромся з табою і будзем разам тварыць сваё шчасце самі... Самі! Ты і я! Помніш, я прыходзіў з кнігай, якую мне даваў Іван Піліпавіч... І чытаў табе паэму Янкі Купалы “Яна і я”. Магу цяпер прызнацца, што я наўмысна чытаў табе гэту паэму... Ну, каб ты здагадалася, што і я мару пра такое шчасце, пра такое жыццё, каб усё разам, каб усё так, як у іх: у яго і яе...

П а р а с к а *(шчаслiва любуючыся Сцяпанам)*. А я здагадалася, тады ж, адразу, што гэта ты наўмысна для мяне чытаеш... Чытаеш – і ўсё падымаеш на мяне вочы, ці разумею я. А некаторыя радкі нават паўтараў, каб я лепш зразумела і запомніла. А я і запомніла. *(Дэкламуе)*.

Ой, брала вясна ў сонца ключы,
Адмыкала сырую зямліцу,
Пускала на свет траву-мураву,
Адзявала ў лісце бярозы...

Сцёпа, як гэта можна так прыгожа прыдумаць: “Ой, брала вясна ў сонца ключы – адмыкаць сырую зямліцу”?

С ц я п а н *(замілавана гледзячы на Параску)*. Дык жа на тое і паэт! Абы хто так не прыдумае.

П а р а с к а. І яшчэ – закліанне. Помніш, я нават папрасіла цябе прачытаць яшчэ раз... Заклінанне для маладых – яго і яе – ад усякага зла, каб былі шчаслівыя. Помніш?

А каб вас злыя не змаглі заломы!
А каб не знаЛі душы вашы ран!
А каб вас не кранулі буры, громы!
А каб к сабе не звабіў вас курган!..

Я тады, помніш, не зусім зразумела, як гэта “каб не звабіў курган”, і ты мне патлумачыў, што гэта значыць “каб не ўзяла магіла”.

С ц я п а н. Ну так: каб не ўзяла дачасна смерць. Курганом у даўнія часы называлі магілу, магільны насып. Калі дзе ў полі курган – значыць, там нехта пахаваны. Вялікі курган насыпалі на магілу ваяроў, якія загінулі ў бітве. Гэта нам у школе Іван Піліпавіч тлумачыў.

П а р а с к а. Як ты многа, Сцёпачка, ведаеш! Як бы і я хацела яшчэ пахадзіць у школу! Мне так падабаецца вучыцца!

С ц я п а н. Дык і павучышся! Цяпер у нас усё пойдзе інакш – усе правы атрымаюць простыя бедныя людзі.

П а р а с к а. У нас? Дык я ж ужо буду жыць пад палякамі! А як нам будзе пад іх уладай – адзін Бог ведае!..

С ц я п а н *(спахапіўся, спахмурнеў)*. Прабач... ледзь не забыўся, што здарылася, і што нас чакае... Пад палякамі... Трыста гадоў панавалі тут – дык мала! Дай яшчэ тут раскашавацца! Толькі абнадзеіліся, толькі пачалі думаць, як будзем самі будаваць сваю беларускую дзяржаву – дык на табе! Ведаеш, у мяне ўсё проста кіпіць во тут, у грудзёх. Што гэта яны надумалі – бальшавікі з пілсудчыкамі?!.. *(Замаўчаў. Апусціў вочы долу.)*

П а р а с к а *(памаўчаўшы)*. Пайду я ўжо, Сцёпа. Я ж не сказала дома, куды пайшла, хвалявацца будуць, дзе дзявалася...

С ц я п а н. Дык, можа, трэба было сказаць?..

П а р а с к а (усміхнуўшыся). Пасаромелася... Дый мама крыку нарабіла б...

Абое ўстаюць з калоды.

С ц я п а н (рашучым тонам). І я пайду з табой.

П а р а с к а. Куды?

С ц я п а н. Да вас. Да тваіх таты і мамы.

П а р а с к а *(са здзіўленнем)*. Да нас?.. Як... да нас? Чаго?

С ц я п а н. Скажу тваім бацькам, што заўтра ж прышлю сватоў. Заўтра ж! Пакуль не разгарадзілі граніцай.

П а р а с к а *(устрывожана)*. Здурнеў ты, Сцёпа! Што ты гаворыш? Заўтра – сватоў? Ды тата і слухаць цябе не стане! І з хаты выганіць!

С ц я п а н. Не выганіць. Хіба я з нечым нядобрым прыду? З вельмі добрым. Прыду і скажу: я кахаю вашу дачку – як ніхто ў свеце не кахаў! Скажу: чуеце? Ніхто ў свеце! І я хачу з ёй пажаніцца! Вось! (Аж сам збянтэжыўся ад гэтакіх сваіх слоў).

П а р а с к а *(шчаслівa ўсхваляваная)*. Першы раз чую ад цябе такія словы. Першы раз!.. Ой, аж чуць не задыхнулася!.. Ніколі яшчэ ты мне не казаў такога...

С ц я п а н. А ты і без маіх слоў гэта ведала.

П а р а с к а. Не, Сцёпачка, не ведала!.. Ведала, што можа, трохі, але... што аж гэтак – не ведала.

С ц я п а н (усміхаючыся). Павінна была ведаць! Хіба не бачыла?

П а р а с к а. Бачыла, але... Але каб аж гэтак... Ой, Сцёпа, я, відаць, яшчэ не разбіраюся, яшчэ мала пажыла на свеце, і ты не крыўдуй, калі ласка...

С ц я п а н. Не бойся, не закрыўдую... Разбярэшся... *(бярэ ласкава за руку)*. Дык хадзем! Адкладаць няма куды...

П а р а с к а. Сцёпа! Я ж ужо сказала: і не думай! Тата і мама і слухаць цябе не стануць! Па-першае, я для іх яшчэ дачушка-пястушка, ну, яшчэ зарана пра замужжа думаць... Па-другое, я ведаю, што скажа тата: пакуль не абазначыцца граніца – і гаворкі не можа быць! Бо калі граніца пройдзе тут, дзе спыніліся войскі, дык што ж будзе? Што тата і мама аддаюць мяне замуж за граніцу. Сваю адзіную дачку – за граніцу! Ты толькі ўдумайся: сваё роднае дзіця – за граніцу! Тата скажа: пачакаем, пакуль усё стане пэўным. А можа ж, дасць Бог, і адсунецца граніца далей, і ваша вёска і наша апынуцца па адзін бок...

С ц я п а н *(крыху раздражнёна)*. А што скажа твой тата, калі не па адзін, а па два бакі граніцы, і калі надоўга? А можа і назаўсёды? Што тады?

П а р а с к а *(амаль жаласна)*. Не ведаю, Сцёпачка... Але я буду ча-

каць, буду доўга-доўга чакаць... А можа, усё перайначыцца. Ты ж сам мне расказваў, што Польшча была больш за сто гадоў пад Расіяй у няволі, а во, бачыш, вызвалілася. І нават сама пайшла вайной на Расію, і во колькі захапіла.

С ц я п а н. Усё ж я прыйду да вас. Не сёння, і не адзін. Можа, заўтра, ці пазаўтра. Прыйду са сватамі. Хай яны пагавораць з тваімі бацькамі. Людзі сур'ёзныя, вядомыя, хай пагавораць. А ты скажы маме і тату, што мы прыйдзем, скажы. Каб не было знянацку, каб было, як трэба, як у нас адвеку рабілася...

П а р а с к а *(з мальбой у голасе)*. Не трэба, Сцёпачка, не трэба. Так будзе горш. Тата адмовіць сватам, адмовіць! І ты пакрыўдзішся, што, маўляў, зганьбавалі... І я кончуся ад перажывання... Не трэба цяпер, не трэба! Ну, давай пачакаем!..

С ц я п а н. Нічога я не пакрыўджуся. І буду думаць пра цябе яшчэ больш! Кожны дзень – кожную хвіліну буду думаць! Не, ты не ведаеш, што са мной робіцца. Не ведаеш!..

Параска закрывае твар далонямі. Плечы пачалі ўздрыгваць. Яна плача.

Хадзем, я трохі правяду цябе. І не плач, калі ласка, не плач... Сапраўды, можа, яшчэ ўсё пераменіцца... А пра сватоў ты скажы бацькам, скажы. Не саромейся. Тата і мама ўсё зразумеюць, як трэба... Хадзем!..

Параска выцірае хусцінкай вочы. Сцяпан кранае яе за локаць, бярэ ў руку яе далоньку і яны моўчкі пакідаюць палянку.

З а с л о н а

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Першая – "чорная" – палавіна вясковай хаты. У куце, зусім блізка ад дзвярэй, стол, за сталом – услон і табурэтка. На канцы ўслона, скраю стала, сядзіць старая жанчына. У адной руцэ ў яе нахілены збан, у другой – драўляная лыжка, якой яна чэрпае са збана прастаквашу. Гэта – Луцэя, маці Сцяпана. У дзверы хтосьці пастукаў. Луцэя падняла галаву, паставіла роўна збан і паклала лыжку. Бразнуўшы клямкай, дзверы адчыніла і зайшла ў хату зграбна, як на свята, апранутая маладая жанчына, у вобліку якой без цяжкасці можна пазнаць Параску.

П а р а с к а. Добры дзень вам у хату.

Л у ц э я. Дзень добры.

Нейкую долю хвіліны моўчкі глядзяць адна на адну.

П а р а с к а. Прабачце, што так нязвана-няпрошана да вас...

Л у ц э я. Нічога. Добраму чалавеку я заўсёды рада... Праходзьце, сядайце. Ці на ўслоне, ці на табурэтцы, дзе вам зручней...

П а р а с к а *(не адразу, як бы сабраўшыся з духам)*. Я – з Панышоў, Параска...

Л у ц э я *(не адразу)*. Параска?

П а р а с к а (не зводзячы вачэй з Луцэі). Параска...

Л у ц э я *(захваляваўшыся)*. Тая, што...

П а р а с к а. Тая, цётка Луцэя, тая... Другой у нашых Панышах не было і няма.

Л у ц э я *(імгненна, на поўны голас, закрычала-загаласіла)*. Сцёпачка! Сыночак мой!.. А дзе ж ты прапаў, мой родненькі? А ты ж паглядзі, хто прыйшоў у нашу хатачку! А ты ж так хацеў, каб яна была тут за гаспадыньку за маладзенькую!..

Параска кідаецца да Луцэі, абдымае яе і сама заходзіцца горкім плачам.

П а р а с к а. Цётачка Луцэя, не трэба так, як па нябожчыку, а то ў мяне сэрца разарвецца... Ён вернецца, яго адпусцяць – і вернецца... вернецца!..

Л у ц э я. А хто ж табе сказаў, што яго забралі?

П а р а с к а. Яшчэ тады даведалася, адразу ж. Тата ў віленскай газеце вычытаў... Там былі пералічаны многія і сярод іх – малады вучоны Сцяпан Барэйка. Я не сумнявалася, што гэта ён, бо ўжо ведала, што ён піша... З віленскіх і беларускіх газет ведала, якія тата выпісваў, – доўга, аж пакуль іх польскія ўлады не забаранілі... А ці былі вам яго вестачкі – пасля таго, як забралі?..

Л у ц э я. Спачатку, хоць рэдка-рэдка, прыходзіла маленькае пісьмо, некалькі радочкаў, што жывы, здаровы, што праз пяць гадоў вернецца з таго Сібіру дадому, у Мінск... А пасля перасталі прыходзіць гэтыя лісточкі, зусім перасталі. Ужо гады чатыры – каб хоць як-небудзь азваўся! Нічога! Як у ваду кануў... Божачка мілы... Усе вочы праплакала, чакаючы. Усё сэрцаператлела ад болю. Уся галоўка мая ўсохлася ад думачак... *(Замаўчала)*.

П а р а с к а. Цётка Луцэя... Прабачце, што пра такое пытаюся... Тады, як яго забралі, ці меў ён сям'ю, ці...

Л у ц э я *(скрушна паківаўшы галавой)* Сям'ю... *(цяжка уздыхнула)*. Не было ў яго сям'і, не было. І ты, золатка, ведаеш чаму... Пакуль ён вучыўся ва ўніверсітэце, я маўчала. А тады пачала пытацца: а што ж ты, Сцёпачка, не жэнішся? Ужо ж гады! Ці ў Мінску нявест бракуе? А ён кажа: “Не магу, мама, не магу: мяне чакае ў Панышах Параска...”

Параска ўскрыкнула – затрэслася ад плачу.

Я кажу яму: “Дык Панышы ж ужо шмат гадоў за граніцай! І колькі ж яна будзе цябе чакаць?” А ён... ведаеце, што ён сказаў? “Граніца не вечная. Не за гарамі час, калі яна будзе змецена”. Так і сказаў: Змецена! Надта ж ён не любіў тых , што правялі гэту граніцу. Яшчэ як толькі пачаў вучыцца ў тэхнікуме і прыехаў дадому на канікулы, дык да яго прыйшоў, помню, настаўнік, Іван Піліпавіч. Яны сябравалі, хоць той і нашмат старэйшы быў. Дык Сцёпа расказаў яму надта складна напісаны сцішок – пра гэту граніцу. Іван Піліпавіч, помню, папрасіў Сцёпу расказаць яшчэ раз. А тады сам, седзячы во там, дзе вы сядзіце, шмат разоў паўтараў адзін слупок з таго сцішка. Я і сама трохі запомніла: “Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы! Цёмных дарог махляры!” Я сядзела во там, каля печы, і ўсё чула, што яны гаварылі, хоць і не ўсё разумела. Помню, як Іван Піліпавіч, хістаючы галавой, прымаўляў: “Які малайчына, дзядзька Якуб! Які малайчына!” Калі настаўнік пайшоў, я спытала Сцёпу: “Якога гэта Якуба ён так хваліў?” І Сцёпа адказаў: “Якуба Коласа, мама. Нашага вялікага паэта. Гэта ён вучыць нас маладых, як трэба бараніць свой край ад чужынцаў.” Во так і адказаў *(замаўчала)*.

П а р а с к а *(глыбокім прачулым голасам)*. Каб вы ведалі, цётка Луцэя, як я яго любіла! Даруйце мне праўду маю – і дагэтуль люблю.

Л у ц э я *(відочна здзіўленая)*. А хіба ж сама не замужняя?

П а р а с к а. Замужняя... Ужо і аўдавела. Шмат гадоў я чакала, што, можа, здарыцца нешта – і граніца між намі згіне... Нават не пералічу, колькі хлопцаў прыходзіла сватацца... Ну, а як прачытала ў газеце, што Сцяпана забралі – сілы мае кончыліся, больш пярэчыць бацькам не змагла... Аддалі замуж як непрытомную... Скарылася лёсу... Пашкадавала маму, бо надта яна мучылася, на мяне гледзячы... Які быў шлюб – такое было і жыццё замужам... Хай мне Бог даруе, ведаю, што гэта вялікі грэх, але... жыла з адным, нелюбімым, а думала пра другога. І ўдзень і ўначы... Думала і бачыла, заплюшчыўшы вочы, Сцёпу. Толькі Сцёпу...

Л у ц э я *(сашчэпліваючы рукі)*. А дзіцятка маё дарагое! А золатка маё! Божачка, што я чую! І за што ж нам такое пакаранне! *(Перадыхнуўшы)*. А што з тваім чалавекам стала, што такая маладая аўдавела?..

П а р а с к а. Загінуў. На гэтай вайне. Быў мабілізаваны ў польскае войска, як яна пачалася. Нашы, панышоўскія, што былі з ім разам, бачылі яго смерць. Пад нямецкую бомбу трапіў. Казалі: на шматкі парвала. Там жа недзе і закапалі, у адной яме з іншымі. Недзе пobліз Гдыні, казалі...

Хвіліна маўчання. Жанчыны сумнымі заслязёнымі вачамі глядзяць адна на адну.

Л у ц э я. А дзеткі ёсць?

П а р а с к а. Ёсць. Дачушка. Ужо сёмы гадок пайшоў. Была яшчэ адна – памёрла адразу ж пасля родаў...

Л у ц э я. А жывеш – з яго бацькамі, ці асобна?

П а р а с к а. Пакуль што ў іх... але, відаць, буду вяртацца ў сваю. Мама зусім схварэлая, патрэбен пастаянны догляд, і тата адзін не спраўляецца. І гаспадарку весці, і хворую маму глядзець.

Л у ц э я *(скрушна)*. Усе гаруюць... Усе кругом гаруюць... А найбольш гора – праз гэтыя войны. Калі б тады, у дваццатым, не вайна з палякамі – не было б тут граніцы, і ўсё магло б быць іначай, – і пэўна мела б я цябе за нявестачку, і ўсе мы былі б шчаслівыя. Ты мне, золатка, надта падабаешся, нутром бачу, якая ты чыстая. Не дзіва, што мой Сцёпачка палюбіў цябе; ён і сам быў чысты, кругом чысты.

П а р а с к а. Цётка Луцэя, што я вас хачу папрасіць... Можа, цяпер, калі скончылася і гэтая вайна, можа, Сцяпан прышле вам хоць якую вестачку пра сябе... То перакажыце як-небудзь мне... Або дазвольце мне прыходзіць да вас – калі будуць пускаць свабодна. Бо сёння толькі пад гарантыю майго таты пусцілі, з ім новая ўлада трохі лічыцца...

Л у ц э я. Прыходзь, золатка, калі ўздумаеш – тады і прыходзь. Можа, і азавецца мой сыночак, можа ж не загубілі яго ў тым Сібіру... *(Як бы спахапіўшыся)*. Парасачка, ты ж, можа, не ведаеш... У нас пра тых, каго забралі, уголас на людзях гаварыць няможна, толькі між сабой дома. На людзях гаварыць забаронена. Адно начальства на сходах гаварыла, абзывала ворагамі народа. А простыя людзі павінны маўчаць – ні скардзіцца, ні папракаць, ні, крый Бог, нядобра гаварыць пра ўладу. Дык ты ўжо глядзі, Парасачка, лішняга нічога не кажы пры людзях, бо людзі ёсць усякія, ой якія ўсякія!.. І што ў мяне пыталася пра Сцёпу – не прагаварыся. Беражонага Бог беражэ. Такое жыццё, Парасачка...

Параска, колькі слухала, ківала галавой: маўляў, усё разумею.

П а р а с к а *(цяжкім апалым голасам)*. Такое жыццё, што нават слова сказаць нельга... Дык а як жа ў такім жыцці жыць? Як жыць? Моўчкі? Зусім моўчкі? (праз доўгую паўзу). Пайду я ўжо, цётка Луцэя, пайду маўчаць. *(Устае з услона і падыходзіць да Луцэі, якая таксама ўстала. Падае перад Луцэяй на калені, хапае ў рукі яе далонь і некалькі разоў моцна цалуе)*.

Л у ц э я *(у відавочным узрушэнні)*. А божачка!.. А дзіцятка маё! А за што ты цалуеш гэтыя чорныя рукі? За што?

П а р а с к а *(падняўшыся з каленяў)*. За Сцёпу, цётачка... За тое шчасце, хоць і кароткае, якое я зведала, калі мы сустракаліся... Якая была шчаслівая! Толькі памяццю пра тое і жыву, і трымаюся... Дзякую, цётка Луцэя, дзякую!.. *(Прыхінаецца да Луцэі і цалуе яе ў вусны)*.

З а с л о н а

*2001-2011*

# Адрынуты

*Драма ў дзвюх дзеях*

Дзейныя асобы:

Б а г о в і ч – вызвалены пасля адбыцця тэрміну пакарання, “вораг народа”. 34 гады.

Ш у л я к – старшыня калгаса. Каля 40 гадоў.

М а р ы л я – жонка Шуляка, сястра Баговіча. 38 гадоў.

Ж а б р э ц к і – пісьменнік, журналіст, сябар Баговіча ў маладосці. 35 гадоў.

В е р а – журналістка. 26 гадоў.

На календары – верасень 1946-га.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Бедная пасляваенная вясковая хата, не перабітая на пакоі. Усё разам: печ, стол, услоны, ложкі, табурэткі... Ускрай стала, засланага белым абрусом, сядзіць на ўслоне Марыля і перабірае ў рэшаце шчаўе. Дуддзе і звялыя калівы адкідвае ў міску. Заходзіць Шуляк – у вельмі добрым настроі.

Ш у л я к *(радасна, гучна)*. Ну, віншуй, Марылька! Прагаласавалі аднагалосна. Праз тыдні два на Бюро Райкома зацвердзяць – і ўсё! І Браніслаў Пятровіч Шуляк – член ВКПБ.

М а р ы л я. Дык і віншую, Бронічак! *(Адстаўляе рэшата са шчаўем убок)*. А зацвердзяць? Там жа, мусіць, вельмі строга?

Ш у л я к. Не сумняваюся! Па-першае, – франтавік, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі, па-другое, мой калгас – адзін з лепшых у раёне. Так што – даставай бутэльку гэнай гары і, як любіць казаць Вінцук, лыкнем па чарчыне. Прычына важная!

М а р ы л я *(усміхаючыся)*. Дзве прычыны. І другая важная.

Ш у л я к (глядзіць запытальна на жонку). Якая – другая?

М а р ы л я. А такая, што Барыс прыехаў.

Ш у л я к (крыху апалым голасам). Які... Барыс?

М а р ы л я. Ну які ж! Брат мой! Вярнуўся з Сібіру на Радзіму. Адгараваў бедненькі.

Ш у л я к *(зусім не ўзрадаваўшыся)*. Барыс?.. Дык а дзе ён?

М а р ы л я. Выйшаў глянуць на сядзібу нашу... Зараз прыйдзе.

Ш у л я к *(памаўчаўшы)*. А як ён вярнуўся? Судзімасць з яго знялі – не казаў?

М а р ы л я. Не знялі. Проста адбыў тэрмін, і адпусцілі... Без права жыць у вялікіх гарадах...

Ш у л я к *(пахмурнеўшы тварам)*. Значыць, кляймо “ворага народа” за ім засталося...

М а р ы л я. Ты ж ведаеш, які ён вораг народа. Нізашто адпакутаваў.

Ш у л я к. Я то, дапусцім, ведаю, але... людзі не ведаюць. У вачах людзей ён... Як казалі і кажуць: нізашто, без віны, не садзілі... Усё роўна ж на яго будуць глядзець як на ворага, які атрымаў па заслугах. Каб гэта яго рэабілітавалі, прызналі невіноўным...

М а р ы л я *(усхліпнуўшы, выціраючы вочы хустачкай)*. Барыс вельмі перажывае за гэта... Ты ўжо падтрымай яго, Бронік, хоць добрым словам падтрымай... Сказаў, што надта хоча вярнуцца ў літаратуру. На працу ў часопіс, кажа, не прымуць, але каб хоць пісаць і друкавацца, як раней. Для яго ж пісанне – гэта ўсё, увесь сэнс жыцця... Ідзе... Ідзе наш гаротнічак...

Заходзіць Баговіч. Убачыўшы Шуляка – шырока, радасна заўсміхаўся.

Б а г о в і ч. Бронік! Швагрусь мой даражэнькі! *(Парыўна ступае да Шуляка і горача абдымае яго)*. Ну, здароў, браток, здароў! Дай і яшчэ раз прыгарну цябе! *(Моцна абдымае Шуляка)*.

Ш у л я к. Здароў, здароў, Барыс! Рад бачыць цябе на свабодзе. А ты, я гляжу, трохі змяніўся. Пастарэў. Нават сівізна вылезла.

Б а г о в і ч. Дык жа не на курорце быў, братачка! Дзе быў і як было – прыйдзе час – раскажу. Там пастарэеш! Дарэчы, і ты не памаладзеў, таксама не соладка было. Дый цяпер, відаць, нялёгка. Пасля такой небывалай у свеце вайны...

Марыля тым часам паставіла на стол бутэльку самагонкі і закусь.

М а р ы л я. Дык сядайце, мужчынкі! Адзначым аж дзве радасці адразу. За сталом і пагутарым.

Б а г о в і ч. Ага! Як сказала Маня пра дзве радасці, я зразумеў, што цябе можна павіншаваць: прынялі? Віншую, Браніс, віншую! Гэта – выдатна. Малайчына, што набываеш актыўную пазіцыю, малайчына! Між іншым, за тыдзень да арышту мне прапанавалі паступіць у партыю. Я ад нечаканасці аж разгубіўся: ці варты я гэтага гонару? Кажу: дайце трохі падумаць... На тым і скончылася.

Садзяцца за стол. Шуляк налівае ў шклянкі мутнаватую вадкасць.

Ш у л я к. Дзяржаўнай няма. Самапёрка. Магазінную толькі ў Мінску іншы раз пробую. Тут няма. Ну, дык за сустрэчу, за тваё вяртанне!

Б а г о в і ч. Не, я хачу спачатку за тваю сённяшнюю радасць выпіць. Гэта, брат, не проста радасць, гэта – твой лёс. Ты назаўсёды звязваеш сваё жыццё з партыяй!..

М а р ы л я. Не аддзяляйце адну радасць ад другой! Вып'ем за абедзве адразу.

Ш у л я к. Во якая мая Міхайлаўна разумніца! Што значыць настаўніца!.. Ну, давайце! За наша мілае здароўе!

Выпіваюць. Закусваюць. Праз хвіліну Шуляк налівае ў шклянкі зноў.

Давайце паўторым. Дзве радасці – дык і дзве чаркі ўзапар! Прашу!

Выпіваюць. Закусваюць.

М а р ы л я *(падкладаючы мужчынам закусь)*. Ты, Барысок, і ад чаркі, відаць, адвык за гады няволі?

Б а г о в і ч. А я ж і не быў прывыкшы да яе! Хіба не помніш? Я не ўлягаў у гэту смакату і тады, да гора-няшчасця.

Ш у л я к. І што ж ты думаеш рабіць тут, на Радзіме, як жыць з "воўчым білетам"? Табе ж пісаць і друкаваць не дадуць. Ці, можа, дадуць?

Б а г о в і ч *(адразу ж перамяніўшыся тварам)*. Пісаць... Пісаць – не забаронена нікому. А вось ці будуць друкаваць мяне... пажывем – пабачым. Паеду заўтра ў Мінск, у Саюз пісьменнікаў. Што скажа старшыня, ён мяне ведае з маладосці. Ведае, што я і на макавае зерне не вінаваты перад савецкай уладай. Усё, што я пісаў, усё да апошняга радка, – было прысвечана ўслаўленню нашага жыцця, усё працавала на перамогу сацыялізму. Усё! Не ведаю, хто яшчэ з маладых беларускіх пісьменнікаў так верна служыў нашаму ладу, нашым камуністычным ідэям, як я! І вось – нейкая свалата напаклёпнічала, захацела з'есці мяне.

Ш у л я к. Дык калі ты не адноўлены ва ўсіх правах і ты застаешся з кляймом "ворага народа", дык якую табе могуць даць работу, якую пасаду?

Б а г о в і ч. Дарагі мой Браніслаў Пятровіч! Ну пасаду падмятайлы ці конюха на калгаснай стайні – дадуць? Ну і буду працаваць, зарабляць на хлеб.

Ш у л я к. Конюха?.. А гэта яшчэ пытанне. Могуць і не даверыць. Каб як замаскаваны вораг народа не загубіў табун.

М а р ы л я. Бронісь! Апомніся, што ты гаворыш! Ды яго прымуць нанава ў Саюз пісьменнікаў! Разбяруцца – і прымуць! Не могуць такога патрыёта, такога чыстага душой – не прыняць!..

Б а г о в і ч. Маня!.. Давайце пра іншае... Раскажыце, як вы тут... Як вам было пад немцамі? Як цяпер жывецца? Як калгас трымаецца? Раскажыце. Хоць трохі.

Ш у л я к *(прыкметна ахмялелы)*. Пад немцамі? Змагаліся! Спачатку ў партызанах, а тады на фронце. Да Берліна дайшоў! І ордэн маю. І медалёў – паўтузіна. А як жывём сёння? Ну, яшчэ не па поўнай меры. Але – не гэта галоўнае. Галоўнае – настрой у трудзяшчых. Ты знаеш, які настрой у трудзяшчых! А чаму? А таму! Фашыстаў перамаглі? *(Уставіўся на Баговіча)*. Я ў цябе пытаюся: перамаглі ці не?

Б а г о в і ч. Перамаглі, Міхайлавіч, а як жа! Не маглі не перамагчы.

Ш у л я к. А-а-а! Вось іменна! Цяпер ідзём далей. Калгасы аднаўляем? Я ў цябе пытаюся: аднаўляем ці не?

Б а г о в і ч. Аднаўляем, вядома. Дзякаваць Богу, патроху аднаўляем.

Ш у л я к. А-а-а! Вось іменна! Аднаўляем. Становімся на ногі! Цвёрда! А Мінск з руін падымаем, га? Падымаем, ці не?

Б а г о в і ч. Падымаем, вядома. Трэба ж, каб і жыць было дзе, і працаваць.

Ш у л я к. А-а-а! Вось іменна! Вось чаму і настрой у трудзяшчых! Як любіць гаварыць наш Якімчык: суцэльны пафас! А дзякуючы каму мы перамаглі, га? А дзякуючы каму мы аднаўляем і падымаем, га? Гэта ты разумееш, ці не? Я пытаюся: разумееш?

М а р ы л я. Ну што ты прычапіўся са сваімі пытаннямі? Супакойся!

Ш у л я к (прыстукнуўшы рубам далоні па стале). Не лезь, Маня! Не перабівай! Як той Агрэгат кажа: мне вашы рэплікі не патрэбны! Дык вось я пытаю: ты разумееш, дзякуючы каму ўсё гэта? Разумееш?

Б а г о в і ч. Разумею, канечне! Гэта кожны савецкі чалавек разумее.

Ш у л я к. А-а-а! Вось іменна! Тады – у гонар таго, каму мы абавязаны перамогай – пяём песню! Маю любімую! Самую любімую! Яшчэ з фронту! *(Запявае).*

Арцілярысты! Сталін даў прыказ!
Арцілярысты! Завёт атчызна нас!..
І з соцень тысяч батарэй
За слёзы нашых мацярэй,
За нашу Родзіну – агонь! агонь!

*(Да Баговіча).* А ты чаму не пяеш?

Б а г о в і ч. Дык я ж... не спяваю наогул. З малалецтва. Слыху не маю. Абдзяліў Бог мяне гэтай радасцю.

Ш у л я к. Ну, ты гэта кінь! Не прызнаю̀ твайго апраўдання! На любую іншую песню слыху можна не мець, а на гэту – слых павінен быць!

М а р ы л я. Бронісь! Ну сказаў жа Барыс, што ён не спявае наогул. Дык чаго ты?

Ш у л я к. Не! Яшчэ раз заяўляю: не прызнаю̀! Песню пра Сталіна павінен пець кожны – хоць і праз не магу, і не маючы голасу. Толькі ворагі савецкай улады не пяюць у гонар творца ўсіх нашых перамог!..

Б а г о в і ч *(пакрывіўшы твар як ад болю).* Прабач, Бронісь, я, відаць, залішне выпіў з непрывычкі; нешта мяне замуціла. Дазвольце, я выйду. *(Падымаецца і выходзіць).*

М а р ы л я *(да мужа, з дакорам).* Эх ты!.. Во не чакала ад цябе гэтага. (Выходзіць таксама).

Ш у л я к *(незадаволена).* Хм! Яна не чакала! А калі праз яго лясне маё паступленне ў партыю? Вось тады і будзе "не чакала"! І трэба ж было яму іменна цяпер аб'явіцца! Ну хоць бы на месяц ці на два пазней! А цяпер што? Ад людзей жа не ўтоіш! Разыйдзецца, што Шуляк водзіцца з былым палітычным асуджэнцам. З лагера выпусцілі, але ж правоў не вярнулі, не рэабілітавалі... Значыць, ніякага даверу не будзе. Вось табе і "не чакала"! Усе кругом ужо былі даўно забыўшыся, што ў мяне ёсць швагер з кляймом ворага... І вось – на табе! Аб'явіўся! Якраз тады, калі ўсё так добра пачало складвацца. Ну, буду спадзявацца на лепшае. Можа, і

не нададуць значэння, што ў мяне такое сваяцтва... *(Як бы спахапіўшыся)*. Ну, што там яны? Сапраўды стала дрэнна?.. Пайду гляну... *(выходзіць)*.

Заслона

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Адзін з пакойчыкаў рэдакцыі рэспубліканскай газеты. Звыклая для першых пасляваенных гадоў цеснаце: чатыры пісьмовыя сталы амаль упрытык. За адным сядзіць над паперамі Жабрэцкі. За другім, па суседству, – Вера, нешта піша. Чуецца нягучны стук у дзверы. Жабрэцкі не звярнуў увагі. Вера падняла вочы. Заходзіць Баговіч.

Баговіч. Добры дзень у хату!

Жабрэцкі *(звыкла-абыякава буркнуў)*: Добры дзень.

Вера *(падкрэслена ветліва, таксама па звычцы)*. Добры дзень!.. Вы да каго, прабачце?

Баговіч *(кінуў на Веру вокам, усміхнуўся і рушыў да стала Жабрэцкага)*. Ляксей! Сябра мой дарагі!..

Жабрэцкі *(амаль спалохана адарваўся ад папер)*. Баговіч?

Баговіч. Я, Ляксейка, я, Баговіч!.. Твой самы блізкі сябра ў маладосці!

Паўз край стала набліжаецца да Жабрэцкага; той падняўся насустрач, але з поснай мінай, без ніякага знаку радасці; заўважыўшы гэта, Баговіч, які быў памкнуўся горача абняць сябра, стрымаўся і працягнуў для прывітання руку. Здароў, браток!

Жабрэцкі. Здароў. *(Так стрымана, нібы ўчора бачыліся. Руку падае, але толькі на адно імгненне)*. Тут ужо сёння хтосьці казаў, што ты аб'явіўся...

Яшчэ ў той момант, як Баговіч, зайшоўшы, загаварыў да Жабрэцкага, Вера паднялася з крэсла. На твары ў яе і здзіўленне, і спалох, і радасць: яна пазнала Баговіча. І стаіць, і не зводзіць з яго вачэй, і не садзіцца.

Баговіч. Аб'явіўся як бачыш... Ах, Ляксей, колькі я разоў успамінаў цябе, нават колькі разоў сніў!.. Асабліва ўспаміналася, як мы з табой гулялі ўздоўж Свіслачы і як горача гаварылі пра літаратуру...

Жабрэцкі трымаецца так, як бы і не чуе, што гаворыць Баговіч, паспешліва капаецца ў паперах на стале, відочна, што нешта шукае, нарэшце, узяў нейкі аркуш і рушыў з-за стала – нібыта перад ім не сябра, якога не бачыў дзесяць гадоў, а выпадковы незнаёмы наведнік.

Жабрэцкі. Прашу прабачэння, але мне трэба да галоўнага, тэрміновы дакумент на подпіс...

Баговіч. Калі ласка, браток! Служба ёсць служба. А я пачакаю, мне спяшацца няма куды...

Жабрэцкі выходзіць. Вера як стаяла, так і стаіць, і ўсё не зводзіць вачэй з Баговіча; ад хвалявання круціць у пальцах асадку. Баговіч, правёўшы позіркам Жабрэцкага, паглядзеў на Веру.

А што ж вы ўвесь час стаіцё? Нешта хочаце сказаць ці спытаць у мяне?.. Дарэчы, як вас зваць?

В е р а *(моцна хвалюючыся).* Вера. Вера Лосік... Я хачу сказаць, Барыс Міхайлавіч, хачу сказаць, што я... вас ведаю...я пазнала вас, як толькі вы зайшлі і загаварылі...

Б а г о в і ч. Ну, калі ведаеце, што я – Міхайлавіч – значыць, пазналі. Значыць, мы калісьці бачыліся? *(Пільна ўглядаецца ў Веру).*

В е р а. Так, бачыліся. Вы прысядзьце, Барыс Міхайлавіч... Прысядзьце... *(Спрытна выходзіць з-за стала і ставіць госцю крэсла).*

Б а г о в і ч. Дзякую! *(Садзіцца).* Кажаце, бачыліся? Дзе і калі, прабачце?

В е р а *(не садзіцца; стаіць як вучаніца перад настаўнікам).* Вы прыходзілі да нас, у педвучылішча, на сустрэчу, у верасні трыццаць шостага... Я была толькі паступіўшы, яшчэ зусім зялёная, пасля сямігодкі...

Б а г о в і ч. Вы ўсё-такі сядзьце, Верачка, а то мне няёмка. Вы ж ужо не тая першакурснічка...

Вера садзіцца.

Значыць, сустрэча запомнілася? Так, што нават праз дзесяць гадоў пазналі таго маладога пісьменніка? Я ж тады зусім малады быў – усяго дваццаць чатыры было за плячыма!..

В е р а. Пазнала... Вас не пазнаць нельга. Можа, вам будзе цікава, што тады... амаль усе дзяўчаты нашага курса закахаліся ў вас!.. Праўда-праўда! Помню, як пасля сустрэчы доўга выказвалі сваё захапленне і прызнаваліся, што ім асабліва падабаецца ў вас.

Баговіч слухае і сумна ківае галавой.

А яшчэ хачу вам прызнацца, што я дагэтуль хаваю вашу кнігу з надпісам... З вельмі харошым надпісам...

Б а г о в і ч *(ускінуўся, ледзь не падскочыў з крэсла).* Што? У вас ёсць мая кніга? Вы не жартуеце?

В е р а *(усміхаючыся).* Не, праўда, ёсць. “Дружба” называецца. Апошняя ваша кніга... Таго, 36-га года выдання...

Б а г о в і ч *(у вялікім узрушэнні).* І вы не баяліся яе трымаць? Кнігу “ворага народа”?

В е р а *(глядзіць Баговічу ў вочы з горкай-горкай усмешкай).* Які ж вы вораг народа, Барыс Міхайлавіч? Які вораг? Чалавек, які пісаў такія кнігі, – найверны сын народа, а не вораг. А ці баялася?.. Баялася, вядома. Але я так яе схавала, каб ніхто выпадкова не ўбачыў. Ну, а яшчэ ў чалавеку павінна быць нешта, мацнейшае за страх... Ці не праўда?

Баговіч хапае Верыну руку, горача раз і другі і трэці цалуе. Затым сціскае ў сваіх далонях і, трымаючы па-над сталом, прыпадае тварам, і доўга не адпускае.

В е р а *(у разгубленасці ад такой нечаканай праявы пачуцця).* Не трэба, Барыс Міхайлавіч... Не трэба... Ну, што вы! Хвіліначку! Вы... плачаце? Божа мой, што я нарабіла!..

Б а г о в і ч *(адпускаючы Верыну руку з далоняў).* Дзякую, мілая Верачка, дзякую! Я... ад шчасця праслязіўся. Даруйце мне гэтыя слёзы. Пасля ўсяго перажытага яны... *(вымае насовачку і выцірае вочы).*

В е р а. Я разумею, Барыс Міхайлавіч, я ўсё разумею...

Б а г о в і ч *(трохі супакоіўшыся)*. Нешта ж доўга не вяртаецца Ляксей? Мусіць, сярдзіты рэдактар і дае яму дыхту.

Вера прамаўчала. Як бы і не пачула занепакоенага пытання Баговіча.

Верачка, а вы пад акупацыяй тут жылі, у Мінску?

В е р а. Тут, усе тры гады – тут.

Б а г о в і ч. І што, прабачце, рабілі? З чаго жылі?

В е р а. Настаўніцай працавала. Я ж за год да вайны закончыла педагагічнае вучылішча і ўладкавалася ў школу, настаўніцай пачатковых класаў. І пад немцамі – працягвала. Школы ж не пазачыняліся. Усе тры гады вучыла дзяцей чытаць-пісаць, рашаць задачкі, спяваць песенькі.

Б а г о в і ч *(са здзіўленнем)*. Працавалі ў школе, якой камандавалі нямецкія ўлады? Значыць, супрацоўнічалі з акупантамі?

В е р а. Не, Барыс Міхайлавіч, не супрацоўнічала. Я ўжо сказала і, прабачце, паўтару: я вучыла ў школе малых дзетак, навучала іх чытанню, пісанню і ўсяму добраму. Напрыклад, як важна любіць сваю родную зямлю, родную мову, родныя песні, свае духоўныя і культурныя традыцыі, звычаі. Не маглі ж дзеці тры гады заставацца без вучобы! Тры самыя лепшыя, самыя прыдатныя для вучобы гады! Ці вы разумееце гэту справу іначай?

Б а г о в і ч *(не адразу, задумаўшыся)*. Гэта – у горадзе, у Мінску. А ў вёсках? Сястра мне сказала, што іх дзеці вучыліся пад немцамі толькі адзін год, а тады, ужо ў сорак другім, школу спалілі партызаны, а настаўнікі, баючыся расправы, разбегліся. А некаторых нават расстралялі як здраднікаў...

В е р а. Так, было менавіта так. Я гэта ведаю... *(Сумна ўсміхнуўшыся)*. Ну вось перад вамі здрадніца, калабарантка. Тры гады атрымлівала за працу ў школе акупацыйныя нямецкія маркі.

Б а г о в і ч *(разважліва)*. Процьма пытанняў узнікае. Усё гэта выглядзіць зусім не так проста, адназначна, як мне думалася... Прабачце, можа, палічыце нетактоўнасцю, можа, праяўляю празмерную цікаўнасць... У вас на шыі, пад вухам, рубец, па ўсім бачна – ад раны. Вы былі параненыя?

В е р а. Так, гэта ад раны. Ад асколка міны. Пашчасціла, што не зачапіў аорту. Каб на два міліметры глыбей – дык усё, і душа на неба.

Б а г о в і ч *(са спачуваннем)*. Бедная, бедная Верачка! І вас не абмінула фашысцкая лютасць! Але ж і звяругі!.. Яны што – пагналі мірных невінаватых людзей на міны? Калі і як гэта было?

В е р а. У сорак трэцім. У Мінску. Але міна была не нямецкая, міна, на вялікі жаль, была партызанская. Партызаны падклалі... Было так. Ладзілася вялікая вечарына, літаратурна-музычная, у славутым нашым беларускім тэатры. Партызаны разлічвалі, што на вечарыну прыйдзе шмат нямецкіх афіцэраў, і пад сцэнай паклалі загадзя гадзіннікавую міну. І яна выбухнула. А немцаў было, можа, два-тры чалавекі, а была поўная зала беларускай моладзі. І было вельмі шмат ахвяр, – з ліку моладзі. Ніводзін немец, нават з тых двух-трох, не пацярпеў. Вось там дасталося і мне. *(Усміхаючыся)*. Надта ж любіла роднае мастацкае слова! Усюды, дзе яно гучала, хацелася пабыць. Ну, гэта ў мяне яшчэ са школьных гадоў. Не выпадкова ж, не так сабе і папрасіла вас падпісаць мне кнігу на той сустрэчы ў педвучылішчы.

Б а г о в і ч *(вельмі сур'ёзна, разважліва)*. Мяне забірае думка, што я амаль нічога не ведаю пра Беларусь пад акупацыяй, пра становішча

народа, пра жыццё простага люду, пра яго стаўленне да акупантаў і да іх паслугачоў, пасобнікаў...

В е р а. Што да саміх акупантаў – тут усё ясна. Чужына. Чужацкая навала, набрыдзь. І самі нахабныя морды, і паводзіны, і мова, і уніформа – усё чужое, усё для нас агіднае і ненавіснае. Я да вайны не ведала, неяк не думала, што чужое можа быць такім агідным, такім непрыймальным і варожым духу майму, проста нясцерпна варожым... Я ўпершыню тады і задумалася: што значыць сваё і што значыць чужое. Сваё – і чужое. Мы – і яны. Ну і канешне думала: а чаму яны тут? Чаго яны, няпрошаныя, прыйшлі? І ведаеце: вось гэтая непрыязнасць да чужыншчыны натхняла мяне, маладую настаўніцу, на выхаванне ў дзяцей любові да свайго, нашага, роднага, дадавала мне нейкай унутранай сілы, і я тады яшчэ больш захапляюча гаварыла пра чароўную прыгажосць нашай беларускай прыроды, больш горача дэкламавала вершы беларускіх паэтаў. Помню, як чытала дзецям коласаву “Раніцу ў нядзельку” – па часопісу “Беларуская школа”, выдаваўся такі ў час акупацыі, замяняў нам даваенныя чытанкі, якія былі забароненыя.

Б а г о в і ч *(у здзіўленні)*. Як гэта? Пад немцамі тут выходзіў такі часопіс? І з творамі Коласа, які ў той час столькі пісаў супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Гэта неверагодна!

В е р а *(усміхнуўшыся)*. Але гэта было, Барыс Міхайлавіч, было! І выходзіў часопіс, і друкаваліся творы нашых славутых паэтаў...

Б а г о в і ч. І фашысты цярпелі гэта?

В е р а. Дык вы ж не думайце, што друкаваліся творы, у якіх прапагандавалася наша савецкая рэчаіснасць. Не, гэта былі творы ідэйна нейтральнага зместу, як тая ж “Раніца ў нядзельку” Коласа. Гэта – па-першае. Па-другое, немцы “заігрывалі” з беларускай інтэлігенцыяй, якая засталася тут, пад акупацыяй, каб павярнуць на свой бок, каб яна прапагандавала іх ідэалогію. Што ж датычыць самой гэтай інтэлігенцыі... Гэта была вельмі неаднародная маса, і якімі матывамі кожны з іх кіраваўся, і якія прычыны кожнага з іх падштурхнулі да супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі, – гэта, думаю, будзе высняцца цягам доўгіх дзесяцігоддзяў. З увагай да кожнага канкрэтнага выпадку, да кожнага чалавечага лёсу паасобку... Дарэчы, Вас не дзівіць, што я, нібыта ж калабарантка, працую ў савецкім друку? Чаму аказалі такі давер?

Б а г о в і ч. Нават вельмі дзівіць. Але я стрымаўся ад гэтага пытання. Як вы сказалі: у кожнага свой лёс...

В е р а. Так, у кожнага свой. Тое, што я працавала пры немцах настаўніцай, – гэта толькі палавіна праўды пра мой лёс. Другая палавіна – што я была ўдзельнікам антыфашысцкага падполля. У мяне і адпаведны дакумент ёсць, пасведчанне.

Б а г о в і ч *(у вялікім здзіўленні)*. Вы – падпольшчыца?

В е р а *(міла ўсміхаючыся)*. Так, Барыс Міхайлавіч. Падпольшчыца. Самая сапраўдная. *(Памаўчаўшы)*. Я цягам цэлага года перадавала партызанам медыкаменты і бінты. Даставала тут, праз верных сяброў, і перадавала. Партызанская сувязная да мяне заходзіла. Рабіла я гэта, як вы разумееце, пад страхам смерці. Папалася б – і ўсё. Расстрэл тут жа. Але мая нянавісць да чужынцаў так мяне бунтавала, што пра смерць я проста не думала...

Б а г о в і ч. Дык вось яно што! Дык гэта ж вы... дык гэта ж вы – гераіня, Верачка! Прабачце, што я так фамільярна звяртаюся. Каб вы толькі ведалі, як мне цікава слухаць вас, весці гутарку з вамі. Усё роўна як родную душу напаткаў неспадзявана. Гутарыў бы з вамі бясконца. Але

ж я прыйшоў пабачыцца і пагаварыць з Жабрэцкім. Няўжо ён усё яшчэ ў галоўнага? Там што – нейкая рабочая нарада праходзіць? Вы хіба не ведаеце? Ужо цэлую гадзіну, калі не больш, чакаю.

Вера апусціла долу пагляд і досыць доўга маўчыць, круцячы ў пальцах асадку. Баговіч не зводзіць з яе вачэй.

В е р а *(няголасна, сумна, нібы якую трагічную вестку паведамляе)*. Дарэмна чакаеце, Барыс Пятровіч. Жабрэцкі не прыйдзе.

Б а г о в і ч. Як... не прыйдзе? Ён жа ведае, што я яго чакаю!

В е р а *(голасам, нібыта і яна ў гэтым вінавата)*. Не прыйдзе, Барыс Міхайлавіч. Ён не ў рэдактара. *(Праз паўзу)*. Рэдактар наогул сёння не прыходзіў. Ён у камандзіроўцы і будзе толькі паслязаўтра.

Б а г о в і ч *(хапаецца як тапелец за саломінку)*. То, можа, ён у намесніка? Можа, я недачуў, можа, ён сказаў, што яго чакае намеснік галоўнага?

В е р а *(пакруціўшы галавою)*. Не, Барыс Міхайлавіч, вы добра пачулі, што ён сказаў. Проста... ён баіцца, што сустрэча і гутарка з вамі можа нашкодзіць яму. За паўгадзіны да вас сюды заходзіў цяперашні сябар Жабрэцкага і сказаў, пры мне сказаў, што Баговічу вяртання ў літаратуру няма і не будзе – так яму заявілі ў Саюзе пісьменнікаў. Бо ён не адноўлены ў правах, не рэабілітаваны, з яго не знята кляймо “ворага народа”. І Жабрэцкі зрабіў выснову...

Б а г о в і ч *(унураны, нейкі час маўчыць; пасля выпрастаў спіну, прыпадняў голаў і ўставіўся паглядам кудысьці далёка-далёка)*. Значыць, адрынуты! Адзін з самых сумленных і самых верных ідэалам сацыялізма пісьменнік – адрынуты! Кругом і ўсімі! *(Цяжка дыхаючы, колькі секунд маўчыць)*.

В е р а. Не ўсімі, Барыс Міхайлавіч.

Б а г о в і ч. Так! Мая родная сястрыца ў вёсцы ніколі ад мяне не адвернецца і не пабаіцца ніякага д’ябальскага кляйма.

В е р а. Не толькі ваша сястрыца, дарагі Барыс Міхайлавіч.

Б а г о в і ч *(амаль крычыць)*. А хто яшчэ? Хто?!

В е р а. Ну, прынамсі аднаго чалавека я ведаю...

Б а г о в і ч *(горка-іранічна)*. Аднаго чалавека... Ах, Вера-Верачка! Аднаго чалавека!.. (Амаль крычыць). Мне трэба, каб увесь народ паверыў і прыняў! Увесь народ! А вы – пра аднаго чалавека!..

В е р а. Барыс Міхайлавіч, і адзін чалавек – гэта не мала, калі ён з чыстым сумленнем і непахіснай верай. Не мала, Барыс Міхайлавіч, не мала! Можаце па сабе меркаваць: хіба гэта мала, калі ёсць такі чалавек і пісьменнік-патрыёт, як Барыс Баговіч? Ну што вы!..

Баговіч падхопліваецца, хапае Верыну далонь у сваю і горача цалуе, пасля яшчэ і яшчэ раз.

Б а г о в і ч. Дзякую! Дзякую! Ніколі не забуду! Так, і адзін чалавек – не мала, зусім не мала, калі гэты чалавек – Вера Лосік. Дзякую!.. Дзякую, Верачка!.. *(Парыўна абдымае Веру, горача абцалоўвае ўвесь твар – лоб, шчокі, губы і зноў моцна-моцна прыціскае да сябе)*.

З а с л о н а

*2001*

# “Экслібрыс”

## *Творы пераможцаў конкурсу маладых літаратараў*

***У студзені ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” абвясціў Конкурс для маладых літаратараў “Экслібрыс” і прысвяціў яго класікам беларускай літаратуры, юбілеі якіх адзначаюць сёлета: Паўлюку Багрыму, Якубу Коласу, Янку Купалу, Алесю Гаруну, Цішку Гартнаму, Максіму Танку, Янку Брылю і Міхасю Стральцову... Удзел у конкурсе ўзялі больш за сто аўтараў. Напрыканцы траўня журы, у склад якога ўвайшлі Эдуард Акулін, Ірына Багдановіч, Аксана Данільчык, Віктар Жыбуль, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Людміла Рублеўская, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч, назвала лепшых з лепшых. Такім чынам...***

**...Пераможцамі конкурса сталі: *Алеся Башарымава (пераклад), Алесь Замкоўскі (вершы), Антон Рудак (вершы), Вера Стромава (проза) і Ганна Янкута (пераклад).***

**...Фіналістамі конкурса названы: *Алена Беланожка (проза, вершы), Андрэй Вылінскі (пераклад), Наста Грышчук (вершы), Аляксандра Дварэцкая (проза), Алесь Емяльянаў (вершы), Сяргей Календа (проза), Сяржук Камель (вершы), Павел Капанскі (проза), Андрэй Касцюкевіч (пераклад), Віктар Мельнікаў (вершы), Павел Надольскі (вершы), Аня Рудак (вершы), Антось Уласенка (проза), Алена Хрышчановіч (вершы), Алесь Яшчанка (проза, вершы, пераклад).***

**...Заахвочвальны дыплом атрымалі: *Раман Абрамчук (вершы), Аляксандр Апон (проза), Зміцер Баяровіч (проза, вершы), Сяргей Белаяр (проза), Наталля Бойка (пераклад), Валярына (вершы), Марына Варабей (вершы), Дар’я Вашкевіч (проза, пераклад), Сандра Вецер (вершы), Ганна Воранава (вершы), Ганна Гараніна (вершы, пераклад), Марыя Лапо (проза), Дар’я Латышава (вершы), Воля Чайкоўская (вершы), Наталля Ярмольчык (проза).***

***Па выніках літаратурнага конкурсу 14 чэрвеня прайшла вечарына, на якой усе вышэй названыя ўдзельнікі конкурсу атрымалі заслужаныя ўзнагароды. З кастрычніка пры ГА “СБП” пачне працаваць Школа маладых літаратараў, у якую запрошаныя пераможцы, фіналісты і дыпламанты конкурсу. А “Дзеяслоў” у гэтым нумары знаёміць вас, шаноўчыя чытачы, з творамі пераможцаў “Экслібрыса”.***

Алеся БАШАРЫМАВА

Гунэль ЛІНДЭ

# Белы каменьчык

## Пачатак

Гэтая кніга будзе пра многае — праўда, я пакуль яшчэ не ведаю, пра што. Ведаю толькі, што яна будзе не пра Хампуса і Фію.

Фія — гэта маленькая, худзенькая як шчэпка дзяўчынка з раскудлачанымі валасамі. Яе мама — настаўніца музыкі. Няма нічога больш недарэчнага, чым быць дачкою настаўніцы музыкі, калі жывеш у маленькім сяле, дзе наўрад ці каму заманецца граць на піяніна. Дзеці з сельскай школы заходзіліся смехам ад адной толькі думкі пра настаўніц музыкі. З тым самым поспехам у Фіі замест мамы маглі б быць шчыпчыкі для цукру — каму патрэбныя шчыпчыкі, калі можна ўзяць цукар пальцамі? Або ручнік для посуду — навошта, скажыце, калі ласка, выціраць посуд, калі ён можа высахнуць сам? Або шаўковая падушачка ў банціках, або начны каўпак. Яе мама магла б быць зборнікам вершаў, зубачысткай ці веерам. Усё гэта было б аднолькава недарэчным. Прынамсі, так казалі аднакласнікі Фіі. Але вазьмі любую з гэтых рэчаў — і выявіцца, што схаваць яе ад чужога вока будзе значна лягчэй, чым настаўніцу музыкі. Калі б мама Фіі была шаўковай падушачкай, можна было б засунуць яе сабе пад матрац. Ручнік можна было б схаваць у шафе, а зубачыстку ўваткнуць паглыбей у гаршчок з кветкамі. Але ж не: яе мама была настаўніцай музыкі і вучыла дзяцей граць на піяніна — схаваць яе не выпадала ніяк. У школе Фію празвалі Фіяй-бом-дзілібом-Петэрсан.

— Дзілібомкам з намі нельга! — крычалі дзеці, калі беглі гуляць у класікі.

— А цётка Малін з дому суддзі сказала, што ад тваёй мамы зусім ніякага толку! — паведаміла Брыта-з-коскамі.

— Іншай мамы мне не трэба, — сказала на гэта Фія, і гэта была праўда.

Адзінае, чаго яна хацела, — гэта каб мама была замужам за суддзёй або, напрыклад, прадавачкай у краме і давала дзецям, якіх пасылалі нешта купіць, лядзяш за адзін эрэ ў даважак. Тады б яны бралі Фію ў гульню.

— Шуруй дамоў і грай на сваім піяніне, Фія-задавака! — сказала Брыта-з-коскамі, і ўсе, хто быў побач, ізноў засмяяліся.

Мама казала Фіі: калі нехта дражніцца, не трэба на гэта зважаць.

— Трэба проста заставацца зычлівым і не дражніцца самому. Тады яны стомяцца і перастануць, — казала мама.

Але на дзяцей у школе гэта не дзейнічала. І ад цёткі Малін, аканомкі спадара суддзі, таксама не выратоўвала. Тая дражніла маму Фіі цэлымі днямі: казала, што яна псуе рэчы суддзі, і што Фія такая назола, і што гэта яны ўмыкнулі булавешку з парэнчаў.

Фія жыла ў доме суддзі, у той палавіне, што выходзіла на двор. Дом у суддзі быў такі вялікі, што нават глянуць страшна. Веснічкі, за якімі хаваўся двор, былі найпрыгажэйшыя ў свеце, а дрэвы ў садзе былі высачэзныя, магутныя і раскідзістыя. Адно з іх нагадвала цётку Малін — быццам яна сядзіць у цырульніцы. Аднойчы Фія ўзяла фартух цёткі Малін і абвязала ім камель гэтага дрэва, але мама сказала, што цётку Малін лепш не злаваць, а то давядзецца з’ехаць.

Фіі не дазвалялася хадзіць па траве і нават па дарожках, калі іх толькі што расчысцілі — а чысцілі іх пастаянна. І яшчэ ёй забаранялася кідаць мяч аб сцяну. Што ж, нельга дык нельга! Затое яна магла стаяць за веснічкамі і глядзець адтуль на дарогу. Тут ужо ніхто не наважваўся чапляцца да яе і дражніцца, і ніхто

не мог сказаць, што яна робіць нейкую шкоду. Часам Фія думала, што было б лепей, калі б яна проста была вялікай і дужай і магла цягаць Брыту за коскі, або па-сапраўднаму прыгожай, як адна з дзяўчатак, на клас старэйшая за яе. Але яна такой не была. Фіі здавалася, што яна выглядае вельмі бязглузда, і таму яна звычайна біла сябе кулаком па носе, калі глядзелася ў люстэрка. Так што яна проста стаяла ля веснічак і глядзела. А з гэтага кнігі не атрымаецца.

Ну і таксама не пра Хампуса будзе гэтая кніга. Ён, канечне ж, крыху старэйшы за Фію, але не такі ўжо вялікі, каб было пра каго расказваць. А жыў ён у новага шаўца.

Новы шавец хадзіў няголены, на адной руцэ ў яго не хапала вялікага пальца, так што новым ён зусім не выглядаў. Але яго ўсё адно паўсюль называлі новым шаўцом, бо ён раз на паўгода пераязджаў на новае месца і ніхто не паспяваў да яго прывыкнуць. А разам з ім пераязджалі яго шасцёра дзяцей і, канечне, Хампус, бо ён быў яго пляменнікам і да таго ж кругом сірата.

Хампус многа дзе пабываў. Ён ужо бачыў Эслёў і Эдэсхёг, Нурдынгро і Ітэрбуду. Часам ён жыў у якім-небудзь струхнелым летнім дамку з толевай страхой, што прапускала любы дождж, а часам у хаціне, дзе ў вадаправодных трубах шнырылі пацукі, якія начамі заскоквалі ў мыйку, каб чым-небудзь пажывіцца. Але якая розніца, дзе жыць, калі ўсё адно хутка пераязджаеш.

— Я сюды жыць не прасіўся, — заўсёды казаў шавец, калі яго жонка на штонебудзь скардзілася. — Хопіць ныць, а то пераедзем, — казаў ён.

І праз пару месяцаў гэты час надыходзіў. Хампус быў зусім не супраць. Яго нічога не трымала ва ўсіх гэтых месцах, бо ў кожным з іх да ад'езду ён паспяваў напракудзіць дзе і як толькі можна. У Нурдынгро ён паўскідаў на дрэва шапкі ўсіх пастарскіх дзяцей. Тры шапкі, значыць. Адна была зялёная, другая — чырвоная, а на трэцяй быў кутасік з воўны. І вось гэтую, з кутасікам, зняць ужо не атрымалася. У Эслёве ён прыдумаў гульню "прайдзі-па-лёдзе". Лёдам служылі шкляныя вечкі скрыняў з расадай на гародзе садоўніка, і пасля гульні мала што засталося ад таго шкла. У Ітэрбудзе яму давялося ратаваць дурнога ката, які заблытаўся ў тонкім невадзе для салакі. Вядома, невад давялося ўвесь расчыкрыжыць. Пра Эдэсхёг лепей увогуле прамаўчым.

— Ты наўмысна ўсё гэта робіш! Анёлы плачуць ад тваіх паводзінаў! — скардзілася шаўчыха.

— Што мне да гэтых ныцікаў, — агрызаўся Хампус.

Хампус заўсёды паводзіў сябе кепска і прывык на кожным новым месцы ўвязвацца ў бойкі. Ён мусіў спяшацца, каб да яго ад'езду ўсе мясцовыя дзеці паспелі запомніць, хто тут самы моцны. Калі ж яны нарэшце пачыналі выказваць нейкую пакору, яму заставалася толькі пapляваць на кулакі і ўзяцца за старое на новым месцы.

Часта ён прыдумваў сабе яшчэ нешта, што трэба паспець, — так бы мовіць, дзеля разнастайнасці: напрыклад, паспець атрымаць адзнаку па арыфметыцы або расчысціць ад друзу пляцоўку ля ганка шаўца. Але тут ужо няма пра што і расказваць. Паўсюль паўтаралася тая ж песня. Кніга з гэтага атрымалася б нудная, таму і пра Хампуса я расказваць не буду.

Мабыць, я магла б расказаць пра той векапомны дзень, калі Хампус прыехаў у сяло, дзе жыла Фія.

## Вялікі дзень

Быў чароўны летні дзень. Сонечныя дыядэмы ўпрыгожвалі кроны дрэваў, а на сценах дамоў танчылі іскрынкі цяпла. Толькі тыдзень заставаўся да школы, дні былі злічаныя. З-за веснічак суддзі, як звычайна, выглядваў несамавіты тварык Фіі. Яна

чакала, калі хто-небудзь прыйдзе і пачне дражніцца. Але самае дзіўнае, што ўвесь гэты час яна насамрэч выглядала вельмі міла, хоць сама пра гэта не ведала.

Цень ад дрэва ляжаў на яе галаве, быццам цёмная рука. У белай сукенцы, пашытай з ніжняй спадніцы, Фія выглядала сапраўднай прынцэсай, прытым не абы-якой. Такую чароўную сукенку магла мець толькі якая-небудзь зграбная каралеўна з Егіпецкай зямлі — і на гэтай сукенцы, нібы залатая брошка, ззяў сонечны зайчык ад клямкі на веснічках. Усё гэта разгледзеў незнаёмы хлопчык, што выйшаў з дому шаўца насупраць. Ён выглядаў так, нібыта ўсё навокал — гэта ягоныя ўладанні. На дарозе ён спыніўся і падчапіў кавалак конскага гною босай нагой — няхай паахаюць цёткі-чыстаплюйкі! Потым ён дастаў з кішэні мармуровы шарык і перакінуў яго цераз самую высокую бярозу ў шаўцовым садзе. У кроне зашалахцела, і дрэва быццам уздрыгнула. Тады хлопчык падышоў проста да веснічак суддзі.

Фія не зварухнулася. Калі яе ўсё адно нехта будзе дражніць, дык чаму б не хтосьці чужы? Хоць нейкая разнастайнасць. Да таго ж гэты хлопчык быў грозны і ведаў сабе цану: калі цябе дражніць такі — гэта сапраўдны гонар. Яна не скранулася з месца.

— Ты чаго тут стаіш? — спытаў хлопчык.

Фія не адказала.

— Ну, што ў нас тут за народ такі жыве? А-а-а, усяго толькі няшчасны пляшывы суддзя, — сказаў ён, разглядаючы шыльду на брамным слупе.

Але Фія ўсё адно не адказвала.

— Ён твой бацька, гэты суддзя? — спытаў ён.

Яна патрэсла галавой.

Тады ён стукнуў нагой брамны слуп.

— А можа, суддзя ў вас працуе брамнікам? — спытаў ён.

Фія пырснула са смеху. Вось была б карціна! А цётка Малін тады была б табурэткай, каб на яе залазіць і даставаць печыва! Фія сакатала, як сарока, а Хампус маўчаў і проста глядзеў на яе. Глядзеў так доўга, што ёй давялося таксама зірнуць на яго. Яна адступіла на крок і намацала ў кішэні белы каменьчык.

— Стой, — сказаў хлопчык. — Падыдзі!

Ён прасунуў рукі праз штыкецiны і паспрабаваў злавіць яе, але не дастаў.

— Падыдзі бліжэй, я толькі дакрануся!

Яна наблізілася на крок, але так, каб ён не мог яе схапіць.

— Яшчэ крок! Ну, толькі крок!

Яна крыху пераставіла ногі, але здавалася, што нават не скранулася з месца.

— Ну яшчэ пару крокаў! Я ж не дацягнуся!

І яна зрабіла яшчэ крок.

І тут ён раптоўна ірвануўся да яе і, прыціснуўшыся тварам да веснічак, выцягнуў рукі праз штыкеціны і ўчапіўся за яе адзенне. Ён падцягнуў Фію да сябе і схапіў за руку — за тую, у якой яна трымала белы каменьчык. Ён вырваў яе руку з кішэні, расціснуў пальцы і адабраў каменьчык.

— Аддай! — закрычала яна.

— Раблю што хачу, — сказаў хлопчык.

— Але ён мой!

— Ну і што? Гэта ж толькі камень!

— Гэта ж мой найпрыгажэйшы каменьчык! Самы гладкі, самы прыемны з усіх! І ён зусім-зусім белы! Аддай!

Ён зноў паглядзеў на яе тым самым позіркам, і раптам Фія адчула, што сёння з ёй нешта не так. Ёй у адначас хацелася быць дзікім зверам, і румзай, і зачараванай прынцэсай. Яна затрэсла веснічкі і ўкусіла яго за запясце, а потым закрыла рукою твар і заплакала сапраўднымі слязьмі, слаба пасміхаючыся з-за ўскудлачаных

валасоў: яна не магла іх прыбраць з ілба, таму што хлопчык трымаў яе. Тады ён расціснуў свой кулак і аддаў ёй каменьчык. Яны разам глядзелі на яго.

— Як цябе зваць? — спытаў ён.

— М-м-м... Фідэлі, — сказала Фія. — Але мне нельга нікому казаць, як завуць маіх тату з мамай. Гэта сакрэт. А цябе як зваць?

Ён павярнуўся да дому шаўца, нібыта не жадаючы адказваць, але насамрэч ён проста хацеў паглядзець, што гэта за шум такі нясецца. Па дарозе ехалі да святочнай плошчы чатыры цыркавыя павозкі. На адной з іх вісела яркая афіша з намаляваным мужчынам, апранутым у леапардавую шкуру. "КАРОЛЬ РЫЗЫКІ", — значылася на афішы.

— Вось маё імя, — сказаў Хампус. — Так мяне завуць.

І яны зноў паглядзелі на каменьчык.

— А калі я намалюю вочы, нос і рот гадзінніку на званіцы, ты аддасі мне белы каменьчык? — спытаў Кароль Рызыкі.

— Аддам, — сказала Фідэлі і паляцела прэч на сваіх зачараваных ножках.

І цяпер гэтая кніга будзе пра Караля Рызыкі і Фідэлі.

## Кароль Рызыкі ідзе на першы подзвіг

Вяртаючыся ад веснічак суддзі, Кароль Рызыкі спыніўся на дарозе і крыху пастаяў каля гнаявой кучы. Ён адчуваў сябе дзіўна і не разумеў, што з ім такое. Але ў гэтым нічога страшнага не было. Проста яму было весела. Ад гэтага казытала жывот і каленкі нібыта наліліся сілай, але ў кончыках пальцаў трывожна паколвала. Так бывае, калі надзімаеш цудоўныя мыльныя бурбалкі: нешта фантастычнае блісне і пачынае расці, і вось ты ўжо ўпэўнены — гэта будзе найвялікшая мыльная бурбалка за ўсю гісторыю чалавецтва.

Хампус падняў з дарогі саломінку і дзьмуў у яе, пакуль хапала дыхання. Вось гэта будзе прыгода з прыгодаў! У параўнанні з ёй усё, што ён прыдумваў раней, і вусцілкі не вартае. Але асцярожнасць перадусім. Ён выплюнуў саломінку ўверх і паглядзеў, ці няма ў двары каго-небудзь з шаўцовых дзяцей і ці не бачылі яны, адкуль ён ідзе. Але ўсе былі дома, і тады ён азірнуўся і паглядзеў услед зніклай Фідэлі. Толькі сонечны водбліск на клямцы нагадваў пра яе. Тады ён пабег у шаўцоў двор.

Кароль Рызыкі не збіраўся займацца царкоўным гадзіннікам да змяркання. Наперадзе чакалі цяжкасці, таму варта было аддаць увесь дзень адпачынку. І вось Хампус лёг на траве і расслабіўся, назіраючы, як Нана і Сіры спрачаюцца, каму гайдацца на ручцы калодзежнай помпы. Але тут з дому выйшла шаўчыха і крыкнула яму:

— Калі яны пазабіваюцца, вінаватым будзеш ты! Хіба можна дазваляць ім такія небяспечныя гульні?!

Тады ён залез на дрэва і адпачываў там, боўтаючы босымі нагамі і цэдзячы вецер паміж шурпатых пальцаў. Калі ж абмытыя ветрам ногі здаліся яму чыстымі, гладкімі і свежымі, ён саскочыў з дрэва і перайшоў адпачываць на новае месца — да крамы. Бо гаспадар гэтых дрэваў мог з'явіцца ў любы момант і прагнаць яго, не даўшы даадпачываць. Лепей прабавіць вольны дзень у цішыні і спакоі. Доўгі вольны дзень, калі тое, што цябе чакае ўвечары, зусім не здаецца немагчымым. І толькі часам мільгаў у галаве вобраз дзяўчынкі ля веснічак — дзяўчынкі з валасамі, як цень, дзяўчынкі з белым каменьчыкам.

— Што ты тут агінаешся? Што забыў? — гукнуў з ганка гандляр.

— Нічога, — унікліва адказаў Кароль Рызыкі.

Яму не хацелася ўсчынаць непатрэбную сварку з гандляром.

— Вазьмі вось лепей торбу з бульбай і збегай аддай Блумгрэнам, хоць нейкі

толк з цябе будзе! Тут не месца розным падшыванцам, якім абы напаскудзіць! — сказаў гандляр.

— Не пабягу, — сказаў Кароль Рызыкі.

— Не пабяжыш? А што ж ты будзеш рабіць?

— Адпачываць.

— Ну нахабнік!

— А я сюды на пабягушкі не наймаўся. Я не прадаюся ў рабства эксплуататарам, — адважна адказаў Кароль Рызыкі.

— Ты што, зусім сорам забыў? — раззлаваўся гандляр. — А ну прэч адсюль, каб я цябе тут не бачыў!

Кароль Рызыкі пераскочыў канаву і знік за зарасцямі крапівы. Вось хто будзе ягоным першым ворагам у гэтай вёсцы!

— Ты чый дзіцёнак? Новага шаўца? — данеслася яму ўслед.

Але не такі ён дурань, каб адказваць.

— Ну пачакай, далёка не збяжыш! — усё крычаў гандляр.

Кароль Рызыкі прабраўся на жытняе поле і схаваўся між жоўтых сцяблінаў, быццам у клетцы з канарэйкамі.

“Заўсёды ім трэба сварыцца! Заўсёды пад нагамі таўкуцца гэтыя гідкія старыкашкі! Заўсёды! Але гэтым разам я слухаць іх не збіраюся. Раз я ўжо вырашыў — значыць усё! Ніхто мяне не спыніць”, — думаў ён.

— Я атрымаю гэты каменьчык да пераезду! Сказаў — зраблю, а назад не павярну, згарэць мне на гэтым месцы! — ціха сказаў ён, але так, каб пачулі ластаўкі. І застаўся ляжаць у жыце да вечара.

Увечары, калі надыходзіў час класціся спаць, у кухні шаўца заўсёды ўсчыналася бурнае жыццё.

— Хенінг разлёгся на ўсю падушку, мне зусім няма месца! — крычала Нана.

— Не мая чарга сёння спаць пад калючай коўдрай! — крычаў Турэ.

— А Эйвар шчыпаецца! — крычала Сіры.

— От, заўсёды мы туляемся ў цесных халупах, — бурчала шаўчыха. — Колькі можна ўжо дзецям спаць валетам! Не ўяўляю, што мы будзем рабіць, калі Луле вырасце з дрыввяной скрыні. Я хутка звар’яцею.

— Я сюды жыць не прасіўся, — сказаў шавец. — Хопіць ныць, а то пераедзем!

— Пачынаецца, — сказаў Хенінг.

Хампус ляжаў у сваім кутку канапы і не слухаў, бо настаў час падумаць, як ён будзе маляваць вочы, нос і рот царкоўнаму гадзінніку. Трэба было альбо знайсці драбіны, якія б сягалі званіцы, альбо неяк налаўчыцца і прасунуць руку праз акенца ў цыферблаце. Калі там, канечне, ёсць акенца. Трэба гэта праверыць, калі ўсё стане ціха.

— Ды спі ты ўжо! — гыркнуў Хампус і ўціснуў галаву Турэ ў падушку.

— Не сварыся, Хампус! — прыкрыкнула шаўчыха.

Хампус адвярнуўся да сцяны, заткнуў вуха краем фіранкі і прыкінуўся, што спіць. Неўзабаве ўсе супакоіліся. Шаўчыха таксама легла спаць. Хампус чакаў доўга і цярпліва, пакуль урэшце наважыўся прыўзняць галаву з падушкі і агледзецца. На рассоўным ложку спала Сіры, паклаўшы галаў на руку Эйвара і выставіўшы жывот з-пад коўдры. Хенінг спаў на карачках, уткнуўшыся носам у кут канапы. Гэтых лёгка не пабудзіш, тут можна не баяцца.

“Пястунчыкі, лежабокі, толькі б дрыхнуць, — падумаў Хампус. — Ім нават у сне не прысніцца, якая справа мяне чакае!”

У пакоі побач з шаўцом, нібыта блакітная гара, пад коўдрай з абрэзкаў ляжала шаўчыха. Яна таксама мірна пасопвала. А вось шавец не спаў. Ён ляжаў і крэсліў

у паветры пальцам нейкія загагуліны. Ён заўсёды гэта рабіў перад тым, як заснуць. Спачатку ён тройчы выводзіў сваё імя, а потым — верш у пятнаццаць строфаў.

— Ды спі ты ўжо, дзядзька, — прашаптаў Хампус.

— Сам спі, — прамармытаў шавец.

Але болей Хампус чакаць не мог.

— Я на двор на хвілінку, — сказаў ён і вылез праз кухоннае акно.

І вось Кароль Рызыкі і царкоўны гадзіннік углядаюцца адно аднаму ў твар. Званіца ўздымаецца над дрэвамі і дахамі сельскіх дамоў. Белы цыферблат свеціць не горш за які-небудзь месяц. На ім можна разабраць кожную лічбу, а вось акенца ніякога не бачна.

Кароль Рызыкі ўскочыў на суседскі ровар і паруліў да могілак. Ніводзін каменьчык не пырснуў з-пад колаў, не рыпнуў пад шынамі, толькі трава на ўзбочыне лёгка зашамацела, калі ён змяіным ценем завіхляў па ёй. Гадзіннік сачыў скрозь цёмнае голле, як ён набліжаецца.

— Ну чакай, хутка мы ўжо сустрэнемся, — прашаптаў Кароль Рызыкі.

## Кароль Рызыкі і гадзіннікавы твар

— Перш за ўсё паглядзім, як можна падняцца на званіцу, — сказаў сам сабе Кароль Рызыкі.

Ён заехаў у хмызы ля мура, што агароджваў могілкі, паставіў ровар і крыху памарудзіў у развагах.

“Мабыць, лепей замаскавацца ў прывіда. Раптам сустрэну каго на могілках”, — падумаў ён.

На ім была піжама ў чырвоную палоску, пашытая шаўчыхаю з чахла на коўдру. Куртачку ён зняў, скруціў і зашчаміў у багажніку, а калашыны штаноў закасаў як мага вышэй. Зямля каля хмызоў была мяккая і глiністая. Ён вымаляваў шэрай глінай косці на грудзях, а вочы абвёў цёмнымі кругамі.

“Ну вось. Цяпер, калі хто трапіцца, ашчэруся і зраблю грымасу, як у шкілета”, — падумаў ён і выбраўся з хмызоў.

Там, быццам зацішны сад з безліччу кветак-крыжоў, раскінуліся могілкі. Ён ускараскаўся на мур і, рухаючыся па краі, пачаў абыходзіць цвінтар. Мур быў добры — досыць шырокі, каб па ім ісці, і з набрынялым расою мохам наверсе.

“Во як мякка, аж нагам прыемна”, — падумаў Кароль Рызыкі, у вобразе нячысціка ідучы па муры.

Маленькія кветачкі заблытваліся ў яго між пальцамі, начны вецер дыхаў узнёсла і пяшчотна, як яму і належыць на могілках. Над званіцай мігцелі зоркі. Толькі акенца на ёй пакуль відаць не было, ані з паўночнага боку, ані з усходняга. Калі на дарозе Караля Рызыкі паўстала брама, ён спусціўся, абмінуў яе і залез на мур з іншага боку. На паўднёвым баку званіцы акенца таксама не аказалася. Дый на самім цыферблаце нічога такога не было.

— Ну і добра, затое не трэба вартаўніка будзіць у такі час, каб даў ключы, — прамармытаў Кароль Рызыкі.

На ўсялякі выпадак ён саскочыў уніз і паторгаў вялізную браму царквы. Надзейна зачынена. Нават не рыпнула, калі ён пацягнуў.

— Маглі б разок і забыцца замкнуць ці хоць бы пакінуць ключ у дзвярах, — паскардзіўся ён клямцы на браме.

Кароль Рызыкі ўжо так быў паверыў у поспех сваёй авантуры, што цяпер амаль здзівіўся, не ўбачыўшы перад сабой гасцінна расчыненых дзвярэй. Ён падышоў да рага і абхапіў званіцу, задраўшы галаў.

— Як жа царкоўны вартаўнік наладжвае гадзіннік? Можа, проста ўзлазіць па голай сцяне і падкручвае стрэлкі рукамі?

Вышчарбленыя вуглы званіцы рэзалі далоні. Калі стаіш ля самай вежы, яна нібыта схіляецца над табой. Раптам Караля Рызыкі асяніла, і ён шаснуў прэч, быццам спалоханы кот з-пад самага бота.

Ён насіўся між магілаў і раз-пораз высока падскокваў. Потым, набраўшы хуткасць, пабег проста да званіцы. Ён скочыў на сцяну і паспрабаваў узбегчы па ёй наверх — ажно да гадзінніка. На чацвертым кроку ён зваліўся на зямлю. Але гэта было так весела, што ён паспрабаваў яшчэ раз. Кароль Рызыкі ўзбягаў на сцяну з розных бакоў, але кожны раз падаў пасля чацвертага кроку. Было ясна, што так ён ніколі не зможа намаляваць на гадзінніку твар.

— Не, трэба ўжо нешта рабіць, — сказаў Кароль Рызыкі і пачаў шукаць пажарную лесвіцу. Яна была звонку рызніцы і вяла толькі на ніжні дах, а там заканчвалася. На званіцу па ёй было не забрацца.

— Каб жа гэтая званіца павярнула сваю башку гадзіннікам сюды, усё б крыху бліжэй было, — прабурчаў Кароль Рызыкі.

Раптам яму падалося, што зводдаль, ля цвінтарнага мура, на яго глядзіць нейкая цётка. Ён не ведаў, што рабіць: ці то збегчы, ці то кінуцца ніцма на дах, ці то сказаць "добры вечар".

"Яна або думае, што я вар'ят, — і тады яна мяне баіцца, або што я здань... і тады яна яшчэ больш баіцца!" — вырашыў ён і пачаў рабіць рукамі розныя выкрунтасы. Ён прысядаў і шкрабаў паветра скурчанымі пальцамі, быццам прычэсваў цемру могілак; ён выцягваўся на ўвесь рост, каб пазбавіць цётку апошняга спакою; ён грымаснічаў і дробна падскокваў на вільчаку. Раптам ён страціў раўнавагу, сарваўся ўніз і, падрапаўшы ляжку аб самы край даху, прызямліўся на карачкі на магілу нейкага "спачылага фальваркоўца Ульсана", абгароджаную кратамі. Потым, узняўшы галаву, ён убачыў, што гэта ніякая не цётка, а звычайныя граблі, прыхіленыя да мура.

— Цьху ты, дзеля нейкай палкі-зграбалкі я, можа, нагу зламаў, — прамармытаў ён.

Але з нагой нічога страшнага не здарылася. Варухнуўшыся, ён адчуў, што нага цалюткая, і ў гэты ж момант зразумеў, як намалюе на гадзінніку твар.

Ён хуценька прабраўся назад да ровара. Ля садочка вартаўніка спыніўся набраць яблыкаў. Колькі яму спатрэбіцца? Дзесяць! Яблыкі не паддаваліся. Яны яшчэ не саспелі і не хацелі пакідаць свае галіны. Але, хоць яблыкі і не зрываліся, іх можна было адкруціць. Чаранок лопаўся, і галіны гайдаліся і сыпалі на траву лісце.

— Даруй, яблынька, не злуйся! Яны мне патрэбныя, без іх я не атрымаю белы каменьчык, — сказаў Кароль Рызыкі і злосна зыркнуў на цёмнае акно вартаўніка. — І не думай высоўвацца! — прашыпеў ён.

Набраўшы дзясятак, ён узяў піжамную куртачку, завязаў у яе яблыкі і ўскочыў на ровар. Яму трэба было да крамы: там ён бачыў бочку з дзёгцем.

Дагэтуль усё здавалася нейкім забаўным сном — прагулка па могілках, спроба абхітрыць гадзіннік... Але цяпер, з гэтай бочкай, усё рабілася небяспечным. Яна належала яго першаму ворагу. І сам Кароль Рызыкі яшчэ не настолькі прыжыўся ў гэтым сяле, каб ведаць розныя патаемныя пралазы і хованкі. Ён нават не ведаў дакладна, дзе крама, бо цяпер ехаў з боку царквы. Ён не памятаў, ці перад школай крама, ці за ёй. Ззаду, мабыць.

Раптам ён апынуўся проста перад бакалейнай крамай — ён амаль заехаў на двор. Ён развярнуўся і ад'ехаў на квартал назад. Ні ў адным акне не гарэла святло. Што калі хтосьці пільнуе яго ў той цемры, схаваўшыся за гардзінамі? Але адкуль гандляру ведаць, што Кароль Рызыкі сюды прыйдзе?

Закаціўшы ровар за дрывотню каля школы, Кароль Рызыкі павольна рушыў назад да крамы. Асцярожна перабег пасыпаную жвірам пляцоўку ля бензакалонкі. Жвір балюча калоўся.

“Спецыяльна панасыпаў”, — падумаў Кароль Рызыкі.

Ён крыху пастаяў за рагом, каб аддыхацца і абудзіць у сабе пагарду да смерці. Трэба ўспомніць, якімі словамі абзываў яго гандляр... падшыванец, якому абы напаскудзіць... нахабнік... сорам забыў! Гэтага хапіла, каб у душы Караля Рызыкі ўспыхнула прага помсты. Цяпер заставалася толькі пайсці на двор і пазбавіць гандляра лішку дзёгцю. Кароль Рызыкі без ваганняў выйшаў з-за крамы і абышоў хлеўчукі і паветкі на заднім двары, шукаючы якую-небудзь пасудзіну. Каля пральні ён заўважыў тачыльнае кола, пад якім была падвешаная балейка з вадой, каб яго астуджаць. “Тое, што трэба”, — падумаў ён, ледзьве зірнуўшы на балею. Ён адчапіў яе, выліў ваду і акуратна склаў яблыкі — адно пры адным — у густы іржавы асадак. Балея была цяжкаватая, але не надта. Ён узняў яе на плячо і перанёс да бочкі з дзёгцем.

Бочка стаяла перад фасадам, пад самым акном. Кароль Рызыкі паставіў балею на ганак, з якога ўдзень лаяўся гандляр, і пачаў, па чарзе выцягваючы яблыкі за чаранок, асцярожна апускаць іх у чорны дзёгаць, як у густы кісель. Ён спяшаўся, але ўсё адно паспеў заўважыць, як дзёгаць са смакам аблізвае зялёныя яблыкі, перш чым заглынуць іх да самага чаранка. Адно за адным ён вяртаў чорныя як вугаль яблыкі на свае месцы ў балеі. У яго ўжо было дзевяць такіх чорных.

І толькі ён узяў дзясяты, як убачыў, што ў акне стаіць гандляр і глядзіць на яго. Кароль Рызыкі так спужаўся і разззлаваўся, што скрывіў твар у сваёй самай пачварнай грымасе — раз яго ўсё адно заўважылі, дык ён хоць пакажа гэтаму гандляру, што пра яго думае! Ён хуценька абмакнуў апошні яблык, укінуў яго ў балею, потым павярнуўся да акна з растапыранымі, як кіпцюры, пальцамі, схапіў балею і пабег. Гандляру трэба спачатку павазіцца з замком, перш чым ён зможа выскачыць і кінуцца за ім у пагоню.

— Буду бегчы, пакуль ён не схопіць мяне за шкірку, — вырашыў Кароль Рызыкі, і балея, здавалася, палягчэла ў яго руках. Яна нават не замінала бегчы. Ён праляцеў цераз двор і кінуўся да дарогі. Школа была ўжо блізка.

— Толькі б ён даганяў памарудней, — падумаў Кароль Рызыкі, не наважваючыся азірнуцца, каб не страціць хуткасці.

Каля дрывотні ён выпусціў балею з рук і паглядзеў назад. Гандляр яшчэ нават не выйшаў!

— Паспею выкаціць ровар, — падумаў ён і ўхапіўся за сядло. Ровар выехаў задам — так, стой тут, не падай! — узнялі балею! ставім вось так! на багажнік! — паехалі! Ён ледзьве не перакуліўся, ускокваючы на ровар, але выраўнаваў руль, завярнуў за школу і паімчаў іншай дарогай. Фух, змыўся!

“Лухта нейкая... І чаго ён не выйшаў і не схапіў мяне? — думаў Кароль Рызыкі. — Чаго чакаў?”

Потым ён успомніў, які ў гандляра быў выраз твару. Не сярдзіты, а... смяротна спалоханы! Гандляр перапужаўся да смерці! Ён баяўся яго, Караля Рызыкі! Але чаму? Ён жа проста стаяў з чорным яблыкам у руцэ? А, ну так!.. Ён жа быў размаляваны, як чорт!

Калі Кароль Рызыкі зразумеў гэта, ён так узрадаваўся, што ледзь не ўехаў у жываплот. Сэрца яго скакала ад захаплення, і яму так хацелася спяваць, што аж клекатала ў горле. Ён думаў быў заспяваць “О, снежная поўнач”, але вырашыў адкласці гэта на потым. Гандляр мог яшчэ апамятацца і кінуцца ў пагоню.

Толькі ці мог ён здагадацца, куды знік Кароль Рызыкі? Наўрад ці.

— Калі толькі яшчэ каго не сустрэну, усё атрымаецца, — падумаў Кароль Рызыкі.

Хутка ён зноў быў каля могілак. Жытло вартаўніка было па-ранейшаму цёмным, званіца моўчкі глядзела сваім белым, чыстым цыферблатам на Караля Рызыкі. Ён паставіў ровар і зацягнуў балею на могілкі. Стаўшы каля мура, ён узяў першы

яблык, з якога закапаў чорны дзёгаць, і старанна прыцэліўся. Бам! Яблык патрапіў у цыферблат адразу над васьмёркай. Наступны! Бам! — чорная пляма села амаль каля сямёркі. Каралю Рызыкі хацелася спачатку намаляваць усмешку. Ніколі раней ён не быў настолькі ўпэўнены ў сваёй трапнасці, як цяпер. Ён спакойна браў новы яблык, узважваў яго ў руцэ, прыцэльваўся, размахваўся і адпускаў. Яблык ляцеў па крутой дузе і трапляў гадзінніку проста ў твар. Цыферблат ужо прыгожа пасміхаўся новенькімі чорнымі зубамі. Дзягцярныя плямы атрымліваліся вялікімі і былі добра бачныя здалёк. Вось і першае вока! Кароль Рызыкі не ўтрымаўся ад смеху. Гадзіннік таксама смяяўся і па-змоўніцку яму падміргваў. Ён быў рады, што цяпер можа бачыць! Апошні яблык у Караля Рызыкі выслізнуў з рукі, і правае вока ледзь не праляцела міма. Але справа была зробленая. Кароль Рызыкі хуценька пазбіраў з зямлі яблыкі і насадзіў іх на вострыя наканечнікі цвінтарнай брамы. Годна справіўшыся з заданнем, ён надзеў піжамную куртку і без трымцення ў руках зашпіліўся на ўсе гузікі. Потым паклаў балею на ровар і паехаў дадому.

Па дарозе ровар проста шалеў ад радасці. Ім было амаль немагчыма кіраваць. Кароль Рызыкі дазволіў яму станавіцца на дыбкі і віхляць паміж узбочынамі як хоча, але сам заставаўся спакойны. Ён пазіраў на сваё адлюстраванне, што праносілася праз цёмныя бліскучыя шыбы дамоў. Кароль Рызыкі ведаў, што зрабіў вялікую справу і ўсё сяло мусіць быць яму ўдзячнае за гэта: ён намаляваў для Госпада смешную мордачку, і анёлам будзе з чаго пацешыцца. Ён хацеў нават спыніцца каля дома гандляра, пагрукацца і расказаць яму пра ўсё, але ў апошні момант перадумаў і проста закінуў балею за паркан. Ён і вокам не міргнуў, калі ўбачыў, што яго заўважыла суседская цётка, якая выпускала на двор свайго ката. Ён даехаў дадому наўпрост і на ўсялякі выпадак патапіў сваю паласатую піжаму ў шаўцовым калодзежы, прыматаўшы яе да каменя. Пасля ціха забраўся ў хату цераз акно і лёг у ложак.

## Першае выпрабаванне для Фідэлі

Прачнуўшыся наступным ранкам, Фія адразу ж успомніла пра ўчорашняга хлопчыка. Яна басанож падбегла да крэсла, на якім ляжала яе вопратка, і памацала, ці ёсць у кішэні сукенкі белы каменьчык. Потым плёснула вады ў місу, каб памыць рукі і твар, і на ажурным абрусе заблішчэлі вадзяныя перліны і зіхоткія лужынкі.

— Не стукай так гарлачом, паб'еш місу! І спадарыня Малін можа пачуць, — засцерагла Фію мама.

У доме суддзі заўсёды мусіла быць ціха. Асабліва ў Фіі з мамай. І цішэй за ўсё мусіла быць уранку. Але сёння Фія зусім пра гэта забылася. Яна ўскараскалася на крэсла і паглядзелася ў люстра, што засталося суддзі ад яго цёткі. Усё, што было ў пакоі Фіі і яе мамы, належала суддзі, акрамя крэсла-качалкі і рэчаў на камодзе. Толькі сёння Фія пра гэта не думала. Ёй трэба было праверыць, ці напраўду яна такая страшная, як ёй заўсёды здавалася. А вось, мабыць, усё ж такі і не! Бывае і горш! Яна састроіла сабе грымасу.

— Не рабі так, — прашаптала мама Фіі. — Калі гадзіннік праб'е, вецер пераменіцца, а певень закрычыць, ты назаўсёды застанешся такой пачварнай!

— А калі я зраблю прыгожы твар, і гадзіннік праб'е, вецер пераменіцца, а певень закрычыць... — сказала Фія. — Я тады, напэўна, застануся прыгожай назаўсёды!

— Хто ведае, можа, і так, — не надта радасна прамармытала мама.

Яна, здаецца, ніколі не была надта радаснай.

— Я адчыню акно, а ты трымай пальцы, каб завесы не зарыпелі, — ледзьве чутна вымавіла яна, ускінуўшы на руку гару пасцельнай бялізны.

Акно неахвотна паддалося, шыбы злавесна загрымелі і, канечне, завесы зарыпелі, як і звычайна.

— Што вы там робіце? — пачуўся з-за сценкі сярдзіты голас цёткі Малін.

— Авохці, што гэта такое з гадзіннікам на царкве? — ахнула мама.

Яна сказала гэта амаль што гучна. Фія застыла дзе стаяла. Вельмі павольна азірнулася на акно, што глядзела ў сад, і нясмела зірнула скрозь чупрыну галля ў бок царквы, дзе на званіцы блішчэў гадзіннік. Няўжо на ім і праўда намаляваны твар?

— Падобна, нібыта ў гадзінніка вочы, нос і ўсмешка, — прашаптала мама. — І хто гэта мог зрабіць?

Фія праціснулася да яе і стала побач. Яна ўтаропілася ў белы круглы гадзіннікавы твар: замест носа — павіслая стрэлка, рот з чорных кропак расцягнуты ў шчарбатай усмешцы, адно вока ўзлезла на лоб, а другое ледзь не спаўзае з твару. У яго атрымалася!

— Што толькі не прыдумаюць! Гэта, відаць, нейкі шалапут пазабаўляўся, — сказала мама.

Фія прамаўчала. Ёй было весела. Гэта было самае вясёлае, што з ёй здаралася. Яна ніколі не бачыла такога смешнага гадзінніка! Ён быў амаль прыгожы. Ледзьве паспеўшы ўлезці ў сукенку, яна асцярожна прабралася цераз кухню і кінулася да веснічак. Ёй чамусьці падумалася, што Кароль Рызыкі даўно прыйшоў і цяпер стаіць там з выцягнутай рукой і чакае свой белы каменьчык. Але яго там не аказалася.

Фія стаяла, як і ўчора, пад дрэвам і чакала. Яна паглядзела ў бок шаўцовага дома, але ў двары была толькі нейкая цётка, што паласкала адзенне.

Фія выйшла на дарогу і прыкінулася, што гуляе сама з сабой у класікі. Яна скакала і скакала, пакрысе набліжаючыся да шаўцовага двара. Яна, канечне, не думала, што Кароль Рызыкі жыве там, — ён, безумоўна, жыве недзе ў цырку, у якім-небудзь шатры. Можа, ён спіць у гамаку пад самым купалам. А можа, у слаnоўніку на матрацы. Але мабыць, у Караля Рызыкі ёсць нейкія знаёмыя ў гэтым доме, раз учора ён выходзіў адтуль. Яна вырашыла спытаць пра яго. Спыніўшыся ля самага паркана, яна пачала назіраць за паласканнем. Цётка выкручвала над балеяй адзенне. Яна так старалася, што яно аж трашчала ў яе руках.

— Што табе? — спытала яна.

— Вы не бачылі Караля Рызыкі? — спытала Фія.

— Караля Рызыкі? Калі ты пра цыркача, дык, відаць, ён там, у сябе, — сказала цётка, матнуўшы галавой у бок цырка.

Фія вярнулася на двор. Яна зачыніла за сабой веснічкі і схавалася ў бэзавай альтанцы. Адтуль яна магла глядзець на царкоўны гадзіннік, а саму яе ніхто заўважыць не мог.

Раптам нехта рассунуў галіны і ўвайшоў у альтанку, так што лісточкі затрымцелі, быццам спалоханыя верабейкі.

— Ну як, каменьчык мой? — спытаў Кароль Рызыкі.

Фідэлі сунула руку ў кішэню і выцягнула каменьчык. Яна не ведала, што сказаць: яна раней ніколі не сустракала таго, хто ўмее маляваць мордачкі на царкоўных гадзінніках. Таму яна проста працягнула яму каменьчык на далоні. Кароль Рызыкі выцягнуў руку насустрач, і Фідэлі асцярожна выпусціла каменьчык. Ён бліснуў на сонцы і ўпаў у далонь Караля Рызыкі. Той сашчапіў пальцы, не адрываючы позірку ад Фідэлі. Ён збіраўся быў сунуць каменьчык у кішэню, але раптам перадумаў.

— Зрабі так яшчэ раз! — сказаў ён і падаў каменьчык Фідэлі.

— Як? — спытала яна.

— Дай мне яго яшчэ разок!

— Навошта?

— Мне падабаецца, як ты дастаеш руку з кішэні. Давай, схавай яго зноў!

Фідэлі зрабіла ўсё, як ён хацеў. Яна сунула каменьчык у кішэню, дастала яго і выпусціла зноў. Гэтым разам яна падняла руку крыху вышэй, і каменьчык паспеў некалькі разоў перавярнуцца ў паветры, паблісківаючы на сонцы, перш чым упаў на падстаўленую далонь.

— Яшчэ!

Гэтым разам ён не злавіў каменьчык, і яны абодва кінуліся на пясок, каб хутчэй яго знайсці. Яны заўважылі яго разам, але Кароль Рызыкі паспеў першым накрыць каменьчык рукою. Ён падсунуў яго да сябе, быццам Фідэлі хацела адабраць каменьчык.

— Цяпер ён мой, — сказаў ён.

— Канечне, твой! А цяжка было размаляваць гадзіннік?

Кароль Рызыкі пахітаў галавой і паказаў ёй далоні. Яны былі ўсе абадраныя, парэпаныя, а ў зморшчынках застаўся чорны бруд.

— Цяжка было толькі рукі адмываць пасля. Я мыў іх з пяском некалькі гадзінаў! Нікому не кажы, што ведаеш, хто гэта зрабіў!

Фідэлі кіўнула.

— Калі прыйдзеш на могілкі, убачыш на браме дзесяць чорных яблыкаў!

Фідэлі ўздрыгнула. Гэта гучала жудасна. Яна не разумела, прычым тут яблыкі.

Кароль Рызыкі перакочваў каменьчык на далоні і глядзеў, як ён блішчыць. Яму падабалася, які ён гладкі. На ім не было аніводнай цёмнай плямкі.

— Больш ты яго ніколі не ўбачыш, — сказаў ён і падняўся.

Ён зірнуў на Фідэлі, але тая толькі засмяялася.

— Хаця не. Ты атрымаеш яго назад!

Ён крыху падумаў.

— Ты павінная маўчаць увесь дзень, што б табе ні казалі і як бы на цябе ні сварыліся. Зможаш?

— Калі мне пачынаць і калі заканчваць? — спытала Фідэлі.

— Пачнеш цяпер і будзеш маўчаць, пакуль заўтра не прачнешся!

Фідэлі кіўнула.

— Клянешся?

Фідэлі не адказала. Выпрабаванне пачалося.

— Напішы на пяску “Клянуся”, — загадаў Кароль Рызыкі.

Фідэлі адламала галінку бэзу і расчысціла плямку цёмнага пяску.

“Клянуся”, — накрэмзала яна выразнымі літарамі і засыпала надпіс сухім пяском.

*Пераклад са шведскай мовы.*

## Алесь ЗАМКОЎСКІ

### *АСЕННІ СОН*

* * *

горад доўга маўчыць, аднак
гэта сумны нядобры знак.
быццам свет адбалеў і знік,
і згарэў палымяны зніч,

быццам недзе згубіўся ключ
ад дзвярэй, што вядуць у ноч,
быццам скончыўся джын і скотч...
толькі ў вецці скуголіць сыч,
паўтарае смяротны кліч.
па лістоце – за крокам крок
цень паўзе ў супрацьлеглы бок.

* * *

Чуеш: вецер дзверы расчыняе...
Узгадай нясмелыя радкі,
дзе нябёсы лісцем пакрываюць
дзве дарогі – дзве твае рукі.

Узгадай самотнага паэта
(ціхі голас), хмары, ліхтары...
Ён казаў, што добрая прыкмета –
гэтай ноччу чуць свае віры,

і прасіў, каб ты зняла пальчаткі
і пярсцёнак з правае рукі.
Чуеш асцярожны шэпт асадкі?..
Мякка вецер лашчыць плынь ракі.

* * *

Вершы –
як кава раніцай,
як цыгарэтны дым...
Сэрца майго ўладальніца
гаючай нальне вады.
Глыток за глытком.
Бяссонная
салёная цішыня
накрые бязмежнай кронаю
рыцара і каня.
Кастрычнік.
Дама сардэчная
сябе назаве вясной,
падорыць маленькай вечнасці
букет вершаваных сноў.

## *МАРЫ ЗІМЫ*

* * *

Мандарынавы Новы год.
Праз калючыя гурбы снегу,
разарваўшы людскі карагод,
расхінуўшы крылы, – да неба.

У глухі мандарынавы сад,
дзе трава супакойвае цела,
дзе пяшчотай агністых прысад
птушка шчасця ў лісці трымцела.
І нікога вакол, пакуль
не захочаш сама, не паклічаш.
Толькі ціхі чмяліны гул
асцярожна вушы казыча...
Невядома – на яве ці ў сне –
адплываеш у тую краіну,
дзе самотныя вусны кране
навагодні смак мандарынаў.

* * *

холад. смак крыві і срэбра.
неспатольнай смагай дня
стогне ноч. між тонкіх рэбраў
плача сэрца -- не суняць...

плачу не пачуе поўня.
і аблокаў сівы дым
беліць цёплыя далоні,
беліць чорныя сляды...

* * *

калі няма куды ісці
калі няма каму спяваць
злы вецер лісцем шамаціць
і сум прыходзіць начаваць

і ода горкаму віну
нібы праклён нібы прысуд
і лёдам сцятую вясну
у белым саване нясуць

* * *

будзе так:
без лішніх прадчуванняў,
без намёкаў і трывожных слоў
новы год прыцягне на спатканне
белае зламанае крыло.

будзе так: ты хутка знойдзеш лекі –
мандарыны, свечкі і глінтвейн, -
схіліш галаў і апусціш вейкі...
пацалуеш... покрыва завей

расхінецца. зорныя мятлушкі
замігцяць, вальсуючы ў такт.
новы год - у каляровых стужках –
паглядзіць табе ў вочы.
будзе так.

## *ВЫБРЫКІ*

* * *

у праклятага анёла
зноўку крылы адраслі
коціцца сансары кола
ад нябёсаў да зямлі
Геркулес вялізнай лапай
б’е лядашчага па лбе
а Сінбад на зорнай мапе
шлях шукае да сябе
у пясках пустыні Гобі
Ра і Сэт саджаюць рыс
эльф рэінкарнуе ў зомбі
каб матулі быў сюрпрыз
накарміўшы свет фасоляй
хочаш плач хочаш крычы
мой двайнік вісіць пад столлю
і настойліва маўчыць

* * *

каралевы не будзе ні чорнай ні белай
застаецца гуляцца у крыжыкі-нолікі
асушу паслязаўтра праліў Дарданэлы
пазбаўляючы голае сэрца ад колікаў
для цябе спецыяльна вясновае сочыва
для мяне адмысловы паштэт з тапінамбура
ў аксамітнай гушчэчы балючае воўчае
і пачуцці з дамешкам апошняга тамбура
твая існасць схавалася ў лісці калінавым
беражы свае рукі для цёплага подыху
я не выpасту ў воя сусветнага слыннага
ды ўратую твой цень ад святлейшага ворага

* * *

у падвешаным стане
між не і так
мой любімы ахоўнік
англійскі грак
мой любімы прыхільнік
філосаф-грэк

абавязак двухжыльны крычыць:
come back!

не да сэрца вяртацца
тым больш вяртаць
між наядаў і грацый
так цягне спаць
між матэрый і целаў
так цягне пець
ты спытай: звар'яцелы?
скажу: ледзь-ледзь

дзе над дахамі скача чырвоны шар
дзе вясёлая кляча скубе папар
дзе за бульбу і сала ідзе вайна
mea maxima culpa
мая віна

## ГОЛАС ПАЧУЦЦЯ

* * *

падары свае вусны. падары.
аддай свае рукі. аддай.
я адкрыю табе віры.
пакажу табе небакрай.
расхіну палымяны свет.
прачытаю чароўны сон.
зацалую цябе ў святле
белай поўні. да скону дзён.

* * *

...там, дзе ноч сустрэне чорны човен
у цішыні туманных берагоў,
прысніцца зноў,
што лістапад злічоны,
што між аблокаў,
быццам між стагоў,
блукае белая карова поўні
і п'е самоту красавіцкіх дзён,
што вусны цёплыя твае і скроні
цалуе нейкі невядомы ён...

* * *

перачакаць восень,
перацярпець.
скласці ў тоўстую кнігу
лісткі клёна,

апрануць швэдар,
запаліць газоўку,
сагрэць
крыху малака з мёдам
у кубку зялёным.
глядзець,
як гараць вокны,
зоры зіхцяць –
слязінкі Бога,
якія пакрыў іней.
кароткая стрэлка
рухаецца на пяць,
доўгая стрэлка,
лічыць імгненні.
па спіне
бягуць дрыжыкі.
хутка яшчэ дзень
адгукнецца ў небе
жоўтым бясконцым промнем.
халодны вецер –
сведка мінулых падзей –
зіму прынясе
сняжынкай сівой.
на далоні.

* * *

Ганарлівы і спакойны,
знікну ціха ў белы дзень.
Ты з нянавісцю і болем
праклянеш мяне і цень,
што прыйшоў за мною следам
на заснежаны парог,
за якім віном і хлебам
мы вячэралі утрох.
Потым нас ужо чацвёра –
я і ты, цень твой і мой –
ноччу думалі пра мора
і глядзелі, як прыбой
лашчыць стомленыя ногі,
абдымаючы сляды
тых самотных і нямногіх,
што сядзелі ля вады.
А пасля праз шамаценне
коўдры, вуснаў, ліхтароў
я, пачуўшы голас ценю,
знік туды, адкуль пяро
з крылаў нейкай чорнай птушкі
прыляцела ў гэты зман,
што хацеў мяне загушкаць,
што хацеў мяне стрымаць.

* * *

Над горадам – ноч.
Вецер ціха
спявае між зораў.
На вуліцах, плошчах
гараць ліхтары-міражы.
Асенняя вечнасць
салодкім імгненнем
адорыць,
звязаўшы між намі
пяшчотныя стужкі сцяжын.
Адно аднаму аддадзім
трапяткое дыханне,
на вуснах застыне
гаючая прага жыцця.
Абраныя ноччу,
мы йдзём
па дарозе абрання,
і белыя птушкі
за намі
у вырай
ляцяць.

## *СЛОВА*

Слова!
Ці служка я твой,
ці творца?
Ці сведка
твайго нараджэння і ўзняцця?
Ці хворы –
тваёй наталяюся моццу?
Ці вернік,
і Слова – маё распяцце?
Нястомны ваяр,
што цябе бароніць?
Ці, як паляўнічы,
іду на ловы?
Ці старац,
і вечнасць пабеліць скроні?
Ці, можа, я – сказ,
ці гук,
ці паўгука
ад Вечнага Слова,
Адвечнага Слова?

**Вера СТРОМАВА**

# Аляксандра Андрэеўна і слепата

*Затым Бязногі сеў на Сляпога. Так увайшлі яны ў вінаграднік*
*і забралі ўвесь скарб свайго Гаспадара.*

Кірыла Тураўскі

Вокны ў кабінеце Аляксандры Андрэеўны выходзілі на пляцоўку дзіцячага садка. Часам, адводзячы стомленыя вочы ад манітора, яна глядзела на пясочніцы і маленькія лаўкі пры іх, на арэлі, на металічны паравоз. Вецер, ветлівы дворнік, падмятаў сцежкі перад дзіцячым шпацырам. А некалькі разоў на дзень дзверы садка адчыняліся, і адтуль нястройнымі ланцужкамі вырывалася шумная дзятва.

Гледзячы на дзяцей, Аляксандра Андрэеўна ўспамінала маленства Ганулі. Яе ранішнія капрызы, нежаданне прачынацца, снедаць, ісці ў садок, яе крыкі і слёзы, размазаную кашу і разліты сок.

Аляксандра Андрэеўна заглыблялася і ва ўспаміны пра сваё маленства. Пра тое, як з сяброўкай любілі сядзець на лаўцы перад домам і ў свае пяць-шэсць гадоў планаваць будучае жыццё.

– У мяне будзе тры хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Іх будуць зваць Сярожа, Коля, Саша (як мяне), Люба і Вера. А майго мужа будуць зваць Андрэй, – прыкладна так выглядала карціна светлай будучыні ва ўяўленні пяцігадовай Аляксандры Андрэеўны.

Але паступова сталеючы, Аляксандра Андрэеўна змяняла ідэальную карціну свайго жыцця, дадаючы да яе ўсё больш дэталяў.

**Кім быць:**

Я вырасту і стану прынцэсай, мамай, балерынай, скрыпачкай, настаўніцай малявання, спявачкай, актрысай, прадаўшчыцай у ювелірнай краме, вандроўнікам на Паўночны полюс, зноў настаўніцай, цяпер матэматыкі, педыятрам, складальнікам падручнікаў па беларускай мове, псіхолагам, касманаўтам (дзяўчынак ужо туды пускаюць), міліцыянтам. Бухгалтарам Аляксандра Андрэеўна да восьмага класа і не думала рабіцца. Але мама параіла, бабуля падтрымала, тата змоўчаў.

**З кім быць:**

Я вырасту і пазнаёмлюся з ім у Батанічным садзе. Мы будзем хадзіць у кіно, у парк, у тэатр, на танцпляцоўку, у рэстаран, будзем карміць галубоў і качак. Ён будзе дарыць мне цукеркі і кветкі, пісаць прыгожыя вершы, пець песні, насіць на руках. У дзень вяселля на мне будзе доўгая белая сукенка, празрысты вэлюм і шчаслівая ўсмешка. Ён будзе трымаць мяне за руку і цалаваць у вусны.

Гэтая частка фактычна спраўдзілася. За выняткам Батанічнага саду (яго замяніла гулянка ў сяброў) і вершаў з песнямі (у Максіма не было ні фантазіі, ні слыху).

**Як быць:**

У нас будзе трохпакаёвая кватэра на трэцім паверсе, лядоўня, тэлевізар. У самых смелых сваіх ужо юнацкіх памкненнях Аляксандра Андрэеўна дапускала, што ў іх будзе свой “Жыгуль”.

Па-праўдзе, Аляксандра Андрэеўна вяртацца думкамі ў сваё дзяцінства пачала

не так даўно, ну гады з два-тры таму, калі ўсё больш настойліва стала прывучаць сябе да думак пра пенсію. Пяцьдзесят чатыры ёй споўнілася ў красавіку, на календары, падораным кліентам-банкірам, – прыгожае фота залаціста-чырвонага парку і подпіс “Сентябрь”. Ужо хутка: перацягнуцца праз восень, сціснуць зубы і перапаўзці зіму, а там – нават снег яшчэ не сыдзе – і яе красавік.

Пенсіі Аляксандра Андрэеўна баялася – чаго тут хаваць? А яна хавала. Не ад сябе, канечне, ад іншых – калегаў, знаёмых... Бывала, прачынаючыся сярод ночы, яна лавіла сябе на думцы, што пужае яе не старасць, якая, падавалася, грымне адразу з уручэннем пенсійнага пасведчання, а невядомасць. “Я рушу за край, а там не будзе нічога”, – думала яна.

Неяк спрабавала гэты свой страх адкрыць Максіму, але ў яго ўвесь час нейкія праблемы то на працы, то пасля працы. Ды і што яму да думак пра пенсію – яму яшчэ далёка, бо мала таго, што ён мужчына, дык яшчэ і маладзейшы за яе на пяць гадоў...

Дачка Ганулю жыла ў сталіцы, наязджала ў іх маленькі горад Б. цяпер рэдка. Такі ў яе час – парадкаваць сваё жыццё, не да матчыных прымхаў. Аляксандра Андрэеўна ўсё разумела, але прагнаць страх гэта не дапамагала.

Натуральна, на пенсію ніхто яе сілком не гнаў. На сваім прадпрыемстве Аляксандра Андрэеўна адпрацавала пятнаццаць гадоў, мела добрую рэпутацыю і павагу калектыва. Асабліва з яго не выбівалася, нікому дарогу не пераходзіла, проста рабіла сваю справу як след, а таму была на добрым рахунку ў начальства.

Але моцнага жадання працягваць працаваць яна таксама ў сабе не адчувала. Аляксандра Андрэеўна стамілася, усім сваім нутром. Стамілася хадзіць адной і той жа сцежкай між пяціпавярховак да прыпынку “7”-кі, выходзіць на “Камбінаце”, стаяць на светлафоры, чакаючы зялёны, пераходзіць вуліцу, збочваць направа, і праз тры крокі – шэры цагляны будынак, дзе яна ўжо пятнаццаць гадоў сядзіць за сталом і глядзіць праз вакно на пляцоўку дзіцячага садка. Ну і, вядома, працуе з такім жа імпэтам, як амаль усе жанчыны яе ўзросту, то бок па інэрцыі.

Сяброўвак сярод супрацоўніц у Аляксандры Андрэеўны таксама не было, хоць добрыя стасункі яна падтрымлівала практычна з усімі. Яна і слова магла ў крыжаванцы падказаць, праз тое лічылася жанчынай начытанай, і параду спраўную даць, калі ў яе пыталіся, за што мела рэпутацыю жанчыны разумнай. Але вось душэўнасці, па меркаванні каляжанак, Аляксандры Андрэеўне не хапала. Неяк ні мужа абмеркаваць, ні на свякруху паскардзіцца Аляксандра Андрэеўна не ўмела і не любіла. Ды і наогул з размовамі ні да кога не лезла, праблемы свае не скідвала. Мабыць, таму шкадаваць ні пра кога пасля сыходу не стала б.

***

Калі на сцяжынкі ўнізе выпаў першы снег, і з дзвярэй дзіцячага садка выкаціліся апранутыя па-зімоваму яркія калабкі, Аляксандра Андрэеўна злавіла сябе на думцы, што страх стаў крыху прападаць, а на змену яму прыходзіў зусім іншы стан.

Ёй пачала завалодваць цікаўнасць. Хоць цікаўнасць – занадта моцнае слова для таго пачуцця, якое пасялілася ў аднапакаёўцы яе душы побач са страхам.

Аляксандра Андрэеўна асцярожна прымервалася да ролі пенсіянеркі.

**Што рабіць дома?**

Прачнуцца, умыцца, прыгатаваць сняданак Максіму, выправіць яго на працу. З гэтымі пунктамі ўсё ясна. Нічога новага, цягам дваццаці гадоў яна бліскуча адпрацавала сцэнар сваіх будняў. Далей? Памыць посуд, папраць бялізну, прыбраць у хаце – у справу пайшоў сцэнар дзён выходных. Далей? Кожны

дзень праць і прыбіраць не будзеш. Яе Максім – ахайны мужчына, не тое, што ў некаторых...

Тут Аляксандры Андрэеўне прыйшло ў галаву, што можна скарыстацца досведам іншых знаёмых ёй пенсіянерак. Суседка Тонька ўжо на пенсіі пяць гадоў і амаль невылазна сядзіць на лецішчы. А як зойдзе ў госці, дык толькі і размоваў, што пра чарвівую бульбу, счарнелыя памідоры, неўраджай сліваў. Але Тоньчын прыклад не для Аляксандры Андрэеўны, да зямлі яе пакуль не цягнула...

Былая калега Святлана Іванаўна хваліцца, як добра няньчыць унукаў. Іх у яе ўжо трое, ад двух сыноў. У тым, што занятак гэта прыемны Аляксандра Андрэеўна не сумнявалася, але ж дзе тых унукаў возьмеш да красавіка?.. Ганупя пакуль замуж, здаецца, не збіралася... І дзякуй Богу, думала сабе Аляксандра Андрэеўна. Хаця хто гэтую Ганулю ведае: маці адно кажа, а што яна там робіць і чым напраўду жыве, хіба ж ты яе ўпільнуеш?..

Яшчэ колькі яе пенсійных знаёмых не займаліся нічым асаблівым. Пачалі больш і лепш гатаваць, кормячы сыноў, нявестак і мужоў, нехта папросту праседжваў дома, занурыўшыся ў тэлевізар, а нехта пакрыху выходзіў на штурм раённых паліклінік у барацьбе за сваё і без таго не моцнае, аднак яшчэ больш падарванае пенсійнай бяздзейнасцю, здароўе. Ды толькі гэта былі ўжо ветэраны пенсіі са стажам. Аляксандра Андрэеўна рыхтавалася стаць усяго толькі "першакласніцай".

***

Праводзячы дні ў развагах, Аляксандра Андрэеўна і не заўважыла, як прыйшла апошняя зімовая справаздача. У хуткім часе за справаздачай мусіла скончыцца і зіма. Ды толькі чым займацца на пенсіі, яна ніяк не магла прыдумаць.

Сакавік выдаўся цёплым. Марозу амаль не было, снег раставаў даволі хутка, і насычаная вадою зямля ўжо сніла, калі можна будзе выбухнуць зелянінай. Праўда, вецер, што выганяў яшчэ зімовыя аблокі куды падалей, таксама шчыраваў ва ўсю.

Па дарозе з працы Аляксандра Андрэеўна шчыльней захуталася ў шалік і асцярожна ступала па засланай мокрым лёдам сцежцы, гледзячы збольшага адно сабе пад ногі, зноў занурыўшыся ў думкі пра пенсію.

Раптам перад сабой практычна на праезнай частцы яна заўважыла інвалідны вазок, а ў ім маладую дзяўчыну, што спрабавала заехаць на бардзюр. Аляксандра Андрэеўна кінулася ёй дапамагчы, бо, хоць транспарту тут заўжды было не шмат, заставацца на праезнай частцы было небяспечна.

– Дазволь мне, – сказала яна, ужо трымаючыся за ручкі вазка, і хуценька ўзняла яго на тратуар.

– Дзякуй, – усміхнулася дзяўчынка, але ў яе паглядзе чыталася не ўдзячнасць, а хутчэй здзіўленне і зацікаўленасць. – Вы мне вельмі дапамаглі.

– Ды няма за што.

– Рабіць дабро ўмее і хоча рабіць не кожны. Да таго ж, некаторым гэта можа быць шкодна, – дзяўчынка паглядзела Аляксандры Андрэеўне проста ў вочы і ўсміхнулася. Нейкі дзіўны агонь заіскрыўся ў яе паглядзе.

– Шкодна? Ты праўда так думаеш?

– Праўда. Да пабачэння, – дзяўчынка зноў усміхнулася і, развярнуўшы свой вазок, паехала ўздоўж тратуара.

– Да пабачэння, – здзіўленая гутаркай, Аляксандра Андрэеўна накіравалася да прыпынку.

Наступнага дня, вяртаючыся з працы, Аляксандра Андрэеўна зноў заўважыла дзяўчынку на тым жа месцы, дзе і ўчора. Але ўжо на тратуары.

– Добры дзень, – хітравата ўсміхнулася ёй дзяўчынка.

– Добры. Ужо сама заехала? – запыталася Аляксандра Андрэеўна.

– Сама, як выявілася, гэта не так і складана. Я лічу, варта вучыцца пераадольваць цяжкасці. А вы?

– Не магу не пагадзіцца. Але ўсё ж люблю іх сабе не ствараць, – усміхнулася жанчына.

– А можа, менавіта пераадольванне цяжкасцяў нас робіць у большай ступені людзьмі? Вы ж, мабыць, таксама не любіце сапсаваных ды выпеставаных дзяцей? З іх і вырастаюць слабыя і бязвольныя дарослыя.

– Ну, дзеці гэта ж зусім іншае. Ты ж і сама яшчэ дзіця.

– Разумнае дзіця заўжды разумнейшае за дурнога дарослага.

– Як цябе завуць? – запыталася Аляксандра Андрэеўна.

– Давай ты спачатку скажаш, як завуць цябе. Я не хачу паўтарыцца.

– Аляксандра Андрэеўна. А што гэта зменіць у тваім імені?

– Гэта нічога не зменіць у маім імені. Але можа паўплываць на імя, якое я табе назаву. Значыць, Саша? Ты не супраць, калі я буду цябе так называць і казаць табе "ты"? Я проста не веру ва ўзроставую іерархію. Заві мяне... Зоя.

– Во як, Зоя. А ўва што ты яшчэ не верыш?

– О, шмат у што. Па-мойму, у гэтым свеце нашмат больш рэчаў, у якія варта не верыць, чым варта верыць. Ты калі-небудзь задумвалася, што ў школе нам даюць не веды, як такія, а адно ўсяляюць веру? Веру ў тое, што існуе фотасінтэз, што зямля круціцца, што формула вады – H2O...

– Неяк не задумвалася.

– А што я табе казала пра разумных дзяцей?

Аляксандра Андрэеўна хацела пакрыўдзіцца на такія словы, але гутарка падалася ёй цікавай, таму выгляду яна не падала і вырашыла працягнуць.

– А ў які клас ты ходзіш?

– Цяпер я не хаджу. Бачыш, езджу ў вазку. Год таму мяне збіў аўтамабіль. Але мушу быць у апошнім класе. Праўда, бацькі пераканалі школьнае кіраўніцтва, што я ў стане здаць экзамены экстэрнам.

– Я думаю, у цябе гэта атрымаецца.

– Нават не сумняюся. Хаця, мабыць, мусіла б. Хіба можа па-сапраўднаму мудры чалавек не мець сумневаў? Але мне відавочная ўся бязглуздзіца гэтых экзаменаў. Што яны мне могуць даць? Я лепей у нечым больш важным пачну сумнявацца.

– Ну, прынамсі, дадуць магчымасць паступіць у нейкую ВНУ. Вывучыцца...

– Каб вывучыць тое, чаго я хачу, ВНУ мне не патрэбная. Ты не спяшаешся? Мы можам крыху прайсціся? Ну, пройдзешся ты, а я пракачуся, – засмяялася Зоя. – Я жыву побач. А табе ў які бок?

Яны прайшлі яшчэ два прыпынкі. У кожным сцвярджэнні Зоі, практычна заўжды катэгарычным, гучаў выклік і пратэст усім і ўсяму. Аляксандра Андрэеўна спачатку спрабавала Зою ўлагодзіць, пасля парывалася пярэчыць, але ўсе яе аргументы разбіваліся аб сцяну падлеткавай самаўпэўненасці. Ды толькі Аляксандры Андрэеўне, яна сама не магла патлумачыць чаму, такая напорыстасць падабалася. Яе прыцягвала гэтая нястрымная энергія, што біла з дзяўчынкі ключом.

На развітанне Зоя прапанавала Аляксандры Андрэеўне сустрэцца на тым жа месцы ў той жа час на наступны дзень:

– Ведаеш, мне так цяжка знайсці суразмоўцу. А ты мне падабаешся. Заўтра я буду чакаць цябе.

Гатуючы вячэру, Аляксандра Андрэеўна ўсё думала пра Зою. Нахабная і саркастычная, гэтая дзяўчынка-падлетак у інвалідным вазку яе ўсхвалявала. Ніколі раней Аляксандры Андрэеўне не даводзілася весці такіх размоваў, нават са сваімі аднагодкамі, а тут дзяўчо, малодшае за яе дачку.

Седзячы перад тэлевізарам, Аляксандра Андрэеўна пачала была дзяліцца з

Максімам сваімі думкамі пра незвычайнае знаёмства. Аднак мужа пачатак гісторыі не надта ўразіў, да таго ж яна абрала не самы лепшы момант для сямейных гутарак – адзін з супергерояў іх любімага серыяла Стыў Бёрдз спрабаваў вызваліць з палону тэрарыстаў сваю малодшую дачку Карэн, жыццё абодвух якраз павісла на валаску, таму жанчына вырашыла пакінуць гісторыю з Зояй пакуль для сябе. Такі сабе маленькі казус.

Сустрэчы жанчыны і дзяўчынкі зрабіліся рэгулярнымі. Іх часта можна было пабачыць разам – немаладую, амаль пенсіянерку ў карычневым паліто і кароткастрыжанае дзяўчо ў вазку. Павольна шпацыруючы па адкрытых вясне вуліцах ці седзячы на высахлых пасля зімы лаўках, яны ўвесь час размаўлялі. Часцей гаварыла дзяўчынка-падлетак, а слухала і часам пярэчыла жанчына.

**Што яна чула:**

Я шукаю, што ёсць за гэтай абалонкай узросту, полу, адукацыі, спрабую скінуць скуру з сябе і з цябе і знайсці, што схавана пад ёю. Ты хочаш лічыць сябе старою, слабою й дурною – тваё права. Але ўзрост, як і ўсё іншае, не мае значэння. Недзе ўнутры нас ёсць сутнасць, якая, як сэрца ў целе, б'ецца, гоніць думкі і прымушае жыць нашую бесцялеснасць – дух, душу, што заўгодна. Шукай жа і слухайся яе.

Ты ўжо адыграла дастаткова роляў: бухгалтаркі, калегі, жонкі, маці, прыяцелькі, каго там яшчэ. Час спыніцца. Сыдзі са сцэны і зрабіся нарэшце сабою.

Я ніколі ні пра што не шкадую – з усяго трэба браць для сябе ўрок і вучыцца, ды ісці далей. І не веру ў памылку. Бо з часам памылкі робяцца нормай, а слушнае цяпер ператвараецца ў памылку пасля. А таму ў гэтым свеце толькі і застаецца, што пераварочваць усё з ног на галаву і назад. Інакш можна канчаткова засумаваць.

Часам такі ментарскі тон Аляксандру Андрэеўну стамляў, часам падаваўся ёй недарэчным, а часам прымушаў рэзка пярэчыць. Яна ж і сама пражыла жыццё! Але збольшага Аляксандры Андрэеўне было цікава, і яна папросту слухала.

Не тое, каб Аляксандра Андрэеўна сама ніколі пра такія рэчы не думала. Але было тое, збольшага, у маладзейшым узросце. Гаварыць жа на такія тэмы з суседкамі ці супрацоўніцамі ёй падавалася неяк недарэчы. Заўжды знаходзілася нешта прасцейшае, важнейшае, ну, ці, прынамсі, больш надзённае, што патрабавала хуткага вырашэння і ўмяшальніцтва. Было так зручна і так прыемна раз і назаўсёды ўцягнуцца ў руціну гэтых штодзённых абавязкаў, аддацца ім, уціснуцца ў схему і не ствараць нікому цяжкасцяў. Бо супраціў непісаным, але ўсім добра вядомым законам мог каштаваць занадта дорага: і ёй, і яе сям'і. Ці варта сумнявацца ў іх правільнасці? Сумнеў заўжды ўносіць сумятню. Запавольвае рух, і ты, нібыта ў сне, грузнеш у глебе, замест таго, каб цвёрда рухацца і дзейнічаць. І нават калі не грузнеш, то толькі й раздумваеш, куды паставіць паднятую нагу.

І вось калі спяшацца ўжо, падаецца, няма куды, Аляксандра Андрэеўна вырашыла: чаму б і не падумаць, куды паставіць нагу, якая яшчэ, як выявілася, хоча зрабіць новы крок. Ці нават так: за тым краем пенсійнага ўзросту, якога Аляксандра Андрэеўна ўсё баялася, апынулася поле, пра якое яна раней не здагадвалася, а па ім можна было бегчы і бегчы, наколькі хапала яе няхай ужо і амаль старэчага запалу.

На пенсію Аляксандру Андрэеўну правялі прыстойна, не горш за іншых – бутэрброды, грузінскае віно, пышныя словы ўдзячнасці ад кіраўніцтва і сокавыціскалка ў падарунак ад супрацоўнікаў. Былыя калегі ўзялі з Аляксандры Андрэеўны абяцанне, што яна ніколі іх не забудзе, і на гэтым яе кар'ера бухгалтаркі і любыя стасункі з калектывам скончыліся.

Адсвяткавалі дзень нараджэння і яе цяперашнюю вольніцу і за сямейным сталом. Ганула прыехала на выходныя, а Максім згатаваў святочную вячэру – і хто толькі навучыў?

У канцы красавіка ў пенсіянеркі-першакласніцы пачаліся вольныя ад працоўных турботаў дзянькі.

І вось, калі ўся прырода, нібы пасля хваробы, збіралася накінуць на свае худыя і бледныя плечы бліскучыя ўборы травы ды лістоты, якімі давай замілоўвайся ў смак, Зоя прапанавала Аляксандры Андрэеўне зрабіцца сляпой.

Тую гутарку Аляксандра Андрэеўна пачала сама. Яна расказвала дзяўчынцы, што назірала з вакна працоўнага кабінета за дзецьмі: як яны выходзілі на прагулку, рассыпаліся па двары, і як праз некаторы час збіраліся зноў і знікалі за карычневымі дзвярыма садка. Некаторых малых Аляксандра Андрэеўна вылучала з натоўпу. Асабліва любіла назіраць за тымі, што ўнікалі калектыўных гульняў, шукалі ціхі куток, як некалі яна сама. Такім малечам Аляксандра Андрэеўна любіла прыдумляць гісторыі, нібыта “пісаць” іх будучае жыццё.

– А ты не спрабавала прыдумаць гісторыю сабе? – запыталася Зоя, разглядаючы леташнія і пазалеташнія надпісы на яшчэ нефарбаванай па-новаму лаўцы. – Я, напрыклад, ствараю сваю.

– Але гэта падман. Дзеці насамрэч пражывуць зусім іншае жыццё.

– Слухай, а якая розніца? Ты прыдумляеш ім жыццё. І гэтае, прыдуманае табой, застаецца тваім. І нічога не перашкаджае табе прыдумляць жыццё для сябе. Мая настаўніца па літаратуры ў пятым класе (мабыць, адзіная нечага вартая настаўніца за ўсе гады вучобы ў школе) казала нам, што, менавіта дзякуючы кнігам, мы можам пражыць нашмат больш жыццяў, чым гэтае адзінае, часам усяго толькі вартае жалю, жыццё. А тваё прыдумлянне гісторый ці не ёсць пэўным чынам літаратурай унутранага ўжытку? Ну, толькі незапісанай.

– Дзе я, а дзе пісьменнік. Не смяшы.

– Дапусцім. А я ж і кажу пра ўнутраны ўжытак. І калі я казала табе – зрабіся сабой, то мела на ўвазе – вырачыся навязаных табе межаў і ўсталюй свае. Чалавек не можа жыць без межаў. Ён сам па сабе адно вялікае, ці маленькае, гледзячы з чым параўноўваць, абмежаванне.

Толькі не трэба мне плесці пра ўзрост і г.д. Гэта самападман, убіты ў цябе грамадствам. Разумееш? І ці не ёсць самападманам усе, практычна ўсе нашыя прапісаныя і непрапісаныя абавязкі перад краінай, перад сям’ёй? Ты не думала, што гэта папросту патрабаванні арганізма, каб усе яго органы працавалі стройна і зладжана. Жых-жых, жых-жых. Шыхтуйся, увага, плі! Шыхтуйся, увага, плі! А калі я не бачу сэнсу ў гэтым – “плі!”? А хачу “тлі” ці “лі!” ці “канаплі”?.. Мне тут жа скажуць: “Нельга”. І адказ на пытанне “чаму” адзін – сістэма разбурыцца. Згодная? Але такая хітрая штука – разбураючы адну сістэму, ты міжвольна ствараеш ці робішся часткай іншай (ну, канечне, калі дастаткова моцная, каб папярэдняя сістэма цябе не выразала, як ракавую пухліну). Ну не пазбегнуць гэтага. Сэ ля ві.

А таму чаму б табе не забіць на ўсё і не жыць па сваіх правілах? Прынамсі, так будзе больш сумленна. Заадно праверыш, чаго ты вартая.

– Мяшаеш ты ўсё да кучы. Я не магу ўсё разбурыць на старасці гадоў. Не так гэта лёгка і проста, як ты сабе думаеш.

– Можаш. А калі не хочаш, дык ствара新 новы свет, уяўляючы, малюючы яго. Стань мастаком і гаспадаром свайго жыцця, нават калі для гэтага давядзецца аслепнуць.

– Зоя, што ты прыдумляеш! І тваім выдумкам ёсць межы.

– О, Саша, ты хочаш усталяваць мне межы? Дык толькі знаходзячы іх, чалавек і спазнае сам сябе. А пасля набіраецца смеласці, іх перакрочвае і зноў спазнае.

Хвіліну таму я пра гэта казала. Але, па-першае, не варта кідацца і выколваць сабе вочы. Я кажу фігуральна. Хаця... Жартую. Па-другое, навошта бачыць лішняе? Заплюшчы вочы і паглядзі ўнутр сябе. Калі ты пабачыш сябе знутры, хоць крышку спазнаеш, знешні свет для цябе таксама зменіцца. Давай, заплюшчы вочы і пайшлі. Ты будзеш маімі нагамі, а я тваімі вачыма. Паспрабуй. І твае цёмныя акуляры вельмі дарэчы.

Яшчэ крыху паспрачаўшыся і павагаўшыся, Аляксандра Андрэеўна ўсё ж узялася за ручкі інваліднага вазка і заплюшчыла вочы.

Яна і сама здзіўлялася, чаму часам так лёгка верыць і падпарадкоўваецца гэтаму дзяўчу, чаму слухае і слухаецца яе. Але, па-праўдзе кажучы, за апошнія дзесяць гадоў нічога больш цікавага і захапляльнага, чым гэтыя дзіўныя гутаркі на вясновых вуліцах, з ёй не здаралася. Канечне, калі не лічыць кароткага рамана з начальнікам аддзела Аляксеем Іванавічам. Але раман быў настолькі кароткі (а самыя яркія ўражанні ад яго – адно прывялыя згрызоты сумлення), што той раман насамрэч можна не лічыць.

Усё выглядала так, нібыта гульня ідзе па Зоіных правілах і на яе полі, але Аляксандра Андрэеўна ахвотна брала ў ёй удзел, запэўніваючы сябе, што, калі напраўду трэба будзе спыніцца, яна зможа.

І вось цяпер з заплюшчанымі вачыма, учапіўшыся за вазок, Аляксандра Андрэеўна, хоць і баялася аступіцца, але рабіла першыя крокі. Адчуванне было даволі незвычайным. Мы заплюшчваем вочы, імкнучыся заснуць, адганяючы, па магчымасці, усе думкі, засяроджваемся на спакоі цела, бо менавіта спакой дасць нам сон. Але ні сну і ні спакою шукала Аляксандра Андрэеўна, а разам з дзяўчынкай, якая сядзела перад ёй у інвалідным вазку, яна спрабавала абудзіцца.

Гэта прыдумка Аляксандры Андрэеўне спадабалася. Гульня вучыла давяраць літаральна без агляды , бо толькі Зоя магла расказаць пра тое, што за дарога наперадзе, але і дзяўчынцы прыходзілася аддацца на волю спачатку няроўнай, але з кожным днём больш упэўненай хады Аляксандры Андрэеўнены.

Дні няспынна цяплелі. Паветра напаўнялася яркімі пахамі і гукамі, вецер мякка казытаў рукі, твар. Змянялася і "гульня ўсляпую". Цяпер дзяўчынка расказвала Аляксандры Андрэеўне сваё "бачанне" свету.

Замест шэрых будынін спальнага раёна наўкола паўставалі дзіўныя карціны гарадоў, дзе Зоя ніколі не была, але пра якія магла доўга і падрабязна распавядаць, начытаўшыся кніжак і дадаючы сваёй багатай фантазіі.

Яна па-майстэрску апісвала брукаванкі старых вулак, дагледжаныя паркі, шматлікія каналы і масткі, прахожых, поўных інтэлігентнай стрыманасці і грацыі, толькі светлафоры ва ўсіх прыдуманых гарадах заставаліся на тых жа месцах, што ў горадзе Б.

***

Сям'я для Аляксандры Андрэеўны адышла на другі план, як і ўсё астатняе, як бы сумна і пагрозліва гэта ні гучала. І справа не ў тым, што жанчына пачала надаваць ім менш увагі. Не, клапацілася ўсё гэтак жа – гатавала ежу, прала бялізну, прыбірала ў хаце, нават па вечарах распытвала, як справы на працы, і разам з мужам сядзела на канапе і глядзела серыял пра Стыва Бёрдса, праўда, асабліва не паглыбляючыся ў сюжэт. Але праблемы Максіма практычна перасталі яе кранаць, яна нібыта пераехала ў сваю ўнутраную кватэру і толькі часам прыходзіла да мужа ў госці.

А яшчэ Аляксандра Андрэеўна зноў пачала весці дзённік, як у студэнцкія гады. Штоаразу вяртаючыся са шпацыраў з Зояй, перад прыходам Максіма, які дарэчы, пачаў часцяком недзе затрымлівацца, яна занатоўвала свае новыя думкі.

**Што яна пісала:**

Ніколі б не падумала, што са мной можа такое надарыцца. Я магла б сысці ад Максіма да Лёшы (насамрэч не магла б – не мой тып да таго ж таксама жанаты), магла б змяніць працу (таксама не магла б – пенсія была ўжо зусім блізка), я магла б зрабіць яшчэ процьму рэчаў (не магла б – ты б спужалася). Але цяпер я не проста магла б, я магу. Адчуваю ў сабе гэтую сілу. І нават сонца свеціць не так, як звычайна, асабліва, калі гляджу на яго, расплюшчыўшы вочы пасля доўгага шпацыра ўсляпую. Цяпер я бачу шмат. Нехта ссунуў накрыўку з прывычнага для мяне свету, кожны з чатырох куткоў якой за ўсе гады свайго жыцця я вывучыла як найлепш, і праз шчыліну ў небе, я пабачыла, што там ёсць яшчэ нешта. А калі я пашукаю вялікую драбіну і, прынамсі, на некалькі крокаў стану бліжэй да той шчыліны? Хто мяне спыніць? Хто мяне сцягне ўніз? Я старая, але ногі яшчэ носяць і ў руках засталося крыху сілы. Справа за малым – знайсці драбіну. Але ж ці гэтая маленькая Зоя для мяне не лесвіца? І ці разумее дзяўчо, як змяняе нешта ўва мне?

Ленавата цягнулася лета. У парку даўно адцвіў бэз і ўжо, сабраўшыся з сіламі, запаланіў сваім водарам усё наваколле ліпавы цвет.

Аляксандра Андрэеўна забылася, быццам на цяжкія роды, на тое, як яшчэ некалькі месяцаў таму баялася пенсіі. Цяпер ёй падавалася такім натуральным гуляць усляпую па паркавых сцежках, гаварыць з Зояй пра ўсё на свеце, корпацца ў сабе і ў іншых і абмяркоўваць творчыя планы – Аляксандра Андрэеўна задумала напісаць пра сябе і крышку пра Зою. Не тое, каб у яе з’явіліся нейкія пісьменніцкія амбіцыі. Проста хацелася разабрацца, хто яна, чаго хоча і для чаго былі ўсе тыя папярэднія гады яе жыцця.

Аднак калі Аляксандра Андрэеўна ўжо збіралася паказаць дзяўчынцы першую выпакутаваную старонку свайго апавядання, Зоя раптам не прыйшла. Ля ўваходу ў гарадскі парк, дзе яны звычайна сустракаліся па серадах, Аляксандра Андрэеўна прачакала дзяўчынку з гадзіны паўтары, але інвалідны вазок Зоі так і не з’явіўся. Не было яе ні ў пятніцу, ні ў панядзелак. Па выходных, каб асабліва не прыцягваць увагу родных, Аляксандра Андрэеўна з Зояй не сустракаліся.

Аляксандра Андрэеўна не ведала ні адраса, ні тэлефона дзяўчынкі, бо звязвалі іх адно гэтыя шпацыры па парку ды вуліцах, размовы і спрэчкі. Раз ці два Зоя згадвала, што жыве непадалёк, толькі дзе менавіта? Але як яна прыйдзе да яе дадому і ці варта Аляксандры Андрэеўне, жанчыне пенсійнага ўзросту, умешвацца ў жыццё сям’і шаснаццацігадовага падлетка?.. Што сказала б яна Зоіным бацькам: “Добры дзень, я сяброўка вашай дачкі” ці “Я яе былая настаўніца з пачатковай школы”? Гучала б або няёмка, або хлуслíва. Ні першага, ні другога эфекту Аляксандра Андрэеўна не хацела. І да таго ж, думала яна, Зоя – разумная і самастойная дзяўчынка. І калі знікла з яе жыцця гэтаксама нечакана, як і з’явілася, значыць, так трэба.

Аляксандра Андрэеўна сама сябе ўгаворвала і не магла да канца прымірыцца са стратаю сябра. Мабыць, самага шчырага, што хоць некалі быў у яе доўгім жыцці. І, як выявілася, узрост насамрэч не меў значэння.

Але ўжо звычайныя шпацыры Аляксандра Андрэеўна не кінула. У той жа прызначаны раней час прыходзіла на прызначанае раней месца і чакала хвілінаў пяць, а раптам выедзе з-за павароту дзяўчынка на інвалідным вазку. Ды толькі нікога не было. І жанчына ішла гуляць сама па дарожках парку, ведучы няспынныя маўклівыя дыялогі з нябачнай сваёй суразмоўцай. А часам яна надзявала цёмныя акуляры, заплюшчвала вочы і павольна ішла па паркавых сцежках, якія яе ногі ўжо амаль вывучылі.

Былі моманты, калі Аляксандры Андрэеўне нават падавалася, што дзяўчынкі

па імені Зоя і яе інваліднага вазка наогул не існавала, што гэта ўнутры яе нарадзіўся дзіўны вобраз, каб апраўдаць і вынесці вонкі тое, што ўжо даўно саспела, што прагла выйсця, – новую свабодную Аляксандру Андрэеўну.

Аднак яна гнала такія думкі падалей. Бо яшчэ занадта добра памятала найменшыя дэталі Зоінага твару, яе кароткія светлыя валасы, адценні яе голасу, яе часам прыязную, а часам саркастычную ўсмешку. Нават тую паставу, у якой дзяўчынка звычайна сядзела ў вазку, і тое, як стаялі на падстаўцы яе нямоглыя ногі.

Але, хоць Зоя знікла з яе жыцця, Аляксандра Андрэеўна не магла сабе дазволіць вярнуцца назад. Яна стала нейкая ці то занадта груваскaя, ці то занадта складаная, каб уціснуцца ў ранейшыя схемы свайго жыцця. Не змяшчалася туды і больш не адчувала камфорту. Слепата, і як яе вынік азарэнне, змянілі жанчыну. Аляксандра Андрэеўна пазбягала гутарак з былымі калегамі, унікала суседак, і Максім, бачачы яе халоднасць да сябе, таксама аддаліўся.

***

Да цемнаты Аляксандра Андрэеўна хадзіла і думала. Пасля спахапілася, што Максім, мабыць, ужо дома пасля працы. А яна як ніяк на пенсіі, лічы, у адпачынку на ўсё жыццё – трэба вячэру гатаваць.

Адразу з парога ў вочы Аляксандры Андрэеўне кінуліся расхінутыя дзверкі шафы, нейкія скрынкі. Гук рэзкіх і рашучых крокаў у пакоі. Яна была перапужалася, што гэта ўварваліся злодзеі. Але раптам у дзвярным праёме мільганула Максімава спіна. Пачуўшы гук замка, ён павярнуўся. У адной руцэ – пара карычневых шкарпэтак, у другой – пачак дакументаў у поліэтэленавым пакеце.

– Што здарылася, Максім?

– Што здарылася?.. Ды ведаеш, нічога асаблівага. Проста я ад цябе сыходжу, – крывая гаркавая ўсмешка абвінаваўцы сказіла яго вусны.

Яшчэ паўгады таму гэтая навіна папросту зваліла б яе з ног: чаму, што рабіць, як жыць адной, так нельга, дваццаць пяць гадоў разам, не магу паверыць, не адпушчу, не здамся... Але сёння Аляксандра Андрэеўна ўпэўнена стаяла ў праёме дзвярэй і, толькі крыху здзіўлена павёўшы брывом, працягвала глядзець на мужа. Новае жыццё малявалася само сабой.

– Куды сыходзіш, калі не сакрэт?

– Не важна, – расчараваны рэакцыяй жонкі на ашаламляльную навіну, буркнуў ён, і адвярнуўшыся, зноў працягнуў свае зборы. – Дзе мая блакітная сарочка ў палоску?

Аляксандра Андрэеўна не адказала, вярнулася ў вітальню, зняла туфлі і плашч, паставіла грэцца чайнік. Значыць, вячэру можна не гатаваць.

У вітальні зазваніў тэлефон.

– Сказаў Ганулі, што мы разыходзімся. Ужо два разы звaніла. Здымі, мабыць, зноў яна, – пракрычаў са спальні Максім.

Аляксандра Андрэеўна павольна ўзнялася і рушыла да тэлефона.

– Мама?! Гэта праўда – тата сыходзіць?!

– Так, Гануля, праўда.

– Мама, гэтак жа нельга! Вы ж столькі пражылі разам! Амаль усё жыццё. Так нельга, ты не можаш яго адпусціць. Мама! Ён скардзіўся, што ты стала нейкая чужая, што гэта ты яго вымусіла шукаць іншую! Мама, не адпускай тату. Я хутка прыеду. Сёння ж. Нам трэба разам пагаварыць! Не адпускай яго!

Паклаўшы слухаўку, Аляксандра Андрэеўна нарэшце пайшла на кухню і паставіла гарбату, а пасля глядзела, як мірна і спакойна ўздымаецца над кубкам пара.

Жыццё само ўсё расставіла па сваіх месцах. Больш не трэба падманаваць ні сябе і нікога іншага.

Яна зрабіла некалькі глыткоў, гарачая вада злёгку абпякла горла, але Аляксандра Андрэеўна нават не паморшчылася. За сцяной Максім заканчваў пакаваць рэчы і ўзважваў рукой чамадан. Пасля вынес яго ў вітальню, вярнуўся за парай скрынак, абуў туфлі і накінуў куртку.

– Я яшчэ не ўсё забраў. Таму ключы пакуль пакіну сабе. Але дзверы зараз зачыні сама. У мяне занятыя рукі. Бывай, – і грукнуў дзвярыма.

З хвіліну Аляксандра Андрэеўна праседзела не варухнуўшыся, слухаючы толькі цішу і сябе. Пасля зачыніла дзверы, прайшла ў пакой, дзе валяліся параскіданыя рэчы, села за стол і ў чыстым школьным сшытку пачала пісаць.

Праз некалькі гадзінаў прыедзе Гануля, будзе ўпрошваць і настойваць, пасля, магчыма, здарыцца развод, потым прыйдзе зіма.

Але ўсё гэта будзе не істотна, бо на белым полі аркуша паперы Аляксандра Андрэеўна раскідала словы, з якіх вырастала толькі яе асабістая гісторыя.

## Антон РУДАК

### *АЭРАДРОМНАЯ*

Амелі Пулен, ты не расла у совку...
*Рэмінісцэнцыя з С. Жадана*

у дзяцінстве я быў камуністам-–
але, праўда, толькі часова.
зрэшты, кім я яшчэ мог вырасці
ў ваколіцах аэрапорта.
не ўяўляю, як не зарабіў сабе
падваення асобы:
баба казала, што ленін добры,
бацька даводзіў, што ён казёл.
абое нічым не падмацоўвалі.
я іх паслаў да чорта.

наш дом будавалі, вядома ж, палонныя немцы
(а можа, не немцы. і нават зусім не палонныя)
але на франтоне пакінулі
серп ды молат, і год пабудовы.
адсюль у мяне любоў да рэтра-эстэтыкі
і таталітарнай сімволікі ўвогуле.

дзяцінства запомнілася херова:
адсутнасцю голаду і хваробаў,
парай даўно забытых сяброў,
першымі спробамі складання словаў
і парадаксальнай любоўю адначасова
да зорак і трактароў.

мы патроху сыходзілі вонкі з еўропы,
выводзячы стуль гарнізоны і танкі.
еўропа глядзела на нас скрозь чарнобыль

і запрашала завітваць выпадкам-–
мы карысталіся з пажадання.
калі б не гуманітарная дапамога з германіі,
мы б тут даўно загнуліся на хер-–
прычым і ў тэхнічным, і ў гуманітарным плане.

нам забывалі тлумачыць, хто нашыя ворагі,
мы патаналі ў палітыцы, каляфутболе ды алкаголі.
мы не жадаем нікому роляў, якія нам давялося выконваць.
нашы бацькі-– ветэраны перабудовы, мы самі-– апошнія,
хто шчэ хоць штосьці помніць.

як птушкі вандроўныя на раздарожжы,
мы колеры неба спрабуем на дотык,
клеім мадэлі з паперы жоўтых абгортак-–
планеры і гелікоптэры,
і глядзім падазрона на кожнага,
хто нарадзіўся потым.

## КАЛЯДНАЯ ХРОНІКА ПАДЗЕЯЎ

Увечары места схавалася ў снезе па вокны,
зрэнкі ялінак зялёныя мройліва звузіла,
цёпла задыхала дымам дрыготкім праз коміны,
сцяўшы пад коўдраю доўгія пальцы вуліцаў.

Уночы сталіца поўніцца рознай набрыддзю-–
нават не трэба перапісу насельніцтва.
Дзесьці у хостэле, стомленая ад радасці,
Дзева Марыя люляе малога Езуса.

Уранку усе праспяць, акрамя маршрутчыкаў
і машыністаў аўтазаводскай лініі,
і пралятуць анёлы, усцяж фарбуючы
шэрыя сцены ў колеры бела-сінія.

Удзень, спахапіўшыся, горад патоне ў апокрыфах-–
кожны сцвярджацьме, як быццам стаяў пры калысцы,
што, калі веры даць гром вандроўным астролагам,
у немаўляці будзе цяжкое дзяцінства.

І толькі, толькі
Божая Маці, развёўшы далоні пад покрывам,
рукі узняўшы над дахамі, стане маліцца.

## ГРУЗ 2011

*с.п. Волечцы*

так, у дзяды можна трапіць проста,
нават калі не служыў у войску,

нават калі ты дзяўчына –
усё магчыма.

усіх нас чакае машына. сігналіць.
хоць часам усё абяртаецца жартам,
і аскепкі люстэрка – адзіная страта –
але, да жалю,

ніхто з нас не ведае, што будзе заўтра
і толькі ловіць сігналы смерці,
якая ўчора ўжо абяцала
за намі заехаць.

а прадчуванні і спачуванні
ў адчаі змяшаюцца на экранах,
і кожны першы яшчэ прашэпча:
зарана.

але вырашаюць, зрэшты, наверсе,
і калі-небудзь мы ўсе там сустрэнемся.
час не чакае, пара збірацца.
дзе тваё джала, смерць?
у сраццы.

## МУРАНОЎСКАЯ

А дзявятай з рэсэпшна ступіш у шэрую раніцу
і адразу запальваеш, бо не паліў ад вечара.
Лістапад у Варшаве, трамваі, алея Андэрса,
карацейшае за цыгарэту жыццё чалавечае.

Паэты звычайна згараюць, што натуральна,
зважаючы на іх лад існавання й мыслення.
Парадаксальная логіка: хлопец з Муранава
горкай іроніяй лёсу празваны фашыстам.

Акупацыя, націск. Грамадства пацыху сыходзіць у
канспірацыю. У межах культурна-асветнай працы
браўся рэдагаваць падпольную перыёдыку,
ставячы ў назве мастацтва вышэй за нацыю.

Паўстанне, як гэта бывае заўжды, раптоўнае.
Апошні шанец давесці, і ён скарыстаецца
з выбуху на світанні. Не будзе помніка.
Нават завулка не стане. Алея Андэрса.

Цыгарэта пагасла. Глядзіш на пустое месца,
у люстэрку асфальтавым адбіваешся свечкай,
ловіш сігналы, як сэрца пад брукам б’ецца.
Гайцы. Варшава. Сорак чацверты – вечнасць.

Полымя подых. Вецер у вербах.
Польскае поле эксперыментаў.
Постаці мёртвых. Повязь з легендай.
Poets never surrender.

### ПАЧАТАК

усё пачыналася з ранішніх цёплых тралейбусаў,
што нас калыхалі ў снах замест першай пары,
у цёмных падвалах мы слухалі нашыя лекцыі,
на мокрых падворках адказвалі на семінарах;

усё пачыналася з брудных прыступак сектара
і аўтазакаў, з сабакаў на першы выезд,
дзе мы здавалі нашую летнюю сесію
з практыкай, абаранялі свае курсавыя;

усё пачыналася з ціхіх запыленых лецішчаў
і шумных мастоў над транспартнымі развязкамі,
сонечных дзённых промняў і зораў увечары,
з горкіх апладысментаў і слёз ад радасці.

глобусы, атласы, компасы за непрыдатнасцю
выкінуўшы, на пошукі новага полюса
вырушым, не забываючы, як прыўкрасна
ўсё пачыналася, і ўсё ніяк не скончыцца.

### СТАНЦЫЯ БЕЛАРУСЬ

Лібава-роменская чыгунка мінае тут лінію Сталіна,
якая спрадвеку наш родны край на паловы няроўна дзеліць
пад белым крылом старога бусла, якога вельмі аддалена
нагадвае больш рэальны і актуальны жалезны фенікс.

Станцыя «Беларусь», калі на яе глядзець з электрычкі –
найпрыгажэйшая з бачаных мною сотняў чыгуначных станцый:
так лічыць бадай што кожны з тых, хто ніколі на ёй не выйшаў
і не вырашыў на свой страх тут хаця б на пару гадзін застацца.

І можна нават не ведаць легенды пра Рагвалода з Рагнедай
і словаў «бацька, ты тут не адзін», і іх гістарычнае ролі-–
наўрад ці б хтосьці ў дарэчны момант патрапіў прамовіць лепей:
той хлопчык пасля яшчэ шмат чытаў, але болей нічога не здолеў.

Таму сітуацыя і не змянілася. Ад часоў Свідрыгайлы
тут непапулярная талерантнасць і часам што-небудзь паляць-–
праўда, цяпер ужо не іерархаў царквы, але заракацца рана:
раптам заўтра ў кагосьці прачнецца яшчэ генетычная памяць.

Аб гэтым сведчыць і рыцарскі фэст, які збірае ў Заслаўі
рэканструктараў сярэднявечнае зброі з былога саўка і Польшчы,

дзе гледачы-каталікі крычаць «мачы праваслаўных!»
а тыя ў адказ далікатна маўчаць, бо насамрэч іх тупа большасць.

Вось жа, нас не цікавіць ні чорная, ні белая археалогія––
у нас усё роўна нічога няма, акрамя безыменных магілаў:
мы не раскопваем курганоў і не рабуем могільнікаў––
нам з галавою хапае шкілетаў між пылу фамільных архіваў.

Улетку, калі трава на замкавым вале пахне смалою,
калі ў мястэчку гуляюць вяселлі ад ранку да позняга вечара,
і ўсе кавярні Заслаўя ў суботу закрытыя на спецабслугоўванне––
мы збіраемся і сядаем у электрычку на Маладэчна.

Выходзім на станцыі «Беларусь» і рушым старымі маршрутамі,
якія штораз прыхоўваюць штосьці раней безуважна ўпушчанае––
такія адрозныя і аднолькава па-добраму е...нутыя,
стомленыя вандроўнікі, аматары беларушчыны.

## *GOAL LOSER*

нас паліваюць і ўгнойваюць так што мы плачам але расцём
знікае істотная розніца паміж творчасцю і жыццём
ашпараны дуеш на хвалі даўно знаёмай малочнай ракі
паволі губляеш старыя арыенціры ды маякі

чарговы ўзроставы крызіс б’е па мазгах як маланка ў шпрыц
калі мне будзе пад трыццаць я кіну дакладна піць і паліць
кіну зусім брыдкасловіць паеду ў ашрам перайду на траву
усё пры адзінай умове калі вядома я дажыву

жаданні спраўджваюцца калі табе ўжо на іх на...аць
скарыся брат каля брамы ў рай адбіраюць ручную кладзь
у пекла ляцець бізнэс-класам а нехта дагэтуль нюхае клей
сэнсу змагацца за лепшае месца ў адным і тым самым катле

тое з чым сёння мы маем справу спаборніцтва розных плыняў і школ
часам нагадвае надта яскрава гульню ў вечаровы дваровы футбол:
яму абарона табе напад кожнаму штосьці сваё па плячы
ты лупіш па шыбах бацькоўскіх хат
а я прапускаю мячы

## *КАЛЯНДАРНАЕ*

пакуль вы крычалі і плакалі мяккімі знакамі,
брыльянт майго таленту паступова рабіўся шматграннікам.
пачуццё маёй значнасці кармілі такімі прысмакамі,
якія нават не сніліся майму страўніку,

я клаў дамкрат на ўсякія вашыя правілы,
лаяўся, бацаў на аргане лявоніху,

а вы даравалі мне і дадараваліся-—
я ўсвядоміў, нібыта я надта адораны,

я не змагаўся з злаякаснымі метастазамі
катэгарычнае рацыі, максімалізму
і непрыязні да цэлых групаў і класаў-—
напрыклад, крытыкаў: гэтым-— ніякае літасці.

і з чаго вы ўзялі, што мне самому прыемна,
прыдумалі пра натхненне і іншую ерась?
натхнення няма-— турма як правобраз паэзіі:
сядзіш сабе і крэмзаеш, крэмзаеш, крэмзаеш.

тэхнічны прагрэс, з'яўленне мабільнай сувязі
ані не ўратуюць цябе ад уласнае дурасці.
жадаеш пабачыць сябе ў люстэрку мінулага?
націсні лічбы: адзін, дзевяць, тры.
задумайся.

## Ганна ЯНКУТА

### Артур КОНАН ДОЙЛ

# Апошняя справа Холмса

З цяжкім сэрцам бяруся я за пяро, каб напісаць апошнія нататкі пра выбітны талент, якім вылучаўся мой сябар Шэрлак Холмс. Я спрабаваў — недзе бязладна і, магчыма, не зусім так, як належала б, апісаць нашыя з ім незвычайныя прыгоды, пачынаючы з выпадку, які звёў нас у часы "Эцюду ў пунсовых тонах" [1] да самага ўмяшальніцтва Холмса ў справу з "Марской дамовай" [2] — умяшальніцтва, якое, без сумневу, перадухіліла сур'ёзны міжнародны канфлікт. На гэтым я збіраўся спыніцца і нічога не расказваць пра падзею, якая пакінула ў маім жыцці такую пустэчу, што нават два апошнія гады мала чым змаглі яе запоўніць. Аднак выдадзеныя нядаўна лісты палкоўніка Джэймса Марыярці, у якіх той абараняе памяць свайго брата [3], вымушаюць мяне зноў сесці за пісанне і з усёй дакладнасцю выкласці грамадскасці акалічнасці гэтай справы. Я — адзіны чалавек, які ведае ўсю праўду, і я рады, што прыйшоў час, калі нішто не патрабуе яе далейшага ўтойвання. Наколькі я ведаю, у прэсе з'явіліся толькі тры паведамленні: нататка ў "Журналь дэ Жэнеў" ад 6 траўня 1891 года, дэпеша "Ройтэрс" [4] у ангельскіх газетах ад 7 траўня і ўрэшце нядаўнія лісты, пра якія я казаў вышэй. Калі першыя падаюць зусім мала звестак, то ў лістах, як я збіраюся давесці, усе факты скажоныя. І таму менавіта я павінен упершыню агучыць праўду пра тое, што насамрэч адбылося паміж прафесарам Марыярці і Шэрлакам Холмсам.

Варта згадаць, што пасля майго вяселля і наступнага вяртання да прыватнай практыкі блізкае сяброўства, якое завязалася паміж Холмсам і мной, у пэўным сэнсе змянілася. Ён усё яшчэ раз-пораз зазіраў да мяне, калі яму быў патрэбны кампаньён у расследаванні, але гэта здаралася ўсё радзей і радзей, а за ўвесь 1890 год я апісаў толькі тры справы. Зімой 1890-га, а таксама ранняй вясной 1891-га газеты пісалі, што французскі ўрад запрасіў Холмса правесці надзвычай важнае расследаванне, а атрымаўшы ад яго два лісты, высланыя з Нарбоны і Німа [5], я

зрабіў выснову, што яго побыт у Францыі зацягнуўся. І таму я вельмі здзівіўся, калі вечарам 24 красавіка ўбачыў яго ў сваім кабінеце. Мне адразу кінулася ў вочы, што ён схуднеў, а твар яго бляднейшы, чым звычайна.

— Гэта, відаць, ад празмерных нагрузак, — зазначыў ён, адказваючы хутчэй на мой позірк, чым на словы. — Апошнім часам я быў трохі заняты. Вы не супраць, калі я зачыню аканіцы?

Пакой асвятляла толькі лямпа на стале, за якім я чытаў. Холмс асцярожна абышоў яго, трымаючыся ля самай сценкі, і рашуча замкнуў аканіцы на надзейныя засаўкі.

— Вы чагосьці баіцеся? — спытаў я.

— Баюся.

— Чаго?

— Пнеўматычнай стрэльбы [6].

— Дарагі мой Холмс, што вы маеце на ўвазе?

— Думаю, вы дастаткова мяне ведаеце, Ўотсан, каб зразумець, што нервовым мяне ніяк не назавеш. Аднак пагарджаць небяспекай, калі яна зусім побач, — гэта хутчэй не мужнасць, а дурасць. Магу я патурбаваць вас і папрасіць запалку?

Ён удыхнуў цыгарэтны дым, нібыта дабратворны ўплыў тытуню мог яго супакоіць.

— Я мушу выбачыцца за такі позні візіт, — сказаў Холмс, — а таксама папрасіць вас адысці ад умоўнасцяў і дазволіць мне сёння пакінуць дом, пералезшы праз заднюю сцяну ў вашым садзе.

— Але што ўсё гэта значыць? — спытаў я.

Ён паказаў мне руку, і ў святле лямпы я ўбачыў, што два суставы параненыя і крывавяць.

— Як бачыце, гэта не пустыя дробязі, — з усмешкай сказаў ён. — Наадварот, усё так сур'ёзна, што можна застацца без рукі. Місіс Ўотсан дома?

— Не, яна паехала ў госці.

— Вось як... Значыць, вы адзін?

— Так.

— Тады мне будзе прасцей запрасіць вас на тыдзень на кантынент.

— Куды?

— Ды куды заўгодна. Мне ўсё адно.

Ва ўсім гэтым было нешта дзіўнае. Выпраўляцца ў бязмэтны адпачынак не было звычкай Холмса, а нешта ў яго бледным стомленым твары сказала мне, што яго нервы напружаныя да мяжы. Ён злавіў у маіх вачах пытанне і, звёўшы кончыкі пальцаў і абапершыся локцямі на калені, патлумачыў сітуацыю.

— Вы, відаць, ніколі не чулі пра прафесара Марыярці? — спытаў ён.

— Ніколі.

— Як гэта дзіўна, як неверагодна! — усклікнуў ён. — Цень гэтага чалавека накрыў увесь Лондан — і ніхто пра яго не чуў! Вось што робіць яго найвыбітнейшым злачынцам у гісторыі. Я з усёй сур'ёзнасцю сцвярджаю, Ўотсан, што калі б я перамог яго, калі б вызваліў ад яго грамадства, то лічыў бы, што дасягнуў вяршыні сваёй дзейнасці, і быў бы гатовы сысці на спачынак. Паміж намі: нядаўнія справы, у якіх я змог дапамагчы скандынаўскай каралеўскай сям'і і Французскай рэспубліцы, забяспечылі мне магчымасць вярнуцца да мірных і прыемных заняткаў і засяродзіцца на хімічных даследаваннях. Але я не магу адпачываць, Ўотсан, я не магу спакойна сядзець, пакуль ведаю, што такі чалавек, як прафесар Марыярці, беспакарана ходзіць лонданскімі вуліцамі.

— Дык што ж ён увогуле зрабіў?

— О, лёс яго вельмі незвычайны. Ён паходзіць з добрай сям'і. Ад прыроды надзелены надзвычайнымі матэматычнымі здольнасцямі, ён атрымаў выдатную

адукацыю і ў дваццаць два гады напісаў трактат пра біном Ньютана [7], які здабыў еўрапейскую вядомасць. Дзякуючы гэтаму ён атрымаў кафедру матэматыкі ў адным з нашых правінцыйных універсітэтаў, і, здаецца, яго чакала бліскучая будучыня. Але ў гэтага чалавека ёсць спадчынная схільнасць да д'ябальскай жорсткасці. Цяга да злачынства ў яго ў крыві, і надзвычайныя разумовыя здольнасці, замест таго каб дапамагчы пераадолець, толькі ўзмацнілі яе і зрабілі больш небяспечнай [8]. Ва ўніверсітэцкім гарадку вакол яго папаўзлі змрочныя чуткі, ён быў вымушаны адмовіцца ад кафедры і пераехаць у Лондан, дзе заняўся падрыхтоўкай юнакоў да афіцэрскіх экзаменаў. Гэта пра яго ведаюць усе, але зараз я раскажу пра вынікі ўласных расследаванняў.

Як вы ведаеце, Ўотсан, ніхто не знаёмы з крымінальным светам Лондана бліжэй, чым я. Але ў апошнія гады мне ўвесь час здавалася, што за многімі злачынствамі стаіць нейкая загадкавая і добра арганізаваная сіла, якая ўвесь час дзейнічае насуперак закону і абараняе злачынцаў. Я зноў і зноў адчуваў прысутнасць гэтай сілы ў самых розных справах — падробках, рабаўніцтвах, забойствах — і прасочваў яе датычнасць да многіх нераскрытых злачынстваў, расследаваннем якіх сам я не займаўся. Гадамі спрабаваў я прарвацца скрозь завесу, якая ахутвала гэтую сілу, і ўрэшце прыйшоў час, калі я ўзяў след, што пасля тысячы падманак вывеў мяне на былога прафесара Марыярці, знакамітага матэматыка.

Ён Напалеон крымінальнага свету, Ўотсан. Ён арганізатар паловы злачынстваў і амаль усіх нераскрытых справаў у нашым вялікім горадзе. Ён геній і філосаф, здольны мысліць абстрактна. У яго розум найвышэйшага гатунку. Ён сядзіць нерухома, як павук у цэнтры сваёй павуціны, але ад гэтай павуціны разыходзяцца тысячы ніцяў, і ён адсочвае дрыжанне кожнай. Сам ён амаль нічога не робіць. Ён проста плануе. Але ў яго шмат агентаў, і яны цудоўна арганізаваныя. Калі трэба ўчыніць нейкае злачынства, скажам, выкрасці паперы, ці абрабаваць дом, ці прыбраць чалавека, варта сказаць слова прафесару, і справа будзе прадуманая і даведзеная да канца. Агента могуць і схапіць. У гэтым выпадку адразу ж знойдуцца грошы вызваліць яго пад заклад ці абараніць у судзе. Але галоўнага арганізатара, якому падпарадкоўваецца агент, не зловяць ніколі — яго нават не западозраць. Вось якую арганізацыю я вылічыў, Ўотсан, і я пакладу ўсе сілы на тое, каб яе выкрыць і разбурыць.

Але абарона прафесара прадуманая надзвычай хітра, і што б я ні рабіў, здабыць доказы, якія б дазволілі падаць на яго ў суд, здавалася немагчымым. Вы ведаеце мае здольнасці, дарагі мой Ўотсан, але тым не менш пасля трох месяцаў я быў вымушаны прызнаць, што сустрэў урэшце роўнага сабе ў інтэлектуальным плане праціўніка. Мой жах ад ягоных злачынстваў губляўся на фоне захаплення ягоным талентам. І ўрэшце ён зрабіў памылку — адну маленькую, вельмі маленькую памылку, але калі я падышоў так блізка, ён не мог сабе дазволіць нават яе. У мяне з'явіўся шанец, і, скарыстаўшыся гэтым промахам, я пачаў плесці вакол прафесара сваю сетку. Цяпер яна амаль гатовая. Праз тры дні, то бок у наступны панядзелак, справа будзе завершаная, і прафесар з усімі асноўнымі ўдзельнікамі сваёй хеўры апынецца ў руках паліцыі. Тады пачнецца самы гучны крымінальны працэс стагоддзя, дзе праяснецца святло больш чым на сорак загадкавых злачынстваў, кожнае з якіх будзе пакаранае. Але вы разумееце, адзін паспешлівы ход — і яны выслізнуць з нашых рук нават у самую апошнюю хвіліну.

Усё было б добра, калі б прафесар Марыярці не ведаў пра мае захады. А ён вельмі хітры. Ён адсочвае кожны крок, які я раблю, каб зацягнуць яго ў пастку. Шмат разоў ён спрабаваў з яе вырвацца, але я заўсёды яго апярэджваў. Вось што я вам скажу, мой дарагі сябра: калі б хтосьці падрабязна апісаў нашае маўклівае змаганне, яно зрабілася б самай бліскучай старонкай у захапляльнай кнізе крымінальнай гісторыі. Яшчэ ніколі не падымаўся я на такую вышыню і яшчэ ніколі

супернік так мяне не прыціскаў. Ён раніць глыбока, але я паспяваю адбіваць удары. Сёння раніцай я зрабіў апошнія крокі, і мне, каб завершыць справу, былі патрэбныя толькі тры дні. Я сядзеў у сваім пакоі, абдумваючы сітуацыю, калі раптам дзверы адчыніліся, і перада мной з'явіўся прафесар Марыярці.

Мае нервы выдатна загартаваныя, Ўотсан, але мушу прызнацца, што, убачыўшы на парозе чалавека, які займаў усе мае думкі, я скалануўся. Яго аблічча было мне знаёмае. Ён вельмі худы і высокі, з выпуклым бледным ілбом і запалымі вачыма. Гладка паголены, бледны і аскетычны з выгляду, ён усё яшчэ чымсьці нагадваў былога прафесара. Ад доўгага сядзення над кнігамі плечы яго сутуліліся, а галава выдавалася наперад і ўвесь час дзіўна, па-змяінаму марудна, вагалася з боку ў бок. З вялікай цікавасцю ён уперыў у мяне прымружаныя вочы.

— Вашыя лобныя косці развітыя менш, чым я мог чакаць [9], — урэшце сказаў ён. — Трымаць у кішэні халата зараджаны рэвальвер — небяспечная звычка.

Рэч у тым, што калі ён зайшоў, я тут жа ўсвядоміў страшную небяспеку. Адзіны магчымы для яго спосаб уратавацца — гэта прымусіць мяне замаўчаць. У тое ж імгненне я асцярожна сцягнуў з камоды ў кішэню рэвальвер і акурат намацваў яго праз тканіну. Пасля такой заўвагі я дастаў зброю і паклаў яе на стол з узведзеным курком. Марыярці ўсё яшчэ ўсміхаўся і мружыўся, але штосьці ў яго вачах прымусіла мяне парадавацца, што пісталет пад рукой.

— Вы мяне, відавочна, не ведаеце, — сказаў ён.

— Наадварот, — адказаў я, — відавочна, я вас ведаю. Прашу, прысядзьце. Калі вы маеце што сказаць, я гатовы даць вам пяць хвілінаў.

— Думаю, вы адгадалі ўсё, што я хацеў вам сказаць, — прамовіў ён.

— Тады мой адказ вы таксама адгадалі, — адказаў я.

— Дык вы будзеце стаяць на сваім?

— Безумоўна.

Ён палез у кішэню, я схапіў са стала рэвальвер. Але ён выцягнуў усяго толькі нататнік, у якім былі запісаныя некалькі датаў.

— Вы перайшлі мне дарогу 4 студзеня, — пачаў ён. — 23-га вы мяне ўстрывожылі, у сярэдзіне лютага я не на жарт расхваляваўся, у канцы сакавіка вы разбурылі мае планы, а цяпер, на зыходзе красавіка, сваім пастаянным пераследам паставілі мяне ў такое становішча, што я магу апынуцца за кратамі. Так працягвацца не можа.

— У вас ёсць нейкая прапанова? — спытаў я.

— Кідайце гэта, містэр Холмс, — сказаў ён, хітаючы галавой. — Вы павінны кінуць, павінны.

— Пасля панядзелка, — адказаў я.

— Нічога сабе! — абурыўся ён. — Я ўпэўнены, што такі праніклівы чалавек, як вы, разумее, да чаго ўсё прывядзе. Неабходна, каб вы з гэтым скончылі. Вашыя метады пакінулі нам толькі адно выйсце. Я з незвычайнай асалодай назіраў, як вы разблытваеце гэтую галаваломку, і мушу шчыра прызнацца, што скрайнія меры мяне засмуцяць. Вы смеяцеся, сэр, але магу вас упэўніць, што так яно і будзе.

— Небяспека — частка майго рамяства, — зазначыў я.

— Але гэта не проста небяспека, — адказаў ён. — Гэта непазбежнае знішчэнне. Вы перайшлі дарогу не аднаму чалавеку, а магутнай арганізацыі, усю моц якой нават вы, пры ўсёй вашай кемлівасці, уявіць не можаце. Адыдзіце ўбок, містэр Холмс, альбо вас растопчуць.

— Баюся, — сказаў я, устаючы, — што за нашай прыемнай размовай я забыўся на важную справу, якая чакае мяне зусім у іншым месцы.

Ён таксама падняўся і маўкліва зірнуў на мяне, сумна хітаючы галавой.

— Ну што ж, — урэшце сказаў ён. — Я зрабіў усё, што мог. У гэтай гульні я ведаю кожны ваш ход. Да панядзелка вы нічога не даб'яцеся. Нас чакае двубой,

містэр Холмс. Вы спадзеяцеся пасадзіць мяне на лаву падсудных — я ж кажу, што ніколі туды не сяду. Вы спадзеяцеся перамагчы мяне — я ж кажу, што вы ніколі мяне не пераможаце. Калі ў вас хопіць розуму знішчыць мяне, будзьце ўпэўнены, што я доўг аддам.

— Колькі кампліментаў, містэр Марыярці, — адзначыў я. — Дазвольце адзін вам вярнуць: калі я буду ўпэўнены ў магчымасці першага, то дзеля інтарэсаў грамадства прыму і другое.

— Другое я вам паабяцаць магу, але ніяк не першае, — перарваў ён, павярнуўся да мяне ссутуленай спінай і выйшаў з пакоя, усё яшчэ страляючы вачыма і мружачыся.

Такой была мая адзіная размова з прафесарам Марыярці. Яна, прызнаюся, зрабіла на мяне непрыемнае ўражанне. Яго мяккая і выразная манера гаварыць упэўніла мяне ў шчырасці яго словаў, не ўласцівай звычайным злодзеям. Вы, безумоўна, скажаце: “Чаму тады не звярнуцца да паліцыі?” Прычына ў тым, што я не сумняюся: удар нанясе не ён сам, а яго агенты. І я ўжо атрымаў цудоўнае пацверджанне гэтаму.

— На вас напалі?

— Дарагі мой Ўотсан, прафесар Марыярці не з тых, хто адкладае справу да святога ніколі! Апоўдні я выйшаў з дому, каб разабрацца з адным пытаннем на Оксфард-стрыт. Як толькі я завярнуў за рог Бентынк-стрыт, каб перайсці Ўэлбэк-стрыт [10], то ўбачыў, што на мяне з грукатам імчыць двухконны фургон. Ён імкліва набліжаўся, але ў апошнюю долю секунды я здолеў уратавацца, адскочыўшы на ходнік. Фургон павярнуў на Мэрылебан-лэйн і тут жа знік. Я вырашыў трымацца ходніка, Ўотсан, але на Вір-стрыт з даху аднаго дома звалілася цагліна і ля самых маіх ног разбілася на кавалкі. Я паклікаў паліцыю, і яны агледзелі месца здарэння. На даху, падрыхтаваным да рамонту, былі складзеныя шыфер і цэгла, і мяне пачалі ўпэўніваць, што цагліну на мяне скінуў вецер. Я, безумоўна, ведаў лепш, але доказаў не меў, таму адразу ўзяў кэб і паехаў на Пэл-Мэл да брата, дзе і правёў дзень. Адтуль я пайшоў да вас, і па дарозе на мяне напаў нейкі галаварэз з дубінкай. Я паваліў яго і аддаў у рукі паліцыі, але з усёй упэўненасцю магу сказаць, што паміж джэнтльменам, аб пярэднія зубы якога я абдзёр сёння суставы, і сціплым выкладчыкам матэматыкі, які цяпер, магчыма, піша на дошцы задачу за дзесяць міляў адсюль, яна не знойдзе ніякай сувязі. Цяпер вы, Ўотсан, не будзеце здзіўляцца, чаму я, зайшоўшы ў пакой, адразу ж кінуўся зачыняць аканіцы і чаму быў вымушаны прасіць у вас дазволу пакінуць дом крыху менш кідкім спосабам, чым парадныя дзверы.

Я заўсёды захапляўся мужнасцю майго сябра, але мацней за ўсё — менавіта тады, калі ён спакойна пералічваў здарэнні таго дня, што склаўся так жахліва.

— Пераначуеце ў мяне? — спытаў я.

— Не, сябра, я для вас вельмі небяспечны госць. Я ўжо вызначыўся з планамі... усё будзе добра. Усё амаль скончана, арышты могуць адбыцца без майго ўдзелу, я спатрэблюся толькі для выстаўлення абвінавачання. Таму найлепшае, што я магу зрабіць, — гэта знікнуць на некалькі дзён, пакуль паліцыя не пачне свабодна дзейнічаць. І я буду вельмі рады, калі вы разам са мной паедзеце на кантынент.

— Пакуль у маёй практыцы зацішша, — адказаў я, — і сусед не супраць мяне замяніць. Я ахвотна паеду з вамі.

— Зможаце заўтра раніцай?

— Калі трэба.

— Так, вельмі трэба. Зараз я дам вам указанні і малю вас, дарагі мой Ўотсан, выканайце іх літаральна, бо вы ўступаеце ў маю гульню супраць найразумнейшага злачынцы і наймагутнейшага злачыннага аб’яднання ва ўсёй Еўропе. Дык

слухайце! Сёння вечарам вы з надзейным чалавекам адправіце любы патрэбны вам багаж на вакзал Вікторыя, не ўказваючы адраса прызначэння. З раніцы вы пашлеце слугу па хэнсам [11], наказаўшы яму не браць ані першы, ані другі, якія прапануюць свае паслугі. Потым заскочыце ў хэнсам і паедзеце да Стрэнд-энда, на Лоўтэрскі пасаж [12], перадаўшы кэбмэну адрас, запісаны на паперы, і папрасіўшы нізавошта яго не выкідаць. Плату за праезд трымайце напагатове і ў тое самае імгненне, як кэб спыніцца, ляціце праз пасаж з разлікам апынуцца на другім яго баку роўна ў дзевяць пятнаццаць. Там ля ходніка вас будзе чакаць маленькі брогам [13] з фурманам у цяжкім чорным плашчы з каўняром, абшытым па краі чырвоным. У гэты брогам вы і сядзеце, а ён даставіць вас на вакзал Вікторыя акурат да ад’езду кантынентальнага экспрэса.

— Дзе мы з вамі сустрэнемся?

— На станцыі. Для нас будзе зарэзерваванае другое ад пачатку купэ першага класа.

— Значыць, спатканне ў купэ?

— Менавіта.

Марна ўгаворваў я Холмса застацца на вечар. Я добра бачыў, што ён баіцца прынесці бяду ў дом, які яго прытуліў, і што толькі гэта вымушае яго сысці. Кінуўшы яшчэ некалькі словаў наконт нашых заўтрашніх планаў, ён падняўся і разам са мной выйшаў у сад, ускараскаўся на сцяну, што межавала з Мортымер-стрыт, і тут жа свіснуў хэнсаму, на якім, як я пачуў, і ад’ехаў.

Наступнае раніцы я зрабіў усё згодна з інструкцыяй Холмса. Хэнсам я ўзяў з усімі перасцярогамі, каб не натрапіць на падасланы, і адразу ж пасля сняданка выправіўся на Лоўтэрскі пасаж, праз які прабег як найхутчэй. Брогам з надзвычай мажным фурманам, захутаным у цёмны плашч, ужо чакаў мяне. Як толькі я сеў, фурман хвастануў каня, і мы з грукатам паляцелі да вакзала Вікторыя, а калі я выйшаў, тут жа развярнуў каня і знік з вачэй, нават не зірнуўшы ў мой бок.

Пакуль усё ішло цудоўна. Мой багаж быў на месцы, і я без перашкодаў знайшоў названае Холмсам купэ, тым больш што толькі яно было пазначанае як занятае. Мяне трывожыла толькі адсутнасць Холмса. Вакзальны гадзіннік паказваў, што да ад’езду цягніка засталося сем хвілінаў. Марна шукаў я сярод падарожнікаў і тых, хто іх праводзіў, фігуру сябра — яго не было і знаку. Некалькі хвілінаў я патраціў на тое, каб дапамагчы паважнаму італьянскаму святару, які на ламанай ангельскай спрабаваў патлумачыць насільшчыку, што яго багаж трэба адправіць у Парыж. Потым я зноў агледзеў платформу і вярнуўся ў купэ, дзе выявілася, што насільшчык, нягледзячы на адсутнасць білета, падсадзіў да мяне майго нядаўняга знаёмца — лядачага італьянца. Мае спробы патлумачыць святару ўсю навязлівасць такога ўламання плёну не мелі, бо мая італьянская была яшчэ горшая за яго ангельскую, і таму, пакорліва паціснуўшы плячыма, я здаўся і зноў пачаў трывожна шукаць вачыма сябра. Мяне паціху ахопліваў жах, бо адсутнасць Холмса магла азначаць толькі тое, што мінулай ноччу яму нанеслі ўдар. Вось і дзверы зачыніліся, і пачуўся гудок, як раптам...

— Дарагі мой Ўотсан, — пачуўся голас, — вы нават не ўважылі мяне прывітаннем.

У неймаверным здзіўленні я павярнуўся. Стары святар глядзеў проста на мяне. На імгненне яго зморшчыны разгладзіліся, нос з’ехаў на падбароддзе, ніжняя губа перастала выпінацца; ён перастаў мармытаць, панылыя вочы загарэліся ранейшым агнём, а скурчаная фігура выпрасталася. Але ў наступны момант яго цела зноў абмякла, і Холмс з такой жа хуткасцю ператварыўся ў старога святара.

— Божа літасцівы! — усклікнуў я. — Як вы мяне напалохалі!

— Мы ўсё яшчэ мусім захоўваць асцярожнасць, — прашаптаў ён. — Ёсць падставы лічыць, што яны ўзялі наш след. А вось і сам Марыярці!

На гэтых словах цягнік рушыў з месца, і, зірнуўшы назад, я ўбачыў высокага чалавека, які раз'юшана праціскаўся праз натоўп і махаў рукой, нібыта хочучы спыніць цягнік. Аднак было позна: мы імкліва набіралі хуткасць, і праз імгненне станцыя знікла з вачэй.

— Бачыце, нягледзячы на ўсе засцярогі, мы ледзь выбраліся, — са смехам сказаў Холмс.

Падняўшыся, ён пазбавіўся сваёй маскіроўкі — чорнай сутаны з капелюшом — і схаваў яе ў чамадан.

— Вы чыталі ранішнюю газету, Ўотсан?

— Не.

— Значыць, пра Бэйкер-стрыт не ведаеце?

— Пра Бэйкер-стрыт?

— Мінулай ноччу яны падпалілі нашую кватэру, але вялікай бяды не нарабілі.

— Божа літасцівы, Холмс, гэта проста невыносна!

— Яны, відаць, згубілі мой след пасля таго, як арыштавалі іх агента з дубінкай. Інакш бы яны не думалі, што я вярнуўся дадому. Аднак яны відавочна перастрахаваліся і пачалі сачыць за вамі, а вы прывялі Марыярці на вакзал Вікторыя. Вы ўпэўнены, што не дапусцілі промаху?

— Я ўсё зрабіў, як вы казалі.

— Знайшлі патрэбны брогам?

— Так, ён чакаў мяне.

— Фурмана пазналі?

— Не.

— Гэта быў мой брат Майкрафт. У такіх выпадках наймітам сваіх сакрэтаў лепш не адкрываць. Але трэба думаць, што рабіць з Марыярці.

— Мы едзем экспрэсам, а ўлічваючы, што расклад параходаў падладжаны пад гэты цягнік, думаю, мы з лёгкасцю сыдзем ад праследу.

— Дарагі мой Ўотсан, вы, відаць, не да канца зразумелі, што да гэтага чалавека трэба падыходзіць з той самай інтэлектуальнай планкай, што і да мяне. Няўжо вы думаеце, што на месцы праследніка я дазволіў бы такой дробязі збіць мяне? Чаму вы тады такога невысокага меркавання пра яго?

— І што ён будзе рабіць?

— Тое, што зрабіў бы я.

— А што зрабілі б вы?

— Сеў бы на дадатковы цягнік.

— Але ён усё адно спозніцца.

— Зусім не. Наш цягнік спыняецца ў Кентэрберы, а параход звычайна як мінімум на чвэрць гадзіны затрымліваецца [14]. Вось ён нас і дагоніць.

— Вы гаворыце так, нібыта злачынцы — мы. Хай яго адразу па прыездзе арыштуюць.

— Гэта знішчыць вынікі маёй трохмесячнай працы. Вялікую рыбу мы зловім, а дробная кінецца з сеткі ва ўсе бакі і збяжыць. У панядзелак уся хеўра будзе ў нашых руках. Ніяк нельга арыштаваць яго цяпер.

— І што нам рабіць?

— Выйдзем у Кентэрберы.

— А далей?

— Ну, далей у нас пачнецца гонка — спачатку да Ньюхэйвена, а адтуль — у Д'еп [15]. Марыярці зноў зробіць так, як зрабіў бы я. Ён паедзе ў Парыж, знойдзе камеру захоўвання і два дні будзе сачыць за нашым багажом. Мы ж за гэты

час здабудзем парачку саквояжаў, падтрымаўшы такім чынам вытворчасць тых мясцовасцяў, праз якія будзем праязджаць, і спакойна рушым праз Люксембург і Базэль у Швейцарыю.

Мы выйшлі ў Кентэрберы і зразумелі, што наступнага цягніка да Ньюхэйвэна давядзецца чакаць цэлую гадзіну.

Я ўсё яшчэ з жалем думаў пра багажны вагон, які імкліва знікаў з вачэй і ў якім ляжаў мой гардэроб, калі Холмс пацягнуў мяне за рукаў і паказаў на чыгунку:

— Бачыце, а вось і ён.

Удалечыні над лясамі Кента падымаўся тонкі струменьчык дыму. Праз хвіліну мы ўжо бачылі цягнік, які складаўся з лакаматыва і аднаго вагона і па крывой чыгункі імчаў да станцыі. Мы ледзь паспелі схавацца за грудамі багажу, калі ён з грукатам і рыкам праляцеў міма, дыхаючы нам у твары гарачай парай.

— Яго цягнік, — сказаў Холмс, калі мы сачылі за вагонам, што пахістваўся і тросся на стрэлках. — Як бачыце, розум нашага сябра таксама мае межы. Ён быў бы геніем, калі б адгадаў мае высновы і дзейнічаў адпаведна ім.

— А калі б ён нас дагнаў?

— Не сумняюся, што ён паспрабаваў бы мяне забіць. Аднак у гэтай гульні кожны можа рабіць свой ход. Пытанне ў тым, варта нам паабедаць цяпер ці лепш пачакаць буфета ў Ньюхэйвэне, рызыкуючы пры гэтым памерці ад голаду?

Той жа ноччу мы дабраліся да Брусэля і правялі там два дні, а на трэці выправіліся ў Страсбург. У панядзелак раніцай Холмс тэлеграфаваў лонданскай паліцыі, і ўвечары на гатэльным стале нас чакаў адказ. Холмс прачытаў пасланне і з праклёнам кінуў яго ў камін.

— Я мусіў гэта прадбачыць! — прастагнаў ён. — Ён збег!

— Марыярці?

— Яны схапілі ўсю хеўру, апроч яго. Ён выслізнуў з іх рук, а калі я пакінуў краіну, там, безумоўна, не засталося нікога, хто мог бы даць яму рады. Але я быў упэўнены, што партыя цяпер у іх руках. Думаю, Ўотсан, вам лепш вярнуцца ў Англію.

— Чаму?

— Цяпер я небяспечны спадарожнік. Марыярці страціў усё, і вяртанне ў Лондан для яго пагібельнае. Калі я добра ведаю яго характар, то цяпер ён усе сілы аддасць помсце. Штосьці такое ён сказаў падчас нашай кароткай размовы, і я думаю, што зразумеў яго правільна. Я мушу настойваць, каб вы вярнуліся да сваёй практыкі.

Але стары салдат і стары сябар да такой просьбы прыслухацца не мог. Паўгадзіны спрачаліся ў страсбургскім рэстаране і ў той жа вечар працягнулі падарожжа, рушыўшы ў Жэневу.

Адзін чароўны тыдзень мы прабадзяліся далінай Роны, а потым, павярнуўшы на Лэйк, мінулі яшчэ пакрыты глыбокім снегам перавал Гэмі і адтуль праз Інтэрлакен скіраваліся да Майрынгена [16]. Падарожжа было цудоўным — далікатная вясновая зеляніна ўнізе, цнатлівая зімовая белата ўверсе, — але я разумеў, што Холмс ні на хвіліну не забывае пра навіслы над ім цень. Паўсюль — ва ўтульных альпійскіх вёсках ці на самотных горных перавалах — у яго хуткіх дапытлівых вачах, якія востра і пранікліва вывучалі твар кожнага сустрэчнага, я бачыў упэўненасць, што куды б мы ні пайшлі, мы не можам пазбыцца небяспекі, якая ідзе за намі крок у крок.

Помню, аднаго дня мы, пераходзячы праз Гэмі, брылі ўздоўж самага берага меланхалічнага Даўбена [17], і раптам справа ад нас са скалы сарвалася вялікая глыба і, з грукатам праляцеўшы міма, звалілася ў возера за нашымі спінамі. У той жа момант Холмс забег на самы высокі выступ скалы, адкуль, выцягваючы шыю, агледзеў усё наваколле. Марна ўпэўніваў нас праваднік, што вясновыя

абвалы камянёў у гэтых мясцінах — звычайная рэч. Холмс нічога не адказаў, але ўсміхнуўся мне з выглядам чалавека, прадказанні якога пачынаюць збывацца.

Аднак нягледзячы на сваю насцярожанасць, прыгнечаным ён не быў. Наадварот, не магу згадаць, каб я бачыў яго калі-небудзь такім узбуджаным. Ён зноў і зноў вяртаўся да думкі, што калі б грамадства вызвалілася ад прафесара Марыярці, ён з радасцю скончыў бы сваю дзейнасць.

— Думаю, Ўотсан, я маю права сказаць, што пражыў жыццё не зусім дарэмна, — зазначаў ён. — І калі б я адышоў ад справаў ужо сёння, то мог бы спакойна азірацца на сваё мінулае. Дзякуючы мне паветра ў Лондане зрабілася чысцейшым. Я расследаваў больш чым тысячу справаў і думаю, што наўрад ці хоць раз стаў не на той бок. Апошнім часам загадкі, пастаўленыя прыродай, вабілі мяне больш, чым павярхоўныя праблемы, адказнасць за якія нясе нашае сапсаванае грамадства. У той дзень, калі маю кар'еру ўвянчае арышт ці знішчэнне самага таленавітага і небяспечнага злачынцы ў Еўропе, вашыя мемуары, Ўотсан, падыдуць да канца.

Цяпер я пастараюся каротка, але дакладна расказаць тое, што засталося. Мне не хацелася б затрымлівацца на гэтых падзеях, але я лічу сваім абавязкам не апусціць ніводнай падрабязнасці.

3 траўня мы дасягнулі вёсачкі Майрынген, дзе спыніліся ў гатэлі Englischer Hof [18], які трымаў тады Петэр Штайлер-старэйшы. Наш гаспадар быў чалавекам кемным і, тры гады праслужыўшы афіцыянтам у лонданскім гатэлі “Гровенар”, дасканала валодаў ангельскай. 4 траўня мы згодна з яго парадай выправіліся пасля абеду ў горы, збіраючыся пераначаваць у вёсцы Разэнлаў [19]. Нам настойліва раілі не абмінаць Райхенбахскага вадаспаду [20], які ляжыць на сярэдзіне пад'ёму, а зрабіць невялікае кола і абавязкова яго агледзець.

Гэта было напраўду вусцішнае відовішча. Імклівы струмень, яшчэ магутнейшы ад расталага снегу, падае ў галаваломную бездань, з якой выбіваюцца пырскі, нібыта дым з ахопленага агнём дома. Ахаваная з аднаго боку бліскучай вугальна-чорнай стромай, бяздонная цясніна, у якую зрынаецца рака, унізе звужаецца, ператвараючыся ў невымерна глыбокі правал, дзе, пераліваючыся цераз край і выплюхваючыся на зубчастыя выступы, кіпіць і пеніцца вада. І вельмі хутка ад гэтай бясконцай плыні зеленаватага колеру, што з вечным гулам падае ўніз, ад гэтай густой бліскучай завесы з пырскаў, што з вечным шыпеннем нясуцца ўгору, ад гэтага пастаяннага бурлення і грукату пачынае кружыцца галава.

Мы стаялі ля самага краю і назіралі за зіхценнем вады, якая далёка ўнізе разбівалася аб чорныя стромы, і чулі амаль чалавечы крык, што вырываўся з бездані разам з пырскамі.

Сцяжынка паўколам аббягала вадаспад, даючы магчымасць цудоўна яго разгледзець, але пасля нечакана абрывалася, і падарожнік, падняўшыся наверх, мусіў вяртацца. Мы акурат сабраліся павярнуць, калі ўбачылі хлопчыка-швейцарца, які падымаўся да нас з лістом у руцэ. На лісце быў штамп гатэля, які мы толькі што пакінулі, ён быў напісаны нашым гаспадаром і адрасаваны мне. Выявілася, што праз некалькі хвілінаў пасля нашага сыходу ў гатэль прыбыла ангельская лэдзі з туберкулёзам на апошняй стадыі. Яна правяла зіму ў Давас-Плацы і акурат ехала да сяброў у Люцэрн, калі ў яе пачаўся крывацёк [21]. Ёй засталося, відаць, не больш за некалькі гадзінаў, і бачыць побач ангельскага доктара было б для яе вялікім суцяшэннем, а таму, калі я змагу вярнуцца... і г. д. У постскрыптуме добры Штайлер дадаваў, што мая згода вельмі яго абавяжа, бо лэдзі адмаўляецца ад любой дапамогі швейцарскага доктара, і ён не можа ўзяць на сябе такую вялікую адказнасць.

Праігнараваць гэтую просьбу я не мог. Не мог не адказаць на мальбу суайчынніцы, што памірала ў чужой краіне. І ўсё ж я вагаўся, думаючы, ці можна пакідаць Холмса аднаго. Урэшце мы сышліся на тым, што я вярнуся ў Майрынген,

а пры ім у якасці праваднiка і спадарожніка застанецца наш пасланец. Холмс сказаў, што яшчэ пабудзе трошкі ля вадаспаду, а потым паціху пойдзе праз горы ў Разэнлаў, дзе ўвечары я да яго далучуся. Адыходзячы, я азірнуўся і ўбачыў Холмса, што прыхіліўся спінай да скалы і склаў рукі, назіраючы за імклівым рухам вады. Гэта быў апошні раз, калі я бачыў яго жывым.

Амаль спусціўшыся, я зноў азірнуўся. Убачыць адтуль вадаспад было немагчыма, але я ўбачыў выгнутую паўколам сцяжынку, што вяла да яго, абвiнаючы пагорак. Гэтай сцяжынкай, помніцца, вельмі хутка падымаўся нейкі чалавек.

Чорная фігура была выразна бачная на зялёным фоне. Я заўважыў яго і заўважыў, як энергічна ён падымаецца на пагорак, але неўзабаве пра ўсё гэта забыў, бо спяшаўся ў гатэль.

Прайшло, відаць, крыху больш за гадзіну, перш чым я дабраўся да Майрынгена. На ганку гатэля стаяў стары Штайлер.

— Ну як? — падбегшы, спытаў я. — Спадзяюся, ёй не горш?

Калі я ўбачыў здзіўленне на яго твары і паднятыя бровы, у мяне з грудзей ледзь не выскачыла сэрца.

— Значыць, вы гэтага не пісалі? — спытаў я, выцягваючы з кішэні ліст. — І ў гатэлі няма ніякай хворай англічанкі?

— Вядома, няма! — усклікнуў ён. — Але на лісце штамп гатэля! А, дык гэта, відаць, напісаў той высокі ангелец, што прыехаў пасля вашага сыходу. Ён сказаў...

Але тлумачэнняў гаспадара я чакаць не збіраўся. Ахоплены жахам, я пабег вясковай вулачкай і павярнуў на сцяжынку, якой толькі што спусціўся з гары. Спуск заняў у мяне гадзіну, але хоць я і бег з усяе моцы, да Райхенбахскага вадаспаду я дабраўся толькі праз дзве з нечым. Альпеншток Холмса ўсё яшчэ стаяў, прыхілены да скалы, але самога Холмса бачна не было. Я доўга клікаў яго — але марна: у адказ я чуў толькі ўласны голас, які гулкім рэхам адбівалі навакольныя скалы.

Гледзячы на альпеншток, я халадзеў і ледзь не траціў прытомнасць. Значыць, у Разэнлаў Холмс не пайшоў. Ён заставаўся на сцяжынцы шырынёй тры футы, адзін бок якой упіраўся ў сцяну скалы, а другі заканчваўся стромкім абрывам, і чакаў тут свайго ворага. Маладога швейцарца таксама не было — магчыма, Марыярці заплаціў яму, каб той пакінуў праціўнікаў сам-насам. А што потым? Хто раскажа нам, што адбылося потым?

Хвіліну ці дзве я, агаломшаны ўсёй жахлівасцю сітуацыі, спрабаваў узяць сябе ў рукі. Потым успомніў пра метады Холмса і паспрабаваў выкарыстаць іх, каб разабрацца ў трагедыі. На жаль, гэта было вельмі лёгка. Падчас нашай размовы мы не дайшлі да канца сцяжынкі, і альпеншток указваў на месца, дзе мы спыніліся. Чарнаватая зямля тут заўсёды вільготная ад пырскаў — яна захавала б нават птушыны след. На дальнім канцы сцяжынкі выразна бачыліся два шэрагі адбіткаў — абодва вялі ад мяне. Назад яны не вярталіся. За некалькі ярдаў ад краю зямля была вытаптаная і хлюпала брудам пад нагамі, а хмызы і папараць, што аблямоўвалі цясніну, былі запэцканыя і паламаныя. Я лёг на жывот і праз завесу пырскаў пачаў углядацца ў прорву. Ужо сцямнела, і я бачыў толькі, як на чорных стромах тут і там зіхцела вільгаць, а ў глыбіні расколіны паблісквала, падаючы на дно, вада. Я крыкнуў, але да вушэй маіхданёсся толькі амаль чалавечы стогн вадаспаду.

І ўсё ж лёс падарыў мне некалькі развітальных словаў ад майго сябра і паплечніка. Як я ўжо казаў, альпеншток быў прыхілены да скалы, што ўразалася ў сцяжыну. І раптам на гэтым выступе я ўбачыў нешта бліскучае і зняў з яго срэбны партсігар, які мой сябар заўсёды насіў з сабой і з-пад якога цяпер вылецела тры аркушы. Я падняў іх і зразумеў, што яны вырваныя з блакнота Холмса

і адрасаваныя мне. Як гэта падобна да Холмса — такі роўны, цвёрды і выразны почырк, нібыта ліст напісаны ў кабінеце!

“Мой дарагі Ўотсан, — гаварылася ў пасланні, — я пішу вам гэтыя радкі з ласкавага дазволу містэра Марыярці, які чакае мяне дзеля канчатковага высвятлення пытанняў, якія паміж намі засталіся. У агульных рысах ён апісаў мне спосаб, дзякуючы якому збег ад ангельскай паліцыі і даведаўся пра нашыя перамяшчэнні. Усё гэта толькі пацвердзіла маю высокую ацэнку яго здольнасцяў. Мне прыемна думаць, што я змагу вызваліць грамадства ад небяспекі, якою пагражае яго далейшае існаванне, хаця і баюся, што цана такога вызвалення прынясе маім сябрам, а асабліва вам, дарагі Ўотсан, боль. Аднак мая кар’ера, як я казаў раней, у любым разе дасягнула вяршыні, і мне здаецца, што больш годнага яе завяршэння ўявіць немагчыма. Калі быць да канца шчырым, то я не сумняваўся, што ліст з Майрынгена — падманка, але дазволіў вам адклікнуцца на просьбу, ведаючы, што ўсё скончыцца менавіта так. Перадайце інспектару Петэрсану, што патрэбныя для абвінавачання хеўры паперы ляжаць у маёй картатэцы пад літарай М, у сінім канверце з подпісам “Марыярці”. Усе распараджэнні адносна маёй маёмасці я зрабіў перад ад’ездам з Англіі і пакінуў у свайго брата Майкрафта. Перадавайце прывітанні місіс Ўотсан і помніце, мой дарагі сябра, што я застаюся

Шчыра вам адданы,
Шэрлак Холмс”.

Каб апісаць усё астатняе, хопіць некалькіх словаў. Эксперты агледзелі месца падзеяў і амаль не сумняваліся, што змаганне паміж двума людзьмі скончылася падзеннем счэпленых целаў у прорву. Зрэшты, іншы вынік наўрад ці магчымы. Пошукі парэшткаў плёну не прынеслі, і таму самы небяспечны злачынца і найвялікшы абаронца справядлівасці свайго пакалення навечна застануцца ў глыбіні вусцішнага катла, дзе віруе вада і бурліць пена. Маладога швейцарца так і не знайшлі — ён, без сумневу, быў адным са шматлікіх агентаў, якія працавалі на Марыярці. Што да хеўры, то грамадства надоўга запомніць, з якой відавочнасцю доказы, сабраныя Холмсам, выкрылі яе дзейнасць і якой моцнай рукой трымаў яе прафесар. Падчас працэсу жахлівага кіраўніка хеўры амаль не закраналі, і калі я спыняюся ў гэтай нататцы на яго ўчынках, то толькі праз неасцярожных абаронцаў, што спрабуюць абяліць яго памяць, нападаючы на чалавека, якога я лічыў і заўсёды буду лічыць найлепшым і найразумнейшым з усіх, каго я ведаў.

*Пераклад з англійскай мовы.*

**Каментар**

1. “Эцюд у пунсовых тонах” — першая аповесць пра Шэрлака Холмса (1887), у якой адбываецца яго знаёмства з доктарам Ўотсанам.

2. “Марская дамова” — апавяданне пра Шэрлака Холмса, якое выйшла ў часопісе “Стрэнд” на месяц раней, чым “Апошняя справа...” Абодва апавяданні ўвайшлі ў зборнік “Успаміны пра Шэрлака Холмса” (1894).

3. “Аднак выдадзеныя нядаўна лісты палкоўніка Джэймса Марыярці, у якіх той абараняе памяць свайго брата...” — у апавяданні “Пусты дом” Ўотсан згадвае імя самога прафесара Марыярці, і высвятляецца, што прафесара таксама завуць Джэймс. Гэта адна з шэрагу нестыковак у цыкле пра Шэрлака Холмса. У аповесці “Даліна жаху” брат прафесара Марыярці згадваецца зноў, але застаецца безыменным.

4. Дэпеша “Ройтэрс” — агенцтва “Ройтэрс” (Reuters) адкрыў у Лондане ў 1851 годзе нямецкі эмігрант Паўль Юліюс Ройтэр, які займаўся перадачай біржавых навінаў у еўрапейскія краіны з дапамогай тэлеграфа. Там, дзе кабель не быў пракладзены, ён выкарыстоўваў

паштовых галубоў. З цягам часу офіс Ройтэра ператварыўся ў адно з найбуйнейшых міжнародных агенцтваў навінаў і фінансавай інфармацыі і з'яўляецца ім дагэтуль.

5. Нарбона — французскі горад у дэпартаменце Од за 12 км ад Ліёнскага заліва. Нім — французскі горад, прэфектура дэпартамента Гар, размешчаны на мяжы Праванса. Абодва гарады знаходзяцца на поўдні Францыі.

6. Холмс баіцца пнеўматычнай стрэльбы, бо яно страляе нашмат цішэй, чым звычайнае: куля з яго вылятае пад уздзеяннем газу пад ціскам.

7. Біном Ньютана — формула для раскладання на асобныя складнікі цэлай неадмоўнай ступені сумы дзвюх пераменных. Доўгі час лічылася, што для натуральных паказчыкаў гэтую формулу вынайшаў Паскаль, аднак яна была вядомая яшчэ кітайскім і арабскім матэматыкам. Ньютан каля 1676 года абагульніў формулу для адвольнага (адмоўны, дробны і г. д.) паказчыка ступені.

8. "Цяга да злачынства ў яго ў крыві, і надзвычайныя разумовыя здольнасці, замест таго каб дапамагчы пераадолець, толькі ўзмацнілі яе і зрабілі больш небяспечнай..." — тут Дойл адсылае да тэорыі Чэзарэ Ламброза (1835-1909), італьянскага турэмнага доктара-псіхіятра і заснавальніка антрапалагічнага кірунку крыміналогіі, які сцвярджаў, што цяга да злачынства — прыроджаная альбо атавістычная. Асноўная заслуга Ламброза ў тым, што ён перанёс акцэнт вывучэння са злачынства як дзеяння на чалавека як злачынцу.

9. "Вашыя лобныя косці развітыя менш, чым я мог чакаць..." — антрапалогія XIX стагоддзя ўсё яшчэ адчувала ўплыў псеўданавукі XVIII стагоддзя — фрэналогіі, у якой вывучалася залежнасць будовы чэрапа ад духоўных і ментальных здольнасцяў чалавека. Заўвага Марыярці магла пакрыўдзіць Холмса, які ў сваю чаргу адзначыў пукатасць ілба прафесара, што мусіла сведчыць пра выбітныя разумовыя здольнасці.

10. Бентынк-стрыт, Ўэлбэк-стрыт — гэтыя вуліцы сапраўды існуюць у Лондане і знаходзяцца за некалькі кварталаў ад Бэйкер-стрыт.

11. Хэнсам — двухколавы экіпаж з месцам для фурмана ззаду.

12. Лоўтэрскі пасаж — невялікі гандлёвы будынак з крамамі, збольшага цацачнымі.

13. Брогам — аднаконны двух- ці чатырохколавы экіпаж для двух ці чатырох чалавек.

14. "Наш цягнік спыняецца ў Кентэрберы, а параход звычайна як мінімум на чвэрць гадзіны затрымліваецца..." — кантынентальны цягнік праз Кентэрберы ідзе ў Дуўр, дзе знаходзіцца порт, адкуль у часы Дойла хадзілі параходы ў Кале (Францыя), расклад якіх быў падладжаны пад расклад экспрэса.

15. "Ну, далей у нас пачнецца гонка — спачатку да Ньюхэйвена, а адтуль — у Д'еп..." — Холмс і Ўотсан выправіліся на паўднёвы захад, дзе з Ньюхэйвэна маглі паромам трапіць у Д'еп (Францыя). Дарога з Ньюхэйвэна ў Д'еп істотна даўжэйшая за дарогу з Дуўра ў Кале.

16. Лэйк — горад у Швейцарыі ў даліне ракі Роны, аточаны маляўнічымі гарамі. Перавал Гэмі вядзе ад яго да Інтэлакена і вёскі Майрынген. Дойл быў аматарам лыжнага спорту і добра ведаў лыжныя курорты Швейцарыі і Нарвегіі.

17. Даўбен — маленькае высакагорнае возера, міма якога праходзіць перавал Гэмі.

18. Englischer Hof — ангельскі двор (ням.). У часы Дойла Майрынген быў папулярным месцам адпачынку сярод ангельцаў. Сам Дойл спыняўся там некалькі разоў. Цяпер у Майрынгене знаходзіцца музей Шэрлака Холмса.

19. Разэнлаў — маленькая вёска ў аднайменнай цясніне, дзе ў часы Дойла падарожнікі спыняліся адпачыць падчас вандровак у гарах.

20. Райхенбахскі вадаспад — адзін з найбуйнейшых альпійскіх вадаспадаў, які складаецца з некалькіх асобных каскадаў. Там усталяваная шыльда ў памяць пра "смерць" Шэрлака Холмса.

21. "Яна правяла зіму ў Давас-Плацы і акурат ехала да сяброў у Люцэрн, калі ў яе пачаўся крывацёк..." — жонка Дойла пакутавала на туберкулёз, і таму гэтая хвароба часта з'яўляецца ў творах пісьменніка. Давас-Плац — раён курортнага гарадка Давас, дзе зімой дагэтуль лечацца людзі з хваробамі лёгкіх. Люцэрн — горад у Швейцарыі, размешчаны ў цэнтры Швейцарскага плато.

запісы

Уладзімір Някляеў



...адна з самых
небяспечных хвароб —
былая веліч...

# Знакі прыпынку

* * *

У 1914 годзе пацярпеў катастрофу і патануў акіянскі лайнер «Імператрыца Ірландыі», які йшоў з Канады ў Еўропу. Загінула 1012 чалавек. Сярод іх было нямала беларусаў, якія плылі дахаты — хто для таго, каб забраць за акіян свае сем'і, а нехта — каб застацца дома, бо не пашэнціла за акіянам.

Чаму пра трагедыю «Тытаніка», на якім загінулі 832 чалавекі, ведае ўвесь свет, а пра трагедыю «Імператрыцы Ірландыі» мала каму вядома? Таму што патанула не імператрыца Ірландыі, а толькі тое, што гэтак называлася. На палубе не шпацыравалі прынцэсы з багацеямі (прагульваліся хіба тыя, хто мог выканаць іх ролі: брытанскія акторы), каюты трэцяга класа былі забітыя простым людам.

Простае знікае проста.

* * *

*Працяг. Пачатак у №4 (59).*

У панядзелак 27 лістапада 2000 года:

1. Пачаўся рамазан. Мусульманам нічога нельга есці ад узы-

ходу да заходу сонца. Добра тым мусальманам, хто на поўначы, дзе ад узыходу да заходу сонца паспяваеш спаліць не болей як адну-дзве цыгаркі.

2. Пачаўся восьмы дзясятак жыцця Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча.

3. Пачаўся чарговы прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Буш-малодшы.

У сувязі з трыма гэтымі пачаткамі скончыліся:

1. Сакратар Рады бяспекі Рэспублікі Беларусь.

2. Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь.

3. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь.

* * *

З фінскага антыалкагольнага закона:

«Забараняецца скарыстоўваць алкаголь з мэтай ап'янення».

* * *

Вясной у Хельсінкі – выстава беларускіх прамысловых тавараў, арганізаваная стараннямі Міхаіла Марыніча, пасла Беларусі ў Латвіі, а заадно і ў Фінляндыі, дзе беларускага пасольства няма. Прыехаўшы, Марыніч пазваніў, мы спаткаліся...

Тое, што толку ад ягоных старанняў не будзе ніякага, стала відавочна, калі на прэс-канферэнцыю з нагоды адкрыцця выставы не завітаў ніводзін фінскі журналіст. А чаго няма ў сродках масавай інфармацыі — таго няма ў жыцці... Гэткія пагардлівыя, у лепшым выпадку абыякавыя адносіны да лукашэнкаўскай Беларусі паўсюль на Захадзе, і, можа, найвастрэй адчуваюць іх якраз дзяржаўныя функцыянеры, якія афіцыйна кантактуюць з Захадам, найперш дыпламаты. Асабліва тыя, у кім ёсць самапавага, гонар... Колькі разоў я назіраў, як на ўсялякіх урачыстых прыёмах беларускія дыпламаты стаяць ад усіх убаку — і іх дыпламатычна абмінаюць.

Пасля прэс-канферэнцыі селі мы ў гатэлі, і Міхаіл Марыніч, адзін з самых талковых службоўцаў і ў кебічаўскім, і ў лукашэнкаўскім урадзе, выклаў мне ў агульных рысах сцэнар прэзідэнцкіх выбараў з удзелам наменклатуры. Створанай Лукашэнкам вертыкалі, яе далёка не апошніх асобаў. Па сцэнары урад перад выбарамі падаваў у адстаўку – і ягоны кіраўнік вылучаўся кандыдатам у прэзідэнты. Па тым, як Міхаіл Афанасьевіч інтэлігентна заікаўся, называючы прозвішчы некаторых вертыкальшчыкаў, ён быў далёка не ўпэўнены, што тыя пойдуць да канца.

Як час паказаў, яны й не пайшлі, здалі Марыніча. Перавароту ў палацы не адбылося. Марыніч сам паспрабаваў зарэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты, а Лукашэнка «зарэгістраваў» яго ў турму.

* * *

З Быкавым сустрэліся на міжнародным кангрэсе па праблемах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Тампэрэ. Горад паміж двума велізарнымі азёрамі, рака, стары млын — прыгожа... І пасярод гэтай замежнай прыгажосці Васіль Уладзіміравіч спытаў, якая ўсё ж з усіх прычын, па якіх з'ехаў я за мяжу, была настолькі важкай, што змусіла да такога кроку? «Тут жа ў нечым, — сказаў ён, — адчай...»

Мы стаялі на мосце, вада шумела пад намі... І ў шум вады я стаў расказваць, як яно было, і як паасобку ўсё выглядала драбязой, а, склаўшыся ў адно, сталася прычынай. І я назваў яе ў паэме «Паланэз», напісанай у Варшаве. Лірычная гераіня паэмы не разумее, чаму лірычны герой пакінуў радзіму, дапытваецца: «Скажы, скажы, дзеля чаго зрабіў ты гэта?..», — і той адказвае: «Найперш, каб зратаваць паэта». Для мяне гэта і прычына больш чым дастатковая, і адказ вычарпальны, да якога нічога не трэба прыплятаць. Ды тое для мяне, а для астатніх... «Вось для вас, — я спытаў, — гэтага дастаткова?» — і ён, гледзячы ў ваду, кіўнуў...

Я так зразумеў, што дастаткова. Праз паўзу ён папрасіў прачытаць што-небудзь з паэмы. Гэта быў адзіны выпадак, калі я чытаў яму вершы. У Тампэрэ пад шум вады.

Пасля загаварылі, бо пра гэта паэма, пра Беларусь, пра яе шлях. Быкаў сцвярджаў, што Беларусь мела не тое што гістарычны шанс, а прапанову гісторыі стаць еўрапейскай краінай, і прапанову не скарыстала, шанс незваротна страціла. Незваротна, бо двойчы да прапаноў сваіх гісторыя не вяртаецца, і цяпер застаецца толькі разбірацца, як мы шанс той страцілі і чаму?..

Нешта падобнае я чуў ад яго і раней, бачанне будучыні Беларусі было ў яго ў апошнія гады не надта радаснае, але ўпершыню ён сфармуляваў гэта так катэгарычна: гістарычны шанс стаць еўрапейскай краінай Беларусь страціла незваротна. Я стаў спрачацца... Прынамсі, сказаў, калі будзем разбірацца, як страцілі і чаму, дык будзем пісаць, а будзем пісаць, дык будзем мець літаратуру, а будзем мець літаратуру — будзем мець Беларусь. І наогул, Беларусь, можа, і ёсць тое, што ўвесь час мы знаходзім і страчваем, страчваем і знаходзім. Чаму краіна, Радзіма абавязкова павінна быць у геаграфічных межах?..

Быкаў, падумаўшы, сказаў, што гэта ўва мне — эмігранцкае. І дадаў вядомае пра пыл Радзімы, які не панесці на падэшвах ботаў.

* * *

Скончыўся кангрэс у Тампэрэ. Быкаў на некалькі дзён заставаўся, я ад'язджаў. Развітваліся ўвечары ў кавярні каля вакзала. Саставілі два столікі. Васіль Уладзіміравіч з Ірынай Міхайлаўнай, Якуб Лапатка, які прыехаў некалі ў Хельсінкі на паўгода і застаўся ці не назаўсёды, Аліна Бельская, якая апынулася ў эміграцыі першакурсніцай універсітэту, я, мая дачка Ева... Вось і ўсе беларусы, што знайшліся на той час у Фінляндыі.

Васіль Уладзіміравіч не хацеў развітвацца. Усяляк адцягваў развітанне: сам хадзіў да бармена, браў яшчэ віна... Але ўсё канчаецца хутка, а найхутчэй віно. Апошні келіх выпілі за тое, каб некалі ўсім разам спаткацца дома.

Перад тым я сказаў Быкаву, што мне, калі не хачу назаўсёды застацца ў эмігрантах, давядзецца ехаць у Беларусь, каб памяняць пашпарт, і ён падарыў мне зялёную кепку з вялізным брылём. Для маскіроўкі. Той кепкай я і махаў яму з тамбура, калі крануўся цягнік, а ён доўга, даўжэй за ўсіх ішоў за вагонам па пероне...

Ніколі ўжо ўсе разам мы не спаткаемся.

* * *

Заўтра, сёння ўжо, бо а поўначы, мне 55... Пяцьдзясят пяць чаго? Жыццяў, скананняў? Усяго...

Не шэраговая лічба 55. Выгінастая, пакручастая. І роўная. Яшчэ пры сіле. Здаецца нават, што адзінкі ад яе пачнуць адскокваць, а не дадавацца: 55, 54, 53... Але так не будзе.

Нічога ўжо так не будзе, як было. І дзякуй Богу.

Дзякуй Богу, што даў нарадзіцца. Дажыць да 55-ці. Спазнаць... А хацеў жа памерці маладым. Даруй, Божа...

Не Ты вінаваты, што жыццё стамляе. Вінаваты той, хто стамляецца. «Я не стаміўся, — кажу я сам сабе, — не стаміўся». І нават веру, што не супакойваю сябе, не ўгаворваю.

За паўвекам пачаўшы жыць з нуля, вучуся не думаць пра будучыню. Ва ўсялякім разе так, як думаў дасюль. Думаю: дасць Бог дзень...

Будучыня — люстэрка. Мінулае. Яго хопіць па скон.

Вучуся, гледзячы ў люстэрка, не злавацца, не скардзіцца, не крыўдаваць.

Трываць. Даравацьжывым жывое... Нібыта ўмеў і раней, але вучуся. І вялікая навука наперадзе. Калі Бог дасць...

Не прашу ў Бога нічога, дзякуй Богу за ўсё.

Дзякую за Маці, за Бацьку, якіх любіў, якіх пахаваў. Па-людску ўсё, па-боску...

За каханне дзякую і каханую, за сям'ю, за дзяцей... Як доўга ведалася, што гэта не трэба, замінае!.. Але Бог ведае болей...

Дзякую за Анёла, які ахоўваў мяне і ратаваў, ахоўвае і ратуе...

Не ўсё ад Яго аднаго, волі Ягонай залежыла, маё залежыла ад мяне. Нешта магло быць лепш, вышэй, але няма на што і няма на каго наракаць. Хіба толькі на самога сябе — там, дзе самога сябе не хапіла. Толькі дзе гэта, дзе? — калі ўжо ёсць разуменне, што і гэткія нараканні — марнае і пустое. Так жыў, такім быў... Не мог быць інакшым. А што шкада, дык што ж... Часам можна дазволіць сабе такую слабасць, гэта не грэх. Прынамсі не вялікі.

Амаль літаратурны грэх.

Дзякую Богу за літаратуру. Прабачаюся, што гнявіў Яго, жадаючы, прагнучы большага, чым Ён даў. Я больш не ўзяў, чым Бог не даў. Не ўзяў лянотай, слабасцю, спакусамі — сваё не ўзяў, што ад мяне залежыла. І цяпер наракаць, шкадаваць?.. Калі і ў спакусах жыў — і ў якіх спакусах! — і дзякую Богу яшчэ і за гэта.

Дзякую і за тое, што павёў мяне Бог па свеце, вырваўшы са спакус. Карані засталіся, цяжка, але — шлях. Да самых каранёў, да крэўскіх могілак.

* * *

«Самы моцны той, хто стаіць адзінока», — паўтарае Колас словы Ібсена, запісваючы іх у альбом Аляксандры Зотавай. Словы гэтыя не могуць быць выпадковымі, бо адрасаваныя жанчыне не староннай: ёй падараваў Колас свой фотаздымак, надпісаўшы: «Уладальніцы адзінай душы».

* * *

«Я старэйшы... — перадае Колас быццам бы жартаўлівыя словы Купалы пры іх першай сустрэчы, — я ўжо сваёй маці ўсміхаўся, а ты яшчэ і разу ў калысцы не вякнуў».

«Той-сёй можа падумаць, што паміж мною і Купалам сапраўды ляжала нейкая няпрыязнь, — прагаворвае Колас, нібы наперад пярэчачы такому меркаванню. — І нібыта вынікала яна праз спаборніцтва за першае месца».

Так, «той-сёй» можа такое падумаць...

Купала з Коласам пазнаёміліся, калі кожнаму было па трыццаць. Гэта нават на сёння людзі не юначага ўзросту, а ў 1912 годзе — сталыя мужыкі. Пераспелыя для сяброўства...

У адносінах паміж імі відавочна адно: Колас стараўся сябраваць. Чаго не скажаш пра Купалу.

У траўні 1938-га Купала хварэе на крупознае запаленне лёгкіх — і Колас амаль месяц штодня (!) наведвае яго ў шпіталі. А ў 1939-м, 23 лютага, Колас піша ў лісце да Сяргея Гарадзецкага: «З тыдзень таму назад была тэлеграма ад Лазоўскага — прыслаць верш да XVIII з'езду партыі. Напісаў, паслаў праз Янку. А 21.02 зноў атрымліваю тэлеграму з напамінам пра высылку верша к 25.02. Выходзіць, што Янка не перадаў...»

Колас сур'ёзна занепакоены... Бо гэта не драбяза... Лазоўскі мог і не выслаць напамінальнай тэлеграмы, а далажыць пра невыкананне высокага даручэння.

Купала падводзіў Коласа не аднойчы... Не наўмысна, праз асаблівасць (як заўважае Колас) натуры, але падводзіў. Колас даравў, трываў. Не вытрываў, калі Купала не пераслаў яму ліста ад сына, які бяз вестак прапаў на фронце.

Невядома, ці быў насамрэч той сынаў ліст, але Колас свой напісаў.

«Ташкент, 17 верасня.

Дарагі Янка!

Можа, і не варта было б пісаць табе пісьмо, бо ты ў вялікім клопаце аб сабе самім не помніш болей нікога і на пісьмы нікому не адказваеш. Ты ў гэтым бачыш асаблівасць сваёй натуры і, відаць, такая "асаблівасць" расцэньваецца табою як нешта надзвычайнае, уласцівае толькі Янку Купалу. Іначай нельга найсці тлумачэнне таму, што ты не дужа спяшаешся адказаць на маё пісьмо. Чатыры дні таму назад прыслаў мне пісьмо Пятрусь Броўка. Ён даведаўся пра мой адрас з таго пісьма, што я пісаў табе. Вось і бярэ мяне крыўда. І асабліва крыўдна мне, што ўзяўся ты, як піша Пятрусь, пераслаць мне пісьмо ад Юркі. А гэтага пісьма, як і ад цябе, усё няма. Ці ведаеш ты, што такое для бацькі і маткі сын, асабліва ў такі час?.. Не, Янка, ты гэтага не ведаеш, або ў цябе няма нармальнага чалавечага сэрца. А ты ж паэт. Паэт жа, калі ён сапраўдны паэт, ёсць рэха людскіх пачуццяў, а не чарапаха, зашыўшыся ў свой тоўсты футляр, зрэдку высоўваючы сваю галаву, каб паглядзець, ці няма чым пажывіцца. Ты, Янка, не злуйся: нічога не зробіш, а праўда вочы коле...

Гэта маё апошняе к табе пісьмо. Пісаць і не мець адказу на свае пісьмы — гэта тое самае, што гукаць у чыстым полі, дзе няма жывое душы. Жыві здаровы. У цябе для гэтага ёсць магчымасці.

Бывай, Янка, здаровы.

Якуб Колас».

Не вытрываў — і не толькі крыўду з-за сына, а ці не ўсё, што гадамі тузала, вярэдзіла, балела, — выказаў...

Апошні раз яны спаткаліся ў сакавіку 1942 году ў Казані, адкуль Колас напісаў жонцы ў Ташкент: «8.III. за сталом у аднаго з нашых знаёмых сустрэўся з Янкам. Нічога асаблівага не гаварылі, не сварыліся і не дружылі».

Пасля такога ліста — і «нічога асаблівага не гаварылі»? Так не бывае, не можа быць. Калі ж так было, дык толькі ў адным выпадку: Колас свайго апошняга ліста да Купалы не выслаў. Напісаў і ў стол паклаў. Гэта ў ягоным характары.

Праблема іх сяброўства ў тым, што Купала адносіўся да Коласа, як паніч да мужыка — і гэта не самае сімпатычнае з таго, што было ў Купалу.

Пасля смерці Купалы Колас піша ў лісце (8.07.1942) да ягонай жонкі: «Дарагая Ўладзіслава Францаўна!.. Не верыцца мне, што ўжо не сяду я болей побач з Янкам за адным сталом. Але што паробіш? Так, відаць, судзіла ўжо доля. Ніколі не думаў таксама я, што страта Янкі такім вострым нажом пройдзе па сэрцы...»

Прайшла, не магла не прайсці... Усё, што ёсць побыт, пазабывалася, знікла, засталося толькі тое, што над побытам. Паэзія, пра якую ўжо да скону будзе гаварыць Колас толькі ў звязку з Купалам, аддаючы яму перавагу і перад усімі, і перад сабой.

Высакародны чалавек.

* * *

Якуба Коласа, які перажыў Янку Купалу на 14 гадоў, не стала 13 жніўня 1956 года. З раніцы ў дзень смерці ён занёс у ЦК КПБ ліст пра стан беларускай мовы. «Найвялікшым духоўным багаццем народа з'яўляецца яго мова. У мове адлюстроўвалася гісторыя народа, яго барацьба, яго смутак і радасць, яго любоў і гнеў. Прашу зразумець мяне правільна...» Тым самым Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, Якуб Колас, як бы завяршыў свае зямныя справы — і заняўся справамі нябеснымі.

* * *

Калі паэт пражывае свой век і памірае, акружаны дзецьмі і ўнукамі, у сваім

ложку, дык наўрад ці жыццё ягонае і смерць стануць легендай. Вунь Гётэ, скажуць, няхай і вялікі паэт, але ж колькі жыў!.. Столькі жыць, калі ты паэт, непрыстойна. Ды яшчэ ў дабрабыце, па-людску. Не пашчасціла табе, зажыўся, не забілі цябе ці сам не забіўся, то цягні жыццё ў хваробах і галечы, тады, можа, і адшчыкнеш што-небудзь ад легенды... Інакш займееш біяграфію з бібліяграфіяй – і не больш за тое.

Колас памёр за пісьмовым сталом. На стале – па-сялянску – стаяла бульба. Ложак – у пакойчыку побач... І амаль усё, што магло стаць легендай Якуба Коласа, стала легендай Янкі Купалы. Саслізнула са стала, перакінулася з ложка, скінулася ў лесвічны пралёт.

* * *

«Я не паэт, а грамадзянін!» Прыдуманая Рылеевым, паэтам не асаблівага таленту, фраза гэтая стала шырока вядомай агіткай у перакaзе Някрасава: «Паэтам можаш ты не быць, грамадзянінам быць ты мусіш...»

Байранам ты можаш не быць, Рафаэлем можаш не быць, Моцартам... Можаш не быць Пушкіным, але мусіш быць Рылеевым...

Калі паэт Пушкін ехаў з Міхайлаўскага ў Пецярбург, дзе ён з ягоным характарам мог апынуцца разам з грамадзянінам Рылеевым на Сенацкай плошчы, дарогу яму перабег заяц. Гэта была кепская прыкмета – і Пушкін павярнуў назад. Цяпер таму зайцу паставілі помнік.

Паэту Цютчаву заяц дарогу не перабягаў, Цютчаў быў 14 снежня 1825 года ў Пецярбурзе, жыў у гасцініцы непадалёку ад Сенацкай, з якой у той дзень носу не паказаў. Яго не павесілі разам з Рылеевым – і ён напісаў: «Цераз лівонскія я праязджаў палі...», «Калі праб'е апошні міг прыроды...» і шмат іншага.

Я гэта да чаго? Да таго, што некалі ў вершы «Мост Шандара Пецёфі» сам напісаў: «Паэт не той, хто апяе свабоду, а той, хто ў бітве згіне за яе...»

* * *

Яўген Мазалькоў (рэдактар кніг Купалы ў перакладзе на рускую мову) згадвае ў сваіх успамінах, як гасцяваў у Купалы (у 414 нумары гатэлю «Масква») гадзіны за тры да купалавай смерці. «Перад намі на столике, – піша ён, – лежала большая коробка шоколадных конфет».

Больш ні пра якія пачастункі ва ўспамінах ні слова. А пра выпіўку Купала кажа Мазалькову: «Праз тыдзень мне 60 – тады і пасядзім як след». Што азначае: тады і вып'ем, а зараз ты з'еў бы цукерку ды йшоў адсюль з усімі сваімі перакладамі...

Мазалькоў пайшоў. Праз нейкі час (праз тры гадзіны) Купала, падняўшыся з чацвёртага на дзясяты паверх, злятае ў лесвічны пралёт.

Назаўтра ў спецпаведамленні на імя Берыі (з копіямі Молатаву і Сталіну) начальнік 3 Упраўлення НКВД СССР Гарлінскі дакладвае, што пры аглядзе 414 нумара «обнаружены около стола две бутылки из-под шампанского и не убранная со стола посуда с запахом вина».

З кім, калі не з Мазальковым, выпіў Купала шампанскае?..

Шампанскае з цукеркамі – не мужчынскае застолле. Як тады, так і цяпер – гэта так званы «джэнтльменскі набор» для інтымных сустрэч.

Сярод рэчаў Купалы, апісаных разам з пачакамі тытуню «Казбек» і цыгарак «Эліт», нечакана здзіўляе жаночая парфума. У вопісе рэчаў (№ 59): Духи «Душистый горошек». Купала, які паліў «Казбек», карыстаўся жаночай парфумай?..

Таксама ў вопісе (№ 78): разорванный носовой платок. І яшчэ (№ 80): пуговица.

Магчыма, парваная насоўка з адарваным гузікам і не ёсць дэталі найбанальнага сюжэту. Тым не менш, ці не насамрэч, як кажуць французы: «Шукайце жанчыну». І знойдзеце ўсё.

* * *

У Купалы ёсць верш «Я бачыў, як вецер па полі гуляў...» На першы погляд здаецца ён праставатым, ды рэдактар і не прамінуў бы сёння падкрэсліць у ім сёе-тое чырвоным алоўкам. Тым не менш гэта верш скразнога пражывання. Апроч таго — узор архітэктонікі да падручніка «Як пішуць вершы».

«Я бачыў, як вецер па полі гуляў, зямлю ўзрываў і бярозкай хіляў, заносіў пяском сенажаткі, лагчынкі, ламаў на бярозцы жывыя галінкі.

Я бачыў, як ястраб галубку забіў, і выклеваў сэрца, і цёплу кроў піў; віхор яе пер'е і косці развеяў; галуб варкаваў, галасіў без надзеі.

Я бачыў дзяўчынку няшчасну адну, як бегла да рэчкі, нырнула ў ваду! Нагнаў вецер хвалі і след той загладзіў; на беразе вольхі шумелі аб здрадзе.

Я бачыў усё гэта й душою цярпеў, застыў смех на губах і песні не пеў, заплакаў, заліўся маркотнай слязінкай адзін над бярозкай, галубкай, дзяўчынкай».

Архітэктоніку верша, тры папярэднія страфы якога звязаны з апошняй праз тры асноўныя дэталі, што надае твору прыкметы стройнасці, поўнай завершанасці, — можна паспрабаваць накідаць схематычна, цытатамі... Але немагчыма цытатамі перадаць пераражыванне, бо гэта не дэталь верша, а сам верш з ягоным рухам ад радка да радка, ад слова да слова, ад цэзуры да цэзуры. Гэта рух крыві па артэрыі. Перарэж, перарві — і знікне пульсацыя, якая невядома скуль узнікае, а таму і не мае назвы. Іншы раз яе бездапаможна называюць словам магія.

Рух яе праз верш — удача, праз паэму — дасягненне, праз кнігу — Бог ведае што... Кніга паэзіі.

* * *

Памёр Астаф'еў. Пісьменнік, ад якога пачуў я словы пра грэх пісьменніцтва.

* * *

Пазваніў Быкаву пра Астаф'ева пагаварыць, ён закашляўся ў трубку астмай: «У мяне тэрмін да студзеня...»

Я яму: «Вы пра што?.. Вы што, Васіль Уладзіміравіч?..»

Аказалася, ён пра тое, што ў Германіі жыць яму да студзеня, а далей — невядома... Калі чэхі не паруцяцца.

* * *

Быкаў спытаў, ці памятаю я сустрэчу з Віктарам Астаф'евым у Маскве ў Цэнтральным Доме літаратара?

Я памятаў, гэта было неўзабаве пасля апошняга з'езда Саюза пісьменнікаў СССР. Тады ўсе разбіраліся, што і як рабіць з агульнай пісьменніцкай маёмасцю, завіхаліся, каб нешта ўхапіць, а збоку ад усяго ў кавярні за невялічкім столікам, да якога запрасілі мяне прысесці, Астаф'еў дапытваўся ў Быкава: ці не думае той, што пісьменніцтва — грэх? Бо пісьменнік стварае ілюзіі, падмены жыцця. І калі яны абрушваюцца, пад іх руінамі гінуць людзі, якія паверылі ў тыя ілюзіі, як у рэальнасць. А пісьменнік стварае новыя — і з гэтага жыве, дык хіба не грэх?..

Помню, як здзівіла мяне і сама гаворка, і тое, што гавораць пра гэта два, як іх называлі, акопнікі, пісьменнікі, у творчасці якіх калі чаго-небудзь і не стае, дык гэта ілюзій.

Быкаў жа адказваў, што ілюзіі — усё, што ў пісьменніка ёсць. Нічога іншага, чым і з чаго можна было б жыць, Бог не даў, дык не можа быць, каб грэх быў дадзены наўмысна...

Гэта быў адзіны выпадак, калі я чуў, каб Быкаў згадаў Бога. Як сілу, якая нешта вызначае.

І ў быкаўскай прозе, між іншым, Бога не знайсці — усё вызначаюць чалавечыя, фізічныя і псіхічныя, сілы. Разам з якімі ці супраць якіх — сілы прыроды. Ветры, сцюжы, навальніцы... А Бога няма.

* * *

Перазваніў, каб дазнацца, як чэхі пра Быкава рупяцца, Лукашуку на «Свабоду». Той сказаў, што ўсё нармальна: Гавэл за Быкава просіць...

І каго гэта Гавэлу, прэзідэнту, прасіць?.. Гэта колькі ж на такое трэба дэмакратыі?

Мы не дачакаемся...

Ды гэтага мала: Лукашук яшчэ спытаў, ці не мог бы я, альбо Якуб Лапатка, для чэшскай паліцыі з паліцыі фінскай даведку ўзяць?.. Ну, што Быкаў, пакуль тут жыў, у магазіне сардэлькі не краў.

Во гэта ўжо больш-менш па-нашаму.

Лапатка схадзіў — даведку далі. Прычым, спакойна. Не краў, аказалася.

* * *

На сметніку кантэйнеры, сярод іх — асобныя для паперы, для рэшткаў яды... Апошнія заўсёды поўныя хлеба, ён нават не лезе — столькі выкідваюць.

З вечнага голаду ў нас святая пашана да хлеба, больш ні з чаго. Я сам дагэтуль, як маці наказала, скарынку зацвілую не выкіну. Пакладу навідавоку — хай нехта выкідвае...

А што такое хлеб?.. Злак. Трава. Там, дзе ёсць што есці — хлеб амаль і не ядуць.

* * *

Паставіў кропку ў паэме «Ложак для пчалы» і патэлефанаваў у Мінск Мураўёву: як там Быкаў?..

«Прыязджайце, калі хочаце паспець развітацца...»

Прыехаў... Калі развітваліся, сказаў, не ведаючы, што казаць: «Мы яшчэ пасядзім з вамі, Васіль Уладзіміравіч, на вашым любімым валуне ў Вуасары».

«Не пасядзім, Валодзя...»

Праз пяць дзён яго не стала.

Для газеты «Народная воля» напісаў нешта накшталт некралога:

«Дзіўную даў нам Бог краіну. Усё ў ёй нібыта ёсць — у водах рыбы, у лясах звяры і птушкі, у гарадах і вёсках жыхары, якія самі сябе беларусамі называюць, а ладу беларускага, з якога само па сабе было б зразумела, нашто ўсё тут і дзеля чаго, няма і няма. І спрадвеку ў тым нехта вінаваты — то рускія, то палякі, то жыды... Толькі не мы самі, о, не! Дзесяць мільёнаў не вінаватых у тым, што жывуць у айчыне без Айчыны, на таямнічай зямлі з цьмянай, нібыта чужой, гісторыяй і замглёнай, нібыта не сваёй, будучыняй.

Але былі і ёсць людзі, якія жылі і паміралі, адчуваючы сябе ў тым вінаватымі. За сябе і за ўсіх. Бо жылі, каб жыла Айчына, былі, каб была будучыня. Якая, як вядома, пачынаецца з мінулага — але не з цьмянага і з не замглёнага. І не з чужога, а са свайго.

Менавіта па такіх людзях, па іх абрысах паціху-паціху распазнае сама ў сабе Беларусь. І, распазнаная ў сабе, распазнаецца ў свеце. Яна дадаецца імі да свету — і свет, не такі ўжо вялікі і ні на што, апроч людзей, не багаты, дадаецца імі: такімі людзьмі.

Да таго, што зрабіў для Беларусі, для гонару яе і славы Васіль Быкаў, нельга нічога дадаць, апроч бессмяроцця».

* * *

Не магу паехаць з Менску.

Быкаў трымае.

Не думаў, пакуль ён быў, што так моцна, такімі вузламі маё з ягоным знітавалася.

«Хто ён Гекубе? Хто яму Гекуба?» А вось...

Чытаю ўсё ягонае, што дома. Чаго няма, у бібліятэцы ўзяў.

Ён іншы па смерці.

Прыпавесць напісаў. «Чмель і вандроўнік». Пра вузлы і знітаванні. Пра ягонае з маім.

«...З чым прыйсці да таго, хто памірае? І ў каго заўтра дзень нараджэння. Што прынесці ў падарунак? Залаты гадзіннік?..

На рынку да вандроўніка падышла бабуля ў белым і падала суніцы на сунічніку. Маленькі букецік з чырвонымі ягадамі. "Табе гэта?.." — спытала бабуля, і вандроўнік успомніў, што аднойчы хадзіў з чмялём у суніцы. Пакуль ён шукаў па кішэнях, каб разлічыцца, грошы, бабуля павярнулася і хуценька пайшла. Вандроўнік кінуўся яе даганяць, бабуля давяла яго да крамы з кветкамі і ў кветках прапала.

Квятнярка спытала: "Вам колькі?"

Вандроўнік не ведаў, колькі... Пяць? Сем? Сто?

Квятнярка стаяла на парожку сваёй крамы, зрабіла крок уніз, аступілася і, каб не ўпасці, ухапілася за безліч руж, выхапіўшы з іх адну. Знайшла раўнавагу і не ўпала.

Вандроўнік купіў адну тую белую ружу і паехаў у шпіталь. Дарогай, каб заняць час, думаў пра тое, як хораша ўсё ён прыдумаў. З суніцамі, з ружай...

Перш чым зайсці да чмяля, вандроўнік зазірнуў да доктара. Спытаў, калі чмель памрэ...

Доктар сказаў, што, можа, сёння. А можа, дні праз тры.

— Ён баіцца? — спытаў вандроўнік.

— Усе баяцца, — адказаў доктар. — Але хто як.

Вандроўнік папрасіўся ў доктара пераседзець крыху ў яго. Падумаць, як да чмяля ўвайсці, павітацца, што сказаць... Доктар сказаў: "Ён можа памерці зараз".

На калідоры вандроўніка пераняў святар.

"Скажы яму, каб паклікаў мяне, — з мальбою папрасіў святар вандроўніка. — Скажы, бо ён не разумее..."

Вандроўнік падумаў, што чмель не можа не разумець, і сказаў святару: "Ён не можа не разумець".

— Вы даўно ў суніцы не хадзілі... — падышоў вандроўнік да ложка, на якім паміраў чмель. Той узяў сунічнік, сарваў ягаду, раскусіў — і з куточка рота пакацілася, пакідаючы след на белай бальнічнай шчацэ, на падбародку, сунічная крывінка.

— Праўда... даўно... — даўка пракаўтнуў чмель, а вандроўнік не ведаў, што рабіць з крывінкай: выціраць ці не?.. Паглядзеў на жонку чмяля, руплівую пчалу — тая займалася ружай, ставіла яе ў вазу.

— Вытрыся, — сказала пчала чмялю. Той выцерся, паклаў каля сябе сунічнік і паглядзеў на ружу.

— Колькі і чаго кожнаму трэба?.. — спытаў чмель не ў пчалы і не ў вандроўніка. І адказаў не ім. — Адно жыццё, адна смерць, адна кветка...

Усё было сказана, больш між імі не было нічога... Вандроўнік прыпадняўся, каб пацалаваць чмяля і пайсці, але чмель спыніў яго, узяўшы за руку.

— Пачакай... я не ведаю...

Вандроўнік разгубіўся, бо таксама не ведаў. Толькі здагадваўся. І яму здавалася, што чмель ведае... Павінен ведаць.

Вандроўнік глядзеў чмялю ў вочы, бачыў там смерць і не цяміў, што рабіць... Бог, які прывёў вандроўніка, падказаў: “Скажы яму, што смерці няма”.

Чмель адпусціў руку вандроўніка, усміхнуўся і сказаў:

— Дзякуй. А то там святар сядзіць і сядзіць...»

* * *

Са шпіталю, дзе ляжаў Быкаў, прафесар Мураўёў патэлефанаваў мне 22 чэрвеня ўвечары. Недзе пасля шасці. Сказаў, што ў яго праблема, якую ён не ведае, як вырашыць. І хацеў бы са мной сустрэцца, каб параіцца.

Ён прыехаў з Бараўлянаў, сустрэліся і пайшлі па горадзе...

Быкаву засталося жыць, можа, да заўтра. Ён гэта адчуў і папрасіў Мураўёва, каб яго завезлі дахаты. Бо хоча памерці ў сваім ложку.

Ува мне ўсё сцялася: «Дык завязіце, Генадзь Мікалаевіч. Я б завёз, магу зрабіць гэта з вамі».

Мураўёў сказаў, што Быкаў, адключаны ад сістэмы штучнай падтрымкі жыцця, можа памерці і хутчэй за ўсё памрэ ў машыне.

Тут была праблема... Для доктара яшчэ якая... Я спытаў: «А што Ірына Міхайлаўна?..» Мураўёў адказаў, што нічога. Ці Васіль Уладзіміравіч з ёй пра гэта не гаварыў, ці яна баіцца і таксама не ведае, якое прыняць рашэнне. Яна ж яшчэ спадзяецца...

Я сказаў Мураўёву, што, канечне, узяць такое на сябе ён не можа. А сам вырашыў паехаць і пагаварыць з Ірынай Міхайлаўнай.

Не паспеў... Па дарозе, забегшы дамоў пераапрануцца, зазірнуў да Ніла Гілевіча. Проста словам перакінуцца, бо раптам стала ўсіх шкада, а ён гаротна адзіноціўся: ягоная жонка памірала ад той жа хваробы, ад якой паміраў Быкаў. Перагаварылі, я выйшаў — і ў пад’ездзе сустрэў суседку, якая сказала, што мяне шукаюць, толькі што дамоў званілі: Васіль Уладзіміравіч памёр.

Было каля дзевяці вечара... Суседкай, якая паведаміла мне пра смерць Васіля Быкава, была пляменніца Уладзіміра Караткевіча. Можа, і няма ў тым нічога, але нешта ёсць... Асабліва, калі прачытаць ва ўспамінах Быкава, як не даваў яму Караткевіч сумаваць, суцяшаў ва ўсіх жыццёвых клопатах і казаў, што абодва яны ў кнігах сваіх будуць жыць у народзе. Дадаючы, праўда, што сам народ, калі таго не захоча, можа і не жыць.

* * *

«Ты смела ўзыйдзеш на круты памост  
І станеш перад смерцю ў поўны рост.  
Праз мутнае акно сваёй пятлі  
Зірнеш у вочы людзям...»

– напісаў Аркадзь Куляшоў у «Хамуціусе», паэме пра Кастуся Каліноўскага.

Паэма гэтая ці не лепшая ў Куляшова, таленавіта савецкага паэта. Пра тое, што паэт ён, безумоўна, таленавіты, сведчыць радок «Праз мутнае акно сваёй пятлі...» А тое, што паэт ён менавіта савецкі (аўтар знакамітага «Камсамольскага білету», які пачынаецца: «Цвёрда трымайся юнак на дапросе...»), выдае слова смела ў працытаваных радках з «Хамуціуса».

Трымацца цвёрда, паміраць смела. Інакш савецкаму паэту пісаць нельга.

* * *

Ці было Быкаву страшна паміраць?

Было. Я бачыў. Але было адчуванне (я добра яго помню), што страшней, чым яму паміраць, мне ўсведамляць, ведаць, што ён памірае.

Там, дзе смерць, чалавек натуральны. І банальны ў сваіх выявах. Я не знай-

шоў нічога лепшага, чым сказаць у дзвярах (назаўсёды, навечна між ім і сабой іх зачыняючы!): «Мы яшчэ пасядзім, Васіль Уладзіміравіч, на вашым любімым камяні ў Вуаасары...»

«Не пасядзім, Валодзя... А вось калі б неяк той камень сюды прыкаціўся...»

Я ўспомніў, як ён шчасліўся, згадваючы паўтары гады жыцця ў Фінляндыі, і зразумеў, пра што ён сказаў.

Пасля (ужо пасля пахавання) жонка (ужо ўдава) Ірына Міхайлаўна нагадала мне (яна была тады ў шпітальнай палаце) нашу размову. Тое самае пра фінскі камень Быкаў сказаў і ёй.

* * *

У часовым маім жытле, у кватэры, у якой жыву я ў Хельсінкі, вісіць на сцяне карціна, якая мне не належыць. Яе, у канцы 1999 года з Хельсінкі ад'язджаючы, разам з геаграфічнымі картамі Еўропы і Беларусі, са сцяжкамі над імі і гербам «Пагоня» пакінуў Васіль Быкаў. На карціне — зімовае дрэва, хутчэй нават заснежаны куст, і на ім чырвоныя снягіры. Яны рассыпаны на вецці так, што ніяк не злічыць, колькі іх. Адзін раз палічыш — сямнаццаць, другі — шаснаццаць, трэці — зноў сямнаццаць. Калі ў адной з тэлефонных размоў, гледзячы на карціну, я спытаў Быкава, ці заўважаў ён такое дзіва, ён адказаў, што заўважаў — і няма ў тым нічога дзіўнага: проста адзін снягір то адлятае, то вяртаецца.

* * *

З фінскім журналістам, якога мне Юкка Малінен падсеяў, еду ў Мінск. У купэ, натуральна, выпіваем. Журналіст — усю дарогу пра Лукашэнку. Мне, падпітаму, абрыдла: «Ды што ты прычапіўся! Хто ён такі! Ён яшчэ нікім быў, калі мяне ўжо кожны сабака ведаў!..»

Першае, што робіць сабака-журналіст у Мінску — уключае дыктафон і пытаецца ў хлопца з дзяўчынай, якія ідуць да ўвахода ў метро: «Вы паэта Уладзіміра Някляева ведаеце?..»

Я пахваліўся і забыўся, а ён запомніў.

У журналіста відавочны акцэнт, а да акцэнтаў беларусы адносяцца з піетэтам. Таму маладая пара хоць і спяшае, але спыняецца. У вачах дзяўчыны бачу я светлую пустату, бо з той пары, «калі мяне кожны сабака ведаў», прамінула амаль дзесяць гадоў — і ажно дрыжыкі мяне прабіраюць: «Во зараз сораму будзе!..» Але дзяўчына раптам кажа: «Дык ён памёр...»

Калі б мне раней сказалі, што памерці іншым разам бывае так хораша, я б не паверыў.

* * *

Са «Свабоды» патэлефанавалі: «Пражывіце тыдзень з намі. І напішыце, як». Пражыў і напісаў.

ТЫДЗЕНЬ.

Панядзелак, як і мінулыя суботу з нядзеляй, пачаў з перакладу інсцэніроўкі «Мёртвых душ» для Купалаўскага тэатра. Не падумаўшы, даў сябе ўгаварыць і ўзяўся за гэтую працу. Даволі складана захаваць інтанацыю, паўзы Гогаля, перанесці на сцэну рытм. Але ўсе цяжкасці кампенсуе сам Гогаль — радасцю гэткай уважлівай, пільнай, як бывае яно толькі пры перакладзе, сустрэчы з геніяльным тэкстам. А да ўсяго — Бог мой, як жа ўсё сучасна! І для Расіі, і для нас. Нібы і не мінула амаль дзвесце гадоў, і ўсе разам так і жывем мы ў губернскім горадзе N, дзе не прадыхнуць ад улады чынавенства, дзе зверху і да самага нізу махляры,

хабарнікі — і ўсе свае. А не пра сваіх Сабакевіч кажа: «Я б гэтых французаў з немцамі ўсіх павесіў...»

Азірнешся разам з Гогалем назад, паглядзіш наперад — і міжволі згадваеш словы Оскара Уайльда: «У Расіі ўсё магчыма, апроч рэформ». І яшчэ нечакана зразумееш, наколькі Плюшкін выйграе ў параўнанні з Сабакевічам, Наздровым ды іншымі. Збірае ўсё, каб не прапала, бо, што не збярэ і не схавае, тое ці раскрадзецца, ці невядома як прападзе.

А вось што піша Гогаль пра месіянскія, славянскія і розныя іншыя ўсеабдымныя і быццам бы ўсёвыратавальныя ідэі:

«У сусветным летапісе чалавецтва ёсць цэлыя стагоддзі, якія, здавалася б, выкрасліў і знішчыў, як непатрэбныя. Колькі ў свеце было блуканняў, памылак, якіх, здаецца, не зрабіла б зараз і дзіця. Якія скрыўленыя, глухія, вузкія, непраходныя, што зводзілі далёка ўбок дарогі выбірала чалавецтва ў сваім імкненні дасягнуць вечнай ісціны, у той час як перад ім увесь быў адкрыты шлях наўпрост, падобны на той, які вёў да цудоўнага храма, што ўзведзены быў, як палац для цара».

— Працуйце і ў працы багацейце, — прапануе Мікалай Васільевіч. — Вось ён — шлях да храма. Будуйцеся ўздоўж адкрытых у сусвет дарог, і не выскоквайце з крывых завулкаў, як з камянямі, з ідэямі, ад якіх у лепшым выпадку — пыл, а найчасцей — кроў.

У аўторак — асвячэнне каменя на магіле Васіля Быкава. З раніцы пад’ехаў на могілкі, каб яшчэ раз глянуць, ці ўсё даведзена да ладу. Нібыта ўсё, як мае быць. Нават Ірына Міхайлаўна, удава Быкава, якая ўшчэнт знервавалася, пакуль ставіўся камень і рабілася надмагілле, нарэшце выдыхнула з палёгкай: «Калі б Васіль сам глянуць падняўся, дык сказаў бы, што ўсё так, як трэба».

Увечары ўсё было ўрачыста-ўзнёсла. І ўрачыста-ціха, хоць процьма прыйшло на могілкі людзей... Чыталіся малітвы, гарэлі свечкі, казаліся словы... Адзін за адным ускладвалі кветкі паслы ўсіх краін... Я глядзеў, слухаў і ніяк не мог даць веры, што ўсё гэта насамрэч сталася, адбылося, спраўдзілася. Але ж спраўдзілася, адбылося, і, як мне здалося, нарэшце ўсе пачалі патрохі разумець, што адбылося і спраўдзілася. Рыгор Барадулін, які амаль да апошняга быў супраць таго, каб на быкаўскай магіле стаяў фінскі камень, прачытаў на могілках вершы пра той самы камень, а пад ноч пазваніў мне і сказаў, што супраць быў дарма... Трэба ведаць Барадуліна, каб зразумець, што значыць такое прызнанне.

З могілак паехалі да Ірыны Міхайлаўны на вячэру. Пад гэты час інфармацыя пра ўсталяванне і асвячэнне каменя-помніка, ахвяраванага беларускаму пісьменніку сталіцай Фінляндыі, прайшла ці ні па ўсіх інфармацыйных каналах, і калі Ірыне Міхайлаўне няспынна пачалі званіць з Амерыкі і з Канады, з Германіі і Аўстраліі, фінскі пасол Ціма Лахелма папрасіў слова ў застоллі і сказаў: «Я вось што зразумеў... Я хоць і паўнамоцны, і надзвычайны, але я ўсяго толькі пасол, якіх у свеце сотні і тысячы, а Васіль Быкаў — адзін-адзіны. І якраз ён сёння самы паўнамоцны і самы надзвычайны пасол Беларусі».

Што і трэба было, сярод іншага, давесці.

У сераду з’ездзіў на радзіму ў Крэва. Быкаўскім каменем займаўся я амаль паўтары гады, што каштавала немалых нерваў, якія ўчора напяліся да звону — і трэба было напружанне зняць. А ў мяне ў такіх выпадках паратунак звыклы: хутчэй да крэўскіх пагоркаў, да замка, да Юравай гары. Да крэўных магіл, дзе ўсё вяду з бацькамі і дзядамі гаворку пра тое, як жыць на белым свеце, пакуль яшчэ не час паміраць... Пасля ўзбіраюся на Юраву гару і гляджу, і гляджу на Крэва. Хоць снег, хоць дождж, хоць завея, хоць туман...

Сцены Крэўскага замка разбураюцца няўмольна. Не толькі часам, дажджом і

ветрам, але і людзьмі, якія расцягваюць іх па каменьчыку. А тут жа гістарычны вузел Беларусі, гэта святыя сцены. Не лядовы палац. Іх хоць бы ўмацаваць як след, закансерваваць, паставіць вакол нейкую агароджу, прызначыць чалавека, які б сачыў, даглядаў...

Гадоў восем таму разам з Уладзімірам Гілепам, тагачасным намеснікам міністра культуры, мы паспрабалі стварыць для ўратавання і рэстаўрацыі замка фонд «Крэва». Склікалі ў Крэве навуковую канферэнцыю, запрасілі палякаў, літоўцаў... І пераканалі ўсіх, што не час разбірацца, польская, літоўская ці беларуская гісторыя — Крэўскі замак. Бо яна агульная для ўсіх нас, і трэба разам замак ратаваць, з чым усе згадзіліся, сталі збіраць сродкі, але тут пачаліся мае праблемы з уладай — і фонд нават не зарэгістравалі. Праз што да гэтага часу я адчуваю сябе нібы вінаватым. Ні праз што болей, а праз гэта адчуваю. Асабліва тады, калі нервы напінаюцца да мяжы трывання — і кідаюся ў Крэва ратавацца.

У чацвер з паўдня прабыў у майстэрні мастака Аляксея Марачкіна. Я наогул люблю бываць у мастакоў, з імі добра моўчкі выпіваць, яны не такія балбатуны, як паэты. Але гэтым разам якраз не столькі выпівалі, колькі гаварылі. Летам разам з мастакамі я быў на пленэры на радзіме Быкава ў Бычках. Дзясяткі тры было мастакоў, якія багата чаго намалявалі, пейзажаў, партрэтаў, і я кажу: «Ну і добра!», а Марачкін пытаецца: «Ну і што?..» У тым сэнсе пытаецца, што трэба ж з гэтым нешта рабіць: выставу наладзіць, выдаць альбом. І сядзім мы, паэт з мастаком, і не выпіваем, і не малюем, і вершы не чытаем, а думаем ды гадаем, дзе на альбом той грошы ўзяць. Каб да таго сапраўднага, дрыготкага, высокага, што адбылося ў быкаўскіх Бычках, дакрануліся яшчэ нечыя душы... Каб асвяціліся...

Я не ведаю, якой павінна быць паслясавецкая эканоміка. Магчыма, такой, якая яна ёсць. І шмат чаго яшчэ я не ведаю, апроч аднаго: любая эканоміка з любым матэрыяльным узроўнем жыцця без культуры ні для чаго. Бо ні для чаго без культуры сам чалавек, бо толькі вера і мастацтва могуць падказаць яму, навошта ён з'явіўся, які сэнс існавання ягонага ў свеце? Без адказаў на гэтыя пытанні, ці хоць бы без спробы адказаў на іх, чалавек не ёсць чалавек. Толькі наўрад ці гэта зразумець тым, хто ніколі такімі пытаннямі не задаваўся, каму яны і не сніліся. Хто не бычыў і бачыць не хоча, як разбураюцца сцены, за якімі мы, як людзі, як беларусы, можам выжыць, уратавацца, хто не чуў і чуць не хоча, як са сцен зрываюцца, падаюць і коцяцца святыя камяні.

Развіталіся мы з Аляксеем, выпіўшы за тое, што ў нас ёсць Быкаў, і адарыўшы адзін аднаго: я яго — кнігай, ён мяне — карцінай. З тым і будзем жыць.

У пятніцу вярнуўся да перакладу «Мёртвых душ».

* * *

На Дзяды, 2 лістапада, асвяцілі надмагілле Быкава.

Нельга сказаць, каб ці яму, ці мне бракавала фантазіі. Але хіба абодва мы маглі ўявіць, што кропкаю ў нашых адносінах стане гранітны валун, прывезены мной на ягоную магілу з Фінляндыі?

Колькі ўсяго пад гэтым каменем...
А над каменем сказаў вось што:

«Сёння мы сабраліся тут, прыехаўшы хто зблізку, хто здалёку, каб у дзень памяці продкаў ушанаваць памяць Васіля Быкава, асвяціць надмагільны камень — і тым самым дарэшты выканаць апошнюю волю Быкава.

Што ў ёй, у гэтай волі? Чаму не беларускі камень на магіле аднаго з найгодных сыноў Беларусі, а гранітны валун з Фінляндыі, дзе пражыў Быкаў зусім

нядоўга?.. Чаму менавіта так, а не інакш выявіў сваю апошнюю волю чалавек, які ніколі і нічога не вырашаў выпадкова?.. Кожны пра тое можа меркаваць пасвойму. Быкаў пакінуў нам і нашым нашчадкам геніяльную загадку, па смерці напісаную прыпавесць, легенду з назваю “Быкаўскі камень”, твор з глыбіннай метафарай і сюжэтам, які ў будучыні будзе поўніцца самымі рознымі здагадкамі, будзе працягвацца, дапісвацца ў самых розных варыянтах. Лёс пісьменніка, такога пісьменніка, як Быкаў, не сканчаецца на мяжы фізічнага сыходу і доўжыцца не толькі ў каардынатах зямных, але і ў каардынатах нябёсных. Менавіта там, дзе ўсе легенды і ўсе загадкі.

Лёс Васіля Быкава непарыўна знітаваны з лёсам Беларусі. Яны — адно ў адным. Шаснаццаць год таму, якраз на Дзяды, адсюль, ад Усходніх могілкаў шляхам на Курапаты пачаўся рух нашага новага нацыянальнага Адраджэння. Зараз гэты рух нібыта прытух, але так прытухае касцёр, калі ў ім згараюць трэскі, кінутыя на распалку. Потым прыходзіць новы кастравы, разварушвае прысак, дзе тлее агонь, падкідвае дровы — і зноў шугаюць да неба іскры, падобныя на зоркі. На святыя зоркі нашай надзеі, нашай мары пра Беларусь, адным з сімвалаў якой быў і застанецца Васіль Быкаў. Сімвалам яе нескаронай волі, нязломнага духу. Яе глыбокай загадкай і высокай легендай.

Праз надмагільны камень, які нібы вырас з зямлі, лёс Васіля Быкава назаўсёды застанецца зрослым з зямлёй Фінляндыі. На камені надпіс: “Васілю Быкаву ад горада Хельсінкі”. Прыкладу, каб надмагілле пісьменніку ахвяравалася сталічным горадам іншай дзяржавы, не было ў гісторыі літаратуры. Не толькі беларускай, але і сусветнай. І я дзякую фінам, якія ацанілі маштаб асобы і таленту Васіля Быкава, зразумелі сэнс, закладзены ў апошняй быкаўскай волі. Волі, скіраванай у будучыню».

* * *

Зрок слабее... На вачах маіх многае згарэла і шмат хто пагас.

І што?..

А нічога. Як кажуць японцы: колькі ні глядзі, а таго, чаго нельга ўбачыць, не ўбачыш.

* * *

Не менш за адчуванне перамог, здабыткаў, здзяйсненняў, нацыі, каб яна ўсведамляла сябе нацыяй, неабходнае адчуванне страт. У адчуваннях страт нацыя яднаецца, мацуе і гартуе дух.

Каб нешта страціць — трэба нешта мець. У адчуваннях страт нацыя самастварaецца.

Памятаючы, як глыбінна адчула Беларусь страту Васіля Быкава, цяперашняя антынацыянальная ўлада не дазволіла Беларусі гэтаксама адчуць страту Янкі Брыля. Улада замаўчала нашую нацыянальную страту. Калі нічога не страчана — дык нічога і не было.

Мы развітваемся з Янкам Брылём, разумеючы, што ён застаецца назаўсёды.

Што найістотнае пакінуў па сабе Янка Брыль? Мяркую, што гэта — чысціня стылю. Як у літаратуры, так і ў жыцці.

Брыль і ёсць стыль. Цалкам беларускі. І ў гэтым ён цалкам апраўдаў Богам дадзены лёс.

* * *

Прыдумаўся эпізод для аповесці «Дзень нямецкай арміі», галоўныя героі якой Пазняк (старшыня Сойму БНР) і Лукашэнка (прэзідэнт БНР і старшыня нацыянальна-дэмакратычнай партыі).

«Пазняк біўся за тое, каб не было на версе ўлады чалавека, якога раздражняе ў Беларусі беларускае, на што і рабіў ён акцэнт на мінулых прэзідэнцкіх выбарах – і зрабіў памылку. Чым больш распавядаў ён пра антынацыянальнае ў заядлым лідэры нацдэмаў, даводзіў, што той не можа быць беларускім прэзідэнтам, тым больш гэта выклікала цікаўнасці да ягонага саперніка, дадавала яму папулярнасці. Асабліва пасля таго, як Лукашэнка на Буйніцкім полі пад Магілёвам, у літаральным сэнсе ў чыстым полі пад чыстым небым склікаў сход нацдэмаў, і людзей на тым полі было, як травы, і Пазняк ганаровым госцем на партыйны з'езд з'явіўся, бо не мог адмовіцца ад запрашэння, інакш Лукашэнка не прамінуў бы звінаваціць яго ў непавазе да партыі, якая здабыла для Беларусі волю і незалежнасць, і яны ўдвух, два кандыдаты ў прэзідэнты, селі ў чыстым полі за стол, засланы бел-чырвона-белым, як сцяг, абрусам, на якім чамусьці ляжала лапата, і Лукашэнка ўстаў і нечакана спытаў ва ўсіх, ці даваць Пазняку слова, калі, па-першае, усе не аднойчы чулі, што спікер Сойму пра яго, старшыню нацыянал-дэмакратычнай партыі, распавядае, а, па-другое, словы — пустое, калі няма за імі дзеянняў, учынкаў... і тут Лукашэнка ветліва папрасіў ганаровага госця падняцца, і двое бамбізаў, падобных на далакопаў, аднеслі стол, які, аказалася, стаяў на дошках, што накрывалі яміну, магілу... і над той магілай Лукашэнка пачаў клясціся ў любові да крэўнай зямлі, у святой вернасці Беларусі і яе народу, а калі, маўляў, хоць слова з таго, што выдумляе пра яго Пазняк, праўда, дык ён, Алесь Лукашэнка, гатовы есці зямлю!.. і вось, калі ласка, лапата, бо такога злыдня, якім Пазняк яго малюе, такога ворага Беларусі жывым пакідаць нельга, ён бы ні за што не пакінуў!.. і, ткнуўшы ў рукі Пазняку лапату, Лукашэнка скочыў у магілу, лёг там, тэлекамера паказвала на ўсю краіну, як ён глядзеў, нібы замучаны святы, у васільковыя беларускія нябёсы, а Пазняк стаяў над ім з лапатай, вар'яцеючы, не ведаючы, што рабіць: не скідваць жа яму, хрысціяніну, магільную зямлю на жывога чалавека...»

Эпізод прыдумаўся, але ён нібыта з іншага тэксту, не з той аповесці, якую хацеў напісаць, і цяпер не ведаю ні таго, што рабіць з гэтым эпізодам, ні таго, што рабіць з той аповесцю...

Хіба ўзяць у Пазняка лапату і закапаць?

* * *

Паўліна Мядзёлка паказвае на допыце ў ДПУ (5.08.1930):

«Кола людзей, з якім я сутыкалася ў перыяд 1925-1926 гг., пад канец 1926 г. разбівалася на дзве групы (пазней была і трэцяя група). Да першай групы, якую жартам называлі беларускай арыстакратыяй, адносіліся Доўнар-Запольскі, Краскоўскія, Ермаковічы, Цвікевічы, Аляксандр і Іван Смолічы. Другая група, якая з першай падтрымлівала толькі ветлівае знаёмства, — Некрашэвічы, Купала, Грамыкі, Жылуновічы, Коласы, пазней Ластоўскія.

У Купалы бывалі пісьменнікі-"полымеўцы". Заходзілі іншым разам (не асабліва часта) Прышчэпаў і Чарот, прыходзілі туды, галоўным чынам, піць. У пісьменніцкім асяроддзі, асабліва моладзі, квітнела ў той час багемшчына. З Купалам і яго жонкай я сябравала з 1909 г. Нашы ўзаемаадносіны амаль сваяцкія. Ні ад Купалы, ні ад каго б там ні было я не чула пра існаванне якой-небудзь арганізацыі. Наадварот, часта чула размовы пра тое, што беларусы не ўмеюць арганізавана выступаць у абарону сваіх нацыянальных інтарэсаў, што няма яднання, кожны дзейнічае па-свойму, а таму і б'юць іх па аднаму... Ставіліся ў прыклад украінцы, якія ўмеюць адстойваць свае нацыянальна-культурныя інтарэсы...»

Прамінула амаль стагоддзе — і што змянілася? Як не ўмелі, так і не ўмеюць беларусы арганізавацца ў абарону сваіх нацыянальных інтарэсаў, і б'юць іх па аднаму — і ставяцца ў прыклад украінцы.

* * *

Цікаўнасць да беларускай гісторыі, увогуле да беларушчыны — шмат у каго ад Уладзіміра Караткевіча. А ў ім адкуль? У зрусіфікаваным (якім ён і быў да паступлення ў Кіеўскі універсітэт) юнаку з усходняй Беларусі...

Дык вось: беларуская свядомасць — аж да беларускага нацыяналізму — у Караткевічы ад нацыяналізму ўкраінскага, з якім ён сутыкнуўся ў Кіеве і быў ашаломлены тым, што гэткая з'ява ёсць. Тады, спытаўся ён у сябе самога, чаму няма яе ў Беларусі?.. Калі б не гэтае пытанне, ён, можа быць, застаўся б у Кіеве. У горадзе, які па скон любіў.

* * *

У Санкт-Пецярбургскім універсітэце, праводзячы сацыялагічнае даследванне, адно з пытанняў сфармулявалі так: «Мяжу якой рэспублікі былога СССР павінен парушыць знешні агрэсар, каб Расія ўступіла ў вайну?» Усе, хто апытваўся, адказалі: мяжу Беларусі. Ні рэспублікі Закаўказзя і Сярэдняй Азіі, ні нават Украіна ў адказах не прысутнічалі.

Што з гэтага вынікае? Вынікаюць братэрскія пачуцці?.. Магчыма, што й яны. Не без таго. Але ў значна большай ступені тут – братэрская свядомасць. Яна настолькі братэрская, што ў ёй ніяк не падзяляюцца Беларусь і Расія. Здаўна, з часу заходніх паходаў Суворава ў братэрскай свядомасці ўсё руска-беларускае ўяўлялася і ўяўляецца цэласным. Ва ўсім – у тым ліку і ў тэрыторыі, падзеленай па недарэчнасці. Часова.

* * *

Столькі сніцца ўсяго і ўсялякага, што варта было б неяк снам аддзячыць. Кнігу напісаць: «Неадплатныя сны».

* * *

Фраза для нечага: «Развялі тысячу кралёў — і ўсе патрыёты! А здохнуць як кралі...»

* * *

Найболей баіцца, каб яго не сурочылі, дзяцел — стукае і стукае па дрэве.

* * *

Чым пазней правяраеш латарэйны білет, тым даўжэй здаецца, што ты выйграў.

* * *

Надзея — рэч ненадзейная.

* * *

Ён з'явіўся на свет, каб яго перайначыць, але трохі не ў час нарадзіўся: у свеце адбыліся якраз сякія-такія перамены — і болей аніякіх перамен ніхто не хацеў.

* * *

Сюжэт.

Жыў чалавек... і ўсё, на што рашыўся, — аднойчы ў адказ на знявагу сарваў, кінуў, пабіў, растаптаў перад крыўдзіцелем *свае* акуляры... і, калі памёр, на чырвонай аксамітавай падушачцы, на якіх папярэдзе нябожчыка ягоныя ўзнагароды звычайна нясуць, — пранеслі гэтыя пабітыя акуляры.

* * *

Жыццё чалавечае — сямейнае, суседскае. А не заводскае, калгаснае... Ці не саюзапісьменніцкае — паэтычнае там, празаічнае, грамадска-палітычнае...

Дзякуй Богу, я зразумеў гэта раней, чым настала невыносная пара высвятлення адносін.

* * *

Пушкін казаў: «Яшчэ павесялімся», а бабця казала: «Сёння — як ёсць, а заўтра — бліны».

* * *

Ён ненавідзеў усіх: найбольш гэтых, але не менш і тых.

* * *

Інтэлектуал да маргінала адносіцца з пагардаю, з надуманым пачуццём, а маргінал да інтэлектуала — з нянавісцю. Маргінал натуральны — і пачуццё ў яго натуральнае.

* * *

Адна з самых небяспечных хвароб — былая веліч.

* * *

Дыялог для нечага.

— Праз тое, што ёсць семіты, ёсць антысеміты. Так?.. Калі ж ёсць семіты і антысеміты, дык павінны быць...

— Ну-ну... Хто?

— А хто яго ведае!.. Праз тое, што ёсць семіты і антысеміты, няма шмат чаго іншага, што павінна было б быць.

* * *

Пра дзіця можна сказаць: «Цела малое, а душа ж уся». Даўно гэта нашу — і нікуды не ўстаўляецца. Мусіць, дастатковае само па сабе.

* * *

Ён любіў слухаць музыку, лежачы... Так слухаў і ў труне.

* * *

Захапляемся: як слаўна ўсё, Госпадзе, наладзіў ты ў свеце!.. І не адчуваем: як?

Вось для каго граюць на пахаванні? Хіба для нябожчыка, які не чуе?.. Не. Значыць, граюць для жывых. Тады чаму гэтак сумна?.. Гэта ж радасць: ён ужо там, а мы яшчэ тут!

Жыццё, уладкаванае людзьмі, якраз і не дае адчуць яго так, як яно ўладкаванае Богам.

* * *

Сыс прычапіўся: «Аддай мне тэлевізар! Ты ўсё адно яго не ўключаеш, а я футбол пабачу...»

Аддаў яму тэлевізар.

Праз пару дзён звоніць: «Ты нашто мне даў тэлевізар такі гаўняны! Я лёг глядзець, а нашы прайгралі!»

Пытаюся (бо размова пра чэмпіянат Еўропы, дзе беларусаў не было): «Якія нашы?»

«Рускія!»

Во табе і нацыяналіст. «У расейцаў шаблі касыя, у расейцаў вочы Батыя...» І гэтакі нацыяналізм доўжыцца ў Беларусі ўжо больш за тры стагоддзі. Ад Трынаццацігадовай вайны, у якой нашы (ужо і не ўцяміць, якія?) прайгралі. У чым паспрыялі таксама нашы: украінскія казакі, якія выступілі супраць Вялікага княства Літоўскага на баку маскоўскага цара. І ў іх таксама былі «шаблі касыя».

Скрозь нашы — і ўсе нашы прайграюць.

* * *

Цікава, што ў Чэхава знакамітае «І на нашай вуліцы будзе свята!» кажа — і тым самым выказвае непахіснае перакананне ва ўсталяванні справядлівасці ў чалавечым свеце — Іван Дзмітрыевіч Громаў, сталы прабывальнік палаты № 6, вар'ят... ды яшчэ мужчына 33 гадоў.

* * *

Доктар Андрэй Яфімавіч Рагін, апынуўшыся ў палаце № 6 не як доктар, а як прабывальнік, заўважыў, што «і псіхічна здаровыя людзі носяць ордэны».

«А неўраджаі ў нас праз тое, што асушылі пінскія балоты», — сцвярджаў паштмайстар Міхаіл Авяр'янавіч...

За савецкім часам пісьменнікаў, каб спасцігалі жыццё, з году ў год бралі на выязныя партыйна-гаспадарчыя нарады, далучалі... Неяк паехалі на Палессе. Паапраналі белыя халаты, пайшлі на ферму. Па ўсёй яе даўжыні за партыйна-гаспадарчым актывам, які вядзе і накіроўвае Пётр Машэраў, тагачасны начальнік краіны, ідзём сабе... Ферма як ферма: справа каровы, злева каровы... Незразумела, што з імі партыйна-гаспадарчаму актыву рабіць? Раптам Машэраў нахіляецца, зазірае адной карове пад бруха, задуменна — невядома з чаго — ківае галавой і далей ідзе. І следам за ім увесь актыў — па чарзе, як адзін чалавек, — давай зазіраць той карове пад бруха і задуменна ківаць галавой. Карова з такой пільнай увагі высокіх гасцей нават зніякавела...

Потым быў абед, на якім Аляксандру Кузьміну, трэцяму пасля Машэрава начальніку, былому авіяштурману і някепскаму чалавеку, я прачытаў з нагоды ўбачанага чатыры радкі: «Сознанье вспыхнуло багрово, седые опалив виски: те, у кого соски, — коровы! А у кого х... — быки!»

Кузьмін, як і ўсе астатнія на абедзе, дзе не шкадавалі наліваць, быў трохі нападпітку — і яму спадабалася. Ён падвёў мяне да Машэрава і сказаў: «Прачытай яшчэ раз». Ну, яшчэ дык яшчэ... Толькі перадапошняе — перад быкамі — слова на гэты раз у мяне не вымавілася, я паказаў яго адпаведным жэстам...

Машэрава вершы не кранулі, але ён зачапіўся за іх і ўдаўся са мной у выхаваўчую гаворку. Пачаў з таго, што вось пісьменнікі, маўляў, супраць меліярацыі, а асушэнне Палесся («каўтуна, — як ён сказаў, — на галаве Беларусі») — гэта подзвіг. Пасля тлумачыў, якія тут чакаюцца сельскагаспадарчыя дасягненні, даводзіў, што былыя балоты пракормяць увесь народ, — ну і гэтак далей. Карацей, задача пісьменнікаў — адлюстроўваць і заклікаць...

Мне не здалося, што ён катэгарычна перакананы ў тым, што тлумачыць і даводзіць, інакш бы не тлумачыў і не даводзіў — хто я для яго?.. Тут і згадаў я чэхаўскага паштмайстра і нібыта жартам паўтарыў ягоную фразу.

Машэраў, як кажуць, не ўехаў. Ён раптам крыўдануў. Але, дзякуй богу, не на мяне, на Чэхава.

«Лухта! — сказаў ён (сказаўшы абсалютную праўду). — Мы разбіраліся з той меліярацыяй, каля двух працэнтаў толькі было асушана. І палякі ў 1930-я трохі падсушылі. Ніхто да нас за Палессе ўсур'ёз не браўся — мы першыя ўзяліся!..»

Машэраў за меліярацыю Палесся меў ордэн. Што ж, «і псіхічна здаровыя людзі носяць ордэны».

* * *

Мікалай Іванавіч Грэч, пішучы ўспаміны пра Фадзея Булгарына, якога лічыў, натуральна, палякам, а не нейкім там беларусам, згадвае словы Фрыдрыха II пра палякаў: «Няма такой подласці, на якую б не пайшоў паляк, каб займець сто чырвонцаў, якія ён потым выкіне ў акно».

* * *

«Пры пыльнай дарозе шумяць палыны,
Вясёлыя плачуць наводдаль каліны...»

Наўрад ці хто ўгадае, чые гэта вершы? Бо гэта проза Кузьмы Чорнага. Апошні сказ апавядання «На пыльнай дарозе». Бліскучая проза.

А вось ягоная ж проза з паказанняў у ДПУ (28.10.1938):

«Я упал бы к ногам моей дочурки с воплем человека, который с презрением к своему прошлому вырвал всю нечисть из своей души: "Доченька моя,Ируська, радость моя до самого последнего моего дня, прости меня во имя того, что ты с самого дня своего рождения уже советский человек... Как я в эти дни перелома всей своей жизни ненавижу и проклинаю всех этих Янок Купал, Якубов Колосов, Бедуль, Дубовок и всех прочих, которые, как черти душу, встретили меня когда-то во время моей молодости и направили меня на гибельную дорогу...»

Не дай Бог, канечне, апынуцца ў тым часе на ягоным месцы... І ўсё ж не падобна, што гэта напісана толькі для следчага. Зрэшты, як бы там ні было — выключны тэкст. Стылёва — гэта Гогаль пад фінал «Мёртвых душ». Маналог Чычыкава з ягонымі праклёнамі ўсяму і ўсім.

Пісьменнік ва ўсім і ўсюды — пісьменнік.

Па натуры Чорны аніякі не змагар — і не дзіва, што за кратамі яго зламалі. Выдатна ведаючы, дарэчы, каго ламаюць. «Романовский, — піша галоўны тагачасны гэбіст Л. Цанава, — как белорусский писатель очень крупный и представляет большую ценность».

Добра, і што?... «Считаю, — піша далей "літаратуразнаўца" Л. Цанава, — что освобождение Романовского из-под ареста и использование его по вскрытию и разоблачению... не повлечет никакого подозрения».

Гэбіст ва ўсім і ўсюды — гэбіст.

* * *

1 лістапада 1937 быў арыштаваны і ў снежні ўжо расстраляны мастак Раман Семашкевіч, адзін з самых таленавітых беларускіх мастакоў, мастак з прадчуваннем...

Час, рэпрэсіі — гэта вядома. Але дзе ягоныя карціны?.. Яны ж, як і рукапісы арыштаваных пісьменнікаў, апісваліся і забіраліся «канторай». Дык дзе яны?..

Дзе карціны ўсіх астатніх арыштаваных мастакоў? Хай іх не так многа, праўдзейных сяброў Саюза мастакоў быў у той час нейкі тузін, рэпрэсаваныя былі адзінкі... І ўсё ж няхай дзясяткі, няхай адзінкі — дзе?

Няма адказу... Застаецца ўявіць «канторшчыка» на пенсіі, які дыктуе мемуары пра сваё слаўнае жыццё, цалкам адданае высокаму служэнню Радзіме. А ў ягоным пакоі вісіць над канапай карціна Рамана Семашкевіча.

* * *

У 1935 годзе знайшлі ў лагеры ўдаву Калчака і прывялі яе да Сталіна. І была

ў іх вячэра з шампанскім. А перад тым правезлі ўдаву па ўсіх вялікіх будоўлях сацыялізму — для ўражання. Сталін выказвае ў час вячэры спачуванні ўдаве, шкадуе, што расстралялі Калчака — вялікага вучонага. «Але такая, — кажа, — логіка барацьбы. Калі б я патрапіў яму ў рукі, ён мяне таксама б не пашкадаваў».

Удава згаджаецца, што так, наўрад ці...

«Але жыццё не канчаецца, — доўжыць Сталін. — Вы бачылі, якія мы распачалі будоўлі! Дык ці не маглі б вы, як удава такага чалавека, выступіць у падтрымку не смерці, а жыцця, у патрымку развіцця нашай новай краіны?..»

«Я бачыла ў лагеры, — адказвае ўдава, — краіну зусім іншую. Краіну самых таленавітых людзей, кінутых вамі без аніякай іх віны за калючы дрот. І я бачыла, як іх зневажаюць, як над імі здзекваюцца... Таму стаць па ваш бок, нават разумеючы логіку барацьбы, не магу. Апроч таго, для гэтага мне трэба было б хоць нешта ў Сталіне паважаць. У Леніне я паважала ворага, а ў вас — не».

Сталін устаў з шампанскім, узняў бакал:

«За вас... Есть еще женщины в русских селеньях».

І ўдаву адправілі «в селенье». На пасяленне.

Зноў яе знайшлі ў 1956 годзе і прывезлі ўжо да Хрушчова — у сувязі з пачаткам палітычных рэабілітацый. Хрушчова яна гэтак уразіла, што ён загадаў, каб ёй прызначылі самую вялікую пенсію, якая існавала на той час у СССР. Такой пенсіяй аказалася пенсія старога бальшавіка, некалі прыдуманая Сталіным. Менавіта тую пенсію старога бальшавіка па скон жыцця і атрымлівала ўдава Калчака — ворага ўсіх бальшавікоў.

* * *

Знайшоў даўні запіс — не помню ўжо, скуль яго ўзяў:

«Пачалі варушыць архівы КДБ і знайшлі (сярод іншага) вось што... У канцы 30-х гадоў у адной вёсцы сярод ночы знік мужык. Стары, глуханямы. Ён быў арыштаваны і расстраляны праз во гэтакі данос (цытую): "...сядзеў на ганку і па-антысавецку ўсміхаўся"».

* * *

Герой Савецкага Саюза Фёдараў, былы сакратар Чарнігаўскага абкама, на Украіне вядомы як «генерал-лейтэнант Арленка», а ў Беларусі як «генерал-лейтэнант Сяргееў», распавядае:

— У мяне пытаюць: «Ці не паедзеш партызаніць на Украіну?» — «Чаму ж не паехаць?» — «Але давядзецца скідвацца». Скідвацца — не скідваўся, скакаў з вышкі ў ваду. Думаю: «Наўрад ці страшней». Далі парашут. Ляцім у «Дугласе». Кінуўся, рвануў за колца. Штуршок. Апускаюся. Па дарозе ўстаўляю ў аўтамат дыск з патронамі. Снег па пояс. Бачу, бягуць з вінтоўкамі. «Хто такія?» — «Партызаны, мы чакаем вас!» Так я і стаў партызанам. Страшэнна цікава! Асабліва машыны ўзрываць. Ці цягнікі. Едзе... Тузанеш — ён і паляцеў...

Пасля Фёдараў дорыць Міколе Бажану нямецкі пісталет і кажа: «Вы беражыце яго, ён з фона зняты. Не помню, як таго маёра звалі, але фон, з пародзістых... Дапыталі, а потым я з ягонага ж пісталета яго і пістрэліў».

За савецкім часам ва ўсялякіх агітацыйна-пісьменніцкіх паездках, палётах і плаваннях я сустракаўся шмат з кім з гэтай «фёдараўскай» пароды людзей. Спрабаваў, як звычайна, каб зразумець — сябе паставіць на іх месца... Выходзіла, што гэта немагчыма, калі ты не з іх пароды.

Валерый Казакоў



...калі хочаш
дакрычацца да чалавека,
гавары цішэй....

# Абібокі

*Часта ўвосень, калі ідуць бясконцыя дажджы, калі нізкія, яшчэ не агідныя аблокі, чапляючыся адно за аднаго, паўзуць бясконцымі статкамі, а рэдкія прыглушаныя пробліскі сонца нечакана ўспыхваюць у мільярдах дробных і бялявых, як макавыя зерні, расінках, – раптам нараджаюцца* ***абібокі*** *– спакойныя, марудлівыя, можа, дзесьці гультаяватыя развагі аб усім і ні пра што.*

*«Абібок» азначае: гультай, сузіральнік. Мне здаецца, як бы актыўна ні жыў чалавек, ён усё адно застаецца абібокам свайго жыцця, яму заўсёды ёсць што сказаць, без надрыву, без прыспеху, сказаць, як убачылася, як падумалася. Галоўнае – не прамінуць гэты шчаслівы час.*

***

Зверху віселі прагнутыя ад нашых грахоў чорныя нябёсы. Унізе па шчыкалатку хлюпала агідная гразюка восеньскай палявой дарогі. Змрочная імжа паступова згушчалася, і толькі там, удалечыні, на захадзе, зіхцела вузкая і драпежная, як лязо нажа, стужка паміраючага заходу.

У душах, як у паўпустых пляшках, боўталася нявызначанасць. Яе алюмініевы прысмак у роце паказваў найвысокую ступень стомы. Целу не менш за душу неабходны быў адпачынак.

***

Ці патрэбна чалавеку ўлада? Наіўнае пытанне. Чалавек нараджаецца сілай улады, дадзенай мужчынам і жанчынам адно над адным. Пазней ён паступова спасцігае законы ўлады і, калі ўлада не ператвараецца ў самамэту чалавека, а раствараецца ў ім, не прыцясняе рухі і думкі, яна ў яго ёсць. Пра тое, што ёсць, як правіла, не пытаюць.

Сцеражыцеся тых, хто задае вам падобныя пытанні.

***

Ні пра што не думай. Шумяць за вокнамі дрэвы. Восень вяжа свае пярэстыя карункі. Карагоды лістоты ў бліскучай перадсмяротнай жаўцізне і чырвані павольна кружляюць у астываючых прамянях індыферэнтнага сонца. Салодкія, шчымлівыя імгненні заходу жыцця, якія вы выдатныя!

***

Раніцай штосьці гучна пстрыкае; гэта стрэлкі нябачнага будзільніка растапырыліся на лічбе сем. Ноч ліпкая, даўкая, з вечна грукатлівым за акном горадам, неахвотна паўзе за дахі суседніх дамоў. Металічны скрыгат дня, які нарадзіўся яшчэ дзесьці ў сярэдзіне ночы, усё нарастае, становіцца выразным і рэзкім. Пройдзе зусім крыху часу, і ты перастанеш чуць гэты скрыгат, зробішся яго часткай, яго маленькім, ледзь прыкметным скрыжаткам. І так заўсёды.

***

На ўтульнай лясной сцяжынцы разгулялася страшная трагедыя. Дзясятка паўтара малых рудых мурашоў спрабавалі абезрухоміць і забіць свайго вялікага чорнага субрата. Барацьба са зменным поспехам працягвалася ўжо больш за сем хвілінаў. Я так захапіўся сузіраннем гэтай баталіі, што не заўважыў, як да мяне падбегла пяцігадовая дачка. Нічога не ведаючы, яе ножка ў бліскучым памаранчавым сандаліку мякка і бестурботна ступіла на тых, хто б'юцца. Дзіця пабегла далей па нейкіх сваіх, напэўна, вельмі важных справах. На ўтаптанай зямлі засталіся сохнуць расплясканыя парэшткі.

Вечнасць для кожнага мае сваю выяву. Для мурашоў яна стала бліскучым памаранчавым сандалем.

***

Чым даўжэй жыву, тым часцей сумняваюся. Складаныя філасофскія развагі рассыпаюцца па пыльных, мала чытаных кнігах і паступова забываюцца.

Просты ўздых каханай жанчыны ператвараецца ў каскад складаных лагічных пабудоў і, у залежнасці ад адценняў гэтага ўздыху, нас кідае ў засмучэнне ці, наадварот, напаўняе душу і цела нязломнай сілай і святлом.

Я жыву, каб кожны дзень спасцігаць глыбіню гэтай прастаты.

***

Маленькія птушачкі, не ведаю, як іх завуць, раскрадалі кедравыя арэшкі, якія я запасіў для ваверкі. І рабілі яны гэта так непасрэдна, з такім вясёлым піскам і ціўкатам, што душа мая цешылася.

***

Калі я пачаў разумець, а потым амаль фізічна адчуваць боль маленькіх жыццёвых трагедый маіх дзяцей, мне стала страшна. Я зразумеў, што старэю.

***

На тваім юным дапытлівым твары адбітак чужога суму. Ты гэтага не разумееш, і таму пакутуеш, злуешся на сябе, а заадно і на ўвесь белы свет. Але, на жаль, твой свет замкнуты пакуль у сценах нашай кватэры, таму больш за ўсіх перападае нам з мамай.

***

Калі ў нас няма гадзінніка і вокны пакоя шчыльна зашторaны, мы перастаем адчуваць час, але гэта не пазбаўляе нас ад старасці.

***

У маёй дачкі ёсць любімы вецер, ён жыве ў жытнім полі, дзе наліваецца колас і буяніць жыццё. Я гэтага не ведаў, пакуль не ўбачыў іх разам на фотаздымку. Яны, абняўшыся, глядзелі на мяне яе вачыма.

***

Дзесяць гадоў узмоцненай дэмакратызацыі і павароту з храбусценнем у шыйных пазванках да прыватнай уласнасці далі свае вынікі. Чытаю сачыненні старшакласнікаў сорак пятай кемераўскай школы: «Самай ідэальнай формай кіравання з’яўляецца манархія, бо гэта аптымальная, гістарычна апраўданая форма быцця Расійскай цывілізацыі», «...у Расіі неабходна самадзяржаўе», «Можна, напрыклад, вярнуцца да таго часу, калі ў краіне было адзінаначалле», «Ёй (Расіі) патрэбен дыктатар (цар), які б трымаў уладу ў кулаку».

Думалі, што вучым аднаму, атрымалі – іншае. Ёсць пра што задумацца.

***

Зоркі глядзяць на зямлю халоднымі абыякавымі вачыма, якія ніколі не плакалі. Ім усё адно, на што глядзець. Але гэта ўяўная веліч – многія з іх ужо даўно патухлі, а іх святло – як задоўжаны погляд з фотаздымка на глянцы надмагільнага каменя.

***

Стаяў на верандзе і хвілінаў пятнаццаць слухаў скаргі дажджу. Я яго зразумеў, але толькі расчыніў рот для зваротнай споведзі, як дождж раптам гучна ўсхліпнуў і заціх. Трэці тыдзень чакаю яго вяртання, хвалююся: раптам прыйдзе не той дождж – і мы не зразумеем адзін аднаго.

***

Душа ўжо адляцела, а страх ліпкім потам яшчэ доўга блішчэў на пахаладзелым ілбе. Дзіўна, але менавіта страх пакідае нас апошнім, да чаго ж ён уеўся ў наша цела...

***

Дзікія камяні, знявечаныя ветрам і холадам лістоўніцы. На сотні кіламетраў тайга і гнюс. Падкаменная Тунгуска пра штосьці ўсхліпвае і мармыча на перакатах. Стары эвенк ведае, пра што гаворыць рака, але ён забыў рускую мову. Маўчым і п’ем чай.

***

Горная рака імчыць так шпарка, што час за ёй не паспявае. Можа таму людзі на яе берагах па-ранейшаму жывуць у каменным веку? Ім пашанцавала.

***

Галец – моцная і прыгожая рыба, якая хапае па наіўнасці сваёй любы зіхоткі прадмет, што патрапіў у бурную таймырскую рэчку. Часцей за ўсё сюды трапляюць блешні. Блешняў усё больш, а гальца ўсё менш, тое ж адбываецца і з абарыгенамі.

***

Навідавоку ва ўсіх вецер забіў некалькі дрэў, але мы гэтага не заўважылі, бо сусвет мураша, па словах Альбера Камю, адрозніваецца ад сусвету коткі.

***

На кангрэсе гуманістаў усе гаварылі пра вечныя каштоўнасці і дасягненні прагрэсу. Доўга не вытрымаў, заснуў. Прысніўся кашмар: мёртвыя судзілі мёртвых. Падсудных некалькі тысячаў – усе найвялікія навукоўцы, якія стагоддзямі рухалі сусветную навуку. Пацярпелых – мільёны мільёнаў, іх забілі плады адкрыццяў. Прачнуўся, а кангрэс працягваецца.

***

На верталёце завіслі над балотам, дзе звалілася тое, што пазней назвалі Тунгускім метэарытам. Мы прыліплі да ілюмінатараў. Унізе авальная чорная прамыіна, акаймаваная смарагдавай травой, падслепавата глядзела ў неба. Цень ад верталёта здавалася парушынкай у гэтым воку. Не ведаю, хто каго разглядваў.

***

Выйшаў на змярканні на лясную паляну і аслупянеў. Насупраць мяне стаяў здаравенны замшэлы пень, у профіль падобны да Троцкага. Не ведаю, прырода над намі жартуе ці мы навязваем ёй свае выявы, але хтосьці ж назваў гэта месца яшчэ ў сямнаццатым стагоддзі Давыдкавым борам.

***

Раніца была халоднай і пыхлівай. Сонца ўжо ашчаслівіла золатам толькі вокны верхніх паверхаў вышынных будынкаў і, здавалася, зусім не збіралася звярнуць свой погляд уніз, на азяблую за ноч зямлю. Аўтобуса доўга не было. Людзі, апранутыя ў міжсязонне, ціснуліся адзін да аднаго. Раніцы гэта не спадабалася. Павольна пагасла золата вокнаў. Хутка сцямнела.

Ты – як раніца, толькі настрой у цябе змяняецца часцей.

***

На дне шэрапясчанай катлавінкі з маленькай крыніцай, што прытулілася на цяністым схіле яра, па чарзе ўздымаліся чатыры бурунчыкі. Малюсенькія гейзеры з толькі ім вядомай перыядычнасцю выкідвалі ўгару ваду, уздымаючы смешныя слупкі рудых пясчынак. У кожнага з іх быў свой кратар, сваё жарала, сваё індывідуальнае жыццё, пазначанае на шэрым дне пульсуючымі плямамі. Крыніца была старажытнай і вяла свой радавод яшчэ з паганскіх часоў.

У дзяцінстве я часта прыходзіў сюды, клаўся на шырокую, белую ад дажджоў і сонца дошку і, падпёршы галаву рукамі, глядзеў у гэта таямнічае акенца. У вёсцы яшчэ не было святла, і гэта быў мой першы тэлевізар з чатырма праграмамі. З часам мы звыкліся адзін да аднаго, і я навучыўся вызначаць, які з бурунчыкаў ажыве ў наступную хвіліну.

ках з гэтым словам, як і з самім Львом Мікалаевічам, пакарыстацца Чэхаўскім – сведчыць ва ўспамінах Іван Бунін: “Боюсь Толстого. Ведь подумайте, ведь это он написал, что Анна сама чувствовала, видела, как у нее блестят глаза в темноте. Серьезно, я его боюсь, – говорил он, смеясь и как бы радуясь этой боязни...”

“Боюсь Толстого!.. “Так!..

*P.S.* Ага, толькі ж як тут устрымацца і ўжо нават пасля заканчэння не “кінуць каменьчык” – гэты “паўтор ад Чэхава”: “*ведь* подумайте, *ведь* это он...” Як яно – патлумачце, – у “сэнсе стылю”?..

## Дурнічкі

Гэты сухабалотныя панізоўі ўсцяж падлескаў, дзе пераважна ўкарэньваўся ўпарты ядловец, былі самым блізкім нашым дзіцячым лесам. Яны і соладка прываблівалі, і разам з тым таямніча адпалохвалі.

Прываблівалі – не-не, не адно толькі гнёздамі птушак, што сяліліся, як здавалася ім, у непрыступных ядлоўцавых хатах, а харч здабывалі на суседніх палях.

Прываблівалі найперш ягадамі. Тут было іх царства. Спачатку, ад самага поля, пачыналіся бруснічныя купіны: кожная быццам пчаліны рой вылецеў і асеў, абвіўшыся вакол маткі. І з кожнае, прымасціўшыся, нават на баку, можна было нашморгаць добрага паўкошыка ягад. Але брусніцы, ды калі яны яшчэ ўсяго толькі чырванабокія, з белым падыспадам, не надта й займалі нас: кіслоцце – аскому наб’еш умомант. От пасля зімы, з-пад снегу, – тады брусніцы – смаката!.. Чарніцы? Чарніцы былі далей, па баравінах, у лесе сапраўдным...

А вось тут, крыху ніжэй, за брусніцамі, пачыналіся і яны. Буйныя, шызаватыя, з адценнем туманнай слязы. І салодкія! Нібы мёдам налітыя... О-о, як сюды не бегчы!..

А што адпалохвала? А яшчэ адно царства – вужынае. Вужоў мы з пялёнак амаль ведалі ў твар: жоўтыя прасветлінкі на галаве, ля вачэй... І не баяліся іх – яны іншы раз і ў двор запаўзалі... А вось гэтыя – ляжыць, скруціўшыся: ад хваста да галавы, – хвост спачывае, быццам карэньчык сухі тырчыць з травы, а галава ўзвышаецца над пружыністым скруткам – цікуе, на варце стаіць. Вось тут галоўнае – не наступіць альбо рукой не падсунуцца... І таму: хто б з дзяцей ні ішоў у бок лесу, ляцела ўслед матчына пагроза-папярэджанне: “Глядзі там! – дадому мне не вяртайся, калі вужака ўкусіць!..” – гэтак у нас “вужакай” (у адрозненне ад вужа) называлі гадзюку, і казалі, што яна не “ўджаліць”, а “ўкусіць”. Ведалі ж: адзін зуб усяго, а такі, гадзіна, кусучы... Праўда, Бог бярог малых. А вось – хоць сабе і дарослыя – а не-не дый траплялі на гэты зуб. Асабліва бабулям чамусьці не шанцавала, – пэўна ж: слепаватыя ды не рухавыя...

А нам што! Нам бы хутчэй дабрацца да гэтае смакаты, што гронкамі звісае з ягадных галінак, – дурніцамі ягады ў нас называюцца. Ніхто ніколі не скажа: буякі. Толькі й чуеш: “Па дурніцы пайшлі...”, а часцей: “Пайшлі ў дурніцы...” Ды яшчэ: “Не хадзі ў дурніцы – галава балець будзе...”

Дык жа і сапраўды: не паспееш як след наласавацца, а ў галаве ўжо – каля скроняў – затукала, званочкі пайшлі... Таму і дурніцы – найменне ў ягад. І нікому ў галаву тую не прыходзіць, што віноўныя тут зусім не буякі-дурніцы, а іх трывалы і неадчэпны спадарожнік – багун. Гэта ён сваім ядавітым пахам п’яніць і дурманіць галаву. Не дай божа такога суседа...

А ягады? А ягады ўсё ж так і застаюцца дурніцамі-дурнічкамі... Успомніш – і галава светла затуманіцца...

Ды яшчэ і многаемногае прыгадаецца пры гэтым...
"Дурнічкі..." "Дурнічкі..." Салодкія і п'янкія...

## Шкадаванні...

*Замест* ***P.S.***

Ах, як шкада, як шкада, што не трапілася мне тады на вочы, калі "збіраліся" рыфмы для эсэ "Рыфма, гучная сяброўка", вось гэтая: "гул – луг", з верша Анатоля Вярцінскага "...Гудзела, гуло ў маіх вушах..." Эсэ засталося (і ўжо ў кніжцы!..) без гэтай "люстрынкі", дзе слова як бы любуецца сваім адбіткам у люстэрку... Ці, калі пакарыстацца бачаннем рыфмы Максіміліянам Валошыным (зноў жа трапіла пад гэтае *"Замест P.S."*): "танцуют слова, чтобы вспыхнуть попарно // в влюблённом созвучии", – то атрымліваецца: "гул – луг" – слова як бы таньчыць са сваім адбіткам у люстэрку. Вясёлая рыфма! – пры ўсёй яе знешняй сур'ёзнасці...

А двойчы шкада, што незаўважна "абмінуў" мяне і вершаваны цыкл Вярцінскага "Новыя рыфмы", – пра гэта як бы з дакорам нагадаў сам аўтар у паэтычным прысвячэнні "Васілю Зуёнку – аўтару эсэ-даследвання "Рыфма – гучная сяброўка"... Ах, які сюжэцік страціла эсэ!.. Адно апраўданне, што тое "даследванне", як паіменаваў Вярцінскі, усяго толькі іскрынкі чытацкіх уражанняў. А чытач гэны, пэўна, чытаў той цыкл, калі пра эсэ і не думалася... Пад час жа яго "гарбузавання" памяць здрадзіла... Шкада, шкада, – і яшчэ раз шкада!..

А люстрынка "гул – луг" успыхнула, калі я перачытваў Вярцінскага ў "кнігазбораўскім" томе з дарчым надпісам "Дарагі Васіль... і г.д."... І яшчэ гарчэй зрабілася, што не трапіла ў эсэ "летуценне пра рыфмарый", аб якім згадвае Анатоль Вярцінскі ў вершы-прысвячэнні:

Собіла ж вось у бальнічнай палаце,
парой вечаровай, на схіле гадоў,
адчуць гэтак смак рыфмасуладдзя,
смак фонікі будучых вершарадоў...

Прабач, Анатоль, "даследчыку"!.. І няхай гэтае "шкадаванне" кампенсуе хоць, пакуль што, наўздагон кніжцы, мой "агрэх"...

Аднак жа!.. Аднак – з рыфмаю, няўрымслівіцай гэтай, столькі яшчэ стрэнеш неўспадзевак, столькі яшчэ здарыцца радасных "шкадаванняў"!.. Ну вось:

Мне не трэба пуд гароху,
Толькі дзве гарошынкі.
Мне не трэба многа хлопцаў –
Лепш адзін харошанькі!

Ах, якая рыфма! – пальчыкі абліжаш: *гарошынкі – харошанькі*! – гэта з прыпеўкі-весялухі, што выдрукаваў фалькларыст Мікола Котаў у "Краязнаўчай газеце" (№36, верасень 2008).

А то яшчэ – дзіва дзівоснае, – з верша Барыса Чычыбабіна:

Крепки под утро заморозки,
под вечер сух снежок.
зато глаза мои резки
и дышится свежо...

*«Заморозки – глаза мои резки»*, – нібы пчала з кветак, збірае рыфма сугучча аж з трох слоў: з "глаза" – бярэ "за", з "мои" – "мо", і – "резки" – цалкам. І атрымліваецца цуд: *"заморозки – заморезки"*!

А Ганна Ахматава, адчуўшы ў свой час (1917 г.), што рыфма “вечер – ветер” з моднай ператвараецца ад частага паўтарэння ў банальную, “сарамліва” “схавала” яе ў радок:

Плотно заперты ворота,
Вечер черен, ветер тих,
Где веселье, где забота,
Где ты, ласковый жених?..

Рыфма “прытаілася” ў радку. Але ж затое якое алітэрацыйнае сугучча выступае ў падгалоссі! “Ве*ч*ер *ч*ерен”, “ве*т*ер *т*их”... – “задзірыстае” *“ч”* начной чарнаты і ціхае, мяккае, як на сон у калыханцы: *“т”*= *“ц”*...

Чарадзейнымі якасцямі валодае рыфма. Проста свет мяняецца разам з ёю, гэтак жа, як і з яе адсутнасцю:

«Это поют в оперетке – “Зеленый остров”, кажется.
*И вздыхают деревья,*
*Как без рифмы стихи.*
Это мне нравится...»

– прызнаваўся празаік Леанід Андрэеў Максіму Горкаму...

Вось што значыць – рыфма!..

Анатоль Трафімчык



...Пясняр змяніў гучанне сваёй ліры.
Змяніў даўно.
Прычым усведамляў гэты крок –
крок да няшчырасці...

# Хто чужаніцы?

## *Якуб Колас пра падзел Беларусі 1921 г.*

Радкі, якія сталі першай часткай назвы гэтага артыкула, напісаў Якуб Колас у сувязі з чарговай дзяльбой беларускіх зямель, якія з часу Першай сусветнай і затым савецка-польскай войнаў некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі: 18 сакавіка 1921 года, паводле Рыжскага мірнага дагавора, заходняя частка Беларусі адышла ІІ Рэчы Паспалітай, усходнія землі апынуліся пад уладай бальшавікоў, якія пад сваім пратэктаратам арганізавалі для Беларусі невялікую рэспубліку, пакінуўшы ў складзе Расіі ўсходнебеларускія тэрыторыі з гарадамі Віцебск, Смаленск, Магілёў, Гомель. Нацыянальныя паэты не засталіся ў баку ад гэтай драматычнай падзеі. Яе адназначна асудзіў шматгалосны хор беларускіх лірыкаў. Лідарам, запявалам, тут быў Янка Купала. Пра яго паэтычную рэакцыю "Дзеяслоў" пісаў сёлета ў №2 (57). Не адстаў ад свайго калегі і сябра другі атлант айчыннага мастацкага слова – Якуб Колас, які, тым не менш, мае адметную ад Купалаўскай эвалюцыю ва ўспрыманні падзелу Беларусі.

Генезіс пазіцыі паэта па гэтым пытанні ўзыходзіць да часоў сацыяльных катаклізмаў, калі праз Беларусь перакочваліся раз

за разам ваенныя навалы, змяняліся ўлады. Эмігранцкі літаратуразнаўца Ант. Адамовіч адзначае "раптоўны на той час выбух нацыяналізму ў Якуба Коласа, у дарэвалюцыйнай паэзіі якога блізу поўнасьцю адсутнічала нацыянальная ідэялёгія"[1]. Верагодна, на светапогляд сялянскага паэта (так часцей за ўсё ўспрымаўся Якуб Колас) паўплывала сноўданне па свеце: у якасці мабілізаванага ён прайшоў ваенную падрыхтоўку і нават пабываў на фронце (румынскім), цяжка захварэў, быў камісаваны і асеў у Курскай губерні. Там яго адольваюць глыбокія настальгічныя перажыванні. Да яго прыходзіць яснае ўсведамленне адсутнасці роднасці з расійскім народам. Вось што піша ён сябру Янку Купалу (арыгінал ліста на беларускай мове не выяўлены):

"С позиций пришел в Обоянь, где жила моя семья, больным человеком. Брат[о]к мой милый! Случалось тебе когда-нибудь застрять где-нибудь на железнодорожной станции, ждать поезда? Вот в таком положении чувствую я себя теперь, где бы я не находился. Все жду, когда же наступит возможность оставить эту Московщину и вновь очутиться среди своих людей. Скажу тебе, друже, татарский здесь народ. Болит моя душа по Белоруссии. Чувствуешь ли, братец, как тяжко жить на чужбине?.. Чувствую я, однако, одно: бедный, бедный наш народ! Как несправедлива его доля! И когда только дождется он просветления? Много встречал я наших виленцев, минчан, которые склоняются от востока к западу, ждут избавления ныне от Германии. Я, однако, остаюсь при своем мнении до гроба: немцы не дадут нам счастья. Немцы знают, что делают: им нужно утопить великий народ в братской крови, обессилить и обездолить его. Что же нам делать? Пробуждать в народе самосознание, ориентация должна быть на самого себя"[2].

Гэтыя перажыванні трохі пазней, у 1919 г., Якуб Колас занатоўвае ў XVIII раздзеле "Новай зямлі" "Зіма ў Парэччы":

Далёка я ад межаў родных
Сярод людзей, душой халодных
І сэрцам чэрствых.
<...>
О родны край! О край пакуты,
Нягодай цяжкаю прыгнуты!
Калі ж ты збудзеш тое гора,
Што і цяпер там, як і ўчора,
Як і даўней, цябе знішчае
І горкім смуткам авівае?
[Т. 8, с.159-160][3]

Ант. Адамовіч слушна заўважае, што пачатак гэтага раздзела дае нам "паэтаву ацэну самое перажыванае ім (Якубам Коласам – *А. Т.*) тады савецка-польскае акупацыі Беларусі як "нягоды цяжкае", "гора, што і сягоньня, як і ўчора, як і даўней яе зьнішчае", "часу вялікага разбурэньня", "зьдзеку, што чалавек – зьвер чалавеку так чыніць злосна, неўспагадна" – безь якога-небудзь вырозьнення ўва ўсім гэтым акупантаў польскіх ад савецкіх ды абодвух – ад іхных папярэднікаў гістарычных з "учора" й нат аж з "даўней" (калі каго крыху й выдзяляецца, дык якраз людзей савецка-расейскага ізаляцыйнага навакольля аўтара, і гэта – як "людзей, душой халодных і сэрцам чэрствых"...)"[4].

Ваенны і курскі перыяд Якуб Колас праз гадоў колькі назаве "паднявольным блуканнем" (падкрэслена намі – *А. Т.*), напісаўшы ў апошнім раздзеле "Новай зямлі":

...А там дарога, зноў дарога,
Разлука з краем і трывога
І паднявольнае блуканне
І гэта нуднае змаганне

За інтарэсы жывата
Ды зноў варожая пята...
[Т. 8, с.281-282]

Якраз недзе тады, у 1918 – 1919 гг., (трохі пазней за Купалу) у паэтычнай лексіцы Коласа паяўляецца онім “чужынец” – перадусім адносна “маскалёў”. Ён кажа пра “ярэм’і”, “што ім (“нашаму люду”, “дабрэйшаму ў свеце” – *А. Т.*) чужынцы з сваякамі / Уздзець маніліся даўно, / І засланялі ім вякамі / Ад свету белага вакно...” (“Я кожан год свой дзень радзінаў...”, 22.10.1918) [Т. 2, с.82]; развažае пра тое, што “час праходзіць, жыццё гіне / Ў талачэчы на чужыне / За кавалак хлеба...” (“На чужыне”, 22.10.1919) [Т. 2, с.84]. Роўна праз год у роздумах на тую ж тэматыку (традыцыйна для таго дня – завяршыўся яшчэ адзін год зямнога шляху чалавека) паэт працягвае метадычна прамаўляць:

Бо сярод чужаніц,
Неўспагадных дурніц,
Сілу марне трачу...
(*“Ну, якіх жа прыгод...”, 22.10.1920*) [Т. 2, с.87]

У кантэксце такіх перажыванняў, такога ўспрымання рэчаіснасці ўзмацненне грамадзянскіх, нават яскрава палітычных матываў у творчасці Якуба Коласа выглядае арганічным. Найбольш экспрэсіўна яны выплеснуліся ва ўступе да III раздзела паэмы “Сымон-музыка” (канец 1917 г.). Пачынае паэт з экскурсу ў мінулае:

З двух бакоў айцы дубінай
Заганялі нас у рай.
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.
І адразу пераходзіць да паралелей з сучаснасцю:
І цяпер над вамі, брацце,
Яшчэ ў сіле той раздор:
І папоўскае закляцце
І ксяндзоўскі нагавор.
[Т. 9, с.269]

Напамінаючы, што “тут сходзіліся ўсе плямёны / спорку сілаю канчаць”, згадваючы шведа, які “набытак наш паліў”, прайшоўшыся па панска-каталіцкай польскай экспансіі, паэт галоўныя эмоцыі адрасуе ў бок усходняга суседа: “маскаль тут самачынна / гвалт над намі ўтварыў, / і без жалю капытамі / конь казацкі тут ступаў”. Ад імя народа паэт заяўляе:

Толькі ж, брацце, край не згінуў,
Не пагнуўся яго стан.
І із нас душы не вынуў
Ні маскаль, ні польскі пан.
[Т. 9, с.270]

Прычым аўтар з самасцвярджэннем народа звяртаецца да канкрэтных аб’ектаў:

Гэй, суседзі, нашы брацце! (NB адзін з рэдкіх выпадкаў для падобных Коласавых кантэкстаў, калі суседзі называюцца не чужакамі ці чужынцамі, а брацціямі.)

Не згубілі мы свой шлях,
Не ўламала нас няшчасце,

Не сагнуў нас жыцця гмах.
Дык хіба ж мы праў не маем,
Сілы – шлях свой адзначаць?
І сваім уласным краем
Родны край свой называць?..
[Т. 9, с.270]

Такім рытарычным пытаннем, звернутым ужо да свайго народа, яго нацыянальнай годнасці, заканчвае паэт уступ да трэцяй часткі, яшчэ раз падкрэсліваючы нязгоду з існым становішчам Беларусі.

На гэты конт У. Конан піша: “Настаўнік Кастусь Міцкевіч жыў далёка ад роднай Беларусі. Але здалёк бачыў яе драматычнае ўзыходжанне да дзяржаўнай незалежнасці. Беларусь 25 сакавіка 1918 года абвясціла сваю незалежнасць. Пасля перажыла нямецкую, польскую, урэшце — бальшавіцкую акупацыю. Падзеі гэтыя леглі ў аснову сюжэтаў трагікамедыі Янкі Купалы “Тутэйшыя”. Заключныя раздзелы першай рэдакцыі паэмы “Сымон Музыка” — гэта рамантычнае, мастацкае ўвасабленне трагічнай незавершанасці дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны ад нанесеных ёй цяжкіх ранаў, сімвалічна пазначаных непрытомнасцю і смерцю Ганны, кашмарным сном і адчаем Сымона. Але паэт дае ім шанец на ўваскрэсенне і чарговае прабуджэнне для новага, свабоднага і творчага жыцця”[5].

“Увесь гэты згустак квінтэсенцыі нацыянальнага адраджэнства, пададзены на працягу няпоўнае сотні вершаваных радкоў, у высокім і моцным тоне нябывалага лірычнага патасу запраўды ўнікальны ў Коласа, дый наагул няшмат роўнага сабе мае ў цэлай адраджэнскай паэзіі”[6]. Згаджаючыся з гэтай цытатай Ант. Адамовіча, мусім аспрэчыць меркаванне крытыка, што быццам для нацыянальна-адраджэнскага пасажу Якуба Коласа не было матывацыі, бо, як адзначалася вышэй, папярэднія перажыванні паэта, адкрыццё Расіі як чужыны, а расіян як татараў, маскалёў (але ніяк не братоў-славян), а ў сувязі з гэтым таксама надзвычайнай моцы настальгія, сум па родных краях (гл. вершы “Гусі” (22.09.1916), “Палессе” (1916), “Ой, скажы мне, вецер вольны...” (1917), “Год за годам уцякае...” (22.10.1919) і інш.) спрычыніліся да выспявання Коласа-нацыяналіста, зварот якога да мінулага ў той час не мог не азначаць і надзённай пазіцыі паэта, пазіцыі, што была скіравана супраць гаспадарання суседзяў, чужынцаў на Беларусі. Радзіму хацеў паэт бачыць вольнай.

Савецкая цэнзура сталінскіх, сацыялагізатарскіх часоў мела тоеснае разуменне, таму, як паведамляецца ў каментарыях сучаснага Збору твораў народнага паэта, да большасці з названых тут Коласавых вершаў, яны, як правіла, былі апублікаваныя ў нацыянальнай, небальшавіцкай прэсе, а таксама ў зборніку “Водгулле” (1922), за рэдкім выключэннем у прыжыццёвыя выданні не ўваходзілі і зноў пачалі друкавацца толькі падчас “хрушчоўскай адлігі”.

* * *

Нягледзячы на тое, што беларускі народ на той час заявіў пра сваё існаванне, акрэсліў этнічныя межы, у 1921 годзе краіна была падзеленая. Між тым, палітычныя падзеі вакол і на Беларусі (Савецкай) адбываліся такія, што давалі падставу для аптымістычных заглядванняў у будучыню. У першай палове 1920-х гг. савецкая ўлада бярэ курс на беларусізацыю. Дзякуючы нэпу імкліва аднаўляецца эканоміка. Беларускае сялянства, дагэтуль рабаванае з розных бакоў прыхаднямі, урэшце адчула значную палёгку. І калі яшчэ адразу пасля падзелу беларускія паэты выказваліся вельмі востра супраць брутальнага стасоўна Беларусі акта, то паціху тая вастрыня патухае. Паказальным прыкладам з’яўляецца Коласава творчасць. У адрозненне ад Янкі Купалы, паэта метафізічных і правідэнцыялісцкіх тэндэнцый, Якуб Колас творчасцю ў асноўным адлюстроўваў хранатоп “тут і

цяпер", не ставячы свайго лірычнага героя "перад будучыняй" (назва праграмнага верша Янкі Купалы).

Адразу пасля падзелу Беларусі першая скрыпка ў "сімфоніі гневу" (назва антытаталітарысцкай п'есы В. Шашалевіча) нечакана перайшла да Якуба Коласа, які раней не прэтэндаваў на ролю трыбуна (ва ўсялякім выпадку купалаўскага маштабу). Тэму Коласавай антысавецкасці, у тым ліку ў сувязі з падзелам Беларусі, грунтоўна прааналізаваў Ант. Адамовіч, таму да яго даследаванняў будзем нярэдка звяртацца.

Канстанцін Міцкевіч, вымучаны вайной і напаўгалодным існаваннем на чужацкай Куршчыне, неўзабаве пасля падзелу вяртаецца ў Беларусь – у Мінск. Жыццё паэта наладжваецца. Але не быў бы ён народным Песняром, калі б не жыў інтарэсамі краіны. А яе тады брутальна распалавінілі, навязваючы на абедзвюх частках каланізацыйныя парадкі. І калі датуль антысаветызм Якуба Коласа быў яшчэ дастаткова аморфным (у нечым змешаным з антырасейскасцю, антымаскальскасцю), то ў 1921 годзе ён канкрэтызуецца, дзейсным каталізатарам чаго становіцца менавіта дзяльба Беларусі.

Яшчэ да пераезду на радзіму, адразу па падпісанні Рыжскага мірнага дагавора, – 23 сакавіка 1921 года Якуб Колас піша глыбока алегарычны верш "Дубы", дзе коратка ў традыцыйным для сябе іншасказальным ключы апісвае, што сталася з дубамі – сімвалам беларускага краю:

Наляцелі ж буры злыя,
Толькі ўжо не з неба:
Дзеі, засевы ліхія
Ўзгадавала глеба,

Глеба цёмная, сляпая,
Глеба злосці, гневу...
<...>
Эх, дубы, дубы! вякамі
Вы збіралі сілы,
Не звалодаў віхар з вамі,
Вас здалелі пілы.

Ашальмованы вам чолы,
Ссечаны кароны,
І, пасеўшы на верх голы,
Там крычаць вароны.
[Т. 2, с.89]

Вобраз акупаваўшых дубы варон рэмінісцыруе ранейшых Купалавых груганоў, што прыляцелі з усходу і захаду "на сяло, на чужую шкоду"[7]. Аднак такая цьмяная вобразнасць робіць складанай расшыфроўку твора (у ім тым не менш сацыялагізатарская цэнзура ўбачыла пэўную непрымальнасць, таму пасля "Водгулля" пры жыцці аўтара твор быў апублікаваны толькі адзін раз і то з купюрамі найбольш вострых момантаў).

У гэтым тэматычным рэчышчы Якуб Колас неўзабаве (20.08.1921) стварае больш ясны верш, твор з грамадзянскім пафасам – "Родныя малюнкі", у якім матыў шкадавання, эмпатыі, які пераважае ў вершы "Дубы", набывае ноты абурэння. Акрамя таго, аўтар выяўляе тых, супраць каго тое абурэнне скіравана. Працытуем найбольш яскравыя моманты верша:

Ды ляглі над краем
Хмары-навальніцы,
Рубяжоў няма ім,
Ім няма граніцы!

<...>
Ты ідзеш, бажаеш,
Повен ты надзеі,
Ды не прачуваеш,
Дзе твае зладзеі.

Наплывуць туманы
Горкае нядолі,
І куюць кайданы
Цяжкае няволі.
<...>
Кавалі другія,
А ланцуг той самы –
Песні ўсе старыя
Неаджытай гамы.
[Т. 2, с.95-96][8]

«Гэтыя апошнія Коласавы радкі пра “кавалёў другіх” бальшавіцкая крытыка сваім часам асабліва вытыкала як адно з найбольш антысавецкіх выказваньняў у цэлай беларускай літаратуры. Адылі, Колас не абмежыўся адно на гэткім мэлянхалічным агульным канстатаваньні сумнага фактычнага стану рэчаў на сваёй бацькаўшчыне па тым “устанаўленьні пралетарскай дыктатуры” (цытата з работы Л. Бэндэ – *А. Т.*) над ёй. Ад гэтай мэлянхоліі паэтавай не застаецца й знаку, калі паэта яшчэ ўніклівей углядаецца, учуваецца ды ўдумваецца ў той стан роднага краю, што вытварыўся там у выніку незадоўга перад ягоным зваротам туды праведзенага тымі-ж “кавалямі другімі” Рыскага падзелу Беларусі між Польшчай і Саветамі, які адорваў непраходнай мяжой двух сьветаў самыя родныя Коласавы мясьціны, так мілыя сэрцу ягонаму куткі маленства і юнацтва, бацькаўшчыны ў вузейшым сэньсе, дзе жылі яшчэ бліжэйшыя родзічы, у тым ліку і сама маці паэтава, ды даўныя сябры, паплечнікі й настаўнікі-правадыры ў беларушчыне, зь якімі з усімі цяпер нельга было нат пабачыцца. І тут паэта выбухае вялікім гнеўным абурэньнем ... вершу “Беларускаму люду” (1921 – *А. Т.*). ...Ізноў, як раней у “Сымону-музыку”, прыгадвае ён свайму народу пра ягоных гістарычных прыгнятальнікаў, абазначаных тутака, ізноў-ткі, у тых-жа нацыяналістычных тэрмінах, каб за гэтым, заклейнаваўшы новаўчыненны імі акт гвалту падзелам, узьняць клічам і ўвесь народ на іх»[9].

Сёння некаторыя радкі верша ўжо шырока вядомы нават масаваму чытачу. У сваім творы паэт мінімізаваў вобразнасць, але экспрэсіўнасць толькі павялічыў: за кошт клічных і рытарычных зваротаў, адпаведнага сінтаксісу, эмацыйна афарбаванай лексікі, – сродкаў, якія і раней выкарыстоўваліся Якубам Коласам, а ў гэтым творы набылі найбольшую канцэнтрацыю.

Хіба забудзем мы тыя межы,
Што правадзілі без нас?
Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы!
Помсты агонь не пагас.
Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д’яблу граніцы!..
Нашы тут гоні, бары!
<...>
Родны вы сэрцу нашаму, гмахі
Лесу, лугоў і палёў!
Досыць ўшчувалі нас паны-ляхі,
Ведаем ціск маскалёў...
[Т. 2, с.104-105]

Фактычна ў гэтым творы Якуб Колас як грамадзянін выяўляе сябе напоўніцу, не хаваючыся за далікатна лірычнымі інтанацыямі алегорый. Прычым тут паэт не абмяжоўваецца, як гэта рабіў уперад, канстатацыяй і ўздыханнямі-нараканнямі на долю беларускага народа, а адкрыта заклікае:

Люд! Праканайся: толькі мы самі –
Долі сваёй кавалі!
Годзі жа, досыць панукаць намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі!
[Т. 2, с.104]

Гучным заклікам распачынаецца лірычная кампазіцыя верша, ім жа і заканчваецца, што сведчыць пра ідэйную канцэптуальнасць Коласавага закліка, першачарговае акцэнтаванне менавіта на ім, а не на перажываннях за гаротнае жыццё беларусаў:

Люд! Вызваляйся, рві свае путы,
Новыя песні спявай!
[Т. 2, с.104]

Нешта дадаваць да наступнай аналітыкі гэтага аспекту верша Ант. Адамовіча, бадай, няма неабходнасці: “Гэтак паэта не прызнае й кліча свой народ не прызнаваць сувэрэнітэту над Беларусяй спраўцаў Рыскага падзелу яе, г. зн. бальшавікоў і Палякоў, ня робячы, як і раней, ніякага выразьненьня між гэтымі акупантамі, што для яго аднолькава “чужаніцы, цёмных дарог махляры”. Мала таго, ён кліча народ у вабедзьвюх частках падзеленага краю да адкрытага паўстаньня супраць акупантаў за вызваленьне бацькаўшчыны, задзіночаньне яе ды ўстанаўленьне поўнае незалежнасьці, “самастойнага гаспадараньня” на роду на сваёй зямлі. “Доля не прыйдзе сама... Люд, праканайся: толькі мы самі долі свае кавалі”, – выясьняе паэта ўжо не адным толькі “добрым дзецям” народу, а цэламу “люду”, – “люд, вызваляйся, рві свае путы!” – яшчэ раз падчырквае ён асноўны рэвалюцыйны мамэнт свайго заклiку на канчатку. Больш зыркага й адкрытага нацыянальна-рэвалюцыйнага й нацыяналістычна-незалежніцкага, а тым-жа часам і антысавецкага ды антыбальшавіцкага выступу годзе шукаць ува ўсёй нашай літаратуры на ўсім папярэднім адрэзку ейнага разьвіцьця”[10].

І. Багдановіч верш “Беларускаму люду” лічыць “коласаўскім тагачасным паэтычным маніфестам, дзе ён даў сваё разуменне Беларускага Шляху. Побач з матывам вызвалення ад сацыяльнага ўціску гучыць там матыў геапалітычнай незалежнасці Беларусі як ад Захаду, так і ад Усходу”[11].

Антысавецкія матывы, іншы раз з акцэнтам на тэме падзелу Беларусі ворагамі-чужаніцамі, не абмінаў Якуб Колас і пры дапісванні самага славутага свайго (дый усёй беларускай літаратуры) твора – паэмы “Новая зямля”. У перыяд 1921-1923 гг. былі створаны 17 (з усіх 30) раздзелаў “энцыклапедыі беларускага сялянства” (Алесь Адамовіч). І па назіраннях Ант. Адамовіча ў гэтых раздзелах, напісаных ужо ў Савецкай Беларусі, выпады супраць сучаснасці асабліва вострыя (трэба разумець, у параўнанні з ранейшымі, нават астрожнымі, раздзеламі): «Гэтак, у разьдзеле XVI (1922) знаходзім абураную філіпіку супраць спраўцаў Рыскага падзелу Беларусі, бяз выразьненьня сярод іх бальшавікоў ды палякаў, праўда, толькі з крыху меншай вайстрынёй і выразнасьцяй, чымся ў крыху ранейшым лірычным вершы таго-ж Коласа “Беларускаму люду”»[12]. Паэт, які адчувае сваё перабыванне пад Саветамі, як пад “варожай пятою” (выраз з апошняга раздзела “Новай зямлі”, датуемага 1922 – пачаткам 1923 гг.) [Т. 8, с.282, 328], дэкларуе, што “нявіднымі ніцямі” “моцна-моцна звязан” з “малюнкамі роднае краіны”, хоць і зараслі “пуцявіны / У гэты мілы мой куточак”:

І зараслі не палынамі,
Не крапівой, не драсянамі,
Не чаратом, не лебядою –
А беларускаю бядою.
Ды покі будзе сэрца біцца,
Яно не зможа пагадзіцца
Ні з гэтым гвалтам, ні з бядою
Над нашай роднаю зямлёю...
[Т. 8, с.142]

Паэт праклінае “вусны, рукі”, якія на “мілы край адвечнай мукі” “ланцуг кавалі / І ў твар зняважліва плявалі!” (у чым бачыцца пераклічка з кавалямі разгледжаных вышэй “Родных малюнкаў”), разам з тым выражаючы надзею,

Што хоць не мы, дык нашы дзеці
Убачаць цэльным цябе ў свеце!

У гэтых словах бачыцца і страчванне надзеі – на тое, што сам аўтар некалі ўбачыць “цэльным” родны край, вольным ад вышэй згаданых чужаніцаў-кавалёў. Аднак, як відаць, ступень рэзкасці ў раздзелах, створаных Якубам Коласам апошнімі, ніжэйшая. Верагодна, тут спрычыніўся і той фактар, што пасля лета 1922 г. у Савецкім Саюзе друкаванае слова становіцца падцэнзурным.

У сувязі з вышэй сказаным варта меркаваць, што паэма «Новая зямля» была ўзгадавана на глебе расстання аўтара з родным куточкам: зарадзілася яна ў астрозе, дзе ўзніклі пранізлівыя, глыбока лірычныя радкі, з якіх пачынаецца твор; мела працяг на Куршчыне – «рыжабародым краі» (такі вобраз прыменены ў вершы «Я кожан год свой дзень радзінаў...»); а добрая палова гэтай пярліны беларускага мастацтва слова паўстала ў Савецкай Беларусі, калі паэт быў так блізка ад малой радзімы – як рукою падаць, але наведаць «родны кут», які знаходзіўся за мяжой – у складзе ІІ Рэчы Паспалітай, тады не меў аніякай магчымасці. Такая адлегласцевая блізкасць і разам з тым такая палітычная далёкасць тым больш абвастралі настальгічныя і сыноўскія (на Стаўпеччыне засталася маці, якой паэту ўжо не наканавана было пабачыць) пачуцці лірыка. Усё гэта адпаведна і вылілася ў кангеніяльную паэму. Пры іншых абставінах (без зняволення, *доўгай дарогі дадому* і душэўнага драматызму па вяртанні на раздзертую радзіму) твора або не было б зусім, або ён быў бы кардынальна іншым.

У далейшым – у страшныя 1930-я – з мэтай перавыдаць паэму аўтар сам пераацэньвае свой твор, кажучы пра дысанансnасць яго лейтматыву эпосе [Т. 8, с.332]. Народны паэт відавочна “дыпламатнічаў” дзеля ўлагоджвання кан’юнктуры, у душы не змяняючы адносін да свайго найлепшага твора. Хаця з іншага боку, аўтар і не лгаў: каштоўнасці мастацкага твора і бальшавіцкай аксіялогіі кардынальна разыходзіліся. Але да перапісвання «Новай зямлі» справа не дайшла.

Пацвярджае верагоднасць гіпотэзы лёс паэмы «Сымон-музыка», апошняя, трэцяя рэдакцыя якой – 1925 г. – была канцэптуальна перайначана ў параўнанні з пачатковай. Найперш Якуб Колас прыбірае рэлігійныя матывы і выпады супраць расіян (знікае онім «маскаль»), перарабляе развязку на аптымістычны лад. Адзін з момантаў перапісвання твора, які меў і прамежкавы варыянт – згубленую ці скрадзеную так званую другую рэдакцыю – і сёння застаецца дарэшты нявысветленым. І гэты момант звязаны наўпрост з вяртаннем паэта да тэмы падзелу Беларусі ў 1921 г.

Ужо ў першай рэдакцыі, як падрабязней абгаворана вышэй, Якуб Колас зрабіў экскурс у гісторыю, кажучы пра «споркі сілаю» на беларускай зямлі і прыпісваючы ролю галоўнага гвалтаўніка «маскалям». У моцна змякчонай трэцяй рэдакцыі тым не менш засталіся радкі аб тым, што

З двух бакоў "айцы" дубінай
Заганялі нас у рай!
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.
І цяпер над вамі, брацце,
Яшчэ ў сіле той раздор –
І папоўскае закляцце
І ксяндзоўскі нагавор.
[Т. 9, с.81]

У новым сацыяльна-палітычным кантэксце з улікам адносін аўтара да савецка-польскага падзелу яго радзімы і адносін да савецкай улады на той час у цэлым гэты ўрывак атрымлівае інтэпрэтацыю, скіраваную супраць абодвух бакоў падзелу. Прынамсі, да такога прачытання схіляюць падкрэсленыя намі радкі, у якіх аўтар прызнаецца, што ранейшае становішча застаецца "ў сіле".

Непасрэдна тэма падзелу ўсплывае таксама ў наступных радках паэмы:

Родны край! Ты разарваны
І на захад ад мяжы
Пан пыхлівы, надзіманы
Моцна сцягвае гужы...
[Т. 9, с.82]

Гэта страфа некаторымі даследчыкамі літаратуры, а таксама малодшым сынам Песняра М. Міцкевічам, бачыцца зменена праз прыбіранне з кантэксту дзяльбы расійскага боку. М. Міцкевіч часта падкрэслівае пазіцыю бацькі стасоўна падзелу, адстойваючы бацькава аўтарства страфы, якая ўпершыню была надрукавана ў мюнхенскім выданні паэмы "Сымон-музыка". У ім Ант. Адамовіч паведамляе, што ў другой рэдакцыі (1924 г.) Якуб Колас пісаў і пра "ляхаў", і пра "маскалёў", кажучы, што "мясьціна гэтая сваім часам сталася ведамай у некаторых менскіх навучальных установах, дзе тады выкладаў сам Колас"[13].

Родны край! Ты разарваны,
Паабапал ад мяжы
Лях ліхі, Маскаль паганы
Моцна сьцягваюць гужы...[14]

Беларуская тэксталагічная навука пакуль не пагаджаецца з меркаваннем М. Міцкевіча. Гэта версія застаецца дакументальна не пацверджай і з гэтай прычыны не ўводзіцца акадэмічнымі тэкстолагамі ў навуковы ўжытак, што пакідае яшчэ адну таямніцу гісторыкам літаратуры. Хаця аб тым, што другая рэдакцыя мела хутчэй за ўсё яўны антысавецкі (ці як мінімум непажаданы для бальшавікоў) змест і, такім чынам, не задавальвала бальшавіцкіх цэнзараў, ускосна сведчыць адсутнасць чарнавікоў і Коласавых каментарыяў (калі не браць пад увагу агульныя словы, сказаныя аўтарам нібы для адчэпнага: маўляў, скралі, перарабіў і да т. п.). Выбітны коласазнавец У. Конан не абвяргае інфармацыі пра скраданне другой рэдакцыі, але і дадае: "Вядомы нам сучасны твор — гэта ўжо другі варыянт савецкай рэдакцыі. Першы варыянт гэтай рэдакцыі (1924) цэнзура вярнула аўтару на дапрацоўку — абавязковую тады самацэнзуру"[15]. Нягледзячы на вобразнасць крылатага выслоўя, варта нагадаць, што рукапісы не гараць і нейкія сляды павінны былі застацца, – за выключэннем таго выпадку, калі матэрыялы метадычна і татальна зачышчаюцца з мэтай не пакінуць аніякіх слядоў (бальшавікі часта практыкавалі такі падыход і нярэдка дасягалі мэты).

Як бачна, падчас сацыяльна-палітычных навальніц на Беларусі, пачынаючы

ад заканчэння Першай сусветнай вайны, калі краіну рвалі на кавалкі з розных бакоў імперыялісты, Якуб Колас ператвараецца з патрыёта (ад пачатку нават даволі лакальнага "роднага кута") у грамадзяніна з пазіцыямі, якія можна назваць нацыяналістычнымі (бальшавікі так і ўспрынялі іх), у выніку чаго падзел Беларусі, міралюбіва замацаваны ў Рызе 18 сакавіка 1921 г. выклікаў у паэта буру эмоцый, скіраваных супраць абодвух распарадчыкаў доляй беларускага народа і самога Канстанціна Міцкевіча. Тым не менш яшчэ да сярэдзіны 1920-х гг. у вершах Якуба Коласа заўважным становіцца працэс змены поглядаў аўтара ў бок лаяльнасці да савецкай улады, прымірэння з сацыяльна-палітычнай рэчаіснасцю. Тэма падзелу Беларусі таксама патрохі трансфармуецца ў тым жа рэчышчы. Каталізуе знікненне антысавецкіх нотак у паэзіі Песняра падазрэнне яго ў "лістападаўскай справе" (якраз у 1925 г.). Пад прэсінгам ён быў вымушаны апраўдвацца і нават пакаяцца[16].

* * *

Якуб Колас, ужо будучы народным паэтам, разумеў, кажучы словамі Купалы, "які павеяў вецер на загоны", – і "асадзіў назад". Нельга сказаць, што потым ён зусім не вытыркаўся (усё ж заступаўся за многіх, над кім завіс дамоклаў меч сталінскіх рэпрэсій[17]). Але ліра Песняра загучала ўжо на іншы – на савецкі – лад. Вернасць рэжыму Якуб Колас у адным з некалькіх пакаяльных лістоў 1930 г. абяцае давесці на справе[18]. Штопраўда, даводзіць паэт пачаў яшчэ раней, проста ўладзе было ўсё мала ды мала паэтычнай даніны. Яе патрэбна было столькі, каб зацьміць грунтоўны пласт "нацдэмаўскіх" твораў.

Тэма падзелу Беларусі з 1925 г. (калі былі адкінуты савецкія планы аб'яднання Беларусі шляхам нацыянальнага паўстання[19]) патрабавала адназначна прабальшавіцкіх інтэпрэтацый. Пэўны час на іх Якуб Колас не мог рашыцца (як і ўвогуле не мог адразу прыняць – хаця б на словах – савецкую дактрыну). Заўважны перыяд ваганняў, роздумаў, калі "*павесіў* паэт сваю музу на плоце" [Т. 2, с.115] (курсіў наш – *А. Т.*, варта звярнуць увагу на лексічную амбівалентнасць выдзеленага слова, якое можа абазначаць павешанне), перыяд двухсэнсоўнасцей і расчараванняў, звароту да перакладаў і твораў для дзяцей. То паэт, якому "свет жорстак і глух", хавае музу, а сам "спявае з другою" ("Пахаваная муза", 1925). То яго "трывожыць" "цьма", і ён задаецца пытаннем:"Калі ж ёй канец?"("Шорхае варожа", 1925). То нібыта жартам ўспыхвае надзея,

Што нават цэнзару-зладзею
Я мыслі людскасці навею,
І ён прапусціць мне паэму.
(*"Малітва беларускага пісьменніка", 1925*)

А то і выдасць, паводле асабістага азначэння, "трохі пад Крылова" байку "Свінні пад дубамі" (1926) з гучным нацыянальным лейтматывам (у кантэксце беларусізацыі, праўда, ён гучаў не так рэзка, як сёння можа падацца, аднак дысананснасць верша выявілася ўжо праз пару-тройку гадоў, калі наступілі кардынальныя змены ў савецкай унутрыпалітычнай дактрыне, названыя карэнным пераломам).

Нават у верш, прынагоджаны да пятай гадавіны часопіса "Полымя" (1926), паэт укладае свае перажыванні і жаданні адносна "загонаў, што засталіся за кардонам", заклікаючы агонь (ачышчальны сімвал) шугаць і разгарацца:

Шугні, агонь,
І цемрадзь-сон
Развей, згані ад краю ў край,
Іскрыся іскрамі, палай!

Нясі святло і тым загонам,
Што засталіся за кардонам,
Дзе брат мой стогне пад прыгонам,
І шлях яму ты асвятляй!
(*"Полымя", 1926*)

Знешне, як можа падацца, верш цалкам упісваецца ў савецкае ідэалагічнае клішэ, названае потым сацрэалізмам. Аналізуючы датаваны 1937 г. ліст М. Ісакоўскага старшыні Саюза пісьменнікаў СССР У. Стаўскаму з выкрываннем Якуба Коласа як аўтара контррэвалюцыйнага верша "Полымя", журналісты газеты "Камсамольская праўда" Л. Сяліцкая і Д. Васілеўскі прыходзяць да высновы, што расійскі паэт трапіў у аблуду і "содержание стихов – очень даже идеологически верное: поэт ждет, когда революционное «полымя» осветит путь объединения двум разлученным половинам белорусского народа"[20]. Мусім пагадзіцца толькі часткова. М. Ісакоўскі падвёў памылковыя абгрунтаванні контррэвалюцыйнасці твора. Іх з лёгкасцю і разбілі журналісты (зрэшты, яшчэ тады данос, перасланы спачатку кіраўніку кампартыі Беларусі В. Шаранговічу і ім аддадзены старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў М. Лынькову не быў пушчаны ў ход: пэўна, прытрымаў ліст новапрызначаны (з чэрвеня 1938 г. – недзе праз год пасля даносу) кіраўнік рэспублікі П. Панамарэнка, – пра што мяркуюць самі журналісты). А вось шматзначнага злучніка "і" ў чацвёртым радку з канца раней не заўважалі даследчыкі – ні сучаснікі Якуба Коласа, ні цяперашнія. Злучнік жа гэты з'яўляецца якраз ключом для прачытання верша. У кантэксце разгляданага твора "і" становіцца сінонімам "таксама" – слова, якое мае на ўвазе яшчэ адзін аднародны член сказа, які не абавязкова называецца, агучваецца ў тым сказе, аднак менавіта яно першаснае, бо на яго арыентуецца той аднародны член сказа, да якога дастасаваны злучнік "і". У выпадку з вершам Якуба Коласа "Полымя" безумоўна тым першасным аднародным членам сказа з'яўляецца Савецкая Беларусь. Такім чынам, аўтар свой заклік (тоесны Купалаўскаму "з цемры да святла") распаўсюджвае не толькі на "загоны, што засталіся за кардонам", але і на тую частку Беларусі, дзе пануе бальшавіцкая ўлада. Дакладней, наадварот: менавіта Савецкая Беларусь шляхам эліпсісу ўказваецца першай, на якой трэба развеяць "цемрадзь-сон ... ад краю ў край". А гэта – ужо несумненна антысавецкія, контррэвалюцыйныя матывы.

Да тэмы падзеленай радзімы Якуб Колас звяртаецца на пачатку 1927 г. у вершы "Братам Заходняй Беларусі". Яго ўвага, выкліканая разгромам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, абрушваецца гневам на санацыйны рэжым II Рэчы Паспалітай. Напрыканцы паэт прадракае:

Браты! Мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панах.

Такім чынам, паэт бачыць паратунак для "заходнікаў" у дыктатуры пралетарыяту, сімвалам якой з'яўляецца ўжыты ў вершы молат.

У далейшым Якуб Колас працягваў граміць паэтычным словам польскія ўлады, якія прыгнятаюць беларусаў, усё больш пры гэтым апяваючы ўлады савецкія: гэта вершы "Панам" (1927), "А. Луцкевічу" (1927), "Грамадаўцам" (1928), "Беларусі пад Польшчай" (1928), "Панская ласка" (1928), "Краіне Саветаў" (1930), "Да тыдня беларускай культуры" (1931), "Польскім катам" (1931), "Заходняй Беларусі" (1932), "З дарогі" (1936). Інтанацыі твораў самыя розныя: гэта і абвінавачванні, і праклявцці, і пагрозы, і прароцтвы, і ўслаўленні, і заклікі...

Аднак штучная настройка Коласавай ліры часам яшчэ давала збоі (у савецка-

сацыялагізатарскім разуменні). Напрыклад, верш "А. Луцкевічу" ў хуткім часе пасля напісання становіцца непраходным у друк: аб'ект прысвячэння не паддаўся савецкай прапагандзе і заставаўся праціўнікам бальшавікоў. Не дапамаглі і ідэйна "правільныя" радкі:

Налучылі край наш іншыя два лёсы:
Запалілі ўсход наш залатыя косы,

Дзе ратаі вольна падымаюць ролі,
А на захад збегла панская сваволя.

Цікава, што ў 1928 г. (калі «пачаў мацней адчувацца ціск ГПУ ў галіне літаратуры»[21]) народны паэт яшчэ змог размясціць у двухтомным зборы твораў некаторыя свае антысавецкія вершы, у тым ліку пра падзел радзімы (у першую чаргу трэба назваць "Беларускаму люду"), што варта лічыць таксама свайго роду ідэалагічнай дыверсіяй для тагачаснага кантэксту.

Былі ў Якуба Коласа і больш сур'ёзныя разыходжанні з "генеральнай лініяй партыі". Так, непадцэнзурны верш "З мінулага", напісаны 2 чэрвеня 1933 г., апублікаваны ўпершыню толькі ў найсвяжэйшым Зборы твораў. Прынцыповыя разыходжанні з метадам сацыялістычнага рэалізму ў савецкі час пакідалі твор па-за бальшавіцкім друкам.

Лірычны герой верша аддаецца ўспамінам пра лета і родныя краявіды. Знаёмая па колішніх творах Песняра алегарычнасць падказвае, наколькі цяжка і смутна лірычнаму герою.

Ды мінула лета, патускнелі блескі,
Пагубляў стары дуб залатыя фрэскі
І прайшоўся вецер па лугох з касою,
Засталося поле з выцвеўшай красою.

У вачох-зарніцах свеціцца журбота,
Знаць і ёй на сэрцы залягла сумота.
Адлятае птушка ды ў нямілы вырай,
Залягае ў сэрцы жальба мая шырай.

Ці я страту чую роднага чагосьці,
Што так сэрца ные, ные ў горкай млосці.
Тая ж постаць, вочы, а сама не тая.
Чаму гэтак стала? чаму? я пытаю.

Эх, ды не дачуўся водгулля ні разу.
Знаць і не пачую я таго адказу!
Так і застанецца песня недапета...
Ды каго абходзіць смутак, сум паэта?

Знешне пейзажна-філасофская замалёўка ўсё ж мае, як і некаторыя ранейшыя творы Якуба Коласа, палітычны падтэкст. І той факт, што верш не публікаваўся за савецкім часам, з'яўляецца сведчаннем наяўнасці антысавецкіх настрояў аўтара, які пяе аб роднай старонцы. Менавіта яе "страту" "чуе" лірычны герой: "родны кут" знаходзіцца па заходні бок мяжы, пад Польшчай, а ўсходняя частка Беларусі ў рамках савецкай рэспублікі не апраўдала спадзеўнага боку амбівалентных перажыванняў і чаканняў паэта. Ён задаецца пытаннем аб прычыне. Аднак няма адказу – "водгулля", якое алюзійна адсылае чытача да аднайменнага зборніка 1922 г. з антысавецкімі матывамі на тэму падзелу Беларусі, а таксама да аднайменнага верша (20.11.1921) гэтага зборніка. У тым творы аўтар сам сабе кажа адгукацца на падзеі – ці то радасныя, ці наадварот [Т. 2, с.100]. Галоўным матывам для яго

выступае шчырасць. Таму, кажучы ў вершы 1933 г. пра адсутнасць водгулля, Якуб Колас падказвае, што ён перастаў быць шчырым.

Пясняр змяніў гучанне сваёй ліры. Змяніў даўно. Прычым усведамляў гэты крок – крок да няшчырасці. Таму напярэдадні змены даў знаць пра гэта: яшчэ ў 1925 г. – згаданым ужо вершам "Пахаваная муза", у якім сказаў праз прыём перададзенай трыбуны свайму лірычнаму герою – таксама паэту, што муза, з якою "даволі блукалі ... па свеце", "заснула", "змоўкла" – "і згаслі агні", а сам паэт "спявае з другою", знаходзячы дэтэрмінізм і апраўданне ў тым, што "такі ўжо наш свет" [Т. 2, с.116]. Вершам "З мінулага" Якуб Колас проста не стрымаўся. А магчыма, і пастараўся перадаць ключ сваім сучаснікам і нашчадкам для расшыфроўкі яго сапраўдных паэтычных памкненняў і перажыванняў.

Да тэмы падзеленай радзімы Якуб Колас вярнуўся 21 верасня 1939 г., зрэагаваўшы на савецкае "ўз'яднанне" Беларусі вершам "Свайму народу". Гэты і шэраг іншых вершаў ("Гудзе зямля, дрыжаць лясы...", "Радасная сустрэча", "Наперад", "Вольнаму народу" – як бачна, колькасна менш, чым напісаў Янка Купала) не падвяргаюць сумненням высокую вартасць падзей, у выніку якіх савецкая ўлада прыйшла на Заходнюю Беларусь. Паэт падае розныя тэматычныя аспекты – і ўсюды бачыць змены да лепшага. Галоўнае:

Няма граніц, няма паноў –
Сышло іх панаванне...
(*"Гудзе зямля, дрыжаць лясы..."*)

(На самой справе, старую мяжу саветы захавалі, не жадаючы, каб беларусы бачылі, як жывуць па іншы бок гэтай амаль дваццацігадовай мяжы, бо расчараваліся б людзі з абедзвюх частак нядаўна align рознадзяржаўнай Беларусі.)

Нічога не дае падставы сумнявацца ў шчырай радасці Якуба Коласа з прычыны аб'яднання Беларусі. Але, як і ў выпадку з Янкам Купалам, гэтыя вершы цалкам кан'юнктурныя, зададзеныя і рэгламентаваныя савецкай дактрынай. Таксама варта характарызаваць колькістаронкавы публіцыстычны артыкул Якуба Коласа 1943 г. "Дружба и взаимное уважение – залог свободы и процветания белорусского и польского народов" з наступнымі радкамі: "Обращаясь в недалекое прошлое, мы должны признать, что черной страницей в истории польского государства остается насильственный захват польскими империалистами западной части Белоруссии в 1920-21 гг. Ни один народ мира, в том числе и польский, не оправдывал этот захват и считал его актом насилия. Живое тело белорусского народа польские империалисты раскроили пополам" і да т. п.[22]

Варта звярнуць увагу, што непасрэдна на тэму падзелу Беларусі ў 1921 г. паводле Рыжскага дагавора Якуб Колас з 1925 г. выказваўся толькі аказіянальна. Паэт асуджаў польскіх прыгнятальнікаў, услаўляючы жыццё той часткі Беларусі, на якой была створана БССР. Ён ужо ніколі не вярнуўся да вершаванага асэнсавання непасрэдна самой падзеі падзелу, хаця быў змушаны адгукацца на яе пазнейшыя вынікі. Прыкладна гэтаксама павёў сябе Янка Купала. Выглядае на тое, што абодва тагачасныя народныя паэты Беларусі не зракліся сваіх ацэнак першай паловы 1920-х гг., не зракліся сваіх колішніх маркіраванняў суб'ектаў падзелу.

Увогуле тэма падзелу Беларусі ў вершах Якуба Коласа з'яўляецца дастатковай, каб прасачыць эвалюцыю нацыянальнай пазіцыі паэта. Яго палітычныя погляды выглядаюць больш празрыстымі, чым у таго ж Янкі Купалы. З патрыёта свайго краю, духам "тутэйшага", Якуб Колас вырастае ў "дзяржаўніка" з цэласнай нацыянальнай свядомасцю. Спрычыніліся да такіх перамен, як бачыцца, па-першае, перыпетыі ў лёсе самога творцы – яны стварылі эмацыйна-нервовую глебу, а па-другое, трагедыя падзелу роднай краіны (да таго ж, малая радзіма, многія сваякі засталіся па заходні бок мяжы) – яна выклікала хвалю абурэння і без таго

неспакойнай душы паэта, стала якраз тым пераломным момантам усведамлення Беларусі як эвентуальнай дзяржавы, а не проста краіны. У выніку родны кут для Якуба Коласа пашырыў свае межы, ахапіўшы ўсю Беларусь. Больш таго, да сацыяльнай паэтычнай іпастасі дадаецца сацыяльна-палітычная грань, што ў ранейшых вершах паэта назіралася даволі замглёна, толькі намацвалася.

---

[1] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мн.: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 757.

[2] Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы: у 2 кн. Кн. 1. 1909 – 1939 / уклад.: В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэд. калегія : М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2010. С. 19.

[3] Спасылкі на творы Якуба Коласа робяцца ў дужках па выданні Збору твораў з указаннем тома і старонкі: Колас Я. Збор твораў. У 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мн.: Беларус. навука, 2007 – 2012.

[4] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 590.

[5] Конан У. Першае і савецкае выданне паэмы "Сымон Музыка": параўнальны аналіз // Тэрмапілы, 2008, №12. С. 336.

[6] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 572.

[7] Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т 3. Вершы, пераклады 1911 – 1914 / АН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мн.: Маст. літ., 1997. С. 220.

[8] У апошняй страфе пасля другога радка намі дастаўлены неабходны працяжнік. Гл.: Колас Я. Водгульле. Менск: Беларускае коопэрацыйна-выдавецкае таварыства "Адраджэньне", 1922. С. 101.

[9] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 595.

[10] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 596.

[11] Багдановіч І. Э. Паэзія 20-х гадоў // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. Т. 2 / НАН Беларусі, Аддз-не гуманітар. навук. і мастацтваў, Ін-т літ. імя Я. Купалы ; навук. рэд. У.В. Гніладмёдаў, В.А. Каваленка. Мн.: Бел. навука, 1999. С. 17.

[12] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 374.

[13] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 542.

[14] Колас Я. Сымон-музыка. Мюнхен: Выдавецтва "Бацькаўшчыны", 1955. С. 80.

[15] Конан У. Першае і савецкае выданне паэмы "Сымон Музыка": параўнальны аналіз... С. 334.

[16] Гл. падрабязней: Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4(29). С. 220.

[17] Гл. падрабязней: Трафімчык А. "На ростанях лёсу паэта і палітыка...". Якуб Колас і Панцеляймон Панамарэнка // Дзеяслоў, 2011, №5 (54). С. 249-262.

[18] Гл. падрабязней: Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4(29). С. 221-223.

[19] Гл. падрабязней: Трафімчык А. Да праблемы дзяржаўнасці распалавіненай Беларусі ў міжваенны перыяд: палітыка Крамля // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2008, № 29. С. 115-129.

[20] Селицкая Л., Василевский Д. Поэт Исаковский писал доносы на Якуба Коласа // Комсомольская правда [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу : http://kp.by/daily/24501.3/653647. Дата доступу: 13.01.2012.

[21] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры... С. 898.

[22] Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад. : В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан ; рэд. калегія : М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 173-179.

Сяргей Абламейка



... Амерыка для нас –
іншы свет...

# Чацвёрты Рым

*“Два Рима убо падоша, а третий стоит,*
*а четвертому не быти”.*
Старац Філафей, 1511 год, Масква.

Восень 1512 года выдалася ў Венецыянскай рэспубліцы дажджліваю. Не спыняліся залевы і ў Падуі, якая ляжыць усяго за 40 кіламетраў на захад ад Венецыі. 5 лістапада таго года на вузкай вулачцы перад шыкоўным трохпавярховым Палацам дэль Бо (Быка, па-нашаму), куды 11 гадоў перад гэтым пераехаў Падуанскі ўніверсітэт, адбылося маленькае здарэнне. У той дзень Рада дактароў Медычнай калегіі ўніверсітэта выслухала і дазволіла беднаму навукоўцу-русіну з Літвы Францішку Скарыну здаваць экзамены на званне доктара медыцыны і вызваліла яго ад аплаты за іх. Абодва іспыты Скарына, як вядома, паспяхова здаў і званне доктара атрымаў. А ў той дзень 25-гадовы маладзён быў так узрадаваны рашэннем Рады Медычнай калегіі, што выбег на вуліцу перад Палацам дэль Бо і закружыўся пад дажджом, размахваючы абдзёртым крыссём старой доктарскай мантыі і падкідаючы ўгару такі ж паношаны доктарскі берэт. Аж на

другі ці трэці раз Скарына шпурнуў яго так высока і далёка, што не паспеў злавіць. Ён кінуўся падымаць берэт з бруку і ледзьве не збіў з ног маладога італьянца, які трымаў за руку чатырохгадовага хлопчыка. Італьянец незадаволена скрывіўся і нешта прамовіў. Скарына зразумеў, што яму параілі быць больш асцярожным. Ён папрасіў прабачэння на лаціне, не будучы ўпэўнены, што яго зразумеюць – італьянец быў апрануты як мельнік ці пекар. Так і атрымалася. Італьянец загаварыў па-свойму, але Скарына зразумеў, што яму прабачылі. Ён весела працягнуў руку хлопчыку і паціснуў яго маленькую цёплую далонь. Хлопчык бліснуў вачыма на чужака, усміхнуўся і збянтэжана адвярнуўся...

Такой мне прымроілася сустрэча двух вялікіх людзей эпохі Адраджэння. Вядома, яна магла быць і зусім іншаю, а больш верагодна, што яе ніколі і не было. Тым не менш, мне вельмі хочацца, каб яна была і была менавіта такою.

Мельніка (а гэта сапраўды быў падуанскі мельнік) звалі П’етра дэля Гондала, а яго сына – Андрэа дэль П’етра. У 1524 годзе, калі яму яшчэ не споўнілася і 16-ці гадоў, Андрэа ўцёк ад бацькоў у Вічэнцу і пачаў працаваць у каменячосных і скульптурных майстэрнях. Там ён сышоўся з вялікім гуманістам Трысіна, атрымаў гуманітарную і прафесійную адукацыю, здзейсніў падарожжа ў Рым і стаў архітэктарам. Трысіна перараканаў дэль П’етра ўзяць псеўданім “Паладыё” ў гонар старажытнагрэцкай багіні Афіны Палады, пазнаёміў яго з іншымі італьянскімі гуманістамі і стаў яго першым заказчыкам.

Паладыё ажаніўся, нарадзіў пяцёх сыноў, падарожнічаў у вядомыя сваёй архітэктурай італьянскія гарады, вывучаў архітэктурныя трактаты Ветрувія і архітэктараў-папярэднікаў XV стагоддзя, забудаваў амаль усю Вічэнцу сваімі рэнесанснакласіцыстычнымі віламі і палацамі, напісаў шмат кніжак (у тым ліку даў апісанне рымскіх старажытнасцяў), разам з сынамі наноў пераклаў “Запіскі аб Гальскай вайне” Юлія Цэзара і стварыў сваю славутую працу “Чатыры кнігі аб архітэктуры”. Ён заклаў асновы сучаснай архітэктуры і ўсіх наступных архітэктурных стыляў. Калі ж сказаць агулам і коратка, у часы Рэнесансу ён стварыў стыль класіцызм, які праз два стагоддзі заваяваў свет. Паладыё – бацька сучаснай архітэктуры. Як напісаў некалі пра яго расейскі пісьменнік, майстар падарожнай прозы Пётр Вайль, пры жыцці Паладыё марыў заваяваць Венецыю (яму там дазволілі пабудаваць усяго два будынкі), а пасля смерці заваяваў увесь свет. І сёння, пісаў Вайль, рымскія парталы з калонамі мы сустракаем на ўсёй зямлі, ад правінцыйных гарадкоў Лацінскай Амерыкі да калгасных клубаў у сібірскай глыбінцы Расеі.

Дык вось мне вельмі хочацца, каб прага ведаў і нязгасны творчы агмень запаліліся ў душы Паладыё менавіта тады, у лістападзе 1512 года, калі яны з бацькам сутыкнуліся на бруку перад Палацам дэль Бо з маладым ліцвінам і некалькі хвілінаў выслухоўвалі яго ўсхваляваны расповед на амаль незразумелай лацінскай мове пра сваю вялікую радасць з прычыны допуску да экзаменаў, а таксама і кароткае апісанне яго далёкай радзімы – Полаччыны і ўсёй Літвы-Беларусі.

Нeяк хочацца і неяк верыцца, што тое, адкуль мы чэрпаем свае творы і натхненне, добразычліва зірнула тады на абодвух вялікіх гуманістаў і адкрыла перад імі нябесную браму творчай энергіі-ласкі.

А сёння, у нашы дні, у Падуанскім універсітэце ёсць “Зала сарака”, дзе на сценах знаходзяцца фрэскавыя партрэты 40 найвялікшых выпускнікоў заснаванай у 1222 годзе альма матэр. На ганаровым другім месцы сярод іх, адразу пасля Галілеа Галілея, – Францішак Скарына...

Агмень Рэнесансу, які Скарына прынёс у Беларусь, вытварыў у нашай мінуласці такі глыбокі след, што цяпер ужо ніхто не мае шанцу сцерці яго з нашай памяці – ён частка нашай істоты і можа знікнуць толькі з нашым фізічным канцом. Я б сказаў нават, што ў часы Рэнесансу і Рэфармацыі Беларусь для некаторых суседзяў сама стала “Трэцім Рымам...”

І вось дзіва. Запалены некалі Скарынам і Паладыё агмень я нечакана ўбачыў на іншым баку зямлі, за акіянам. Там агеньчык разгарэўся ў полымя...

***

У самалёце кампаніі Air France, які ляціць з Прагі ў Парыж, – большасць французаў. Беларусу з замашкамі літаратара грэх не паназіраць за прадстаўнікамі адной з самых цывілізаваных нацый у свеце. Цікава, як выглядаюць і трымаюцца людзі, як захоўваюцца сцюардэсы, чым кормяць і г.д.

Сцюардэсы – стрыманыя і ветлівыя, без пыхі. Свабодна пераходзяць на ангельскую, але некаторых з-за акцэнту амаль не зразумець – чуецца ўсё ж, што паўтары тысячы гадоў таму французы і немцы збольшага гаварылі на адной мове. Пыхі няма, але ў стрыманай годнасці можна разгледзець і спакойнае ўсведамленне сваёй перавагі над нешматлікімі ў самалёце ўсходнееўрапейскімі барбарамі. Зрэшты, гэта можа быць і паблажлівасць прафесіянала да кліентаў-лаікаў.

Французскія пасажыры збольшага выглядаюць на бізнэсмэнаў сярэдняй рукі. У некаторых на руках “Ролексы”. Усе без выключэння чытаюць спартовыя раздзелы газетаў. Дагледжаныя твары, адсутнасць дрэнных пахаў, стрыманая акуратнасць адзення. Але галоўнае не гэта. Галоўнае – здароўе на тварах. Дзіўным чынам твары ўсіх людзей вакол мяне выпраменьваюць здароўе. Гладкая маладая скура, спакойныя пагляды, трэніраваныя целы – наогул, харошы фізічны тып.

Галоўнае адрозненне беларускіх твараў ад французскіх – хваравітасць або вульгарная паўната. Людзі вакол мяне спакойна выконваюць сваю функцыю – працуюць, нараджаюць і гадуюць нашчадкаў, кахаюцца. Беларусы робяць тое самае, але неяк бязладна і неспакойна, праз пакуту. Яе і відаць на беларускіх тварах з шэрай скурай. Гэта – вынік гісторыі і культуры, а калі шырэй – беларускай долі-нядолі. Нават калі не браць геаграфічна дэтэрмінаваную (перадвызначаную) далёкую беларускую мінуласць, дык успамінаецца мінуласць блізкая. Напрыклад, пасаджаны ў турму прафесар Бандажэўскі...

У невялікім абедзіку, пададзеным сцюардэсай, – таксама праява французскай рафінаванасці: рагу з баклажанаў, перцу, памідораў і бабоў, тушаныя морапрадукты – так званы “марскі кактэйль” – і надзвычай далікатнае піражанае.

А калі самалёт сеў – французы не пляскалі пілоту за майстэрства, як гэта робяць чэхі.

***

У самалёце па дарозе з Парыжу ў Вашынгтон побач са мной сядзеў старэнькі чалавек з семіцкім тварам. Праз праход ад яго сядзела пажылая жанчына – таксама семітка, чые маршчыны не маглі схаваць надзвычай прыгожага ў маладосці і годнага твару – прыгажосць нібыта сышла і, разам з тым, засталася. Я ўпотай любаваўся вузкім высакародным тварам старой з высокім прамым ілбом, запалымі шчокамі і грэцкім носам. І стараўся здагадацца, гэта жыды ці арабы? Знешне адрозніць было немагчыма з-за абсалютна еўрапейскага выгляду пары. Памалу мы са старым разгаварыліся – у яго была даволі неблагая ангельская. Аказалася, гэта 84-гадовы выкладчык Бейруцкага ўніверсітэта прафесар Марум (ён вымаўляў сваё імя як Morrum), а старая – яго жонка.

Прафесар расказваў шмат цікавага. Ён з гонарам паведаміў, што належыць да адной з найстарэйшых палесцінскіх рымска-каталіцкіх сем’яў. Яго род быў выгнаны з Палесціны ізраільцянамі і агулам страціў сем вялікіх мураваных дамоў. Ён і яго жонка ў канцы 30-х гадоў былі чэмпіёнамі Палесціны па тэнісе ў міксце (змяшаным разрадзе) сярод юнакоў. Два ягоныя сыны жывуць у

ЗША, адзін – найбуйнейшы ў Вашынгтоне дылер аўтамабіляў, другі – прафесар вашынгтонскага Ліванскага ўніверсітэта.

Я скарыстаў нагоду даведацца аб сітуацыі на Блізкім Усходзе з вуснаў знатнага адукаванага араба-хрысціяніна. Калі я спытаўся пра Ірак, ён сказаў, што сапраўдная мэта вайны – нафта. Калі ж я спытаўся, чаму 100 гадоў таму ў Сірыі была большасць хрысціянаў, а цяпер – большасць мусульманаў, і чаму тое самае адбылося з арабамі-палесцінцамі, ён сказаў, што арабы прымаюць іслам дзеля палітычных матываў – гэта палітычны выбар.

Прафесар Марум хваліў Вашынгтон і ганіў Нью-Ёрк – казаў, што Вашынгтон – больш элітарны горад. “Я маю права на амерыканскую грын-карту, але не бяру яе – нашто? Мне хапае 5-гадовай візы”, – яго словы.

Я расказаў прафесару, як быў у 90-я гады ў Рыме на імшы ў арабскай царкве – пахваліў абрад і спевы. Ён прыняў камплімент як належнае. Наогул, пра Палесціну, арабаў і сваю сям’ю ён расказваў з відавочным гонарам і смакам – я адчуў родную душу. Мы, беларусы, такія ж неакцэптаваныя правінцыялы цывілізацыі, яе пасынкі. Пра нас таксама мала ведаюць, і мы павінны ўсім і ўсюды даводзіць сваю еўрапейскасць і падаваць дэталі свайго “слаўнага мінулага”.

***

Амерыка з вакна самалёта выглядае зусім не так, як Еўропа. Прынамсі, узбярэжжа. У Еўропе – дробныя клеткі засеяных палёў і павуціння дарог паміж частымі вёскамі, мястэчкамі і гарадамі падбіраюцца амаль да самага берага. У Амерыцы – дарогі ўздоўж берагу і бясконцыя паселішчы ўздоўж тых дарог. А за тымі прыбярэжнымі палосамі – нейкая пустая зямля. Магчыма, зрэшты, што мне так здалося толькі тады, калі мы ляцелі паўз бераг Лабрадорскага мора. Магчыма, што курортныя мясціны Еўропы з самалёта выглядаюць гэтак сама, як і амерыканскія...

***

Амерыканцы так ганарацца сваім сцягам, што вешаюць яго ўсюды, дзе можна, і дзе, на маю думку, не можна. Неяк я ехаў аўтобусам з Нью-Ёрку ў Вашынгтон. Узбоч дарогі – будаўнічыя пляцоўкі, на іх шмат будаўнічае тэхнікі. І ці не кожны механізм мае на сабе пачэплены сцяг. Вось гляджу на нешта сярэдняе паміж кранам і забівалкай паляў – пад стралой, фактычна, на круку “горда рэе” брудная хусцінка, якая некалі была амерыканскім сцягам. Прычым пачэпленая наўмысна, за два тарцовыя канцы, каб лунала ў паветры, а не вісела. На добры лад, гэта можна было б прызнаць і апаганьваннем нацыянальнай сімволікі... Зрэшты, падумалася мне пазней, лепш ганарыцца сваім сцягам так, чым не ганарыцца ім зусім або ганарыцца чужым.

***

У Амерыцы беларусу ўсё на першы погляд чужое. Прыязджаеш і разумееш, што гэта – іншы свет. Навокал – усё іншае. Цалі, футы, фунты, мілі, акры, унцыі, галоны... Замест дарожных знакаў у прывычным нам выглядзе – таблічкі са словамі “One way” або “...”. З еўрапейскіх знакаў я ўбачыў толькі чатыры – няма павароту, стоп, праезд забаронены і ўезд забаронены. Астатняе – словамі. Нашто было прыдумляць альтэрнатыву добра распрацаванай еўрапейскай сістэме знакаў? Зрэшты, улічваючы гістарычнае першынство амерыканцаў у масавым выкарыстанні аўтамабіляў, зразумела, што альтэрнатыва – не іх сістэма, а наша.

Рэгуліроўшчыкі на перакрыжаваннях трасуцца і выпрабляюцца са свісткамі на вуснах у нейкім дзіўным афрыканскім танцы – то грабуць да сябе рукамі,

пускаючы машыны проста на сябе, то нагінаюцца і матаюць над сабой рукою, пускаючы машыны на паварот. Некаторыя робяць гэта так актыўна і азартна, хутка і са смакам, што ты спыняешся на ходніку і нейкі час глядзіш на гэтае шоу, як зачараваны.

На прылаўках зелянінных ятак і латкоў – дзясяткі нязнаных нам раслінаў у выглядзе доўгіх рабрыстых гуркоў з вострымі канцамі, тонкія стручкі нібыта фасолі... даўжынёй да паўметра, дзіўная трубчатая зялёная цыбуля і маладыя парасткі фенікла, якія нагадваюць маленькую пекінскую капусту...

Джэм тут вараць з чырвонага вінаграду. Хлеб пад назвай "Russian. Black" немагчыма ўзяць у рот, бо гэта амаль духмяная салодкая булка цёмна карычневага колеру... Зрэшты, на Брайтане ў Нью-Ёрку прадаецца сапраўдны "Нарачанскі", толькі боханы ў тры разы меншыя.

Бабілон, паўсюль Бабілон. Разрэз вачэй, рысы твару, адценні скуры, паставы, мовы і дыялекты...

Чайна-таўн у ніжнім Манхэтане разросся неймаверна, паглынаючы ўсё новыя і новыя кварталы Даўн-таўну. Мы ішлі па раёне, які на мапах яшчэ называецца "Little Italy" (Малая Італія), але навокал адныя іерогліфы – усё даўно скуплена кітайцамі... Яны афармляюць плошчы сваімі нацыянальнымі дэкаратыўнымі аркамі і ставяць там помнікі "Амерыканцам кітайскага паходжання, якія склалі свае галовы ў барацьбе за свабоду" (дакладная цытата з шыльды аднаго такога) – але скульптура выяўляе, чамусьці, не амерыканца хай сабе і кітайскага паходжання, але сярэднявечнага кітайскага селяніна ў тыповым халаце і тыповым жа саламяным капелюшы з вострым верхам і падвязкай пад падбароддзем... І з касой, якая вытыркаецца з пад капелюша.

Да рэвалюцыі ў Мінску была невялікая кітайская калонія – кітайцы гандлявалі на Ніжнім рынку нязвыклымі для менчукоў дзіцячымі цацкамі, і ўсе былі ў такіх халатах і з заплеценымі ў косы валасамі. Пра іх са словаў сваёй маці расказвала мне бабуля.

Паўсюль адчуваецца блізкасць мора... І ты міжволі думаеш, якую ўсё ж выгаду маюць тыя народы, якія апанавалі некалі ўзбярэжжы мораў і акіянаў! Асабліва такія думкі прыходзяць у галаву, калі ты стаіш у Нью-Ёрку ля крамы, якая называецца "Жывыя марскія прадукты", а вітрынаю ёй служыць шкляная сцяна вялікага і глыбокага басейна, па дне якога і па галовах адзін аднаго поўзаюць і ходзяць сотні гіганцкіх (да паўметра!) лобстэраў і крабаў...

Пра тое ж думаецца і тады, каля сядзіш у адносна недарагім (у параўнанні з Еўропай) прыбярэжным рэстаранчыку ў штаце Нью-Джэрсі і рукамі разломваеш канцовіны маладога краба, каб дастаць адтуль далікатнае мяса, якое растае ў роце, як жэле...

Адным словам, Амерыка для нас – іншы свет.

***

Вырашылі мы праехацца з Вашынгтона ў Нью-Ёрк аўтобусам, маўляў, і краіну паглядзім, і нядорага дабярэмся да "сталіцы свету". У выніку сапраўды, і наваколлі паглядзелі, і дух прыдарожнай Амерыкі адчулі, і ў некалькі гарадоў заехалі... Але нечакана ўбачылі мы падчас гэтага чатырохгадзіннага падарожжа і нешта больш важнае. А менавіта, праявы міжрасавага напружання, якое, як аказалася, нікуды не падзелася і падспудна тлее ў Амерыцы далей. Гэта паказаў скандал, які ўчыніла маладая афраамерыканка.

Падчас прыпынку ў Балтыморы кіроўца аўтобуса выйшаў, каб пакласці ў багажнае аддзяленне валізы новых пасажыраў. Праз хвіліну ля аўтобуса пачаўся дзікі лямант. Крычала чорная маладзіца. Пасля ў салон увайшлі чатыры новыя пасажыры – тры мужчыны і жанчына, усе за 60 гадоў. Дзверы зачыніліся, кіроўца

праверыў іх квіткі, зноў адчыніў дзверы і выйшаў. Праз нейкі час лямант на вуліцы стаў сціхаць. Нарэшце ў аўтобус увайшла мурынка, пракрычала ў салон на троху дзіўнай ангельскай мове, што кіроўца апошні падонак, што ён паклаў у кішэню яе білет, сказаў пачакаць, а сам прапусціў паперадзе яе сем (!) пасажыраў, а яна з хворым дзіцем, якога трэба везці да лекара ў Нью-Ёрк, засталася на вуліцы чакаць; і зрабіў гэта кіроўца, маўляў, толькі таму, што яна – чорная, і хай ён коціцца ў сваю Коста-Рыку... Пракрычаўшы ўсё гэта, мурынка села на адно вольнае месца ля нас. Другое побач з ёй займала іншая афраамерыканка. Яна яшчэ ў Вашынгтоне адмовіла адной белай кабеце ў дазволе сесці ля яе – прабурчэўшы ў адказ нешта няўцямнае і нахабна легшы на ўсё сядзенне. І вось калі ў Балтыморы здарыўся той канфлікт, наша суседка ажывілася, устала паглядзець, хто там лямантуе, неяк ухвальна-салідарна пасміялася, а калі крыклівая маладзіца ўвайшла, прапусціла тую з дзіцем да акна, а пасля наогул сышла на месца, дзе звычайна ездзяць гіды або другія кіроўцы экіпажу.

Дзіцём скандалісткі быў вельмі прыгожы 10-гадовы чорны хлопчык з вачыма анёла, з выгляду – вельмі здаровы. Мне, як і ўсім у аўтобусе, было зразумела, што скандал яго маці спатрэбіўся толькі для таго, каб пралезці ў аўтобус з адным білетам на дваіх з сынам.

Маўклівы лацінаамерыканец-шафёр з кепскай ангельскай мовай унурыў галаву ў плечы, сеў за стырно і прамаўчаў...

Пра тое ж схаванае міжрасавае напружанне мне думалася і тады, калі я слухаў развагі аднаго з сыноў чалавека, у якога мы гасцявалі пад Нью-Ёркам. Той хлопец-студэнт абурана разважаў пры сістэму паступлення ў ВНУ, якая дае чорным вялікія перавагі. У перакладзе на нашую мову і выкарыстоўваючы больш блізкія мне школьныя рэаліі, яго прамову можна пераказаць так:

– Чаму я, белы, павінен мець суцэльныя пяцёркі, каб паступіць ва ўніверсітэт, а чорнаму дастаткова троек?

Я, вядома, не нагадваў яму пра ранейшую расавую сегрэгацыю і татальную дыскрымінацыю чорных, за якія ён цяпер і плаціць...

***

Для таго, каб адчуць і зразумець моц і магутнасць амерыканскай эканомікі, варта выехаць за горад. У прымесцях Нью-Ёрка сканцэнтраваныя марскія склады – неабсяжныя паркоўкі еўрапейскіх і амерыканскіх аўтамабіляў, адны з якіх толькі што згрузілі з сухагрузаў, а іншыя чакаюць адпраўкі ў Еўропу. Паркоўкам тым няма канца і краю – колькі хапае вока, столькі там стаіць розных машын. Ды якіх машын! Аўтааматару з Еўропы ў Амерыцы робіцца асаблівa брыдка ад усведамлення, як яго падманваюць і выкарыстоўваюць еўрапейскія маркі...

Усе мы ведаем, пра амерыканскі размах, калі справа тычыцца аўтамабіля. Яны любяць велізарныя і зручныя аўто з вельмі моцнымі маторамі. Такія і робяць. Там амаль ніхто не ведае, што такое дызель, а кошт на бензін і сёння, у часы крызісу, шакаваў бы сваёй мізэрнасцю менскага аўтааматара – людзі заліваюць поўныя бакі вялізных джыпаў за 25 даляраў!

Амерыканскі рынак аўтамабіляў – найвялікшы ў свеце. Яны самі робяць велізарную колькасць аўто, іх завальваюць сваімі мадэлямі японцы, карэйцы і еўрапейцы. Прычым, азіяты пастаўляюць у Амерыку такія мадэлі, якіх у Еўропе не ўбачыш – я столькі нагледзеўся спартовых купэ і кабрыялетаў, а таксама звычайных і люксусных седанаў ад “Нісану” і яго дарагой маркі “Інфініты”, ад “Таёты” і “Мазды”, што нават сфатаграфаваўшы некаторыя, не магу цяпер успомніць іх абрысы...

Для Еўропы матор аб’ёмам 1,8 літра з’яўляецца даволі звыклай з’явай, у Амерыцы вы такога не знойдзеце. Там Мерседэс класа С пачынае прадавацца ад

3 літраў. На дарогах ездзяць Мерседэсы класу Е і БМВ пятай серыі з 5-літровымі маторамі, і гэта – звычайная рэч.

Каб заняць нейкае месца на такім рынку, еўрапейскія вытворцы ідуць на вялікія страты, абы толькі заставацца на рынку. Цяпер Фальксваген-Джэту ў Празе прадаюць за 25-30 тысяч даляраў, а ў Амерыцы аналаг са значна мацнейшым маторам – за 15 тысяч! Тое самае і з даражэйшымі еўрапейскімі маркамі. І вось гледзячы на ўсю гэтую аўтамабільную раскошу, ты разумееш, што гэта робіцца за твой кошт. Ты там, у сваёй Еўропе, плаціш двайныя грошы за тое, на што амерыканцы нават не паглядзелі б.

Я спрабаваў гаварыць пра гэта з амерыканцамі – смяюцца, кажуць, нашто мне за такія грошы ваш Мерседэс? Я за такую суму сабе Кадылак куплю... Іншымі словамі (і ў гэта цяжка паверыць) найлепшыя еўрапейскія маркі – далёка не самае лепшае і не самае прэстыжнае, на чым ездзяць у Амерыцы. І ў гэтым яна таксама – іншы свет.

А магутнасць іх эканомікі адчуваецца і на дарогах, славутых хайвэях. Пры вялікіх гарадах 12, 18 і нават 24 паласы – не рэдкасць. Я ехаў па 18-палосным аўтабане і дзівіўся якраз гэтаму відавочнаму ўвасабленню амерыканскай магутнасці – 9 палос у адзін бок, 9 у іншы. Кожныя тры паласы аддзеленыя раздзяляльным бетонным плотам. І нясуцца па іх нязвыклыя нам амерыканскія фуры з даўгімі капотамі і пакойчыкамі для адпачынку кіроўцаў ззаду кабінаў. Бясконцы рух, незлічоная колькасць машын, грузавых і прыватных.

А я еду па хайвэі і думаю, што мы ўсе цяпер – закладнікі вялікага бізнэсу. Што ён з намі толькі не робіць? Раней лядоўня магла працаваць 20 гадоў, а цяпер ледзьве вытрымлівае 10. Абазнаныя сцвярджаюць, што ў 90-я гады час жыцця бытавой тэхнікі і аўтамабіляў пачалі разлічваць на 10 гадоў, а цяпер наогул – на 5-7. Сябар-інжынер мне кажа: “Не купляў “Audi”, у іх падвеска алюмініевая”. Пачынаю шукаць інфармацыю ў інтэрнэце і даведваюся, што ў BMW пярэдняя падвеска – таксама з алюмінію! Яны ўсё могуць разлічыць па сапрамаце – колькі вытрымае жалеза, колькі алюміній, і колькі яны заробяць на дадаткова закупленых запчастках. Сябар-бізнэсмэн мне патлумачыў: за апошнія 20 гадоў да кіраўніцтва ўсіх буйных міжнародных фірмаў прыйшлі фінансісты, банкіры. Інжынеры і працоўная этыка Нямеччыны засталіся ў мінулым. Цяпер мэтай сталі толькі грошы. Усе карыстаюцца напрацаваным іміджам, каб прадаць нам усё горшы і горшы па якасці тавар. Плаціце грошы! І паспрабуйце знайсці цяпер у Кардэна рэчы з натуральных валокнаў!

На Захадзе паміраюць рамонтныя майстэрні! Ніхто ўжо нічога не рамантуе, у лепшым выпадку мяняюць цэлыя вузлы за вялікія грошы. Па вялікім рахунку, ужо лепш купляць новую рэч, чым рамантаваць старую. На ціхай пражскай ускраіне, дзе я жыву, яшчэ захавалася маленькая прыватная майстэрня пабытавай электронікі, якой валодае вельмі і вельмі ўжо немаладая чэшская пара – яна прыёмшчыца, ён – майстар. Для кліентаў робяць выгляд, што зусім яны і не муж з жонкай, але калегі па працы, і амаль за ўсё бяруць адну і тую ж цану – 300 чэшскіх крон (17 даляраў), што на пражскія ўмовы – вельмі танна.

Банкі ўзялі ўсіх у палон іпатэкамі. Некалі фірмы будавалі і прадавалі дамы па рэальных коштах, за рэальны прыбытак і былі задаволеныя. Шмат гадоў дамы ў Еўропе і Амерыцы каштавалі па 100 тысяч даляраў. Але прыйшлі набітыя вольнымі грашыма банкі (рыхтык біблейскія змеі-спакушальнікі) і сказалі: “А што вы прадаяце дамы так танна? І чаму вашы праекты такія сціплыя – па 10-15 дамоў? Будуйце адразу паселішчы па 100 дамоў. Заражайце вышэй, мы вам пазычым грошы на праекты на выгадных умовах, а вы за гэта прапануйце нашу іпатэку сваім пакупнікам”. Банк зацікаўлены выгадна“прыстроіць” грошы, каб яму выплачвалі пазыкі не 5-10 гадоў, а 20-

30. Банк нічога не траціць, бо паводле ўмоваў пазыкі купленыя ў дэвелопера дамы тут жа пераходзяць у заклад да банку. Так і ўзнікла заганнае кола, бо 30 гадоў усё і ва ўсіх добра быць не можа – нехта страціць працу, нехта захварэе, страціць блізкага, зап'е, загіне ў аварыі і гэтак далей. А каб і было асабіста ў вас усё добра, дык эканамісты ведаюць дакладна, што 30 гадоў запар не можа быць стабільнасці ў эканоміцы – яна якраз развіваецца цыклічна, і цыклы гэтыя значна карацейшыя за 30 гадоў. З цягам часу адмоваў плаціць па крэдытах усё болей, і пачынаецца крызіс. А банкі яшчэ і прадаюць іпатэкі адзін аднаму па некалькі разоў, каб друкаваць і друкаваць каштоўныя паперы і рабіць грошы літаральна з паветра...

Божа! Няўжо я раблюся сацыялістам? Зрэшты, пры чым тут сацыялізм? Значна больш дарэчы тут гаварыць пра маральную (дакладней немаральную) прыроду сённяшняй эканомікі і жыцця наогул. У XVI стагоддзі мэтай любога бізнэсмэна – купца або рамесніка – было ўласнае багацце і дабрабыт. Як толькі ён яго дасягаў, дык тут жа сыходзіў з бізнэсу і вызваляў месца іншаму. Цяперашнія ж кампаніі сталі інструментамі не для дасягнення асабістага дабрабыту ўладальнікаў, але сродкам ды інструментам зарабляць грошы дзеля грошай. Сёння ўжо грошы наогул робяць самі сябе і вельмі часта – з нічога, з папераў, з паветра.

Я ўсё больш і больш разумею, што мы ўсе, простыя людзі – закладнікі, мы трапілі ў палон, у новае рабства, мы ўсе рабы спажывецкай цывілізацыі і вялікага бізнэсу. З намі робяць, што хочуць. А мы толькі плацім, плацім і плацім.

Цёмныя бакі заганнай чалавечай натуры працялі ўсю сучасную эканоміку, таму сёння кліентаў падманваюць нават у Нямеччыне, дзе яшчэ 15-20 гадоў таму нават уявіць такое было немагчыма. Каб абараніцца ад нядобрасумленных інжынераў, лекараў, аўтамеханікаў, сантэхнікаў і будаўнікоў – беднаму чалавеку сёння трэба самому быць інжынерам, лекарам, аўтамеханікам, сантэхнікам, будаўніком etc. А быць імі ўсе і адначасова не могуць.

Таму я, едучы па амерыканскім хайвэі (зрэшты, як і заўсёды ў апошнія гады), болей думаю не пра сацыялізм, а пра культуру і мараль, пра веру, ад якой Захад ужо, на жаль, амаль адмовіўся. Амаль ніхто ўжо не разумее, што вера – гэта частка культуры...

Хоць і блізкія да сацыялізму нямецкая або шведская мадэлі мяне таксама прывабліваюць.

***

Як бы там не жартавалі наконт амерыканскага бескультур'я і "ўсіх чатырох ног, якія амерыканцы кладуць на стол", Амерыка – краіна культурная. І, як у сапраўды культурнай краіне, тут у сталіцы можна бачыць па два помнікі на адным пляцы – я для сябе некалі ўстанавіў такі крытэрый. Калі памятаюць сваю гісторыю, ушаноўваюць яе, і калі помнікам становіцца цесна на пляцах гарадоў – значыць з культурай у краіне ўсё ў парадку. Такая сітуацыя ў многіх еўрапейскіх краінах, і тое ж я ўбачыў у Вашынгтоне.

Апрача неверагоднай колькасці помнікаў у Вашынгтоне кідаецца ў вочы вялікая колькасць мемарыялаў і мемарыяльных музеяў. Ёсць там мемарыялы найбольш вядомых прэзідэнтаў, такіх як Джордж Вашынгтон, Томас Джэферсан, Аўраам Лінкальн і Франклін Дэлана Рузвельт. Ёсць мемарыялы войнаў – Другой Сусветнай, Карэйскай і В'етнамскай, і, нават, помнікі-мемарыялы амерыканска-іспанскай вайны 1898 года і кампаніі на Філіпінах 1899-1902 гадоў. Ёсць мемарыялы асобным бітвам, напрыклад бітве пры Івадзіме. Ёсць нават асобны мемарыял марской пяхоце. Некаторыя назвы на мемарыяльных будынках гучаць для нашага вуха даволі дзіўна – Мемарыял дачок амерыканскай рэвалюцыі

або Маці амерыканскай залатой зоркі (што насамрэч азначае Арганізацыю маці сыноў і дачок, якія загінулі ў службе Злучаным Штатам).

Але найболей уражвае колькасць помнікаў. Ёсць чатыры гіганцкія скульптуры бізонаў, якія жылі пры пачатку асваення Паўночнай Амерыкі, ёсць помнік афрыканскаму слану. На фантане памяці адмірала Дзюпона ёсць помнікі-скульптуры Ветру, Мора і Зорак. Ёсць процьма помнікаў замежным культурным і дзяржаўным дзеячам, вайскоўцам. Я бачыў помнікі Тарасу Шаўчэнку, Аляксандру Пушкіну, харвацкаму скульптару Івану Мэштравічу, чэшскаму прэзідэнту Тамашу Масарыку, індыйцу Махатму Гандзі, польскаму генералу Казіміру Пуласкаму, спольшчанаму беларусу, генералу трох арміяў Тадэвушу Касцюшку і многім іншым. Ёсць там нават Алея расейскіх паэтаў і Мемарыял расейскіх кампазітараў з дзясяткамі персанальных і групавых памятных знакаў.

Ну а помнікаў уласна амерыканцам – наогул не злічыць.

Культурны народ, што тут скажаш.

***

Але ёсць назіранне значна больш важнае.

Калі вы паблукаеце па Вашынгтоне ў ваколіцах Белага Дома, а пасля пройдзецеся па Пенсільванія авеню да Капітолія, або і проста пашпацыруеце па прылеглых да цэнтра кварталах старой гарадской забудовы, вы раптам зразумееце, у чым тут справа. Калоны! Навокал сотні, тысячы калонаў! Велічныя і маленькія, круглыя і квадратныя, на портыках і парталах, на фасадах і вокнах вялікіх і малых будынкаў, на пампезных мармуровых урадавых гмахах і на сціплых жылых дамках, так званых сіці-хаўзах.

І тады вы зразумееце, куды трапілі. Гэта – царства класіцызму, яго велічная сталіца, яго новая магутная метраполія. Пабудаваны ў XVIII-XIX стагоддзях Вашынгтон з'яўляецца велічным помнікам паладыянству, спадкаемцам класічных традыцыяў еўрапейскай архітэктуры.

І вось іду я па Вашынгтоне XXI стагоддзя, гляджу на ўсе гэтыя бясконцыя мутулы і дэнтыкулы, канелюры, стылабаты, эхіны і абакі, на архітравы, фасцыі, трыгліфы і метопы... і разумею, што гэта не проста дарычны ордэр – гэта РЫМСКІ дарычны ордэр, і яго тут безліч. І ўсё ў добрых старых прапорцыях, дысцыплінавана і строга, без эклектыкі і калгасу...

Зрэшты, хапае тут і іншых ордэраў, але і рымляне, як вядома, карысталіся ўсімі грэцкімі, дадаючы ў іх свае рысы, або і прыдумляючы новыя, як, напрыклад, кампазітны ордэр, якога ў Вашынгтоне таксама хапае. Калі Андрэа Паладыё адраджаў прынцыпы архітэктуры старога Рыма, ён таксама не забываў і пра грэкаў.

Стваральнікі Амерыкі, бясспрэчна ведалі, што і для чаго яны будуюць, якую краіну ствараюць, і якая сталіца ёй патрэбная. Сам Томас Джэферсан быў архітэктарам і перакананым прыхільнікам Андрэа Паладыё, ён збудаваў сабе загарадны дом у паладыянскім стылі, а спраектаваны ім галоўны будынак універсітэта Віргініі – славутая паладыянская ратонда – унесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Ды нават галоўная будова сталіцы ЗША – Белы Дом – збудаваная архітэктарам Джэймсам Хобанам у 1800 годзе таксама ў стылі чыстага паладыянства.

І вось стаю я ў цэнтры Вашынгтона і ўспамінаю формулу “Масква – трэці Рым, а чацвёртаму не бываць”. Памыліўся старац Філафей, памыліўся. Прычым двойчы, нават тройчы.

Па-першае, памыліўся Філафей наконт таго, што “чацвёртаму не бываць”. Я вось стаю цяпер у Рыме чацвёртым і разумею гэта ўсёй сваёй істотай, да пранізлівага і пякучага адчування свайго адкрыцця. Вось ён – новы Рым, вакол мяне. Вось яны шырокія праменады, форумы, фантаны, помнікі, мемарыялы, стэлы

і калоны, вось яны – будынкі дзяржаўных установаў і шараговых рымлянаў у класічным рымскім стылі з калонамі або пілястрамі сціплага дарычнага або іанічнага ордэру. І вось ён новы Рым з яго сусветным уплывам і вагой – адзіная на сёння ў свеце імперыя ўплыву. Самая моцная ў вайсковым і эканамічным сэнсе краіна свету. Вайсковы бюджэт новых рымлянаў большы за вайсковыя бюджэты ўсіх астатніх краінаў планеты разам узятых. Параўнацца з іх эканомікай яшчэ доўга ніхто не зможа.

Па-другое, памыліўся Філафей наконт свайго "трэцяга Рыму" культурна-сацыяльна. Насамрэч "Трэці Рым" так і не стаў Рымам – ён застаўся сканцэнтраваным на грэцкай артадоксіі, навязваючы яе суседзям... Першы ж Рым пакідаў ускраінам іх веру. Дый наогул, каб быць новым Рымам, трэба быць яго спадкаемцам ва ўсіх сэнсах, у тым ліку і ў грамадскім ладзе, мастацтве, архітэктуры. У старым Рыме для грамадзянаў была дэмакратыя, а ці была яна хоць некалі ў Масковіі або пазнейшай Расеі? І што наогул узяў у старога Рыма "Рым трэці"? Візантыйскія цэрквы? Нават гэтую не зусім рымскую традыцыю ён не змог захаваць – ад XVI стагоддзя памалу-патроху ў Расеі пачалі будаваць мячэці з крыжамі... Ясна, што ў Маскве за апошнія стагоддзі паспелі збудаваць нямала будынкаў у класічных формах, якія дайшлі да нашага часу. Але ў строгім сэнсе архітэктурная Масква не ўсвядоміла сябе пераемніцай Рыма – Кітай-горад і праваслаўныя мячэці не дазволілі.

Архітэктура наогул беспамылкова сведчыць пра каштоўнасці таго або іншага рэжыму, пра яго культурныя перавагі і алюзіі, пра яго памкненні. Архітэктура Масквы не дае дастаткова падставаў сцвярджаць, што Масква стала пераемніцай Рыму.

А вось Санкт-Пецярбург, бясспрэчна, быў у значнай ступені пераемнікам класічных рымскіх архітэктурных традыцыяў, але і будавалі яго італьянцы, і сам ён стаў не сутнасным, а ўсяго толькі знешнім і штучным фасадам візантыйскай Масковіі, якая ўрэшце паўстала супраць яго ў 1917 годзе і вярнула сталіцу ў Маскву.

І па-трэцяе, памыліўся манах канфесійна. Зразумела, сёння наогул мала хто ведае пра праваслаўна-каталіцкія дачыненні і карані гэтых дачыненняў. Не кажучы ўжо пра тое, што грэкі называлі і называюць сваю царкву "Кафаліцкай", а каталікі яшчэ на Трыдэнцкім саборы 1545 года прынялі Сімвал веры, у якім акрэслілі сваю веру як "веру праваслаўных..."

Трэцяя памылка Філафея зусім нечаканая: новы Рым – неправаслаўны. Ён – пратэстанцка-каталіцкі (каталікаў у Штатах ужо больш за 60 мільёнаў) і даволі пурытанскі (за выключэннем некаторых гарадскіх анклаваў). І да еўрапейскага "паліткарэктнага" распаду новым рымлянам яшчэ даволі далёка. Мы памылкова глядзім на амерыканскія гарады, дзе ўжо навідавоку прыкметы не толькі мультыкультуралізму, але і культурнага заняпаду і нават распаду, але ж новыя рымляне жывуць пераважна ў невялікіх гарадках правінцыйнай Амерыкі. А там – ні тое, што кітайца, там нават чорнага сустрэць цяжка. Па дарозе адмовы ад сваіх духоўных і культурных традыцыяў Еўропа ідзе далёка паперадзе новых рымлянаў...

Так што – бываць чацвёртаму Рыму, бываць...

А вось ці будзе Рым пяты? Падазраю, што будзе. Зрэшты, залежыць ад таго, хто захопіць свет – арабы ці кітайцы. Наша класіка можа прарасці і ў мусульманстве, а вось кітайцы маюць класіку сваю... Але гэта будзе ўжо не наша гісторыя...

*Прага-Вашынгтон-Нью-Ёрк-Прага*
*2006-2011*

Алесь Гібок-Гібкоўскі



...шанцы знайсці
скарбы Напалеона ў Беларусі
усё ж даволі высокія...

# Таямніца скарбаў Напалеона

***Беларускі след***

***Зусім няшмат часу засталося да 200-гадовага юбілею знакавай у гісторыі катастрофы Вялікай арміі Напалеона Банапарта на беларускай рацэ Бярэзіне, якая адбылася 24 лістапада 1812 года. Гісторыкі сцвярджаюць, што менавіта гэтая падзея і была рэальнай кропкай у амбітным паходзе Напалеона на ўсход. Тая катастрофа на нашай зямлі пакінула пасля сябе даволі ёмкі шлейф міфаў і легендаў, якія могуць паўплываць і на нашу сённяшнюю рэальнасць, прычым з самага нечаканага боку...***

## Унікальная канва

Не сакрэт, што сёння наша краіна не вельмі цікавая для турыстаў, асабліва для разбэшчаных усемагчымай экзотыкай аматараў падарожжаў з заможных заходніх і ўсходніх краінаў. Да прыкладу, супастаўляльная па насельніцтву Чэхія прымае каля 7 мільёнаў турыстаў на год, што амаль у 10 разоў больш,

чым Беларусь. Зразумела, што ў нас няма ні "Златай Прагі", ні выкшталцонай "Бехераўкі", ні такога выдатнага піва, ды і яшчэ шмат чаго... І ўсё ж ...

Тыя, хто цікавіцца гісторыяй, ведаюць, што нашая Радзіма ў XV-XVII стагоддзях, кажучы сучаснай мовай, была ў агульнаеўрапейскім рэйтынгу па ўсіх цывілізацыйных і культурных паказчыках на даволі прыстойным узроўні. Было ў нас шмат замкаў, храмаў, палацаў, паркаў і іншых славутых збудаванняў, якія сёння зрабілі б гонар любой еўрапейскай краіне. Таму сведчанне, да прыкладу, цудам ацалелыя Мірскі і Нясвіжскі замкі, шэраг унікальных старажытных храмаў у Гародні, Сынкавічах, Мураванцы ды інш.

На жаль, захавалася тых помнікаў даўніны няшмат. І не дзіва, бо надта ж цяжка было гэта зрабіць у становішчы паміж груваcткімі жорнамі дзвюх розных цывілізацый. Разам з тым, такое вось спецыфічнае, экстрымальнае месцазнаходжанне "Зямлі пад белымі крыламі" сфармавала ўнікальную сюжэтную канву нашай гісторыі, якой не шмат хто можа пахваліцца. Безліч усялякіх вялікіх і малых падзеяў еўрапейскага і сусветнага значэння адбывалася акурат на нашых прасторах і пакінула тут шмат слядоў, у тым ліку і неразгаданых таямніцаў.

Нядаўна нават кніга выйшла пад назваю **"Тайны беларуской истории"**. Аўтар яе В. Дзеружынскі з сізіфавай апантанасцю спрабуе некаторыя з тых таямніц, прынамсі, стратэгічных, раскрыць. Мяне асабіста гэтая праца ўразіла, бо маштабы закранутых там праблемаў гіганцкія, а магчымасці іх вырашэння – мінімальныя. І ўсё ж Дзеружынскі рызыкнуў, ён змог невялікі інфармацыйны патэнцыял сканцэнтраваць і выдаць на гара твор, які не пакідае абыякавых. Усе закранутыя ў ягонай кнізе моманты нашай эвалюцыі – ад паходжання да найбольш значных падзей найноўшай гісторыі – востра патрабуюць сёння свайго новага асэнсавання. Дзеружынскі менавіта такім шляхам і пайшоў, балансуючы ўвесь час, па-сутнасці, на лязе нажа. Не з усімі ягонымі высновамі можна пагадзіцца, бо, на жаль, яны часам выразна тэндэнцыйныя. І ўсё ж, на маю думку, гэтая таленавітая кніга сваю справу робіць, услед за нашымі лепшымі пісьменнікамі і гісторыкамі (У. Караткевіч, К. Тарасаў, У. Арлоў, Л. Дайнека, Г. Сагановіч і інш.) яна рэальна абуджае цікавасць беларусаў да сваіх каранёў, да асэнсавання свайго месца ў свеце. Асабліва на фоне сённяшняй, новай пасля пачатку 90-х гадоў, хвалі цікавасці да нацыянальнай гісторыі. Разам з тым, кніга "Тайны беларуской истории" яшчэ раз пацвердзіла, што наша гісторыя застаецца пакуль што шмат у чым тэра інкогніта.

І вось тут – вялізнае поле для дзейнасці нашых нацыянальна свядомых гісторыкаў, сярод якіх шмат таленавітых і сур'ёзных даследчыкаў. Хто з нас, да прыкладу, не памятае, якога шуму ў нашым "балоце" нарабіў у свой час згаданы Генадзь Сагановіч сваёй **"Невядомай вайной"**? Чаго толькі не прыпісвалі яму ўсемагчымыя "каментатары"! Зусім нядаўна гісторыку нават давялося даваць тлумачэнні ў СМІ наконт некаторых палажэнняў тае даўняе кнігі...

Зразумела, што вялікая роля ў новым асэнсаванні беларускай гісторыі зноў будзе належаць і нашым лепшым майстрам слова – людзям найлепш здольным інтуітыўна, нават па нязначных рэштках гістарычных слядоў і фактаў рэканструяваць у сваіх мастацкіх тэкстах мінуўшчыну. Так як зрабілі гэта палякі напрыканцы XIX стагоддзя, стварыўшы сваю практычна новую гістарычную міфалогію. Ды ўжо і сёння ў нас ёсць выразныя зрухі ў гэтым плане.

Не буду рабіць аналіз усіх нашых здабыткаў за апошні час, але назаву толькі некалькі мастацкіх твораў, якія публікаваліся адносна нядаўна ў часопісе "Дзеяслоў". Парадваў адзін з "апошніх магікан" – тых, што яшчэ поруч з Караткевічам пачынаў ствараць славу гістарычнаму жанру нашай новай беларускай літаратуры – Л. Дайнека – сваім раманам **"Пра лісоўчыка, злога хлопчыка"**. Батальныя сцэны ў гэтым творы выпісаны настолькі бліскуча, настолькі аб'ёмна, што ўяўляеш іх абсалютна рэальна.

З вялікай асалодай прачытаў у "Дзеяслове" некалькі новых, на мой погляд вельмі таленавітых, гістарычных раманаў маладзейшых аўтараў – **"Гульня ў Альбарутэнію..."** і **"Сутарэнні Ромула"** Л. Рублеўскай (гэтыя два творы ўвайшлі і ў новую кнігу пісьменніцы) – і **"Сим победиши"** А. Пашкевіча. І Рублеўская, і Пашкевіч ужо не першы раз паспяхова звяртаюцца да гістарычнай тэматыкі. Абодва аўтары па-майстэрску карыстаюцца прыёмам паралельнага рамана, што заўсёды дае новыя магчымасці для раскрыцця вобразаў герояў. У выніку атрымалася сапраўдная і вельмі цікавая літаратура, якую чытаеш на адным дыханні і да слёз шкадуеш, калі твор завяршаецца. Рублеўская на грунце рэальных дакументаў здолела стварыць вельмі ўдалы вобраз беларускага інтэлігента 30-х гадоў мінулага стагоддзя – своеасаблівага героя таго часу – прычым у самым наўпраставым сэнсе гэтага слова. Пашкевіч смела сягае ў значна больш аддалены час, зрабіўшы галоўным героем не чалавека, а кнігу, дакладней, той раздзел з Евангелля, які меў, мае і мецьме каласальны ўплыў на ўсё развіццё нашай цывілізацыі. Мастаку заўсёды не проста звышзадачу такога кшталту абгрунтаваць, бо на яго аказвае каласальны ўплыў рэальнае сённяшняе жыццё і акружэнне, процьма спакусаў, што збіваюць са шляху. Да гонару Пашкевіча, яму тую звышзадачу вырашыць удалося. Тэма вельмі цікавая і перспектыўная, і тут пісьменніку і карты ў рукі.

На мой погляд, усе пералічаныя вышэй творы – гатовы добры сцэнарны матэрыял для новых гістарычных кінапастановак беларускай нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". Перакананы, што гэта рана ці позна здзейсніцца!..

Відавочна, што традыцыі У. Караткевіча жывыя і ў нас ёсць яркія яго наступнікі. Бо толькі праз таленавітае і смелае асэнсаванне свайго мінулага мы зможам нарэшце ўсвядоміць і сваё рэальнае месца ў сённяшнім свеце, ды, зрэшты, і ўвогуле ацалець як нацыя ў сучасных геастратэгічных глабалісцкіх віхурах. Да таго ж, гэта абавязкова паўплывае і на цікавасць іншых народаў да нашай зямлі і народа, які яе насяляе.

## Міфы на экспарт

Як вядома, адгалоскі даўніны часцей за ўсё даходзяць да нас у выглядзе міфаў, якія затым уседлівыя гісторыкі даводзяць да навуковападобнага выгляду і прадстаўляюць як уласна гісторыю. Ніхто сёння дакладна не ведае, што насамрэч адбывалася некалькі тысячагоддзяў таму ў Грэцыі і Рыме. Але, патрапіўшы сёння ў месцы, дзе знаходзяцца старажытныя разваліны, мы, раскрыўшы рот, слухаем экскурсаводаў, якія распавядаюць нам... не, не пра рэальную ход падзеяў, якія там адбываліся і якіх ніхто сёння не ведае, а ўсё тыя ж... міфы.

На міфах грунтуецца і нашая гісторыя, незалежна ад таго, вусныя яны ці пісьмовыя. Але і сярод іх ёсць свая іерархія. Некаторыя міфы займаюць у той іерархіі прыярытэтнае месца, бо закранаюць галоўнае, а ёсць і такія, якія падаюцца нам другаснымі. Яны больш прыземленыя, а часта, нават і "заземленыя", але і яны цярпліва чакаюць сваёй чаргі на разгадку нашчадкаў. Частка з іх мае выразную сенсацыйную афарбоўку, несучы ў сабе элемент таямніцы. Часам па глыбіні інтрыгі, якую такія лакальныя таямніцы-сенсацыі ў сабе заключаюць, яны значна пераўзыходзяць нашыя рэгіянальныя магчымасці іх разгадкі.

Менавіта такія міфы-таямніцы, калі іх крыху ажывіць, "прапіярыць", могуць сыграць вялізную ролю ў стварэнні турысцкай прывабнасці нашага краю. А рэзкае павелічэнне турысцкай прывабнасці нашага краю, можа стаць якраз тым самым рэальным "паравозам", што... выцягне і ўсю астатнюю, не вельмі зайздросную пакуль, нашую эканоміку з застарэлай багны.

І вось тут ізноў самы час вярнуцца да тэмы 200-годдзя юбілею катастрофы арміі Напалеона на Бярэзіне. Тая падзея якраз і ёсць крыніцай такіх вось мі-

фаў-таямніцаў. Адзін з іх быццам бы даўно і добра вядомы ў свеце – лёс так званых “скарбаў Напалеона”. Гаворка ідзе пра нарабаваную ў 1812 годзе ў Маскве і вывезеную адтуль напалеонаўскім войскам каласальную колькасць розных каштоўнасцяў. Таямніцы той ужо два стагоддзі, але яна дасюль яшчэ нікім не разгаданая. Доўгі час усё звязанае з ёю мы спакойна аддавалі на водкуп нашым суседзям – расейцам, палякам, летувісам, ці тым жа нашчадкам напалеонаўскіх заваёўнікаў. І не да таго нам было, а, магчыма, і не бачылі беларусы, якія некалькі стагоддзяў не мелі сваёй дзяржавы, у гэтай тэме для сябе нічога важнага. На маю думку, сёння якраз і надышоў час нам разабрацца як след і з гэтай спадчынай.

Чытач тут скептычна пасміхнецца, маўляў, ізноў пра стары заезджаны міф! І насамрэч, пра скарбы Напалеона не пісаў толькі лянівы. Але адразу адзначу, сёння толькі беларусы могуць пісаць пра гэта найбольш прадметна, бо, па сведчанні шматлікіх адмыслоўцаў, скарбы тыя рэальна захоўваюцца менавіта на нашай зямлі...

## Капітал таямніцаў

Пра існаванне скарбаў Напалеона і менавіта беларускі іх след ёсць нямала пісьмовых сведчанняў: прыватная перапіска французскіх афіцэраў з Парыжам падчас паходу 1812 года ў Расію, мемуары шматлікіх яго ўдзельнікаў. Але, напэўна, самыя вартыя даверу успаміны блізкіх да Напалеона людзей: маршала Берцье – начальніка штаба напалеонаўскага войска і асабістага ад’ютанта імператара графа Сегюра. Абодва яны сярод сваіх калегаў мелі вельмі добрую рэпутацыю. Для шукальнікаў скарбаў іх ўспаміны ёсць на сённяшні дзень найболей інтрыгуючымі даведнікамі ў таямнічым лёсе “скарбаў Напалеона”.

Даследчыкі з розных краін свету, якія грунтоўна прааналізавалі вышэйзнаданыя дакументы, зрабілі кароткія, але даволі ёмкія высновы:

а) абоз, нагружаны скарбамі, з Масквы насамрэч выйшаў;

б) пераважная частка абозу дайшла да Беларусі;

в) ні адзін з тых вазоў, якія везлі скарбы з Масквы, так і не з’явіўся на тагачаснай заходняй мяжы Расіі;

г) як вынік, ні адна, нават самая маленькая калымага з каштоўнасцямі, у Францыі так і не з’явілася, і ніхто там так і не ўбачыў нічога са згаданых нямераных маскоўскіх скарбаў...

Адна з найбольш вядомых версій знікнення скарбаў Напалеона звязаная якраз з пераправай войска Напалеона праз беларускую раку Бярэзіну. Зрэшты, нямала знойдзецца сёння месцаў у Беларусі, жыхары якіх згадваюць “найсапраўдныя факты” таго, што менавіта ў іхніх мясцінах і схаваў Напалеон свае нарабаваныя ў Расіі скарбы. Прачытаў, да прыкладу, зусім нядаўна надзвычай цікавыя, часам проста сенсацыйныя, успаміны вядомага беларускага пісьменніка і драматурга Алеся Петрашкевіча “Крыніцы і каламуць”. (Дарэчы, незаслужана незаўважаную грамадскасцю кнігу, якая проста бліскуча асвятляе цэлы пласт нашай гісторыі!). Дык вось, жыхары Талачыншчыны, адкуль родам пісьменнік, і да сёння абсалютна перакананыя, што свае скарбы Напалеон прыхаваў менавіта ў адным з іхніх азёраў.

Я мяркую, што чытач ужо зразумеў, куды я хілю. Пры належным інфармацыйным забеспячэнні гэтай тэмы ў свеце – працей кажучы, яе піяры – цікавасць да нашага краю сёння можа ўзрасці неймаверна. Зразумела, найперш у суседняй Расіі, дзе да тэмы скарбаў заўсёды ставіліся вельмі сур”ёзна і па-расейску маштабна. Але і не толькі. Сёння, у звязку са згаданым юбілеем паходу Напалеона ў Расію, цікавасць да пошуку ягоных скарбаў у астатнім свеце пачынае імкліва ўзрастаць. Зноў пачало з’яўляцца нямала публікацый на гэты конт у замежным, асабліва ў французскім друку. У Францыі гэтая тэма будзе заўсёды актуальнай,

бо нашчадкі тых, хто застаўся назаўсёды ў нашых лясах і балотах 200 гадоў таму, спяць і мараць вярнуць тыя згубленыя ў Беларусі скарбы.

Што гэта менавіта так, што сляды напалеонаўскіх скарбаў існуюць на нашай зямлі, сведчыць і адзін рэальны выпадак з майго жыцця, пра які я і хачу распавесці чытачам.

## Зніклы егер

Скажу шчыра, асабіста я доўгі час да “фактаў” наяўнасці ў Беларусі якіх бы там ні было скарбаў, а тым больш скарбаў Напалеона, сур’ёзна не ставіўся. Лічыў іх найперш плёнам багатай творчай фантазіі шматлікіх аматараў сенсацыяў, якіх спрадвеку безліч у чалавечым асяродку, і, вядома ж, плёнам высілкаў маіх калегаў-журналістаў і белетрыстаў. Але нядаўна ў маім жыцці здарылася падзея, якая моцна змяніла мой скептычны погляд.

Патэлефанаваў неяк стары прыяцель, аднакурснік па маёй першай адукацыі – машынабудаўнічым тэхнікуме, які працаваў егерам у Бярэзінскім запаведніку, Уладзік Шышко. Паведаміў, што знаходзіцца ў сталіцы і тэрмінова хацеў бы са мной сустрэцца. За вячэрай у адной з кавярняў аднакурснік распавёў мне гісторыю, якая была больш падобная на сюжэт крутога прыгодніцкага рамана. Мне нават спачатку падалося, што Уладзік разыгрывае мяне – балазе, у часы нашай маладосці ён быў вялікім аматарам такіх справаў. Але, мяркуючы па яго сур’ёзным і нават усхваляваным выразе твару, я зразумеў, што чалавеку не да жартаў ...

Уладзімір на той час працаваў егерам ужо каля чатырох дзясяткаў гадоў. Пайшоў на гэтую службу якраз неўзабаве пасля заканчэння “машынкі” па прыхільнасці сэрца. Бо яшчэ падчас навучання ён вылучаўся невычарпальнай любоўю да ўсяго жывога. Да прыкладу, у нашым цесным інтэрнацкім пакоі ён умудраўся трымаць сапраўднага хамячка, што было катэгарычна забаронена. Наша камендантша Марыя Іванаўна мела дакладныя “агентурныя” звесткі, што Шышко трымае жыўнасць, але “накрыць” парушальніка рэжыму так і не змагла – Валодзя быў фантастычна вынаходлівым.

Доўгі час пасля заканчэння тэхнікума мы з Шышко не бачыліся, і калі сустрэліся аднойчы выпадкова ў сталіцы напачатку 90-х, абодва моцна расхваляваліся. Тая сустрэча падарыла нам процьму прыемных настальгічных успамінаў пра цудоўныя часы нашага юнацтва. Затым Уладзік не раз запрашаў мяне да сябе ў госці на Бярэзіншчыну, дзе я спыняўся ў ягонай экзатычнай леснічоўцы, і ён з гонарам знаёміў мяне са сваімі ляснымі ўладаннямі. Уражанні мае былі проста неверагоднымі, бо хто ж не ведае, наколькі маляўнічыя тыя мясціны Беларусі.

І вось цяпер заўсёды флегматычны Уладзік быў проста непазнавальны, ён быў не толькі ўсхваляваны, але і, як мне падалося, нават напалоханы. Хутка ўсё праяснілася – Шышко з таямнічым выглядам паведаміў мне пра дзіўнае знікненне ягонага калегі па працы, як і ён, егера суседняга ўчастка Бярэзінскага запаведніка. Знік Марк (так звалі ягонага калегу) абсалютна нечакана, без усялякага папярэджання і без нейкіх слядоў, як быццам бы растварыўся. Калі я слушна нагадаў Уладзіку пра “кампетэнтныя органы”, якія мусяць займацца такімі справамі, ён толькі паблажліва ўсміхнуўся:

– Ды ўжо ж, я адразу і заявіў... Але там толькі рукамі развялі!.. Хутчэй іголку ў стозе сена знойдзеш, чым егера ў лесе, асабліва, калі ён сам там схавацца вырашыў...

Па словах Уладзіміра, Марк жыў у сваёй леснічоўцы таксама адзін, калі не лічыць ягонага ганчака з дзіўным імем Каркас, што шмат гадоў быў ценем гаспадара. Дарэчы, наўрад ці ўвогуле хутка хто-небудзь спахапіўся б шукаць адзіночку-егера ў лесе, калі б не згаданы Каркас, які нечакана аб’явіўся ля Уладзікавай

леснічоўкі. Прычым, што падалося майму аднакурсніку вельмі дзіўным, Каркас паводзіў сябе падкрэслена спакойна, нічым не выдаючы свайго хвалявання з нагоды драматычнага знікнення гаспадара.

Але факт заставаўся фактам – Марк знік з канцамі! І Уладзік быў глыбока перакананы, што здарылася гэта ў наўпроставым звязку з гісторыяй, якую ягоны калега распавёў яму незадоўга да свайго знікнення, прычым пад найвялікшым сакрэтам! Было відно, што цяпер Уладзіка проста распірала, каб з некім падзяліцца сваімі думкамі. Па ягоных словах, гаварыць пра ўсё гэта ў міліцыі, ці каму б там ні было, ён проста не рашыўся, бо тэма была “надта ж небяспечная”. А звярнуўся да мяне, бо ведаў пра мой немалы прафесійны журналісцкі досвед, і, безумоўна, разлічваў на нейкую параду, ці дапамогу.

## Французскі госць

Некалькі месяцаў таму да Марка ў ягоную леснічоўку, размешчаную ў вельмі маляўнічым месцы непадалёк ад ракі Бярэзіна, нечакана завітаў вялікі начальнік з лясніцтва, чаго, зрэшты, не здаралася ўжо шмат гадоў. Заехаў не з праверкай, а з асабістай просьбай – прыняць на пэўны час на пастой замежнага госця – французскага арнітолага. Француз, па ягоных словах, меў за мэту ў Беларусі вывучэнне арэала пералётных птушак. Паколькі Марк, калі не лічыць Каркаса, даўно жыў адзін, то адразу пагадзіўся – парадаваўся нават, маўляў, хоць будзе вечарамі з кім слоўцам перакінуцца...

Француз прыехаў назаўтра раніцай. Беларускай мовы ён не ведаў зусім і амаль не разумеў, але рускай мовай валодаў нядрэнна, і ўсё ж наконт “слоўцам перакінуцца” Марк моцна памыліўся. Раніцай Поль, так звалі госця, скупа вітаўся, хутка снедаў і адразу пасля гэтага сыходзіў у лес, прыхапіўшы з сабою заплечнік і нейкую металічную прыладу, падобную да тэлескапічнай вуды, і невялікую сапёрную лапатку. Тым усе зносіны і абмяжоўваліся. Вяртаўся Поль амаль зацемна, заўсёды моцна запэцканы і стомлены і, наспех павячэраўшы, тут жа ўладкоўваўся спаць. Яму было не да размоваў “па душах”. На настойлівыя прапановы гаспадара прыняць па чарцы беларускай самагонкі, трымаў стойкую абарону, маўляў, пакаштуе, калі справу скончыць...

Але неяк адвячоркам француз у леснічоўку не з’явіўся. Ужо добра сцямнела, і Марк пачаў трывожыцца – ці не патрапіў ягоны кватарант у бяду? Тым больш, што надвор’е выдалася не лепшым – пайшоў дробны аблажны дождж – і заблудзіцца немясцоваму чалавеку ў чужым лесе было вельмі проста. Марк вырашыў выправіцца на пошукі госця, спадзяючыся ў першую чаргу на правеpанага Каркаса. І той даволі хутка надзею спраўдзіў – ён раптам насцярожыўся і, надрэсіраваны не палохаць дзічыну, нягучна гыркнуў, і Марк зразумеў, што ягоны госць знайшоўся. І сапраўды, наперадзе ў прагаліне паміж дрэвамі мільганула слабое святло, і перад вачамі егера адкрылася дзіўная карціна, якая і насамрэч нагадвала сцэну са старых прыгодніцкіх раманаў.

На ўчастку запаведніка, які знаходзіўся ў веданні Марка, расло некалькі вельмі старых, па сутнасці рэліктавых, дубоў, аднаму з якіх было больш за паўтысячы гадоў. І акурат пад гэтым дубам яго зніклы госць пры святле ліхтарыка корпаўся ў вялікай свежараскапанай яме. Было відно, што ён наскрозь прамок, але ў сваёй апантанасці не звяртаў на дождж ніякой увагі. Марк знакам спыніў сабаку і стаіўся за дрэвам. Неўзабаве француз падняў з ямы на паверхню невялікую скрынку. У гэты момант егер разам са сваім Каркасам і выйшаў з-за дрэваў, трымаючы напагатоў стрэльбу... Француз, які відавочна не чакаў сведкаў, моцна зніякавеў...

У леснічоўцы Марк загадаў госцю адкрыць скрынку. У ёй быў загорнуты ва ўжо добра сапрэлую матэрыю скрутак, унутры якога аказалася нейкая карта.

– Што гэта? – спытаў Марк у француза. У адказ той здзіўлена паціснуў плячыма. Было відно, што і сам ён разлічваў на іншую знаходку. Госць моўчкі цяжка апусціўся ў крэсла. Разгаварыўся ён як след толькі тады, калі гаспадаром разам з госцем была выпіта да донца бутэлька самагонкі...

Поль быў у далёкай камандзіроўцы ў Тайландзе, калі паміраў у прытулку для старых ягоны вельмі сталага веку бацька. На пахаванне хлопец не паспеў, а па вяртанні яму перадалі бацькавыя асабістыя рэчы. У асноўным гэта былі асабістая перапіска і некаторыя справавыя паперы, якія ў большасці сваёй ужо ні для каго не ўяўлялі цікавасці. Некалькі дзён Полю было не да іх, але калі ён усё ж пачаў іх праглядаць, то на вочы патрапіла невялікая скураная папка, у якой ён знайшоў нейкую старую карту і пажоўклы ліст. Аўтарам ліста быў яго прапрадзед Жэрар – капітан французскага войска, удзельнік паходу войска Напалеона ў Расію ў 1812 годзе. І адрасаваны ліст быў ягонаму сыну Люсьену – прадзеду Поля. Змест ліста, у якім ішла размова пра падзеі амаль 200-гадовай даўніны, ашаламіў...

У лісце прадзеда распавядалася пра адступленне Вялікай французскай арміі ад Масквы восенню 1812 года і звязаныя з гэтым падзеі. Але самым сенсацыйным у тым лісце была згадка пра лёс часткі вядомых усяму свету “Напалеонаўскіх скарбаў”, якія везлі тады французы з Масквы.

## Вялікае абрабаванне

Як вядома, падчас свайго знакамітага паходу ў Расію 1812 года войскам Напалеона крыху больш чым за месяц вайны ўдалося захапіць яе другую сталіцу – Маскву. Тады гэты горад з насельніцтвам каля 300 тысячаў чалавек, быў адным з самых вялікіх гарадоў у Еўропе. Багатае радавое гняздо маскоўскіх князёў і рускіх цароў, Масква з’яўлялася буйным культурным і адміністрацыйным цэнтрам Расіі, яе другой сталіцай. Менавіта тут на тэрыторыі маскоўскага Крамля ў велізарным сховішчы каштоўнасцяў – так званай Аружэйнай палаце – і знаходзіліся на захаванні галоўныя спадчынныя каштоўнасці рускіх цароў.

Масква, дзе налічваліся сотні раскошных цэркваў і манастыроў, была і бясспрэчным рэлігійным цэнтрам Расійскай імперыі, а яе Успенскі сабор лічыўся ці не самым багатым у свеце. Унутранае ўбранне маскоўскіх храмаў здзіўляла сваім фантастычным багаццем. Чуткі пра іх залатыя купалы хадзілі далёка за межамі Расійскай імперыі. Менавіта праз іх і ўвайшоў ва ўжытак выраз – “Масква золатагаловая”...

Акрамя Аружэйнай палаты, храмаў і дамоў багатых гараджан, значныя каштоўнасці знаходзіліся ва ўрадавых установах – казначэйстве, асігнацыйным банку, горным упраўленні і іншых. Словам, для любых заваёўнікаў Масква ўяўляла з сябе надзвычай ласы “кавалак”. Не стала выключэннем і “Вялікая армія” Напалеона. Тым болей, што з-за разявацтва маскоўскіх граданачальнікаў пераважная большасць маскоўскіх скарбаў не была эвакуяваная.

Пасля паразы ў Барадзінскай бітве войска Кутузава Масква была па сутнасці кінутая на рабаванне захопнікам. Пераможцы, увайшоўшы ў гэты горад у вераснёўскія дні 1812 года, усчалі ў ёй сапраўдны баль. Па сведчанні відавочцаў, прыход “Вялікай арміі” з цывілізаванай Еўропы нагадваў уварванне дзікіх орд гунаў. Масква была нечувана нават па тых часах абрабаваная. З неверагоднай сквапнасцю ліхаманкава хапалі ўсе: ад генералаў да апошніх абозных прастытутак. Асабліва пацярпелі храмы, дзе азвярэлыя “заваёўнікі Еўропы” абдзіралі срэбнае і залатое пакрыццё купалоў, рызніцаў, абрывалі аклады з каштоўных абразоў, многія з якіх тут жа ламалі на кавалкі і палілі, каб сагрэцца. У згаданым Успенскім саборы вандалы нават усталявалі плавільныя гораны, дзе пераплаўлялі ў зліткі каштоўныя вырабы з серабра і золата, унікальныя па прыгажосці творы

мастацтва. Шматлікія цэрквы былі ператвораныя ў казармы, бойні для скаціны, склады, стайні і г.д.

Не адставаў ад свайго ваярства і імператар, які імкнуўся адзначыць знаходжанне ў заваяванай краіне трафеямі, што ўяўлялі для расейцаў сімвалічную каштоўнасць. Ён загадаў зняць са званіцы Івана Вялікага адну з галоўных рускіх святынь – залаты крыж, а з Аружэйнай палаты забраць шэраг галоўных гістарычных рэліквій Расіі. Гэтыя трафеі мусілі стаць пры вяртанні ў Парыж важкім сімвалам пакарэння Расіі.

Фіналам "балю пераможцаў" у Маскве стаў страшэнны пажар, які ў лічаныя дні ператварыў горад у котлішча.

Напалеон нейкі час чакаў у разгромленай Маскве капітуляцыі, як яму здавалася, загнаных у кут ворагаў, але, так і не дачакаўся. Смяротна абражаны Аляксандр I ніяк не адказаў на адпаведнае пасланне Напалеона. І той 19 кастрычніка 1812 года змушаны быў разам са сваім войскам пакінуць Маскву. Але на той момант усе прымальныя для французаў шляхі адыходу ўжо былі шчыльна перакрытыя праціўнікам. І ў Банапарта заставаўся толькі адзін шлях вяртання на захад – па спустошанай Смаленскай дарозе...

За адступаючым з Масквы войскам вялізнай шматкіламетровай змяёй пацягнуўся абоз, цяжка загружаны нарабаванымі каштоўнасцямі. Лік вазоў у тым абозе быў амаль што роўным колькасці вояў са стрэльбамі, бо практычна кожны афіцэр і салдат мелі ўласны воз, а то і не адзін, дзе былі ўпакаваныя нарабаваныя ў Маскве трафеі.

Чаго толькі не было на вазах і фурманках: скрынкі і бочкі з золатам і срэбрам у злітках і манетах, дыяменты і жэмчуг, вышыванае золатам і каштоўнымі камянямі адзенне, дарагая старадаўняя зброя, каштоўныя карціны, багатае царкоўнае начынне! Канчатковым пунктам маршруту гэтага гіперабозу была, зразумела, Францыя, дзе заваёўнікі разлічвалі пры дапамозе нарабаванага паправіць сваё матэрыяльнае становішча. Гэтыя шчаслівыя сваёй багатай здабычай людзі яшчэ не ведалі, што хутка іхнімі касцьмі будзе спрэс усцеленая Смаленская дарога, што да Францыі дабяруцца лічаныя тысячы з іх, а ўвесь фантастычна багаты абоз пад час доўгай дарогі да мяжы з Расіяй бясследна знікне...

Адступленне "Вялікай арміі" было надзвычай складаным, ад голаду і моцнай сцюжы, якая ўсчалася неўзабаве, войска несла велізарныя страты. Напрыканцы лістапада рэшткі яго выйшлі да ракі Бярэзіны, дзе патрапілі ў сапраўдны "кацёл", арганізаваны расейцамі. Здавалася, што войска Напалеона ў пастцы, з якой няма выйсця. Блізкі паплечнік Напалеона маршал Ней заявіў тады, што калі імператар здолее з яе выблытацца, то ў ім сядзіць сам чорт...

Ці сядзеў насамрэч "рагаты" ў імператару – гісторыі дакладна невядома, але ў той крытычнай сітуацыі ён ізноў паказаў сябе чалавекам неардынарным. Праз мясцовае насельніцтва рускім падкінулі "дэзу" пра меркаваны ўчастак пераправы. А тым часам асноўныя сілы скіраваліся ў зусім іншае месца, дзе сапёры і пачалі ўзводзіць масты. Зрабіць гэта было няпроста, бо ў Маскве, каб вызваліць месца пад скарбы, было выкінута практычна ўсё сапёрнае абсталяванне, таму атрымалася пабудаваць толькі два масты. Для шматтысячнага войска гэта быў мізер, і каб паменшыць напружанне падчас пераправы, імператар загадаў спаліць вялікую частку экіпажаў, фурманак і вазоў, нагружаных нарабаваным у Маскве дабром. Нягледзячы на моцнае процідзеянне, загад імператара ўсё ж выканалі, для чаго спатрэбілася расстраляць нямала незадаволеных.

Мяркуючы па ўсім, менавіта гэты момант быў адным з ключавых у лёсе большай часткі нарабаваных у Маскве скарбаў. Тысячы амаль звар'яцелых людзей, зразумеўшы, што гінуць усе іх надзеі, сталі ліхаманкава закопваць сваю здабычу ў таемных месцах на беразе Бярэзіны і ў бліжэйшых лясах, спадзеючыся калісьці вярнуцца па яе...

## Блуканні французскага капітана

Прадзеду Поля капітану Жэрару Жакасу на шляху з Масквы да Бярэзіны пашчасціла ахоўваць абоз з асабістым грузам самога імператара. Камандаваў атрадам аховы генерал Боннэр. Дзякуючы ягонай волі і жалезнаму характару імператарскі абоз быў дастаўлены да Бярэзіны практычна ў цэласці. Жэрар да таго часу ўжо ведаў, што ён ахоўвае разам з іншымі гвардзейцамі імператара – на адным з пераходаў адзін добра ўпакаваны воз сарваўся з насыпу, і ўсе скрыні і бочкі з яго разляцеліся ў розныя бакі. Высветлілася, што яны былі набітыя залатымі і срэбнымі ўпрыгожаннямі...

Зразумела, што імператарскі абоз рыхтавалі да пераправы праз Бярэзіну ў першую чаргу. Але ўначы напярэдадні пераправы на яго з лесу нечакана напаў моцны казачы раз'езд рускіх. Напад удалося адбіць, і казакі адступілі. Але ў сутычцы апроч некалькіх гвардзейцаў, загінулі і некалькі коней з абозу – у выніку адзін з вазоў застаўся бясконным. Знайсці цяглавую скаціну ў той сітуацыі было немагчыма ні за якія грошы. Няма чаго было і казаць пра тое, каб перагрузіць каштоўнасці на іншыя вазы – яны і так ледзь рухаліся.

Пасля бою з казакамі генерал паклікаў да сябе Жакаса, свайго ад'ютанта і аднаго з гвардзейцаў з аховы і даручыў падрыхтаваць у бліжэйшым лесе месца, каб схаваць груз з бясконнага воза. Але папрасіў не задзейнічаць дзеля гэтага астатніх гвардзейцаў з аховы, а, паабяцаўшы шчодрую аплату, узяць некалькі дэзерціраў з размешчанага непадалёк бівака.

Уначы дэзерціры выкапалі ў лесе глыбокую яму, паскладалі туды скрыні з каштоўнасцямі, засыпалі і акуратна замаскавалі яе. І ў той жа момант па загадзе генерала капітан Жакас і гвардзеец расстралялі іх. Ад'ютант склаў карту месца захавання скрыняў і перадаў яе Боннэру. Пасля гэтага генерал узяў з прысутных урачыстую клятву, што яны захаваюць убачанае ў таямніцы.

Назаўтра пачалася пераправа праз Бярэзіну. Гэта было адно з самых страшных відовішчаў, якія давялося бачыць Жакасу. Масты не спраўляліся з нястрымнай лавінай вазоў і людзей. Многія з іх падалі ў ваду, некаторыя спрабавалі перабрацца ўплаў, у выніку ў Бярэзіне гінулі цэлыя палкі. Акурат у ноч перад пераправай ударыў моцны мароз, і некаторыя вершнікі, якія са сваімі коньмі спрабавалі рэчку пераплыць, намокнуўшы, хутка пакрываліся лёдам і замярзалі. Многія з іх так і засталіся стаяць, як лёдавыя статуі, разам са сваімі коньмі пасярод Бярэзіны. Але большасці імператарскага абозу ўсё ж удалося перабрацца на левы бераг ракі.

На наступны ж дзень пасля пераправы на маршы нечакана загінуў, быццам бы ад шалёнай кулі, той самы гвардзеец з аховы, што прысутнічаў пры захаванні скарбаў. А яшчэ праз дзень тая ж доля спасцігла і ад'ютанта генерала. Капітан Жакас разумеў, што будзе наступным, але схавацца ад усемагутнага генерала ён не паспеў...

Жакасу неверагодна пашанцавала, ён застаўся жывым, бо яго, паміраючага, падабрала беларуская маладзіца. Яна выхадзіла капітана, і той жыў у невялікай вёсачцы амаль цэлы год, перш чым знайшліся магчымасці і сродкі адправіцца на радзіму. Пасля вяртання капітан доўга шукаў генерала Боннэра і ўрэшце здолеў гэта зрабіць. Але калі, поўны пачуцця справядлівай помсты, з'явіўся ў дом генерала, то заспеў яго ўжо на божай пасцелі.

Боннэр зусім не здзівіўся прыходу капітана, бо Найвышэйшая сіла на той час ўжо пакарала яго спаўна. Па вяртанні ў Францыю ён не знайшоў у жывых нікога са сваёй сям'і – жонка і чацвёра ягоных малалетніх дзяцей памерлі ад нейкай эпідэміі. Генерал не вытрымаў удару і злёг сам. Жакас паспеў як раз да фіналу.

Боннэр падазваў яго бліжэй і ціха вымавіў: "Бог напэўна нездарма захаваў табе жыццё – менавіта табе наканавана цяпер стаць уладальнікам рускіх скарбаў..."

З гэтымі словамі ён дастаў з-пад падушкі пакет, перадаў у рукі капітана і хутка адышоў у лепшы свет. У пакеце была карта, спісаная ўнізе дробным тэкстам.

Такім чынам, прадзед Поля стаў аднаасобным уладальнікам таямніцы. Але і яму быў не лёс пакарыстацца рускімі скарбамі. Неаднаразова капітан спрабаваў выехаць у Расію, але абставіны ўсё ніяк не спрыялі. Болей за тое, неўзабаве ў Жакаса здарыўся канфлікт з законам, і каб вырataваць жыццё, ён быў змушаны ў спешцы эміграваць у Канаду. Праз некаторы час капітан ажаніўся там з мулаткаю, і ў яго нарадзіўся сын Люсьен. Менавіта яму ў лісце, знойдзеным Полем, ён і пісаў пра таямніцу скарбаў.

Калі Поль прачытаў ліст прадзеда ў сваёй парыжскай кватэры, ён задумаўся. Чаму ні прадзед, ні дзед, ні ягоны бацька пасля так і не спрабавалі шукаць скарбы ў Расіі? Адказ на гэта пытанне ён атрымаў, калі паспрабаваў прачытаць тэкст, напісаны ўнізе карты. Ён і быў, мяркуючы па ўсім, ключом асноўных каардынат месца пахавання скарбаў, але быў зашыфраваны невядомым шыфрам. Хутчэй за ўсё ён стаўся непадуладным яго блізкім. А падзяліцца сваёй таямніцай з пабочнымі людзьмі яны, відаць, не рашыліся...

Амаль год Поль зацята шукаў ключ да шыфра і аказаўся больш удачлівым за сваіх продкаў. З тэксту на карце ён даведаўся, што скарбы знаходзяцца ў адным з лясоў на левым беразе ракі Бярэзіна. Мяркуючы па геаграфічнай карце, гэтая зямля была цяпер тэрыторыяй суверэннай дзяржавы пад назвай Беларусь.

План паездкі ў Беларусь у Поля выспеў хутка. Нагодай для яе стала яго прафесійная дзейнасць – па спецыяльнасці Поль быў арнітолагам – адмыслоўцам па вывучэнні птушак. І неўзабаве ён звярнуўся ў беларускае пасольства па візу і за дазволам на навуковыя даследаванні ў арэале беларускай ракі Бярэзіны...

## Французскі пацыент

Калі Поль скончыў свой аповед, ён быў увесь у буйных кроплях поту і цяжка дыхаў. Было відавочна, што яму стала дрэнна і што ў яго пачынаецца сапраўдная ліхаманка.

– Але дзе ўсё ж скарбы?.. Вось гэта не вельмі на іх падобна !.., – паказаў Марк на карту і скрутак папер са скрыні, якія ляжалі на стале.

– Вы памыляецеся, – адказаў Поль, – гэтая карта і ёсць скарб, мяркую, што менавіта па ёй і можна адшукаць сапраўднае месца захавання каштоўнасцяў. А карта майго прадзеда была толькі праваднікам да яе... Мяркую, генерал Боннэр паспеў пасля захавання скарбу падстрахавацца і не везці карту скарбаў у Францыю. Ён схаваў яе ў гэтую скрынку і загадаў некаму закапаць у прыкметным месцы, спадзяючыся неўзабаве вярнуцца, зразумела, прыбраўшы са свету і выканаўцу гэтага загаду. Вядома, адразу ж была складзена карта новай схованкі, якая і адправілася з Боннэрам у Францыю і потым апынулася ў майго прадзеда... І вось гэтая карта, – паказаў Поль на карту на стале, – цяпер і растлумачыць нам сітуацыю.

Ён стаў уважліва разглядаць новую карту і раптам у раздражненні кінуў яе на стол. “Чорт! Стары Боннэр і тут застаўся верным сабе!.. І гэты тэкст таксама зашыфраваны!..

– Дык у чым справа, расшыфруй! – не вытрымаў Марк.

– На жаль, – праз сілу ўсміхнуўся француз, лоб якога пачаў пакрывацца буйнымі кропляму поту – на гэта патрэбен час, шыфр тут іншы і таксама няпросты...

Ліхаманка ўсё мацней біла француза, ён ледзьве трымаўся ў крэсле.

– Добра, ідзі, кладзіся, ты ўвесь дрыжыш, пра астатняе пагаворым заўтра, – паставіў Марк кропку ў размове. Поль запытальна зірнуў на карту...

– Бяры з сабой – усміхнуўся Марк – гэта ж твая маёмасць...

Але мяркуемай размовы назаўтра не адбылася. У Поля пачалася сапраўдная ліхаманка і ён знепрытомнеў. Марк нейкі час вагаўся, не ведаючы, што рабіць. Адправіўшы француза ў лякарню, была верагоднасць страціць ягоны след, а, значыць, і след скарбаў. Можна было паклікаць мясцовую знахарку – бабулю Кацярыну з суседняй вёскі – яна паспяхова лячыла шматлікія балячкі ў мясцовых людзей... Але, крый Божа, з замежнікам нешта здарыцца!.. Тады начальства не даруе!..

Калі Марк раніцай зайшоў у пакой, дзе ляжаў Поль, той быў без прытомнасці, але моцна сціскаў у руцэ сваю карту. Марк далікатна выцягнуў яе з рук Поля, паклаў побач на стол, пастаяў яшчэ хвіліну ў нерашучасці, але затым, гучна вылаяўшыся, накіраваўся да тэлефона выклікаць хуткую дапамогу...

"Хуткая" спраўдзіла сваю назву і з'явілася даволі аператыўна. Калі машына павінна была ад'ехаць, Марк раптам, папрасіўшы хвіліну пачакаць, збегаў ў леснічоўку, схапіў са стала карту Поля і, вярнуўшыся, усунуў яе ў ягоны заплечнік.

У раённай лякарні, куды праз пару дзён заехаў Марк, француза ўжо не было. Галоўурач – стары знаёмы – толькі развёў рукамі:

– Ды назаўтра прыехалі людзі з французскага пасольства і забралі твайго госця ў сталіцу. У яго малярыя, калісь у афрыканскіх джунглях падчапіў. – Марк моўчкі пакрочыў прэч. Цяпер, каб знайсці Поля, трэба было ехаць у сталіцу.

Бліжэйшы аўтобус у Мінск меўся быць толькі раніцой. Марк хацеў было ехаць на "папутцы", але перадумаў:

– Куды ён дзенецца ў такім стане .... Заўтра і паеду...

У Мінску Марк адразу ж адправіўся ў шпіталь, куды, як яму ўдалося даведацца, павезлі Поля. Але ў рэгістратуры яму паведамілі, што пацыента – французскага падданага Поля Жакаса – учора ўвечары транспартавалі на самалёце ў Францыю...

Па вяртанні Марк патэлефанаваў Уладзіміру і пры сустрэчы распавёў яму пра здарэнне. Затым праз нейкі час, па сведчанні Уладзіка, Марк зрабіў запыт у французскую амбасаду на Поля Жакаса, але адказу не атрымаў. Француз разам са сваёй картай скарбаў знік бясследна. Некалькі дзён пасля гэтага Уладзік не бачыў Марка, а калі нарэшце сустрэў, то не пазнаў. Той быў страшэнна схуднелы, як быццам бы таксама падхапіў нейкую ліхаманку, і моцна заклапочаны. А яшчэ праз некалькі дзён да леснічоўкі Уладзіка прыбег самотны Каркас...

З Уладзікам Шышко мы праседзелі ў той вечар дапазна. Але я так і не здолеў даць яму нейкай карыснай парады, бо ўся гэтая гісторыя падалася мне надта ж цьмянай. А напрыканцы нашай сустрэчы я настойліва параіў аднакурсніку ўсё ж звярнуцца ў "органы".

## Парыжскія паштоўкі

Уладзімір з'ехаў назаўтра раніцай і патэлефанаваў мне дзесьці праз месяц. Ягонае паведамленне яшчэ больш заінтрыгавала мяне. Напярэдадні паштальён на сваім уазіку заехаў да яго ў леснічоўку і прывёз адпраўлены на ягоны адрас канверт з замежным штэмпелем. Калі Уладзік ускрыў яго, то там аказалася паштоўка з відам Эйфелевай вежы, проста на выяве якой былі наўскасяк напісаныя словы: "Прывітанне з Парыжу!" без подпісу. Але Уладзік, нават і не будучы экспертам-графолагам, без цяжкасці пазнаў даўно знаёмы яму почырк Марка. Пра ўсё гэта аднакурснік і паведаміў мне па тэлефоне.

Потым за справамі я нейкі час не меў сувязі з Уладзікам Шышко. І калі пазней набраў ягоны нумар, то пачуў у адказ, што "апарат абанента выключаны"... Напрацягу некалькіх месяцаў я рабіў спробы дазваніцца да аднакурсніка, але з

тым жа поспехам. Нарэшце я звязаўся з яшчэ адным нашым аднакурснікам па "Машынцы" Сяргеем Масарскім і прапанаваў яму на ягоным аўто наведацца ў Бярэзінскі запаведнік да Уладзіка Шышко ў госці.

Калі даехалі да Уладзікавай леснічоўкі, нас сутрэла цішыня. Леснічоўку знайшлі замкнёнай і без ніякіх прыкметаў жыцця. У лясніцтве мілавідная сакратарка з таямнічай усмешкай паведаміла, што егер Уладзімір Шышко звольніўся па ўласным жаданні і адбыў у невядомым кірунку. Больш мы ніякай інфармацыі пра Уладзіка не знайшлі. "Лясны затворнік", як мы яго называлі з Сяргеем, даўно разышоўся з жонкай, з якой не нажыў дзяцей, і жыў вольным казаком. А паколькі быў дзетдомаўцам, то ніякіх сваякоў у яго ў наяўнасці не мелася, і мы ні з чым вярнуліся ў сталіцу.

Зрэшты, на тым таямнічая гісторыя пра скарбы не скончылася. Праз некалькі тыдняў у сваёй паштовай скрынцы я знайшоў канверт з замежным штэмпелем, у якім была паштоўка з відам... Эйфелевай вежы і напісанымі на ёй наўскос словамі: "Прывітанне з Парыжу!" Зразумела, без подпісу... Але гатоў паклясціся, ды і Сяргей у тым са мной салідарны, што гэта быў почырк Уладзіка Шышко!

*P.S.* Вось такая непрыдуманая гісторыя яшчэ аднаго следу "скарбаў Напалеона". Куды падзеліся Уладзік з Маркам? Ці вернецца Поль у Беларусь па скарбы? І ці рэальна іх знайсці па праходжанні такога вялікага часу? І ці ёсць наогул скарбы ў раёне пераправы войскаў Напалеона праз Бярэзіну або ў іншых месцах Беларусі? Вось такія пытанні паўсталі ўжо ў мяне самога пасля сустрэчы з Уладзікам Шышко.

Я вырашыў пагаварыць на гэтую тэму з некаторымі вядомымі беларускімі археолагамі і гісторыкамі. Не ўсе з іх падзяляюць версію існавання скарбаў. Але нават і песімісты не могуць упэўнена абвергнуць такую магчымасць. Даследчыкі сыходзяцца на меркаванні, што абоз са скарбамі меў месца і што ён пасьпяхова дайшоў да межаў Беларусі. Ніхто не спрачаецца, што ў Францыю гэтыя каштоўнасці так і не патрапілі. Але вось дзе ён знік, тут шмат пытанняў...

Выкажу і сваё ўласнае меркаванне, бо ўжо шмат гадоў цікаўлюся гэтай тэмай. Мне здаецца, што шанцы знайсці скарбы Напалеона ў Беларусі усё ж даволі высокія. Прынамсі, за мінулыя 200 гадоў інфармацыя пра тое, што хтонебудзь знайшоў такую вялізную колькасць каштоўнасцяў, наўрад магла застацца незаўважанай у свеце. А што да пэўнага месца захавання скарбаў, то яны сапраўды знаходзяцца хутчэй за ўсё ўздоўж берагоў Бярэзіны ці ў адным з яе старых рэчышчаў. Хоць нельга выключаць і іншыя адрасы ў Беларусі, асабліва раён Ашмянаў і згаданага Талачына.

І, як ні дзіўна, шанцы знайсці скарбы з кожным годам усё павялічваюцца. Як растлумачылі мне тыя ж адмыслоўцы, у свеце сёння створаныя прынцыпова новыя сродкі па пошуку скарбаў, здольныя "бачыць" каштоўныя металы скрозь тоўстыя пласты зямлі ці вады. Умовы пошуку, якія прапануюць фірмы, якія валодаюць гэтым абсталяваннем (яго кошт – каля 100 мільёнаў даляраў) простыя: у выпадку поспеху 80 адсоткаў знойдзенага дастаецца ім...

Такім чынам, зусім не выключана, што праз нейкі час мы з вамі станем сведкамі адшукання знакамітых "скарбаў Напалеона" ў Беларусі. Засталося трошкі пачакаць...

Міхась Скобла



...Мова валодае незвычайнай жывучасцю...
І я ўпэўнены – беларуская мова
ніколі не знікне...

# “Мову ратуе – літаратура”

***Гутарка Міхася Скоблы з Ігарам Шклярэўскім***

***– Ігар Іванавіч, перад нашай гутаркай вы прапанавалі паглядзець дакументальны фільм “Вочы вады”, зняты вашым братам Алегам Шклярэўскім – кінааператарам з вельмі паэтычным светабачаннем. У тым фільме вы ўвесь час пры вадзе. А якая вада вам бліжэй – рачная плынь, азёрнае люстэрка ці, можа быць, марская бязмеж?***

– Ну вядома ж, бліжэй за ўсё рака, таму што гэта – жывы час. На беразе ракі ты сустракаеш і праводзіш адначасова кожнае імгненне. І вось гэты амаль невыяўны стан і дорыць мне самае вытанчанае шчасце. Разумееце, ёсць стан, які не паддаецца слоўнаму выяўленню, і ёсць пачуцці, у якіх няма назваў. Рака – жывая плынь, якая не ведае болю. І вось я нічога не разумею, быццам я празрысты бог бязлюддзя, пранізаны шчымлівай свежасцю няведання.

Калі гаварыць пра ваду агульнымі словамі, то кожны можа сказаць пра яе лепей ці горай, паспрабаваць выказаць сваю далучанасць да яе. Як наш адбітак не бачыць нас (мы бачым, а ён нас не бачыць), таксама і вада – яна нас не бачыць, але яна

ёсць у нас, яна прыцягвае нас, хвалюе, яна не паддаецца апісанню. Я памятаю, што ў ціхія пахмурныя дні вада была бяздоннай, і мяне цягнула да яе з горада, і я не ведаў, што гэта прыцягвае мяне памяць пра той час, калі мяне не было на зямлі, калі я быў вадой. І гэты ўспамін пра сваю адсутнасць, і гэтае хваляванне, абсалютна невытлумачальнае хваляванне, з якім я падыходзіў да ракі, і гэтыя водбліскі пад драўлянымі хвалярэзамі, сполахі язёў, галаўнёў, яны мяне хвалявалі мацней, чым водбліскі нейкіх залатых вырабаў і каштоўнасцяў на чорным аксаміце ў вітрыне.

Гэтая памяць вады захавалася ўва мне з хлапечых гадоў. На шчасце, яна не знікла на працягу пакаленняў, яна не перасечаная рыдлёўкамі, як здарылася ў многіх вяскоўцаў. І тут – альбо так, альбо гэтак. Але я заўважыў, што на фотаздымках я рэдка ўсміхаюся, а ў возеры, у люстэрку вады, нават у вядры з вадой я бачу свой шчаслівы твар. Гэта невытлумачальна. Я не магу гэта вытлумачыць, але я бачу шчаслівае адлюстраванне ў рацэ, у вядры, а як толькі на мяне наводзяць фотаапарат, у мяне робіцца скаваны твар – быццам не мой.

***– У вашай паэме “Летапісец ракі” кожны мае адкуль напіцца вады: Васіль Быкаў – з Нёмана, Віктар Казько – з Прыпяці, Віктар Астаф’еў – з Енісея, акадэмік Дзмітрый Ліхачоў – з Ладагі. У кожным выпадку мае месца геаграфічная прывязка. А з якой ракі хацелася б напіцца Ігару Шклярэўскаму?***

– У мяне няма геаграфічнага патрыятызму. Я перажыў некалькі рэк. На жаль, я перажыў тры ці чатыры ракі. Гэта сапраўднае гора. Але мае рэкі, напэўна, з’ядналіся, быццам гэта адна рака: Дняпро, Сож, Саяна (у Архангельскай вобласці), Цераць (у Карэліі), Умба (на Кольскай паўвыспе)... Мае рэкі злучаюцца ў душы, у маёй памяці ў адну раку. А рака, з якой мне хочацца напіцца... Напэўна, усё ж Дняпро – з яго абрывамі, з плакучымі вербалозамі, з пяскамі. Гэтыя наддняпроўскія вербалозы, срэбныя спадыспаду, пад якімі паблісквае млечны шлях малькоў... Так – Дняпро, бо гэта мая першая рака.

***– Гэта як першае каханне, так?***

– Не, што вы! Рака – гэта больш, чым першае каханне! Рака – гэта ўсё.

***– Алесь Адамовіч у сваёй апошняй прыжыццёвай кнізе прыгадвае словы адной чэхаўскай гераіні, яе трохкратнае: “В Москву! В Москву! В Москву!”. А потым дадае ад сябе і для сябе: “А для вечнасці – Беларусь”. А для вас ці стала Масква родным домам, ці яна і для вас – як часовы прытулак?***

– Я скажу вам так: для мяне радзіма – гэта мова. Я – рускі паэт. Па бацьку я – беларус, па маці – і беларус, і рускі, там дзве крыві. Але для мяне не было, няма і не будзе ніякіх шлагбаўмаў, ніякіх межаў паміж Беларуссю і Расіяй. Я ж пераклаў “Слова пра паход Ігара”. Ягоны аўтар, як неаднойчы і аргументавана даводзілася, паходзіў з беларускіх земляў, з Полацкага ці Тураўскага княстваў – цяпер гэта Беларусь. У тэксце “Слова...” ёсць нямала падказак на гэты конт. Напрыклад, слова “цвяліць” і сёння ёсць у слоўніках беларускай мовы. Ні ў рускай, ні ва ўкраінскай мовах вы гэтага слова не знойдзеце. “Рано начали вы Половецкую землю цвелить...”. Само імя аўтара “Слова...” – Хадына (гэта адкрыццё Андрэя Чарнова): “Рек Боян і Ходына...”. А раней слова “Хадына” падзялялі на два словы: “ходы” і “на”. Быццам Баян кудысьці там хадзіў. Не – “гаварылі Баян і Хадына”. Гэта фантастычнае адкрыццё Андрэя Чарнова. Ён шчасліва злучыў у адно два словы. А Хадына – гэта беларускае імя, яно мела распаўсюджанне толькі ў Беларусі. І яшчэ адзін момант трэба ўлічыць. У “Слове...” гаворыцца пра падзеі вельмі даўнія. Чаму аўтар успамінае Усяслава Полацкага, бітву на Нямізе? Ён жа, прыкладам, мог успомніць асляпленне Васілька Святаполкам Акаянным. Але ён успамінае Усяслава Чарадзея – князя, празорцу, вешчуна, які “рыскаў ад Кіева да Тмутаракані” і (гэта геніяльнае




*Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ і Міхась СКОБЛА*

месца!) у Кіеве чуў, як у Полацку на Святой Сафіі звіняць званы. Таму аўтар "Слова..." адназначна з гэтых мясцінаў.

Я памятаю, як гэтую версію выслухаў акадэмік Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў – з маўклівай згодай. І толькі дадаў, што і Салаўёў пра тое самае гаварыў.

Што ж датычыць канкрэтнага адказу на вашае пытанне... У мяне яшчэ не "шкляроз", я памятаю, адкуль я і хто я, і што такое для мяне Масква, і што такое Беларусь. Ведаеце, ёсць з'ява такая, я называю яе падвойным зрокам. Вось мы з вамі гаворым, а ў мяне перад вачыма можа раптам узнікнуць вельмі рэальна дняпроўскі бераг, лодка-пласкадонка пад вербалозамі, залітая вадою, бляшанка з-пад кансерваў, якою вычэрпваюць ваду... І вось падобныя відзежы ў мяне ўзнікаюць абсалютна без прычыны ў любым месцы – у Доме літаратара, у сяброўскай кампаніі. Хоць я жыву ў Маскве ўжо амаль паўстагоддзя – з 1965 года. Але колькі я пражыў там насамрэч, я не ведаю, таму што ў сваіх мроях я пражыў свае самыя шчаслівыя хвіліны на берагах Дняпра і Сожа. І для таго, каб заснуць шчаслівым, мне трэба абавязкова тыя берагі ўбачыць. І я іх бачу. Таму я не ведаю, колькі часу і дзе я перабываю. Разумееце, маё месцазнаходжанне не супадае з геаграфіяй майго ўяўлення. Я не ведаю, колькі гадоў я жыву ў Маскве. Прапісаны то я там, але насамрэч я прапісаны ў Баркалабаве, я прапісаны на Сажы... Там я шчаслівы, а я хачу быць там, дзе я шчаслівы.

***– Вы не толькі пераклалі "Слова пра паход Ігара" на сучасную рускую мову, але і даследуеце яго, удзельнічаеце ў самых розных яго выданнях. "Слова…" на сучасную беларускую мову перакладалася, здаецца, чацвёрачы: Янкам Купалам, Рыгорам Барадуліным, Яўгенам Крупенькам і Іванам Чыгрынавым. Які з гэтых перакладаў вы лічыце найлепшым?***

– Пераклад Чыгрынава я, прызнаюся, не чытаў. На жаль. Але прачытаю абавязкова. Што да Барадуліна, то ён проста не ўмее рабіць сваю работу кепска, няякасна. Яму талент не дазваляе перакладаць пасрэдна. Як пасрэдны паэт не можа напісаць шэдэўр, так і Барадулін не здольны на нешта сярэдняе, яму проста гэта не дадзена. Але для кожнага перакладу ёсць свой час. Вы, дарэчы, забыліся назваць яшчэ аднаго беларускага перакладчыка "Слова...". Гэта Віктар Дарашкевіч. Я нічога пра яго не ведаю. Дык вось, пераклад Дарашкевіча, на маю думку, самы дакладны. Хоць у ім няма той паэтычнай вытанчанасці, якая, несумненна, ёсць у перакладзе Барадуліна. Дарашкевіч адчуў рытмы "Слова..." і пайшоў услед

за імі. А гэта вельмі важна, таму што сіла “Слова...” ў ягоных рытмах. Як яны змяняюцца, як іх цяжка часам злучыць, захоўваючы дакладнасць! Вы сабе нават не ўяўляеце...

Вось я вам прывяду такі прыклад: “Славу поют Святославу, кают князя Игоря”. Вось як перакласці гэтае “кают” на сучасную рускую мову? А ў “Слове...” ўсе літары – галосныя і зычныя – пераклікаюцца між сабою. Пры дакладным перакладзе просіцца: “Корят князя Игоря”. “Кают” – “корят”, я не ведаю, якое музычнае вуха можа адчуць тут сугучча. Але спачатку я так і пераклаў: “Корят князя Игоря”. І яшчэ заўважу, што я нідзе не падрыфмоўваў, “Слова...” пад завязку поўнае ўнутраных асанансных рыфмаў, у ім безліч рухомых сугуччаў, яны рухаюцца па радку – у сярэдзіне, у пачатку, у канцы.

Прыкладна з год не давала спакою мне гэтае месца, і толькі потым я знайшоў адну-адзіную літару “и”: “И корят князя Игоря”. І радок адразу стаў на крыло! Вось якой каштоўнай аказалася адна літара! У той жа час злучнік “і” вельмі тыповы і частаўжывальны ў “Слове...”. Я нічога не змяніў. Я згубіў сугучча “Каял – кают”, але я знайшоў сугучча ўнутры радка.

Калі вы падыходзіце да ракі і бачыце на яе паверхні некалькі ўсплёскаў, то неістотна, дзе, у якім месцы вы іх паўторыце, істотна, каб яны былі ў вашым перакладзе. Гэта пацвярджэнне таго, што рака жывая, у ёй плешчацца рыба. І няважна, дзе яна плешчацца – пасярод плыні ці на водмелі, гэта не мае значэння. Проста павінны быць усплёскі, каб адтварыць жывую паэтычную мову. Вось праз якія пакуты здабываецца адзін-адзіны радок.

Пераклад Віктара Дарашкевіча конгеніяльны, бо ён паўтарыў фігуры мовы, ён захаваў зменную рытміку. Гэты пераклад, я думаю, у Беларусі яшчэ належна не ацэнены. А калі “Слова пра паход Ігара” выходзіла ў Маскве на трох мовах – па-руску, па-украінску і па-беларуску, – я выбраў сярод украінскіх пераклад Максіма Рыльскага, а сярод беларускіх – якраз пераклад Дарашкевіча.

***– У найноўшай “Беларускай энцыклапедыі” гаворыцца, што Ігар Шклярэўскі “піша на рус. і бел. мовах”. Вы сапраўды пішаце па-беларуску?***

– Не, у энцыклапедыі – няпраўда. Я ніколі не пісаў на беларускай мове. “Я всё еще живу, храня / звучанье чистой русской речи” – гэта з маіх даўніх вершаў. І тут няма нічога дзіўнага. Вось жа знакаміты паэт савецкага часу Яраслаў Смеляко́ў – таксама беларус. Аднойчы мы з ім сустрэліся ў маскоўскім Доме літаратара, і ён пытаецца: “Шклярэўскі, ты адкуль?” Я кажу: “З Магілёўшчыны”. – “А я з Віцебшчыны.” А Смелякоў быў галоўным рэдактарам альманаха “Дзень паэзіі”, куды прабіцца складана было. А я – малады паэт, прыехаў у Маскву і аддаў цэлую кнігу вершаў у альманах у спадзяванні, што некалькі вершаў надрукуюць. Смелякоў прачытаў і сказаў: “Мы надрукуем цэлую кнігу Шклярэўскага!”. Гэта была падзея – надрукавацца цэлай кнігай у “Дні паэзіі”, дзе аўтары прадстаўляліся, як правіла, адным-двума вершамі.

Тады ж, у Доме літаратара, Смелякоў звярнуўся да мяне: “Пакажы свой пашпарт”. Мой пашпарт паглядзеў і свой паказаў, дзе ў графе “нацыянальнасць” значылася: беларус. Так было. Мы сядзелі са Смеляковым у пісьменніцкім рэстаране ўдвух, потым падбег адзін паэт з забаўным прозвішчам Заяц і папрасіўся за наш столік. А Смелякоў кажа: “Ну, калі Шклярэўскі дазволіць”. Я кажу таму Зайцу: сядай, але спачатку прынясі нам на закусь капусты і морквы, раз ты Заяц... І ён прынёс – поўную талерку! Помню, тады яшчэ Смелякоў пытаўся, ці праўда я ўваходжу ў більярдную Дома літаратара і вітаюся з пісьменнікамі: “Прывітанне, графаманы!”. Ну, я пацвердзіў.

***– Я не зусім згодны наконт захавання вамі “чысціні рускай мовы”. Вось адзін з вашых вершаў: “Мой брат учительствовал в Дрисе, / там далегляды,***

***а не выси. / Из студни воду там берут, / от стомы ноги там гудут”… Гэта няяк зусім не па-руску. Вам падабаецца само гучанне беларускай мовы?***

– Разумееце, ёсць беларускія словы незвычайнай сілы. Напрыклад, слова “далягляд” больш значнае, чым “горизонт”, чым “мироколица”. У “даляглядзе” ёсць усё – і прастора, і фізічнае ўспрыманне гэтай прасторы. Усё ў адным слове, і я шкадую, што яго няма ў рускай мове. Мова валодае незвычайнай жывучасцю, яна можа падпольна існаваць вельмі доўгі час, а потым расцвісці ў нечаканым месцы ў нечаканы час. І я ўпэўнены – беларуская мова ніколі не знікне. І чым болей будзе моцных вершаў, моцнай прозы, тым мацней будзе адчуваць сябе мова. Літаратура трымаецца за слова, але яна ж і ратуе мову. Роля літаратуры велізарная. Мову нельга выратаваць аніякімі ўказамі, яе нельга адгарадзіць ад другіх агрэсіўных моваў аніякімі шлагбаўмамі, яе можна выратаваць толькі знутры – прыгажосцю слова, радка, гучання. Калі на мове пішуцца шэдэўры, яна набірае сілу. Толькі так.

***– Шэдэўры шэдэўрамі, але і законы патрэбныя. І скрозь у свеце нацыянальныя мовы ахоўваюцца адмысловымі законамі. І ў Беларусі далукашэнкаўскай адпаведныя заканадаўчыя акты дзейнічалі.***

– А вы думаеце, што рускую мову не трэба ахоўваць? Госпадзі, я ў Маскве стараюся як мага радзей уключаць тэлевізар... Часам глядзіш які-небудзь выдатны фільм, а ён раптам перарываецца рэкламай. Для мяне слова “рэклама” гучыць як лаянка. “Ваша спіна будзе вам удзячная.” Гэта ж жах! Рускую мову так засмяцілі цяпер! Я не памятаю, хто гэта сказаў: калі гучаць гарматы – музы маўчаць. Гэта няпраўда. Бывала, гарматы грымелі – і музы гучалі, гарматы не маглі заглушыць паэзію. А вось калі гавораць грошы, музы сапраўды замаўкаюць. А грошы так загаварылі паўсюль, што музы прымоўклі. Як у “Слове пра паход Ігара”: “Бояре приуныша”. І музы сёння “приуныша”.

А ўвогуле, я вам хачу сказаць, што духоўныя каштоўнасці маюць магічную ўласцівасць – аддаляючыся, яны павялічваюцца. І тое, што сёння быццам аддалілася, яно ўсё роўна будзе набліжацца, будзе вяртацца, будзе павялічвацца. Гэта магічная ўласцівасць духоўных каштоўнасцяў.

***– Калі вы на мінскіх вуліцах не чуеце беларускую мову, гэта вас засмучае?***

– А я яе чую, прычым вельмі часта! Скажам, усе гэтыя фрыкатывы “г”, “к”, “х”, дзеканне ваша, эмацыйныя словы “нешта”, “няхай” – паўсюль і на кожным кроку. Вы іх проста не заўважаеце, а ў мяне больш свежы слых, і я іх чую. Так у Беларусі гаварылі і так будуць гаварыць. Гэта ў храмасомах, гэта на генетычным узроўні.

А ўвогуле, я вам вось што скажу. У беларускай і рускай моваў ёсць адна падобная таямніца. У чым яна? Выжыванне мовы, ратаванне мовы немагчымае асобна ад літаратуры, асобна ад паэзіі. Выжывае мова толькі разам з літаратурай. Толькі разам з паэзіяй як самым высокім і вытанчаным відам літаратуры. Калі літаратуру аддзяліць ад мовы, атрымаецца мова спажыўцоў, мова прадпрымальнікаў, гэта – верхні пласт мовы. А прадпрымальнікам і спажыўцам усё роўна, якая мова ў краіне, у іх адна мова – грошы. А літаратура і паэзія захоўваюць у сабе ўсё самае патаемнае, жывое, напоўненае хларафілам, які ад каранёў ідзе ў лісцё.

І калі дзяржава апякуецца літаратурай, дапамагае літаратуры, прычым – не навязваючы ёй сваёй ідэалогіі, проста бескарысна дапамагае, тады дзяржава дапамагае сабе. Таму што мова – гэта радзіма, мова – гэта краіна, мова – гэта дзяржава, гэта яе самастойнасць. Захоўваючы сваю літаратуру, сваю паэзію, зберагаючы яе, дзяржава і краіна захоўваюць сябе. Асобна ад літаратуры працэс выжывання, аздараўлення, умацавання мовы, проста жыццё мовы – немагчымыя.

Сёння прастора літаратуры звужаецца, сціскаецца, як шагрэневая скура, ганарары пісьменнікаў смехатворныя. І само па сабе ўзнікае пытанне – навошта тады

на вуліцах нашых гарадоў стаяць на пастаментах вялікія паэты? Навошта ў Маскве стаяць Пушкін і Лермантаў, а ў Мінску – Купала і Багдановіч? Дэмантуйце іх і пастаўце на іх месца якіх-небудзь папулярных эстрадных выканаўцаў.

Разумееце, у чым справа... Жывы слоўнік рускай ці беларускай мовы – гэта вулей. І калі пчолы не могуць лётаць на лугавыя, лясныя, палявыя кветкі, то яны будуць лётаць на цукровыя склады. І што ж яны адтуль прынясуць у вулей? Яны будуць прыносіць мову супермаркетаў, хімчыстак, банкаў і г.д. Так, літаратуры патрэбна, каб ёю апекаваліся. Мове супермаркетаў падтрымка не патрэбная, а ўсяму тонкаму і патаемнаму патрэбная апека, патрэбная падтрымка. І патрачаныя на гэтую справу сродкі – гэта жыццёванеабходныя затраты, жыццёванеабходныя і для мовы, і для народа, і для дзяржавы.

***– Вы перакладалі Рыгора Барадуліна, Максіма Танка, Уладзіміра Някляева, перастварылі па-руску “Песню пра зубра” Міколы Гусоўскага… На вашым творчым рахунку цэлая кніга перакладаў – “Паром из Беларуси в Россию”. А хто з беларускіх паэтаў вам найбольш блізкі па сваім светаадчуванні?***

– Напэўна, Барадулін. Хоць перакладаць яго мне было вельмі няпроста. Вы ведаеце, што мне дапамагала? У Барадуліна вельмі гнуткая мова, а я свае першыя вершы напісаў на вуліцы. У юнацтве я не меў асобнага пакоя, у нас была бедная, аскетычная настаўніцкая сям’я, на вокнах нават фіранак не было, я ўжо не кажу пра шторы. І лямпачка гарэла без абажура, ва ўсім адчуваўся пурытанскі дух. Усё маё адзенне было – на мне! І я выходзіў на вуліцы. Я пісаў вершы ў цёмных завулках, на стромым беразе Дняпра. Гэта былі імправізацыі. І яны былі рознарытмічныя, што і дапамагло мне пазней перакладаць і Рыгора Барадуліна, і “Слова пра паход Ігара”.

Разумееце, “Слова... “ – гэта рака, якая ўвесь час кружляе, звіваецца. І пераклады яго, зробленыя класічным памерам, – гэта гідратэхніка і меліярацыя. Хоць пераклад, скажам, Мікалая Забалоцкага і бліскучы, але ён аднапамерны, і ў гэтым ягоны вялікі недахоп.

А сучасная беларуская паэзія вельмі магутная. Узяць таго ж Рыгора Барадуліна. Гэта ж цэлая энцыклапедыя лесу, лугу, поля, зямлі, агароду, дому! Творчасць Барадуліна – гэта жывы беларускі слоўнік! Мае першыя пераклады былі менавіта з Барадуліна. Над яго вершамі я вучыўся перакладаць, і гэта мне не адразу і нялёгка давалася, але я быў шчаслівы, калі ў мяне атрымлівалася. Барадуліна я перакладаў з натхненнем, і аўтар мае пераклады ўхваліў.

З падобнай асалодай я перакладаў “Песню пра зубра” Гусоўскага: “Зверь налетел на берёзу – и лопнуло древо, как от мороза. / И дальше умчалась погоня, бешеный рёв долетал до соседней державы...”. Я нават дазваляў сабе пэўныя вольнасці ў гэтым перакладзе. Ну, няма там гэтага: “Бешеный рёв долетал до соседней державы”, там сваіх вобразаў больш чым дастаткова. “Песня пра зубра” – геніяльная, дзівосная паэма. Памятаю, калі яе прачытаў акадэмік Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў, у яго ажно вочы засвяціліся ад радасці.

***– У маім кнігазборы ёсць двухтомавік Лермантава, наклад якога – 14 000 000 асобнікаў. Для нашага часу гэта фантастычная лічба. Сённяшнія наклады паэтычных зборнікаў – 500, 1000, 2000 асобнікаў, ды і тыя разыходзяцца не адразу. Куды дзеліся чытачы паэзіі? “Бессильны любимые книги, / бессильны великие мысли. / Бессилен Тургенев и Блок, / и Пушкин почти одинок”, – напісалі вы ў адным з вершаў. Што ж адбылося?***

– Мне складана даць просты адказ на гэтае пытанне. На маю думку, адбылося пэўнае спрашчэнне мастацтва. Тонкі свет саступіў. У культуры на першае месца выйшлі спрошчанасць і павярхоўнасць. Так часам бывае ў гісторыі, калі ўсё тонкае гіне або заціскаецца, а спрошчанае перамагае. І чалавек, які яшчэ ўчора саромеўся, што не ведае, хто такія Бадлер, Рэмбо, Ларошфуко, Мантэнь або Авідый,

сёння ўжо не саромеецца свайго няведання. Скарачаюцца школьныя праграмы па літаратуры, па гісторыі. Гэта для чаго робіцца? Каб выраслі пустадомкі з завушніцамі ў вушах? Сёння мы іх паўсюль назіраем. Але я суцяшаю сябе вельмі простым фактам. Калі, пачынаючы ад Гамера (а гэта 8 стагоддзяў да Нараджэння Хрыста), паэзія не знікла, не вычарпалася, не загінула, то і яшчэ доўга не загіне, не вычарпаецца, не знікне. Зразумейце, ставала часу на тое, каб паэзія сышла, як вада ў пясок. Але гэтага не адбылося.

Для чаго ўвогуле патрэбная паэзія? Яна перадае найтанчэйшыя станы душы, якія ні проза, ні драматургія перадаць не могуць. Гэта нават не перавага, гэта яе сутнасць – перадача найтанчэйшых перажыванняў, якія магчыма перадаць толькі ў вершах. Адмовіцца ад паэзіі – азначае адмовіцца ад самых вытанчаных чалавечых эмоцый. Гэта магчыма? Ні ў якім разе!

Прывяду вам такі прыклад. На поўначы Карэліі ёсць пасёлак Чупа. 4 км ад чыгункі, маленькі завод, на якім вэндзяць рыбу, лясгас. Цягнікі там стаяць адну хвіліну. Ведаеце, што там на плоце напісана? Белай фарбай, якую, відаць, забылі маляры, нейкі школьнік, які прагульваў алгебру ці хімію, напісаў на плоце: "Чупа – сталіца белай ночы". Разумееце, колькі душы ён уклаў у свой надпіс? Кожнаму ж трэба ж нечым ганарыцца. Можна – і белымі начамі, калі нічога іншага няма пад рукой. І надпіс гэты – "Чупа – сталіца белай ночы" – выдатны. Ён – сведчанне таго, што з паэзіяй нічога кепскага не адбудзецца, калі што – яна на плоце выжыве. Чупа – пасёлак гарадскога тыпу, дзе вокны завешваюць коўдрамі, і ў поўнач сонца свеціць праз кроны бярозаў... Той школьнік падараваў Чупе славу.

Паэзія выжыве. Што з таго, што наклады ўпалі? Мае кнігі цяпер таксама малымі накладамі выходзяць. А калісьці "Слова пра паход Ігара" ў маім перакладзе выйшла накладам адзін мільён асобнікаў! А згаданая вамі паэма "Летапісец ракі" выйшла ў "Раман-газеце", вы не паверыце, накладам дванаццаць мільёнаў асобнікаў!

***– "И как нашёл я друга в поколенье, / читателя найду в потомстве я", – вядомае прызнанне Яўгенія Баратынскага. Ваш чытач таксама павінен любіць ваду, інакш ён вас проста не зразумее. Такога чытача вы маеце, ці, як і Баратынскі, разлічваеце на будучыню?***

– Я нядаўна атрымаў ліст з рускага манастыра ў Балгарыі, з-пад Сафіі, ад манахіні Касініі. Яна – былая настаўніца, сышла ў манастыр. Княгіня Лівін была настаяцельніцай таго манастыра. Такі розум не жаночы пабліскваў у яе зялёных вачах, калі я прыйшоў туды, каб выказаць сваю ўдзячнасць. Гэта быў адказ на ліст манахіні Касініі. На жаль, яе ўжо не было ў жывых. Яна разам з пропаведзямі, з малітвамі распаўсюджвала сярод сваіх прыхаджанаў некалькі маіх вершаў. Вядома, я быў крануты, я быў ёй вельмі ўдзячны. Гэта адзін з маіх каштоўных чытачоў, таму што чытач паэзіі – гэта таксама талент.

***– Ці робіце вы што-небудзь, каб прапагандаваць сваю творчасць з дапамогай сучасных тэхналогій?***

– Не, нічога не раблю. Вершы ў кампутары – гэта пацалунак праз шкло. Хай вершы самі выжываюць, без маёй дапамогі. Чытачы ж не вымерлі ўсе і адразу. Часам абсалютна выпадкова ў непрадказальных месцах я з імі сустракаюся. І гэта надае мне столькі сілы і радасці! Сустрэчы адбываюцца на вуліцах, у цягніках – дзе заўгодна. Некалькі разоў людзі падвозілі мяне на аўтамабілі і пазнавалі: "Вы – Шклярэўскі? Я з вас грошай не вазьму!". Аднойчы на спадарожнай машыне я даехаў з Магілёва ў Мінск, і кіроўца адмовіўся ўзяць грошы. І падобнае здаралася шмат разоў.

***– Наколькі мне помніцца, у свой час вы стварылі спецыяльны фонд, дзе збіраліся грошы пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы. Наколькі сур'ёзныя вам удалося сабраць сродкі, і ці ўдалося патраціць іх так, як вам хацелася?***

– У 1989 годзе я проста абвесціў рахунак у сваіх публікацыях: “Дзеці ў зоне радыяцыі”, “Чарнобыльскі анёл”, “Адвакат чарнобыльскіх жабаў”, “Яблык з Чарнобыля”. Яны выходзілі велізарнымі накладамі. Дастаткова прыгадаць, што тады “Литературная газета” выходзіла накладам 4,5 мільёна асобнікаў. Да таго ж, мае творы перакладаліся на еўрапейскія мовы, у Аўстрыі цэлы чарнобыльскі рух узнік пасля тых публікацый. Там жа, у Аўстрыі, да гэтай пары 26 красавіка паэма “Чарнобыльскі анёл” у храмах выконваецца – пад музыку Моцарта і Бетховена.

Водгук быў надзвычайны, ён пераўзышоў усе мае чаканні. І праз год на абвешчаны мной рахунак прыйшло 26 мільёнаў рублёў! Па сённяшніх мерках – што гэта за сума? А тады – гэта больш за 26 мільёнаў даляраў! Грошы вялізныя. Я давяраў людзям, з якімі супрацоўнічаў. Адзінае, што я сказаў: трэба, каб гэтыя грошы прыйшлі да людзей, каб яны маглі самі пабудаваць сабе хату і г.д. І ўмова мая была выкананая. Я сам ездзіў і выбіраў прыгожыя месцы, дзе потым будаваліся дамы для перасяленцаў. Вялікай сваёй заслугі я тут не бачу. Я проста зазваніў у звон. Вось і ўсё.

***– Апрача дапамогі перасяленцам была і яшчэ адна канкрэтная акцыя. Я маю на ўвазе Лес Ігара Шклярэўскага, які ўжо таксама стаў фактам вашай біяграфіі. Вы сваю Дзяржаўную прэмію СССР не паклалі ў кішэнь, а аддалі яе на пасадку дрэваў. Вы цікавіцеся лёсам свайго лесу?***

– Было пасаджана два лясы – на Прыпяці і на ўкраінскай Дзісне, каля Чарнігава. Я выбраў чыстае месца на Прыпяці, кіламетраў 5-7 ад Петрыкава. Там, на голым беразе Прыпяці, мала лесу, і там, як сказаў адзін ляснік, “у хаатычным парадку” (выдатны выраз!) пасадзілі лес – 9 гектараў. Гэта былі гатовыя купленыя саджанцы. Цяпер лес вырас, ён цудоўны, жывы, вясёлы, там вавёркі, зайцы – усё там ёсць, яго палюбілі жыхары Петрыкава, цяпер гэта іхні парк.

***– Сёння ў Беларусі на калісьці дарэшты меліяраваным Палессі аднаўляюцца балоты. А ці адновіцца гармонія ў адносінах чалавека і прыроды?***

– Пра аднаўленне балотаў я ведаю і радуюся гэтаму. Гэта ўсепланетная падзея, якая мае агульначалавечае значэнне! Таму што балоты – гэта мокры нос Зямлі. У здаровага сабакі заўсёды халодны мокры нос. І ў Зямлі таксама ён павінен быць вільготным і прахалодным. Я не сумняваюся, што на Палессе вернецца тая вільготнасць, якая так хвалявала мяне ў маленстве. Я ж яе добра памятаю, памятаю сырасць і пах тарфянікаў, якія стваралі асаблівы стан душы, таму што вільгаць і душа чалавека ўвесьчасна ўзаемадатыкаюцца і ствараюць дзівосны настрой і стан.

Я вам скажу – ёсць таямніца доўгажыхарства. Чалавек, каб доўга жыць, павінен засынаць з усмешкай, засынаць шчаслівым і дзесьці на сятчатцы вока трымаць тое, што ён больш за ўсё любіць. І тады ў сне (а чалавек калі спіць – безабаронны) да яго не падкрадуцца ні хваробы, ні старасць, вельмі доўга не асмеляцца падысці. Нас усё гэта ахоўвае, калі мы ў самым безабаронным стане. Чалавек павінен засынаць шчаслівым!

І я так узрадаваўся, калі даведаўся, што ў Беларусі адраджаюцца балоты! Балоты – гэта цэлы свет. Там ёсць падземныя азёры...

У старажытным Рыме, калі планавалі нейкія гідрамеліярацыйныя працы, то абмяркоўвалі ў Сенаце, што адбудзецца на месцы пабудаванага канала праз 200 гадоў! Вось дзе была адказнасць перад нашчадкамі.

***– Доўгі час дзяржава была і заказчыкам, і кантралёрам, і мецэнатам літаратуры. Якія адносіны паміж пісьменнікам і дзяржаўнай уладай вы лічыце ідэальнымі?***

– Адносіны гэтыя не абавязкова павінны быць антаганістычнымі. У гісторыі ёсць нямала яскравых пацверджанняў гэтаму, калі чалавек, які ўвасабляе ўладу, і паэт існавалі не ў супрацьстаянні, а як бы ў промнях дзяржаўнасці. Дарэчы,

Пушкін таксама быў дзяржаўнікам. Але ў дадзеным выпадку я маю на ўвазе імператара Аўгуста і Гарацыя, якога імператар любіў і апекаваўся ім. Альбо прыгадайце мецэната Гая Цынія.

І вось што цікава ў сувязі з гэтым. Што такое мецэнат? Мецэнат – гэта чалавек, які разумее, што пах скошанай канюшыны даражэйшы за сена. Кароў не накорміш гэтым пахам, але і без гэтага вытанчанага паху, калі душа твая знемагае ад невытлумачальнага шчасця, без гэтага паху мы прыйдзем да мычання. Нельга чалавеку жыць без паху скошанай канюшыны! І тыя мецэнаты, якія гэта разумелі, назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю сусветнай культуры. І мецэнат Гай Цыній, і мецэнат граф Мусін-Пушкін – обер-пракурор Свяшчэннага Сіноду, які адкрыў “Слова пра паход Ігара”, і шмат іншых.

Другая справа – залежаць ад таго, з якой нагі ўстаў твой мецэнат. Вось гэтага я не хачу. Я адмоўлюся ад любога мэцэната, калі выданне маіх вершаў будзе залежаць ад яго настрою!

Вось ёсць у Беларусі выдатны чалавек – Уладзімір Эдуардавіч Двоскін. Гамяльчанін, дзяцінства яго прайшло на вуліцы, абсалютна бясстрашны чалавек, чалавек тонкага розуму. Выпадкова мы пазнаёміліся з ім. Ён патэлефанаваў, калі мне прысудзілі Пушкінскую прэмію. Патэлефанаваў і прыслаў аўтамабіль. Мы з ім пасябравалі. Ён зафундаваў выданне кнігі “Зорка Віфліема: святло праваслаўя ў рускай паэзіі”.

Ён зрабіў нямала добрых спраў. Вось якую гісторыю расказаў мне адзін з сяброў Двоскіна. Яго школьная настаўніца жыла ў беднасці, ледзь-ледзь канцы з канцамі зводзіла. Ён прыехаў да яе і непрыкметна пад падушкай пакінуў столькі, што ёй на ўсё жыццё хопіць. Пакінуў і ціхенька выйшаў. Вось такі чалавек – Уладзімір Эдуардавіч Двоскін. А вазьміце вы Людовіка XIV і Мальера, Кацярыну II і Дзяржавіна. Што – іхняя творчасць пагоршала ад таго, што імі апекаваліся аўгусцейшыя асобы?

***– Калі вы такі перакананы дзяржаўнік, то чаму ў свой час адмовіліся ад дзяржаўнай узнагароды? Здаецца, гэта быў ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі?***

– Калі я адмовіўся ад таго ордэна, я не ўкладваў у сваё рашэнне нейкага падвойнага сэнсу і не хацеў зарабляць на гэтым крамольную славу. Я прымерыў той ордэн да Блока, да Лермантава... Разумееце, я ніколі не быў чальцом камуністычнай партыі, не хадзіў на агульныя сходы...

***– Але ж з Маўзалея вершы чыталі?***

– Чытаў. Гэта было пры Гарбачове. Я выступаў на мітынгу, прысвечаным Першамаю, але ж я гаварыў пра неабходнасць мірна жыць на планеце. Вось ордэн Дружбы народаў я прыняў. А Кастрычніцкай рэвалюцыі – не. Як я мог яго прыняць? Ведаеце, калі мяне не стане, у маёй ганаровай варце будуць стаяць лясы і азёры. А пры чым тут ордэн? Тыя знакі, у тым ліку і ад дзяржавы, якія адпавядаюць майму вобразу жыцця і майму ўяўленню пра тое, як трэба жыць на гэтай зямлі, я прымаў з вялікай удзячнасцю, са слязамі радасці, гордасці і ўдзячнасці.

***– Вы маеце на ўвазе Пушкінскую прэмію, Дзяржпрэмію СССР, акадэмічную прэмію “Болдзінская восень”, Царскасельскую прэмію?***

– Так, менавіта. Яны адпавядалі майму ладу жыцця, а ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі – не адпавядаў. Вось і ўсё.

***– Сёння Беларусь – незалежная дзяржава, нягледзячы на ўсю інтэграцыйную ліхаманку, якая час ад часу ўзнікае паміж Мінскам і Масквой. Як вам бачыцца далейшае суіснаванне Беларусі і Расіі?***

– Паўтаруся, у маёй душы аніякіх падзелаў не існуе. Гэта не значыць, што я выступаю за тое жыццё, якое існавала ў СССР. Мне здаецца, сёння ў нас нарма-

льная сітуацыя, калі існуюць дзве незалежныя дзяржавы. Незалежныя, але вельмі блізкія мовамі, духоўнасцю сваёй, “Словам пра паход Ігара”! Правы бераг Дняпра – беларускі, левы – рускі. Днепр не падзеліш, ваду ягоную не падзеліш. Дарэчы, слова “вада” і па-руску, і па-беларуску гучыць аднолькава. Трэба плаваць адзін да аднаго ў госці, сябраваць. Але ніхто нікому не павінен дыктаваць сваю волю. Беларусь сёння сама вызначае сваё месцазнаходжанне, і так мае быць заўсёды.

Хай у вас няма срэбных ці залатых радовішчаў, але тут столькі душэўнага золата! Стагоддзямі Беларусь намывала “залацінкі дабрыні”, як сказана ў Рыгора Барадуліна. Гісторыя сама ўсё вызначыць. Гэта як рака, якая цячэ і не проста так кружляе. Яна кружляе, каб цячы далей, а каб цячы далей, рака, бывае, паварочвае і нават вяртаецца, але потым выбірае сабе рэчышча і плыве далей. Таксама ўсё вызначыцца і ў жыцці Беларусі.

***– Вы склалі некалькі дзясяткаў самых розных паэтычных анталогій, сярод якіх і руска-украінская анталогія. А ці няма ў вас намеру скласці беларуска-рускую?***

– А я яе ўжо склаў – вершы рускіх паэтаў пра Беларусь і вершы беларускіх паэтаў пра Расію. Праўда, яна яшчэ не выдадзеная. Думаю, знойдзецца добры чалавек, такі, як Уладзімір Эдуардавіч Двоскін, і мая анталогія пабачыць свет. Там выдатныя імёны, знакавыя, цудоўныя паэты. Скажам, Аляксандр Твардоўскі, Яраслаў Смелякоў, Яўгеній Яўтушэнка, Яўгеній Вінакураў, Андрэй Вазнясенскі – ва ўсіх іх ёсць файныя вершы, прысвечаныя Беларусі. Там ёсць творы паэтаў ваеннага пакалення, прыкладам, вельмі яркія вершы Аляксандра Межырава, Юліі Друнінай, Анатоля Вялюгіна, там пераклады Якава Хелемскага і Навума Кісліка... Я выбраў усё найлепшае.

***– Гэтым разам вы прыязджалі ў Мінск з сумнай нагоды – на пахаванне Валерыя Раеўскага. Мы яго ведалі як таленавітага рэжысёра, які шмат гадоў вызначаў, якім быць Нацыянальнаму тэатру імя Янкі Купалы. А што для вас было вызначальным у гэтым чалавеку?***

– Ведаеце, як бывае: часам які-небудзь мастак, паэт, рэжысёр, артыст робяць усё для таго, каб стаць вядомым, здабыць славу. Яны правільна жывуць, правільна ўсё робяць, а слава праходзіць міма. А другія... Калі выносілі Валерыя Раеўскага, майго сябра-нябожчыка, майго школьнага, вулічнага, рачнога, баркалабаўскага, ляснога, магілёўскага сябра, я зняў капялюш і прыгадаў, як калісьці на галоўнай вуліцы Магілёва Першамайскай мы з ім падлеткамі зрывалі капелюшы з мінакоў. Там шпацыравалі кавалеры з дамамі, а ўздоўж ходніка стаяў высокі плот, а за тым плотам – яр, глухі, цёмны, зарослы яр над рэчкай Дубровенкай. І вось ідзе кавалер з дамай, на ім вялюравы капялюш, і раптам капялюш прыпадымаецца і знікае, як НЛА. А кавалер нават залезці на той плот не можа і толькі чуе дзесьці за ім далёкі шум...

***– І куды вы потым дзявалі тыя капелюшы?***

– Гэта ўжо другая гісторыя. Я цяпер проста прызнаўся, як мы з Раеўскім свавольнічалі. Потым я прачытаў у Дзюма, у рамане “Дваццаць гадоў пасля”, што падобнымі свавольствамі займаліся яшчэ ў часы Людовіка XIV. Свецкая моладзь на чале з нейкім прынцам на мосце ў Парыжы зрывала з мінакоў плашчы. Мы з Валерыем тады не ведалі пра падобныя забавы. І мы зрывалі капелюшы... І неяк вельмі значна пасля такога ўспаміну з’ядналіся ружы Мельпамены і ганаровая варта каля труны, у якой ляжаў мой школьны, мой баркалабаўскі сябра, і ўсё гэта набыло нейкае асаблівае значэнне. Фартуна сама выбірае, каго любіць, і каго ўганароўваць. А Валерый быў выдатным сябрам, з ім было цікава заўсёды. Праўда, на рыбалцы ён мне саступаў.

***– Вы з ім спаборнічалі, хто больш рыбы зловіць?***

– Так, і на Дняпры, і на Сажы я яго аблоўліваў. Але грыбніком ён быў – роўных я не ведаю. Як ён адчуваў лес! І колькі ён мне падараваў грыбных мясцінаў у

ваколіцах Магілёва! Скажам, на дзевятнаццатым кіламетры каля Свацілавічаў – на першы погляд звычайны ельнік справа, а езджаная дарога вядзе ў вялікі лес, куды ўсе грыбнікі і беглі. А Валерый у тым ельніку набіраў грыбоў – Божа мой!.. Ён падараваў мне тое месца.

Раеўскі самаахвярна служыў тэатру. Ён любіў навізну, але ён ніколі, абнаўляючы, не разбураў. Ён не разбураў асновы драматургіі і сцэнічнага майстэрства. Ён ведаў і адчуваў, што законы мастацтва ў тэатры і літаратуры не змяняюцца, як сляза. Ён ніколі не разбураў класіку дзеля таго, каб дагадзіць гледачу або стварыць нейкую эпатажнасць. І ён застаўся ў гісторыі беларускага тэатра. Гэта словы банальныя, але часам банальныя словы таксама вельмі істотныя.

***– Калісьці Хэмінгуэй казаў, што пры падсечцы рыбіны ён адчувае мускулатуру ўсяго свету. А што адчуваеце вы, махаючы спінінгам дзе-небудзь на Дняпры ці Беразіне?***

– Што я адчуваю? Спінінгавая катушка круціцца супраць гадзіннікавай стрэлкі. Дык вось, круцячы катушку супраць гадзіннікавай стрэлкі, я адкручваю час жыцця ў зваротным кірунку – ад старасці да юнацтва. Гэта па-першае. А па-другое, гэта вялікая страсць. Вось мне аднойчы падаравалі залатую лыжку. Я адпілаваў непатрэбны тронак і зрабіў з яе выдатную блешню для рыбалкі ў ямах, над перакатамі, у глыбокіх месцах. І вага, і форма – проста ідэальныя атрымаліся.

А вялікі балгарскі паэт Любамір Леўчаў падараваў мне срэбную талерку, упрыгожаную дробнымі карункамі, падобнымі на луску. Я і талерку пусціў на рыбалоўныя прылады – з яе атрымалася ажно 8 блешняў! Мой сябра рэжысёр Юрый Марухін і мой брат Алег, калі пачулі пра гэта, жартавалі: “Мы ў захапленні ад тваёй пераацэнкі каштоўнасцяў!”.

Памятаю, мы якраз ехалі на рыбалку ў Карэлію. Я ім кажу: “Пачакайце, мы яшчэ недалёка ад дому ад’ехалі”. – “Як недалёка? Вунь ужо Сядзежа, паўдарогі ззаду засталося”.

Белая ноч, перастук колаў і такая размова – колькі са срэбнай талеркі атрымалася блешняў, непатрэбны тронак...

І тут я Марухіну кажу: “А вось цяпер я цябе здзіўлю”. – “А чаму толькі мяне? А Алега?” – “Алег не ацаніў. Вось глядзі – гумовыя боты холад прапускаюць, а вада ў карэльскіх рэках ледзяная нават улетку. І вось што я прыдумаў – адрэзаць рукавы ад кажуха і ўставіць іх у боты. Можна цэлы дзень у рацэ стаяць”.

Марухін гаворыць брату: “Алег, ён геній!”. А Алег: “Ён геній, але толькі да першых маразоў”. А я ім даводжу, што інтэлігентны чалавек павінен хадзіць у паліто...

Гэты тамбур, гэты дымок ад цыгарэты, гэты шчаслівы дзіцячы смех, гэты непатрэбны тронак... Не, усё ж рыбалка – гэта вялікая страсць.

***– Што ж, хай на вашу залатую блешню ловіцца сапраўдная рыба! Поспеху вам і часцейшых прыездаў на радзіму!***

– Дзякуй, Міхась, але ўсе тыя блешні – і залатая, і срэбныя – засталіся на дне рэк, у карчоўі, у траве, паміж камянёў. Іх жа губляеш, яны ўсе на дне ракі... І аблічча дарагіх людзей таксама паглынае рака забыцця. Але напісанае застаецца, штосьці застаецца. Нам трэба адваёўваць прастору радасці і шчасця, не даваць шэрасці і смутку паглынаць прастору чалавечага існавання. Чамусьці ў сусветнай літаратуры вельмі мала кніг, якія выпраменьваюць фантомы шчасця і радасці. Я нядаўна закончыў пісаць кнігу “Залатая блешня”, спадзяюся, што для будучых чытачоў яна стане кнігай радасці. Такую кнігу напісаць намнога цяжэй, чым змрочны твор. Пра шчасце пісаць нашмат складаней. Я зрабіў такую спробу. Дзякуй вам, Міхась, за гэтую сустрэчу і за гэтую гутарку.

*23-24 лістапада 2011 г.*

Ірына Шаўлякова



...вырак беларускай літаратурнай крытыкі 2000-х — шукаць паразумення з эпохай шоўцэнтрызму...

# "Рэпутацыя" пасля (аўта)дыскваліфікацыі

## *Беларуская літаратурная крытыка 2000-х*

Звыклы ў абсягах апошняй трэці XX ст. тандэм беларускай крытыкі (як "віду літаратурнай дзейнасці, мэта якой — даць ацэнку бягучым фактам літаратуры з пункта гледжання значэння іх для сучаснасці" [4, с. 159] і беларускага літаратуразнаўства (як сістэмы ўласна навуковых даследаванняў розных аспектаў мастацтва слова) з пачатку 2000-х гадоў перажывае, магчыма, адзін з самых лёсавых "момантаў" у гісторыі свайго існавання. Адчувальнае ўжо ў 1990-х аслабленне сувязяў унутры згаданага тандэма цягам першага дзесяцігоддзя XXI ст. прывяло да своеасаблівай самаізаляцыі яго складнікаў, якія пачалі нібыта герметызавацца і адначасова дыстанцыравацца адно ад аднаго, выяўляючы непранікальнасць для ўзаемаўплываў не толькі метадалагічных, але і каштоўнасна-мэтавых. Найбольш відавочным (заўважным, так бы мовіць, "на паверхні" айчыннага філалагічнага дыскурсу) наступствам гэтага напачатку другога дзесяцігоддзя XXI ст. стаўся *дысананс "рэпутацый"* крытыкі і літаратуразнаўства.

І без “рэестравага” знаёмства з набыткамі літаратуразнаўства, абапіраючыся толькі на своеасаблівую “настраёвасць” літаратурнай прасторы 2000-х, можна зрабіць выснову, што згаданыя набыткі шануюцца як бы па змоўчанні — ці не па кантрасце з тым, што “ў сённяшнім літаратурным і калялітаратурным асяродку ўзнікла трывалая тэндэнцыя ацэньваць літаратурную крытыку апошняга дзесяцігоддзя выключна ў адмоўным ключы” [3, с. 187]. Літаратурная (і калялітаратурная) грамадскасць у апошняе дзесяцігоддзе дэманструе татальнае расчараванне ў айчыннай крытыцы: з прычыны страты ёю ўплывовасці, зніжэння актыўнасці, няздольнасці аператыўна і аб’ектыўна (ці хоць бы адэкватна) ацэньваць плён найноўшай мастацкай славеснасці. Сапраўды, у дачыненні да крытыкі ўдакладненні рэйтынгавага кшталту (узважванні адпаведнага плёну на шалях “больш-менш”) бачацца пераважнай большасці ўдзельнікаў сучаснага літаратурнага працэсу непрадуктыўнымі. Нездарма высновы, якія тычацца, напрыклад, аналізу эстэтычных прынцыпаў сучаснай беларускай крытыкі, наўпрост звязаныя з расшыфроўкай “метафарычнага дыягназу”, пастаўленага сённяшняй крытыцы самімі яе рупліўцамі: “На жаль, абвінавачванні Галубовіча ў бок калегаў па крытычным цэху цалкам справядлівыя. Літаратурная крытыка ў першым дзесяцігоддзі ХХІ ст. “здзяцінела”, і выявілася гэта нават не ў тым, што яна вярнулася на папярэдні ўзровень развіцця, а ў тым, што праскочыла яго, абярнуўшыся больш простаю формаю — нататкай літаратурнага журналіста ці фельетонам” [3, с. 199].

Адмысловая “анемічнасць” крытычнага досведу апошняга дзесяцігоддзя шматкроць канстатавалася і вытлумачалася навукоўцамі, самімі крытыкамі, пісьменнікамі, журналістамі, блогерамі. Прычым бліжэй да сыходу 2000-х дыскусійныя пляцоўкі, дзе абмяркоўваліся відавочныя праблемы і прывідныя перспектывы беларускай літаратурнай крытыкі, са старонак друкаваных выданняў перамясціліся ў інтэрнэт. Напрыканцы першага — пачатку другога дзесяцігоддзя ХХІ ст. асобныя сеціўныя рэсурсы (“Сучасная беларуская літаратура” (www.suc-biel-lit.livejournal.com), “Сучасная літаратурная крытыка, літаратуразнаўства, літаратурная журналістыка” (www.lit-krytyka.livejournal.com), “ЛитКритика.BY: Белорусский литературный портал”(www.litkritika.by) і інш.), блогі (інтэрнэт-дзённікі), інтэрнэт-форумы перыядычных выданняў (напрыклад, “Нашай Нівы”) час ад часу пертвараліся ў сапраўдныя рысталішчы, дзе ў якасці безадказнай зброі зарэкамендавалі сябе “падкрэслены суб’ектывізм і вельмі спецыфічная паблажліва-аўтарская іронія, якая ў першым дзесяцігоддзі ХХІ ст. наогул стане прыкметай беларускай крытыкі” [3, с. 179].

Між тым, маштабная *(аўта)дыскваліфікацыя* (не толькі сацыякультурная, але і аксіялагічная, эстэтычная) найноўшай беларускай крытыкі не ёсць дасягненнем выключна “нулявых” гадоў. Па вялікім рахунку, у першае дзесяцігоддзе ХХІ ст. крытыка як інстытуцыянальны феномен літаратурнага быцця з лагічнай непазбежнасцю набліжалася да адмысловай “кропкі невяртання”, акрэсленай у якасці “стратэгічнага” прыярытэту яшчэ ў “ружоватуманных” дыскусіях 1990-х. У 2000-я гады ў крытыкі проста не было шанцаў пазбегнуць рэпутацыйнага крызісу — у пэўным сэнсе, насуперак сваім рэальным набыткам.

Крытыка паводле свайго функцыянальнага прызначэння ў літаратурным працэсе асуджаная на пошукі адэкватнасці канкрэтнаму сацыякультурнаму хранатопу. Вырак беларускай літаратурнай крытыкі 2000-х — шукаць паразумення з эпохай шоўцэнтрызму і пры гэтым выразна ўсведамляць грандыёзную ўтапічнасць уласнага “праекта”. Бо вартасць яго айчыннай літаратурнай супольнасцю і грамадскасцю ацэньваецца паводле таго, ці здолее ў бліжэйшы час крытыка забяспечыць беларускаму прыгожаму пісьменству попыт у інфармацыйным грамадстве. Інакш кажучы, крытыка мусіць гарантаваць “камерцыйны поспех” на рынку, зарыентаванаму на “квазікультурны фастфуд”, беларускай мастацкай

славеснасці — феномену, які сутнасна, унутрана апазіцыйны культуры “фастфудаўскага” тыпу.

На справе прафесійная крытыка, “генетычна” звязаная ў айчыннай традыцыі з літаратуразнаўчым досведам, мусіла прымусова-добраахвотна “масіфікавацца”, часам — займацца “самаперакладам”, адаптуючыся да моўнай стыхіі сучасных СМІ. Акрамя таго, з другой паловы 2000-х пачала імкліва пашырацца расколіна паміж жанравымі запатрабаваннямі масавай аўдыторыі і формамі прафесійнага асэнсавання мастацкай літаратуры. Калі для публікі аптымальнай паўстала б рэдукцыя ці не ўсёй разнастайнасці крытычных жанраў да *анатацыі* ці *скетча па матывах калялітаратурнага жыцця*, дык прафесійная крытыка аддае перавагу *праблемным артыкулам*, *літаратурным партрэтам, літаратурна-крытычным эсэ, рэцэнзіям*, прычым нават гэтыя жанры выяўляюць выразную тэндэнцыю да рэдукавання, сцяжэння з адначасовым “квантаваннем” тэксту — падзелам яго на невялікія фрагменты.

Сімптаматычным падаецца той факт, што цягам дзесяцігоддзя было выдадзена толькі адно даследаванне, прысвечанае ўласна літаратурнай крытыцы: манаграфія К. Мароз “Літаратурная крытыка Заходняй Беларусі” (2001). Плён тэарэтычнага асэнсавання сучаснай беларускай літаратурнай крытыкі прадстаўлены артыкуламі М. Мушынскага (агляд “Крытыка і літаратуразнаўства” ў другой кнізе чацвёртага тома “Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя”, 2003), Г. Кісліцынай, асобнымі публікацыямі ў зборніках навуковых прац і літаратурна-мастацкіх часопісах М. Аляшкевіч, А. Бязлепкінай, А. Кавалеўскага, Н. Кузьміч і інш.

Тым не менш, цягам дзесяцігоддзя ў Беларусі выйшла блізу дзясятка кніг, якія амаль без удакладненняў (праблемна-тэматычнага ці жанравага кшталту) можна назваць кнігамі ўласна крытыкі: “Blonde attack” (2003) Г. Кісліцынай, “Верыфікацыя нараджэння” (2005) З. Вішнёва, “Крышталёвы сад” (2007) Л. Сільновай, “На просторе слова” (2008) Ю. Сапажкова, “Пясочны гадзіннік” (2010) Л. Алейнік, “Сыс і кулуары” (2010) Л. Галубовіча, “Сентыментальнае паляванне, або У крытычных сутарэннях” (2000), “Рэстаўрацыя шчырасці: літаратурна-крытычны канструктар” (2005), “Сапраўдныя хронікі Поўні” (2011) І. Шаўляковай.

Як правіла, увага ўсіх аўтараў згаданых кніг сканцэнтравана на творах, падзеях, з’явах, асобах, што ва ўспрыманні літаратурнай і чытацкай супольнасці суадносяцца з найноўшым (ці, у рэдкім выпадку, з сучасным, калі пашыраць яго межы да 1980-х гадоў) літаратурным працэсам. Рэестр крытычных жанраў у 2000-я гады радыкальным чынам не змяніўся. Праўда, калі адны крытыкі імкнуліся задзейнічаць у межах аднаго зборніка як мага больш жанравых форм (“літаратурна-крытычныя артыкулы, нарысы, рэцэнзіі, нататкі” Л. Алейнік), іншыя аддавалі перавагу ўлюбёным жанрам (“крытычным артыкулам, эсэ, дыялогам” — Ю. Сапажкоў) ці без страху і дакору аддаваліся пад уладу літаратурна-крытычнай эсэістыкі: “З пачатку дзевяностых... эсэ запанавала ўсюды: у філасофіі, літаратуры, гісторыі, журналістыцы... І толькі нашы літаратуразнаўцы дасюль не зважаюць на гэты феномен. Яны па-ранейшаму шукаюць плён айчыннага красамоўства ў паэзіі ды прозе — і не знаходзяць. Што натуральна. Бо ўсё самае вартае, што адбылося ў беларускай літаратуры за апошнія паўтара дзесяцігоддзя адбылося ў жанры эсэ” [1, с. 89].

Беларуская літаратурная крытыка першага дзесяцігоддзя ХХІ ст. сапраўды адчула на сабе значны ўплыў эсэізацыі, што абумовіла відавочныя трансфармацыі жанрава-стылявой сістэмы; найбольш выразна тое дэманструе крытычная творчасць Л. Галубовіча, А. Сідарэвіча (“Выбранае... Нататкі чытача”, 2010), П. Абрамовіча (“Праўда Адамчыкаў”, 2008), Д. Жукоўскага (“Літаратура для добраахвотнага чытання”, 2002) і інш). Арыгінальна пераасэнсаваны зместавыя і структурна-кампазіцыйныя магчымасці эсэ ў кнігах П. Васючэнкі “Адлюстра-

ванні Першатвора: Літаратура ў філалагемах і пятрогліфах" (2004) і "Ад тэксту да хранатопа: Артыкулы, эсэ, пятрогліфы" (2009). Паказальна, што ў так званай пісьменніцкай крытыцы (прастора якой у 2000-я гады, на жаль, няўмольна звужалася), у гэты час пераважае партрэтны жанр, дакладней, эсэізаваныя "літаратурныя партрэты", "партрэты-адлюстраванні", бліскучыя ўзоры якіх прадстаўлены ў кнігах А. Кудраўца "За дальнім прычалам" (2007), А. Бутэвіча "Пад небам беларускага слова: пра пісьменнікаў, літаратуру і не толькі" (2007), Д. Бічэль-Загнетавай "Хадзі на мой голас" (2008), А. Сямёнавай "У святой краіне выгнання" (2011).

Жанр твораў, што ўвайшлі ў адну з самых цэльных і розгаласных кніг крытыкі першага дзесяцігоддзя XXI ст. "Сыс і кулуары" (2010), яе аўтар Л. Галубовіч вызначае як "літаратурна-крытычныя эсэ". У дадзеным выпадку чытач мае справу менавіта з *крытычнай эсэістыкай*. Сярод найбольш яскравых адзнак індывідуальна-творчага стылю Галубовіча-крытыка вылучаецца *асобасная цэнтрыраванасць* крытычнай рэфлексіі. Гэта выяўляецца на ўзроўні кампазіцыйнай структуры тэкстаў (дзе "экспазіцыя", як правіла утрымлівае згадкі пра асабістыя стасункі крытыка з аўтарам), а таксама на ўзроўні ўласна зместу (ацэнак, эмацыйна-пачуццёвага пражывання кніг як падзей літбыцця і г.д.). Акрамя таго, аўтар кнігі "Сыс і кулуары" выяўляе імкненне да *"формулізацыі"* — фармулёўкі лаканічных і максімальна змястоўных вызначэнняў сутнасці тых з'яў найноўшай літаратуры, якія для яго асобасна важныя: "Эзатэрычнае і падсвядомае — асноўныя акумулятары паэзіі Г. Дубянецкай, на іх трымаецца ўся, і без таго высока напружаная, энергетыка яе вершаў" [2, с. 167].

І ўсё ж нягледзячы на ўплывовасць агульнай тэндэнцыі да эсэізацыі гуманітарнага досведу, плён асэнсавання ключавых для нацыянальнай літаратурнай парадыгмы пытанняў урэчаўляўся найчасцей не ў эсэ, а ў розных жанравых мадыфікацыях *праблемнага* артыкула. Больш ці менш розгаласныя дыскусіі разгортваліся ў артыкулах *праблемна-аналітычных* ("Парадоксы пераемнасці" (2006) А. Бязлепкінай; "Старая маргінальная беларушчына ў тэкстах А. Бахарэвіча, М. Мартысевіч і Е. Вежнавец" (2009) Л. Сіньковай; "Руская літаратура Беларусі" (2007) А. Андрэева і інш.) альбо *праблемна-палемічных:* згадаем тэксты "Ізноў пра кляты постмадэрнізм" (2002) С. Балахонава; "Пра кавалерысцкі наезд на пісьменніцкія хутары" (2006) Ю. Пацюпы; "Гульня свядомасці, альбо Праблема «тэрміналагічнай атрыбуцыі»" (2009) Л. Алейнік і інш. Больш сціпла прадстаўлены ў жанравай структуры крытыкі 2000-х артыкулы *праблемна-аглядавага* кшталту, хаця амаль кожны з тых, што з'явіўся, патэнцыяльна мог бы запачаткаваць цікавае абмеркаване: публікацыі "Слова і дзея, або Літаратурны працэс на Беларусі пасля распаду савецкай імперыі" (2006) Г. Тычко; "Крытыка на лаве падсудных" (2009) М. Южыка; "Улюбёная гульня. Беларускі постмадэрн: ці ёсць ён" (2011) М. Аляшкевіч; "Што за справа мастаку да ляманту крытыкі" (2012) Н. Якавенкі. Пры гэтым рэзка зменшылася прысутнасць (і, адпаведна, уплывовасць на бягучы літаратурны працэс) паўнавартасных *літаратурных аглядаў* (напрыклад, на старонках "ЛіМа" пераважалі інфармацыйныя агляды часопісаў "Маладосць", "Нёман", "Полымя).

Найбольш аператыўным крытычным жанрам і традыцыйнай, і сеціўнай крытыкі цягам 2000-х гадоў заставалася *рэцэнзія*: тут варта адзначыць надзвычайную (у сэнсе паслядоўнасці, хуткасці і сістэматычнасці асвятлення кніжных навінак) працу А. Марціновіча, а таксама крытычныя штудыі цэлай плеяды маладых крытыкаў і асобных літжурналістаў, чые "ўваходзіны" ў літаратурную прастору прыпалі якраз на 2000-я гады: Ц. Чарнякевіча, Ж. Капусту, Дз. Марціновіча, А. Лапіцкую, М. Весялуху, А. Карп, А. Паплаўскую і інш. На старонках друкаваных газет і часопісаў разгорнутыя рэцэнзіі суседнічалі з кароткімі і нават малафарматнымі крытычна-ацэначнымі водгукамі ("Бліц-крытыка" ў "ЛіМе", "Бліц-крыт" у "Дзея-

слове”; аўтарскія рубрыкі Л. Рублеўскай у “СБ”; “Экслібрыс” А. Бязлепкінай — у “Звяздзе” і інш.). Інтэрнэт-рэсурсы (з відавочных прычын, у тым ліку эрганамічных ды тэхнічных) аддавалі перавагу вельмі кароткай рэцэнзіі, якая па змястоўных і структурных асаблівасцях нярэдка набліжалася да эсэізаванага водгуку (публікацыі П. Абрамовіча, Л. Алейнік, А. Бязлепкінай, Г. Кісліцынай, М. Мартысевіч, А. Новікава, А. Паплаўскай, І. Шатыронак, М. Южыка і інш.).

Нягледзячы на руплівасць літаратараў розных пакаленняў, галоўнымі пагрозамі для перспектыўнага развіцця беларускай літаратурнай крытыкі на сыходзе першага дзесяцігоддзя XXI ст. заставаліся няўмольнае пагаршэнне “дэмаграфічнай” сітуацыі ў літаратурна-крытычных абсягах, а таксама згортванне адпаведнага сегменту ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Інакш кажучы, колькасць прафесійных крытыкаў працягвае змяншаецца, а іх функцыі, як сведчыць літаратурная практыка, не могуць эфектыўна выконвацца ні літжурналістамі, ні заангажаванымі ў літаратурных варунках блогерамі (іх “папуляцыя” расла ў той жа геаметрычнай прагрэсіі, у якой колькасць уласна крытыкаў змяншалася). Глыбінныя прычыны згаданых працэсаў варта шукаць і ў павелічэнні своеасаблівага “разлому” (аксіялагічнага, канцэптуальнага, метадалагічнага) паміж літаратуразнаўствам і крытыкай, што прывяло, акрамя іншых наступстваў, да відавочнага пераразмеркавання даследчыцкай актыўнасці, калі цэлая плеяда аўтарытэтных крытыкаў (Л. Сінькова, Е. Лявонава, П. Васючэнка, С. Кавалёў, Г. Тычко і інш.) “мігравала” ў нетры ўласна літаратуразнаўства.

Мяжу другога дзесяцігоддзя XXI ст. айчынная крытыка перасягнула ва ўмовах абвостранага “рэпутацыйнага” крызісу. Але, як ні дзіўна, яна можа разлічваць на дзейсную хуткую дапамогу, бадай, з аднаго боку: з боку ўяўнага “канкурэнта” ў барацьбе за культурны статус і грамадскае прызнанне — літаратуразнаўства. Менавіта беларускае літаратуразнаўства, з яго арыентаванасцю на сінтэз лепшых айчынных традыцый і найноўшых ідэй, метадаў, падыходаў, на актуалізацыю беларускай нацыянальнай літаратуры як унікальнага феномена агульначалавечай культуры, мусіць дапамагчы крытыцы ў самім паняцці “нулявых” убачыць выразную перспектыву. Бо нуль — гэта не толькі фінал, брама ў “мінус-гісторыю”, але і пачатак, абяцанне новых трыумфаў.

Літаратура:

1. Акудовіч, В. В. Дыялогі з Богам: суплёт інтэлігібельных рэфлексіяў / В.В. Акудовіч. — Мінск : Логвінаў, 2006.

2. Галубовіч, Л. Сыс і кулуары: літаратурна-крытычныя эсэ / Л. Галубовіч. — Мінск: Літаратура і мастацтва, 2010. — 176 с.

3. Кісліцына, Г. М. Эстэтычныя прынцыпы сучаснай беларускай крытыкі / Г.М. Кісліцына // Міждысцыплінарныя даследаванні акутальных праблем тэорыі літаратуры / М.А. Тычына [і інш.]; навук. рэд. М.А. Тычына: Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск: Беларус. навука, 2011. — С. 165-199.

4. Рагойша, В. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах: Дапам. / В. Рагойша. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2001. — 384 с.

Дзяніс Марціновіч



...“савецкасць” толькі перашкодзіла Івану Пятровічу і яго творам, прывязала іх да свайго часу...

# Іван Шамякін: новае прачытанне

***Не сакрэт, што сярод беларускіх пісьменнікаў савецкай эпохі менавіта Іван Шамякін з’яўляўся адным з самых чытэльных аўтараў. Апошнім часам інтарэс да яго асобы не знік, але больш перамясціўся ў літаратуразнаўчы асяродак. Сённяшняя ацэнка творцы вагаецца ад успрыняцця Івана Пятровіча як “апостала мадэрнізму” (Ганна Кісліцына) да “хрысціянскага пісьменніка” (Міхась Южык). Гэты артыкул з’яўляецца спробай ўласнага прачытання пісьменніцкай спадчыны.***

Цяперашняя ўвага да творчасці Шамякіна сапраўды сімптаматычная. У літаратуру і літаратуразнаўства прыйшло пакаленне, якое нарадзілася ўжо ў незалежнай Беларусі. Між тым савецкая эпоха, якая выступае для іх усяго толькі адным з этапаў гістарычнага мінулага, пакінула пасля сябе шмат пытанняў.

Чым была выклікана фантастычная папулярнасць твораў Шамякіна ў савецкія часы? Чаму вялікія наклады ў 1990-я гады зраўняліся з тыражамі іншых пісьменнікаў? Ці сапраўды Шамякіна сталі менш чытаць? Каб адказаць на гэтыя пытанні не паасобку, а разам, варта, на мой погляд,

увесці пісьменніка ў новую, паслясавецкую сістэму каардынатаў і патлумачыць яго месца ў беларускай літаратуры.

Адным з перыядаў росквіту айчыннага прыгожага пісьменства з'яўляліся 1960-1980-я гады. З аднаго боку, умовы для творчасці былі надзіва неспрыяльныя. На змену хрушчоўскай "адлізе" паступова надыходзілі "застойныя" брэжнеўскія часы, калі ў грамадстве, здавалася б, не хапала паветра. Магчыма, таму лепшыя беларускія пісьменнікі шукалі апоры, жыццёвага грунту ў мінулым. Васіль Быкаў – у ваенных падзеях, Іван Мележ – у традыцыйным сялянскім укладзе, Уладзімір Караткевіч – у сівой даўніне гісторыі. З прызнаных аўтарытэтаў, бадай, толькі Іван Шамякін абапіраўся менавіта на сюжэты і вобразы сучаснасці.

У кантэксце развіцця літаратуры кожнай эпохі такі падыход выглядае цалкам натуральным. Але ў савецкія часы пісьменнікі такога кшталту падвяргаліся падвоенай рызыцы. З аднаго боку, іх кантраляваў партыйны апарат, які пільна адсочваў любыя праявы нязгоды. З другога боку, бязмежнае ўсхваленне сістэмы магло адштурхнуць лепшых чытачоў.

Што ж вылучыла Шамякіна з шырокай кагорты летапісцаў навакольнай савецкай рэчаіснасці і забяспечыла чытацкі інтарэс? Што паспрыяла ўхвальнаму стаўленню да яго творчасці дзяржавы? Мяркую, пісьменніцкая шчырасць. Крытычна ацэньваючы рэчаіснасць, вельмі цяжка схаваць уласнае адмоўнае або нават саркастычнае стаўленне да яе. З'яўляючыся фанатыкам ідэі, цяжка стварыць паўнавартасны мастацкі твор. Шамякін знаходзіўся нібыта пасярэдзіне паміж гэтымі "крайнасцямі". Ён шчыра прымаў савецкія рэаліі. Больш за тое, яны з нараджэння ўвайшлі ў яго кроў, таму ўспрымаліся аўтарам абсалютна натуральна, як частка жыцця. У выніку, з аднаго боку, фальш і штучнасць пэўных праяў савецкага жыцця змякчалася. З другога боку, тыпова савецкія фразы, штампы, абароты, здаралася, паўтараліся ў творах з пэўнай перыядычнасцю.

Што ж тады паспрыяла чытацкай папулярнасці творцы? Несумненны талент. Майстэрства пабудовы дыялога. Здольнасць "закруціць сюжэт" – у гэтай якасці Шамякін, відаць, у беларускай літаратуры ні з кім непараўнальны. Істотна і тое, што Іван Пятровіч быў не з тых пісьменнікаў, якія клічуць з сабой чытачоў наперад і тым апярэджваюць эпоху. Шамякін развіваўся разам з савецкай элітай і разам з тым на паўкрок апярэджваў грамадства, якое часта даведвалася пра новыя павевы ў жыцці менавіта з пісьменніцкіх твораў.

З вышыні часу адзначаная здольнасць падаецца ўнікальнай. З першых пасляваенных твораў, у якіх Шамякін яшчэ ўзгадвае "вялікага Сталіна" (напрыклад, у "Грузінскай аповесці"), і да змрочных аповесцяў 1990-х гадоў, якія адлюстроўвалі цёмныя бакі новай "капіталістычнай рэчаіснасці", пісьменнік заўсёды шчыра адлюстроўваў уласныя погляды на жыццё. Хто можа пахваліцца такой дыстанцыяй і адлюстраваннем рэчаіснасці на працягу больш як паловы стагоддзя?

Але тады чаму ў незалежнай Беларусі так істотна зменшыліся наклады яго кніг? Прасцей за ўсё патлумачыць гэта эканамічным крызісам або "савецкасцю" пісьменніка. Аднак, калі прыгледзецца да позніх твораў Шамякіна, напрыклад, да рамана "Губернатар", бачна, што аўтар застаўся верны сваёй лініі ўвасаблення духу часу. Таму думаецца, усё больш складана.

На пачатку 1990-х гадоў адбылося, на мой погляд, разыходжанне пісьменніка са сваімі чытачамі. Перад той часткай, якая прымала савецкую рэчаіснасць і са стрыманым аптымізмам глядзела ў будучыню, паўстала праблема выжывання. Пісьменніцкі трагізм толькі вярэдзіў ім душу. Тая частка грамадства, якая прыняла ўвесь дыяпазон новых павеваў (ад адраджэння беларускай культуры да рынкавай эканомікі) ці хаця б іх пэўны сегмент, не маглі далучыцца да шамякінскага ўспрымання паслясавецкага грамадства.

Акрамя таго, пры ўсім трагізме падзей, якія адлюстроўваў Шамякін у сваіх ранейшых творах, у глыбіні душы ён заставаўся аптымістам. Яно і не дзіўна,

бо пісьменнікі, козырам якіх з'яўляецца сюжэт, якія пішуць шмат і чые творы прысвечаны сучаснасці, проста абавязаныя з упэўненасцю глядзець на рэальнасць. Бадай, у іх няма іншага выйсця. Масавы, шырокі чытач ніколі не будзе звяртаць увагу на творы песімістычнага гучання.

Але будзем шчырыя: акрэсленыя праблемы датычыліся пэўнай, канкрэтнай эпохі і кардынальна не ўплывалі на агульнае ўспрыманне творцы. Цяпер, калі пасля смерці Шамякіна прайшло ўжо больш за сем гадоў, а з часу напісання яго лепшых твораў – ужо некалькі дзесяцігоддзяў, раманы пісьменніка павінны быць ацэнены з вышыні часу. Зрэшты, такі лёс усіх твораў і творцаў. Вядома, не наважваюся прамаўляць ісціны ў апошняй інстанцыі. Таму выкажу толькі свой суб'ектыўны погляд. У дадзеным выпадку і крытыка, і чытача.

Паспрабуем разабрацца ў спрэчных момантах творчасці Шамякіна на прыкладзе твораў пісьменніка, якія атрымалі ці не найбольшую папулярнасць сярод чытачоў: раманаў "Гандлярка і паэт" і "Атланты і карыятыды". Прызнацца, такіх супярэчлівых пачуццяў, як пры іх прачытанні, не адчуваў даўно. З аднаго боку, адлюстраванне тагачаснага жыцця, побыту людзей, псіхалогіі герояў выклікае сапраўднае захапленне. Але праз пэўны час злавіў сябе на думцы, што найбольш удалымі і натуральнымі атрымаліся старонкі, дзе няма атмасферы і духу "савецкасці".

Што маю на ўвазе? Пачынаючы чытаць раман "Гандлярка і паэт", адчуваў пэўны скепсіс. Колькасць твораў пра вайну, прачытаных маім пакаленнем, даўно перайшла крытычную мяжу, пасля якой некаторыя моманты проста перастаюць успрымацца належным чынам. Тым не менш, раздзелы "пра гандлярку" Вольгу падаліся наватарскімі і ўразілі да глыбіні душы.

Апісанне перадваеннага Мінска і жыццё яго жыхароў, атмасфера пачатку вайны перададзены з натуральнасцю і паўнатой. Складвалася ўражанне прысутнасці як аўтара, так і чытача на сталічных вуліцах. Неўзабаве ўзнікла насцярожанасць: папрокі, якія аўтар выказваў на адрас галоўнай гераіні, выклікалі здзіўленне. Тое, што ў савецкія часы здавалася мяшчанствам, цяпер лёгка тлумачыцца жыццёвай кемлівасцю і клопатам пра тое, як ацалець падчас нямецкай акупацыі. Нагадаю, што раней, у 1917-1920-х гадах у Мінску па чарзе змяніліся ўлада Часовага ўрада, саветаў, немцаў, зноў саветаў, палякаў і ў чарговы раз саветаў. Несумненна, вопыт выжывання перадаўся гераіні разам з аповедамі бацькоў. Але галоўнае было ў тым, што Вольга выглядае жывым, спрэчным і натуральным чалавекам.

А вось са з'яўленнем Паэта інтарэс да твора пачынае паступова зніжацца. Цяжка папракаць аўтара ў адсутнасці рэалізму: і патрыятычныя выказванні героя, і яўкі, і кватэры, і падпольная барацьба – усё гэта, несумненна, мела месца. Цалкам відавочна, што тып станоўчага героя быў надзвычай распаўсюджаны ў той час. Але бязмежная правільнасць героя праз пэўны час пачынае выклікаць ціхую нуду. Калі ўмоўная першая частка рамана прымушае з маланкавай хуткасцю перагортваць яго старонкі, дык другая чытаецца паволі і зрэдчас.

Вельмі здзівіў фінал. Каб пазбегнуць папрокаў у неаб'ектыўнасці, працытую ўрывак з ліста Яна Скрыгана да Івана Шамякіна, які быў напісаны ў сакавіку 1976-га года. Пісьменнік вельмі высока ацаніў твор. Але пры гэтым адзначыў, што "здзівіў трохі канец: як бы абарваны, як бы заскоры". Нагадаю: Вольга перавозіла ў лес зброю, а потым раптоўна, пад уражаннем забойства маленькіх яўрэйскіх дзяцей, чые рэчы яна ўбачыла, падарвала сябе і некалькіх паліцаяў. Пасля прачытання апошняга эпізода ў "Гандлярцы..." ў мяне асабіста склалася ўражанне, што фінал аказаўся крыху штучным. Але па законе савецкай ваеннай літаратуры напрыканцы твора павінен быць здзейснены подзвіг, што і адбылося.

З вышыні сённяшняга часу пэўнае неразуменне выклікаюць і асобныя старонкі рамана "Атланты і карыятыды". Сам твор, як іншыя шамякінскія раманы, чытаецца на адным дыханні. Праблемы архітэктуры, узаемаадносінаў паміж спецыялістамі ў гэтай галіне і партыйным кіраўніцтвам, асабістыя стасункі герояў

– усё гэта пераплецена ў такі клубок, які хопіць вынаходлівасці і моцы сплесці толькі сапраўднаму майстру.

Але адначасова ў рамане моцна бянтэжаць праявы партыйнасці. Твор пачынаецца з моманту, калі галоўны герой, архітэктар Карнач, узяў самаадвод падчас выбараў у партыйны орган. Наступныя старонкі прысвечаны размовам героя, архітэктара Шугачова (сябра Карнача) і яго сям'і, Макаеда (ворага і канкурэнта галоўнага героя) са сваёй жонкай, якія абмяркоўваюць такі ўчынак і пралічваюць яго наступствы. Цяжка спрачацца, што тады такая сітуацыя была форс-мажорнай. Больш за тое, яна цалкам адпавядала тагачасным рэаліям. Але цяпер, з вышыні часу, такія эпізоды наўрад ці зацікавяць аўдыторыю. Расчароўвае фінал. Пасля таго, як прафесійныя справы Карнача, здавалася б, цалкам заблыталіся, канфлікт вырашае мудры, строгі, але справядлівы сакратар абкама Сасноўскі. Чым не класіка сацрэалізму?

Вось колькі цытат з твора: "А навошта яму заядацца з Шугачовым, якога выбралі сакратром партбюро", "але разам з тым такая сітуацыя злавала: не да твару партыйнаму кіраўніку душэўная раздвоенасць", "яна дрэнна ўплывае на брата, робіць яго, актыўнага камсамольца, скептыкам", "партыя паставіла грандыёзную гуманную задачу: забяспечыць людзей жыллём", "...вы ніякая не актрыса. Ніколі не іграеце. Між іншым, за гэта вас любіць увесь гарадскі актыў" (апошнюю фразу Карнач кажа Галіне Уладзіміраўне, да якой тады мае сімпатыю, будучай каханай жанчыне), "толькі ведай: партыйныя прынцыпы Ігнатовіч ніколі не задбае", "не зробіць ён такога даклада на бюро гаркома, бо глыбока паважае гэты прадстаўнічы орган" і г.д.

Каб пазбегнуць крытыкі і папрокаў з боку прыхільнікаў Шамякіна, яшчэ раз падкрэслю: там, дзе Іван Пятровіч звяртаўся да праяў звычайнага жыцця, узаемаадносін між людзьмі, ён заставаўся глыбокім майстрам слова. Але як толькі Шамякін адыходзіў у сферу палітыкі і партыйнасці, узнікала штучнасць, ненатуральнасць, пафас.

З вышыні гадоў Шамякін успрымаецца чытачамі амаль як бездакорны савецкі пісьменнік. Кажуць, савецкая эпоха ўзгадавала Шамякіна, дала яму багаты жыццёвы матэрыял, падарыла матэрыяльны дабрабыт. Ды і наогул, мала хто атрымаў ад яе столькі рэгалій і ўзнагарод. І сапраўды, Шамякін – Герой Сацыялістычнай Працы, акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, Народны пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і дзвюх Дзяржаўных прэмій БССР... Але вазьму смеласць сцвярджаць, што "савецкасць" толькі перашкодзіла Івану Пятровічу і яго творам, прывязала іх да свайго часу.

Для таго, каб застацца ў літаратуры, пісьменнік павінен не толькі апярэджваць свой час – гэта датычыцца ў першую чаргу геніяў. На маю думку, творца, з аднаго боку, мусіць абапірацца на сваю эпоху, на глыбокім філасофскім узроўні ўздымаць актуальныя для яе праблемы. Але, з другога боку, не павінен быць звязаны з ёй гэтак шчыльна, каб наступныя пакаленні маглі знайсці шмат сугучнага ўласным думкам.

Як жа нам разглядаць творчасць Шамякіна, сімвала беларускай савецкай літаратуры, і яго калег у такім кантэксце? Мяркую, ісціну трэба шукаць пасярэдзіне: паміж савецкай традыцыяй безмежнага ўсхвалення і вядомым артыкулам Сяргея Дубаўца "Ружовы туман. Раздзел з гісторыі таталітарызму", у якім ён назваў нацыянальную літаратуру савецкай эпохі антыподам беларушчыны.

Будзем аб'ектыўнымі: сярод кніг І. Шамякіна ёсць тыя, якія засталіся ў сваім часе, якія перайшлі з твораў літаратуры ў катэгорыю "гісторыя літаратуры" або нават "гістарычныя крыніцы". Мяркую, па асобных з іх даследчыкі будуць вывучаць атмасферу часу і свядомасць савецкіх пісьменнікаў. А вось асобныя лепшыя творы Івана Пятровіча, самыя таленавітыя раздзелы яго раманаў, безумоўна, застануцца і будуць запатрабаныя чытачамі.

# Пакуль ляціць страла

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Анціпенка Алесь. Быць (пры)сутным. – Вільня, 2012. – 112 с. – Бібліятэка «Беларускі калегіюм».**

Новая кніга Алеся Анціпенкі не толькі дэкларуе прысутнасць аўтара ў полі сучаснае філасофскае веды, але і, у вялікай ступені, самое гэтае поле фармуе і вызначае. Галоўныя рысы стылю гэтага беларускага мысляра – багаты тэрміналагічны інструментарый, высокі ўзровень навуковасці выкладу поруч з трапнай іранічнасцю ды правакацыйнасцю. Кніга складаецца з суплёту эсэ, а таксама – гутарак, у якіх уздымаюцца пытанні беларускай (і, шырэй, – постсавецкай) ментальнасці, дзейсніцца спроба спрагназаваць вектары далейшага развіцця нашага грамадства.




**Арлоў Уладзімер. Пакуль ляціць страла. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. – 400 с.: іл.**

“У гэтай кнізе не менш за 100 суаўтараў. Бо кніга складаецца з адказаў на пытанні маіх чытачоў і слухачоў”, – адзначыў Уладзімер Арлоў у інтэрв'ю з нагоды выхаду кнігі. Гэтыя пытанні, бы залатыя макавінкі, адсейваліся і асядалі ў кішэнях пісьменніка пасля шматлікіх імпрэзаў. А цікавіць прыхільнікаў творчасці У. Арлова шмат чаго – і гістарычнае, і палітычнае, і, натуральна, асабістае. І на кожнае пытанне аўтар дае – часам грунтоўны разгорнуты, часам энергетычны ёмісты – заўжды гранічна шчыры адказ.




**Багдановіч Ірына. Душа лістападу. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 28).**

У новай кнізе вершаў Ірыны Багдановіч — паэтычны роздум аўтара аб сутнасці творчасці і чалавечага быцця ў няпростым і зменлівым часе, аб тых вечных духоўных арыенцірах, якія задаюць высокі нябёсны вектар зямному чалавечаму існаванню, аб незгасальных патрыятычных ідэалах, што асвячаюць сувязь чалавека з роднай зямлёй і яе гісторыяй...

*Наплакацца ўдосталь*
*за ўсё і за ўсіх,*
*прасіць прабачэння*
*правінаў у Бога...*

*Удзячна ўзгадаць*
*расцярушаны міг*
*цярплівага шчасця*
*зямнога...*




**Бычкоўскі Алесь. Анамалія. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 136 с. (Калекцыя беларускай фантастыкі; Вып. 2).**

Нават самыя патрабавальныя аматары фантастыкі не расчаруюцца, узяўшы ў рукі прозу Алеся Бычкоўскага. У кнізе “Анамалія” сабраныя разнапланавыя

тэксты: і “супертворы” (гэтак яны характарызуюцца ў анатацыі) “Ён прыйдзе апоўначы” і “Муары Лідлу”, і аповесці ў лепшых традыцыях касмічнай фантастыкі, і “твор па-за жанрам”... Адзінае, што выклікае здзіўленне – жанравая пазнака кнігі як “фэнтэзі”. Не ўбачылі мы тамака рысаў гэтага амаль не прадстаўленага, на жаль, у нашай літаратуры жанру.




**Дубавец Сяргей. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. – 464 с.: іл.**

На Каляды 1980 года ў дашчэнту савецкім Мінску нацыянальная ідэя выйшла з падполля, і нарадзілася першая публічная арганізацыя – Беларуская спеўна-драматычная майстроўня. Лёсам удзельнікаў легендарнай суполкі стала незалежнасць краіны. Кнігу склалі інтэрв’ю з удзельнікамі «Майстроўні», запісаныя на працягу 2010 года.




**Календа Сяргей. Трохлітровая проза: проза. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 252 с.**

Зборнік складаецца з трох частак. Першая частка называецца «Архітэктурныя апавяданні», у іх аб’ядноўваецца ўсё адным героем – архітэктарам, але апавядаецца пра розных людзей, якія жывуць у ягоных дамах. Другую частку склалі тэксты, якія ўжо часткова друкаваліся ў ранейшай кнізе пісьменніка, толькі цяпер гэты тэкст пашыраны ўтрая, раздзел называецца «Генерацыя фанцікаў і фішак». Трэцяя частка – збор апавяданняў пад назваю «Скура зямлі».




**Качаткова Паліна. Матылі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 144 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 29).**

Паліна Качаткова атрымала вядомасць дзякуючы напісанню сцэнарыяў дакументальных фільмаў. “Матылі” — яе першая кніга мастацкай прозы. Чытайце — і здзіўляйцеся.

*“Начныя размовы пра матылёў*
*Ёсць словы, якія не варта казаць.*
*Ёсць рэчы, пра якія лепш не ведаць.*
*Давайце пагаворым пра матылёў.*
*Матыль — гэта матыль, прыгажосць. Ён ніколі не сядзе ні на што брыдкае.*
*Ці матылі нейкім чынам звязаныя з тым, з іншым светам?*
*Крылатая Душа-Псіхея? Не ведаю. Магчыма. Паэты так лічылі, не людзі. Душа-матыль? Наўрад ці.*
*А што вы ведаеце пра матылёў?..”*




**Сіліцкі Віталь. Адкладзеная свабода. – Вільня, 2012. – 132 с. – Бібліятэка «Беларускі калегіюм».**

У гэтым даследаванні дзейсніцца параўнальны аналіз працэсаў паўставання і фармавання аўтарытарных рэжымаў у Сербіі і Беларусі. На жаль, шмат чаго з угледжанага і сфармуляванага дзесяць год таму аўтарам, выдатным беларускім інтэлектуалам і патрыётам, актуальнае і сёння. Віталь Сіліцкі пайшоў з жыцця летась, на трыццаць дзявятым годзе жыцця.

